# Вялікая княгіня
## *Гістарычны раман*

### Раздзел першы

### Дарога

#### I

Пачаўся год 1495-ты.

Стаяў калядны мароз. Пара ад дыхання людзей і коней уміг замярзала і асядала іскрыстым інеем на каўнярах, на шапках, башлыках, на грывах і збруі. Стралялі дрэвы ў лесе, лёд на рэках. Ад блакітнага неба, якое, здавалася, вісела на вершалінах стромкіх сосен, ад ценяў звешаных да зямлі яловых галін снег у лесе быў ненатуральна сіні.

Усё навокал было казачнае. Прырода і людзі.

Вузкая лясная дарога з Масквы на захад — да літоўскай мяжы, якая ў той час не абазначалася ні на картах, ні памежнымі слупамі, нярэдка бачыла незлічоную колькасць вершнікаў, пешых воінаў з лукамі і мушкетамі, у латах і ў світках. Войны вяліся часта. Праязджаў тут і сам вялікі князь маскоўскі з васальнымі князямі, баярамі, са сваім войскам. Але такога незвычайнага поезда лес гэты не бачыў. У баявы паход так не едуць. Адных павозак паўсотні. Не баявых — урачыста-выязных, пазалочаных, з княжацкімі вензелямі. Адзін вазок не блішчэў пазалотай, але меў незвычайны выгляд — абабіты звонку мядзведжым футрам. Памеры карэты, вялікі княжы герб і тройка найлепшых вараных, пасярэбраных інеем, сведчылі, што галоўны пасажыр у гэтым экіпажы.

Каго ж гэтак уцяплілі? Вялікі князь не дазволіў бы гэтак уцяпляць сябе. Князь быў бы ў сядле, як іншыя вершнікі. А іх нязлічонае мноства: чалавек дзвесце наперадзе картэжа, у сабаліных і бабровых шапках з султанамі, з сярэбранымі паясамі, ножнамі мячоў, хоць калядны мароз вымусіў і баярскіх дзяцей апрануць кажухі, якія хіба што толькі аздобай каўняроў ды вышыўкамі на грудзях і на крыссі адрозніваліся ад кажухоў іншых воінаў, што ехалі за картэжам парадных вазкоў. А воінства гэтае расцягнулася не на адну вярсту. Разрывалася калона воінаў транспартам закрытых павозак з самым каштоўным грузам, які быў пад пільнай аховай, далей — у канцы поезда — сотняй звычайных саней-развалак, на іх везлі правіянт для

людзей і корм дога коней на доўгае падарожжа. Коньмі, запрэжанымі ў сані, кіравалі мужыкі, іх абледзянелыя бароды ажно звінелі, калі яны, каб сагрэцца, беглі побач з санямі.

Хто ж ехаў у найбольшай уцепленай шкурамі карэце з гербам вялікага князя?

У прыцемку — адзінае маленькае бакавое шкельца заінела — на мяккіх падушках сядзелі дзве жанчыны. Старэйшая, поўная, салодка спала. Другой было не да сну. Загорнутая, што адмысловая лялька, у сабалінае футра, яна сядзела напружана, як на ўрачыстым парадзе. З вузкага авала высокай шапкі і пышнага каўняра вытыркаўся маленькі носік; шырокія вочы ўстрывожана ўзіраліся ў змрок, быццам хацелі ўбачыць праз сценку вазка, спіну фурмана, праз коней, калону ахоўнікаў, праз лес, прастор тое, што чакае яе там, у далечыні, у чужой краіне. І гэтыя вочы, і носік, і ўся постава, стройная, гнуткая, не гледзячы на зімовае дарожнае адзенне, выдавалі зусім юную асобу.

Ехала князёўна Алена. З-за яе быў наладжаны гэты шматверставы незвычайны поезд.

Вялікі князь маскоўскі Іван Васільевіч адсылаў дачку ў далёкую Вільню, каб яна там пабралася шлюбам з Аляксандрам, уладаром Вялікага княства Літоўскага.

Алене было васемнаццаць гадоў. Князёўна не была спешчанай паненкай. У яе быў мудры бацька, практычная маці, вясёлыя браты і сёстры і добрыя настаўнікі, самыя любімыя ёю — малочная маці, нянька з яе нараджэння — Марфа Андрэеўна і святар Фама, яе духоўнік.

Алена была мужнай дзяўчынай. За час незвычайнага сватаўства, а яно цягнулася ледзь не два гады, Марфа неаднойчы прасіла яе: «Паплач, князёўна, паплач, дзіцятка маё.» Але плакала яна двойчы. Год назад выбухнула нечакана плачам, чаго не магла дараваць сабе, калі яе прадставілі літоўскім паслам — Пятру Яновічу і Станіславу Гаштольду. Можа, таму і заплакала, што ўбачыла, як уразіла паслоў яе прыгажосць. Яшчэ таму, што падораны пасламі бацьку партрэт Аляксандра не спадабаўся ёй; яна ведала, што ён на пятнаццаць гадоў старэйшы, гэта яе не палохала, але на партрэце ён здаўся яшчэ больш старым, а яна ж не з вопыту, з разумнай практычнасці заключала, што ніводзін партрэтыст не намалюе караля ці князя старэйшым ці менш прыгожым, чым ён ёсць у жыцці; такому мастаку і галаву могуць знесці. Хоць што такое прыгажосць? Ісус прыгожы і ў пакутах сваіх. Апосталы не ўсе прыгожыя — на яе думку. А з тых князёў, баяр, якіх яна бачыла вакол сябе, самы прыгожы быў яе бацька — высокі, светлавалосы, нават барада залацістая не толькі не

старыла, а, здавалася, маладзіла яго ў пяцьдзесят пяць гадоў. О, каб такім быў яе муж!

І другі раз яна заплакала пазаўчора ў Дарагамілаве, дзе з маці вялікай княгіняю Соф'яй і братам Васілём жылі два дні. Бацька развітаўся з ёю напярэдадні, калі пасля літургіі ў Успенскім саборы з усім вялікакняжацкім сямействам і з баярамі ён правёў яе да саней і ўручыў літоўскім паслам — ваяводзе віленскаму Аляксандру Юр'евічу, князю Яну Забярэзінскаму, намеснікам полацкаму і браслаўскаму — праваслаўным панам.

І раптам вялікі князь з нешматлікім канвоем вярхом у люты мароз прымчаў у Дарагамілава. Растлумачыў прычыну: забыўся ўручыць князёўне «Памятку». Казаў Іван Васільевіч гэтыя словы ў саборы, калі і сам ён, і Алена, і Станіслаў Гаштольд, што замяшчаў жаніха, цалавалі крыж: «Уладар ваш, брат і зяць мой, пажадаў трывалай любові і дружбы з намі. Няхай будзе так! Аддаем за яго дачку сваю. Але няхай ён помніць умову, што замацавана яго пячаткай, каб дачка наша не перамяняла Закона ні ў якім выпадку, ні прымусова, ні па ўласнай волі».

Здалося ўладару, што гэтага мала? Можа, і здалося. Але Алена лічыла, што бацька яшчэ раз захацеў пабачыць яе, таму і прыехаў, і гэта вельмі ж моцна кранула яе. І яна плакала на яго плячы. Маці сказала, што толькі аднойчы бачыла, як Алена, гадоў дзевяць назад, малая яшчэ, вось так плакала перад бацькам, і ніхто з іх не помніў ужо з якой нагады, хто яе пакрыўдзіў ці што яе пакрыўдзіла.

Гэтага пазаўчарашняга плачу ніхто са світы не бачыў. Княгіні і баярыні, што суправаджалі яе, лічылі, што яна весела і радасна едзе ў далёкую дарогу, каб пашлюбавацца з чалавекам, якога не бачыла, і здзіўляліся гэтаму, кпілі нават трохі, не пераступаючы рангавай пачцівасці. О, каб яны ведалі, што тварылася ў душы дзяўчыны! Якая нявеста не хвалюецца? Нават тая, што выходзіць замуж за суседа, з якім з маленства пасвіла гусей. А тут гэтулькі невядомасці!

Пачуцці, думкі, страхі і радасці — што марскія хвалі, даганялі адна адну, не маглі дагнаць, разбіваліся, што аб скалу, аб яе сэрца, рабілі балюча яму, але яно падстаўляла сябе пад новыя ўдары.

У дадатак да душэўных пакут яе нудзіла. У цесным вазку, абабітым знутры чарнабуркамі, не хапала паветра і, не гледзячы на холад, патыхала поўсцю і скурай, мёртвым патыхала. А тут яшчэ княгіня Рапалоўская храпе і выдыхае медавуху і часночную прыправу. Была яшчэ прычына, ад чаго магло нудзіць. Але ўсё гэта — мірскія дробязі. Думаць трэба не пра гэта — пра душу.

Духоўнік Фама навучыў яе — якую малітву чытаць у залежнасці ад душэўнага стану, ад таго, што трывожыць, хвалюе. Яна баіцца? Чаго? Шлюбу. Перамены ў жыцці сваім. Дарогі. Але, і дарогі. Тры тыдні вось такой язды. Маліся Богу, чытай псалмы. І яна чытае:

— Гасподзь — ахоўнік твой; Гасподзь — засцярога твая з правай рукі тваёй. Удзень сонца не паразіць цябе, ні месячак уначы. Гасподзь захавае цябе ад усялякага зла; захавае душу тваю Гасподзь. Гасподзь будзе ахоўваць адыход твой і прыход твой ад гэтага часу і павек...

Пазаўчора яна не баялася дарогі. Яе супакоіла маці, яна расказала, не ўпершыню, як яе, пляменніцу апошняга візантыйскага імператара Канстанціна, выгнанніцу і беспасажніцу, папа Рымскі прасватаў за князя Белай Расіі; везлі юную Зою Палеалог з Рыма да Масквы праз усю Еўропу, праз Любек і Рэвель, ажно чатыры месяцы. З Ноўгарада ехалі ў лістападзе, на санях. Маці праз дваццаць тры гады з цікавасцю і радасцю ўспамінае тое доўгае падарожжа.

Чаму ж баяцца ёй, Алене? Нейкія тры тыдні з адпачынкамі ў вялікіх гарадах.

— ...Таму кажу вам: не клапаціцеся для душы вашай, што вам есці і што піць, ні для цела вашага, у што адзецца. Хіба душа не больш за харч і цела — за адзенне? Угледзьцеся на птушак нябесных: яны не сеюць, не жнуць, не збіраюць у жытніцы, і Айцец наш нябесны корміць іх. Хіба вы не лепшыя за іх?..

Але ад успаміну пра харч зноў занудзіла, і... забалеў жывот. Не, не трэба малітвы з напамінкам пра харч! Пра душу трэба, пра душу!

— Шукайце ж найперш Царства Божага і Праўды Яго, і гэта ўсё прыложыцца вам.

Бацька даўно расказваў, што ён адразу разгадаў папскія хітрасці: прывязаць яго, спаведніка праваслаўнай веры, да Фларэнтыйскага сабору, пашырыць унію лацінскай і грэчаскай царквы — каб мітрапалітаў назначаў не патрыярх з Канстанцінопаля, захопленага туркамі, а ён, папа Рымскі. Ды не апраўдала візантыйская царэўна, уніятка, папскіх спадзяванняў. У дзень вянчання ў Маскве яна прыняла праваслаў'е, з Зоі стала Соф'яю і няўхільна служыла адзінай веры.

Мала хто спавядае веру так шчыра, як іх маці, і ўсіх васьмярых дзяцей сваіх выхавала вернымі служкамі Богу, і рабіла гэта не прымусам, нават не малітвамі, а вельмі ж казачна-прыгожымі тлумачэннямі Свяшчэннага пісання, так і мітрапаліт не ўмеў расказаць. Вялікая княгіня Соф'я чытала Біблію на грэчаскай мове, а расказвала па-руску, хоць дзеці і вучылі грэчаскую мову. У маці захаваўся грэчаскі акцэнт, з якога бацька часам лёгка кпіў — за

дваццаць тры гады не навучылася па-руску, але Алена любіла гэты матчын акцэнт, ён надаваў яе мове нейкі вельмі ж прывабны каларыт, пявучасць, песняй гучалі яе расказы.

Бацька не сказаў, і яна не спытала ў паслоў, ці ведае вялікі князь Аляксандр расійскую мову. А ў дарозе сярод мноства іншых думак і перажыванняў турбавала і гэтая — моўная сцяна паміж імі. Маці расказвала, праўда, з гумарам, маці ўмее пра сябе расказваць весела, якія недарэчныя прыгод ы з ёй здараліся ў першы год замуства, калі не толькі прыслуга і акружэнне не разумелі яе, але і вялікі князь Іван Васільевіч, які трохі вучыў грэчаскую, не ўсё разумеў. Пасля ад жонкі бацька добра такі вывучыў грэчаскую мову. О, у бацькі на ўсё хапае энергіі і сілы! Зараз ён захапіўся будаўніцтвам, паставіўшы за мэту зрабіць з драўлянай Масквы каменную. Выпісаў з Італіі архітэктара з шматабяцаючым іменем — Арыстоцель. І ўжо збудаваў першы каменны храм і княжы палац.

Безумоўна, бацька хацеў яшчэ раз пабачыць яе, таму прыскакаў у Дарагамілава. Але і «Памятка»... Вельмі можа быць, што ў вялікага князя ўсё разлічана. Перададзеная ў тлуме збораў, «Памятка» магла б згубіцца, ці нявеста, галава якой занятая больш зямнымі думкамі, не звярнула б на яе ўвагу. А так яна трымае яе ля сэрца. Учора перачытала яе многа разоў, вывучыла на памяць і сёння паўтарае, як малітву:

— Памяць вялікай князёўне Алене. У бажніцу лацінскую не хадзіць, а хадзіць у грэчаскую царкву: з цікаўнасці можаш паглядзець першую ці манастыр лацінскі, але толькі аднойчы ці два разы. Калі свякроў твая будзе ў Вільні і загадае табе ісці з сабою ў бажніцу, то правядзі яе да дзвярэй і скажы пачціва, што ідзеш у сваю царкву.

Бацька — мудры, ён разумее, што з мужам яна можа паразумецца, самае цяжкае — адмовіць свекрыві так, каб не пакрыўдзіць яе.

Божа! Як храпе княгіня Ефрасіння! Шчаслівая бестурботнасць! А ёй так блага, ажно сліну гоніць. І яна вымушана думаць не пра высокае, не пра душу, і страх грызе сэрца не ад таго, што можа здарыцца, што прыйдзецца размаўляць з мужам, як размаўляюць нямыя. Не, усё высокае выцясняюць думкі самыя нізкія — пра фізічную патрэбу. Ад яе — страх перад дарогай. Як пераадолець сарамлівасць, спыніць даўжэзную калону і на вачах у князёў, баяр, паслоў, воінаў перайсці ў павозку, што едзе следам за яе вазком. Усе ж знаюць прызначэнне той павозкі. Раніцою на першай супыніш княгіня Рапалоўская павяла яе туды. Першая села на цэбар і трубіла так, што, магчыма, чула палавіна канвою. Нічога не зрабіўшы, не

сеўшы на другі цэбар, яна выскачыла з павозкі, каб, барані Божа, не падумалі, што гэта яна так гучна адпраўляе патрэбу.

«О, Божа літасцівы! Якая гэта пакута — вось так выходзіць замуж! Ехаць у невядомасць за тысячу вёрст. Зімою. У траскучы мароз. У акружэнні дзвюх тысяч мужчын».

2

Ды раптам павозка спынілася. Відаць, фурман так рэзка асадзіў коней, што яны ажно заіржалі. Крычалі наперадзе і ззаду. Прачнулася княгіня Рапалоўская.

— Што там?

— Паглядзім.

— Не вылазь, Алена. Можа, разбойнікі.

— Што ты, княгіня! Колькі трэба разбойнікаў, каб напасці на такое войска.

— А калі татары?

— Якія татары, княгіня! Пасля стаяння на Угры і смерці Ахмата татары больш не з'яўляліся на землях Маскоўскіх.

Алена адчыніла дзверцы павозкі і лёгка выскачыла ў глыбокі снег. Прагна ўдыхнула марознае паветра; галава спачатку закружылася, але тут жа дзіўна прасвятлілася, і знікла моташнасць. Ад калючага марозу заслязіліся вочы. Але яна ўбачыла, чаму спыніліся. Недалёка ад дарогі стаяў спалоханы статак аленяў. За некалькі крокаў ад статка біліся ў снезе два маладыя алені, паражоныя стрэламі з лукаў. Чаму статак не ўцякаў? Ашаламіла аленяў мноства коней і людзей? Ці тое, што так раптоўна зваліліся іх дзеці ці браты? Мабыць, на гэты статак людзі не палявалі, і ён знаў аднаго ворага — ваўкоў і рысяў.

Князёўна ўбачыла, што воіны аховы зрываюць лукі з плячэй, дастаюць з калчанаў стрэлы. І яна голасна закрычала:

— Не забівайце іх!

Апусціліся лукі.

Алена пайшла да аленяў.

— Князёўна! — спалохана закрычаў князь Рапалоўскі, на ім была галоўная адказнасць за бяспеку вяльможнай нявесты.

Княгіня Ефрасіння, уміг сагнаўшы сон, ледзьве не самлела ад страху.

Колькі маладых баяр — рыцары! — кінуліся наперарэз князёўне, каб загарадзіць яе ад звяроў. Ды яна першая падышла да старой аленіхі, што стаяла наперадзе статка, і сумна, бадай па-чалавечы дакорліва, глядзела на людзей.

Алена зняла сабаліную муфту, працягнула руку і пагладзіла аленіху па пысе. Тая ў адказ пацерлася пысай аб яе плячо.

— Хадзем за мной. І вядзі сваіх, — сказала дзяўчына. Павярнулася, пайшла да павозак.

І аленіха паслухмяна пайшла за князёўнай, за імі — увесь статак. Там, дзе алені спыніліся, ашаломленыя, раслі старыя тоўстыя сосны, без падлеску. А злева ад дарогі, крокаў за сто, пачынаўся густы ельнік.

Алена правяла звяроў паміж павозкамі, дайшла па глыбокім снезе да ельніку, зноў пагладзіла аленіху, ласкава сказала:

— А цяпер ідзіце.

І алені паслухмяна пайшлі ў ельнік, узнімаючы над ім снежны пыл.

Калі Алена павярнулася да дарогі, то ўбачыла, што князь Рапалоўскі, не дабегшы да яе, ляжыць ніц у снезе, узняўшы галаву. А некаторыя воіны стаяць на каленях, працягнуўшы рукі ў яе бок. Не адразу сцяміла, што яны ўбачылі цуд, можа, падобны на той, які рабіў Ён, Ісус Хрыстос. Ей стала сорамна. Божа мой, хіба ж яна святая? Вярнуўшыся да павозак, убачыла, што нават у княгіні Ефрасінні, якая да гэтага паводзіла сябе бадай жа бесцырымонна, спалоханыя вочы.

Нянька князёўны Марфа Андрэеўна перахрысціла яе.

— Збавіцель наш ішоў з табою, князёўна. І анёлы... анёлы лcraталі над табой.

А дачка Марфы, Аленіна малочная сястра Ксенія, радасна і весела засмяялася:

— Смелая ты, Алена! Я так не зрабіла б.

Маці абурылася.

— Ксюта! Я што табе казала? І што вялікі князь табе казаў? Як сябе паводзіць. Не маленькая. Нявеста.

— Мамачка! Ты ж не знайшла мне князя ці хаця б баярына, — Ксюту распірала ад смеху.

— Каму ты трэба такая басурманка?

— Я — басурманка? Мама — я ж твая дачка. Хіба цябе дагнаў басурман?

Скарбнік Васіль Кулешны, што стаяў паблізу, засмяяўся.

Марфа плюнула:

— Цьфу. Бязбожніца! Бацькі на цябе няма! — Бацька яе загінуў колькі гадоў у вайне з літоўцамі.

Алену раптам пачало ліхаманіць. Каб схаваць дрыжыкі, яна пераступала ў снезе нагамі.

— У цябе замерзлі ножкі, дочачка? — зусім па-мацярынску спытала Марфа.

— Нічога ў яе не замерзла. Ёй проста хочацца вунь у той вазок, таму яна і тупае, што жаробка.

— Ксюта! Адрэжу я табе язык.

— А навошта я табе трэба без'языкая? Хто мяне возьме такую?

Алена сапраўды хацела ў той вазок, у якім ніхто не ехаў, але яна сарамліва азіралася: хоць мужчыны разыходзіліся да сваіх коней, але многа яшчэ стаяла недалёка, зачараваныя яе цудам.

Ды Ксенія схапіла князёўну за рукаў:

— Пайшлі, пайшлі. Не саромейся. Для цябе прыдумаў гэтую павозку бацька твой.

І Алена скарылася. Азірнуўшыся, закрыўшы каўнярам твар, уподбег рушыла за сваёй пакаёўкай.

Ксюта сказала:

— Ты, Алена, ідзі. А я пастаю, папільную, каб таўстазадыя абжоры не лезлі, а то не дадуць табе пагасяць.

Алена засмяялася:

— Ксютачка, мне страшна за цябе. Не дай Божа пачуе княгіня Ефрасіння — з'есць яна цябе.

— Падавіцца касцямі маімі. Я касцістая, што рыба.

Выйшла Алена Іванаўна з таемнай павозкі, што ачышчаная, фізічна і... духоўна. Знік страх перад дарогай. І нават перад шлюбам, што набліжаецца з кожнай вярстой. Думка, што яна будзе гаварыць з будучым мужам на мове глуханямых, больш не палохала, бадай развесяліла. Але самае істотнае, што яна раптам адчула сваю значнасць, а з гэтым з'явіліся ўпэўненасць і воля. Хутка яна стане вялікай княгіняй вялікай дзяржавы! А дзяржава сапраўды вялікая. У яе складзе і Смаленск, і Кіеў — да Малдавіі, дзе гаспадарыць сват іх Стафан, да царства Менглі-Гірэя. Праўда, і бацька яе сабраў пад уладу сваю нямала земляў — на поўначы, на ўсходзе; дайшоў да Каменнага пояса зямлі. Бацька перад развітаннем з гонарам расказваў ёй пра асваенне далёкіх земляў. А маці ўпотай паведаміла, чаму ледзьве не парушылі гадавой даўнасці дагавор аб шлюбе. Вялікі князь Аляксандр ніяк не хацеў прызнаць тытул, якім падпісваў пісьмы і дагаворы Іван Трэці, — Гасудар усея Русі. Алена не разумела, чаму для бацькі такі важны гэты тытул, ёй здавалася, што вялікі князь — больш пачэсна.

Убачыўшы, што княгіня Рапалоўская зноў намервалася ўлезці ў яе павозку, Алеш без ранейшай далікатнасці, з рашучасцю, якая; здзівіла не адну княгіню, сказала:

— Княгіня Ефрасіння, я маю патрэбу праехаць з маёй нянькай.

Княгіня: закапыліла губу, але пакорліва схіліла галаву:

— Слухаюся, князёўна.

— Вазьмі ў павозку князя Семяона. Пагрэй. Ён, нябога, у сядле зусім акалеў. У яго шчокі пабялелі. Патры іх, княгіня.

Сама здзівілася, што так уладна загадвала сталай жанчыне.

А хітругам Ксенія голасам пакрыўджанай дзяўчынкі спытала:

— А я, князёўна?

— І ты, Ксютка, паедзеш са мной. Ты паможаш мне...

У чым паможаш — не сказала.

У павозцы Ксенія абняла князёўну: такія ў іх былі адносіны з маленства, якія чамусьці не падабаліся Аленінай малодшай сястры Феадосіі, а Марфу Андрэеўну ў апошні час, калі Алена стала нявестай, палохалі. Не дай Божа ўбачыць вялікі князь, як пакаёўка абнімае яго дачку!.. Іван Васільевіч — пярун. Яго ўсе баяліся. Здаралася, што баярыні трацілі прытомнасць, калі вялікі князь кідаў на іх гнеўны позірк. Засынаў Іван за бяседным сталом — і ўсе змаўкалі, ні князі, ні баяры, ні нават паслы замежныя не адважваліся звінець шклянкамі, а тым больш — падняцца з-за стала і пайсці. З ёй, Марфай, князь быў ласкавы, яна выгадавала не адну Алену — усіх яго дачок, хоць карміцелькамі ў тых былі іншыя, маладыя. Падбіраючы дачцэ сваіх людзей, якія павінны служыць ёй у чужой краіне, Іван Васільевіч першай назваў яе, няньку. Алена ж папрасіла маці паслаць з ёй і Ксенію. Вялікая княгіня Соф'я знала незвычайнае сяброўства дачкі з пакаёўкай і, будучы вернай запаветам Хрыста аб роўнасці, не бачыш ў гэтым нічога такога, што прыніжала б князёўну. Усе людзі — браты і сёстры.

— Ты святая, Алена, — тым часам казала Ксенія.

— Не блюзнер, Ксютка. Якая я святая?

— За табой звяры пайшлі.

— Яны так спалохаліся, што пайшлі б за любым... за табой...

— Я памерла б, каб такі статак пайшоў на мяне. А хочаш, я табе нешта скажу? — І зашаптала князёўне на вуха: — Учора ўвечары я цалавалася з маладым баярынам Замятаем. Салодка цалуецца баярын.

Уражаная Алена адхіснулася ад весялухі.

— Як можна, Костка?

Маці здагадалася ці пачула, гаротна паскардзілася:

— Гэтае дзяўчо давядзе мяне да магілы. Бессаромніца. Угамону на цябе няма. І Бога.

Пачулася каманда, кокнуў фурман, фыркнулі коні, весела заспявалі палазы. Гэтак жа весела смяялася Ксенія — ад спалоху князёўны і маці.

І настрой Алены ўзняўся яшчэ вышэй. Як хараша, што побач з ёй нянька і Ксютка, а не санлівая княгіня Рапалоўская. Жывым пахлі цяпер чарнабуркі і Сабалі. І ажно пацяплела ў павозцы.

3

У Вязьме начавалі ў мужчынскім манастыры. У маленькай царкве адслужылі малебен, прысутнічалі князі і баяры. Войска размяшчалася ў горадзе па кватэрах. Людзі прагнулі пагрэцца.

Алеш, ці не ўпершыню за жыццё, адчула, якая гэта даброта — цеплыня; не была дагэтуль так доўга — ажно тры дні — на марозе. У Мажайску начавала ў жаночым манастыры, і там было холадна, ледзьве сагрэлася пад футрамі.

А тут, у цеснай келлі ігумена, абвешанай абразамі — лікамі Ісуса, Багародзіцы, апосталаў, рускіх святых, — было цёпла, чыста, утульна пахла ладанам, воскам, ад воска — вясной, травамі і мёдам.

Можна было не толькі распрануцца, але скінуць і тыя верхнія ўборы, што сцягвалі жывот, грудзі. Раздзецца і нават трохі памыцца: памыць таемныя часткі цела князёўне памагала Костка. Пакаёўка шчабятала што сарока, расказваючы свае ўчарашнія вячэрнія прыгоды — цалавалася ўжо з другім баярынам. Алена злавіла яе на мане: не было на пастоі ў жаночым манастыры ніводнага мужчыны, князі і баяры начавалі ў палацы. Не стала выкрыюць дзяўчыну — няхай выдумляе, выдумкі яе — што казкі, палохаюць яны маці, а яе, Алену, забаўляюць.

Княгіня Рапалоўская пакрыўдзілася, што князёўна аддала перавагу служанкам сваім, халопкам. З імі ёй весялей. Гэта кранала яе гонар, яна паскардзілася мужу, але князь Семяон цыкнуў на жонку і загадаў нічым — ні словам, ні рухам — не выдаваць сваёй незадаволенасці. Але не ўмела яна хаваць крыўду. Алена бачыла яе надзьмутасць, аднак не звяртала ўвагі.

За той другі дзень дарогі, калі была прыгода з аленямі і калі Ксюта ўратавала ад балючай сарамлівасці, якая невядома чым скончылася б, яна ператварылася з цнатлівай дзяўчыны ва ўладарку не толькі свайго лёсу. але і ўсіх гэтых людзей, што служылі ёй, ахоўвалі ў незвычайным падарожжы.

Ксюта націрала яе ногі пахучай маззю, падоранай пасламі імператара Фрыдрыха, які таксама прысылаў паслоў сватаць яе, Алену, ці сястру яе Феадосію за маркграфа бадэнскага Альбрэхта. На

сватаўство гэтае Іван Васільевіч адказаў, што такі саюз непрыстойны для знакамітасці і сілы гасудара расійскага, брата старажытных цароў грэчаскіх, якія, калі перасяліліся ў Візантыю, уступілі Рым панам. Даў імператару па носе вялікі князь. Але змякчыў сваю адмову, перадаў паслам, што калі імператар пажадае сватаць князёўну за сына свайго караля рымскага Максіміліяна, то адмовы не будзе.

Бацька часта ўспамінаў у сям'і гэты свой адказ — з гонарам і з гумарам.

Алена расказала пра гэта Ксеніі. Пажартавала:

— Бачыш, як магло выйсці, каб Максіміліян пасватаўся. Ехалі б мы з табой у Рым. Не пабаялася б?

— Я? За табою, князёўна, я на край свету паеду. А што мне Рым! Маці твая прыехала ж адтуль. А скажы: за Рымам зямля ёсць?

— Ёсць.

— А за морам?

— За морам — Візантыя.

— Дык гэта за нашым морам, маленькім. А за морам-акіянам?

— Не знаю.

— Ніхто не знае. Спытаю ў Фамы. Табе прыемны гэты пах, князёўна?

— Нашы мазі лепшыя. Травяныя.

— А іх авечым лоем смярдзіць.

— Ксютка, не выдумляй. А то мяне званітуе.

— Маўчу, князёўна.

— Не, ты не маўчы. Я люблю, калі ты гаворыш. Ты ўсё ведаеш. Больш, чым княгіня Ефрасіння.

— Дык я ж ад цябе набралася.

— А ты ведаеш, што з-за Вязьмы ледзьве не скасавалася бацькава дамоўленасць з маім будучым мужам Аляксандрам?

— Ой!

Вялікі князь літоўскі патрабаваў вярнуць яму гэты горад. І Алексін, і Раслаўль, Мсціслаў, Казельск, Адсеў. Многа гарадоў.

— Чаго захацеў! Які шырокі! Нашы ж гарады — рускія.

— Але былі пад Літвою. Ды князі гэтых гарадоў самі перайшлі пад уладу вялікага князя маскоўскага. .Бацька так і напісаў Аляксандру. Ды таму не спадабалася, што бацька падпісаў грамату: Гасудар усея Русі.

— Бач ты, які ўказчык! Калі станеш вялікай княгіняй, то збі ты з яго пыху гэтую, абламай рогі.

— Ксютка! Мне давай такія парады — больш нікому.

— Ды я перад Ефрасінняй маўчу што рыба. Мар'і Русалцы магу сказаць. Мар'я добрая.

— Бацька сказаў паслам, каб перадалі Аляксандру, што нічога высокага ён не напісаў, а толькі назваў сябе ўладаром земляў, што даныя яму ад Бога.

— Ой, нялёгка табе, князёўна, будзе паміж імі, мужам і бацькам. Бацька твой уладар. З-за гэтага сватаўство так доўга ішло?

— Не толькі з-за гэтага. Кароль Казімір, якога Бог забраў ужо... куды толькі — у рай ці ў пекла? — падаслаў князя Івана Лукомскага, каб забіў бацьку. Не было такога паміж царамі!

— Бога ў іх няма, у католікаў гэтых.

— Не кажы так, Ксютка.

— Я помню, як гэтага злодзея Лукомскага спалілі ў драўлянай клетцы на Маскве-рацэ.

— І тлумача яго, паляка Матыяса.

— На чым жа пагадзіліся Іван Васільевіч і Аляксандр?

— Вялікі князь літоўскі паабяцаў прызнаць бацьку гасударом усея Русі. А гасудар пакляўся Аляксандру, што не будзе патрабаваць Кіеў і Смаленск.

— У Кіеве князь Уладзімір хрысціў нас.

— Ах, Аксюта! Не будзем забываць нашу святую веру. Але ў Вільні не ўсе нашы жаданні будзем выдаваць.

— Ты разумная, князёўна. А я — дурніца. Мама кажа: паганы ў мяне язык.

Алена засмяялася.

— Добры ў цябе язык, Ксютка. Я люблю твой язык. Толькі мне робіцца страшна, калі ты молішся. Не перажываеш ты малітву.

— Даруй, мая ўладарка. Я буду маліцца шчыра.

— І не цалуйся з кожным баярынам.

— Ой! А як жа жыць? Аднымі малітвамі?

На дзяржаўным узроўні мяжу ніхто не вызначаў, яе даўно правялі князі — маё сяло, тваё сяло; і так яна існавала, заваяваныя Літвой княствы лічыліся літоўскай зямлёй. Часам з памежных вёсак чынш збіралі ўладары і адной і другой дзяржавы.

На такой умоўнай мяжы ўрачысты поезд сустрэлі прадстаўнікі смаленскага ваяводы. Цырыманіялу сустрэчы не было. Ды і не магло быць, бо з нявестай ехалі высокія паслы вялікага князя літоўскага — ваявода віленскі князь Аляксандр Юр'евіч, князь Ян Забярэзінскі, намеснік полацкі пан Юрый, намеснік браслаўскі і іншыя паны — вялікая світа; яны вялі рэй, хоць Рапалоўскі і Русалка мелі тайны наказ Івана Васільевіча не ўва ўсім падначальвацца літоўцам.

А тут смаленцы, параіўшыся з віленскімі пасламі, прапанавалі памяняць дарогу: вызначана была на селішча Паўлава, туды і ганцоў пасалалі, там меліся абедаць, а патрабавалі ехаць на Дарагабуж. Рапалоўскаму і Русалку здалося, што смаленцы нешта цямняць. Ды і гонар быў: хто мае ўладу камандаваць імі, калі сам вялікі князь начарціў маршрут? Дзе ён, больш наезджаны тракт? Хто яго наездзіў? Зіма. Аршынны снег. Вецер. Завіруха пачынаецца. Доўга спрачаліся. Стылі коні і людзі.

Алена занервавалася, бадай абуралася: чаму ёй не паведамляюць прычыну супынкі? Вылезла з павозкі і, закрываючы футрам твар ад снегу, шпарка пайшла наперад, дзе ў зацішку маладога хвойніку стаялі вяльможныя камандзіры. Спалохала князя Рапалоўскага і баярына Русалку, ды і Забярэзінскі ўстурбаваўся — першы кінуўся насустрач.

— Князёўна! Прабач нас. Загаварыліся.

— Князь Семяон! Што здарылася?

— Паны літоўцы патрабуюць змяніць дарогу — ехаць на Дарагабуж.

— Мы — іх госці.

— Ты не госця, князёўна. Уладарка.

— Калі стану вялікай княгіняй, тады буду ўладарыць. А цяпер паслухаемся гаспадароў.

Убачыла: князь Рапалоўскі скіс. А Забярэзінскі, наадварот, заззяў, што сонца вясновае.

— Слава табе, вялікая княгіня!

Падхалімства літоўца не спадабалася: навошта ён да вянчання называе яе вялікай княгіняй? Нядобра гэта. Як усе людзі таго часу, Алена была прымхлівая. І ў сэрца яе змяёй упаўзла трывога. Чаму? З якой прычыны?

Калі вярнулася ў павозку і чарада павозак і коннікаў кранулася, прачытала малітву, уголас — пры Марфе і Ксеніі:

— Гасподзь — святло маё і ратунак мой: каго мне баяцца? Гасподзь — крэпасць жыцця майго: каго мне страшыцца?

У Марфы ў вачах застыў страх, і нават Ксюта стала нязвыкла сур'ёзнай.

— Хто цябе напалохаў, князёўна?

— Літовец назваў мяне вялікай княгіняй — я спалохалася.

Марфа зразумела яе і, як добрая маці, таксама ўстрывожылася.

Ксенія засмяялася:

— Вучыся быць ёй, князёўна. О, каб мне свяціла княства, то ўсе паны гэтыя стаялі б слупамі перада мной! У прыслугах хадзілі б. Во паездзіла б я на іх, як на вараных. Гэты певень Рапалоўскі...

— Што за язык! Што за язык! — бедавала маці. — Богу памаліся, як князёўна.

— Бог і так мяне любіць, без малітвы.

Алена пасміхнулася, падумала: гэта шчасце, што ў яе ёсць Ксюта, яна, як ніхто, праганяе ўсе страхі, усе чорныя думкі.

4

Дарагабужа не было. Дарагабуж быў спалены. І хоць усё засыпаў чысты снег, было відно, што жахлівае зруйнаванне адбылося нядаўна, у мінулую восень. Глядзелі чорнымі зевамі печы, якія ў тыя часы паліліся па-чорнаму — без комінаў. На спаленых дрэвах, на печах, абгарэлых зрубах, на снежных гурбах, над якімі паднімалася пара — пад снегам былі зямлянкі, жылі людзі, — сядзелі вароны, безліч варон, натапыраных, тлустых, нахабных: нават мноства коней і людзей не спалохала іх. Наадварот, вароны спалохалі воінаў, як злыя духі, што прадракалі бяду.

У цэнтры былога горада, каля згарэлай царквы — гарчэлі галавешкі — дарогу кавалькадзе коннікаў, што ехалі нанерадзе, перагарадзіў натоўп людзей — жанчыны, дзеці, старыя.

З натоўпам паспрабавалі гаварыць літоўскія паслы, князь Рапалоўскі. Не. Людзі патрабавалі вялікай князёўны.

Да павозкі падбег задыханы, збялелы баярын Міхайла Русалка. Алена яшчэ раней выйшла з павозкі, убачыла спалены горад і... зноў спалохалася: бядой сустракае яе літоўская зямля!

Спатыкаючыся ў глыбокім снезе, князёўна пайшла наперад. Князь Рапалоўскі паспрабаваў спыніць яе на пэўнай адлегласці ад натоўпу, але яна адхіліла яго І спынілася за якія пяць крокаў ад групы старых, што трохі выйшлі наперад. Найперш старыя, за імі ўсе астатнія ўпалі перад ёй на калені. І слёзы затуманілі ёй вочы. Яна не адразу разгледзела гэтых людзей. Божа мой! Якія яны змарнелыя! І адзетыя не ў кажухі — хто ў што, у рыззё, у шкуры звярыныя, абутыя ў саламяныя пасталы. У дзетак тварыкі сінія і ажно свіціліся.

Дарагабужцы працягнулі да яе рукі, загаласілі хорам:

— Ратуй нас, збавіцелька наша, маці родная!

— Хто вас спаліў?

— Князь Разанскі з татарамі. На Міколу. На святога Міколу. Граху не пабаяліся.

— У татар хіба ёсць грэх?

— Але ж і нашы былі. Нашы! Праваслаўныя! Павялі ў палон усіх маладых мужчын, пагналі жывёлу... Ратуй, вялікая княгіня.

Зноў — княгіня. Ад моцнага хвалявання і холаду Алену калаціла. Чым яна магла памагчы гэтым людзям? Накарміць бы хоць дзяцей! І сказаць ім... Што ім сказаць? З жахам адчула, што адняло голас. Але сабрала сілы, хрыпла, але гучна сказала:

— Я абяцаю вам... я абяцаю, што вялікі князь маскоўскі, бацька мой, і ўсе рускія князі, што пакляліся Івану Васільевічу, і вялікі князь літоўскі, муж мой будучы, з гэтага дня ніколі не будуць ваяваць паміж сабой. Ніхто больш не будзе нападаць на вас... ніхто не заб'е вашых мужоў, бацькоў... Давайце памолімся разам за вечны мір! Ды паможа нам Бог!

Маліліся хорам:

— Слава табе, Госпадзі, слава табе!

Алена паверыла, што яна абвясціла вечны мір і плакала ад шчасця. Сказала пасля малітвы:

— Устаньце з каленяў, холадна. — І упэўненым голасам уладаркі, без ахрыпласці, сказала ваяводзе віленскаму Аляксандру:

— Князь! Памажы гэтым людзям! Скажы ваяводзе смаленскаму. — І запэўніла няшчасных: — Я памагу вам. Я памагу.

Ад хвалявання і холаду Алене вельмі хацелася ў таемны вазок. Колькі дзён ужо смела, без сораму, хадзіла туды. А тут не магла — на папялішчы, дзе, безумоўна, свежыя магілы закатаваных людзей, забітых аднаверцамі. «Святы Божа, як ты дазваляеш такое? Каб свае забівалі сваіх».

Да яе падбег князь Рапалоўскі, чырвоны, узбуджаны.

— Прабач, князёўна, але больш я цябе не слухаю. Я адчуваў, што, мяняючы дарогу, літоўцы хочуць падкласці нам свінню. І настояў бы, каб не ты, князёўна. Нам тыцкнулі ў нос... вялікаму князю Івану Васільевічу: во, маўляў, што робяць рускія, пасля таго як заключылі дагавор і гасудар усей Русі цалаваў крыж. Князёўна, я не віню цябе. Ты — дзіця яшчэ, не разумееш...

— Князь Семяон, накармі дзяцей.

— Чым?

— Тым, што вязём.

Рапалоўскі ўзмахнуў рукамі, як тая варона, што толькі зляцела з сасны.

— Вялікая князёўна! Я адказваю не толькі за цябе, але і за воінаў сваіх. Я не хачу прыехаць у Вільню з дзесяццю чалавекамі. Мне трэба ўсе дзве тысячы галоў. А гэта — дзве тысячы ратоў.

— Літоўцы накормяць.

— Літоўцы накормяць! Ног не пацягнеш.

І, не пакланіўшыся нават, пабег назад.

Ксюта сказала:

— Ох, хацела я выгаварыць яму! Раскудахтаўся певень! Дзяцей не можа накарміць. Жмінда.

Маці яе ледзьве не самлела:

— О Божа! Накліча гэтае дзяўчо бяду на сваю галаву. І на маю. Князёўна, не патурай ты ёй, прашу цябе.

Алена абняла пакаёўку.

— Пайшлі, Ксютка.

— Туды?

— Але, туды.

Адышоўшыся, Ксюта засмяялася.

— Памочым князя Семяона. Няхай астыне.

5

Каб зацвердзіць упэўненасць сваю, што яна вязе мір людзям, літоўскім і расійскім, Алена Іванаўна ўспомніла гісторыю, якой вучылі яе: апошні год, пасля сватання, ёй расказвалі пра адносіны Вялікага княства Маскоўскага з Вялікім княствам Літоўскім, Рускім, Жамойцкім. Расказвалі бацька, прыдворны летапісец, духоўнік яе Фама. Летапісы чыталі, паданні ўспаміналі, легенды.

Успамінаючы, Алена расказвала Ксеніі і баярыні Мар'і. Пасля сутычкі з Рапалоўскім жонка яго Ефрасіння напрошвалася ў павозку князёўны, але каб не браць яе, Алена запрасіла Русалку, ціхмяную, паслужлівую, немнагаслоўную.

— Больш за сто гадоў назад везлі яшчэ адну нявесту... толькі з захаду на ўсход, але, відаць, не па гэтай дарозе, бо везлі з Прусіі. Ды была яна літоўка. Гэта мая прабабка, жонка майго прадзеда Васіля Дзмітрыевіча, вялікая княгіня Софія. Яна была дачкой Вітаўта, вялікага князя літоўскага. Але тады, калі ён выдаваў сваю семнаццацігадовую дачку за Васіля, князь не быў яшчэ вялікім. Ён мусіў шукаць прытулку ў Прусіі ў рыцараў, уцёкшы ад брата свайго Ягайлы, які зняволіў яго і хацеў забіць.

— Забіць брата? — жахнулася Ксенія.

— Дзеля ўлады, Ксюта, нікога не шкадуюць. Бацькі роднага...

— Чаму ж навучыў нас Ісус Хрыстос?

— Не блюзнер, дзеўка, — сказала баярыня Мар'я і перахрысцілася. — Хрыстос вучыў жыць па божым законе, ды д'ябал спакушае нас, і мы губім свае душы.

— Я чаму ўспомніла сына Дзмітрыя Данскога? Вітаўт, калі вярнуў сабе з дапамогай прусакоў уладу вялікага князя, ваяўнікам стаў, пашыраў дзяржаву сваю за кошт рускіх земляў. Іншыя рускія князі ваявалі з ім. Але зяць яго, Васіль Дзмітрыевіч, ні разу не падняў руку на свайго цесця. Я толькі што паабяцала няшчасным людзям, што вязу ім вечны мір. І я малюся зараз... памаліцеся і вы... я малюся, каб Бог даў розум бацьку майму і мужу майму ніколі не ваяваць... Пакуль я буду жыць на зямлі...

— Мужчыны — што пеўні, — па-свойму не паверыла ў мудрасць вялікіх князёў Ксенія.

Баярыня Мар'я Русалка таксама не паверыла, але толькі цяжка ўздыхнула.

Алена зноў адчула трывогу і страх. Дзе той псалом, які здыме цяжар апостальскай місіі, які ўзвалілі на яе бадай што дзіцячыя плечы? Не, не на плечы — на сэрца, маленькае, трапяткое. І не ўзвалілі — сама ўзваліла. Раней яна са страхам думала пра сваё замужжа, яшчэ тады, калі сваталі пасла. Але былі гэта дзявочыя думкі, дзявочая боязь. А тут, у спаленым Дарагабужы, на яе ўзваліўся зусім іншы цяжар. У параўнанні з тымі, дзявочымі, перажываннямі гэта — цэлая гара адказнасці і болю: за людзей, не за сябе. Такі цяжар нёс хіба Ісус.

Але параўнанне сябе з Сынам Божым, што прыняў пакутніцкую смерць за людзей, здалося святатацтвам.

Алена ўголас прачытала псалом:

— Выпрабуй мяне, Божа, і ўведай сэрца маё, выпрабуй мяне і ўведай думкі мае. І глядзі, ці не на небяспечным я шляху, і накіруй мяне на шлях вечны.

Мар'я зноў уздыхнула; баярыня мела дачок, і ёй па-мацярынску было шкада гэтае дзяўчынкі, душа якой — што злоўленая птушка кідаецца: вунь з якім надрывам чытае псалмы! Сталая жанчына не зайздросціла яе блізкаму лёсу — вялікай княгіні. «Хіба ў гэтым шчасце?» — думала яна.

Смаленск уразіў Алену з іншай прычыны, знешне быццам бы і прыемнай, радаснай.

За пяць вёрст ад горада даўжэзны поезд князёўны сустракаў вялікі натоўп з праваслаўнымі іконамі і харугвамі. На чале натоўпу стаяў у залатой рызе епіскап Іосіф і многа святароў.

Але нават не сама мнагалюдная і ўрачыстая сустрэча ўразіла. Калі Алена выйшла з вазка і наблізілася разам з князем Рапалоўскім, баярынам Русалкам, спаведнікам сваім Фамой да натоўпу, то ўбачыла, што людзі плачуць не ад гора, як у Дарагабужы, — ад

радасці. І гэта вельмі кранула і... спалохала, як бы вывернула з глыбіні душы на паверхню тую трывогу, што з'явілася ў Дарагабужы. Яна таксама заплакала. Слёзы яе калыхнулі натоўп, што навальнічны вецер сасновы бор. Не вельмі ўслухалася ў словы прывітання, якія казаў епіскап.

Адлёг мароз. Ішоў сухі снег. Наступіў спакой у прыродзе. Але не наступіла супакаенне ў яе душы.

Калі прыехалі ў горад, з валоў крэпасці над Дняпром палілі гарматы. Сустрэў намеснік вялікага князя, запрасіў княгіню ў свой палац. Ды на адпачынак пасля доўгай дарогі не пайшлі: мелася адбыцца ўрачыстае богаслужэнне.

Звечарэла. У царкве Пятра і Паўла гарэлі сотні свечак, пахла воскам. Агеньчыкі свечак трапяталіся ад дыхання людзей, а іх набілася — яблыку не было дзе ўпасці.

Алена слухала малітвы, але, грэшная, не ўнікала ў іх сутнасць. Не, бадай унікала, але яны не прыносілі заспакаення, як звычайна. Яны, наадварот, вярэдзілі новую рану ў яе душы. Яна думала... Калі гэтыя людзі пацягнуцца на ўсход сонца, да адзіна праведнай веры — праваслаўнай, то вялікі князь маскоўскі не можа не прыняць іх пад сваю ўладу. О, яна добра ведала свайго бацьку. Ён не хаваў нават ад паслоў літоўскіх сваіх намераў, ён напачатку перагавораў патрабаваў ад Аляксандра: вярні Кіеў і Смаленск. З-за гэтага ды з-за «Гасудара ўсея Русі» ледзьве не разладзіўся яе шлюб. Не верне вялікі князь Аляксандр рускіх земляў. Але ж людзі во як цягнуцца ў веру сваю! І што будзе? Вайна. Вайна паміж мужам яе і бацькам? Паміж цесцем і зяцем? Думка пра вайну, уяўленне спаленага Дарагабужа абдавала княгіню то холадам, то жарам. Млелі ногі. Кружылася галава.

Халоднае паветра царквы ад свечак і дыхання сотняў людзей як бы застыла што студзень — хоць рэж яго, каб пракаўтнуць.

Толькі ўвечары Алена адышла ад сваіх пакутлівых думак. Ненадоўга. Ваявода Смаленскі даў у яе гонар баль, і яна, грэшніца, дазволіла сабе патанцаваць з двума маладымі баярынамі, што адважыліся запрасіць вялікую княгіню; хлопцы ад шчасця ўзнесліся на сёмае неба. Пасля прыезду архітэктара Арыстоцеля і па яго парадзе Іван Васільевіч выпісаў з Італіі настаўніка музыкі і танцаў — для княскіх дзяцей.

У Смаленску адпачывалі тры дні, і кожны дзень епіскап служыў богаслужэнні ў розных цэрквах — Іаана Багаслова, Архангела Міхаіла. Алена малілася з незвычайнай шчырасцю — за шчаслівае мінулае сваё, за невядомую будучыню, за бацькоў, за будучага мужа, католіка,

і тут жа — за сябе, грэшную, каб умацоўвацца ў веры праваслаўнай. Пахіснуцца ёй не дазволена — Богам і Бацькам.

Ды і спаведнік яе святар Фама не забыў наказ вялікага князя, лічыў абавязкам сваім штодня настаўляць князёўну, нават у доўгай і цяжкай дарозе. Адзін ён меў права садзіцца ў княжацкі вазок. Рабіў гэта з раніцы, каб Алена пры ім тварыла ранішнюю малітву. Тое, што яна малілася, прачнуўшыся, і перад снеданнем, — гэтага было мала. Святар лічыў, што лішняя малітва на славу Хрыста заспакоіць нявесту. А ён, чалавек сталы, вопытны, уяўляў, якія віхры круцяцца ў яе душы.

І Алена любіла свайго спаведніка. Ён не быў сухім начотчыкам, не лунаў у аблоках, зямны, гаманкі, дасведчаны і ў багаслоўі, і ў жыцці. Ён пра самае высокае, пра любы пастулат Святога Пісання ўмеў расказаць проста, зразумела не толькі ёй, адукаванай князёўне, але і яе няньцы, пакаёўцы. Марфа і Ксенія таксама любілі Фаму. Ксенія не саромелася і паблазнаваць перад ім, што ён прымаў паблажліва, без строгасці.

На першай супынцы за Смаленскам, калі камандзіры падлічвалі людзей і дакладвалі князю Рапалоўскаму — што ніхто не адстаў, Фама сеў у вазок князёўны. Ксенія саступіла яму месца на сядзенні паміж Аленай і сваёй маці. А сама стала перад імі на каленях.

Прачыталі ўсе разам «Ойча наш»:

— Отче наш, иже еси на небесах!

Да светится имя Твое.

Да приидет царствие Твое.

Да будет воля Твоя, яко на небесах, так и на земли.

— А цяпер кайцеся, отроковицы, у грэшных помыслах сваіх.

Ксеніі не падабалася, што Алена давярае папу свае самыя таемныя думкі, трывогі, страхі, і яна, хітрунья, апярэдзіла князёўну нечаканым прызнаннем:

— Святы ойча, я ўсю ноч думала пра маладога баярына і сніла яго.

Марфа ледзьве не самлела ад доччыных слоў — ажно застагнала. Алена схавала ўсмешку ў футра, святар — у чорную бараду.

— Грэх гэта ці не грэх? Калі грэх, адпусці, ойча.

— Крыжам ёй дай па лбе, айцец Фама. Бессаромніца! — маці замахнулася на Ксюту.

— Даруй, матухна. Але ж на споведзі трэба казаць усю праўду.

— Грэх, канешне, дачка мая. Але не самы страшны. Бог даруе. Маліся, дзіця. Грэшныя думкі ад таго, што на малітву забываеш.

— Не забываю, ойча. Але баярын — што апостал.

— Не святатацтвуй, няшчасная, бо гэта ўжо грэх вялікі.

Ксенія перахрысцілася і вінавата схіліла галаву, але ў вачах яе скакалі чорцікі, да смерці палохаючы маці.

Разумны Фама, які ведаў пакаёўку князёўны не адзін год, даўно здагадваўся, што пад выглядам незвычайнай шчырасці дзяўчына нярэдка блазнуе, бо залішне мае фантазіі. Каб спыніць яе гуллівасць, ён пачаў свой асветніцкі экзамен. Звычайна пытаўся па Свяшчэнным Пісанні і цешыўся, што яго выхаванка і спаведніца князёўна ведае Евангелле не горш за яго, святара, які скончыў духоўную акадэмію і наведаўся да Гроба Гасподнія — у Іерусалім. А тут спытаў: што ёсць апокрыф?

Алена адказвала падрабязна, з ужываннем грэчаскай мовы, чым захапляла няньку і яе дачку, хоць не ўсё яны разумелі з адказу.

Фама знаходзіў заўсёды пытанне, адказу на якое князёўна не ведала, і гэта цешыла яго самалюбства, меў духоўнік такі грэх.

— Ці ёсць рай на зямлі?

Алена не адказала — думала, успамінала апокрыфы, якія прачытала. Не ўспомніла пра зямны рай. Ксенія не дачакалася адказу князёўны і катэгарычна сказала:

— Няма.

Маці замахала на яе рукамі.

— Памаўчы ты хоць, грамацейка. Грэшніца!

Фама задаволена пагладзіў бараду.

— Цверскі епіскап Феадор сцвердзіў, што зямны рай загінуў, бо людзі завязлі ў грахах. Нядаўна архіепіскап Васілій абвергнуў яго. Ёсць зямны рай! Наўгародцы плавалі па моры. Падплылі да вострава з высокай гарой. І пачулі на вяршыні мноства радасных галасоў. Паслалі туды чалавека, каб паглядзеў, што там. Ды ён, падняўшыся, пляснуў у далоні, засмяяўся і што ёсць сілы пабег на вяршыню. Паслалі другога, але і той не вярнуўся. Трэцяму прывязалі вяроўку за нагу. Але прыцягнулі яго назад мёртвым.

— Ах! Святыя забілі чалавека? — выгукнула абурана Ксенія.

— Не забілі. Сам памёр. Ад гора, што не далі яму трапіць у рай.

— Няшчасненькі, слабенькі такі быў? Ці так дрэнна жылося яму ў Ноўгарадзе?

— Непрадбачаныя ў цябе вывады, дзяўчына. Знаеш ты, што значыць імя тваё па-грэчаску? Іншаземка. Падарожніца.

— Ой, мамачка! Ты як у ваду глядзела, даючы мне імя. Во я і падарожніца. А буду іншаземкай.

Ксенія гукнула радасна, а Алену слова гэтае — «іншаземка» — балюча ўкалола і засмуціла. Яна цяжка ўздыхнула.

— Што вярэдзіць сэрца тваё, князёўна? Супакойся, дачка мая. Памаліся. Памятай, шчаслівыя пакутнікі, бо яны суцешацца.

— Айцец Фама, растлумачце мне розніцу паміж вянчаннем нашым, грэчаскім, і лацінскім. Маці тлумачыла, але мая дзявочая галава не дапяла.

— О, глыбокае пытанне, дачка мая! Глыбокае і нялёгкае. Ды ты, князёўна, усё ведаеш, усё разумееш. Розніца гэтая істотная. Во яе сутнасць. У праваслаўнай царквы вянчанне лічыцца таінствам. У каталікоў sakramentem matrimoni — таінства шлюбу — сама шлюбная сувязь, а не вянчанне.

— Дык у іх лети! — не ўспрымалася ад ацэнкі непасрэдная Ксенія. — Таінства — калі я застануся з ім адзін на адзін, а не тады, калі поп будзе надзяваць вянец.

Добры, ціхмяны, усёдаравальны спаведнік узлаваўся, дзьмухнуў на дзяўчыну, як плюнуў.

— Цьфу, нячыстая сіла! Ерэтычка! — і як адгарадзіўся ад яе шырокім крыжам.

Ксенія спалохалася, упала тварам у ногі святару.

— Даруй, ойча.

— Бог даруе, — злітасціўся Фама. Марфа цалавала папу рукі і плакала.

— Давядзе яна мяне да магілы, бязбожніца. Басурманка! Алене не здаліся словы Ксюты вялікім святатацтвам, але пры Фаме і Ксюцінай маці яна змаўчала. Супакоіла і ўзбадзёрыла пакаёўку-сяброўку на чарговым супынку, калі яны беглі да таемнай павозкі.

6

У Віцебску князёўну сустракалі натоўпы людзей і праваслаўнае духавенства. З Замкавай гары палілі гарматы — больш залпаў, чым у Смаленску. Прайшло богаслужэнне ў Благавешчанскай царкве.

Але ў Віцебску дадаліся Алене новыя перажыванні. Жаніх яе — вялікі князь Аляксандр прыслаў насустрач многа вяльможных паноў. З'явіліся князі Іван ды Васіль Глінскія, Канстанцін Астрожскі, шыкоўна адзетыя, галантныя. Кланяліся будучай вялікай княгіні, цалавалі рукі, што ў рускіх не ўвайшло яшчэ ў звычай, там рукі цалавалі ўладыкам царкоўным. Алена бянтэжылася. Але гэта надавала ёй яшчэ больш прывабнасці. Паны захапляліся яе прыгажосцю. Асабліва Астрожскі — малы ростам, але ўвішны і дасціпны, жартаўлівы. Пра Астрожскага расказалі, што ён лепшы военачальнік у Вялікім княстве — біў і рускіх, і татар, і немцаў.

Астрожскі Алене спадабаўся і вяльможнасцю сваёй, і дасціпнасцю, і, можа, у першую чаргу тым, што ён праваслаўны; такі слынны ў княстве, а да каталікаў не падаўся. Па-руску выдатна гаворыць. Гэта князёўну хораша супакоіла: калі вялікі князь праваслаўнаму даручыў усё сваё войска, значыцца, ён верацярпімы, а яе і падчас сватаўства, і ў дарозе наймацней трывожыла думка, што муж яе — муж ёсць муж! — будзе гвалтоўна прымушаць яе здрадзіць праведнаму закону — грэчаскаму, парушыць бацькаў запавет.

Успамінала розныя выпадкі, здарэнні са свайго нядаўняга, пасутнасці дзіцячага жыцця і прыходзіла да сумнай высновы аб слабасці свайго дзявочага характару, аб адсутнасці сілы волі — усім саступала. Сястра яе Феадосія куды больш упартая, тая маці, братоў, сясцёр прымушала скарацца ёй, аднаго бацьку баіцца.

Астрожскі супакоіў Алену сваёй праваслаўнасцю. Але ненадоўга. Пасля цырымоніі прадстаўлення паноў застаўся з ёй галоўны з княжацкіх пасланцоў — маршалак Станіслаў Страміла з жонкай Ядвігай, якая гаварыла толькі па-польску. Алена разумела яе, бо пасля сватаўства мела і польскага настаўніка, але адказаць не ўмела. Пан Станіслаў перакладаў жонцы яе словы, але гаварыў па-руску не так хораша, як Астрожскі: з нязвыклым для вушэй князёўны вымаўленнем.

— Вялікая княгіня! — з паклонам пачаў Страміла.

— Я яшчэ не вялікэя княгіня, — рашуча адмовіла зварот Алена.

— Але да гэтага так блізка — лічаныя дні, вяльможная пані. І я маю наказ біскупа пагаварыць з табой аб вянчанні. Ён будзе ў касцёле па рымскім законе.

Алена сцялася, як бы на яе замахнуліся цяжкім. Вось яно, пачынаецца яе Галгофа! Ёй дыктуюць, ад яе патрабуюць. Але тут жа выпрасталася, і яе малінавы галасок зазвінеў жалезна:

— Пан маршалак! Вянчанне будзе ў саборы рымскай веры. Але там будзе і наш святар, ён будзе чытаць нашу малітву. Ніхто не павінен прымушаць мяне да рымскага зэкону. Тэкая дамоўленэсць бацькі майго, гасудара ўсея Русі, з пасламі Аляксандра.

Страмілы цешылі сябе думкай, што сваёй красамоўнасцю пераканаюць князёўну. Але яе рашучы адказ, яе звонкі, бадай гнеўны голас, бляск вачэй, з якіх, здавалася, сыпаліся іскры, пераканаў пана Станіслава і Пані Ядвігу, што гэтая, з выгляду бездапаможная, дзяўчына мае характар.

Каб абяззброіць нечаканых паслоў, Алена тут жа перадала маршалісе сабалінае футра. Ядвіга растала ад шчасця. А маршалак пазмрачнеў: перамагла яго, вяльможнага, высокага ў званні,

шматвопытнага ў дзяржаўных справах, маленькая маскоўская князёўна. Выйшаўшы ад яе, Страміла сказаў:

— Гэтая схізматычка фанатычная. Але яна не знае сілы рымскай царквы. Гэта магутная сіла, перад ёй схіляюцца каралі, на каленях паўзуць. Што ж, вялікая княгіня, не ўзялі мы цябе наскокам — возьмем аблогай.

А Алена тым часам рашала яшчэ адну нялёгкую задачу, якую паставіў будучы муж. Аляксандр прыслаў багаты экіпаж — шыкоўная карэта, абабітая ліловым аксамітам, з сярэбраным гербам, запрэжаная ажно васьмёркай найлепшых коней у залатой збруі, якія і пасля дальняй дарогі выбівалі капытамі снег і лёд перад палацам да зямлі, да бруку. Рускія воіны ахалі ад захаплення коньмі і карэтай.

Перасаджвацца ёй са свайго абшытага мядзведжымі шкурамі, якія за дарогу паліпялі, вазка ў вялікакняжацкі дарунак нявесце? Няпростае пытанне. Сама не рашыла. Раілася са сваімі ахоўнікамі і духоўнікамі.

Рапалоўскі выказаўся за тое, што трэба перасаджвацца, а то Аляксандр пакрыўдзіцца. Мабыць, княгіні Ефрасінні вельмі хацелася праехацца ў такім каралеўскім экіпажы. Баярын Русалка не вельмі рашуча, з разважаннем, падтрымаў начальніка аховы. Ды баярыня Мар'я так глядзела на князёўну, што ўсім сваім выглядам — моршчылася як ад болю — казала: не трэба. А гэта была важкая гіра на тую шалю, дзе ляжала яе ўласнае перакананне. Туды ж кінуў сваю думку і дварэцкі Дзмітрый Пешкаў:

— Літоўцам трэба паказаць, што і мы маем гонар. А то многа ў іх пыхі. Панічы бязвусыя ідуць і не вітаюцца, нахабнікі.

Алена паслухала думку князёў, баяр і не выказала сваю.

— Я падумаю.

Ефрасіння кіпела: ёй раяць старэйшыя, мудрыя, а яна будзе яшчэ думаць, дзяўчо няшчаснае!

Падумаць — значыцца параіцца з самымі блізкімі людзьмі, якім яна давярала больш, чым сваім апекунам, — з нянькай, з Ксеняй і спаведнікам. О, каб яна сказала высокім панам, што яе лепшыя дарадцы — халопкі.

Што было б!

Але мудры Фама высока ацаніў давер князёўны да яго і да тых, хто штодня побач з ёй, — адзяе, раздзявае, сцеле пасцель.

Першая выказалася Ксенія. Дзяўчына не дапускала думкі, што можна адмовіцца ад такой міласці вялікага князя. А маці яе сказала:

— Я — простая баба, мужычка, але я не перасела б нават з тых саней, што вязуць авёс.

Фама нагадаў:

— Князёўна, ты павінна прыехаць да жаніха ў вазку бацькі свайго гасудара ўсея Русі.

Ксенія не здавалася, Фаму яна не саромелася:

— А што вы скажаце літоўцам? Такую павозку шалі, можа, трыста вёрст.

— Бяры больш.

— Ну во!

— Што я скажу? — Алена задумалася, але на твары яе блукала гарэзлівая ўсмешка. — Я скажу... Мой вазок цяплейшы, ён загорнуты ў футра і знадворку і ўсяродку. А я прастуджаная. Навошта Аляксандру саплівая нявеста?

Святар пасміхнуўся. Ксенія весела засмяялася. Марфа пляснула ў далоні.

— Князёўна! Нельга так казаць! — нянька ведала дыпламатыю лепш за іншых паслоў. — Так і Ксютка не сказала б, каб нявестай была.

— Ты не знаеш, мама, што я скажу, калі буду нявестай, — запярэчыла дачка.

— Не бойся, нянька. Я знаю, што сказаць. Гонар свой мы не страцім.

А ўвечары на гулянцы, падагрэўшы сябе заморскім віном, маладыя баяры маскоўскія і віленскія панічы, паспрачаўшыся, ці прыме вялікая княгіня літоўская каталіцкую веру, ледзьве не пасеклі адзін аднаго, добра, што ваяводзе віцебскаму своечасова данеслі і ён разагнаў пеўняў.

## Раздзел другі

### Шлюб

I

Начавалі ў Астраўцы, блізка ад Вільні, каб, растлумачылі літоўцы, прыехаць у сталіцу не ўвечары ў цемры, а пасярод дня. Абоз і добрая частка воінаў рушыла далей, бо ў гэтым невялікім сяле не было фуражу. Дзіва што, такая арава!

Вялікую князёўну, князёў, баяр размясцілі ў дамініканскім манастыры.

Упершыню рускіх сустрэлі не вельмі прыветліва. Фанатыкі манахі лічылі, што прысутнасць маладых жанчын, ды яшчэ схізматычак, апаганіць іх святы прытулак.

Княгіня Рапалоўская абуралася за вячэрай, што сутаннікі глядзяць на іх ваўкамі. Калі Алена сказала пра абурэнне княгіні Марфе і Ксеніі, дзяўчына пажартавала:

— Дрэннае вока ў княгіні. Не з нянавісцю яны глядзяць на нас. Ваўкамі — гэта праўда. Але глядзяць яны на нас, як на авечак, і аблізваюцца. Ах, як ім хочацца злопаць такую авечачку, як я.

Маці пляваласся і лаяла дачку:

— Уводзіш ты мяне ў грэх, басурманка. Пра што думаеш?

Алене было не да жартаў. Ёй хацелася маліцца. Але як маліцца ў келлі, дзе вакол чужыя іконы? Яна дастала іконку, якую падарыла ёй маці. Прачытала:

— Гасподзь — святло маё і ратунак мой: каго мне баяцца? Гасподзь — крэпасць жыцця майго: каго мне страшыцца? Аднаго прашу я ў Госпада, таго толькі шукаю, каб існаваць мне ў доме Гасподнім ва ўсе дні жыцця майго, сузіраць хараство Гасподняе і наведваць храм Яго...

Але малітва не супакойвала. Думала: «Вось так і будзе далей: я — адно, маленькая, як мой абразок, а іх многа, вялікіх, дужых». Глянула на сцены, спыніла позірк на Багародзіцы з маленькім Ісусам на руках.

— Маці Боская! Хіба ж ты не такая, як і на маёй іконцы? Дай жа мне сілу і заспакаенне. Пачуй, Прачыстая, голас мой, каторым я клічу, памілуй мяне і паслухай мяне.

Ніштo не давала заспакаення. Апанавала хваляванне такое ж, калі не мацнейшае, як у дні ад'езду, — з Масквы і з Дарагамілава, калі заплакала маці і плакалі сёстры. «Ці ўбачым мы цябе, Аленачка?» — крычала малая князёўна Еўдакія.

«Усе яны там, разам. А я адна. Што мяне чакае заўтра?»

Доўга не магла заснуць, да трэціх пеўняў. Думала: які ён, нарачоны яе? Ці не напаткае яе глыбокае расчараванне? І нікому не паскардзішся, не паплачаш. Хіба Марфе ці Ксюце. Адзіныя родныя душы. Некалі маці ганяла яе, малую, што яна абнімалася і цалавалася з халопкамі — з няньчынай дачкой.

«Мамачка родная! Каб ты ведала, як яны падтрымлівалі мяне, Марфа і Ксенія, у гэтым цяжкім падарожжы, якое, здалося мне, цягнулася гады, а не тыдні. Я вырасла за гэты час... Як вырасла! Вырасла... А сэрца ўсё роўна трапечацца.

Сэрцайка маё! Чаму ты як птушачка ў клетцы? Чаго ты баішся? Не бойся».

Баялася, што вялікі князь стары. Нават на партрэце выглядае немаладым. Ды хіба партрэт — чалавек? Раней без страху думала, што вялікі князь не гаворыць па-руску. Заспакойвала гісторыя з маці:

Зоя Палеалог, едучы ў Маскву, не ведала ніводнага рускага слова. І бацька не ведаў ні грэчаскай, ні лацінскай моў. Паразумеліся. Дзіўна, што ні маці, ні мудры бацька не спыталі ў сватоў, ці гаворыць Аляксандр па-руску. У дарозе колькі разоў намервалася спытаць пра гэта ў літоўскіх паслоў, усе яны гавораць па-руску, аднак чамусьці пасаромелася; крый Божа, калі падумаюць: во няўцяма!

Разумела, што бяссонная ноч змардуе яе. А тут яшчэ ўвесь дзень не ела, сцераглася: у Мядзелі ўпадабала вэнджанага вугра, і ў мінулую ноч у яе балеў жывот. Бяссонніца і недамаганне дадавалі трывогі; не ў лепшым стане з'явіцца яна перад вачамі жаніха. Дзяўчына ёсць дзяўчына, ёй хочацца выглядаць як найлепш.

Гадзіны тры паспала. Нянька разбудзіла яе пазней, чым звычайна. Цяжка было адрываць галаву ад падушкі, хоць і мулкая яна, манашаская. Але наступаў яе дзень, і ён радаваў: урэшце скончацца яе пакуты, душэўныя і фізічныя — ад трохтыднёвага сядзення ў цесным вазку балела ўсё цела.

Марфа і Ксюта завіхаліся вакол яе, як ніколі, — прыбіралі не проста князёўну — нявесту.

Алена нават здзівілася, што звычайна вясёлая, смяшлівая і не па-рабску пачцівая, свабодная на словы Ксютка гэтак хвалюецца, ажно рукі ў яе калоцяцца. І не да жартаў ёй. Прыйшлося Алене жартаваць, і яна парадавалася, што здольная на жарты, значыцца, ёсць яшчэ духоўныя сілы. Сустрэць бы вялікага князя ў такім настроі!

На пад'ездзе да Вільні да картэжа прыскакалі ганцы, паведамілі, што вялікі князь сустракае нявесту ў полі, вунь за тым борам, што віднееецца. З павінай гэтай да вазка прыйшлі князь, княгіня Рапалоўскія. Ефрасіння лічыла сябе адказнай за падрыхтоўку нявесты і бесцырымонна выставіла з экіпажа Марфу і Ксенію, хоць Алене вельмі не хацелася, каб апошнія хвіліны перад лёсаноснай сустрэчай з ёй была Рапалоўская, якая не вызначалася той душэўнай тонкасцю, тактоўнасцю, якія мелі нянька і пакаёўка. Але запярэчыць — нажыць сабе ворага. Сам бацька — і маці! — давалі княгіні наказ, каб была за маці. Гэтага нельга не ўлічваць.

Перад сваімі Алена магла б выявіць свае пачуцці — хваляванне, страх, можа, нават сказала б Ксеніі: «Паслухай, як трапечацца маё сэрца». І Ксюціна далоня на яе грудзях пад летнікам і душагрэйкай, напэўна, сцішыла б гэты шалёны галоп. Перад княгіняй яна сцялася. Але Рапалоўская нечакана выявіла сапраўды матчына разуменне. Супакойвала добрымі ласкавымі словамі. І заняла ўвагу. Як князёўне адзецца на сустрэчу? Зняць футра, пакрытае атласам? Адзець расшытую золатам паволоку з заморскага аксаміту? Не, холадна, хоць

мароз, які суправаджаў іх ледзьве не ўсю дарогу, тут, на літоўскай зямлі, адлёг. Але дзьмуў халодны вецер.

— Не. Я выйду ў сабалях. Хіба я не прыгожая ў іх?

— Што ты, князёўна! Ты — анёл нябесны, — расшчодрылася на пахвалы Рапалоўская. — Але здымеш шапку і надзенеш вянец.

— Божа! Не пад вянец жа!

— Пад вянец ты пойдзеш з непакрытай галавой. А цяпер касу — тваю дзявочую красу — пусцім паверх футра. Дай я лепш запляту яе, а то растрапалася. Гультайка твая Ксютка, не магла як трэба заплесці. Распусціла ты яе, князёўна. Халопка ў цябе ў сяброўках. Грэх.

— Перад Богам усе людзі роўныя.

Увогуле мусіла пакорліва маўчаць і падначальвацца пасаджонай маці.

Урэшце пагадзіліся, што касу лепш не заплятаць, распусціць яе залацістыя косы на плячах. Адзелі вянец без верху — прыкмета дзявоцкасці: шырокая павязка, вышытая золатам і густа абсыпаная жэмчугам.

Вазок князёўны, які ў мэтах бяспекі трымалі ў сяродку вяльможных павозак, прапусцілі наперад. Перад ім ехала невялікая група коннікаў — князі і баяры — з штандарам вялікага князя маскоўскага.

Аляксандр стаяў на ўзгорку, адзін, на краі доўгага пунсовага суконнага палотнішча, што пралажана было ад саннай каляіны. Натоўп літоўцаў стаяў унізе з другога боку дарогі.

Картэж рускіх коннікаў павярнуў да іх. А вазок, па загадзе ганца, які сеў побач з фурманам, спыніўся перад палотнішчам.

Алена выйшла не адразу: праз адчыненыя ганцом дзверцы вазка нейкі момант разглядала свайго нарачонага. Але ў твар дзьмуў халодны вецер, і ў яе заслязіліся вочы.

Ганец рашучым жэстам рукі адгарадзіў ад Алены княгіню Рапалоўскую, якая памкнулася пайсці побач.

Алена адна ступіла на пунсовы дыван. Па-дзіцячаму кулачком працерла вочы і хораша разгледзела князя Аляксандра. Ён ішоў ёй насустрач.

Невысокі ростам, бадай не вышэйшы за яе, з кароткай барадой, адвіслымі вусамі, ён здаўся Алене старым, ад гэтага сціснулася яе сэрца. Яшчэ адну адметную рысу заўважыла: князь быў крываногі. Але гэта не засмуціла яе, наадварот, чамусьці дзіўна супакоіла. Бачыла яна такую крываногасць у баяр, у воінаў, асабліва ў татар — у тых, хто палавіну свайго жыцця праводзіць у сядле.

Адзеты быў вялікі князь не парадна, не як ваявода, хутчэй як паляўнічы: бабровая шапка без упрыгожванняў, сукня, падперазаная шырокай папругай з адмысловымі сярэбранымі бляшкамі, батфорты з расшыранымі вышэй каленяў халявамі.

Алена здаля ўсміхнулася жаніху. Ён не адказаў усмешкай. Яна не здагадалася, што князю заняло дыханне. А гэта было так. У яго замерла сэрца. Сваты-паслы казалі яму, што атрымае такую пекнату, такое незвычайнае багацце. Божа! Што за вочы! Што за каса! А вусны!.. Усё — найвышэйшая дасканаласць. Анёл! І ўладар вялікай дзяржавы, які меў усё, але дагэтуль не меў найвялікшага чалавечага шчасця — кахання, пачуў сябе юнаком, што прыляцеў на першае спатканне.

Сустрэліся на сярэдзіне дывана.

Князёўна працягнула Аляксандру маленькую ручку. А ён усё яшчэ глядзеў на яе чароўны твар і не ведаў, што яму рабіць. Было памкненне ўпасці перад ёй на калені. Не. Стрымаўся. Не дазваляе чын. Пацалаваць ёй руку? Ніхто не сказаў, ці можна гэта. Працягнуў сваю руку, нясмела сціснуў яе анёльскія пальчыкі. І ўсё яшчэ нічога не сказаў.

Алена спалохалася: не ўмее па-руску, таму маўчыць? Сказала першая:

— Я вітаю цябе, вялікі князь.

— Я вітаю цябе, князёўна. Прашу ласкава да нашага двара. Горад Вільня кланяецца табе ў ногі.

Божа! Як камень з сэрца: добра ж гаворыць па-руску! Трохі смешна акае, ды дзіўны гук «г» у яго, як і ў літоўскіх паслоў: не гучна вырываецца, а неяк мякка выкочваецца, як трэцца аб гартань. Алена адчула поўнае заспакаенне. Навошта былі яе доўгія пакуты?!

— Дзякую, мой уладар.

«О! — здзівіўся вялікі князь. — І разумная да таго ж».

— Як ехалася, князёўна?

— Добра.

— Як маецца брат наш, вялікі князь маскоўскі?

— Гасудар усея Русі кланяецца вялікаму князю і пасылае свае дары.

У Аляксандра расшырыліся вочы: яшчэ і якая разумная, мудрэйшая за любога пасла! Дае Бог жонку! За міласць яго і святасць. Дзіўнае тварылася ў сэрцы вялікага князя. Цёплае і салодкае залівала грудзі. Такога не адчуваў ні пасля слаўных перамог над ворагамі, ні пасля ўдалых перагавораў, багатых трафеяў. Ён не адразу здагадаўся,

што імя гэтаму пачуццю — каханне. Так, разумеў, што ідзе да яго шчасце, якое не перажываў яшчэ ў сваім жыцці.

Між тым літоўцы і рускія падступіліся да іх. Пачуліся выгукі:

— Хвала Госпаду за вялікі дар — што даў нам такую панну!

— Няхай жыве многія лета вялікі князь Аляксандр!

О, дзівосы: літоўцы крычаць па-руску!

— Князёўне не холадна? — клапатліва спытаў Аляксандр.

Алена дакранулася да жамчужын вянца.

— Абруч гэты настывае. Я захацела ўпрыгожыць сябе перад князем.

Якая натуральнасць! Князь не любіў штучнасці, яго захапляла ўсё натуральнае.

— Стамілася? — проста спытаў ён.

— Стамілася, — шчыра адказала Алена.

Як зблізіла гэтае адно слова ў рознай інтанацыі — пытальнай і апавядальнай.

— Вяртайся, князёўна, у вазок. Сустрэнемся ў замку.

Алена ў сваю чаргу хораша падумала пра тактоўнасць

Аляксандра: не спытаў, чаму яна не перасела ў экіпаж, які ён паслаў ёй ажно ў Віцебск. Не падумала, што вялікаму князю не да драбніц. Іншыя, не ўладарскія — чалавечыя пачуцці завалодалі ім.

Да Вільні вялікі князь ехаў у сядле побач з вазком князёўны, палінялым за доўгую дарогу.

2

Князёўну і вяльможнае акружэнне яе размясцілі ў Ніжнім замку.

Алена пасміхнулася з сябе: ёй здавалася, бадай у дарозе яшчэ так думала, што лепшага палаца, як у бацькі яе, у літоўцаў быць не можа; у Італіі, пра якую расказвала маці, — справа іншая. Яна помніла цесныя драўляныя палаты. Але гадоў колькі назад архітэктар-італьянец збудаваў у Крамлі каменны палац, не горшы, чым рымскія, — сам Арыстоцель казаў, і бацька так лічыў.

І аднак вялікакняжацкі палац у Вільні зрабіў ураажанне. І знешнім выглядам — стройнасцю ліній, дакладнасцю прапорцый. І асабліва ўнутранай спланаванасцю і абсталяваннем. Мармуровыя лесвіцы з мяккімі ўсходнімі дыванамі. Холы-сады. Нават райскія птушачкі чырыкалі.

Ёй адвялі на другім паверсе анфіладу пакояў з белымі дзвярамі ў залатой аздобе. Але не спальня спадабалася — пакой перад спальняй, які не ведала, як назваць. Бібліятэка? На сценах карціны, якіх у Маскве яна не бачыла. Не іконы. Біблейскія гісторыі ў мастацкай

выяве, напісаныя пэндзлямі адмысловых майстроў. Вялікая шафа з моранага дуба, і ў ёй за дымчатым шклом — тоўстыя кнігі ў скураных пераплётах з залатым цісненнем. У іх, у палатах, такіх кніг было нямнога, Алену з маленства прываблівала грэчаская Біблія, якую маці прывезла з сабой: па ёй вялікая княгіня Соф'я вучыла дзяцей сваіх грэчаскай мове. А тут добрая сотня такіх дзівосных рукапісных кніг. Большасць — на латыні. Але ёсць і на грэчаскай мове. І на сербскай. Пацешыла думка, што Аляксандр валодае грэчаскай мовай. Гаворыць па-руску, чытае па-грэчаску... Гэта збліжае іх духоўна.

Сустрэча з жаніхом зняла ўсю напружанасць, з якой яна ехала, усе страхі. Апанавала заспакаенне, суцішанасць, цёплай хваляй накатвалася радасць.

Скінуўшы футра і паставіўшы на падаконнік сваю іконку, Алена ўпала на калені і памалілася — прачытала з апостала Паўла — на спакой душэўны:

— ...апраўдаўшыся вераю, мы маем мір з Богам праз Госпада нашага Ісуса Хрыста, праз каторага вераю і атрымалі мы доступ да той ласкі, у якой стаім і хвалімся надзеяй славы Боскай. Але не гэтым толькі, хвалімся і скрухамі сваімі, ведаючы, што ад смутку ўтвараецца цярпенне, ад цярпення вопытнасць, ад вопытнасці надзея.

Схамянулася: ці тое яна чытае? Пра радасць трэба. Але словы апосталаў пра радасць прыгадаць не магла. Хіба не было ў Збавіцеля нашага радасці? «Як жа! Атрымалі мы доступ да ласкі... Ад цярпення набыла я вопытнасць і надзею. Аднак грэшная я. Як мне падабаецца тут! Цеплыня...»

Сапраўды, была незвычайная цеплыня. Ад яе, здавалася, адталі ўсе яе костачкі. Па целе папаўзлі ласкавыя мурашкі. Наплывала стома і... бяздумнасць. Села на канапу і не магла паварушыцца. Успомніла: «Стамілася?» — «Стамілася». І ўсміхалася яму, князю свайму — князю душы. Пэўна, на нейкі час нават заснула, бо ўбачыла перад сабою маці — маці благаслаўляла яе шчаслівай усмешкай.

Абудзілася цікаўнасць. Адкуль, аднак, цеплыня? Кафельных грубак, як у крамлёўскіх палатах, нідзе не відаць. Пайшла паўз сцяну і пачула цёплы вецер; ён шугаў з шырокай глінянай трубы, закрытай рашоткай. Адмыслова: дзесь у вялікай печы грэецца паветра і паднімаецца ў пакоі.

Якое, аднак, шчасце — сядзець у цеплыні перад кніжнай шафай, перад біблейскай карцінай: кланяюцца маленькаму Хрысту. Не хочацца нават паварушыцца. Хораша, што не было ніякага цырыманіялу сустрэчы. Зрабілі залпы крапасныя гарматы — і ўсё.

Аднак памаліцца ў царкве трэба: наказ бацькі. Дзе Фама? Яму даручана.

Толькі падумала — з'явіўся спаведнік.

— Вялікая князёўна, я знайшоў праваслаўную царкву і дамовіўся з настаяцелем. Тут блізка, за валам. Хадзем адслужым малебен. Уславім Усявышняга, што шчасліва давёз нас.

— А я задрамала і сніла маці.

— Гэта на шчасце, дачка мая.

Не ўсе з князёў і баяр, што суправаджалі князёўну, пайшлі на малебен, што Фаму засмуціла. Не было нават князя Рапалоўскага. Алена разумела, што ў мужчын шмат клопатаў: не проста размясціць дзве тысячы воінаў.

Вернікаў у царкве было мала. Спачатку. Ніхто не думаў, што князёўна адразу наведае праваслаўную царкву. А пад канец малення — не змесцімся, стаялі на вуліцы. Маланкай разнеслася чутка, што моліцца будучая вялікая княгіня. Алену славілі і натоўпам праводзілі да замка, ажно пакуль не затрымала людзей варта.

Значна пазней — ад мужа — даведалася, як абурыла гэтае шэсце біскупа віленскага, служкі якога сачылі за рускімі схізматыкамі. Войцэх Табар прыйшоў да Аляксандра пасінелы, патрабаваў, каб вялікі князь, калі ажэніцца, забараніў жонцы наладжваць такія набажэнствы.

Уладар адказаў:

— Вялікі князь маскоўскі, аддаючы дачку, паставіў умову, каб я збудаваў для яе дварцовую царкву.

Біскуп яшчэ больш пасінеў.

— Яснавяльможны вялікі князь забыўся, што яшчэ бацька яго кароль Казімір забараніў будаўніцтва праваслаўных храмаў. Святая рымская царква не дапусціць парушэння справядлівага ўказа.

Сапсаваў біскуп вялікаму князю святочны настрой. Ён намерваўся паднесці жонцы шлюбны падарунак — закладку царквы. Не паднясеш. Добра ведаў уладар сілу і магутнасць «святой рымскай царквы». Ніводзін кароль у Еўропе не адважыцца пайсці супраць папы.

3

У той жа дзень вялікі князь даваў вячэру. Запрашэнне на яе нарабіла перапалоху сярод рускіх вяльможных кабет. У Маскве на вялікакняжацкія прыёмы жонак запрашалі рэдка: не жаночая справа балявацъ і слухаць мужчынскія дзяржаўныя размовы.

Княгіня і баярыні, страціўшы галаву, шукалі ў сенцах, як яны называлі хол замка, свае куфры, а ў іх — убранні, упрыгожанні. Што

адзець? Як адзець? Каб не пасароміць сябе перад літоўскімі панамі і панямі; яны бліжэй да Рыма, адтуль ідуць не толькі законы папскія, але і мода.

Клопаты Рапалоўскай пра сваё ўбранне пазбавіла Алену ад яе прысутнасці. І князёўна была задаволена, што засталася з Марфай, Ксеніяй. Марфа адразу дала вызначэнне вячэры, якая мае быць:

— Агледзіны.

Безумоўна, агледзіны. Праўда, гэта не тое, што ў Расіі, калі сабіралі многа княскіх, баярскіх дачок, і князь, ці тым больш вялікі князь, праз таемнае акенца выбіраў сабе нявесту. Яна, Алена, ужо выбрана. З кароткімі агледзінамі — пасольскімі. Але вячэра хвалявала і яе. Менш з-за ўбрання. Яна яшчэ ў дарозе вырашыла, што адзенне для першай сустрэчы з Аляксандрам: не думала ж, што сустрэча вунь дзе адбудзецца — у полі. Нямала было мітусні і ў пакоях. Пасаг яе багаты — дзесяткі куфраў. Аднаго жэмчугу два пуды. А колькі золата, ізумрудаў! А сарочак, летнікаў, картэляў, шыйных караляў, апашняў, мантый-павалок, вянцоў — дык і ліку ім не ведалі ні сама нявеста, ні ключнік яе, ні нянька. Лепш помніла, дзе што ляжыць, Ксюта. Але калі шмат што дасталі з куфраў, колькі ёй пасля было клопатаў давесці ўсё да ладу — павесіць самае неабходнае ў нязвыклыя літоўскія шафы, упакаваць назад у куфры. Калі князёўна пайшла, Ксюта што-ніштo і памерала, не зважаючы на гнеў маці: у Маскве не адважвалася. Дражніла маці:

— Мамачка! Хіба я не падобна на князёўну? Я за іх ваяводу выйду замуж. Ты станеш паняй.

— Цьфу, нячыстая! — абуралася Марфа.

Алена не прымярала розныя ўборы, як рабілі гэта іншыя. З дзіўным спакоем, які захапляў Ксюту, яна адзела летнік з чырвонага атласу, расшытага сярэбранай ніткай, прошвамі з чорнага аксаміту з узорамі. Паверх гэтага плацця надзела белую мантыю-павалоку, рукавы якой і падол былі багата ўпрыгожаны залатым шыццём, жэмчугам і каштоўнымі каменнямі — ажно цяжка было несці такое ўбранне.

Валасы свае каштанавыя князёўна распусціла паверх белай мантыі, а на галаву надзела вянец: чорная аксамітная павязка, аздобленая залатым шыццём і ўсыпаная жэмчугам. На вушах віселі буйныя залатыя кроплі-завушніцы з агністымі каштоўнымі каменьчыкамі-іскрынкамі. Алена не любіла іх — залішне цяжкія, адцягваюць вушы. Але што зробіш — мода, ды і вушы даўно праколаты, у малой яшчэ. Маністы надзела самыя простыя па маскоўскіх мерках — рубінавыя, не ўяўляючы, што менавіта яны, не што іншае, будуць прадметам зайздрасці літоўскіх паняў.

Ксюта, агледзеўшы князёўну, заляскала ў далоні.

— Князёўна! Памруць паны.

— Ад чаго?

— Ад зайздрасці, што не ім дасталася такая жамчужына. Шчасліўчык твой князь. Такі скарб сам прыплыў да яго! Ці сніў ён хоць, крываногі лыцар?

Марфа моцна аперазала дачку персідскай хусткай.

— Сама адрэжу твой паганы язык.

— Табе ж будзе горш, мамачка. Памрэш ад суму, калі я буду маўчаць.

Алена смяялася, як заўсёды весялілі спрэчкі маці і дачкі, бо разумела, што Ксюта іграе, забаўляецца.

Алена, хітрунная, знарок затрымалася. Яе чакалі. Этыкет таго чаму не патрабаваў яшчэ абавязковага абвяшчэння гасцей. Але «архітэктар шлюбу» віленскі Кашталян Ян Забжэзінскі, папярэджаны дварэцкім, гучна абвясціў:

— Вялікая князёўна маскоўская Алена.

Перад ёй шырока адчынілі дзверы. Алена ў суправаджэнні князя Рапалоўскага не ўвайшла — выплыла ва ўрачыстую залу.

Госці анямелі. Нават жанчыны, якія заўжды крытычна і скептычна ацэньваюць кожную новую сястру сваю. Але гэты раз ніводная з іх не ўбачыла ў князёўне хоць якой-небудзь заганы. Поўная дасканаласць. Пекната. Мужчыны аслеплі, што ад яскравага сонца, ад захаплення разявілі раты.

Рапалоўскі адваліў убок. Вялікага князя ў зале яшчэ не было. І Алена на нейкі міг засталася адна перад незнаёмымі людзьмі і бадай разгубілася. Але выручыў князь Астрожскі, які сустракаў яе ў Віцебску. Падляцеў што на крылах, галантна пакланіўся.

— Князёўна, дазволь пазнаёміць цябе з квятамі Вялікага княства — яснавяльможнымі панямі.

Прысутнічаў у зале адзін чалавек, які адчуў да князёўны нядобрыя пачуцці — бадай жа варожасць.

Біскуп віленскі Войцэх Табар. Ён стаяў у пурпуровай сутане, нервова перабіраў пальцамі ружанец. Абураў яго не ганаровы прыём схізматычкі. Зусім іншае ўсхвалявала. Грэшная пажадлівасць. Закон каталіцкай царквы забараняў яму ўступаць у шлюб. Не жыў біскуп нявіннікам. Але ж то нейкія вахмістрыні, халопкі... А яму так захацелася прытуліць вось такую красуню-князёўну і мець яе за гаспадыню. І каб дзяцей нарадзіла яму. Добра быць служкай Бога, але зямныя жаданні нярэдка рабілі біскупу ночы бяссоннымі.

Астрожскі першымі прадстаўляў жонак паноў рады.

— Княгіня Ганна Мажайская.

«О, Мажайскія ажно тут, у Літве», — падумала Алена. І не здзівілася, што княгіня загаварыла з ёй амаль жа маскоўскаю мовою, толькі акала ўжо.

— Пані Хрысціна Уладычка.

— Пані Стэфанія Гаштольдава.

Здзівіла Алену іншае: што ўсе гаварылі па-руску — і Гаштольдава, і Глябовіч. Не ведала яна яшчэ, што літоўская — жэмайцкая і аўкштайцкая мовы панавалі сярод сялян, многія з аўкштайтаў яшчэ былі язычнікамі, не зналі Бібліі і не мелі пісьменнасці, таму нават тыя з літоўскіх дваран, хто ведаў мову свайго народа, пагарджаў ёю: мужыцкая!

Толькі адна пані адказала па-польску.

Алене спадабалася, што кабеты паводзілі сябе больш вольна, чым паводзілі б сябе на такім зборы, калі б ён раптам і адбыўся, княгіні і баярыні маскоўскага двара.

У мужчынскім радзе першы стаяў Войцэх Табар. Яго Астрожскі не назваў, але пачціва пацалаваў руку. Алена, даведаўшыся яшчэ ў Віцебску, што Канстанцін Астрожскі — праваслаўны, здзівілася і нават трохі абурылася.

Біскуп, каб не прымушаць князёўну нізка схіляцца, ласкава падняў сваю руку да ўзроўню яе падбародка. Ды Алена і не падумала цалаваць руку рымскаму святару. Ніякая сіла не прымусіла б яе зрабіць гэта. А каб у парыве ці па неразуменні і зрабіла, то пасля каялася б. Алена не зрабіла нават прысядання, якое рабілі прадстаўленыя дамы перад ёй і якому настаўнік-італьянец вучыў яе. Яна прывітала біскупа лёгкім кіўком галавы і ўсмешкай, якая скарыла б любога мужчыну. Але Войцэх Табар перастаў у гэты міг быць мужчынам. Ён далучыў сябе да апосталаў. Лоб яго стаў чырваней за мантыю і шапачку. І ён захацеў прынізіць князёўну — паказаць яе невуцтва, схізматычнасць. Прачытаў першыя вершы з Евангелля ад Іаана па-лацінску:

— Упачатку было Слова, і слова было ў Бога, і Слова было Бог. Яно было напачатку ў Бога.

Чакаў, якой дурніцай будзе выглядаць гэтая маскоўская дзікунка, схізматычка і тупіца.

Але Алена бадай жа ўдзячна пасміхнулася святару і прачытала трэці і чацвёрты вершы па-грэчаску.

— Усё праз Яго пачало быць, і без Яго нішто не пачало быць, што пачало быць. У Ім было жыццё, і жыццё было святлом чалавекаў.

У біскупа белыя, што крэйдай напудраныя, бровы палезлі на лоб. Ён зразумеў, бо вучыў грэчаскую мову, але шмат што забыўся за доўгі час і не мог прадоўжыць чытання Чацвераевангелля па-грэчаску, ды і на латыні не адважыўся, не быў упэўнены, што ведае чарговы верш. А калі наблытае і яна зловіць яго на гэтым, то вялікі сорам будзе яму, першаму святару.

І ўсёмагутны служка Бога ўзненавідзеў — о, грэшны! — гэтую пекную паненку, якая праз дзень стане вялікай княгіняй.

Князь Рапалоўскі выставіў смаленую бочачку мёду, настоенага на травах.

Рускія стольнікі шчодра частавалі ім гаспадароў. Паны ўпадабалі напой, не ведаючы яго моцы, і большасць добра ап'янелі, хоць і мелі загартоўку.

Аляксандр любіў гулянкі і ўмеў выпіць, асабліва на паляванні. Натуральна, што світа не адставала ад свайго ўладара. Што-што, а выпіць любілі ўсе — і грэшнікі, і святыя.

Двое паноў пабіліся. Аляксандр загадаў зачыніць іх у лядоўню.

Алена, якая сядзела не побач з вялікім князем, а праз пару Рапалоўскіх, звонка засмяялася. Некаторыя пані, цверазейшыя, асудзілі яе: ніхто з іх не адважыўся б так смяяцца. І ніхто не здагадваўся, што гэты вясёлы дзіцячы смех не толькі не ўгнявіў князя, а наадварот, напоўніў яго яшчэ большым замілаваннем да нявесты; закаханасць п'яніла, што мёд. Ён не зводзіў з князёўны вачэй і, як хлапчук, не ведаў, якія знакі сваёй увагі падараваць ёй, якія словы сказаць, каб яны парадавалі яе, але не выдалі панам яго незвычайнага пачуцця.

Алена, разумніца, не прызналася, што яе насмяшылі не два дурні, якіх воіны павялі пад ручкі ў лядоўню. Рассмяшыў біскуп Табар, які вельмі ж імкнуўся прайсці па зале роўненька, але не мог — пятляў, што заяц, блытаўся нагамі ў сутане. Во каго трэба было весці пад рукі! Яе і раней, калі была малая, і пазней, калі стала вялікай княгіняй, смяшылі п'яныя папы. Лічыла, што грэх гэта — смяяцца над святарамі, над сваімі, праваслаўнымі, але стрымацца не магла. Пасмяяцца з каталіцкага біскупа не лічыла за грэх. Яна не піла мёду, але і яе палічылі пад хмелем, і смех яе заразіў іншых — і рускіх, і літоўцаў. Смяяліся ўсе, бо шчасліва смяяўся вялікі князь. Такі смех паноў гучаў хіба што на паляванні, дзе збіраліся адмысловыя брахуны.

4

На трэці дзень з раніцы пачаліся вялікія клопаты з двух бакоў. Мелася адбыцца галоўная падзея — вянчанне.

Вялікі князь хваляваўся, як малады жаніх. А тут яшчэ біскуп Войцэх Табар ускладняў вянчальную працэдуру. Прыйшоў у Верхні замак, дзе Аляксандр прымаў падначаленых і па справах дзяржаўных, і сваіх асабістых — вянчальных, якія ў той дзень былі вышэй за любыя ваенныя, бо вянчанне — гэта мір двух вялікіх дзяржаў.

Біскуп патрабаваў — наместнік папы дазваляў сабе гэта, часта бесцырымонна, — каб вялікі князь не дазволіў схізматыку чытаць малітву ў касцёле святога Станіслава.

Аляксандра перасмыкнула гэтае патрабаванне, як было ўжо неаднойчы. Але са служкай Бога і папы мусіў гаварыць пачціва.

— З епіскапам Макарыем я дамовіўся. Ён не будзе маліцца. Але яны прывезлі свайго папа, спаведніка князёўны. Той мае казліную ўпартасць, — даводзіў біскуп.

— Ваша свяшчэнства павінен зразумець яго. Маецца ўмова паміж маімі пасламі і вялікім князем Іванам. Ніхто з маскавітаў яе не парушыць. Іван галовы ім знясе.

— Князь Рапалоўскі смелы чалавек. Давайце пераканаем яго. Мне здалося, што з ім можна дамаўляцца.

Паклікалі Рапалоўскага. Але тут князь праявіў цвёрдую непахіснасць. Нават здзівіўся і абурыўся:

— Як можна, яснавяльможны вялікі князь? Ёсць твая дамоўленасць з маім гасударом.

— Няма ў грамаце запісу пра абрад вянчання, — біскуп усё вывучыў, усё ведаў.

— Хіба мала вуснай дамоўленасці? Вянчанне па праваслаўным абрадзе — галоўная ўмова гасудара ўсея Русі. Я маю яго наказ.

Твар біскупа наліўся крывёю, ён пырскаў слінай.

— Але няхай масквічы паважаюць законы рымскай царквы, як мы паважаем грэчаскія законы.

Дзе і калі біскуп праявіў павагу да схізматыкаў?

Рапалоўскі кінуў галоўны козыр:

— Такі наказ мае і князёўна. А яе вам не пераканаць. У яе — бацькаў характар, гэта я ведаю. Алена адмовіцца ад вянчання па рымскім абрадзе. Што будзе? Што будзе, вялікі князь?

Аляксандр збялеў.

Вайна будзе. Але нават вайна яго так не спалохала, як думка, што ён страціць такую жонку. Такое каханне! Яно яшчэ не расквітнела, ён не сарваў чароўную кветку... І ўсё рухне ад недарэчных законаў, ад таго, што католікі не могуць дамовіцца з праваслаўнымі. Дык у яго ж тры чвэрці княства — праваслаўныя. Продкі яго былі праваслаўныя. Бацька Казімір хрышчоны Андрэем. А

прадзед Вітаўт разы тры пераходзіў з праваслаўя ў каталіцызм і назад. Урэшце і сам ён не вельмі разумее ўсіх тайнаў двух галін хрысціянскай веры. І тыя і другія спавядаюць Бога-Айца, Бога-Сына і Бога-Святога Духа. Што ж іх раздзяляе?

І вялікі князь сказаў, здзівіўшы і расчараваўшы сваёй рашучасцю біскупа:

— Будзе так, як мы дамовіліся з вялікім князем Іванам. Як пажадае нявеста мая!

А тым часам у пакоях нявесты ішла дзейсная падрыхтоўка да вянчання. І сама Алена, і княгіня Ефрасіння Рапалоўская, баярыня Мар'я Русалка, і Сінкліцыкія Зіноўевіч, і Марфа, Ксенія, іншыя прыслужніцы лічылі неабходным, наколькі дазваляюць умовы, зрабіць усё гаручаму звычаю. Ніхто з іх не ведаў, што многія з дзеянняў — не з евангельскага пісання, а засталіся ў народзе ад язычніцтва. Але так адбываўся шлюб і ў князёў, і ў прасталюдзінаў, і парушэнне правілаў лічылася грахом, дрэннай прыкметай — не на шчасце маладым.

Княгіня Ефрасіння яшчэ ў Маскве была абвешчана пасаджонай маці. Баярыня Мар'я выконвала ролю свахі. За малодшую дружку была Ксенія, так пажадала Алена. З прыслугі выбралі свечнікаў, ліхтаршчыкаў.

Ад злога вока, варажбы і ўсялякага нядобрага чарадзейства ахоўваў вяселле ясельнічы — дварэцкі Зміцер Пешкаў.

Каб не здарылася ліха, сваха абышла з рабінаю ў руках, рабіну везлі з Масквы, спальню і ўсе пакоі, якія займала князёўна. У куткі спальні ўторкнулі стрэлы, на іх навешалі собаляў, ажно сорак штук. Столькі вешалі на княжацкіх вяселлях, на сялянскіх — па адным, а ў бедных часцей за ўсё вісела шкура лісы.

Над дзвярамі і над вокнамі прымацавалі праваслаўныя крыжы. Доўга вырашалі, дзе прывесіць крыж знадворку. Дзяўбці каменную сцяну? Няёмка. Прымацавалі на дзвярах.

Чалавек трыццаць прыслужнікаў унеслі пасаг князёўны. Ішлі ўрачыста. Наперадзе — сваха і ясельнічы з іконамі Спаса і Багародзіцы.

На ложак маладых належала палажыць снапы жытнёвай саломы. Але іх не прывезлі — ці забыліся, ці, можа, фурманы скармілі галодным коням. У літоўцаў салому не папрасілі: ці ведаюць тут такі звычай? На мулкі ложак князя-воіна палажылі сем пярынаў і падушкі, заслалі багатай шаўковай прасцінаю. На падушкі палажылі сабалiную шапку, а ў нагах — кажух. Паставілі ва ўзгалоўі іконы. Але Алена сказала, каб акрамя грэчаскіх абразоў паставілі і рымскую Багародзіцу, яе не было ў спальні, але вісела побач у бібліятэцы.

Святар Фама крывіўся, калі выразна, маляўніча напісаную італьянскім майстрам Матку Боску паставілі побач з іконай візантыйскай, старадаўняй, таму пабляклай.

Адзелі нявесту. Плацце — з персідскага алтабасу, вытканага сярэбранай ніткай, упрыгожанага ізумрудамі і жэмчугам.

Алена падчас гэтых цырымоній была вясёлая, нават трохі гумарыстычная, яе забаўляла незвычайная сур'ёзнасць княгіні, баярынь, прыслужніц. Але калі княгіня Ефрасіння і Ксюта расплялі ёй касу і ўсклалі на галоўку яе сімвал дзявоцтва — вянок і дзяўчаты заспявалі вясельную песню, князёўна расплакалася. Гэта ўсіх расчуліла, бо ведалі, што Алена скупая на слёзы. Лічылі: заплакала таму, што літоўцы парушылі абрад. Не накрыты сталы для передвянчальнага абеду. Не з'явіцца ў дом нявесты князь, бо яго гэта дом. Рапалоўскі ўступіў патрабаванням біскупа, што вялікі князь не будзе ў праваслаўнай царкве, а сустрэнуцца жаніх і нявеста ў касцёле святога Станіслава.

Княгіня Ефрасіння дакарала мужа за гэтую ўступку «нахабным літоўцам». Уступак было нямала. У Маскве вянчанні, асабліва княжацкія, адбываліся пасля вячэрні. Вялікі князь і біскуп назначылі пасярод дня.

Не было абеду, але ўсе паселі на лаўкі, як перад дарогай, і Фама прачытаў «Ойча наш».

Абрад працягвалі.

Сваха зняла з нявесты вянок, памачыла грэбень у чарку з мёдам, расчасала нявесту, скруціла ёй валасы і надзела кіку.

Пры гэтым Алена не плакала — пасміхалася. Знешнія праявы абраду раптам перавялі яе ў зусім іншы духоўны стан. Не было яшчэ вянчання, а яна адчула сябе сталай жанчынай, а такой сталасці не да твару слёзы.

— Блаславі Бог! — сказала пасаджоная маці.

Не было жаніховай свахі. Нявесту вялі баярыня Мар'я і дружка Ксенія. Селі ў адкрыты вазок, нявесту — на аксамітную падушку. Пад дугамі тройкі віхляліся лісіныя і воўчыя хвасты.

Ехаць да царквы Прачыстай Багародзіцы было трэць вярсты. На ўсім шляху ад замка да царквы Рапалоўскі выстраіў шарэнгі сваіх воінаў (гэтую акалічнасць Войцэх Табар прамаргаў). Мэтаю была не толькі ахова — праваслаўны абрад: каб дарогу не перайшоў ні паганы чалавек, ні кот, ні свіння, ні дзікі звер.

Наперадзе поезда вазкоў свечнікі і ліхтаршчыкі неслі запаленыя свечкі.

У царкве было паўнютка народу. Ішла абедня. Але перад вянчальнай працэсіяй расступіліся людзі. Князёўна прайшла наперад, пакланілася архімандрыту Макарыю. Убачыла, што збоку ад аналою стаіць група служкаў вялікага князя. І хоць стаялі яны паважліва і пачціва, хрысціліся па-праваслаўнаму, княгіні Рапалоўскай і Фаме іх прысутнасць не падабалася. Алена ж прыветліва ўсміхнулася князю Канстанціну Астрожскаму.

Старэнькі архімандрыт, які за сваё доўгае святарскае служэнне абвянчаў тысячы маладых, разгубіўся: упершыню вянчае без жаніха. Фама расказаў яму, чаму вучылі мітрапаліт Маскоўскі і вялікі князь Іван. Але стары ад разгубленасці забыўся. І глухаваты да таго ж быў. Прыйшлося Фаме на поўны голас падказваць яму. Літоўцы пасміхаліся, рускіх гэта абурала. Усіх, акрамя нявесты. Алена таксама паблажліва пасміхалася, бо ўбачыла, што яе настрой падбадзёрвае старога святара.

Макарый нагадаў словы апостала Паўла:

— Пакіне чалавек айца свайго і маці...

Словы гэтыя моцна кранулі Алену, воблака ўпала на яе твар.

— ...і прылепіцца да жонкі сваёй, і сальюцца два ў плоць адзіну. Тайна сія вялікая ёсць: аз жа галаголю ва Хрыста і ва Цэркаў.

Каму словы і царкоўнае настаўленне маладым, каб хадзілі часта ў царкву, слухалі сваіх духоўнікаў, захоўвалі пасты і святы, падавалі міласціну?

Жаніха няма, да таго ж хадзіць ён будзе да іншай царквы, мець іншых духоўнікаў... У архімандрыта хапіла розуму прапусціць у настаўленні наказ мужу, як ён павінен вучыць сваю жонку. Не для вялікага князя гэтае настаўленне! Не было пярсцёнкаў. Віно з чашы адпіла адна нявеста.

Марфу да слёз расхвалявала і расчуліла такое вянчанне малочнай дачкі. А ўсмешкі Аленіны спалохалі: ці разумее яна, колькі падае граху на яе нявінную галоўку, асядзе ў яе анёльскай душы?

Да касцёла ахоўвалі дарогу не толькі рускія воіны, але і літоўскія. Католікі баяліся паганага вока і чорнай кошкі гэтак жа, як і праваслаўныя.

Вялікі князь сустрэў нявесту перад уваходам у касцёл. У вянчальным убранні Алена асляпіла яго: прыгажосць яе... з якой мадоннай яе параўнаць? У Аляксандра ажно закружылася галава, заняло дыханне, спачатку сэрца як замерла, а пасля кінулася наўскач. Забыўся, як трэба паводзіць сябе, рука сама пацягнулася, каб узяць яе руку. Узяў і — што на неба ўзнёсся. Упершыню прашаптаў:

— Гэля.

Алена прыгадала, як спытала ў яе цікаўная Ксенія: «Як жа ты будзеш называць свайго князя? Не вялікім жа?» Прапаноўвала памяншальныя імёны ад Аляксандра, якія бытавалі ў народзе. Алена адказала: «А я спытаю, як яго называла маці».

А тут раптам сама прыдумала зусім не рускае імя і гэтак жа інтымна прашаптала:

— Алекс.

Вялікі князь ажно ўстрапянуўся: гэтак яго называла маці.

Касцёл сустрэў іх велічальным спевам дзіцячага хору. Гэта кранула Алену, хоць сэнсу малітоўнага гімна яна не магла зразумець.

Непрыязь біскупа да нявесты, прысутнасць схізматыкаў у святым касцёле перашкодзілі Табару весці абрад вянчання з належнай урачыстасцю. Біскуп як бы спяшаўся, калі чытаў малітву і казаў настаўленне.

Княгіня Рапалоўская трымала над нявестай вянец. Святар Фама прачытаў малітву на старaславянскай мове. Макарый так і не адважыўся зрабіць гэта і пакаянне заманьваў грэх свой — што баіцца ён уладара рымскай царквы, які неаднойчы пагражаў яму дамагчыся праз папу, каб візантыйскі патрыярх пазбавіў Макарыя сану, што, маўляў, парушае ён каноны грэчаскай царквы. А ў старога, адарванага ад свяшчэннага кліру, сапраўды шмат што пабблыталася ў галаве. Можа, праўда ён робіць нешта не так, не па канону?

— Так павінны мужы любіць сваіх жонак, як сваё цела: хто любіць сваю жонку, той любіць самога сябе. Бо ніхто ніколі не меў ненавісці да сваёй плоці.

Біскуп сказаў словы апостала Паўла лацінскай мовай, якую мала хто зразумеў. Па-руску разумелі бадай усе, акрамя хіба жэмайтаў, і Фаму слухалі з вялікай увагай.

Табара гэта абурыла, і ён спрабаваў перапыніць рускага папа, які гаварыў даўжэй, чым ён, але Фама быў непахісны. Гэта спрэчка каля алтара спалохала князя Рапалоўскага — сапсуюць дурні абедню! І ўзлавала Аляксандра. Хітры Табар адразу гэта ўчуў і перайшоў да галоўнага:

— Вялікі князь Аляксандр, ці жадаеш ты ўзяць у жонкі князёўну Алену?

— Вельмі жадаю.

Гэтае «вельмі» ўзрадавала рускіх і выклікала ўсмешкі, розныя па сэнсу, у літоўскай шляхты.

Алена адказала, як вучыў бацька:

— Любы мне вялікі князь, і не пакіну яго да канца дзён маіх. У радасці і бядзе буду з ім. Але трымаць мне грэчаскі закон, а яму мяне да рымскага закону не прымушаць.

Біскупа што ліха перакруціла, ажно закалола ў жываце. Але ён стрымаўся і прадоўжыў абрад.

— Пацалуйцеся, дзеці мае.

Яны наблізіліся адно да аднаго, узяліся за рукі. Пацалаваліся не адразу. Нейкі момант глядзелі ў вочы адно аднаму. І Алена ўбачыла ў вачах вялікага князя тое, чаму яна, можа, і назвы яшчэ не ведала, — незвычайную любасць, ласкавасць. Гэта яе радасна кранула, ад удзячнасці яму, ад замілавання ім, мужам сваім, у яе ажно вочы завалакло блакітным туманам. Яна першая хіснулася да яго, і вусны яе, шчокі прыемна і нязвыкла ўзбуджальна заказыталі яго вусы і барада. Але і праз вусы ён знайшоў сваімі вуснамі яе вусны і... ажно задыхнуўся. О, якія салодкія вусны яе! Ад віна? Не, не ад віна, віно яна выцерла хусцінкай. Ад пачуцця яго, ад таго, што такой слодычы ён яшчэ не піў ні разу ў жыцці.

5

Пасля вясельнага абеду вялікая княгіня вярнулася ў пакоі адна. Нянька, якая перажывала больш за ўсіх за захаванне абраду, ажно спалохалася. Маладыя павінны былі з'явіцца да шлюбнага ложка разам, Марфа і Ксюта даўно паслалі пасцель, грэлі яе гарачымі каменнямі і сабалямі.

Марфа так разгублена глядзела на Алену, што тая засмяялася, хоць увогуле ёй было не да смеху. Пасля вянчання, у час абеду, дзе ім крычалі «Горка!», спачатку рускія, пасля і літоўцы, усім спадабалася, як цалуюцца вялікі князь і вялікая княгіня, Алене было весела. А ў пакоях зноў апанаваў страх. Да дрыжыкаў.

Яна рыхтавала сябе ў ложак. Нянька, як усе васемнаццаць гадоў, мыла яе. Мыльня Марфе не падабалася, не тое, што княжацкая лазня ў Маскве, холадна тут. Маладую калаціла, зуб на зуб не трапляў. Марфа разумела, што не толькі ад холаду. Любавалася целам сваёй выхаванкі. У бібліятэцы князя стаяла статуя голай жанчыны — сарамоцце якое. Марфа, праходзячы міма, не глядзела ў той бок і хрысцілася. Але прызнавала: вельмі прыгожая дзяўчына. Стаяла копія Венеры. Гледзячы на аголеную Алену, Марфа падумала, што дачка яе малочная прыгажэйшая за тую, мармуровую. Няньцы хацелася і смяяцца ад шчасця за Алену, і плакаць ад страху за яе, ад яе боязі.

Абціраючы княгіню ручніком, упала перад ёй на калені, перахрысціла жывот яе і пацалавала лабок. Алена ажно спалохалася.

— Ой, няня!

— Аленачка, дзіцятка маё, папрасі князя, каб у другі раз ён цябе не чапаў. І дзве ночы каб пасля не чапаў.

Чаму — маладая не вельмі цяміла, хоць нешта, глуха і цьмяна, казала ёй пра гэта і маці. Але гэта такое запаветнае і саромнае, што не спытала яна ні ў нянькі, ні ў маці — чаму?

Марфа хутка адзела маладую ў цёплае, але яе ўсё роўна калаціла. Ксенія, якая памагала Алене легчы ў ложак, на пярыны і пад пярыну, устрывожылася:

— Ці не захварэла ты, княгіня, што так калоцішся?

Марфа ведала «хваробу» маладой у чаканні першай шлюбнай ночы.

Аляксандр з'явіўся знянацку праз патаемны ход у бібліятэцы. Марфа і Ксенія шмыгнулі ад ложка, што мышы.

Вялікі князь задзьмуў свечкі і раздзяваўся ў цемры. Алена калацілася, слухаючы яго рухі, дыханне. Але як толькі ён лёг побач і, далікатны, пачаў асцярожна і ласкава цалаваць яе вусны, шыю, грудзі, яна адразу ж супакоілася, адказала яму пацалункамі.

Вялікі князь выканаў жончыну просьбу: не чапаў яе больш у тую ноч і не прыходзіў дзве ночы. Але якая салодкая была іх трэцяя ноч — сапраўды мядовая! І ён, і яна адчулі на поўную моц, што такое шлюбная блізкасць, калі можна аддацца адно аднаму без сарамлівасці, без умоўнасці, і можна піць з кубка шчасця ўдосталь — колькі душа і цела пажадаюць. З кожным пацалункам, з кожным пагружэннем у асалоду расло іх пачуццё прыналежнасці адно аднаму, неразрыўнасці душэўнай і фізічнай. Расло і мацавалася каханне.

— Анёл мой паўночны, — шаптаў Аляксандр.

— Уладар мой! Алекс, любы, — адказвала Алена.

Упершыню вялікі князь літоўскі праспаў раніцу: меў жа звычай паднімацца з пеўнямі і да снедання займацца дзяржаўнымі справамі.

Падначаленыя яго, якія рана з'явіліся з дакладамі, з разуменнем пасміхаліся, жартаваць прылюдна не адважваліся, толькі адзін на адзін адпускалі жарты пра маладога.

Пазней звычайнага прыйшоў Фама, каб суправаджаць вялікую княгіню ў царкву.

Алена ўпершыню апусціла вочы перад сваім спаведнікам і залілася чырванню.

— Мне нездаровіцца, ойча, я не магу пайсці ў царкву. Няхай даруе мне Збавіцель наш. Я памалюся дома.

Фама схаваў усмешку, яго пацешыла Аленіна святасць. За многія гады царкоўнай службы сотні разоў бачыў ён, як маладыя баярыні ў

нядзелю і на святы баяліся зайсці ў божы храм і маліліся перад царквою. Людзі разумелі прычыну: грашыла ўначы раба божая. Маладыя мужчыны кпілі з такіх грэшніц.

## Раздзел трэці

## Вера, любоў і... улада

I

Скончылася двухтыднёвае вясельнае баляванне. Абеды давалі вялікі князь, вялікая княгіня, князь Рапалоўскі, Кашталян віленскі, ваявода Троцкі, паны рады.

Надышлі будні.

Аднойчы Аляксандр сказаў жонцы:

— Гэля, тваім канцлерам я назначаю Івана Сапегу. Ён адзін са старэйшых паноў рады. Адзін з мудрэйшых. Праваслаўны. Няхай мой шаноўны цесць вялікі князь Іван не думае, што намераны акружыць цябе католікамі.

— Дзякую, Алекс. Мудрэйшы з мудрых ты. Я напішу бацьку, што мне з табою вельмі хораша. І маці напішу, — і ўзнагародзіла мужа пацалункамі, якія п'янілі яго, што моцнае віно.

Аляксандр не маніў. Уладарам заўсёды здаецца, што ўсё разумнае ідзе ад іх, ад іх волі і жадання, нават калі яны не маюць да гэтага дачынення. У сапраўднасці Сапегу назначылі на гэтую пачэсную пасаду па настойлівай парадзе Войцэха Табара і не без старання самога Сапегі. Ён сапраўды быў адзін са старэйшых — пад пяцьдзесят гадоў і адзін... не з мудрэйшых — з хітрэйшых паноў. Ён даўно ўжо не хадзіў у баявыя паходы, забыўся, як трымаць меч, але гэтак жа даўно трымаўся на першых ролях пры двары і караля польскага, і вялікага князя літоўскага — пры двары Аляксандра.

Біскуп Табар прыгарнуў гэтага схізматыка як нікога з праваслаўных: Сапега выдаваў сябе прыхільнікам Фларэнційскага сабора, які абвясціў аб'яднанне грэчаскай і рымскай цэркваў. Унія не атрымалася. Грэцыя, Балгарыя, Сербія і асабліва руская царква рашуча адмовілі яе. А ў Вялікім княстве яна знайшла спрыяльную глебу, бо княства гэтае было на чвэрць літоўска-жамойцкае, на тры чвэрці — рускае, бо ўключала цяперашнюю Беларусь, значную частку Украіны, заходнія рускія землі. Каб утрымаць праваслаўных пад уладай папы, каталіцкі клір, каталіцка-польскае панства імкнуліся любым чынам павярнуць схізматыкаў да рымскай веры.

Іван Сапега напачатку не думаў пра гэтую сваю місію, якая пазней стане галоўнай; ён, як кожны хітры уніят, шукаў зацішнае і выгоднае месца. Яму здавалася, што ён будзе забаўляць маладзенькую княгіню, па-сутнасці дзіця яшчэ, расказваць ёй казкі, хітрыя казкі, што ён умеў і на што разлічваў Табар.

Але першая ж дзелавая сустрэча ашаламіла «мудрага» Сапегу.

Вялікая княгіня не казак пажадала, а папрасіла справаздачы канцлера аб адносінах Вялікага княства з еўрапейскімі дзяржавамі, блізкімі і далёкімі. І вельмі здзівіла маршалка веданнем геаграфіі Еўропы, краін, імёнаў каралёў, князёў, герцагаў. Безумоўна, шмат чаго не ведала, напрыклад, магістраў нямецкіх крыжацкіх ордэнаў, але ў гэтых магістрах сам Сапега блытаўся. Алена Іванаўна не саромелася прызнацца ў тым, чаго не ведае і, жадаючы ведаць, ставіла старога сібарыта і гультая ў кут. Канцлер пацеў і соп, што загнаны конь.

«Ну і цаца! Хто яе вучыў?» — нават ён, праваслаўны, лічыў Маскву мядзведжай сталіцай, краем зямлі, а маскавітаў... ну, калі не дзікунамі, то азіятамі, напэўна.

Мусіў папрасіць:

— Няхай вялікая княгіня скажа, што яе можа зацікавіць на наступным уроку.

Хацеў падкрэсліць, што яна ўсё ж вучаніца, а ён настаўнік. Алена Іванаўна нібыта прапусціла міма вушэй, аднак зразумела і не забылася. Адказала не адразу — на развітанне:

— Наступны ўрок мы прысвяцім Вялікаму княству — яго землям, людзям, князям, якія валодаюць вотчынамі... Законам княства. Слаўным продкам вялікага князя Аляксандра. Продкам маіх дзяцей.

— Адзін урок? — пасміхнуўся Сапега.

— Не. Гэта вучоба на ўсё жыццё.

— Вялікая княгіня! Я захапляюся табой!

— Дзякую, мой канцлер. Я — твая вучаніца. І як вучаніца прашу: дайце мне добрага настаўніка польскай мовы.

— Тваёй настаўніцай будзе першая княгіня Заслаўская — Зося.

— Яна каталічка?

— Не. Як і я, яна праваслаўная. Але яна доўга жыла ў Кракаве і дасканала валодае польскай мовай.

— Мой канцлер, я перадумала. Заўтра раскажы мне пра Кракаў. Пан быў там?

— Неаднойчы.

— Пра Кракаў... І пра маіх сваякоў. Пра свякроў маю, маці-каралеву Эльжбету. Пра дзевераў маіх — каралёў польскага, чэшскага, кардынала Фрэдэрыка...

Зусім даканала канцлера яшчэ адной нечаканай просьбай:

— І знайдзі мне добрага настаўніка музыкі. Муж мой, вялікі князь, любіць музыку, песні. І я люблю. У Маскве мяне трохі вучылі. Але царкоўным песнаспевам. А я хачу іграць на лютні.

Сапега ішоў ад вялікай княгіні і шкроб патыліцу. Сказаў, як казалі мужыкі ў яго маёнтку, адначасова з пахвалой і асуджэннем:

— Ну і баба!

Канцлер сказаў вялікаму князю аб зацікаўленасці яго маладой жонкі дзяржаўнымі справамі. Аляксандра гэта не здзівіла. Чуў ён ад яе гэтую зацікаўленасць. Алена неаднойчы ўжо пасля пяшчот пачынала сур'ёзныя размовы. Але ён усё яшчэ не мог задаволіць невычэрпную прагу кахання і ў адказ абсыпаў яе пацалункамі. Лічыў, што гэта чыста жаночае жаданне ведаць пра ўсё, і ўвогуле, як большасць мужчын таго часу, быў пераканаены, што не жаночая справа — высокая палітыка, хоць добра ведаў, што польскія каралевы іграюць ледзьве не першую скрыпку ў кіраванні дзяржавай, ды нярэдка і над кардыналамі бяруць уладу. Самалюбіваму вялікаму князю не хацелася, каб жонка дыктавала яму. Вялікі князь уяўляў, колькі праблем можа ўзнікнуць, калі яна заўпарціцца і не прыме рымскай веры. Але разам з тым яму падабалася, што Алена праваслаўная; гэта не дазволіць ёй умешвацца ў справы кліру, інакш яна магла б ускладніць яго і без таго складаныя адносіны з біскупам. Аляксандр не прызнаваўся сам сабе, не толькі каму іншаму, у тым, што ўпотай баіцца літоўскага намесніка папы. Як і яго продкі, вялікія князі, ён марыў аб каралеўскай кароне і аб тым, каб княства стала каралеўствам.

Пасля размовы з канцлерам Аляксандр упершыню гутарыў з жонкай аб дзяржаўных справах — у ложку і ў час снедання.

— Маці мая і браты, кароль і кардынал, запрашаюць нас прыехаць у Кракаў.

— Паедзем? — Алене хацелася ездзіць, каб усё ўбачыць, па характары яна была падарожніца, а шлях з Масквы ў Вільню, які так страшыў, цяпер уяўляўся дзівоснай казкай.

— Не, цяпер не паедзем, пакуль...

Хацеў сказаць: пакуль у Вільні дзве тысячы рускіх воінаў. Але асекся. Размовы пра рускіх не пазбегчы, але Аляксандр баяўся, што гэта расхвалюе Алену і сапсуе іх адносіны, а яму хацелася, каб і хмурынка не праплыла паміж імі, ён гэтак асцерагаў шчасце сваё, вось такую блізкасць, фізічную і душэўную, і вось такое разуменне, якое ўсталявалася паміж імі.

— Пакуль — што?

— Пакуль Ян Альбрэхт не перастане гаварыць са мною як з малодшым, з васалам сваім. Ён хоча аднаўлення уніі Польшчы і Вялікага княства. Аднавіць парадак Крэўскай і Гарадзельскай уній. Але сто гадоў назад Вялікае княства было яшчэ слабой дзяржавай. Цяпер яно ў чатыры разы большае па плошчы і насельніцтву за Польшчу. Паны рады выказалі гэта яшчэ бадай жа паўстагоддзя назад. Мой бацька вялікі князь літоўскі і рускі быў каралём Польшчы, але на Пятркоўскім, Люблінскім соймах літоўцы адмовіліся ад новай уніі і нават прасілі Казіміра адмовіцца ад польскай кароны. Я казаў ужо Яну Альбрэхту, што буду трымацца рашэння Люблінскага сойма. Я скажу больш, Гэля. Мне не падабаецца і стаўленне да нас Рыма. Сто гадоў назад літоўскія паны абвясцілі Вітаўта каралём Літвы і Русі. Трыццаць гадоў Рым маўчаў. Нарэшце папа Мартын забараніў Вітаўту каранавацца. Мой анёл, ты павінна ведаць, што і Польшча і святы прастол баяцца з'яўлення ў Еўропе магутнага каралеўства, большага за Рымскую імперыю. Даруй мне, калі я кажу не так.

Алена, прагная да любых ведаў, слухала мужаву развагу аб блізкім і далёкім, аб сённяшнім каралі польскім і далёкіх продках — Вітаўце, Казіміры — як казку.

Алена сказала:

— Уладар мой, давай будзем жыць па евангельскім запавеце: не забі. Які гэта грэх — забіваць людзей. Ці можаш ты не ваяваць? О, каб ты здолеў гэта зрабіць, ты стаў бы святым! З кім табе ваяваць? У Маскве — наш бацька. У Польшчы — твой брат. З Ордэнам у цябе мір.

Аляксандр пасміхнуўся ў талерку, з якой еў смажаную цяцерку. Любая яго жонка! У яе сапраўды святыя памкненні і жаданні, ён разумее іх. Але яна наіўнае дзіця яшчэ і не ведае, што ў гэтым суровым свеце ніводзін князь, кароль не можа жыць не ваюючы; калі ён не нападае, то абавязкова знойдуцца суседзі, якім захочацца адхапіць кавалак яго зямель, яго багацця. Самыя распаўсюджаныя грахі чалавечыя — зайздрасць і сквапнасць.

— Анёл мой, я помню запавет Майсееў: «Не пажадай дома блізкага твайго; не пажадай жонкі блізкага твайго, ні раба яго, ні рабыні яго, ні вала яго, ні асла яго, нічога, што ў блізкага твайго». Блізкага! Але ці блізкі мне Менглі-Гірэй, які пакланяецца Алаху? Вялікі князь маскоўскі, бацька наш, у дамове абяцаў заклікаць свайго саюзніка не чыніць нам зла. І гаспадара малдаўскага Стафана. Але і той і той робяць спусташальныя набегі на нашы паўднёвыя землі. Я не хачу ваяваць. Але я буду абараняць зямлю, якую сабралі мае продкі. Ніхто не павінен пасягаць на Вялікае княства Літоўскае...

— І Рускае, — дадала Алена і ўздыхнула.

— І Жамойцкае. Вялікая княгіня! Звыкайся з думкай, што ваяваць нам прыйдзецца.

— Божа мой! Якія мы, людзі! Ну, няхай тыя, хто не прыйшоў яшчэ да Хрыста. Яны неразумныя. Але ж нас вучыць Сын Божы — Ісус. А мы нічому не навучыліся. І не хочам навучыцца. Хрысціяне, мы гатовы грызці адзін аднаго толькі за тое, што па-рознаму тлумачым апостальскае вучэнне аб богаслужэнні.

— Ты разумная, Гэля. Але навошта нам з табой, каго Бог злучыў навечна целам і душой, трымацца розных законаў? Іх даў не збавіцель наш. Саборы, папы, патрыярхі разышліся ў разуменні апостальскага вучэння, выпрацавалі адрозныя царкоўныя каноны. Ці не ўсё роўна, ад каго сыходзіць Святы Дух?

Алена сцялася, быццам муж замахнуўся на яе. Ад вянчання ён ні слова не сказаў аб іх веры. Вера, Надзея і Любоў у яго зліліся ў адно — у каханне да сваёй Богам падоранай вялікай княгіні, найпрыгажэйшай з жанчын, якая дорыць яму найвышэйшую радасць. На ліха ж гэтыя размовы пра справы дзяржаўныя, царкоўныя?

У Алены зазвінеў голас, узняўся да ўрачыста-спавядальнай ноты:

— Вялікі князь, уладар мой! Я цалавала крыж у святым храме перад бацькам, маці, мітрапалітам, што ніколі не адступлю ад грэчаскага закону! — І працягвала зусім па-жаночаму, іншым голасам — ласкавым, пакорлівым: — Не прымушай мяне, Алекс.

Вялікага князя гэта расчуліла. Ён выцер сурвэткай губы, пацягнуўся да жонкі, узяў яе ручку, прыціснуў да вуснаў, шэптам выдыхнуў:

— Гэля, любая мая, я не цалаваў крыж, але я кляўся ў грамаце, што ніколі не буду прымушаць цябе да змены веры. І я не парушу сваёй клятвы. Ні да чаго я не прымушу цябе, каханая мая, калі ты гэтага не пажадаеш. Не я твой уладар, ты — мая ўладарка.

2

Алену бянтэжылі змены ў адносінах блізкіх людзей да яе. Была вялікай князёўнай — і ўсе вакол паводзілі сябе проста і натуральна. Стала вялікай княгіняй — і тыя ж людзі ў адзін дзень змяніліся. Але ці ў лепшы бок? Ці захавалася ў іх ранейшая шчырасць? Во што турбавала Алену Іванаўну.

Княгіня Ефрасіння Рапалоўская ў дарозе паводзіла сябе апякункай, гаспадыняй, лезла і ў побыт, і ў душу князёўны. Наладжвала амаль жа допыт, настаўляла, вучыла. Нярэдка неразумна, а часам і непрыстойна жартавала, ад чаго Алена чырванела. А тут раптам — як

не зламаецца ад паклонаў. Рабіць ёй няма чаго, вучыць вялікую княгіню не адважваецца, ды і не часта яе можна захапіць адну — доўгія зімовыя вечары праводзіць з мужам. Разам з Аленай можна пабыць, калі яна аглядае Вільню, але тады вакол яе завіхаецца іншая патронка — Зося Заслаўская-Радзівілава, саперніца Рапалоўскай. Ды і ўвогуле літоўскія пані нахабна адцясняюць рускіх. Не любіла княгіня Ефрасіння гэтых паходаў; маладая каза Алена так набівала ёй, адвучанай ад хады, ногі, што ў яе, як у халопкі, з'явіліся мазалі. Падабалася хіба адно — калі Алена заходзіла ў царкву: як круціліся ў такім выпадку каталічкі, адны ішлі за вялікай княгіняй, другія тупалі на марозе, на ветры, пад мяцеліцай. А стаяць ім прыходзілася доўгі час. Алена не толькі малілася, яна гутарыла з праваслаўнымі святарамі, выпытвала іх клопаты, патрэбы. І абяцала памагаць. І памагала — з свайго пасагу, з таго золата, серабра, жэмчугу, што прыслаў з ёй бацька. Грэчаскі клір маліўся за сваю дабрадзейку.

Аляксандр даведаўся аб шчодрых тратах жонкі і загадаў Івану Сапегу і казначэю выдаваць ёй грошы з дзяржаўнай казны. Гэта стала прычынай наракання на вялікага князя з боку каталіцкай часткі паноў рады. Не думаючы і не жадаючы, дабрынёй сваёй і вернасцю грэчаскаму закону Алена стварыла першыя дзяржаўныя цяжкасці свайму мужу.

Але адносіны Рапалоўскай ці баярыні Мар'і Русалкі, хоць у той, разумнейшай, гэта выяўлялася не так відавочна, бянтэжылі менш, чым змена ў Ксюціных адносінах. У маскоўскіх палатах гарэзлівае дзяўчо згіналася перад князёўнай толькі ў прысутнасці бацькі яе, якога баялася. А ў дзіцячых палатах і з Аленай, і з сёстрамі яе гуляла, як роўная, а з княжычам Васілём нават адважылася пацалавацца, вельмі ж любіла цалавацца; пра гэты свой пацалунак нікому не сказала, але Алена здагадалася па тым, як яны глядзелі адзін на аднаго, і пагразіла малодшаму брату, што скажа маці.

А тут, у Вільні, адразу пасля таго, як князёўна стала вялікай княгіняй, Ксенію як замянілі. Клала паклоны з любой нагоды. Ажно непрыемна. Алену гэта сапраўды-такі збянтэжыла, што яна нават не адразу наважылася пагаварыць з пакаёўкай.

— Што з табой, Ксюта?

— А што? — спалохалася дзяўчына.

— Што ты разбіваеш лоб аб ногі мае?

— Дык ты ж вялікая княгіня.

— Божа мой! Мы з табой выраслі. Маці твая і ты — самыя блізкія мне людзі тут.

— Ой, дзякую табе, уладарка мая. А я, дурная, пачала баяцца цябе.

— Чаму?

— Каб ты не адаслала мяне назад. Я не хачу ў Маскву. Мяне выдадуць там за халопа, які будзе вучыць жонку бізуном. А я ж умею чытаць...

О, яшчэ як яна ўмела чытаць! Лепш за многіх княскіх дзяцей.

Алена абняла дзяўчыну.

— Ксютка, я ніколі не адашлю цябе. Клянуся.

Хітрунння, прыкінулася малой дзяўчынкай:

— А калі я замуж захачу?

Вялікая княгіня шчыра пасмяялася, даўно так не смяялася. Муж яе добры, ласкавы, але немнагаслоўны і не ўмеў жартаваць. І канцлер Сапега. І першая пані — Радзівілава. Ніхто не ўмеў так смяшыць, як Ксюта.

Аднаму чалавеку Алена была бязмерна ўдзячная — няньцы сваёй Марфе, Ксюцінай маці: яна ні ў чым не змянілася — ні ў адносінах да яе, ні ў сваіх клопатах. Вялікая княгіня была для яе той жа дзяўчынкай, якую яна карміла малаком сваім, укладала спаць, гушкала, мыла, адзявала. Яна і тут слала пасцель. Смешна, але кранальна: сачыла, каб Алена добра паела, не зважала, што снедала яна з мужам сваім, абедала — з ім і іншымі панамі. О, гэтая матчына адданасць! Толькі душу, аброслую мохам, яна не кранае.

Княгіня Рапалоўская расплакалася перад Аленай, незвычайна здзівіўшы і збянтэжыўшы яе. Ефрасіння скардзілася на мужа. Загуляў князь.

У нямецкай палавіне Вільні, якую вялікая княгіня яшчэ не агледзела, яўрэі, што ехалі з Нямеччыны, паадчынялі шынкоў. Бедныя літоўцы не вельмі туды наведваліся. А рускія адкрылі гэтую спакусу ў першыя ж дні. І запоўнілі шынкі, даючы яўрэям рабіць багаты гешэфт. Прапівалі дарожныя грошы, каштоўнасці — хто якія меў, зброю, нават збрую; да коней справа даходзіць. На чым паедуць дадому?

Але не гэта ашаламіла Алену. Немцы і яўрэі купляюць у літоўскіх ваяводаў рабынь і адчыняюць саромныя дамы, гандлююць жывым таварам. Яна ведала пра гандаль палоннымі. Чула пра турэцкія гарэмы. Але ў Маскве такога і блізка не было. Алену закалаціла ад думкі, што прадаюцца разанскія, цвярскія, маскоўскія дзяўчаткі, дзеці... У хрысціянскай дзяржаве!

Яна ў той жа дзень выказала сваё абурэнне мужу. Вельмі хвалявалася, ажно твар пакрыўся чырвонымі плямамі, голас дрыжэў і зрываўся. Казала бадай афіцыйна — як пасол:

— Вялікі князь! Гэта ж ганьба, каб у нашай сталіцы існавалі такія... — Алена не ведала прыстойнай назвы гэтым непрыстойным установам, ды і ўвогуле ёй, па-дзявочаму цнатлівай, было сорамна гаварыць на гэтую тэму нават з мужам сваім, яна І перад княгіняй Ефрасінняй чырванела. — Божа мой! Да чаго дайшло! У хрысціянскай дзяржаве прадаюць хрысціянак. І абнясслаўліваюць іх. Хто? Іншаверцы — іудзеі. Грэх жа гэта вялікі! Алекс, грэх!

Аляксандра кранала, што Алена так гнеўна выказваецца пра парадак у яго дзяржаве — у іх дзяржаве. Але ў яго хапала розуму не пярэчыць — баяўся разладу. І ён замілавана, як бацька з дзіцяці, цешыўся, што жонка яго вось такая — не паслухмяная рабыня, памочніца, сапраўды вялікая княгіня.

— Мой уладар! І гэтых... гэтых, што разбэшчваюць наш народ, паганяць святую веру, трэба... трэба выгнаць прэч!

Вялікі князь стоена ўздыхнуў. Ён разумеў жончына абурэнне, ён ганарыўся ёй. Але як растлумачыць, што не ўсё так проста. За нямецкімі і яўрэйскімі купцамі стаіць магутная сіла — Ганзейскі саюз. Пошліны ад гандлю ганзейскіх купцоў, ад гандлю з імі даюць значны даход у казну. А інакш за што трымаць армію? За якія грошы вербаваць наймітаў — тых жа немцаў?

Упершыню паспрабаваў паведаць вялікай княгіні пра фінансавае становішча — даходы і расходы. Падумаў, што больш грунтоўна гэта зробіць Іван Сапега — даручыць яму. Але Алене здалося, што муж адводзіць размову ў бок ад галоўнага, і яна яшчэ больш расхвалявалася і была непахісная — бадай не прасіла ўжо, а патрабавала зачыніць саромныя дамы і выгнаць іх уладальнікаў.

Аляксандр не прызнаўся жонцы, што перад размовай з ёй ён вытрымаў нялёгкі націск паноў рады. Яны патрабавалі найхутчэй адаслаць назад у Маскву суправаджэнне вялікай княгіні. Дзве тысячы рускіх, па сутнасці, захапілі Вільню. Ад бяздзейнасці п'юць, гуляюць, крадуць, нават рабуюць.

Але вялікі князь баяўся, што такое рашэнне, няўзгодненае з цесцем, моцна расхвалюе Алену. Узнікне спрэчка, якой у мядовы месяц так не хацелася яму.

Але жончын расказ пра нямецкую палавіну, аб прытонах ён пачуў упершыню, што робіцца ў сталіцы — яму не дакладвалі; Аленіна абурэнне і яе патрабаванне «выгнаць гандляроў з храма» пераканалі князя, што рада мае рацыю: з маскоўскімі гасцямі трэба развітацца

як можна хутчэй. Але Алене ён пра гэта не сказаў. Даручыў канцлеру падрыхтаваць вялікую княгіню.

У шлюбнай дамове было цвёрда сказана пра веру, але нічога — пра адзенне. А якая маладая жанчына не модніца? Багатыя маскоўскія княжацкія ўборы. Але Алена адчувала сябе яркім паўлінам сярод літоўскіх паняў, бальныя плацці якіх І накідкі былі скроены і пашыты па італьянскіх узорах, па законах рэнесансу, — проста, але маляўніча, а галоўнае так, што не толькі не хавалі прыгажосці жаночага цела, як рускія ўборы, а наадварот, выяўлялі гэтую прыгажосць. Алене здалося, што такое ўбранне бліжэй да таго, якое было на Багародзіцы; яна, наіўная, верыла, што нехта намаляваў яе ці апісаў пры жыцці Святой Марыі.

Яна сказала пра тое, што ўбранне падабаецца ёй, першай пані — Зосі Радзівілавай. Тая, спрактыкаваная, навучаная пры двары польскага караля, адразу сцяміла што да чаго. Сказала вялікаму князю, канцлеру. І адразу ж з'явілася ў замку зграя краўчых. На наступным балі вялікая княгіня з'явілася ў плацці, якое захапіла блізкіх да заходу літоўцаў, ашаламіла рускіх. Яна не падумала, што бацьку яе новае ўбранне не спадабаецца.

Ездзілі на паляванне. Прадстаўленне ў бары захапіла Алену, хоць і шкада было аленяў, якіх забілі. Але ёй было холадна ў ногі. А Зося Радзівіла ва і некаторыя іншыя пані адзелі жаночае паляўнічае ўбранне, але пашытае па егерскай модзе: штаны, высокія боты, кароткі кажушок, расшыты золатам. Прыгожа, зручна, цёпла. І праз тыдзень вялікая княгіня з'явілася ў лесе ў такім жа адзенні і ехала не ў вазку, а ў сядле, па-мужчынску, верхавой яздзе яе навучылі ў маскоўскіх канюшнях — так яна пажадала, і бацька яе, вялікі князь Іван, дазволіў такую навуку; так ездзілі жонкі і дочкі ханаў, так ездзіла княгіня Вольга. Мітрапаліт не знайшоў у апостальскіх апокрыфах забароны садзіцца жанчыне на каня і асла.

Разумная, разважлівая і мужная Марфа — Алена ніколі не бачыла, каб нянька плакала, — са слязамі паскардзілася вялікай княгіні на дачку.

— Бессаромніца мая ўжо знюхалася тут з панічом, ахоўнікам. Пагражае выйсці за яго замуж.

— Дык чаму ты плачаш, нянька? Радуйся.

— Ён жа паніч — як наш баярын. І іхняй веры.

Алена адчула, што нянька і яе пэўным чынам дакарыла, але не пакрыўдзілася.

— Мой муж таксама католік.

— Што ты параўнала, Аленачка! Ты — вялікая княгіня. І ты цалавала крыж, што за веру сваю пойдзеш на касцёр. А яна, басурманка гэтая... Пытаюся: а калі ён патрабуе, каб ты перахрысцілася ў яго веру? Дык што ты думаеш Ксютка-малютка адказала? І перахрышчуся, кажа. Не ў татарскую ж гэта веру. У хрысціянскую. Ісусу Хрысту молімся і мы і яны.

Такі Ксюцін намер усхваляваў, але не абурыў. Больш кранула, амаль балюча, што раней Ксюта пра кожнае сваё дзявочае свавольства, захапленне, пра кожны пацалунак расказвала ёй, часам палохаючы, а ў большасці выпадкаў — смяшыла, бо расказвала заўсёды весела і, ведала Алена, нямала выдумляла таго, чаго ў сапраўднасці не было. Але гэта было забавай у аднастайным жыцці, і Алена любіла Ксюціны «казкі».

З'явілася Ксюта — і Алена ўпершыню выявіла перад ёй вялікасць і незадаволенасць.

Дзяўчына збялела.

— Ксенія, кажуць, ты ўжо ў Вільні паспела закахацца?

— Маці мая сказала?

— Не толькі маці. Людзі гавораць.

Ксенія сарамліва апусціла вочы і маўчала.

— Кахаеш?

— Кахаю.

— І ён табе зрабіў прапанову?

Ксенія ўпала на калені, стукнулася лбом аб дыван.

— Вялікая княгіня! Не загубі. Адпусці. Век буду Богу маліцца за цябе.

Алена скаланулася. «Адпусці...» Ніколі не падумала, што Ксенія яе рабыня і што пакахаць, і тым больш выйсці замуж, яна можа толькі з дазволу сваёй гаспадыні. А ўлада над чалавечай душой — гэта ж грэх! Калі іудзеі купілі дзяўчат тых і вымусілі іх прадаваць сваё цела — як гэта абурыла яе! А сама з хрысціянкі зрабіла рабыню. Не, не жадае яна такой улады над людзьмі, над душамі іх! Не будзе яна так уладарыць!

— Устань, Ксюта. Не валяйся каля маіх ног. Нядобра гэта.

Ксенія хутка падхапілася, узбадзёраная. Удзячна і ўлюбёна глядзела на сваю ўладарку.

— Пакажы свайго выбранніка. Я павінна ведаць яго.

Ксенія зноў апусцілася на калені.

— Не выдавай мяне, вялікая княгіня! Я сказала яму, што я — баярскага роду.

— Грэх маніць, Ксенія.

— Знаю, што грэх. Нядобра. Грэшная я. Каюся. Але ж... Калі так хочацца замуж!

Развесяліла гэта Алену.

— А мне не хацелася.

— Ой, вялікая княгіня! Хацелася. Як ты хвалявалася, калі ехалі. Бачыла я. І як вянчалася. І як прасвятлелася пасля...

Алена пачырванела: успомніла, як хораша ёй было і бывае з мужам.

— Пакажы мне яго, свайго рыцара.

Ксенія прыбегла пад вечар, задыханая, расчырванелая:

— Ён там, унізе. Але сюды яму не дазволена...

— Як імя?

— Міхаіл Струга.

Без усялякіх цырымоній: Алена спусцілася ўніз — этыкет перамагла жаночая цікаўнасць.

Каля лесвіцы стаяў воін у параднай форме ахоўніка, з павязкай малодшага камандзіра — разводзячага каравула. Выцягнуўся перад вялікай княгіняй. Яна спынілася перад ім, угледзелася. Прыгожы хлопчык. Што дзяўчына — з поўнымі ружовымі шчокамі, бялявы, курносы. Тыповы славянін. Спадабаўся Алене. Але ўбачыла, што хлапчына можа самлець ад яе праніклівага разглядання. Правяла далонню па яго гарачай шчацэ.

— Не пакрыўдзіш маю баярыню?

— Я... я... я...

Ксенія засмяялася.

— Вялікая княгіня! Ён не пакрыўдзіць. Ён добры.

— Ён добры, — згадзілася Алена, задаволеная сабой і ўзрадаваная за шчасце сваёй малочнай сястры. Яна яшчэ ў Маскве ў шаснаццаць гадоў паклялася перад візантыйскай іконай Багародзіцы, перад іконай, якую маці яе прывязла з Рыма і якую яна прывязла ў Вільню, што ўсё сваё жыццё прысвеціць служэнню дабру па евангельскіх запаветах. Алена не ўяўляла, як гэта цяжка выконваць.

Аляксандр не стаў гаварыць з жонкай аб выдварэнні рускіх з Вільні — баяўся, што зробіць ёй балюча, слёз яе баяўся, яму, па-юнацку закаханаму, слёзы яе азмрочылі б шчасце. Даручыў размову канцлеру вялікай княгіні, спадзеючыся на яго здольнасці. Іван Сапега быў добры дыпламат. Але ўведаўшы Алену, яе практычнасць, якая здзіўляла і захапляла яго, — у такім узросце такая мудрасць! — ён не стаў заходзіць здалёк, падсцілаць падушкі, каб было княгіні мякчэй.

— Вялікая княгіня! Размова непрыемная. Але я буду шчыры перад табой, як перад Багародзіцай. Паны рады заклапочаны доўгім

гасцяваннем суправаджэння твайго. Мы разумеем вялікага князя маскоўскага. Але ты зараз уладарка Вялікага княства Літоўскага...

— ... і Рускага, — Алена не першы раз рабіла гэтае дапаўненне; муж у размове з ёй або абыходзіў назву сваёй дзяржавы, або казаў поўны тытул. Біскупа Табара такая папраўка моцна абурыла, ён зрабіў з яе далёкія высновы: маўляў, Іван трэці хоча праз дачку зрабіць Вялікае княства Літоўскае княствам Рускім, каб хутчэй далучыць яго да Масковіі. У сваёй непрыязі да Алены служка божы даходзіў да абсурду.

Праваслаўны Сапега прыняў дапаўненне шчыра, з разуменнем, яшчэ раз ацаніўшы дзяржаўны розум маладой княгіні.

— Вялікая княгіня павінна зразумець, што дзве тысячы гасцей на месяц гэта ажно занадта. Дзяржава наша вялікая і магутная. Але казна наша не такая багатая. Калі вялікая княгіня цікавіцца, я прынясу табель нашых даходаў. І расходаў. У Вільні ўжо не хапае фуражу для коней. Мы мусілі частку воінаў размяшчаць у навакольных вёсках, нават у Троках. Але паступаюць скаргі, што рускія крадуць у тутэйшых...

— Крадуць, — згадзілася Алена, здзівіўшы канцлера і тут жа ашаламіўшы, — бо іх дрэнна кормяць. Паны крадуць у іх — адрываюць ад таго, што ім адпускаюць.

Хітры Сапега засмяяўся і пахваліў праніклівасць жанчыны:

— О! Вялікая княгіня добра ведае чалавечыя слабасці.

— Людзі не помняць евангельскі запавет: не ўкрадзь

— Людзі помняць, але не выконваюць. Грэх гэты можна даравацъ, калі чалавек галодны. Аднак госці нашы не галадаюць, калі нават і ў іх крадуць. Яны п'янствуюць і, прабач, вялікая княгіня, займаюцца распустай. Асабліва начальнікі — баяры.

Пра галоўнага военачальніка не сказаў. Але Алена не забывалася на скаргу княгіні Рапалоўскай. Не любіла яна, няхай даруе Бог, сваю былую апякунку. Але думка, што князь ад жонкі ходзіць у грэшныя дамы, напоўніла яе спагадай да Ефрасінні, жаласцю да яе і злосцю супраць камандзіра бацькавай дружыны.

— Я не хачу турбаваць вялікага князя, хапае ў яго клопатаў. Я хачу пачуць думку сваёй уладаркі.

Алена задумалася. Нялёгкую задачу ёй падкідваў хітры Сапега. Яна добра ўяўляла, што такое негасціннае выдварэнне рускіх не спадабаецца гасудару ўсея Русі. А гэта можа ўскладніць адносіны паміж цесцем і зяцем у самым пачатку яе замужжа. А яна так марыла і марыць, каб паміж імі ўсталяваліся вечны мір і сапраўднае сваяцтва. Але яна добра разумела клопаты ўрада Вялікага княства. Сапраўды,

вельмі няпроста пракарміць плойму ў дзве тысячы людзей. Будуць красці, грашыць з блудніцамі. Іх грэх пэўным чынам упадзе на яе.

Вялікая княгіня глыбока задумалася, ажно зморшчыўся яе Лобік, пекныя вейкі закрылі вочы.

Іван Сапега не перашкаджаў ёй думаць, такая задумлівасць сведчыла, што ён амаль ужо пераканаў яе.

— Мой канцлер, перадай панам рады, што я даю сваю згоду на ўрачыстыя провады рускіх князёў, баяр і воінаў, якія прывезлі мяне ў Вільню да ўладара майго вялікага князя літоўскага, рускага, жамойцкага. Я дам табе спіс служкаў, якіх я пакіну пры сабе.

А ў той час Кашталян Забжэзінскі размаўляў на гэтую тэму з Рапалоўскім. Князь «ударыў у хамут»: без загаду ўладара свайго гасудара ўсея Русі ён нікуды не зрушыцца; няхай дадуць яму час пасланець да Івана Васільевіча канцоў. Прысутны пры размове Канстанцін Астрожскі тут жа па-сяброўску параіў Рапалоўскаму:

— Надыходзіць вясна, князь. Разальюцца рэкі. А я ведаю, як цяжка ў такі час весці нават невялікі атрад. Колькі сілы забіраюць пераправы. Мая парада табе: не цягнуць з выступленнем.

Але ніякія самыя шчырыя парады не маглі пераканаць разгневанага князя. Яму падабалася віленская вольнасць, хацелася як можна даўжэй застацца тут. Ды і страх перад гневам Іванавым меў: гасудару яўна не падабаецца такое самавольства.

Кінуўся да вялікай княгіні. Алена не адразу прыняла яго. Гэта «завяло» Рапалоўскага і супраць яе: «Пераспала чортава баба ў вялікакняскім ложку і прадалася літоўцам з усімі трыбухамі!»

Перад Аленай Рапалоўскі стараўся стаіць свой гнеў, але ён усё роўна прарываўся. Алена як не заўважала раздражнёнасці князевай. Яна не словамі, а выглядам сваім выяўляла непрытворную — шчырую заклапочанасць і дзяржаўны роздум.

— Так блізкія людзі не робяць, як твой уладар! — казаў князь.

Алена не вытрымала, абарвала яго:

— Не кіпі, князь. Не Аляксандрава гэта задума. Рады.

«Бач, абараняе свайго крываногага».

— І я разумею іх. Зразумей і ты, князь. Уяві: прыехалі да цябе госці, жывуць дзень, два і заяўляюць гаспадару: будзем жыць колькі захочам. Даспадобы былі б табе такія госці?

— Я разумею тваю сарамлівасць і тваю пачцівасць перад гасударом сваім. Але ў такім разе здымі з мяне адказнасць. Напішы бацьку свайму.

— Я напішу.

Рапалоўскі скарыўся. Але злосць — не лепшы дарадца. Замест таго каб належным чынам падрыхтавацца да нялёгкага паходу, князь рабіў дэманстрацыю. Не запатрабаваў у літоўцаў належнай колькасці правіянту, фуражу, амуніцыі, павозак з коламі, каб у свой час замяніць іх на сані. А панам гэта толькі і трэба было: баба з воза — каню лягчэй. І каб як можна менш затрат.

Аляксандр і Алена натуральна не ўнікалі ў чыста вайсковыя «дробязі».

У вялікай княгіні былі свае клопаты. Яна пісала пісьмы бацьку, маці, сёстрам, братам. Яна складала спіс людзей, якіх жадала пакінуць пры сабе. Атрымаўся вялікі — чалавек семдзесят. Скараціла на дзве трэці. Аддала канцлеру. Сапега вярнуў з пажаданнем яшчэ скараціць. За кошт каго? Спаведніка Фамы. Канцлер не сказаў, што гэта патрабаванне біскупа Табара. Галава віленскай епархіі не без падстаў лічыў, што праваслаўны святар — што калода на шляху да душы вялікай княгіні; біскуп не сумняваўся, што зробіць Алену каталічкай. Алена не ўступіла Фаму:

— Мой спаведнік будзе са мной!

А патрабаванне адаслаць Марфу і Ксенію выклікала такую буру, якой нават загартаваны ва ўсіх слоўных баях Сапега спалохаўся. Алена здагадалася, што гэта задума канцлера, бо неяк ён мякка выказаў неўхвалу сваю адносінам вялікай княгіні са служанкамі-халопкамі. Не ўсё яна расказвала мужу — не дакучала дробязямі, лепш траціць час прабывання адно з адным на каханне, на пяшчоты. Але пра сутычку з-за Марфы і Ксеніі расказала.

Безумоўна, Аляксандр выканаў жончыну волю і зрабіў Сапегу праборку.

Пасварылася Алена з Рапалоўскім. Той хацеў выступіць, не дачакаўшыся развітальнага балю. Вялікая княгіня рашуча забараніла. У злосці Рапалоўскі кінуў:

— А ты мне не ўладарка, Алена Іванаўна.

— Нават так? Што ж табе мушу сказаць? Гуляеш з агнём, князь.

Вырвалася пагроза, пасля яна шкадавала, бо нідзе ні ў адным пісьме бацьку не наракнула на князя Семяона, наадварот, хваліла яго. Рапалоўскі скарыўся. Але на балі сядзеў хмара хмараю. Многа піў. У дзень выступлення Рапалоўскі пастроіў перад замкам частку свайго атрада — чалавек трыста коннікаў. Епіскап Макарый асвяціў і блаславіў праваслаўных воінаў на паход. Вялікі князь Аляксандр і княгіня падзякавалі ім. Алена пацалавалася з княгіняй Ефрасінняй, з баярыняй Мар'яй. Пацалавала і Рапалоўскага. Князь заплакаў. Часта пасля Алена ўспамінала яго слёзы, і ў яе балела сэрца.

Неўзабаве пачалі паступаць скаргі ад паноў, што дружына Рапалоўскага рабуе літоўскае насельніцтва.

Аляксандр моцна ўзлаваўся. Алена здзівілася і засмуцілася: каб воіны яе бацькі ператварыліся ў разбойнікаў! Яе заспакоіў не муж — Канстанцін Астрожскі; ён адзін уяўляў становішча маскоўскага атрада. Сказаў на балі з развагай военачальніка, калі Алена выказала сваё бедаванне:

— А што ім рабіць, вялікая княгіня? Людзям трэба есці. І коней трэба карміць. Вясна. Бяскорміца. А тут яшчэ заўчасная цеплыня. Паламаўся лёд. Любая пераправа зойме не адзін дзень. Тыдзень.

І гэта была праўда. Воіны Рапалоўскага, яго абоз з княгінямі, баярынямі, з цывільнымі служкамі апынуўся ў вельмі цяжкім становішчы. З Масквы да Вільні ехалі тры тыдні і страцілі аднаго чалавека — праваліўся коннік на малой рэчцы — у гніліцы ці ў віры. Назад ішлі два месяцы і не далічыліся трохсот чалавек, амаль палавіны коней. Мяжу пад Вязьмай перайшло не войска — натоўп жабракоў, разутых, раздзетых, амаль без зброі і збруі — усё праелі. У барод'ах і валасах поўзалі вошы.

У сваім княстве ў Мажайску з дапамогай мясцовых баяр і манастыра прывялі сябе да нейкага боскага выгляду. Князь халадзеў ад думкі, што Івану Васільевічу прыйдзе ў галаву зрабіць агляд дружыны. На шчасце, не зрабіў. І Рапалоўскі зменшыў страты, калі дакладваў.

Сказаць што на Алену не адважыўся, яна, маўляў, неразумнае дзіця, ні ў чым невінаватая. Але на Аляксандра валіў усе беды... Не свае — Аленіны. Ведаў, чым узяць гасудара.

Дачка пісала бацьку, маці, што ёй хораша ў Вільні, вялікі князь кахае яе, ніхто не прымушае да рымскага закону, ходзіць яна ў царкву Прачыстай Багародзіцы, якая побач з замкам.

Рапалоўскі дакладваў зусім іншае. Будаваць дварцовую царкву, як патрабаваў гасудар-бацька, Аляксандр і не думае. Акружыў жонку каталікамі, усе каталікі — біскуп, канцлер, першая пані. Нават спавядальніка Фаму хацелі адаслаць назад. Прымусілі Алену скінуць княжацкае ўбранне і адзець паганае рымскае сарамоцце, у якім агалены грудзі.

— Там пані выстаўляюць свае цыцкі.

Іван Васільевіч перахрысціўся — ад граху.

— Нават штаны надзець прымусілі.

— Вялікую княгіню? — пабялеў гасудар, уявіўшы дачку сваю ў штанах. — Да чаго давялі няшчасную!

Іван Васільевіч не паверыў пісьмам дачкі, але цалкам паверыў расказу пакрыўджанага князя. Не распытаў больш нікога — ні князя

Зіноўевіча, ні баярына Русалку, ні прыслугу. Залыпаў гневам на Аляксандра: так ён выконвае дамову! На дарогу дружыне яго хлеба не даў!

Паспрабавала вялікая княгіня Соф'я, якая паверыла пісьмам дачкі, сваёй развагай, веданнем італьянскіх звычаяў, якія пераймаюць літоўцы, улагодзіць мужа, — дасталося і ёй. Калі гасудар быў у гневе, ніхто не меў ні літасці, ні міласці: загнаў жа брата свайго ў манастыр!

Рапалоўскі, пры ўсей хітрасці яго, таксама атрымаў не ўдзячнасць, а посахам па спіне. У гневе Іван лічыў, што і князь вінаваты, што завёз яго любімую дачку ў тую праклятую Вільню, да лацінцаў, што перакруцілі апостальскае пісанне на свой паганскі лад. Нехрысці, хоць і носяць крыжы!

Але кары Рапалоўскі пазбегнуў. Перад іншымі князямі і баярамі выдаваў сябе за героя. І не пераставаў паліваць Аляксандра брудам.

Іван Васільевіч неадкладна накіраваў у Вільню князя Васіля Рамаданоўскага з жонкай Сінкліцыкіяй з новымі слугамі для Алены. Напісаў Аляксандру знешне ласкава: «Наш любы зяць і брат». Але моцна дакараў, што не даў архімандрыту Макарыю вянчаць Алену, яшчэ раз патрабаваў пабудаваць вялікай княгіні дваровую царкву — як дамовіліся ў шлюбнай грамаце.

Алене напісаў два пісьмы: адно — адкрытае з выказваннем сваіх бацькоўскіх пачуццяў, другое — тайнае, у якім рашуча настаўляў: не мець пры сабе літоўскіх чыноўнікаў, служак лацінскай веры, не адсылаць сваіх баяр і прыслугі, якіх ён, бацька, шле ёй. «Ты ж вялікая княгіня. Умей пастаяць за сябе! Няхай муж твой не адступае ад сваіх абяцанняў, грамата замацавана яго пячаткай. І крыж: цалаваў».

А яшчэ бацька прапанаваў ёй акрамя адкрытай перапіскі, якую яна пакажа мужу, тайную. Для гэтага ён шле служку, які праз сваіх людзей у Полацку і Смаленску будзе перадаваць Аленіны пісьмы яму, гасудару, нікому іншаму.

Пісьмо гэтае моцна расхвалявала Алену, абразіла. Яна нават заплакала, здзівіўшы Марфу: рэдка бачыла князёўну ў слязах. На што штурхае яе бацька?! Гэта ж здрада мужу! Здрада яе новай айчыне, у якой яна ўладарка! Ніколі яна на такое не згодзіцца! Бацька разумны, а хоча ператварыць яе ў шпіёнку за ўласным мужам, якога пакахала, якому адданая целам і душой.

Не дачакаўся служка тайнага пісьма вялікай княгіні. Сядзеў без працы, дарэмна еў хлеб.

Не думала Алена, што прыйдзе час, калі яна вымушана будзе карыстацца і такімі пасланнямі — тайнымі.

У адказ Аляксандр паслаў у Маскву Станіслава Глябовіча, першага свата, добра знаёмага Івану і Соф'і. З шчодрымі дарамі цешчы, цесцю, шваграм, швагеркам. Але вусна перадаў праз спрактыкаванага пасла адказ на Іванавы нараканні. Указам яго бацькі Казіміра забаронена ў Вялікім княстве будаўніцтва праваслаўных храмаў, і рада не дазволіць яму парушаць забарону. Але ў Вільні васемнаццаць праваслаўных цэркваў, адна побач з замкам, дзе жыве вялікая княгіня, і царква стала па-сутнасці дварцовай, ён выдаў немалую суму з казны на яе абсталяванне, перадаў з уласнай бібліятэкі кнігі на грэчаскай і балгарскай мовах — Евангелле, Апостал, Псалтыр, Трэбнік, Служэбнік, Азматыкоп.

Што датычыць людзей, якія акружаюць вялікую княгіню і служаць ёй, то амаль усе яны праваслаўныя. А таму няма патрэбы ў маскоўскіх служках.

Аляксандр казаў праўду, якую пацвярджала і Алена ў сваіх пісьмах, але Алена не здагадалася пра адну «дробязь», а муж яе не раскрываў гэтай «дробязі»: амаль усіх людзей падбіраў Войцэх Табар, верны служка рымскай царквы.

Разам з сямейна-бытавымі апраўданнямі Аляксандр перадаў сур'ёзныя палітычныя нараканні. У дамове гасудар усея Русі (Глябовічу было даручана толькі так звяртацца да Івана) абяцаў дамагчыся ад саюзнікаў сваіх — перакопскага хана Менглі-Гірэя і малдаўскага гаспадара Стэфана, свата Іванавага, каб і яны спынілі сваю варожасць да Вялікага княства Літоўскага і сталі яго, Аляксандра, сябрамі.

Іван сапраўды нічога не зрабіў, больш таго, нават не паведаміў Менглі-Гірэю, што парадніўся з Аляксандрам. Паведаміў толькі ўлетку, апраўдваючыся, што вясновая бездараж перашкодзіла яму накіраваць у Таўрыю паслоў.

Хан, практычны, шчыры, адкрыты, адказаў папрокам: «Сябра і брат — вялікае дасягненне, не хутка здабудзеш яго: так я думаў і галіў Літву, граміў улусы Ахметавых сыноў, не чуў іх прапаноў, ні Казіміравых, ні Аляксандравых. Дзе ж мая ўзнагарода? Ты стаў другам нашых зладзеяў, а мяне пакінуў ім у ахвяру! Ці сказаў нам хоць слова пра свой намер? Не разважыў і падумаць з тваім братам».

Аднак хан згаджаўся на мір з Літвой, але патрабаваў, каб Аляксандр пакрыў страты, якія ён панёс у вайне. Пра патрабаванне Менглі-Гірэя гасудар усея Русі не напісаў зяцю, не адважыўся.

Між тым Вільню ўсхвалявала чутка, што хан Менглі-Гірэй ідзе на Літву. І, можа, найбольш усхвалявала гэта Алену, якая пераканала сябе ў магчымасці вечнага міру. Яна прагнула такога міру. Пераконвала мужа. Ён не верыў у мір, але вайны баяўся, бо Літва не

рыхтавалася да яе. Алена напісала бацьку пісьмо, далучыла да яго Аляксандраву просьбу, каб ён, выконваючы дамову, абараніў іх. Каб замацаваць сваю просьбу, напісала пра гэта і маці.

Такая просьба Івана пацешыла: зяць кланяўся яму. Любіў уладар, каб да яго ішлі з нізкім паклонам.

Але з таго міру, пра які пісала дачка, пасміхнуўся: ваяваць ён не будзе, але ад мэты жыцця свайго — сабраць Рурыкавіч землі ў адну дзяржаву — не адмовіцца ні пры якіх абставінах, сваяцтвах, і сыну свайму, што прыме ад яго ўладу, наказ дасць: збірай дзяржаву!

Дайшла да Масквы чутка, што Аляксандр згадзіўся пад націскам польскіх паноў падараваць малодшаму брату Жыгімонту Кіеў, — устрывожыўся Іван: прыйдзецца адбіраць Кіеў у палякаў! Тут жа напісаў Алене пісьмо па той тайнай сувязі, якую яна не хацела прымаць: «Я чуў аб няўладжанасці, якая была ў Літве ад удзельнага праўлення. І ты чула пра нашы ўласныя беды, якія рабіліся разнаўладдзем пры княжанні бацькі майго, помніш, што і сам я цярпеў ад братоў. Што ж можа быць добрае, калі Жыгімонт зробіцца ў вас асобным гасударом? Раю табе, бо люблю цябе, мілую дачку сваю; не хачу вашага зла. Калі будзеш гаварыць з мужам, то кажы толькі ад сябе».

Алену пакрыўдзіла, што ўпершыню яна пачула пра Кіеў не ад мужа — з бацькавага пісьма. І ўпершыню яна трохі схітравала: раней чым пагаварыць з Аляксандрам, сказала Івану Сапегу, бо добра выведала ад яго пра настрой рады, ведала, што, прынамсі, праваслаўная частка паноў будзе супраць такога шчодрага дарунка. Разлічыла правільна: рада патрабавала ад вялікага князя тлумачэння. Супраць дару выступілі не толькі праваслаўныя, але і католікі: не хацелі яднання з Польшчай. І не Алене прыйшлося гаварыць з мужам — Аляксандр паскардзіўся ёй на паноў. Яна паспачувала яму, прытворна, задаволеная сабой і панамі. Падумала, але мужу не сказала, што бацьку яе ніякая рада князёў і баяр не пераканала б. Падатлівасць вялікага князя не лічыла слабасцю, наадварот, лічыла добрай якасцю, паважала гэтую рысу ў ім. Але загадала сабе: не быць падобнай да бацькі свайго. Спытала ў Марфы:

— Была я малая ўпартая?

— Была, мая княгіня, была. Але цябе можна было пераканаць.

— Пераконвай і цяпер, нянечка. Пераконвай, як малую. Не кланяйся мне так часта. Не трэба. Калі я сказала Ксеніі, яна зразумела...

— Дык канцлер жа даў нам строгі наказ.

— Нянечка, мы будзем жыць па нашых законах.

— Дай табе Бог здароўя, дзіцятка маё, — зноў пакланілася.

3

Алена з маленства здзіўляла блізкіх нечаканымі пытаннямі. Здаралася, што трое дарослых не маглі адказаць на пытанне дзяўчынкі. Толькі бацьку такіх пытанняў яна не задавала — баялася; перад бацькам яна і ў васемнаццаць гадоў іграла малую. Тут, у Вільні, вялікая княгіня ашаламляла свайго канцлера і біскупа Табара. Сапега захапляўся ёй, Табар, не здолеўшы адказаць на яе багаслоўскае пытанне, напаўняўся злосцю і нянавісцю да адукаванай схізматычкі.

Спрабавала здзіўляць першую пані. Але Зосю Заслаўскую-Радзівілаву цікавілі толькі кахальныя прыгоды і страшылі лясныя казкі. Мужу Алена такіх закавырыстых пытанняў не задавала — з-за павагі, каб, барані Божа, не ўнізіць яго, не выклікаць незадавальнення. Мядовы месяц іх цягнуўся не адзін месяц.

У канцлера свайго Алена спытала раптам:

— Князь, хто такія літоўцы?

Пытанне — што рэпа, прасцей не прыдумаеш, але мудры Сапега разгубіўся.

— Як хто? Дзіўна. Я — літовец. І ты, вялікая княгіня, літоўка.

— На якой мове мы гаворым? Я — па-руску, князь — па-руску. А хто — па-літоўску?

— Жэмайты і аўкштайты.

— Яны гавораць на розных мовах. Я — чула на рынку.

— Вялікая княгіня ездзіць на рынак? — жахнуўся канцлер.

— Князь, няхай будзе гэта нашай з вамі тайнай. Прашу не казаць вялікаму князю. А то мяне могуць выхвастаць за такое свавольства.

Алена ўмела жартаваць. Але Сапегу было не да жартаў.

— Вялікая княгіня хоча даказаць, што Вялікае княства Літоўскае...

— і рускае, князь.

— ... што Вялікае княства — гэта рускае княства?

Алена зразумела, куды гне канцлер, і ўмела адступіла:

— Не, я не маю намер даказваць. Навошта? Я вялікая княгіня таго княства, якое ёсць і будзе. Майго княства. Але я хачу ведаць мой народ. Хто ён? У якой глебе яго карані?

Што скажаш на гэта? Сапега і злаваўся, і захапляўся. Пахваліў жаданне юнай княгіні ўсё ведаць. Але размову гэтую перадаў сябру свайму Войцэху Табару. Біскуп пры ўпэўненасці ў Сапегавай адданасці не сказаў, што Аляксандр грэе на сваіх грудзях змяю, якая глядзіць на «трэці Рым» — на Маскву, але падумаў так. Сапегу сказаў:

— Я спадзяюся, што князь паможа мне зрабіць з авечкі, якая заблудзілася ў рускіх лясах, прасветленую служку рымскай веры.

Сапега пасміхнуўся.

— Ваша правялебнасць забывае, што я трымаюся грэчаскага закона.

— Такі «грэк» варты многіх рымлян.

— Ваша правялебнасць перабольшвае маю ролю.

(У той час не было яшчэ зварота на «вы». Але зварот да высокіх служкаў рымскай царквы вымушаў множнага ліку, бо так называлі сябе папы і кардыналы: «Мы, папа Рымскі...», «Мы, кардынал Кракаўскі». Адзін з першых дэкрэтаў Вялікай французскай рэвалюцыі быў аб адмене «вы» ў звароце да аднаго чалавека, што мела на ўвазе зрабіць усіх людзей роўнымі.)

Даказваць Алене перавагу хрысціянства над паганствам было б неразумна. Але працягвалася хрышчэнне жэмайтаў і аўкштайтаў у каталіцкую веру. І Сапега расказваў, наколькі высока ўзняліся сяляне жэмайты і аўкштайты, якія прынялі хрышчэнне, над сваімі сабраццямі-язычнікамі. У адной вёсцы спалілі жанчыну, абвінаваціўшы ў нявернасці мужу. Сапега не падумаў, што такі дробны эпізод — тысячы гінуць у войнах, у чуме, воспе! — так усхвалюе вялікую княгіню.

— Хто даказаў? Муж? Хто судзіў? — Алена, абураная, хадзіла па пакоі не паходкай разгневанай жанчыны — паходкай уладаркі. — Божа мой! У гэтай дзяржавы няма законаў!

Быццам у дзяржаве яе бацькі былі — ох, якія законы! Людзей палілі і там — па прысуду князёў. Але ж — па прысуду. І вельмі рэдка. У дыялогу з Табарам Алена дакарала каталіцкую царкву за інквізіцыю, якая паліць людзей. Ерэтыкоў. Але хто ерэтык? І хто суддзі? Візантыйская царква ніколі не мела такой злавеснай установы. Біскупа гэтыя разважанні вялікай княгіні моцна ўзлавалі. Алена ў сваю чаргу падумала, што служка рымскі крыважэрны чалавек, і перахрысцілася пры ім.

— Даруй, Божа, грэх мой.

Табар доўга ламаў галаву, за які грэх яна папрасіла даравання. Пра размову, што няма законаў, Сапега данёс вялікаму князю.

Упершыню доўга, шчыра, зацікаўлена муж і жонка гаварылі пра дзяржаўныя законы, пра статут Вялікага княства. І Аляксандр не толькі мацней пакахаў жонку, ён прасякнуўся да яе асаблівай павагай, як да лепшага дарадцы свайго.

Алена папрасіла звазіць яе ў Жэмайцію. Падарожжа было не з ліку прыемных: убачыла галечу, якой не бачыла ў княстве Маскоўскім.

Увогуле, з наступленнем вясны і лета яны многа ездзілі. Аглядаць свае ўладанні любіў Аляксандр. Нястомнай падарожніцай была Алена. У Трокі наведаліся неаднойчы — блізка. З'ездзілі ў Гедымінаву сталіцу Новагародак, у Гародню. Марылі пра Кіеў і Кракаў. Часам Алена ездзіла адна з невялікай аховай.

Вялікі князь падарыў жонцы маёнткі, ключы. Гаспадарлівая, яна хацела асабіста пабачыць сваю ўласнасць, сваё багацце і ўсталяваць там парадак, які даспадобы ёй. А галоўнае — каб падданыя ўбачылі, ведалі сваю гаспадыню, яе ўменне ўсё помніць, лічыць, каб войты, ключнікі не ўздумалі красці ў яе, бо найменш баяцца граху, калі трэба ўзяць тое чужое, што дрэнна ляжыць; гэта Алена ведала яшчэ з маскоўскага вопыту; кралі нават у грознага вялікага князя, гасудара ўсея Русі, і баяры, і пісары, стольнікі, канюшыя. У яе не павінны красці — так вырашыла. А для гэтага памагала бедным. Многа скарбаў раздавала на рамонт праваслаўных цэркваў, манастырам, і манахі, святары маліліся за яе. Война Табар шыпеў: мацуе вялікая княгіня грэчаскую веру!

А на каталіцкія манастыры Аляксандр ахвяраваў скупа — на войска не хапала.

Па вясне Алена ўпадабала на ўсход ад Замкавай гары мясціну, якая называлася Поплаў. Высокі бераг Вілейкі. Маляўнічыя дубровы, бярозавыя гаі. Яна ехала туды на павозцы, а там гуляла пехатою, часцей з Ксеніяй, але здаралася, што і з мужам. Удалечыні ад людскіх вачэй, у лесе, яны паводзілі сябе што дзеці. Вялікая княгіня магла разуцца і прабегчы па траве, радуючы Аляксандра. А потым падбегчы, павіснуць у яго на шыі і пацалаваць.

— Алекс, я кахаю цябе.

О, якое гэта было шчасце — такі пацалунак пад бярозамі і такое прызнанне! Нямногія каралі перажылі такія радасныя хвіліны.

Прайшлі дубовы гай. Спыніліся на ўскрайку шырокай паляны: з трох бакоў лес, з чацвёртага — Вілейка, далей Вілія, паміж імі луг у майскай квецені.

Пасярод паляны невялікі маёнтак. Макруцы — так называлі яго віленцы.

— Якая прыгажосць, Алекс, — сказала Алена. — Я хацела б тут жыць.

Праз колькі дзён Аляксандр падарыў жонцы Макруцы, купіўшы маёнтак у мясцовага шляхціца за выгодную для таго цану.

Паехалі ў сваю вотчыну. Зноў гулялі, як дзеці. Але і ў забавах Алена не губляла практычнасці: задумы яе заўсёды здзіўлялі і

Аляксандра, і Сапегу — шырокія, па-сапраўднаму каралеўскія. Алена сказала з рашучасцю гаспадыні:

— Мой вялікі князь! Мы збудуем тут летні палац.

На другі ж дзень у Поплаў, да падножжа Гуры разам з вялікай княгіняй прыехалі італьянскія архітэктары, якія будавалі ў Вільні бернардзінскі манастыр і касцёл.

За два гады (усяго за два!) вырас цудоўны палац, які захапляў мастакоў вялікага Адраджэння.

Каб Алена папрасіла зорку з неба, Аляксандр, напэўна, дастаў бы і яе. Пра такое незвычайнае для найвышэйшых асоб каханне ведалі паны, каталіцкі клір, стараліся злучыць каханых духоўна — адной верай, але разам з тым баяліся такіх дзеянняў у адносінах вялікай княгіні, якія маглі б не падабацца ёй і іхняму ўладару.

Нават Войцэх Табар, намеснік папы на літоўскай зямлі, вымушаны быў таіць сваю нянавісць да адукаванай схізматычкі.

4

Ксюта з радасцю паведаміла вялікай княгіні, што праз два дні прыедуць з Ашмян маці Міхаіла Стругі і дзядзька — сватаць яе. А Марфа з'явілася страшэнна ўсхваляваная, ніколі яшчэ Алена не бачыла сваю карміліцу і няньку, заўсёды спакойную, разважлівую, такой спалоханай і разгубленай.

Алена нават з пэўным смуткам падумала, што яе маці гэтак не спалохалася і не ўсхвалявалася, праводзячы яе ў далёкую дарогу з невялікай надзеяй калі-небудзь пабачыцца. Помніла вялікая княгіня Соф'я сябе, Зою Палеалог, якая ў такім жа ўзросце ехала з цёплага Рыма ў халодную Маскву? Помніла, казала пра гэта. Але не помніла маці сваю, не маці праводзіла — дзядзька, а таму і не зведала матчынай трывогі. Увогуле, Соф'я была скупая на выяўленне ласкі і пяшчоты да дзяцей, у яе была свая навука выхавання. Але Алена добра адчувала яе любоў, яе цеплыню. Тут, у Вільні, больш востра, глыбока, чым там, у вялікакняскіх палатах, дзе яны, дзеці, не кожны дзень бачылі маці.

Больш пачцівая пасля таго, як яе малочная дачка стала вялікай княгіняй, Марфа, забыўшыся на тытул, ад разгубленасці вельмі проста спытала:

— Што мне рабіць, Аленачка?

— Прымай свата, нянька. І сваццю будучую. І... будзь баярыняй.

— Ой, Алена Іванаўна!

— Ксюта ж назвала сябе баярскай дачкой.

— Гэтая Ксютка-малютка ў магілу мяне загоніць. Не перажыву я, калі яна выйдзе за іхняга.

— Ах, нянька, нянька, такая доля матак.

— Маніць я не магу, вялікая княгіня. Грэх гэта.

— Не трэба маніць. Я раблю вас баярынямі.

— Ой!

— Не палохайся, Марфа. Вы заслужылі.

Нянька і пакаёўка жылі там, дзе ўся прыслуга, — на першым паверсе, за кухняй, праўда, мелі прывілею — жылі ў асобным пакоі.

Са згоды вялікага князя — хіба мог ён адмовіць горача каханай жонцы? — Алена на другі дзень перамясціла Марфу і Ксенію на другі паверх, размясціла ў пакоі, па-княску абстаўленым, недалёка ад сваіх апартаментаў, так, маўляў, ёй зручней — растлумачыла Аляксандру, хоць ён, калі даведаўся, што да Ксюты прыедуць сваты, здагадаўся пра сапраўдны жончын намер. І ўхваліў яго: адукаваная служка, прыгожая руская дзяўчына выйдзе замуж за шляхціца, католіка, прыме яго веру.

Іван Сапега ледзьве не самлеў, калі даведаўся пра такое перамяшчэнне. Але біскуп яго заспакоіў, Табар лічыў, што згода Ксеніі прыняць каталіцкую веру — гэта, бадай, крок самой Алены ў тым жа кірунку: без яе, маўляў, згоды служанка не зрабіла б гэтай святой дзеі.

Бацька Міхайлы Сазонт Струга быў воінам караля і вялікага князя Казіміра, вызначыўся ў колькіх бітвах з маскавітамі, татарамі, рыцарамі. За гэта Казімір даў яму званне шляхціца, кавалак зямлі і права яго дзецям мець камандныя пасады ў войску. Ад ран Сазонт памёр. Два сыны, выконваючы бацькаў запавет, служылі ў войску. Гаспадарку вёў бацькаў брат Кузьма, стаўшы пасля хрышчэння Казімірам. З маці жаніха Домнай-Дамінікай, якая за нейкія восем гадоў пасярод праваслаўных наўрад ці стала каталічкай, ён і меўся прыехаць у якасці свата; каму чужому такую высокую місію — ехаць у вялікакняскі палац — не даручылі. Алена сказала Марфе і Ксеніі:

— Калі прыедуць сваты, трымайцеся баярынямі. Багата частуйце. Скажыце мне. Але калі я зайду, не кланяйцеся, не выдавайце, хто я. Я пагляджу, паслухаю і... пайду. Дай Бог згоды вам.

Ксютка ўскочыла ўся ў агні. Без паклонаў.

— Прыехалі.

Вялікая княгіня надзела простыя рускія ўборы — хатнія. І не адразу — можа, праз гадзіну ўвайшла ў пакой новых баярынь. Убачыла, што Марфа спалатнела, а Ксюта... чырвань, здавалася, вось-вось спапяліць яе. А сват ад рускага мёду быў у стане, калі мужчыны паводзяць сябе што п'яныя зайцы.

— Вы не думайце... Мы ого! Першыя людзі ў ключы. У нас князь Кішка быў у гасцях. Бацька Міхайла быў герой, якога не ведала ні Літва, ні Польшча. Сам вялікі Казімір абняў яго пасля бітвы пад... — дзе — не здолеў успомніць, кінуў Алене: — Ідзі, красуня, выпі з намі.

Алена выпіла, сказаўшы адно:

— За маладых.

Калі выйшла, Домна-Дамініка спытала ў Ксеніі:

— Хто гэта — твая сяброўка?

Ксенія, грэшная душа, не стрывала:

— Гэта — вялікая княгіня.

Маці жаніха самлела. Сват пачаў заікацца і... заікаўся пасля цэлы тыдзень, з чаго Ксенія кпіла шмат гадоў, весяліла Алену расказам пра ашаломленасць свекрыві і дзядзькі.

Марфа не хацела ісці на хрышчэнне дачкі. Алена параіла пайсці. На вянчанні і ёй хацелася прысутнічаць. Стрымалася. Не, не пойдзе яна ў рымскую царкву!

Пасаг маладой вялікая княгіня дала такі, што Міхайла Струга з дробнага шляхціца адразу ператварыўся ў сапраўднага пана. І вялікі князь даў яму баярскае званне: а як жа! Жаніўся з баярыняю! Міхайла ўзначаліў усю ахову замкаў.

5

Каралева Эльжбета Ракушанка не дачакалася, калі сын прыедзе ў Кракаў, прывязе паказаць маці нявестку. У польскай сталіцы пра вялікую княгіню літоўскую хадзілі легенды, самыя неверагодныя і супярэчлівыя. Адны з тых, хто прыязджалі з Вільні, казалі: прыгажуня, якіх мала ў свеце. Другія выказваліся стрымана: жанчына як жанчына. А былі і такія, што бэсцілі, пераважна клірыкі: пачвара, фанатычка, паганка, а не хрысціянка. Распалілі цікаўнасць.

І Эльжбета паехала ў Вільню сама, не зважаючы на свой узрост. Не адна. З сынам Фрыдэрыкам, кардыналам Кракаўскім, з дзвюма дочкамі.

Прыскакалі ганцы: едуць!

Аляксандр і Алена паехалі ажно пад Руднікі сустрэць вяльможных гасцей. На зялёнай паляне пастроілі воінаў у парадным убранні; рыцарскія папругі, кукарды, зброя сляпілі вочы пад яркім чэрвеньскім сонцам. Паслалі ярка-чырвоную дывановую дарожку. Чакалі доўга. Змарыліся.

Нарэшце на ўзгорку немалы канвой узняў пыл. Але тут жа канвой адстаў. Заззяла на сонцы золата каралеўскай карэты. Магчыма, каб не ўзнімаць пыл ці ад стомы, шасцёрка коней апошнія

паўвярсты ішла ціхім крокам. І гэтыя нейкія дзесяць хвілін здаліся Алене самымі доўгімі, дагэтуль яна была зусім спакойная, жартавала з мужам, з панамі, нават з «лепшым сябрам» сваім біскупам Табарам. А тут раптам расхвалявалася.

Аляксандр пачуў яе хваляванне, каб супакоіць, узяў руку жонкі, прасякнуты ўдзячнасцю.

Карэта спынілася каля самай дарожкі. Слуга адчыніў дзверцы. Але не адразу з яе выйшла каралева-маці — зацяклі ногі. Слугі высадзілі яе пад ручкі. Грузная, цяжка адзетая ў спёку, старая жанчына. Алена пашкадавала свякроў, паспачувала ёй. Не дзіва такая паўната: семярых дзяцей нарадзіла. Але тут жа з нейкім новым пачуццём падумала пра сваю маці: пляменніца візантыйскага імператара нарадзіла васьмярых, аднак — во дзівосы! — у свае сорак два гады надзвычай гнуткая, што дзяўчына.

Каралева ішла побач з кардыналам, чырвоная мантыя якога зліваласяз колерам дарожкі. «Яшчэ адзін пакутнік», — ужо бадай з іроніяй падумала Алена. Сама яна надзела рускі летнік з залатымі гузікамі ад шыі да ступняў ног, у ім было прасторна, нядушна — шоўкавы, лёгкі; вецярок астуджваў маладое цела, і Алена нават не пацела, як усе іншыя, толькі паружавела ад сонца.

Сын даў маці прайсці палову дарожкі. Толькі тады, не выпускаючы жончынай рукі, рушыў насустрач.

Спыніліся за тры крокі адны перад аднымі. Першая спынілася Эльжбета. І глядзела не на Аляксандра, якога не бачыла больш года, — на нявестку. Глядзела, здалося Алене, з незразумелай здзіўленасцю, ад чаго маладой жанчыне зрабілася ніякавата. Што яе разглядваюць, як дзіва заморскае? Але тут успомніла сваю задуму сустрэчы: ступіла ўперад, апусцілася перад свекрывёй на калені, узяла яе руку і пацалавала. Эльжбета левую руку палажыла ёй на галаву, мабыць, хацела пагладзіць, але дыядэма перашкодзіла. Каралева ціха адняла правую руку і перахрысціла Алену; яе парадавала, што дачка ваяўнічага рускага князя выявіла такую пачцівасць.

Кардынал працягнуў руку, але без намеру, што Алена пацалуе яе, як некалі пажадаў таго Табар; магчыма, біскуп у данясенні паведаміў яму пра непачцівасць рускай, якая не стала яшчэ вялікай княгіняй, а занядбала служку Божага.

Фрэдэрык па-свойску правёў далонню па гарачай Аленінай шчацэ, пэўна, яму было гэта прыемна — дотык да такой прыгажуні.

Алена ацаніла кардыналаву прастату і тактоўнасць. З залоўкамі пацалавалася па-руску, горача абняўшы і адну, і другую, распараных дарогай. Сказала ім па-польску, што рада знаёмству з імі. А ўвогуле,

трохі баялася, што свякроў запросіць яе ў сваю карэту і яны застануцца з вока на вока. Ведала, што Эльжбета не гаворыць па-руску, а яна сваёй польскай мовы яшчэ саромелася; Ксютка вывучыла хутчэй і лепш за яе, хоць муж кажа ёй ласкавыя словы па-руску, на тым дыялекце, які чамусьці вельмі спадабаўся Алене, назвала яго нёманскім і казала, што аканне лепш за волжскае оканне, што ў оканні штосьці мужчынскае, строгае, а ў аканні і дзеканні — жаночае, можа, нават дзіцячае, ласкавае, мілагучнае.

Змучанай старой каралеве было не да размоў з нявесткай і нават з сынам, у той дзень яна нават не з'явілася на абед. У Алены ад сустрэчы ўзняўся настрой. Нават Аляксандра здзіўляла яе весялосць. А тут яшчэ, як нярэдка і раней, павесяліла Ксюта — спытала:

— Яны — векавухі?

Каб стрымаць смех — здзівілася:

— Пра каго ты?

— Пра каралеўнаў. Перастаркі яны. Зморшчаныя, што абабкі. Чаму не замужам?

— Да такіх высокіх асоб баяцца сватацца.

— Няшчасныя.

— Хто? Нявесты ці жаніхі?

— І жаніхі, і нявесты, — у Ксюты ў вачах скакалі чорцікі: яна перажывала мядовы месяц.

З усіх сваякоў Алене найбольш спадабаўся дзевер. Успомніла старую песню, якую чула ад маскоўскіх дзяўчат: «Лучше деверя четыре, чем золовушка одна».

Кардынал быў разумны, глыбока адукаваны і... вясёлы свецкі чалавек. Бачыла, што Фрэдэрык любіць малодшага брата, і ўжо за адно гэта палюбіла яго, польскага намесніка папы. Алена не любіла шматлюдных баляў — і кардынал не любіў. Яму даспадобы было вузкае сямейнае кола, на сямейных абедах ён быў у цэнтры ўвагі. А цэнтрам яго ўвагі была яна, братавая. З ім было цікава. Ён не мінаў выпадку праверыць Аленіну адукаванасць і на філасофскія тэмы размаўляў з ёй па-грэчаску і па-лацінску, толькі яны валодалі гэтымі мовамі.

Кардынал пачаў проста, зразумела выкладаць вучэнне Аўгусціна, найвялікшага з айцоў хрысціянскай царквы, аўтара двухсот кніг. Алена чула пра Аўгусціна, але праваслаўная царква шырока не прапагандавала яго вучэнне.

У сваім узросце, пры беднасці на кнігі ў Маскве, Алена так глыбока ў філасофію не акуналася. І ёй было вельмі цікава слухаць пра пошукі вялікага вучонага, прарока сэнсу жыцця, сэнсу веры. Як

жыць? У чым ісціна? Адкрыццё загадак быцця, драматызм барацьбы святога з уласнымі сумненнямі, пераадоленне сумненняў і спакус жыцця, тонкае веданне чалавечага сэрца, любоў да людзей, якія змагаюцца са змрокам і злом, мастацкае жывое пачуццё прыроды — усё гэта захапіла маладую жанчыну. Усхваляваў расказ, як малады Аўгусцін адрокся ад разгульнага юнацтва, пакахаў адну жанчыну і быў верны ёй усё жыццё. Казкай для Алены гучаў расказ, як настойліва Аўгусцін вучыўся, як авалодваў філасофіяй вялікіх язычнікаў — грэкаў, егіпцян, рымлян — і як доказна пасля абвяргаў усе іх матэрыялістычныя пастулаты. Перад прагнай да навукі вялікай княгіняй разлівалася цэлае мора ведаў, у якім да таго яна хіба што толькі памачыла падэшвы ног, не больш таго. Раскрываліся антычныя шукальнікі мудрасці, пра якіх яна так мала ведала, — Сакрат, Платон, Цыцэрон, Сенека. А Аўгусцін у пошуках ісціны глыбока вывучыў іх.

Яна ажно зайздросціла кардыналавай адукаванасці, яе духоўнікі таго не ведалі.

Малады Аўгусцін верыў цыцэронаўскаму перакананню, што адзіная крыніца дабра і шчасця — веды. І Алена часта думала гэтак жа, але калі сказала свайму спаведніку, Фама назваў гэта ерассю. Кардынал так не лічыў, кардынал верыў Аўгусціну, які сцвярджаў, што толькі прасветленая душа можа прыйсці да сапраўднай веры. Уразіла, як Аўгусцін прыйшоў да Ісуса Хрыста. Аўгусцін сцвердзіў: толькі два аб'екты варты глыбокага пазнання — Бог і Душа.

О, як гэта было сугучна Алеcivilіным думкам!

— Неаплатанізм навучыў Аўгусціна, як адкрыць найвышэйшую ісціну, паказаў шлях да яе, — вёў сваю аповесць Фрэдэрык, і была гэта не пропаведзь святара, а лекцыя разумнага настаўніка, якой Алена яшчэ ніколі не чула. Ад яго навучыўся прарок пазнаваць прыроду бажаства. Супярэчнасць паміж дабром і злом, якую, здавалася, немагчыма было вырашыць, Аўгусцін прымірыў. Ён даказаў, што няма ў свеце чыстага зла, а зло ў чалавеку ёсць адхіленне свабоднай волі яго ад Бога — аддаленне ад сапраўднага быцця ў быццё недасканалае, у небыццё. Аўгусцін абгрунтаваў вучэнне аб бяссмерці душы. Вывеў, што вечнасць розуму патрабуе вечнасці яго носьбіта і асновы яго — душы.

Як разумна! Супраць гэтага не могуць запярэчыць ні Макарый, ні Фама. Шкада, што яны не пачуюць.

— ...Калі чалавек упадае ў пачуццёвасць, то адпадае ад Бога, губляе быццё: так зрабіў д'ябал — сам утварыў грэх і спакусіў людзей.

Гэта прагучала дакорам Алене. Яна падумала, што апошні час жыве пачуццёвасцю, каханнем да Аляксандра. Але хіба ж гэта грэх? Ад такога граху яна не адмовіцца!

— ...Аўгусцін вучыць, што вызваленне ад грахоўнасці, уступленне ў вечнасць магчымы толькі ў іншым жыцці, замагільным.

Гэтага Аленіна душа не прымала. Яна верыла ў тагасветнае жыццё. Але яна не прыняла, што ў гэтым жыцці ўсе ўпадаюць у грэх, што і сама яна грэшніца, і дзеці яе будуць грэшныя, хоць гэтаму вучыла і грэчаская царква.

Але тут жа думка, з якой Алена не магла не пагадзіцца — о, яе мяцежная, раздвоеная душа! — думка з Аўгусцінавага «Града Божыя»: «Свет патануў у зле. Ад гэтага чэрствы зямныя ўзнімаюцца і падаюць, кідаюцца, сутыкаюцца, ваююць, узаемна разбураюць адно аднаго, а таму ідуць да лёсу ўсяго грахоўнага — да смерці. Але вышэй за іх жыве і развіваецца Богам створанае чыстае царства, у якім раскрываецца дабро — дабро чалавечых душ. Царства гэтае, расшыраючы сваю магутнасць, аб'ядноўваючы чалавецтва, пазбаўляючы яго ад віхураў і пакут, праіснуе да таго часу, пакуль існуе свет, каб потым уліцца ў вечны мір Нябеснага царства».

Але на трэці ці чацвёрты дзень філасофскіх размоў Алена насцярожылася.

Фрэдэрык пачаў гаварыць аб царкве. Усяленская кафаліцкая — адзіны носьбіт вучэння Хрыста. Было ўжо слова «каталіцкая» — кардынал не ўжыў яго, і «рымская» — не ўжыў, а Алена ведала, што так — кафаліцкая, саборная — называлася ўсяленская хрысціянская царква да расколу на заходнюю і ўсходнюю.

Кардынал вёў з глыбокай пераканананасцю:

— Толькі ў ёй, у гэтай царкве, ажыццяўляецца сапраўдная апостальская вера, толькі ў ёй таінства мі іерархічнай пераемнасці перадаецца ўсё, што трэба для ўратавання чалавечага роду.

«Кафальная і іерархічная пераемнасць», якая можа ўратаваць чалавецтва, і збянтэжыла набожную вялікую княгіню. Выходзіць, усёмагутная ўлада папы, які трымае, што ў аброці, усіх каралёў і кардыналаў, можа ўратаваць яе грэшную душу. О, не! З гэтым яна не згодзіцца. У законе, якому яна паклялася быць вернай да смерці, такога няма. Яе вера не прымушае цалаваць пантофлю папы ці патрыярха.

Кардынал мог бы дамагчыся большага — пасеяць у яе душы зерні няхай не веры — філасофіі гэтай веры, каб не зрабіў тактычныя памылкі. Спяшаўся служка. Але самая вялікая памылка яго была ў тым, што для націску на веру праваслаўнай княгіні, для таго, каб

перахрысціць яе ў сваю веру, ён прыцягнуў на сваю дапамогу малаадукаваную маці і сясцёр.

Фрэдэрык зноў гаварыў разумна, глыбока, цікава — на гэты раз больш пра апостала Паўла, пра яго пасланне рымлянам.

— Кожны з нас павінен дагаджаць бліжняму, на дабро, дзеля навучання... Бог жа цярпення і суцяшэння ды даруе вам быць у адзінадумнасці паміж сабою, па вучэнні Хрыста Ісуса.

Маці «біла ў лоб». Яна многа разоў паўтарала:

— Адзін статак — адзін пастыр, так вучыць святы апостал.

Алена не сумнявалася, што каралева не знае, які апостал так сказаў. Гэта ж, што папугайкі, паўтаралі залоўкі. Эльжбета націснула больш канкрэтна:

— Калі вялікі князь і вялікая княгіня рознай веры, у дзяржаве не будзе ладу.

Алена адказала:

— У нас з Аляксандрам найлепшы лад.

Такое сцвярджэнне схізматычкі настроіла маці супраць сына: заваражыла ведзьма сваімі чарамі сыночка яе.

Алена не аспрэчвала іх. Упачатку, калі размова здалася ёй філасофскі-асветніцкай, яна спрабавала... не, не пярэчыць — проста спрабавала асобныя пастулаты вытлумачыць так, як разумее іх яна. Але калі ўцяміла, што ва ўсёй гэтай увогуле цікавай размове, якая цягнецца колькі дзён, ёсць хітрая і злая мэта — вымусіць яе перайсці ў рымскую веру, то змоўкла. Спрачацца з кардыналам, даказваць яму перавагу грэчаскай галіны хрысціянства? Наіўна. Яе веданне гісторыі рэлігіі, філасофіі, канонаў царквы будуць дзіцячым лепетам перад глыбокімі аргументамі незвычайна высокаадукаванага тэолага. Дагэтуль яна ні з кім не вяла рэлігійных дыспутаў, тым больш з прадстаўнікамі іншай веры, зрэдку хіба папраўляла братоў і сясцёр, якія ленаваліся вывучаць так закон Божы, як вывучала яна. З глыбокай удзячнасцю і пяшчотай падумала пра мужа, які першы дзень паслухаў размову і больш не прысутнічаў на іх — займаўся дзяржаўнымі справамі. Але не за гэта Алена была ўдзячная яму — за тое, што за паўгода жыцця ён ні словам, ні дзеяй не абразіў яе веры і тым больш не зрабіў і маленькай спробы прымусіць яе прыняць рымскія законы. Такія спробы рабілі Табар і, як ні дзіўна, праваслаўны Сапега.

І вось які наступ на яе! — ледзьве не ўсёй каралеўскай сям'ёй. На адну яе, безабаронную. Няма ні Макарыя, ні Фамы, якія памаглі б ёй. Ды хто іх запросіць — сямейная размова! Добранькая сямейная! Чацвёра — на адну. Сам кардынал. Разумны кардынал, вельмі адукаваны, такі можа і папскі прастол заняць.

Маўчанне яе сямейка вытлумачыла па-свойму. Узбадзёрыліся, узрадаваліся, бо лічылі, што перамаглі. Маці-каралева так лічыла і яе дурнаватыя дочкі. Фрэдэрык выказаўся больш асцярожна, але і ён цешыў сябе ўпэўненасцю, што калі цалкам не пераканаў Алену, то пасеяў у душу яе зерне сумнення наконт праваслаўя і яшчэ буйнейшыя зерні філасофскай перакананасці ва ўсёмагутнасць ісціннай веры.

У наступныя дні кардынал не ў доўгіх расказах, а як бы між іншым, у час снедання, абеду, у прысутнасці брата замацоўваў дасягнуты, на яго думку, поспех, не пропаведзямі, настаўленнямі — уражальнымі апокрыфамі. Аднойчы нават успомніў запаветы Еклесіяста, якія Алену здзіўлялі сваёй загадкавасцю і супярэчлівасцю. Фрэдэрык падкідваў сваім слухачам і такое — няхай думаюць:

— Што карысці чалавеку ад усіх прац яго, якія робіць ён пад сонцам?

Каму гэта — вялікаму князю?

— Усе рэкі цякуць у мора, але мора не перапаўняецца...

«А гэта каму з нас?» — напружана думала Алена ў той час, як маці захаплялася не мудрасцю Еклесіяста — мудрасцю сына.

— Што было, тое І будзе; што рабілася, тое і будзе рабіцца, і няма нічога новага пад сонцам.

— Былі войны і будуць войны? — у адказ на гэта спытала Алена.

Свякроў ажно папярхнулася ад дзёрзкасці яе і святатацтва: абвяргае святое пісанне — жах!

Залоўкі нічога не зразумелі.

Аляксандр насцярожыўся: што адкажа брат?

Алена неаднойчы казала пра вечны мір, але вялікі князь шчыра прызнаваўся, што не верыць ён у такі мір, што войны будуць да сканчэння свету.

Фрэдэрыка збіць з панталыку немагчыма было.

— Ёсць запаветы збавіцеля нашага Ісуса Хрыста. Калі ўсе людзі прымуць іх не толькі розумам, але і душой і аб'яднаюцца ў адзінай веры, тады ўвальёмся мы ў вечны мір Нябеснага царства, як вучыць святы Аўгусцін.

— Прашу Ваша свяшчэнства прыслаць мне «Град Божы».

Аляксандр ззяў перад сваімі: во якая ў яго жонка! Усё ведае, ён, грэшны, нават не чуў пра такую кнігу.

— Абавязкова прышлю, дачка мая.

Расла ў кардынала і маці яго ўпэўненасць, што недарэмна яны ехалі па спякоце семсот вёрст, недарэмна так настойліва адукоўвалі гэтую авечку, што заблудзілася ў трох соснах. Выведуць яе на

шырокую дарогу адзінай сапраўднай веры, уратуюць грэшную душу, зробяць аднавернай служкай сыну іхняму і брату.

Дні праз тры каралева Эльжбета сама прыйшла ў пакоі да Алены і папрасіла правесці яе да касцёла.

— Сёння дзень святога Станіслава. Месу служыць сын мой. Ядвіся і Марыся даўно пайшлі. А ў мяне балела галава. Ах, дзіця маё, ты не знаеш, як у старых баліць галава!

Алена адразу здагадалася пра план яе: націск не словамі — дзеяй. Але ахвотна згадзілася правесці свякроў. Да касцёла хады крокаў дзвесце. Ішлі не спяшаючыся. Узрадаваная каралева, верачы ў сваю перамогу, выяўляла незвычайную ласкавасць да нявесткі.

Перад дзвярамі касцёла спыніліся. Эльжбета не адразу зразумела сэнс супынкі. Перахрысцілася на абраз святога Станіслава на франтоне храма.

Алена сказала па-польску, па дарозе ў думках прарэпеціравала, каб сказаць правільна:

— Яснавяльможная пані каралева, маці мая, прашу прабачыць, але я пайду ў сваю царкву. Сёння дзень роўнаапостальскай Вольгі, вялікай княгіні расійскай, у хрышчэнні Алены. Вялікае багаслужэнне. Далей вас праводзіць Ксенія...

Ксенія праводзіла іх. Ксенія прыслужвала каралеве, і тая любіла маладую жанчыну за тое, што яна хрысцілася і вянчалася па каталіцкім абрадзе. Усё роўна старая манархіня пасінела.

Алена разумела, што нажывае незвычайнага ворага, але адступіць ад сваёй веры, ад сваіх прынцыпаў не магла.

Праз тыдзень сям'я Ягелончыкаў адбыла з Вільні.

Развіталіся з Аленай холадна — свякроў, залоўкі. Толькі разумны кардынал ніводным словам, ніводным рухам не выдаваў сваёй незадаволенасці, па-ранейшаму быў уважлівы, ласкавы, спытаўся, якія яшчэ кнігі ёй прысլаць, наказаў брату кахаць і песціць вялікую княгіню.

— Бог падараваў табе шчасце, Аляксандр. Беражы яго. Благаслаўляю вас, дзеці мае.

Маці ледзьве не самлела ад гэтых слоў кардынала. Толькі высокі духоўны сан уратаваў яго ад суровай матчынай праборкі. Усю злосць сваю яна спагнала на Аляксандру, вялікаму князю добра такі папала. І ён стрываў: маці ёсць маці, ёй нельга пярэчыць, тым больш: злавацца на яе, ды яшчэ тады, калі яна прыехала ў госці.

Але калі картэж экіпажаў ад'ехаўся, Аляксандр перахрысціўся. Прысутныя падумалі, што вялікі князь моліцца за шчаслівую дарогу сваіх блізкіх.

Алена добра зразумела: гэта ўздых палёгкі. Ёй таксама хацелася перахрысціцца, але яна стрымалася: грэшна радавацца ад'езду сваякоў. Але з душы яе што камень зваліўся. Які б не быў прыветлівы кардынал, але яго націск на яе — менавіта яго! — цяжка гнёў яе, вярэдзіў душу, блытаў думкі. Упершыню яна адчула магутную сілу каталіцкай філасофіі, каталіцкай пропаведзі.

«На вялікі жаль, праваслаўныя так не ўмеюць, — думала Алена. — Як гэта ўстаяў перад Рымам хрысціцель Русі святы князь Уладзімір? Не дабраліся да Кіева? Ці пяцьсот гадоў назад яшчэ не ўмелі гэтак? Не, не было патрэбы, бо тады грэчаска-візантыйская вера так выразна яшчэ не вызначылася».

Узяла мужаву руку, закахана і ўдзячна паціснула і сказала:

— Добра ён мяне адукаваў, швагер. І прышле кнігі.

Аляксандр паглядзеў на жонку са здзіўленнем і... няпэўнай надзеяй.

— Чаму ты не сказала гэтага маці?

— Маці не хацела слухаць, — і пасля паўзы: — І не можа зразумець...

— Чаго зразумець?

— Мяне.

Аляксандр засмяяўся:

— О, мая княгіня! Цябе не проста зразумець.

— Аднак ты ж разумееш, мой вялікі князь. Ты разумееш. Бог даў табе праніклівы розум.

Матчын гнеў трохі настроіў князя супраць жончынай фанатычнай упартасці. Словы яе разбурылі гэты яго настрой. Каб не людзі вакол — ох, як ласкава і прагна пацалаваў бы ён сваю княгіню, у якую, раўніва здалося яму, нават брат яго, кардынал, прыняўшы запавет бязшлюбнасці, закахаўся: як глядзеў святар на яе! Як не шкадаваў часу на размову з ёй! Пэўна ж, не толькі ад таго, што хацеў схіліць на веру сваю. Такая жанчына любога зачаруе — самога папу.

У карэце Аляксандр абсыпаў шчокі і рукі Алены пацалункамі. Прысутнасць гасцей пакідала яму хіба ночы. А ён хацеў і ўсе дні быць з ёй, ездзіць у Поплаў на будаўніцтва летняга палаца, цалаваць яе пад бярозамі. Якія яны смачныя, пацалункі пад бярозамі! І якія запамінальныя! Начныя так не запамінаюцца.

6

Баярын Васіль Рамаданоўскі, які прыехаў у Вільню на змену высланым рускім, меў зусім іншы характар, чым князь Рапалоўскі. Сталы набожны чалавек. У шынок нават для цікавасці не заглянуў,

хоць горад вывучыў да драбніц. Ведаў усе цэрквы, манастыры, не толькі праваслаўныя, але і каталіцкія. У апошніх цікавілі яго бібліятэкі. Сядзеў у іх з раніцы да вечара. І ў замкавую бібліятэку заглядваў. Але кожны раз прасіў у вялікай княгіні дазвол. Яго пачцівасць нават бянтэжыла Алену. Свой чалавек, пасол бацькі, але да жыцця яе, да клопатаў яе баіцца і датыкнуцца. Князь Семяон лез, куды і не прасілі, куды не трэба было. Той мог пасварыцца з літоўскімі панамі, нават пагразіць ім:

— Дабярэцца да вас гасудар усея Русі.

Рамаданоўскі мала каго і знаў з літоўцаў. Такая ж была і жонка яго баярыня Сінкліцыкія. Яна наведвалася да Алены часцей, але дзеля таго, каб пайсці ў царкву, разам памаліцца. Малілася яна горача, і гэтым падабалася Алене, бо давала добры прыклад; сябе вялікая княгіня дакарала за тое, што за турботамі па будаўніцтву палаца, з-за паездак, сустрэч, баляў яна забывае часам памаліцца. Пра свецкія справы гаварыць з баярыняй было нецікава, хіба што ўспомніць Маскву, блізкіх, знаёмых. Ды Сінкліцыкія і на людзей малілася. Алена ж мела больш крытычны розум і магла пра некаторых сказаць з гумарам, а то і зусім уедліва. І дома была такая, а ў Вільні яшчэ больш: такое было акружэнне. Першая пані вялікай княгіні Зося Заслаўская-Радзівілава вельмі ж любіла папляткарыць, усе навіны перадавала: хто да каго заляцаецца, хто мае тайную сувязь, хто як жыве з жонкай ці мужам. Ды і канцлер быў красамоўны, плёткі ён не перадаваў, але, як казаў Аляксандр, мог загнаць «вожыка ў мазгаўню» гэтак знячэўку, быццам ненаўмысна.

Паны-католікі, акрамя хіба біскупа, рабілі візіты да вялікай княгіні нячаста. Праваслаўныя любілі яе. Найчасцей наведваўся князь Канстанцін Астрожскі. Яго візіты хвалявалі і страшылі. Алена бачыла, што яна падабаецца князю. А каму яна не падабалася? І гэтая ўвага мужчын хвалявала, як хвалюе кожную жанчыну, і страшыла. Страшыла тым, што яна міжволі параўноўвала Канстанціна з Аляксандрам. А гэта ўжо грэх — параўноўваць чужога мужчыну з родным мужам, няхай той мужчына будзе хоць сам Апалон. Астрожскі не быў Апалонам. Нізкі ростам, непаседліва-рухавы... Але прывабны тварам і... цікавы субяседнік. Слухаеш яго — не наслухаешся. Нават пра самыя мужчынскія справы — вайсковыя — умеў расказаць забаўна. І заўсёды трохі з гумарам, пра ўласныя подзвігі — з гумарам, без пахвальбы. Расказваў, як літоўцы пад Пінскам уцякалі ад татар і залезлі ў такое балота, што пасля тыдзень выбіраліся. Хто з рыцараў пра такі подзвіг расказаў бы?

Але ў хуткім часе Алена, не без шкадавання, прымала Астрожскага толькі ў прысутнасці канцлера, баярыні Сінкліцыкіі або Зосі. А вінаватая якраз была яна, гэтая языкаватая першая пані — пачала адпускаць непрыгожыя жартачкі, хітранькія ўсмешачкі. За такое любая вялікая княгіня ці каралева выставіла б прэч такую фрэйлін. Добрая Алена вытрывала, ахвяравала сваім маленькім задавальненнем — пагутарыць з прыемным чалавекам.

...Рамаданоўскія мала з кім з літоўцаў мелі адносіны, агульныя справы. На абедах і балях трымаліся сціпла, непрыкметна, далей ад цэнтра — вялікага князя, княгіні, іх акружэння, а яно, акружэнне, заўсёды было шчыльнае: дзе яшчэ вось так проста пагаворыш з уладаром?

І раптам... не Сапега — сам Аляксандр ашаламіў Алену.

— Скажы ты мне, Гэля, хто такі Рамаданоўскі?

— Як хто? Баярын. Пасланец бацькі майго. Каб памагаў мне...

— І чым ён займаецца?

Алена засмяялася.

— Алекс, ты задаеш цяжкае пытанне. Я знаю адно: у нашай бібліятэцы і манастырскіх ён вывучае свяшчэнныя кнігі.

— Свяшчэнныя?

— Не знаю. Мажа, трагедыі Эсхіла, Сафокла ці камедыі Арыстафана. Як я. Ці авалодвае сакрэтамі рыторыкі. Яму гэта не пашкодзіла б, бо чаго-чаго, а красамоўства яму не хапае.

— Гэта так — маўчун, з ім не разгаворышся. А навошта ён чэрціць план Вільні?

— План? — здзівілася Алена. — О, ён дапытлівы. А хіба гэта грэх?

— Любімая мая, ты не знаеш таямніц ваеннай гульні. Паны рады падазраюць баярына ў самым страшным.

— У шпіянажы?

— Ты разумніца — здагадлівая.

— Ды глупства гэта, Алекс! Баярын і на войны не хадзіў.

— Але паспрабуй даказаць пільным ваяводам. Гэля, уратавальніца мая, папрасі баярына ціха пакінуць Вільню. Бо калі мае паднімуць гвалт і выдвараць яго за шпіянаж — ох, як гэта ўзлуе бацьку нашага Івана Васільевіча. А ён ужо і без таго выказвае незадавальненне зяцем сваім. Яго апошнія пісьмы...

— Ах, Алекс, я ведаю ўпартасць гасудара. Ён хоча, каб усё, што ў дамове, выконвалася. Царква... Яго хвалюе царква. Я напісала маці. Маці зразумее і пераканае бацьку. Не будзе ён азмрочваць наша шчасце з-за таго, што не будуецца царква. Я напісала, што гэта,

можа, нават грэх — храм для аднаго чалавека. Кардынал Фрэдэрык, брат твой, казаў пра гэта. Да храма павінна быць торная дарога. Адзін чалавек павінен маліцца ў келлі.

— Гэля, вызвалі мяне ад размовы з баярынам.

— О, мой вялікі князь! Я гатова ўзваліць на свае плечы ўсе твае клопаты. Але што сказаць яму — не знаю.

— Ты прыдумаеш. Ты разумная.

— Ах, які розум у кабеты? Так па-польску? Рускія кажуць: у бабы волас доўгі, а розум кароткі.

— Розум не павінен быць доўгі. Ён — глыбокі.

— Ён круглы, — засмяялася Алена. — Недарэмна Бог зрабіў нашу галаву круглай.

«Прыдумаеш» — лёгка сказаць. А што прыдумаць, каб не пакрыўдзіць добрага чалавека і ў той жа час даць яму зразумець, што ён непатрэбны больш? Самае лёгкае сказаць: «Пайшоў прэч!», як кажуць рабам. Але баярын не раб і... служка не яе — гасудара ўсея Русі. Але ў гэтым і ўся цяжкасць: выдварэнне — абраза яго, гасудара, бацькі яе.

Дні тры Алена думала. Разумела — цягнуць нельга. Калі паны пусцілі такую чутку, яны могуць пачаць і дзеянні: у гэтай дзіўнай дзяржаве, якую яна палюбіла, шмат што робіцца і без згоды ўладара, і нярэдка не ўладар змушае паданных сваіх, а рада змушае вялікага князя, і ён мусіць лічыцца з панамі і не абражаецца. Уяўляла, якую буру ўзняў бы Іван Васільевіч, каб хто адважыўся пярэчыць яму. Вялікі Ноўгарад не скараўся, дык ён паслаў на яго сілу.

Не, дарэмна яна так на бацьку! Бацька добра ўмее слухаць разумныя парады. Ён нават з дзяцьмі сваімі раіўся. Васіля з дванаццаці гадоў у паходы бярэ. І ўнука Дзмітрыя.

Алена не першы раз ужо лавіла сябе на тым, што калі сумуе па блізкіх, то менш па бацьку, па маці — які грэх! — больш па сёстрах і братах, па пляменніку-сіраце. Дзмітрыя асабліва любіла, хоць маці яго, цёзку сваю Алену, бесклапотную малдаванку, не любіла, лічыла, што ўдава не шануе памяць нябожчыка мужа. Яна ж, Алена, за спачын душы брата свайго па бацьку малілася часцей, чым за іншых блізкіх, якія перасяліліся на неба.

У віхуры думак і перажыванняў тварыла размову з Рамадаоўскім і ніяк не знаходзіла мяккіх подступаў. Хіба пагаварыць спачатку з баярыняй? Не, да Сінкліцыкіі намёкі не дойдуць, ёй прыйдзецца тлумачыць найпрасцейшыя рэчы. Алена не любіла размоў з людзьмі, якім трэба разжоўваць, каб яны нарэшце ўцямілі што да чаго. Яна ўмела думкі людзей лавіць з паўслова.

Рамаданоўскі з'явіўся пакорлівы і бадай спалоханы; ён быў з ліку людзей, якіх кідала ў дрыжыкі, калі іх выклікалі ўладары.

— Баярын, як вам жывецца тут?

— Дзякую, вялікая княгіня. Твае клопаты...

— Баярыня Сінкліцыкія неяк прагаварылася, што ёй абрыдла тут.

— Баярыня не служыць. А я служу.

«Божа мой! Каму ён служыць? Мне? Што робіць? Ён лічыць за службу састаўленне плана? У такім разе міжволі падумаеш немаведама што».

— Васіль Андрэевіч, навошта вам план Вільні?

Рамаданоўскі насцярожана ўскінуў галаву, як нарыхтаваўся абараняцца.

— Алена Іванаўна, у кожнага чалавека свае дзівоцтвы. Я люблю планы. Я саставіў план Масквы, Разані, сваёй вотчыны... Кожнае сяло, рэчкі, ручаі, лес поле... усё занёс на пергамент.

Такому прызнанню Алена не магла не паверыць. Такое дзівоцтва і ў яе ёсць — незвычайнае жаданне вывучыць старажытную Грэцыю: мову, філасофію, паэзію, трагедыі, скульптуры. Маці тлумачыла: кроў візантыйскіх імператараў. Аляксандра здзіўляе гэтая яе прага да грэчаскіх кніг — ажно калоціць яе кожная новая кніга, статуя; ён паслаў у Італію купцоў, каб купілі для яе калі не арыгіналы, то хаця б копіі старажытных статуй.

— Баярын, а ці надумаў ты, што не ўсе зразумеюць твае «дзівацтвы»?

Рамаданоўскі пабялеў:

— Яны лічаць мяне шпіёнам?

«Разумны ж чалавек. Здагадлівы».

Алена паднялася з крэсла, ступіла да яго. Баярын, ашаломлены, не адразу сцяміў, што і яму трэба стаяць перад вялікай кягіняй. Падхапіўся, збянтэжаны.

— Яны лічаць, — ціха сказала гаспадыня. — І ты падумай... Калі яны агалосяць сваю бязглуздзіцу. І выдвараць вас з баярыняй... Да кары я не дапушчу... Але ўсё роўна як гэта ўскладніць адносіны цесця і зяця, бацькі майго і мужа. Пашкадуй мяне, баярын.

— Я разумею, гасударыня.

Алена адышла да акна, паглядзела на званіцы блізкіх цэркваў і касцёлаў. Стаяць па суседстве. На гэта, між іншым, звярнуў яе ўвагу Іван Сапега: стаяць побач і будуць стаяць, пакуль веры не аб'ядна-юцца; не адразу Алена сцяміла, да чаго падводзіў канцлер.

— Я адсылаю сваіх служкаў — пісара, стольніка, кухараў... Я даручаю табе, баярын, давезці іх да Масквы жывымі і здаровымі. Князь Рапалоўскі страціў многа людзей, вечная ім памяць. Непачціва напісаў мне, па сутнасці вінавацячы мяне ў смерці гэтых людзей. Але пра гэта, баярын, нікому не кажы. Нават баярыні. Гасудару — ні слова.

— Буду што рыба.

— Заўтра прашу вас з баярыняй Сінкліцыкіяй на абед да нас.

— Дзякую, вялікая княгіня.

Баярын схіліў сівую ўжо галаву ў нізкім паклоне.

7

Ксенія не з'явілася, як заўсёды, памагчы гаспадыні сваёй адзецца. Замест яе прыйшла Марфа. Матчына заклапочанасць устрывожыла Алену.

— А дзе Ксюта? Што з ёй?

— Ах, вялікая княгіня!

— Нянечка, не заві мяне так. Дамовіліся ж. Для цябе ўся тая ж... Алена.

— Дзіцятачка маё, баюся я, каб вялікі князь не ўгневаўся.

— Я сказала яму.

— А Ксютка... Што можа быць з Ксюткай!.. Ванітавала яе пасля снедання...

— Што яна з'ела нядобрае?

— Ах, Аленачка. Нічога яна не ела нясвежага. Наша хвароба... бабская. Цяжарная яна. Дзіця ў яе будзе.

— Дзіця? — Алена ашаломлена застыла, стоячы ў адной сарочцы.

— А што ж тут дзіўнае! Тры месяцы як замужам.

Нічога дзіўнага. Нічога... Але для яе, Алены, гэта больш чым дзіўна. Адкрыццё такое ўміг, што бура, узвіхрыла тыя пачуцці, якія яшчэ спалі ў ёй. Як? Чаму? Ксютка ўсяго тры месяцы замужам — і ў яе ўжо дзіця! А яна ўжо восем. Восем месяцаў! Па законах прыроды, па волі Бога яна павінна была ўжо рыхтавацца стаць маці. А яна ўсё такая ж — што плотка: тонкая, гнуткая. Чаму? Яе шмат чаму навучылі маці, настаўнікі-грэкі. Самаму галоўнаму для жанчыны вось гэтаму — вучыла, бадай, найлепш нянька. Але, выходзіць, і яна недавучыла? Чаму ў яе няма дзіцяці? Калі будзе?

Усхвалявала гэта, моцна ўзрушыла — ледзьве не да ліхаманкі. Нянька пачула гэтую яе ўсхваляванасць, зразумела яе, пашкадавала сваю каралеву, у той жа час па-матчынаму эгаістычна парадавалася, што ў яе роднай дачкі ўсё як у людзей. Але самага галоўнага Марфа

не магла зразумець. Алене паравярнула душу думка, чаму так доўга ў яе не зараджаецца дзіця. Яшчэ больш ашаламіла, што дагэтуль яна не думала пра яго. Жыла ў шчасці, у раскошы, у радасці, задавальняла грэшную плоць сваю і... забылася на душу. А гэта — грэх. Гэта вялікі грэх — усё аддаваць плоцкай асалодзе.

— Я грэшная, я грэшная...

— Што ты шэпчаш, дзіця маё?

— Бог карае мяне, Марфа.

— За што ён цябе карае?

— Я грашыла.

— Дзе ты грашыла?

— Тут... у гэтым ложку.

Тады да Марфы дайшло, што творыцца ў душы яе выхаванкі.

— З мужам не грашаць, Алена! Выкінь з галавы, княгіня!

А Алена, чырванеючы ад карэньчыкаў валасоў да саскоў грудзей, успомніла, што разы два тут, у ложку, яна падумала пра князя Астрожскага. О, Божа, які грэх! І Бог чуў яе думкі!

Марфа супакойвала.

— У Святым пісанні сказана: якая любіць свайго мужа, тая любіць самую сябе.

Алена на міг ажно павесялела: хараша нянька можа супакойваць.

— У апостала Паўла сказана: хто любіць сваю жонку...

— Дык усё роўна, Алёначка. Хіба жонка не чалавек? Ты любіш свайго Аляксандра, то любі і сябе.

— Я кахаю Аляксандра, я кахаю. Але, можа, я задужа люблю сябе, нянька?

— Божа мой! Сказала бы ты гэта каму. А я знаю цябе з першага твайго крыку — як ты абвясціла, што з'явілася на свет Божы. І жыла ты ў ім анёлам. На табе парушыначкі няма якой нядобрай. Ты ўся чысценькая, безгрэшная, што Дзева Прачыстая.

— Чаму ж Бог не дае мне дзіця?

— Дасць, Алёначка, дасць. У цябе ж усё добра. Я мяняю тваю пасцельку...

Толькі перад Марфай Алена не саромелася, калі тая гаварыла пра чалавечыя, дзявочыя, жаночыя праявы яе цела, здаровыя і хваравітыя, — пра месячныя, панос, запор, болі ў жываце. Маці роднай саромелася сказаць пра гэта. І мужа саромеецца.

А ўвогуле, будучы адукаваным чалавекам для свайго часу, Алена многа знала пра жыццё душы і мала — пра жыццё цела, плоці. Не было ні ў Маскве, ні ў Вільні настаўнікаў, якія навучылі б яе фізіялогіі.

Марфа супакоіла. Марфа давяла, што пяшчоты з мужам не з'яўляюцца грахом. Без пяшчот, без блізкасці не можа нарадзіцца новае жыццё. Але чаму яго няма — во загадка. А яшчэ не давала супакаення думка, як магло здарыцца, што яна амаль не думала пра дзіця. І Аляксандр толькі аднойчы пачаў размову пра наследніка. А яна са смехам, закрываючы яму рот пацалункам, запэўніла, што народзіць яму наследнікаў — не аднаго.

— Не будзеш ведаць, каму перадаць сваю вялікую дзяржаву.

Недаравальная легкадумнасць!

Размову тую яна таксама занесла ў пакуль што кароткі спіс сваіх грахоў.

На Ксенію яна ў той дзень і ў наступныя глядзела з нейкай асаблівай, не княжай, пачцівасцю — ажно бянтэжыла шчаслівую жанчыну. Але і з зайздрасцю глядзела. О Божа! Яшчэ адзін грэх!

З таго дня Алена пачала праводзіць намнога больш часу ў малітвах. Малілася дома ў палацы. У царкве Прачыстай Багародзіцы. У іншых цэрквах. Такой раптоўнай набожнасцю здзівіла нават спаведніка свайго Фаму і архімандрыта Макарыя. Здзівіўся і канцлер Сапега: вялікая княгіня як бы страціла цікавасць да спраў дзяржаўных, да спраў міждзяржаўных — маскоўскіх, польскіх, пакінула заняткі музыкай, не так старанна ўдасканальвала польскую мову. Рэдка смяялася, не так весела, залівіста, як раней, калі ад смеху вялікай княгіні святлелі твары ў самых старых і панурых вартавых палаца, кухараў, стольнікаў. Рускі кухар Серафім раніцамі падоўгу стаяў ля параднай лесвіцы, каб толькі пачуць смех княгіні, і казаў: «Смех яе — што райскі спеў, і сама яна — што сонца, якое ўзыходзіць. Пабачыш яе, пачуеш — жыць хочацца».

Словы гэтыя перадалі Аляксандру, і ён паўтараў іх і сам смяяўся, адзначыўшы, што бадай ніколі так не смяяўся, хіба, можа, у маленстве. Што робіць каханне з чалавекам! Куляцца праз галаву хочацца. І спяваць. Каб не высокі тытул яго, то, напэўна, так і зрабіў бы. Бегаў жа за ёй у Паплавах паміж дубамі. Яна дражніла: «Злаві! Злаві!» Праўда, хутка схамянуўся, спыніўся, сказаў з робленай строгасцю:

— Гэля! Не дурэй! Пабачаць людзі — што падумаюць пра вялікага князя? Здзяцінеў — скажуць. Княгіні яшчэ могуць даравць па яе ўзросце: дзіця неразумнае.

— Я — дзіця? Я — неразумная?

— Не. Ты — сама мудрасць. Багіня

Алена прымусіла мужа вывучыць усіх грэчаскіх багоў. Між іншым, біскупу Табару не спадабалася такая адукаванасць вялікага

князя: «Грэчаскае. Усё грэчаскае. Язычаскае. Паверне закаханага дурня на грэчаскую веру. Начная зязюля перакукуе любую дзённую».

Але і Аляксандр хутка адчуў перамену ў настроі жонкі. Занепакоіўся. Дні два ўзіраўся і ўслухоўваўся, стараючыся адгадаць прычыну. Ды Алена — заўсёды загадка: і ў радасці, і ў смутку. Пайшоў на адкрытую размову.

— Гэля! Што з табою? Табе нездаровіцца?

— Не, я здаровая, мой любы.

— Ты атрымала пісьмо ад бацькі?

— Мой вялікі князь! Хіба я ўтаіла ад цябе хоць адно пісьмо — ад бацькі, ад маці, ад сясцёр? Ды хіба ўладар і яго ваяводы не ведалі б пра з'яўленне маскоўскага ганца?

— Гэта так. Але з-за чаго ты такая заклапочаная?

Яна адвяла размову на іншае — што жаўцее ўжо лісце.

Яны гулялі ў Замкавым садзе па беразе Вілейкі ля падножжа Трыкрыжовай гары. Але праз хвіліну сказала як бы між іншым:

— У Ксеніі будзе дзіця.

Да Аляксандра не дайшло — мужчына! — што хвалюе яго жонку.

— І цябе непакоіць, што не стане ў цябе такой пакаёўкі? Але ж хіба надоўга? Я буду трымаць яе мужа ў ахове замка. Ён добры начальнік.

Алена стоена ўздыхнула.

— Я зайздрошчу ёй. А гэта — грэх.

Тады да вялікага князя дайшло, што хвалюе яго жонку. Ён спыніўся. Можа, упершыню думка пра наследніка гэтак моцна ўсхвалявала і яго. Але ён не ведаў, што сказаць, як супакоіць Алену. Супакоіла яна:

— Калі маці нарадзіла нас — мяне і Феадосію, а гаспадару трэба быў сын, маці пайшла на малітву ў Троіцкі манастыр. Пехатою. Босая. З манашкамі. І малілася там тыдзень Багародзіцы Троіцкай. І роўна праз дзевяць месяцаў нарадзіўся Васіль. А потым — Юрый, Дзмітрый, Семяон, Андрэй. Во колькі сыноў!

Аляксандр не быў фанатычна набожным чалавекам, верыў у цуды, якія рабіў Ісус Хрыстос, але не вельмі верыў у тыя цуды, якія адбываліся навокал у яго дзяржаве і ў суседніх нібыта па волі святых пустэльнікаў, манахаў, неяк нават скептычна выказаўся, што ні біскуп Табар, ні брат яго кардынал Фрэдэрык ніводнага цуда не зрабілі.

Алена ўжо расказвала неаднойчы пра братоў сваіх, сясцёр і пра тое, як маці хадзіла на малітву. Тады гэта была звычайная размова — дзеля азнаямлення, паход вялікай княгіні Соф'і ў манастыр — звычайны эпізод. Усе ходзяць. А цяпер гэта чамусьці моцна ўразіла.

Не малітва. А тое, што пасля малітвы нарадзілася столькі сыноў — адзін за адным.

Маці яго, набожная каталічка, таксама нарадзіла пецярых сыноў. Мабыць, таксама малілася.

У той міг Аляксандр зразумеў жонку. Вунь ён які, крык яе душы: пазайздросціла нават сваёй служанцы. Чаму ж Бог так доўга не дае ім сына? Ён жа павінен стаць вялікім князем літоўскім, рускім, жамойцкім!

— Будзем маліцца разам, мая любая. На кожную ноч... нашу ноч!

Алена адказала не адразу, пастаяла, паглядзела на рэчку — як плывуць жоўтыя лісточкі.

— Я пайду ў Полацк. У манастыр. Памалюся там.

Аляксандр аслупянеў, уражаны.

— У Полацк? Пехатою?

— А трэба толькі так — пехатой.

— Ды ты знаеш, колькі вёрст да Полацка?

— Знаю.

Вялікі князь узлаваўся на жаночую дурноту, як ён таемна падумаў.

— І я павінен даць табе дзве тысячы воінаў? Дык я не такі багаты...

— Навошта? Я пайду з манашкамі.

— Алена! Выкінь з галавы сваёй разумнай! Нікуды я цябе не пушчу! Хіба нельга маліцца ў Вільні? Вунь у Троках ёсць манастыр! У Навагародку...

— Не, я пайду!

— Не, ты не пойдзеш!

Алена заплакала.

Аляксандр разгубіўся і спалохаўся: упершыню ўбачыў жончыны слёзы. Пацалункамі асушыў іх. Прасіў прабачэння. Але вырашыў: толькі не Полацк! Цягне яе на ўсход, ці што?

Дзён колькі Алена не вярталася да гэтай размовы, але была задумлівая, засмучаная, бясконца малілася, і гэта рвала князю сэрца. Ён актыўна дзейнічаў. Параіўся з архімандрытам Макарыем, з спаведнікам вялікай княгіні Фамой, здзівіўшы іх. Яны пацвердзілі, што Полацкі манастыр — найстарэйшы. Вялікі князь скарыўся. Але з умовай: Алена паедзе, і ён паедзе з ёй. Яна не магла не згадзіцца: нельга ж прымусіць вялікага князя ісці пехатою.

Ехалі хутка, дні за тры дабраліся. Але перад Полацкам вялікая княгіня настаяла на сваім: хоць колькі вёрст пройдзе пехатою. Пайшлі

ад Вароніч. Аляксандр з ёй. Ён у ботах. Яна — босая. А быў ужо канец верасня, хоць свяціла сонца, але за ноч зямля астыла. Нязвыклая да такой хадзьбы, Алена разбіла ногі да крыві. Вялікі князь захапляўся жончынай упартасцю і адначасова захлынаўся ад жалю да яе. У манастыры сам мыў яе маленькія ножкі, перавязваў, цалаваў іх і... плакаў, не саромеючыся слёз сваіх.

## Раздзел чацвёрты

## Паміж молатам і кавадлам

I

Аляксандр нервова хадзіў па зале, ламаючы пальцы. Уся пастава яго выдавала глыбокі смутак: выцягнуўся твар, пагаслі вочы, заўсёды зоркія, адвіслі вусы.

У зале сабралася нямала людзей. Паны і, што дзіўна, хто-ніхто з прыслугі. Паны сядзелі. Чэлядзь стаяла — у кутках, каля дзвярэй. У звычайным жыцці ніхто з іх не адважыўся гэтак стаяць перад вялікім князем. Але перад смерцю ўсе роўныя. Праўда, кабеты ўздрыгвалі і схіляліся ў паклоне, калі раптам уладар спыняўся перад якой з іх. Узіраўся ў твар: пазнаваў, успамінаў — хто? Не. Хацеў пачуць словы суцяшэння. Але сказаць іх маглі хіба што Сапега ці Гаштольд. Спрабавалі, але князь адмахнуўся ад іх. Словы Марфы, па сутнасці, маці яе, ён паслухаў бы. А словы Сапегі... не верыў у іх шчырасць. Але Марфа там, у спачывальні, з ёй. І ён нядаўна быў, ды не вытрымаў — выйшаў у слязах. Не саромеўся слёз сваіх, хацеў, каб яны ліліся. Не, тут, перад людзьмі, вочы яго сухія. А пальцы трашчалі — так ламаў іх. Раздражнялі боты — скрыпелі. Але стаяць ці садзець не мог.

Сапега хацеў выгнаць прыслугу: няма ім чаго гладзець на Князева гора. Але Аляксандр сказаў:

— Няхай застаюцца!

Са спачывальні выйшаў епіскап Віленскі Іосіф, мажны стары з сівой барадой і ружовымі, як у дзяўчыны, шчокамі. Прыцііскаў да грудзей залаты крыж і малітоўнік у сярэбранай абкладцы.

Аляксандр ступіў да святара. І ўсе скіравалі позіркі на яго, чакаючы слоў суцяшэння.

Іосіф цяжка ўздыхнуў.

— Спавядацца раба Божая Алена не можа — у непрытомнасці. Прычасціў яе, — перахрысціўся: — Дзеля таго молімся Табе, Безначальнаму і Бессмяротнаму Ойцу, і Адзінароднаму Твайму Сыну,

і Прасвятому Твайму Духу... — І не па малітве — ад сябе: — Прымі душу грэшную рабы тваёй...

— Не грэшная яна! Не! Святая! — уладна запярэчыў вялікі князь.

Але епіскап як бы не пачуў і не звярнуў увагі, прадоўжыў пісаную адыходную:

— Уладыка Госпадзі Божа, пачуй мяне грэшнага і недастойнага раба Твайго, у гадзіну гэтую, і выведзі рабы тваёй Алены нясмертныя яе хваробы і ўсе яе горкія немачы і супакой яе...

Аляксандр не вытрымаў і гнеўна загаварыў:

— Не вый, першасвяшчэнны! Не кліч смерці! Не адпявай. Яна яшчэ жывая! Жывая! І будзе жыць! Такая мая княская воля!

Епіскап цяжка ўздыхнуў:

— Ёсць воля Божая, — і з выглядам абражанага пайшоў да выхаду з палаца: маўляў, я сваю справу зрабіў — прычасціў рабу Божую, што адной са мной веры, і адыходжу, а вы, каталікі, рабіце што хочаце.

А ў гэты час у Вавелі на шырокім ложку задыхалася каралева Эльжбета. Яе душыла астма. Але каралеве было за семдзесят, а вялікай княгіні ўсяго дваццаць тры.

Каралева паклікала сына свайго — кардынала. Сказала пасвойску:

— Спавядай мяне, Фрэдэрык. Адпусці грэх. На мне вялікі грэх, сын мой. Я пажадала яе смерці.

Фрэдэрык пабляднеў, Эльжбета ўбачыла яго бледнасць і смяртэльна спалохалася. Кардыналу не трэба было ламаць галаву, чыёй смерці пажадала маці-каралева. Сёння прыскакалі ганцы з Вільні. Не брат яго, а біскуп Табар паведамляў аб цяжкай хваробе вялікай княгіні. Паведамляў з глыбокім смуткам — на словах, але паміж радкамі кардынал прачытаў задавальненне свайго намесніка і абурыўся; у яго былі асаблівыя адносіны і пачуцці да братавай, хоць бачыў яе за тры гады ўсяго два разы; яна была зямным ідэалам яго, анёлам, яна засцерагала яго ад грэшных думак, бо думкі пра яе заўсёды чыстыя і светлыя, і думкі такія, можа, адзіная радасць яго зямная.

— Яснавяльможная маці мая, неадкупны грэх узяла ты на душу сваю. Пакайся. І маліся. Маліся, мама. І я буду маліцца, каб Бог дараваў табе грэх твой.

Стаў на калені перад абразом Маткі Боскай, што вісеў тут жа ў спачывальні, і горача пачаў маліцца.

Такое шчырае замольвайце граху яе сынам-кардыналам спалохала Эльжбету так моцна, што нават астма адпусціла. Але гэта і

ўзрадавала: значыцца, Бог не карае яе сурова. Бог даў палёгку яе спакутаваным грудзям.

«Дзякую табе, сын мой, за малітву, — падумала каралева. — Ты ўратаваў мяне».

Не спяшалася і яна, старая, перасяліцца ў царства нябеснае; што там, на небе, — невядома, а ў каралеўстве Польскім, у Вавельскім замку так хораша, утульна.

* * *

У залу ўвайшла Ксенія, мажная ўжо кабета ў панскім убранні — шоўкавая кофта, атласная спадніца, з ёй старая сялянка ў саматканым андараку, палатнянай прыгожа вышытай на рукавах і на грудзях сарочцы, у лапцях, з вялікім лазовым кашом, з якога выглядалі гладышкі з бяроставымі накрыўкамі.

Не, першая пераступіла парог не Ксенія — сялянка. Акінула хуткім позіркам разумных вачэй прысутных, пакланілася вялікаму князю, хоць дагэтуль ніколі не бачыла ўладара свайго.

Ксенія пакланілася і князю, і ўсім — панам і слугам, з якімі рабіла разам у гэтым палацы.

Аляксандр узрадаваўся прыезду Ксеніі: выканаў волю хворай, Алена яшчэ дні тры назад папрасіла, каб прыехала Ксенія, і ён сам, не даручаючы нікому, паслаў яшчэ ўчора ў Ашмяны ганцоў.

— Што здарылася з гасударыняй маёй?

Аляксандр цяжка ўздыхнуў.

Іван Сапега, хоць падняўся і наблізіўся да Ксеніі, але служанцы тлумачыць не стаў, аднак сказаў:

— Маці твая раскажа. Яна там, — кіўнуў на дзверы спачывальні.

— Не вешай галаву, яснавяльможны князь. Цётка Леаніла вылечыць Алену Іванаўну. Цётка Леаніла ўмее ўсе хваробы лячыць.

І цётка Леаніла без запрашэння, смела і ўпэўнена, нічаму не здзіўляючыся — ні панам, ні залатым дзвярам, першая рушыла ў спачывальню з кашом сваім, з гладышкамі. За ёй — Ксенія.

Аляксандр паглядзеў услед ім з надзеяй — ён верыў у народных лекараў, у мудрасць свайго народа. Між іншым, сярод дзяржаўных, ваенных спраў, якія ён рабіў то з уздымам, то нехаця, было ў яго захапленне, якое ён утойваў ад паноў, хіба маці яго ды браты ведалі, — збіраць травы, маляваць кветкі. Такое захапленне і ў брата яго Фрэдэрыка, можа, таму той стаў не воінам, а служкам Божым.

Вялікі князь адышоў у дальні кут і стаў паміж слуг, здзівіўшы паноў. Услухаўся. Следам за ім замерлі ўсе — ніводнага ўздыху,

дыхання не чуваць было, ніводнага руху. У што ўслухоўваліся? У набліжэнне радасці ці бяды?

І ў хуткім часе пачулі... шум за дзвярамі, бадай крык.

Дзверы шырока адчыніліся і — о Божа! — Ксенія вывела за каўнер славутага лекара, немца Кетлера, і груба піхнула яго. Сказала:

— Яснавяльможны вялікі князь! Калі хочаш, каб жонка твая жыла, прагані ад яе гэтага шарлатана... прайдзісвета! Які ён лекар! Канавал. Ён загоніць княгіню ў магілу.

Пагалены твар немца зрабіўся бурачковым. Клоунскі каўпак з'ехаў на вуха, чорная мантыя на спіну, моцна, відаць, тузанула яе Ксенія. Немец махаў рукамі, пырскаў слінаю, крычаў што рэзаны, мяшаючы словы трох моў — нямецкай, польскай, рускай.

— О русіш швайн! То есць дзікая баба! Што яна разумее? Халопка! Чэрнь! Куды я трапіў? Дзікі народ! Дзікія норавы!

Павесялелы ад незвычайнай прыгоды Кашталян Гаштольд пераклаў вялікаму князю словы лекара:

— Ён кажа, што мы — дзікі народ.

Немец як бы ўспомніў, што яго ганебнае выгнанне «дзікай бабай» адбылося ў прысутнасці ўладара вялікай дзяржавы, а той маўчыць, і пачаў, забыўшыся на субардынацыю і пачцівасць, наступаць на вялікага князя, пырскаючы слінаю і ўжо гаворачы толькі па-нямецку:

— Яна мяне за каўнер, за каўнер... Яна ўдарыла мяне каленам у мяккае месца. О мой Бог! Вялікі князь павінен пакараць гэтую дурную бабу! На шыбеніцу яе! На шыбеніцу!

Аляксандр грэбліва адступіў. Гаштольд пераклаў з вясёлай усмешкай апошнія словы:

— Ён патрабуе пані Стругу — на шыбеніцу.

— Пайшоў прэч! — гнеўным шэптам сказаў вялікі князь немцу.

— Што? — аслупянеў Кетлер.

— Пайшоў прэч! — грымнуў Аляксандр.

Немец сагнуўся ў дугу і гэтак, сагнуты, пачаў адступаць кароценькімі крокамі заднім ходам. Азадкам і дзверы адчыніў.

Са спачывальні выйшла Ксенія з закасанымі рукавамі, з непакрытай галавой, закруціўшы свае пышныя валасы ў вялікую куклу:

— Вялікі князь, яна кліча цябе.

Аляксандр спалохаўся:

— Яна кліча? Мяне?

Усе іншыя, што зноў, пасля здарэння з немцам, жалобна маўчалі, заварушыліся, загаманілі.

Ашаломленага ад радасці князя Ксенія адважылася ўзяць за руку і павяла ў спачывальню.

Дагэтуль Алена ляжала ў мяккіх пярынах — каб пацела, так загадаў немец.

Леаніла, Марфа і Ксенія прыбралі гару пярынаў, і яна ляжала на матрацы, накрытая лёгкай шаўковай коўдрай, пад ёй відны былі абрысы яе цела, маленькага, як у дзіцяці, схуднелага, але такога любага яму.

Аляксандр выскачыў з спачывальні, калі яна перастала нават трызніць, клікаць маці, яна ўвесь час клікала маці і ні разу бацьку, гэта ён адзначыў яшчэ ўчора.

Цяпер Алена глядзела на яго зусім прытомнымі вачамі. Між іншым, тады быў паўзмрок, цяпер шторы на адным акне шырока рассунуты і ў вялікі пакой льецца мора летняга святла, хоць дзень і хмарны.

Алена дастала з-пад коўдры руку, як бы хацела працягнуць яе мужу, але не хапіла сілы. На засмяглых вуснах засвяцілася вінаватая ўсмешка, якой яна як бы прасіла: «Даруй».

Аляксандр схіліўся над ёй, і яна прашаптала:

— Я буду жыць...

Спытала ці сцвердзіла? Для яго — сцвердзіла, і ён сказаў радасна, на поўны голас:

— Ты будзеш жыць! Гэля! Ты будзеш жыць! — упаў перад ложкам на калені, асцярожна і прагна цалаваў яе руку і... зноў плакаў, як тады ў манастыры ў Полацку, калі абмываў яе ногі. Але ад чаго плакаў тады? Ад захаплення ёй. Цяпер — ад шчасця, што яна будзе жыць, будзе жыць яго каханне, адзінае ў жыцці, яго радасць. Бо якія ў яго яшчэ радасці, акрамя кахання да гэтай маленькай жанчыны?! Улада радасцей не дае — адны непрыемныя турботы.

Што Алене памагло вярнуцца да жыцця? Каханне? Малітва кардынала і пакаянная малітва маці-каралевы? Ці лекі ашмянскай народнай лекаркі Леанілы — яе травяныя ўзвары? І яе замовы.

Смерць адступіла, пераможаная. Але евангельскага цуда не адбылося. Ачуньвала княгіня цяжка. Яшчэ колькі дзён былі правалы — страта прытомнасці, трызненне. Хворыя ўяўленні былі розныя, яны мелі тры выявы. Самае страшнае, калі яе акружылі людзі са звярынымі мордамі. Бачыць па сутане, чуе па голасе, што гэта — біскуп Табар, а твар у яго лісіцы, з доўгімі вушамі і завостранай пысай. У Сапегі морда бычыная, а голас казліны: не гаворыць — бэкае. Пані Зося — кошка, мурлыкае, глядзіць на яе ласкавымі вачамі — просіцца на прыпол, але брыдка браць яе на рукі, ды сказаць ёй «Брысь!» не

хапае сіл. Ёй хочацца пагладзіць прыгожага вартавога сабаку — Астрожскага. Свякроў з'яўляецца ў абліччах розных звяроў — ваўчыцы і аленіхі, мокрай выдры і пушыстай сабаліхі. Кардынал з'яўляўся ў аблічча арла, але чамусьці бяскрылага.

Муж яе Аляксандр ніколі не прыдаўся ў звярынцы. І маці. А бацька прыдаваўся зубрам. Год назад палявалі на зуброў у Белавежы, з'ехаліся тры браты: кароль польскі Ян Альбрэхт, кароль чэшскі Уладзіслаў, вялікі князь літоўскі Аляксандр. Забілі ажно восем зуброў. І ёй да болю, да слёз было шкада магутных прыгожых звяроў. Яна спыніла забойства іх, закрычала: «Не трэба больш! Не трэба! Хіба мала вам мяса?»

Яе падтрымаў чацвёрты брат — кардынал Фрэдэрык.

Яна не баялася бацькі-зубра, смела брала яго за рогі, гладзіла, прыціскалася шчакой да яго пысы, але баязліва азіралася: каб ніхто не стрэліў у цара лесу, навокал жа людзі з пішчалямі і арбалетамі.

Людзі, знаёмыя, са звярынымі тварамі хворую не палохалі. Яна ўсіх іх умела ўлашчыць. Палохалася яна, калі яе акружалі звяры з чалавечымі тварамі — знаёмых і незнаёмых людзей. З імі цяжка гаварыць, яны не слухаюць яе і не слухаюць адзін аднаго. Яны выюць, што ваўкі, і гагочуць, як гусі.

Здараўся правал у непрытомнасць зусім іншы — лёгкі і прыемны: яна ляжала ў чоўне, човен гойдаўся на хвалях, над ёй — высокае блакітнае неба, у якім лёталі белыя чайкі, але яна ведала, што гэта — анёлы, бо адтуль, з неба, гучала чароўная музыка і цудоўны спеў. І ёй было лёгка і радасна. Яна сачыла за самай маленькай чаечкай і верыла... што гэта яе сынок ці дачушка.

Выходзіла з чоўна, ступала на цвёрдую зямлю. Вярталася прыемнасць. Вярталася рэчаіснасць. Жыццё. Але радасці яно не давала. Адны пакуты. Неадчэпна паліла мозг адна думка: за што Бог пакараў яе, за які грэх? Безумоўна, яна грэшная. Але ж і ўсе навокал такія ж грэшнікі, большыя, непараўнальна большыя, але кары такой не маюць.

Ледзьве не чатыры гады яна малілася Збавіцелю, Багародзіцы, каб падарылі ёй... ім з Аляксандрам найвялікшае шчасце, якое толькі можа мець чалавек, — дзіця, наследніка, які прадоўжыць іх жыццё, атрымаўшы ў спадчыну вялікую дзяржаву, калі гэта будзе сын. Пра сына марыў Алекс. А яна малілася і за дачку, за бязгрэшнага анёла, што ачысціць і асвеціць яе грэшную плоць. Аб'ездзіла ледзьве не ўсе старыя праваслаўныя манастыры, цэрквы, малілася там і шчодра адорвала — іконамі, грашамі, землямі.

І Багародзіца злітасцівілася: у лоне яе зарадзілася новае жыццё. Як яна асцерагала яго! Як асцерагала! За які грэх Бог адняў яе дзіцятка, не даўшы яму з'явіцца на свет, парадаваць маці і бацьку першым крыкам? Выкідыш на пятым месяцы. За што Бог пакараў іх? За чый грэх? Яе? Аляксандраў? Але ў гэты час вялікі князь не хадзіў на вайну, нікога не забіў, не пакараў смерцю. Яго ж называюць у народзе Міласцівы. Значыцца, яе грэх... У чым ён? Яна моцна ўзлавалася... на бацьку свайго. Але ж гэта было два гады назад. Бог так доўга чакаў?

2

Ездзіў у Маскву канцлер яе Іван Сапега: Аляксандр стараўся наладзіць узаемаразуменне з цесцем, даказаць яму, што ніякага ўціску Алене няма. Пра гэта яна напісала пісьмо — са згоды мужа, з яго дапамогай. Доўгае і ласкавае пісьмо, запэўніваючы, што жыве яна шчаслівa, у каханні, і веру сваю пільнуе, і ніхто не прымушае яе перайсці ў рымскую веру. Таксама бадай грэх, бо апошняе было няпраўда: прымушаюць, яшчэ як прымушаюць! Тры папскія легаты-місіянеры гутарылі з ёй, але не так разумна, як кардынал Кракаўскі: каб узвысіць веру рымскую, ганілі грэчаскую. І вялікая княгіня бадай непачціва дала ім, як сказала Марфа, ад варот паварот. І гэта грэх?

То за якую ж веру Бог? Якая з іх ісцінная? Схамянулася, спалохалася: сумненні — таксама грэх.

Сапега прывёз ёй з Масквы тайнае пісьмо ад маці. Са слязамі, з вялікай крыўдай на мужа свайго, бацьку Аленінага.

Яшчэ да замужжа свайго Алена адчувала нелады ў адносінах бацькі і маці. Пасля яе заручын вялікая княгіня Соф'я выказала трывогу і боль, не за дачок — за сыноў сваіх.

Гасудар, зрабіўшы мэтай свайго жыцця сабраць усе рускія землі ў адзіную дзяржаву, увёў новыя правы наследавання: цяпер ні братам сваім, ні сынам сваім, ні зяцям не завяшчаць асобныя княствы, як гэта вялося да яго; і здаралася, што ўдзельныя князі-браты пасля ваявалі паміж сабой. Цяпер гасудар усея Русі можа завяшчаць аднаму сыну, старэйшаму, усю дзяржаву. Астатнія атрымаюць вотчыны ў розных краях, разрозненыя, з іх не склееш цэлае княства.

Соф'я не згаджалася з такім парадкам. Маці хацелася, каб усе дзеці мелі аднолькавыя правы. Старэйшы сын Іванаў — не яе сын, першай жонкі. Праўда, да таго часу ён памер, але застаўся яго сын, унук гасудараў — Дзмітрый.

Маці яго — Алена малдаўская, разумная, хітрая, самалюбівая — лічыла, што ўнук, сын старэйшага сына гасудара мае большыя правы.

Соф'я і Алена ненавідзелі адна адну, вялі тайную вайну, хоць захоўвалі прыстойнасць. Але большасць баяр хіліліся да Алены — бо яна з імі была. Соф'я акружыла сябе грэкамі, і за гэта яе не любілі.

Знайшліся правакатары. Нейкі дзяк Фёдар Стралілаў запэўніў юнага Васіля, старэйшага сына грачанкі, нашчадка імператараў візантыйскіх, што бацька яго хоча абвясціць наследнікам унука. Падбівалі Васіля загубіць Дзмітрыя, пайсці ў Волагду і захапіць там казну гасудараву. Тут жа данеслі Івану Васільевічу. Гнеў яго быў страшны. Паляцелі галовы — дзяка Стралілава, князя Патоцкага, баярына Заркі, дзесяткі іншых пасадзілі ў цямніцу. Да Васіля і маці яго паставілі варту.

У хуткім часе Іван усклаў вянец Манамаха на галаву ўнука. І зрабіў гэта не па старым абрадзе, а як царскае вянчанне, як каранаванне каралёў. Прымусіў сына свайго Юрыя, аднагодка Дзмітрыя, абсыпаць юнага гасудара залатымі манетамі. Гэтае апошняе асабліва абразіла пляменніцу візантыйскага імператара.

Слязамі цякло пісьмо маці. І пылала гневам супраць Івана. І Алена не адзін дзень абліваласся слязамі, чытаючы пісьмо, шкадуючы маці і брата. І з кожным прачытаннем у сэрцы яе разгаралася злосць на бацьку: дэспат асірыйскі! Ірад забіваў чужых дзяцей. Іван можа забіць сваіх. Так падумала пра бацьку. А гэта — грэх.

Маці пісала ў тым пісьме: «Князь Рапалоўскі, за якога ты прасіла, каб мы прылашчылі яго, і мы абсыпалі яго міласцю, стаў злейшым ворагам нашым і прыхільнікам Аленіным. Гэта ён падбіў гасудара вянчаць Дзмітрыя».

Крыўда і злосць на бацьку не гаслі. І Алена, добрая душа, цэлы год пакутавала праз гэта. А цяпер, калі страціла дзіця, якое так чакалі з Аляксандрам, і сама яна апынулася на краі жыцця перад уваходам — куды? — пэўна ж, не ў рай — у геену вогненную, не сумнявалася, што Бог пакараў яе за грэх асуджэння бацькі роднага.

Ды хіба гэты грэх на душы ў яе?

Яна дала сабе зарок: нічога не таіць ад мужа — ні думак, ні перажыванняў, ні тым больш тайных пісем. Хоць якое яно тайнае, матчына пісьмо? Яго вёз Сапега. Напісана па-грэчаску? Ды той жа біскуп Табар ведае гэтую старажытную мову. Алена прачытала пісьмо мужу і выдала свой гнеў на бацьку. Аляксандр пабедаваў разам, але, здалося ёй, не вельмі шчыра, ва ўсялякім разе гэта быў адзіны выпадак за тры гады, калі яна ўсумнілася ў яго шчырасці. Ёй было крыўдна, што вялікі князь без належнай увагі паставіўся да лёсу швагра свайго Васіля, гэтак пакрыўджанага бацькам. Не спадабалася Алене — дзіўна і грахоўна гэта, думала пасля, — што Аляксандр

ніводным словам не асудзіў цесця, якога не любіў за бясконцыя папрокі, што ён не выконвае дамовы; і да яе запэўненняў, што жыве яна з Аляксандрам душа ў душу, бацька заставаўся глухі. Не верыў ёй, ці што?

У хуткім часе Алена пашкадавала, што сказала пра свой гнеў на бацьку. Яна не папрасіла трымаць гэта ў тайне. Разлад яе з бацькам тут жа выкарысталі для новага, непамерна больш моцнага і рашучага наступу на яе веру. Война Табар, які пасля няўдалых спроб перацягнуць яе ў адзіна праведную хрысціянскую веру, пазбягаў з ёй сустрэч, а тут раптам зрабіўся яе духоўнікам — наведваўся ледзь не штодня. І пэўна радаваўся, што слабеў яе палемічны запал, яна слухала яго пропаведзі бадай з той жа увагай, з якой некалі слухала дзевера свайго — кардынала Кракаўскага.

У думках Алена адзначала, што біскупу далёка да Фрэдэрыка. Табарава філасофія мала кранала, таму яна і не траціла сілы, каб аспрэчваць яго.

Быў іншы спакуснік, больш небяспечны, бо свой — праваслаўны, адукаваны і высокага рангу.

За год да матчынага пісьма епіскап Віленскі Макарый паехаў у Кіеў. Пад Мазыром святара схапілі татары і забілі: адсеклі галаву і пасадзілі на кол.

Новага епіскапа Віленскага падбіраў не мітрапаліт Кіеўскі, а каталікі Табар і Аляксандр. Вялікі князь раіўся з жонкаю. Алена помніла епіскапа Смаленскага Іосіфа, як урачыста сустракаў ён княжну — нявесту, рускіх воінаў, што суправаджалі яе. Якія малебны служыў! І яна горача падтрымала яго перавод у Вільню. І гэта яшчэ адзін яе грэх.

Іосіф не ўгаворваў яе перайсці ў каталіцкую веру. Не. Ён угаворваў яе даць жыццё рашэнням Фларэнтыйскага сабору — аб зліцці цэркваў, грэчаскай і рымскай. І рабіў гэта вельмі хітра. Уласна, не асабіста яе схіляў. Ад яе патрабавалася нямнога — прызнаць папу Рымскага. Ён праводзіў такую палітыку ў Вялікім княстве — падрыхтоўку уніі.

Абражаная за сваю веру, вялікая княгіня, звычайна далікатная і ветлівая, гнеўна выказала Іосіфу ў вочы:

— Ты здраджваеш народу свайму, пастве. Ты хочаш загнаць праваслаўных людзей у рымскі хлеў. Ты заманьваеш людзей абгрызенай косткай — богаслужэннем на царкоўнаславянскай мове, але па рымскіх канонах, з чужымі малітвамі. Ні ў Белай Русі, ні ў Чорнай Русі не толькі сяляне, але і паны, баяры не ведаюць ні старaславянскай, ні лацінскай. Без вернага аднаму закону прапа-

ведніка людзі будуць блукаць што ў цёмным лесе. Я паважаю людзей рымскай веры, у мяне муж католік. Але тых, хто і тут, і там, хто служыць і нашым, і вашым... Хто любіць такіх?.. Гэта адступнікі!..

Іосіф абразіўся.

— Я адступнік?

— Не бяру грэх на душу. Але іншага слова ў мяне няма. У апастазіі многа прыёмаў адступніцтва. Ты не прыносіш ахвяры паганскім багам. І Свяшчэннае пісанне не паліш. Але грэх твой не меншы...

Алена так напісала і бацьку, што епіскап Іосіф — адступнік.

Нажыла сабе яшчэ аднаго ворага, можа, нават больш злоснага і зацятага, чым Войцэх Табар.

Тое, што выказала «першасвяшчэннаму», Алена не лічыла за грэх. Але калі ачуняла, думала, што Іосіф мог праклясці яе. Жахнулася, калі ёй сказалі, што Іосіф прычасціў яе непрытомную. Уявіла, з якім задавальненнем ён зрабіў гэта... Папрасіла мужа, каб епіскап не спавядаў яе, не прычашчаў, калі яна нават будзе паміраць. Няхай зробіць гэта яе спаведнік.

Пакуль яна хварэла, Іосіф адаслаў у Маскву спаведніка яе Фаму. За гэта Алена мела крыўду на Аляксандра: як дазволіў без яе згоды? Сама выбрала сабе спаведніка — Іену Пратасевіча, настаяцеля царквы Прачыстай Багародзіцы.

3

Малады арганізм адужаў хваробу. Безумоўна, вылечылі травяныя ўзвары — яны ачысцілі заражаную кроў. Так лічылі Леаніла, Марфа, Ксенія, вялікі князь і нават Сапега. Сама Алена верыла ў цудатворную сілу сваіх малітваў. Як толькі апрытомнела, паўтарала па многа разоў усе малітвы, якія ведала на памяць, а ведала многа, перачытала Евангелле, Псалтыр, Залатую маціцу, Златаструй... Часта паўтарала словы апостала Паўла:

— «Але Гасподзь сказаў мне: «Даволі табе ласкі маёй, бо сіла мая здзяйсняецца ў немачы». Таму я значна больш ахвотна буду хваліцца сваімі хваробамі, каб жыла ўва мне сіла Хрыстова. Таму я радуюся ў немачы, у крыўдах, у галечы, у ганеннях, у прыцясненнях за Хрыста: бо калі я нядужы, тады я моцны».

Аляксандр пратэставаў супраць гэтых слоў, праўда, асцярожна, далікатна. Больш рашуча пратэставала Ксенія:

— Алена Іванаўна, родненькая, прашу цябе, не паўтарай гэтых слоў, яны не вылечаць цябе. Гэта малітва старцаў, манахаў. А ты ж маладая.

Яна лічыла святатацтвам такое прыняцце слоў апосталаў. Разумела па адукаванасці сваёй, што гэта неразумна — вініць мужа і Ксюту, што яны так несур'ёзна адносяцца да свяшчэннага пісання: яны ж абодва католікі. Была ўпэўнена, што сапраўдныя выканаўцы запаветаў Хрыста і апосталаў толькі праваслаўныя. За гэта нават даравала грэх бацьку, што пакрыўдзіў гэтак маці і Васіля, сына свайго.

Аляксандр акуратна хадзіў у касцёл, маліўся раніцою і ўвечары, але ў даверлівай размове шчыра прызнаўся Алене, што такой набожнасці, як у яе, ён не адчувае; яму больш даспадобы жыццё тут, на зямлі, дзе ён мае ўладу над людзьмі, чым на небе, дзе ён можа служыць у нявіннага хлапчука, які апынуўся там, не паспеўшы ні ў чым саграшыць.

Муж гаварыў гулліва. Алена не смяялася, не закрыла рот пацалункамі, як звычайна рабіла, калі ён пачынаў казаць нешта не тое ці не так, як хацелася ёй. Гэта была гульня закаханых.

— Грэх гэта, Алекс. Бог пакарае цябе.

— Усе палохаюць Богам. Хіба Збавіцель наш такі жорсткі, каб палохаць ім і дзяцей, і дарослых? Нядобра гэта, Гэля. Падумай. — Нярэдка ён выказваў такія вось нечаканыя ісціны — што нават яна, хуткадумная, дасціпная, не знаходзіла лагічных высноў, каб запярэчыць яму.

Калі Алена паднялася з ложка, яе перавезлі ў летні палац у Паплавы — у яе палац, бо яшчэ да будаўніцтва Аляксандр падарыў ёй гэты абшар — поле, лес, луг, дзве ракі, якія зліваліся тут недалёка.

Быў ліпень, не вельмі спякотны. На лузе, што вартавыя, узвышаліся стагі. Не, вартавымі былі, бадай, буслы, што стаялі на стагах на сваіх доўгіх чырвоных нагах. Клекаталі. Перамаўляліся адзін з адным, з дзяцьмі сваімі.

З лугу цягнула духмяным пахам сена, а з лесу — павялай папараццю і грыбамі. Праходзілі дажджы, і грыбоў было — хоць касой касі. Прыслуга насіла кашамі баравікі і не ведала, куды іх дзяваць, іх умелі толькі смажыць і сушыць. Многа быдо чарніцаў. У Маскве Алену шмат чаму навучылі — Марфа ў першую чаргу. Ды і бацька загадваў, каб дзяцей яго добра вучылі, хлопцаў — вайсковай справе і сялянскай: секчы дровы, зрабіць пераправу, плот, узараць зямлю, пасеяць збожжа. А князёўнаў — шыць, вышываць, вязаць, менш вучылі гатаваць стравы, але Марфа навучыла Алену і гэтаму, бо вучыла сваю дачку — Ксюту.

А вось па грыбы і па ягада іх не вывозілі, хоць лес узвышаўся побач з Крамлём — на другім беразе Масквы-ракі.

Алена рвалася ў лес. Але хто яе пусціць? Марфа, Ксенія ды і ўсе іншыя асцерагалі яе, як малое дзіця. Пагуляць — толькі каля палаца, па дарожках, пасыпаных жоўтым пясочкам.

Больш часу вялікая княгіня праводзіла на тэрасе. З вышыні другога паверха азірала прастор, удыхала водар траў і адчувала, як літаральна з кожным уздыхам вяртаецца да яе сіла, прага жыцця. Пасля цяжкай хваробы, калі зазірнуў смерці ў твар, чалавек з новай, незвычайнай узнёсласцю адчувае радасці жыцця. Пачынае хваляваць кожная кветачка, чмель на ёй, ластаўка пад страхой, стук дзятла ў лесе, рыканне кароў за ракой. Але найбольш радуюць людзі, асабліва калі яны праяўляюць да цябе ўвагу, клопат. Алену акружалі такія людзі.

Разумныя Марфа, Ксенія, каб адцягнуць вялікую княгіню ад малітваў і чытання, выдумалі цікавую працу — вышыванне габеленаў, пакрывалаў. Ад нямецкіх і яўрэйскіх купцоў прысылалі незвычайныя ніткі — шаўковыя, залатыя, сярэбраныя, у Маскву такія вельмі рэдка прывозілі: калі везлі з Персіі, то татары Залатой арды рабавалі купцоў, калі з ганзейскіх гарадоў — рабавалі лівонскія рыцары.

Вышыванне захапіла Алену. Самае выдатнае ў працы тое, што яна адцягвала ад змрочных думак аб страчаным дзіцяці. Яна верыла Марфе і Ксеніі, якія суцяшалі:

— Будуць у цябе яшчэ дзеткі, Алена Іванаўна, будуць.

Сумесная праца мела яшчэ адзін вынік, які цешыў: яна як бы раўняла іх — вялікую княгіню, няньку і пакаёўку яе. Цяпер яны не кланяліся штораз, хіба толькі калі віталіся раніцою, і не часта казалі «яснавяльможная вялікая княгіня», больш — Алена Іванаўна, польскае Гэля не любілі, хоць самой Алене гэтая памяншальна-ласкальная форма яе імені падабалася, бо так звяртаўся да яе каханы муж.

Сядзелі на тэрасе, вышывалі, гутарылі. У Алены вырвалася:

— Ах, як хораша так жыць! У згодзе з прыродай. З буслами тымі, з ластаўкамі. І з людзьмі...

— А чаму вялікай княгіні і не жыць так? Усё яна мае.

— Ксюта! Хіба шчасце ў багацці? Ты думаеш, у княгіні няма клопатаў?

— О, не! Я так не думаю. Я знаю: у цябе, Алена Іванаўна, баліць сэрца за ўсіх людзей. А так нельга — на ўсіх яго не хопіць. Яно маленькае, сэрца наша. У мяне яно баліць... за цябе, княгіня, і за Ясіка майго. Як ён там без мяне? Я не пакіну цябе, пакуль ты цвёрда не станеш на ногі... Я не сплю начамі...

— А давай прывязём яго сюды.

Ад нечаканасці Ксенія ажно збялела.

— А можна?

— А чаму нельга? Чаго нельга вялікай княгіні! Заўтра ж пашлём лепшы княскі экіпаж. Лепшых коней. Лепшую варту. І паслязаўтра ты прывязеш свайго Іваньку.

5

Калі Ксенія прывяла сына ў Княгініна апартаменты — пазнаёміць, Алена захлынулася ад пачуцця, якога яшчэ ніколі, не перажывала, гледзячы на дзяцей, панскіх і сялянскіх.

Маленькі анёл. Беленькі. Не, залаты: заходзіла сонца, і пакой быў заліты чырваннню. Кірпаносы. З пухлымі ручкамі! Хлопчык стаяў ля дзвярэй, маці трымала яго за руку, больш звычайнага збянтэжаная і насцярожаная. Ясік баяўся глядзець на поўныя вочы, апусціў галаву, але Алена ўбачыла, як кароткімі, што маланкі, позіркамі ён азірае і яе, і ўсё навакольнае. Яго, мудрага ў свае тры з палавінай гады, усю доўгую дарогу навучалі, як паводзіць сябе ў палацы. Але ён забыўся, з чаго пачынаць. Маці падказала:

— Пакланіся княгіні.

Хлопчык узняў галоўку, усміхнуўся, шаркнуў ножкай па падлозе і пакланіўся, як гжэчны рыцар на балі. У Алены зноў перахапіла дыханне, і яна сапсавала ўвесь цырыманіял: хутка падышла да маці і сына, упала на калені, горача абняла малога, абсыпала пацалункамі шчочкі яго, Лобік, галоўку. І ён асмялеў, спытаў:

— А ў цёткі ёсць кошка?

Ксенія жахнулася: куды дзяваліся ўсе яе намаганні па навучанню сына? Сорам. Ганьба. Ёй.

— Ясік! Ясік! Не цётка. Якая цётка! Гэта — вялікая княгіня!

— А чаму яна вялікая? А ты не вялікая? Не бядуй. Ты яшчэ вырасцеш, мама.

— О Божа! — стагнала Ксенія.

Алену душылі слёзы, але яна смяялася.

— А ў цябе сабакі ёсць?

— Ёсць, ёсць, Ясік. У мяне ўсе ёсць.

— Таму што ты вялікая?

— Можа, і таму.

— І я хачу быць вялікім.

— Ты будзеш, Ясік, ты будзеш вялікім. Расці хутчэй.

— А што трэба, каб расці? Многа есці?

— Так, так, добра есці.

— Я люблю сала з часнаком.

— О Божа! Мама! Забяры ты яго!

З дзвярэй выглянула Марфа.

— Я не хачу да бабулі! Яна многа гаворыць.

Для Алены — Марфа, не ў прыклад дачцэ яе, была самая маўклівая з прыслужніц.

— Парасё ты! Ты бабулю паўгода не бачыў. Што ты помніш?

— А ты мяне вучыла не абзывацца. А сама...

— Ну, з табой не згаворышся. Ты — што цыганка.

— А ты масквіцянка, так цябе ўсе завуць у Жупранах.

Ксенія падхапіла малога і вынесла з пакоя.

Застаўшыся адна, Алена нейкі час моўчкі стаяла каля акна, глядзела на ружовыя аблачыны. Пасля апусцілася на канапу і разрыдалася, што з ёй здаралася рэдка. Мабыць, Марфа пільнавала за дзвярамі, як бы прадчувала, што княгіні будзе блага.

— Алена Іванаўна, супакойся, калі ласка. Мы адвязём яго назад.

Алена адарвала далоні ад вачэй.

— Што? Не! Не! Ні ў якім разе! Ясік будзе адзінай маёй радасцю.

О, колькі ён даў радасці ёй, гэты малы Ясік-Іванька!

Асмялеўшы, хлопчык стаў усюдыісны. Вялікі, ціхі да яго палац напоўніўся звонкім дзіцячым галаском. І сад. І бадай усё наваколле. Плакаў ён рэдка, нават тады, калі мама шлёпала яго. Але калі хацеў дамагчыся нечага свайго, то ўзнімаў такі лямант, што палохаліся ластаўкі і шпакі, адзываліся на псярні сабакі, ржалі ў канюшні коні.

Маці не патурала яму, вытрымлівала характар. Алене плач дзіцячы рэзаў сэрца, і яна, забыўшыся на свой высокі сан, бегла на яго крык. Малы хітруган хутка сцяміў слабасць княгіні і карыстаўся ёй, хоць і меў ад мамы плескачы па мяккім месцы. Але ўвогуле быў забаўны хлопчык — не па ўзросце цікаўны, кемлівы, паслужлівы, падобраму гарэзлівы.

Алена і мама яго вышывалі — ён падаваў ім клубкі нітак, якія часцей за ўсё ўпускалі знарок, каб даць хлопчыку работу. Але праз пэўны час, мабыць, разгадаўшы іх гульню, Ясік пачынаў сваю гульню: краў у іх клубкі і хаваў, хаваў так хітра, што ім прыходзілася нямала палазіць, каб знайсці. Сам бедаваў: «Дзе ж ён дзеўся? Гэта кошка яго ўкрала! А можа, мышка?» — і з найсур'ёзнейшым выглядам шукаў — не з мамай, тая, узлаваная, магла і за вуха яго выцягнуць з пад канапы, — заўсёды з Аленай. Марфа ледзьве не млела, гледзячы, як чарцяня гэтае, унук яе, прымушае вялікую княгіню поўзаць на каленях. Нават яна, старая выхавацельніца, да канца не разумела, якое гэта задавальненне для маладой жанчыны, як вяртае яе гульня з малым да найвялікшай радасці мацярынства: Алена проста забывалася, што гэта не яе сын. Любы дотык дзіцяці напаўняў яе цела

незвычайнай цеплынёй, яго смех, галасок — што глыткі крынічнай вады для засмяглай душы. Адтавала яе душа і расцвітала зноў гэтак жа пышна і шматколерна, як у першыя месяцы замужжа, жаночага шчасця. Гэта не мог не заўважыць Аляксандр і радаваўся ўваскрэсенню жонкі; яму падабалася нават тое, што Алена стала менш маліцца, а больш дбала пра зямныя справы, вяртала сваю гаспадарчую руплівасць, практычнасць. Сачыла за ўборкай збажыны ў княскіх уладаннях, за будаўніцтвам флігеля для гасцей, стайні, парнікоў. Сама купляла коней. Адным хіба што не займалася — псярняй.

Канцлер з захапленнем расказваў вялікаму князю пра яе гаспадарчы і дзяржаўны талент. Адчуваючы, што Аляксандру гэта прыемна, апускаўся да самакрытычнасці: маўляў, мажардомы, упраўляючыя маёнткамі баяцца вялікую княгіню больш, чым яго, канцлера, бо ад яе вока нічога нельга схаваць — ніякага непарадку, і ў цэнах, каштарысах яна разбіраецца лепш за ганзейскіх купцоў.

У адзін дзень Ясік знік. Божа, які ўзняўся пярэпалах! Не легендай, а праўдай часу было, што татары не толькі пры разбойных набегах забіраюць у палон усіх дзяцей, але і крадуць іх праз лазутчыкаў, каб прадаваць у рабства сваім баям і туркам.

Паднялі на ногі ўсю чэлядзь. Палохала Вілейка. Хоць рэчка і абмялела, але ж гэта — дзіця. Ад лесу стаяў высокі плот. Але даўно адкрылі, што гэтаму мышаняці няма ніякіх перашкод — ён залазіў туды, куды не кожны дарослы мог залезці.

Алена спачатку кіравала пошукамі з двара. Але не вытрымала — сама пабегла ў лес. Лезла праз густы малiннік, абдзіраючы рукі і ногі.

Ясіка знайшлі-такі ў лесе, няблізка ад палаца. Алена здалёк пачула яго плач і, ледзьве не самлелая ад шчасця, стаяла, задыханая, прытуліўшыся да сасны.

Маці, відаць, добрых ляшчоў яму дала, што хлопчык ніяк не сціхаў — заліваўся на ўвесь лес.

Алена кінулася ратаваць яго — ад маці. Здзівіла і спалохала ўсіх, хто збегся на плач: Божа, сама вялікая княгіня гойсала па лесе! Адна! Без аховы.

— Ты бачыш, шкадлівае кацяня, да чаго ты давёў людзей? Сама вялікая княгіня...

Алена выхапіла хлопчыка ад маці.

Тварык яго быў выпацканы чарніцамі, слёзы размазалі чарніцы ўзорамі па шчочках, шыйцы, ручках, доўгай шаўковай сарочачны, якую ён разадраў, мабыць, зачапіўшыся за сук. Ножкі — у чарніцах і крыві. Во вандроўнік!

Але нічога больш забаўнага і любага, як Яськаў тварык з залатымі хітрынкамі ў вачах, Алена яшчэ не бачыла. Цалавала яго салёныя ад слёз і салодкія ад ягад шчочкі.

На руках Алены малы гарэза адразу перастаў плакаць і адпомсціў маме:

— Ты нядобрая. Я цябе не люблю. Я княгіню люблю.

— Я цябе навучу, каго трэба любіць! Паганец! Сапляк! — засмяялася шчаслівая Ксенія. — Нос выцерці не ўмееш, а ўжо знаеш, каго любіць.

Алена зведала яшчэ адно мацярынскае пачуццё: страх за дзіця. Прыгадвала: ці быў такі страх у маці яе? Вялікая княгіня Соф'я перадавала дзяцей сваіх карміліцам-нянькам і нячаста наведвалася ў дзіцячую. Калі яна, Алена, ад'язджала ў Вільню, маці плакала. А колькі ў яе пісьме гора, болю за Васіля, што бацька так пакрыўдзіў яго — перадаў вянец унуку — сыну Алены малдаўскай. Маці ёсць маці, толькі па-рознаму ў іх выяўляецца і любоў да дзяцей, і страх за іх.

Калі вялікага князя ў летняй рэзідэнцыі не было, Алена абедала ў кампаніі Ксеніі і Ясіка. Марфа ніколі не дазволіла сабе не толькі сесці з княгіняй за адзін стол, але нават проста прысесці дзе ў куточку ў яе прысутнасці. Баярыня, з Аленінай ласкі, Ксенія дазволіла сабе гэта, хоць маці і асуджала яе. Але ж не напрошвалася яна, вялікая княгіня запрашала. Для Алены гэта была яшчэ адна вясёлая радасць — як есць мурза Ясік. Неназойліва вучыла яго таму, чаму вучыла сваіх дзяцей Соф'я — знаўца і ахоўніца візантыйскага імператарскага этыкету і рымскага — каралеўскага і папскага. Алена нават мужа свайго вывучыла гэтаму — асцярожна, тактоўна, каб адвадзіць яго ад грубых салдацкіх звычак: не ўсе Ягелоны былі па-каралеўску вытанчаныя.

Пасля абеду Алена расказвала маломў казкі, і ён, непаседа, стомлены за дзень, засынаў, паклаўшы галоўку ёй на калені. І гэта таксама была радасць, яшчэ адна праява матчыных пачуццяў. Аднойчы, калі Алена расказвала малому казкі, прыйшоў канцлер Сапега. Пазваніла, выклікаючы прыслугу. Прыйшла не Ксенія — дзяўчына-пакаёўка.

— Забяры Ясіка.

А той узняў лямант:

— Не хачу цябе! Не хачу! Хачу княгіню!

За дзвярамі дзяўчына засмяялася:

— Ты ж не князь, што хочаш княгіню.

— Я князь! Я князь! — крычаў малы.

Алена пажартавала:

— Во вялікі князь і кароль.

Сапега ўмеў пажартаваць і разумеў жарты. А тут стары правакатар пайшоў на інтрыгу: данёс панам рады, што вялікая княгіня хоча ўсынавіць халопскае дзіця. Рада зрабіла запыт Аляксандру. Уладар здзівіўся, але і насцярожыўся: жонка яго здольная на самыя неверагодныя ўчынкі, а дзіця — яе навязлівая ідэя. Узлаваўся. Але злосці яго хапіла, пакуль ехаў ад Вільні ў летнюю рэзідэнцыю. А ўбачыў Алену — размяк, яна дзейнічала на яго магічна, як чараўніца. Аднак, гуляючы з ёй сам-насам, далікатна спытаў:

— Што ты сказала канцлеру, што ён устрывожыўся?

— Калі? Што? — Алена не помніла, што яна магла сказаць, прайшло колькі дзён.

— Ты нібыта сказала, што хочаш усынавіць... гэтага малога.

— Ясіка? Сапега — стары сухар, ён не разумее жартаў. Ясік крычаў за дзвярамі: «Хачу да княгіні!» І я пажартавала: «Рвецца да княгіні, як вялікі князь». Хіба ты не рвешся, мой каханы?

Аляксандр весела засмяяўся:

— Я лячу на крыллях да цябе. Мне трэба паехаць у Кіеў, і я не магу адарвацца ад цябе.

— Пачакай трошкі — і я паеду з табой. Гэта такая радасць — ехаць з табой. Далёка-далёка...

— У Кіеў я баюся цябе браць. Там разбойнічаюць татары. Наш брат і цесць даў волю свайму саюзніку Менглі-Гірэю: шматайце Аляксандра.

Дакор такі ўжо неаднойчы рваў Алене сэрца. Яна не мела доказаў, каб абараняць бацьку. А муж меў факты супраць цесця. Год назад лазутчыкі літоўскія перахапілі пісьмо Іванава перакопскаму хану Менглі-Гірэю, і ў пісьме былі словы, якія вельмі пакрыўдзілі Аляксандра: «Мірыся, калі хочаш, а я заўсёды буду заадно з табою на літоўскага князя...»

Зусім нядаўна Аляксандр пасылаў да цесця Станіслава Глябовіча з ласкавым пісьмом: «Каб дагадзіць табе, нашаму брату, я заключыў нарэшце саюз любові і дружбы з ваяводаю малдаўскім Стэфанам».

У сапраўднасці прычына «саюза любові і дружбы» была больш: глыбокая: туркі, што прусакі, лезлі ў Еўропу, захоплівалі ўсе новыя і новыя землі, і папа Рымскі аб'ядноўваў усіх хрысціянскіх уладароў супраць турэцкага нашэсця.

Аляксандр мудра прасіў цесця: «Будзь і ты нашым саратнікам супраць агульнага злодзея, які заваладаў ужо многімі вялікімі дзяржавамі хрысціянскімі. Дзяржава Стэфанава ёсць загарода для ўсіх нашых, і калі султан пакорыць яе, то будзе роўна небяспечна і нам і табе...»

Але не прамінуў пляснуць за пісьмо Менглі-Гірэю: «На здзіўленне і на жаль, даведаўся, што ты, насуперак клятвеннаму абяцанню шчырай добразычлівасці, замышляеш супраць мяне зло ў сваіх тайных зносінах з Менглі-Гірэем. Брат і цесць! Успамяні душу і веру».

Значную частку гэтага пісьма пісала Алена, цалкам згодная з мужам. Аляксандр дадаў тое, пра што пісаў неаднойчы: «Ты жадаеш, каб я ў сваіх граматах называў цябе гасударом усея Русі, па мірным дагаворы нашым; не адмаўляюся, але з умовай, каб ты пісьмова і навекі зацвердзіў за мною горад Кіеў...»

Іван не адказаў пісьмова, але, прыняўшы Глябовіча, перадаў праз яго: «Няхай брат наш і зяць пабудуе для жонкі сваёй, дачкі нашай, прыдворную царкву, спыніць ганенне на праваслаўных, верне нам Кіеў і Смаленск — і тады будзе паміж намі вечная дружба і згода».

Гасудар усея Русі быў непахісны. Сваяцкія пачуцці ніколі не ўплывалі на дзяржаўныя інтарэсы, на яго ідэю сабраць усе рускія землі ў адну дзяржаву.

Глябовіч вярнуўся даўно. Але з-за хваробы сваёй цяжкай Алена зусім нядаўна даведалася пра вынікі яго паездкі — расказаў Аляксандр. Гаварыў ён на гэты раз бадай злосна і непачціва ў адносінах да бацькі яе. Але асабістае мала кранала: яна ўсё яшчэ мела крыўду на бацьку за яго ўніжэнне маці і Васіля. Пакутліва дваіліся яе пачуцці якраз у адносінах да дзяржаўных дамаганняў мужа і бацькі. Рускі гэты горад — Кіеў, рускі! Але хіба Вялікае княства Літоўскае не рускае? Колькі тых жэмайтаў! Жменя! Каму ж павінен належаць Кіеў, Смаленск? Во на гэта пытанне яна не мела адказу. Тады яшчэ невыразна акрэсліваліся тыя працэсы, якія ішлі на старажытнарускіх землях: у выніку з'яднання славянскіх этнічных плямёнаў утвараліся фарміраванні, якія неўзабаве стануць такімі ж вялікімі народамі, як рускі, польскі, іспанскі, французскі; немцы, італьянцы аб'ядноўваліся больш марудна, ім належала ісці да еднасці яшчэ тры стагоддзі.

З пісем, бацькавых і матчыных, і з тых, што яны пісалі разам з Аляксандрам, з адносін паміж вялікім князем і гасударом усея Русі, з расказаў паслоў, з сваіх пакутлівых, да галаўнога болю, думак акрэслівалася адна выснова... не, бадай, не разумовая выснова, а фізічнае адчуванне: яна, маленькая жанчына, якой больш за ўсё хацелася аднаго — нарадзіць дзіця, апынулася як бы паміж молатам і кавадлам. Распаляць яе да чырвані, палажаць на кавадла, бухнуць цяжкім молатам. Ад уявы такой Алена сціскалася ў камячок. Не, не смерці яна баялася. Яна баялася, што такі ўдар расплюшчыць не цела яе — душу, якая ўбірае ўсе пакуты, усе беды — і яе ўласныя, і мужа, і

маці, і бацькі, і ўсіх людзей... Расплюшчаная, знявечаная душа нікому не паможа. І Богу не паслужыць. Вось гэтага баялася.

Толькі з Ясікам забывалася на свае цяжкія, што валуны, думкі. Толькі з ім, з Ксеніяй, за вышываннем выпадалі хвіліны спакою, шчасця, калі, здавалася, анёлы ляталі над ёй.

5

Але і гэтую кароткую ідылію разбурыла... пісьмо. З Масквы. Ад маці і брата Васіля. Радаснае. Для каго? Для іх. А для яе?.. Бог наставіў на розум бацьку. Зняў ён вянец з Дзмітрыя. Няхай не ўсклаў яшчэ гэтак урачыста на Васіля, але абвясціў усенародна, каму перадае спадчыну — Дзяржаву Расійскую. Дзмітрыя трымаюць пад аховай. А маці яго Алену адаслалі ў манастыр.

«І Бог пакараў ворагаў нашай сям'і», — пісала маці. Князь Патрыкееў з сынамі, князь Рапалоўскі, баяры, што церліся каля Алены і рабілі падкопы і нагаворы на яе, вялікую княгіню Соф'ю, на дзяцей яе ды на самога гасудара, арыштаваныя. За Патрыкеевых прасіў мітрапаліт Сымон і яна, Соф'я, — дзяцей пашкадавала, сыны-юнакі! — і іх загналі ў розныя дальнія манастыры. А Рапалоўскаму, які быў не толькі нагаворшчыкам, паклёпнікам, але і літоўскім шпіёнам, адсеклі галаву.

Дачытаўшы да гэтых слоў, Алена страшна ўскрыкнула — так, што спалохаўся малы Ясік і пабег да маці. Як наяве ўбачыла адсечаную галаву князя і бадай што самлела. Ксенія, папярэджаная сынком, знайшла княгіню смяртэльна бледную, з адкінутай на спінку канапы галавой.

— Што з табой, Алена Іванаўна?

— Я... Яму адсеклі га-галаву...

— Каму?

— Князю.

— Якому князю? — Ксенія падумала пра Аляксандра і таксама ледзьве не страціла прытомнасць.

— Р-ра-па-палоўскаму.

— Нашаму? О Божа! За што?

У мінулым годзе Ксеніі не было ў палацы, яна з малым знаходзілася ў сваім маёнтку, а таму мала што ведала пра дварцовую барацьбу, якая адбывалася ў Маскве.

Растлумачыць Алена не мела сілы. У яе пачалася гарачка. Ці даўно выйшла з цяжкай хваробы і — зноў...

Ксенія, Марфа, пакаёўкі раздзелі вялікую княгіню, улажылі ў пасцель.

Прывід акрываўленай галавы Рапалоўскага не пакідаў яе. Паводзіла сябе галава дзіўна: то горка рыдала, то п'яная крыўлялася, то па-змоўніцку падміргвала.

У любым стане — пры галюцынацыях і здаровай развазе — Алену не пакідала адчуванне ўласнай віны. Але ў чым яна вінаватая? Што чатыры гады назад памагла Аляксандру паспешліва выслаць Рапалоўскага з Вільні? Але не мог жа ён быць тут дагэтуль? Шпіён? Божа! Якое глупства! Не любіў ён літоўцаў, выказваўся супраць іх, высмейваў. Нават вялікага князя перакрыўліваў, яго касалапую паходку; пра гэта расказвала Сінкліцыкія Рамаданоўская. У князя Семяона была хіба адна загана: ён меў авантурны характар, задзірысты, і любіў пагуляць, казалі, у маёнтках сваіх не праходзіў міма ніводнай прыгожай маладзіцы, ды і тут, у Вільні, ад жонкі збягаў у самыя грахоўныя прытоны.

Алена пераконвала сябе, што князя пакараў Бог — за грахі яго. Але ад гэтага рабілася горш: з такіх яе думак галава рагатала і грымаснічала. Яна разумела: вінавацячы нябожчыка, яна бярэ вялікі грэх на душу. Нябожчыку трэба даравацъ грахі, больш таго: яго грахі браць сабе.

Бацьку Бог паставіў на розум... Але які ж гэта розум — адсякаць галовы? Не забі! — першы запавет Збавіцеля нашага Ісуса Хрыста. Чаму ж не выконваецца запавет гэты? Парушаецца часцей, чым усе іншыя. Крадуць менш, чым забіваюць...

Ад думак такіх і прывіду галавы яна правальвалася ў непрытомнасць, задыхалася, у яе нарастала гарачка.

Спалоханая чэлядзь паслала ганцоў у Вільню — да вялікага князя.

Ён адразу прыскакаў, спалоханы.

Прысутнасць мужа трохі супакоіла Алену. Яна прачытала Аляксандру пісьмо, напісанае па-грэчаску.

— Дык добра ж усё, Гэля! Што цябе гэтак усхвалявала?

— У вачах маіх стаіць яго галава.

— О любая мая! Нельга ж так: хварэць за кожнага, хто памірае. Мяне здзіўляе бацька наш. Знайшоў шпіёна! У нас Рапалоўскі мачыў свае вусы ў жыдоўскіх шынках! Дык што ён мог перадаць маім ваяводам? Свае любоўныя прыгоды? Дык літоўскія паны па гэтай часці пераплюнуць усіх кавалераў Еўропы.

— Алекс, я дзякую табе, што ты не караеш смерцю.

Аляксандр змаўчаў. На такім узроўні — каб асудзіць князя, ваяводу — такіх смяротных прыгавораў сапраўды не было. Але ён ніколі не пасвяціў жонку ў самы непрыемны абавязак свой:

зацвярджаць смяротныя прысуды, у тым ліку і адсячэнне галавы. Секлі іх усюды, у любой дзяржаве, хрысціянскай і мусульманскай. Можа, некаторым уладарам гэта прыносіла задавальненне. Міласціваму, як называлі Аляксандра, заўсёды нялёгка было ставіць подпіс на такім крывавым папірусе. Але ў гарачку ні разу не кінула. А яе вось распаліла. Якая ж тонкая ў яе душа! За гэта Аляксандр яшчэ мацней пакахаў жонку.

Праз ноч Алене стала лепш. Але ўсё роўна Ксенія паехала па Леанілу. І славутая на ўсю акругу лекарка лячыла не заражаную кроў — заражаную галаву. І вылечыла. Вылечыў, безумоўна, час, але слава Леанілы пайшла далёка — на паўкняства Віленскага.

6

Прыехала дэлегацыя, чалавек дванаццаць, паноў і святароў праваслаўных ажно з-пад Менска. Да яе — да вялікай княгіні. Справа такая пільная, што дабраліся ў летні палац.

Алене далажылі, і яна выйшла да іх; дэлегацыі прымала неаднойчы, што ўхваляў Аляксандр і не ўхваляў Сапега, стары царадворац не любіў, каб хтось абыходзіў яго, асабліва раздражніла Сапегу, калі Алена прыняла сялян і гутарыла з імі больш за гадзіну. Не проста сталыя — старыя людзі ўпалі перад вялікай княгіняй на калені, ажно збянтэжылі.

— Ратуй, матухна, яснавяльможная княгіня, уладарка наша!

— Што здарылася? Толькі ўстаньце, калі ласка. Я ж не святая.

— Для нас ты святая, заступніца наша. Заступіся перад Богам і вялікім князем. Гоняць нас прымусам у чужую веру.

— У рымскую?

— У рымскую. Цэлыя сёлы зганяюць і хрысцяць.

— Дзе супраціўляюцца — бізунамі б'юць ваяры. Бернардзінцы, што чорныя дэманы, шлындаюць. У Гайне царкву спалілі.

— Ды хіба толькі ў Гайне. І ў Юр'еве.

— І ў Гарадку. Я з Гарадка. Маю царкву спалілі, калі я адмовіўся весці хрысціян у касцёл, у Менск.

Звесткі гэтыя ўдарылі Алене ў галаву гэтак жа, як ударылі пісьмы маці, мінулагодняе і нядаўняе — пра смерць Рапалоўскага.

Як жа так? Яна не ведае, што робіцца ў Вялікім княстве. Чаму? З-за хваробы? Чула краем вуха, што ў Вільні ў Табара гасцююць папскія пасланцы. Ды, выходзіць, не гасцююць яны. Раз'ехаліся па ўсім княстве І бізунамі заганяюць праваслаўных у рымскую веру. Пра гэта са слязамі казалі хадакі. Вунь адкуль прыйшлі — за дзвесце вёрст. І ведаюць больш, чым яна.

— Кажуць, папа прыслаў у дар Віленскаму біскупу мошчы святога Себасцьяна.

— І за гэта біскуп і вялікі князь пакляліся зрабіць усіх нас каталікамі.

— Кажуць, папа Аляксандр паабяцаў вялікага князя, цёзку свайго, абвясціць пры жыцці святым.

Дэлегаты не саромеліся выказаць усё, што знапі, а за доўгую дарогу зведалі многа: даведваючыся, што яны ідуць да вялікай княгіні, якая за чатыры з палавінай гады замужжа за каталікам не выраклася сваёй веры, людзі ад Менска да Вільні выказалі ім усе крыўды свае, якія чынілі ксяндзы і паны-каталікі.

Алена стаяла на лужку перад палацам, на сонцы, і баялася, што зноў страціць прытомнасць: так грукала кроў у скроні, звінела ў вушах.

Божа мой! Чаму ж ёй ніхто не сказаў: ні Сапега, ні муж, самае балючае было, што і Аляксандр скрыў! — што ў дзяржаве робіцца такое? А муж кляўся ёй, што аднаверцам яе не будзе ніякага ўціску. Ні вялікі князь Вітаўт, які пераходзіў у каталіцтва і вяртаўся назад у праваслаўі, ні бацька Аляксандраў Казімір, верны каталік, не змушалі сваіх падданых грэчаскай веры пераходзіць у рымскую. Іх жа пераважная большасць, праваслаўных, і мудрыя ўладары не маглі не лічыцца з гэтым.

Чаму ж Аляксандр пайшоў на гэта? І ні слова — ёй. Дзе ж яго каханне? Шкадаваў хворую? Добранькае шкадаванне! Ад такога ўзрушэння, ды яшчэ пасля хваробы, і на той свет можна заўчасна пайсці. Ад болю. Ад крыўды. Ад бяссілля свайго перад магутным наступленнем варожых сіл.

Сказалі святары і паны і пра тое, што Алена ведала, — пра дзейнасць епіскапа Іосіфа, скіраваную на аб'яднанне цэркваў. Гэта яшчэ больш узрушыла. Каталікі хоць ідуць у адкрыты бой, наступаюць з адкрытым забралам. А свае адступнікі памагаюць ім ашуканствам людзей, разбураючы адзіную праведную веру.

Што скажа ёй бацька? Праспала веру. «Даруй мне, Прасвятая Багародзіца. Не праспала я. Прахварэла».

Ведала: папу Рымскага, Табара яна не пераможа, ды і з Іосіфам барацьба будзе доўгая, зацятая, можа, да канца дзён — яе ці яго. Але Аляксандр... яе добры любы Алекс. Ён сапраўды такі добры, ён міласцівы, але ў яго не хапае волі. Няўжо праўда захацеў стаць святым у сваёй веры?

«Алекс, не смяшы людзей. Не пра тое ты думаеш. Пра дзяржаву думай. Такімі дзеяннямі яе нядоўга і разваліць».

Так і сказала хадакам:

— Супрацiўляйцеся ўсімі сіламі. Не адступайце ад веры нашай. А вялікага князя я пераканаю. Войска пасылаць, каб праваслаўны люд заганяць у касцёлы, ён не будзе, запэўніваю вас.

Сказала так цвёрда, што пасланцы паверылі. Нізка пакланіліся. Цалавалі ёй руку. Яна падарыла ім абраз Багародзіцы Цверскай, які нядаўна прыслаў гасудар усея Русі. Бацька, маці, сястра Феадосія з кожнай аказіяй прысылалі Алене літоўскай, як называлі яе ў Маскве, іконы — каб падтрымліваць веру яе, разумелі, як нялёгка ёй у акружэнні іншаверцаў.

Убачыўшы незвычайную ўзбуджанасць вялікай княгіні — палала ўся і калацілася, Ксенія, Марфа і нават малы Ясік адгаворвалі яе ад паездкі ў Вільню. Але не здолелі адгаварыць. Тут жа загадала запрагаць коней у адкрытую каляску. Ведала, што якраз у той дзень Аляксандр праводзіў пасяджэнне рады.

Ксенія паехала з ёй.

З'яўленне Алены ў Верхнім замку вельмі спалохала Аляксандра, здзівіла паноў рады.

Вялікая княгіня, проста адзетая — у рускі шаўковы летнік, — рашуча прайшла па зале да прастольнага ўзвышэння, на якім сядзеў муж яе.

— Вялікі князь! Вяльможныя паны! Я прашу слова для кароткай заявы.

— Вялікая княгіня можа сама браць слова, — сказаў князь Астрожскі.

— Дзякую. Што я хачу сказаць? Вельмі важнае. У мяне толькі што была дэлегацыя баяр і святароў грэчаскай веры. І я даведалася... я здзіўлена, што ні канцлер мой, ні вялікі князь не сказалі мне пра гэта. Не зналі? Тым горш... Што робіцца ў нашай дзяржаве! Гвалтоўна, з дапамогай войска, праваслаўных хрысціян заганяюць у рымскую веру. Паляць цэрквы...

— Цэрквы не паляць! — выгукнуў багровы Войцэх Табар.

— Паляць! — хацела сказаць, дзе спалілі, але асеклася: даведаюцца, адкуль была дэлегацыя, і могуць перахапіць яе і пакараць. — Паляць! Я разумею біскупа Табара. Яму хочацца трапіць у святыя рымскай царквы, — пляснула хітра і па мужу. — Хоча стаяць побач з прападобным Аўгусцінам. Але чаго хочацца панам дзяржаўнай рады? Разваліць Вялікае княства?

— Чым мы яго развалім? — бадай злосна спытаў Гаштольд.

— Чым? Божа мой! Такія разумныя галовы! А я, баба, павінна вам тлумачыць. Вялікі Вітаўт, мудры Казімір ніколі не гвалцілі сумленне людзей. Вам вера рымская зацямніла мазгі.

— Вера не зацямняе! Вера не зацямняе! — закрычаў Табар і закашляўся.

— Я не прарочыца. І не дай Божа, каб гэта здарылася. Але гэта можа быць. Ад такога ганення на веру святую грэчаскую князі і баяры памежных княстваў выйдуць з нашай дзяржавы і пяройдуць да ўладара праваслаўнага.

— Твайго бацькі, — зашыпеў Табар.

Але ніхто яго не падтрымаў, і запанавала дзіўная цішыня, якая чамусьці спалохала Алену. Яна глядзела на Аляксандра, чакаючы яго падтрымкі. Але ён сядзеў, унурыўшыся.

Алена адказала Табару:

— Я — вялікая княгіня літоўская і... руская. І я думаю пра маю дзяржаву. Я лічыла сваім абавязкам папярэдзіць вас, паны.

— На здраднікаў ёсць сіла, — сказаў сівы патрыярх ваявода Белы.

Астрожскі ўздыхнуў:

— Пан гетман лепш чым хто ведае, што дзве трэці нашага войска — рускія... праваслаўныя.

Ніхто не запярэчыў: гэта так.

— Думайце! — бадай загадала вялікая княгіня і пайшла да выхаду. Але доўгая зала здалася ёй бясконцай дарогай. У яе памлелі ногі. Гарэла галава. Каля дзвярэй яе павяло ўбок, і яна схапілася за касяк, прытулілася да яго лбом.

Аляксандр, Астрожскі і Сапега кінуліся да яе.

— Гэля! Табе блага?

— Не. Нічога. Правядзі мяне да карэты.

Табар прамовіў уголас:

— У вялікай княгіні гарачка.

У холе Алена сказала мужу:

— Алекс! У мяне няма гарачкі. Я гаварыла гэта не з гарачкі. Вяртайся ў залу і прымусь іх думаць. Ды паможа табе Бог!

Яна не знала, і нават пазней ёй не сказалі ні Аляксандр, ні Сапега, што якраз перад прыходам яе рада думала менавіта пра тое, пра што яна сказала. Тры дні назад атрымалі звестку, што князь Семяон Бельскі з землямі сваімі і немалым войскам, якое ахоўвала межы літоўскія, падаўся да вялікага князя маскоўскага.

Біскуп накаркаў: гарачка ў Алены пачалася. І яна зноў тыдзень праляжала ў ложку.

Ачуняўшы, даводзіла Аляксандру, на які небяспечны шлях ён стаў. Ды і сам ён разумеў гэта, бо словы яе пацвярджала жыццё: за Бельскім перайшлі да Масквы дробныя князі Масальскія і Мцэнскія. Але зрабіць паварот у Аляксандра не хапала сілы: папа Рымскі, яго цёзка, паабяцаў яму карону караля, а княству — каралеўства, пра што марыў яшчэ Вітаўт. Адно патрабаванне папы Аляксандр катэгарычна адмовіўся выконваць — развесціся з жонкай-схізматычкай. Калі Табар паспрабаваў націснуць, вялікі князь не без пагрозы адказаў: «Уладар дзяржавы я!»

Алене не расказваў аб здрадзе рускіх князёў; не хацеў ні пацяшаць яе, ні хваляваць: усе гэтыя трывогі не лепшым чынам уплывалі на яе здароў'е. Але Алена добра разумела, што ганенне на праваслаўных гасудар усея Русі не даруе ні зяцю, ні брату, ні ёй, дачцэ сваёй: яна добра ведала ваяўнічасць свайго бацькі. Алена баялася яго гневу. Страшэнна баялася вайны паміж Літвой і Масквой. Яна адмаўляла любую вайну, верная вучэнню Хрыста. Але гэта, па-сутнасці, была б вайна бацькі супраць дачкі.

На каленях прасіла мужа спыніць ганенне на праваслаўных. Ён абяцаў. Ён хацеў зрабіць гэта. Але не ўсё залежала ад вялікага князя. Прымусовае хрышчэнне можна спыніць. Але калі самі павадыры праваслаўныя — епіскап Іосіф, Сапега, Астрожскі, Глінскі і іншыя Імкнуцца ўз'яднацца з рымскай царквою і вымушаюць на гэтае ўз'яднанне паству сваю, — то што рабіць яму? Выступіць супраць? Ды папа абвесціць яго ерэтыком. А гэта — прыгавор на смерць, бо справу могуць давесці да суда інквізіцыі.

Але калі папа рашуча патрабаваў разарваць з Аленай шлюб, як яна не прыме каталіцкай веры, Аляксандр не падпарадкаваўся. Больш таго, ён у сваю чаргу дамагаўся, каб багатая царква адлічвала пэўную долю сваіх даходаў у дзяржаўную скарбонку. Каталіцкі клір не згадзіўся.

Аляксандр зрабіў немалыя захады, каб заспакоіць праваслаўных: гарантаваў неўмяшанне свецкай улады ў царкоўныя справы, недатыкальнасць царкоўных уладанняў, даў дазвол будаваць новыя і аднаўляць старыя цэрквы.

Алена, адужаўшы свае хваробы, фізічныя і душэўныя, пісала бацьку, маці, братам, сёстрам ласкавыя пісьмы. Можа, у дваццаты раз запэўнівала бацьку, што ёй хораша, што муж любіць яе і прымусу да змены веры ніхто не робіць, што ў летнім палацы збудавана дамавая царква, што вялікі князь выдаў указ, які забараняе панам прымусова хрысціць сялян у каталіцкую веру.

Жадаючы ўсталяваць мір і згоду, вялікая княгіня не магла ўтрымлівацца ад асуджэння аднаго чалавека — адступніка Іосіфа.

Усе свае пісьмы, напісаныя па-руску, яна давала чытаць мужу. Аляксандр не выкрасліў з іх ніводнага слова.

Але атмасфера накапілася. Аляксандр пайшоў на ваенныя падрыхтаванні. Ды рада бадай што не падтрымала яго з-за беднасці казны. Гэтую ж прычыну назваў і брат яго Ян Альбрэхт, кароль польскі, да якога ён звярнуўся з тайным запытам: ці падтрымае яго Польшча ў вайне з Масковіяй?

Наступіў год 1500-ты. Людзі верылі, што ў круглым годзе гэтым прыйдзе канец свету. Алена Іванаўна ўжо аднойчы перажыла такую круглую дату ў Маскве восем гадоў назад — сямітысячны год з часу стварэння Богам свету. Тады таксама чакалі сусветнай катастрофы.

Зімой назіралі небывалы зоркапад. У Новагорадзе, на Ладазе, у Волагдзе пачаўся мор людзей і жывёлы.

Алена старалася ўзняцца над прымхамі і страхамі. Але яна была дзіця свайго часу — прадчуванне калі не сусветнага, то міждзяржаўнага, міжсямейнага няшчасця сушыла яе мозг і душу.

Папрасіла Аляксандра напісаць цесцю пісьмо. Пісалі разам, без пісцоў. Упершыню спрачаліся, бо па-рознаму разумелі некаторыя спружыны дзяржаўных і асабістых адносін. Алена, напрыклад, была супраць, каб патрабаваць у гасудара ўсея Русі выдаць князя Бельскага. Аляксандр прагнуў адсекчы здрадніку галаву. Але ў цэлым гэта было добрае пісьмо, сваяцкае.

Адказ атрымалі жорсткі.

«Позна брат і зяць мой выконвае ўмовы, імянуе мяне нарэшце гасударом усея Русі. Але дачка мая яшчэ не мае прыдворнай царквы і чуе знеслаўленне на сваю веру ад віленскага епіскапа і нашага адступніка Іосіфа. Што робіцца ў Літве? Будуюць лацінскія бажніцы ў гарадах рускіх, адбіраюць жонак ад мужоў, дзяцей у бацькоў і гвалтам хрысцяць у закон рымскі. Ці ж гэта называецца не прыгнятаюць за веру? І ці магу я глядзець раўнадушна, як душыцца праваслаўе? Адным словам, я ні ў чым не пераступіў умовы міру, а зяць мой не выконвае іх».

«Мамачка любая, сёстры мае родныя! Толькі не вайна! Малю бацьку, вас усіх. Толькі не вайна! Вайна — мая смерць!» — пісала Алена ў пісьме ў Маскву, адзіным, якое не паказала мужу, хоць стары шпіён Сапега, які адсылаў пошту, прачытаў яго. Але ён быў адзін з тых уніятаў, якія таксама баяліся вайны, таму ўхваліў заклік вялікай княгіні да міру.

У зімовы дзень Аляксандр спусціўся з Верхняга замка ў Ніжні задоўга да абедзеннага часу і ўвайшоў да Алены з выглядам страшэнна спалоханага дзіцяці. Бледны, хоць і з марозу. Там, угары, перад панамі ён трымаўся, але гэта каштавала вялікіх душэўных намаганняў. Толькі перад жонкай, адзін на адзін, ён раскрыў свае цяжкія пачуцці.

— Божа мой! Гэта развал! Пачатак канца! — ён хадзіў па прасторным пакоі, ламаў пальцы. — Ты мела рацыю, Гэля! Ты папярэджвала. Але ж я выдаў указ. Позна? Але, позна. Бог карае мяне. Яны здалі яму абарону Кіева, подступы да яго.

— Што здарылася, Алекс? Супакойся, калі ласка. Што цябе так усхвалявала?

— Божа мой! Усхвалявала! Я ў паніцы, мая княгіня. Пачаўся развал Вялікага княства, якое сабралі мае продкі. Бог карае мяне. Завошта?

— Не палохай мяне, Алекс. Ты сапраўды ў паніцы. А гэта не да твару вялікаму князю. Будзь мужны, якая б бяда не напаткала нас.

— Князі Семяон Мажайскі і Васіль Шамяка перайшлі да Івана. Надзея наша! Апора!

Вестка гэтая, можа, не спалохала Алену Іванаўну, але моцна здзівіла. Яна добра ведала і даўнюю, і нядаўнюю гісторыю. Дзяды гэтых князёў, два Іваны, асляпілі яе дзеда Васіля, вялікага князя маскоўскага, клічка якога пасля асляплення была Васіль Цёмны. Пацярпеўшы паражэнне, Мажайскія і Шамякі падаліся ў Літву — куды ж яшчэ! Казімір прыняў іх з гарачымі абдымкамі. Падараваў у спадчыннае ўладанне Чарнігаў, Старадуб, Гомель, Любеч, Новагорад Северскі, Рыльск. Злейшыя ворагі Васіля і сына яго Івана, Мажайскія і Шамякі сапраўды былі апорай Казіміра і Аляксандра, вернымі вартавымі на памежжы. І вось... нават яны перайшлі пад уладу гасудара ўсея Русі, адкрыўшы яму дарогу на Кіеў.

— Ты ўяўляеш, як гэта ўмацуе Івана? Ты можаш парадавацца...

— Вялікі князь! Ты абражаеш мяне! Хіба мы не дзве палавінкі аднаго цэлага? Я кахаю цябе і не пакіну ні ў якой бядзе.

— О любая мая! Даруй мне, даруй. Я не ўсведамляю, што кажу. Я сказаў глупства. Але ты разумная. Ты разумная. Падкажы: што нам рабіць? Што? Абвяшчаць вайну?

— У цябе ёсць вялікая армія?

— Не, армія мая не гатовая ваяваць. І я не слынны ваявода. Каго я перамог, хоць паўжыцця правёў у сядле?

— Я буду кланяцца бацьку.

— Адзінае, што нам засталося — кланяцца. Уніжацца. О Божа!

— Ты не кланяйся. Буду кланяцца я. Пакланіцца бацьку — дабрадзейства, пашана да бацькоў — у святым пісанні. Супакойся, мой міласцівы князь.

Але, магчыма, не атрымаўшы Аленінага пісьма ці не надаўшы яму ўвагі — дачка пад пятой у мужа! — Іван Васільевіч прыслаў другараднага чыноўніка Целешава з папярэджаннем Аляксандру, каб ён не пасмеў уступаць у вотчыну князёў Чарнігаўскага і Рыльскага, якія добраахвотна далучыліся да Маскоўскай дзяржавы і будуць ахоўвацца яе войскам.

Целешаў уручыў Аляксандру складную грамату: «Вялікі князь Аляксандр па даканчанні не правіць: вялікую княгіню Алену, князёў і паноў рускіх да рымскага закону нудзіць, таму вялікі князь Іван Васільевіч здымае з сябе хроснае цалаванне і за хрысціянства хоча стаць, колькі Бог яму паможа».

Гэта было абвяшчэнне вайны.

Мужная, скупая на слёзы Алена праплакала не адзін дзень. Ажно счарнела нябога. Ужо не яна яго, а вялікі князь суцяшаў жонку. А Марфа зноў выклікала Ксенію і Леанілу. Ксенія прывезла Ясіка, і прысутнасць хлопчыка, які падрос, але стаў яшчэ больш пацешным гарэзам, лячыла лепш за адмысловыя лекі.

У адну з бяссонных начэй узнікла вар'яцкая думка: перайсці ў рымскую веру. На радасць мужу. І на злосць бацьку. Каб не быць паміж молатам і кавадлам, каб прыстаць да аднаго пэўнага берага. Дзеянні бацькі, хоць і ведала яго высокую мэту — сабраць рускія землі, не магла апраўдаць, не магла даруваць яму. Падумала ўпершыню аб тым, чаго ад яе дамагаліся тут, у Вільні, пяць гадоў — і тут жа перад ёй паўстаў вобраз Багародзіцы — з візантыйскай іконы, якую падарыла маці. Матка Боская глядзела з глыбокім смуткам, дакорам, асуджэннем.

— О, даруй мне, Прачыстая! Я знаю, што і думка такая — вялікі грэх. Але я не пайду на такі грэх. Не! Не!

Раніцою яна, без суправаджэння, без аховы, пайшла ў царкву. Ажно спалохала свайго спаведніка Іену:

— Ойча, я хачу пакаяцца.

— У чым, дачка мая?

Увайшла ў спавядальню:

— Сёння ўначы я саграшыла.

Святар збянтэжыўся і спалохаўся:

— Якім чынам?

— У думках, ойча. Я падумала: а можа, мне перайсці ў веру мужа майго?

— Грахоўная думка, грахоўная, але...

— Я знаю, ойча, ненатуральнасць становішча спавядаць з мужам розныя законы, гэта раздзяляе нас, а я кахаю яго, і ён кахае мяне... Але грэх не ў тым, што я надумала... Грэх у тым, што я хацела зрабіць гэта на злосць бацьку — за тое, што ён абвясціў нам вайну. Як можна абвяшчаць вайну дзецям сваім? Даруй мне, Госпадзі, — перахрысцілася тройчы. — У гэтым я грэшная, што ад злосці на бацьку гатова была ад веры сваёй адрачыся. Каюся. Каюся. Каюся. Даруй, ойча, мой грэх.

— Бог прыме тваё пакаянне. Адпускаю грэх твой. Змірыся, дачка мая. І нясі свой цяжкі крыж.

— Ой, цяжкі, ойча.

— Я знаю, вялікая княгіня. Але Збавіцель наш і святыя архангелы бачаць твае пакуты. І мацуюць адданасць тваю ісціннай веры. Маліся ім. Азь есмь Господь Бог твой: да не будуть тебе бози иные, развь мене. Возлюбиши Господа Бога твоего всем сердцемь твоимь, и всею душою твоею, и всею мыслию твоею.

— Я малюся, ойча.

— Чти отца твоего и матерь твою...

— Я шаную іх. Але — о Божа, даруй мне, грэшнай! — навошта бацька ідзе вайной на нас?

— За веру ідзе. За веру.

— Ойча, няўжо Бог хоча, каб за яго лілася кроў людская? Тысячы ж лягуць! Тысячы! З аднаго і з другога боку. Хрысціяне аднаго закона — праваслаўныя.

— Цяжкія сумненні грызуць тваю душу, княгіня. І няма ад іх лекаў іншых, як малітва.

Але — што палохала пасля — ёй не хацелася маліцца. За што біць паклоны? Упершыню зайздросціла Ксеніі, якая малілася проста, без душэўнага ўзрушэння, па звычцы: усе моляцца — і я хрышчу лоб. З адной веры ў другую перайшла. І аднак Бог шчыра ўзнагароджвае яе: неўзабаве яна народзіць другое дзіця.

А ёй, Алене, Бог даў вялікі зямны тытул, але не дае шчасця — адны душэўныя пакуты.

У той дзень вялікая княгіня пасварылася са сваім канцлерам. Хітры сівы ліс Сапега, як бы пачуўшы яе душэўную буру, пачаў даводзіць, што каб людзі Вялікага княства зліліся ў адну веру, то ні гасудар маскоўскі, ні хан перакопскі, ні магістры лівонскія і прускія не адважыліся б ісці на такі з'яднаны народ.

Алена ў гневе назвала яго здраднікам — як некалі епіскапа Іосіфа, і сказала, што дае яму адстаўку. Сапега спалохаўся страціць

цёплае месца, ды і працаваць з ёй было цікава, па-чалавечаму любіў княгіню. Паімчаў да вялікага князя.

Аляксандр, баючыся ў такі цяжкі час апазіцыі праваслаўных паноў, не адкладваючы прыйшоў уговорваць жонку. Алена скарылася: Бог з ім, з канцлерам! Няхай застаецца. І расплакалася, бадай спалохаўшы мужа, які вельмі рэдка бачыў яе слёзы.

— Ах, Алекс, я не знаю, што са мной робіцца.

Але пра свае начныя думкі і ранішняе пакаянне не расказала: пра гэта няхай ведаюць толькі Бог і яе спаведнік.

7

Праводзілі ў дзеючае войска камандуючага і іншых военачальнікаў. У іх гонар давалі баль. Не ад імя вялікіх князя і княгіні — ад імя горада Вільні, такое было жаданне Алены: не да ўрачыстасці ёй, не хацела, каб некаторыя злараднічалі, што, маўляў, не ўратавала міратворка ад вайны. Людзі ёсць крывакжэрныя, асабліва некаторыя баяры, ім свярбела хутчэй схапіцца за меч і секчы галовы чужынцам. А якія чужынцы?

Алена не хацела нават ісці на гэтыя сумныя для яе провады, але Аляксандр пераканаў, што панства не зразумее яе адсутнасці і па горадзе пойдуць неверагодныя чуткі. Не трэба людзям даваць зачэпку для зласлоўя.

Гетман Канстанцінавіч Астрожскі быў героем балю. Усе пані завіхаліся каля яго. А ён ажно падрос. І ўвесь ззяў: яго каштанавыя валасы, яго шчокі, новенькі мундзір, расшыты золатам, залатая шырокая, на ўвесь жывот, з буйнымі брыльянтамі і россыпам ізумрудаў папруга, залатыя ножны кароткай гішпанскай шпагі, на якія толькі што мянялі цяжкія мячы.

Калі Аляксандр і Алена занялі свае тронные месцы, каб паны аддалі ім пашану — прывіталі, Астрожскі падляцеў першы — што на крылах. Апусціўся на калена:

— Яснавяльможная княгіня! Вялікі князь! Вітаю вас ад імя магутнага войска нашага. Абяцаю неўзабаве пакласці да вашых ног пачэсную перамогу. Але клянуся табе, вялікая княгіня, што я не ўзніму свой меч на бацьку твайго, на братоў тваіх. І не буду браць штурмам Масквы. Так мы дамовіліся з вялікім князем Аляксандрам.

— Дзякую, гетман, — сказаў Аляксандр.

Алена змаўчала. Але калі ваяр адышоў, сказала гучна:

— Князь Канстанцін — што малады задзірысты певень. У яго такі прыгожы грабеньчык! Пацалаваць хочацца.

Пані, якія пачулі яе словы, засмяяліся. Аляксандр сціснуў жончыну руку: маўчы! Не табе гэтак жартаваць, калі гетман вядзе войска на твайго бацьку.

Аляксандр паслаў ганцоў у гарады Вялікага княства з загадам ваяводам, князям, панам, старастам прысылаць дружыны і воінаў. Збор арміі ў Менску. Адтуль ён сам павядзе войска на маскоўскую граніцу — ка дапамогу гетману Астрожскаму.

Напісаў брату свайму Альбрэхту, каралю польскаму: памажы войскам. Мусіў прасіць папу і біскупа ахвяраваць з незлічоных залатых запасаў на вайну са схізматыкамі. Атрымаў папскае блаславенне, але грошай не атрымаў. Адмовіў у дапамозе польскі сенат, які меў уладу над каралём.

Як павядзе сябе панства Вялікага княства? Аднаўляў даўнія сувязі з Залатой ардой — злейшым ворагам Вялікага княства Маскоўскага. Бадай уніжана прасіў саюзу і дружбы ў былога ворага Платэнберга, магістра лівонскага.

Так быў заняты падрыхтоўкай, паездкамі, што не меў часу грунтоўна пагаварыць з найлепшым дарадцам — жонкай.

Перад адбыццём Аляксандра ў Менск Алена ашаламіла яго, хоць пэўным чынам і парадавала:

— Я паеду з табой.

— Добра. У Менску, пакуль збярэцца войска, ты можаш пабыць. А далей — паход. Я мушу начаваць з воінамі ў полі.

— І я буду начаваць у полі.

— А далей — бітва. Хіба я дапушчу, каб ты была на полі бітвы? Ні ў якім разе! Не жаночая справа — ваяваць.

— Я буду перавязваць раненых.

— Вялікая княгіня! Адумайся! Што ты кажаш! Ты не ўяўляеш, што такое вайна. Якія нечаканыя манеўры робяць дружыны, нашы і варожыя! Сціхні, калі ласка. Не тлумі галаву. Яна і без тваіх фантазій баліць.

— Добра. Ты ж маеш намер ісці да Смаленска? Я застануся ў Смаленску. Але я буду блізка ад цябе.

— Любая мая, я дзякую табе за імкненне быць побач з мужам сваім. Але Смаленск... Перш за ўсё Іван Васільевіч паспрабуе ўзяць Смаленск, яго мэта. Маскоўскае войска можа аблажыць горад.

Алена крыва ўсміхнулася.

— Гэта было б дзіва дзіўнае, каб бацька ўзяў у палон уласную дачку.

Аляксандр, які нервова хадзіў па зале, спыніўся, пабялелы.

— Табе хочацца ў палон да бацькі?

Алена абурылася, гнеўна пачырванела:
— Вялікі князь зноў абражае мяне.
Муж упаў перад ёй на калені:
— Прабач, Гэля. Прабач, любая.
Яна ўлагодзілася:
— Калі ты не возьмеш мяне, я ўсё роўна прыеду. Хто спыніць вялікую княгіню?
Аляксандр бадай весела засмяяўся:
— О! Маю вялікую княгіню не спыніць ніхто! Гэта я ведаю.
Прыехала з маёнтка Ксенія. Як ніколі раней, папрасіла праз слугу, каб вялікая княгіня прыняла яе. Здзіўленая Алена пайшла насустрач малочнай сястры.
Ксенія ўпала да яе ног.
— О матухна, вялікая княгіня! Збавіцелька мая! Ратуй! Ратуй дзетак маіх!
Нядаўна Ксенія нарадзіла дзяўчынку, Алена пісала ёй віншаванне, пашкадавала, што не можа стаць хроснай, раз'яднала іх вера, паслала дарагі падарунак.
— Ксюта! Што ты робіш? Устань, калі ласка. Хто пагражае тваім дзецям?
— Мой Міхал папрасіўся на вайну. Дрэнна яму ахоўваць замкі. Ваяваць, дурню, захацелася. Алена Іванаўна! Пагавары ты з ім. Цябе ён паслухае.
Алена падняла Ксенію, пасадзіла побач з сабою. Але ад узрушэння ёй не сядзелася. Яна паднялася, у задуме прайшлася па зале. Цяжкія і супярэчлівыя думкі нарадзіла Ксеніна просьба.
Чалавек, якога яна зрабіла багатым, узняла яго вайсковы чын, просіцца на вайну... з бацькам яе, з братамі жонкі сваёй, маткі сваіх дзяцей. Нядобрае пачуццё ў яе варухнулася да Міхала Стругі. Але разам з тым неяк больш востра адчула адказнасць за Айчыну, набытую замужжам — Вялікае княства Літоўскае і Рускае. Яна знала, што стары гетман Белы набірае полк добраахвотнікаў, які пойдзе ў бой пад штандарам вялікага князя. У гэты полк просіцца Струга. Але менавіта за гэты полк яна яшчэ колькі дзён назад адчула страх — за воінаў яго, бо ўбачыла сярод іх юнакоў, па сутнасці, дзяцей. Звярнула ўвагу на гэта Аляксандра: нельга весці на яўную смерць будучыню дзяржавы. Ды і Міхал гэты, які шэсць гадоў вартуе спакойны сон князёў і чэлядзі, — які ён воін?
Але што яна скажа яму, калі ён ужо запісаўся? Прасіць гетмана ці вялікага князя не браць яго? Дзіўная просьба. Ніхто не зразумее яе.

Убачыўшы, што вялікая княгіня вагаецца, не дае абяцанняў, Ксенія расплакалася.

— Загіне Міхал там, Алена Іванаўна. Ён жа такі... яму хочацца быць наперадзе, за чужыя спіны не схаваецца.

— Добра, я пагавару з тваім Міхалам. Як там Катрыначка?

— Ой, княгіня! Анёлачак. Маму пазнае ўжо, да цыцкі цягнецца... Як падумаю, што без бацькі застанецца...

— Не плач. Малако страціш. Нешта ты плаксівая стала. А такая рагатуха была.

— З чаго рагатаць?

— Свякроў цябе не крыўдзіць?

— О не. Яна святы чалавек. Унукам усю душу аддае. Каб я паспала, гатовая ноч не спаць, калыску калыхаць.

— Шчаслівая ты.

— Ад таго і плачу, што шчаслівая.

У той жа дзень, да ад'езду Ксеніі назад у Ашмяны, Алена пагаварыла з Міхалам Стругам.

Бачыўся капітан з жонкай, ведаў, па якой патрэбе выклікае яго вялікая княгіня. З'явіўся ў параднай форме, грудзі — колам, вусы натапыраны, што ў ката. Трымаўся больш смела, незалежна, чым звычайна, калі сустракаўся з уладаркай, якая рэдка праходзіла міма — спыняла, пыталася пра жонку, пра Ясіка, на зайздрасць іншым камандзірам аховы.

Вялікая княгіня не стала заходзіць здалёк. Аглушыла ваяку прыдворнага не пажаданнем — бадай загадам:

— Міхале! Твая княгіня не жадае, каб ты ішоў забіваць маіх братоў і братоў сваёй жонкі.

Збянтэжыўся. Ажно спацеў, абмяк, страціў ваяўнічы выгляд, як хлапчук, злоўлены ў шкодзе, апусціў вочы, пераступаў з нагі на нагу.

Алена пашкадавала, што не пасадзіла за шырму Ксенію, няхай бы паглядзела на свайго героя.

Доўга шукаў, што адказаць.

— Яснавяльможная княгіня, я даў клятву.

— Скажы гетману: такая воля вялікай княгіні.

— Я гатовы памерці за вялікага князя!..

— Ні князю, ні мне не патрэбна твая смерць. Гадуй дзяцей. У недалёкай будучыні твой Ясік стане ў шарэнгі войска літоўскага. Можа, ён будзе больш патрэбны, чым ты.

— Можа... — воін абліўся потам, такога выпрабавання не меў яшчэ: каб вялікая княгіня прымушала зрабіць тое, чаго ён не хацеў рабіць, не мог. Як пасля глядзець у вочы таварышам?

І Міхал Струга не выканаў патрабавання вялікай княгіні — небывалае здарэнне! Неўзабаве выступіў на чале дружыны. Алена моцна ўзлавалася. Але як і за што караць яго? Папрасіць вялікага князя вярнуць неслуха? Але з-за якой прычыны? Жонка? Дзеці? У тысячаў воінаў — жонкі, дзеці.

Любая ўладарка хутка забылася б на такі эпізод. Алена адчувала сваю віну перад Ксеніяй, хоць ніякую крыўду тая не выказала. Ведала: гаварыла вялікая княгіня з яе Міхалам. Але такі вось ён — упарты. Плакала і ганарылася ім. А малому Ясіку расказвала пра бацьку легенды.

Войска ў Менску збіралася павольна. Паны прысылалі воінаў не з лепшай зброяй, не ў новай амуніцыі. Князі паўднёвых земляў не прысылалі ўвогуле: маўляў, ім трэба абараняцца ад татар Менглі-Гірэя. Гэта так, татары ліхадзейнічалі. Маскоўскія цяжкія калоны не маглі пранікнуць у глыбіню Вялікага княства. Татарскія коннікі наляталі, што смерч, вакол Кіева пасвіліся — што ў сябе дома.

Не прыслаў войска нават Полацк: год назад лівонцы вывелі ад іх тысячы маладых мужчын, прымусілі будаваць рыцарам крэпасці на мяжы з Псковам і Полацкам. Аляксандр папрасіў Платэнберга вярнуць палонных воінаў.

Сумнае пісьмо напісаў брат Альбрэхт: польскі сенат адмовіў Вялікаму княству ў войску, бо палякі не задаволены, што літоўскія паны не аднаўляюць унію, палякам вельмі хацелася расшырыць сваю дзяржаву за кошт бязмежных прастораў княства.

Папа Рымскі блаславіў Аляксандра на перамогу над схізмай, але пра царкоўныя грошы — ні слова.

Аляксандр нерваваўся. Алена ж радавалася, што выступленне войска затрымлівалася. Яна жыла ў Заслаўскім замку, на беразе Свіслачы, сярод дзівоснай прыроды пачатку лета. Муж не кожны дзень прыязджаў з Менску. Але калі з'яўляўся, для іх было свята, мядовыя дні. Здароў'е вялікай княгіні настолькі ўмацавалася, што ў яе з новай сілай абудзілася жаночае жаданне кахання, ласкі. І князь, не гледзячы на ўсе клопаты, меў вясновую сілу. Ён прасіў Алену: калі выступіць з войскам, няхай яна застанецца тут, у гэтым дзівосным кутку, блізка ад Вільні. Не, пераканаць яе было немагчыма: яна пойдзе з ім.

Аляксандр радаваўся і трывожыўся — за яе.

Нарэшце выступілі з дваццацітысячным войскам. Невялікая сіла. А ў Астрожскага і таго няма. Прайшлі вёрст сто і спыніліся — за Барысавам, на рацэ Бобр.

Чаму месяц стаялі там? У вялікага князя не было ўпэўненасці ў сіле? Баяўся за жонку, якая намервалася ехаць з войскам далей? Ці, можа, І за сябе баяўся, за сваё ўменне весці тысячы людзей у бой? Рашучасці Аляксандру заўсёды не хапала. Ён мог успыхнуць, як паходня, але хутка патухаў і доўга пасля дыміў — без агню.

Вялікі князь жыў па-паходнаму, у шатры.

Алена з прыслугай размясцілася ў доме мясцовага небагатага пана. Звыклай да раскошы, ёй там было няўтульна: кусалі блохі і мухі. Адзіная асалода: купанне ў Бабры, рэчцы сцюдзёнай, у якой каля ног яе спынялася стронга з залатымі крапінамі. Між іншым, гэта была ўлюбёная страва яе ў Вільні і тут — стронга смажаная ў смятане, як некалі ў Маскве волжская сцерлядзь. Ела гэтую рыбу не толькі ў вялікі пост.

Аляксандр ледзьве не штодня слаў ганцоў да Астрожскага, які стаяў недзе каля Дарагабужа, гатовы адбіць горад у маскавітаў: даваў такое абяцанне.

Колькі дзён ганцы ад гетмана не вярталіся. Алена бачыла, як трывожыўся муж. Супакойвала яго.

Быў дажджлівы дзень, вялікай княгіні было маркотна ў чужым няўтульным доме, яна прыйшла да мужа ў вялікакняжацкі шацёр. Па скураным яго даху прыемна барабаніў дождж. Пад гэты шум хораша думалася і прыемна засвойвалася мудрасць Евангелля.

«Не збірайце сабе скарбаў на зямлі, дзе моль і ржа знішчаюць і дзе зладзеі падкопваюць і крадуць. Але збірайце сабе скарбы на небе, дзе ні моль, ні ржа не знішчаць і дзе зладзеі не падкопваюць І не крадуць. Бо дзе скарб ваш, там будзе і сэрца ваша».

А далей у Лукі — словы Ісуса: «Калі ж пачуеце пра войны і пра ваенныя задумы, не жахайцеся: бо належыць гэтаму быць, але гэта яшчэ не канец».

А ў яе з пачаткам вайны з бацькам усё часцей наведваліся думкі пра канец свету. Але: «Гэта яшчэ не канец».

Аднак чаму ж радавацца?

«Прадасць жа брат брата на смерць, і бацька дзяцей, і паўстануць дзеці на бацькоў, і ўсмерцяць іх».

Усё прадбачыў Збавіцель наш, аб усім папярэдзіў. Але людзі не паслухаліся і не зрабіліся лепшымі. І пакутуюць за грахі свае.

Алена пачала думаць пра грэх свой, часта думала. Так, яна грэшная. У яе грэх плоці, пачуццяў. Яна любіць асалоду кахання. Любіць раскошу. Нават блохі для яе пакута. Але не адчувае яна граху духоўнага, а гэта — галоўнае.

«...Усялякі грэх і знеслаўленне даруецца чалавекам, а знеслаўленне Духа не даруецца чалавекам».

«Ісцінна кажу вам: будуць дараваны сынам чалавечым усе грахі... Але хто будзе ганіць Духа Святога, таму не будзе даравання ніколі, і будзе яму вечнае асуджэнне».

Але ж найвышэйшы з дароў Святога Духа чалавеку — любоў. Хіба ж яна не любіць Айчыну сваю? Якую? У сэрцы яе яна — адзіная, Айчына яе там, дзе жывуць браты і сёстры па веры. Хіба не любіць маці сваю? І бацьку... Двойчы моцна разгневалася на яго. А гэта — грэх. Але ў першы раз — за крыўду, якую зрабіў бацька маці і Васілю, — яна пакаялася. За гнеў свой на бацьку за тое, што абвясціў дзецям вайну, не пакаялася. І не можа каяцца. Можа, ён трохі прытупіўся, гнеў, але ўсё роўна баліць. Бацька ваюе за веру. Але няўжо за тое, што людзі інакш хрысцяцца, інакш разумеюць Духа Святога ці на прычасці ядуць хлеб кіслы ці праснакі, трэба забіваць адзін аднаго? Гэтага галоўка яе не прымала.

Яна любіць мужа свайго. Дык хіба ж можа асалода блізкасці з ім стаць смяротным грахом? Пэўна, Богу трэба было грэхападзенне Адамава. Як без яго прадоўжыўся б род чалавечы? Біскуп Табар часта гаворыць аб грахах плоці. А ў Праваслаўным спавяданні сказана: «Грэх сам па сабе не існуе, паколькі ён не створаны Богам».

Гарыць галава ад пакутлівых думак.

Алена высоўвала яе з шатра і мачыла пад дажджом.

Ласкавы шум дажджу супакойваў. І салодкае храпенне мужа ў глыбіні шатра. Ёй прыемны яго сон, як сон дзіцяці. Яна не асуджае яго, бадай радуецца — о грэшная! — што ён не распальвае сваю галаву думкамі аб прароцтвах Свяшчэннага пісання, аб сваіх грахах. Аляксандр шчаслівы чалавек: ён не прызнае грахоў сваіх і часам нават жартаўліва кпіць з таго, як яна кроіць душу сваю. У яго цяпер адны клопаты — ваенныя, і думкі, прагаварыўся неяк, грэшныя: як адпомсціць цесцю і брату, як пабіць яго.

Вайна — гульня крывавая: хто каго. Але Аляксандр падобны на гетмана Астрожскага — не сумняваецца ў перамозе войска Вялікага княства. Забываўся, што Іванавы прасторы цяпер яшчэ большыя, умее вялікі князь маскоўскі збіраць землі, недарэмна называе сябе гасударом усея Русі.

Так віхурыліся Аленіны думкі — ад Евангелля да грэшных спраў зямных.

Мацнеў дождж... А ў полі за ракой стаяць мэндлікі зжатага жыта. Во боская справа: сеяць і жаць.

Ды раптам як бы зардзела, застагнала зямля ў сонным ваенным лагеры. Не адзін ганец, не два... цэлы загон скакаў што ёсць сілы на заплёханых гразёй конях. І воіны мокрыя, запырсканыя чорнай і жоўтай зямлёй.

Усе... уся каманда падляцела да шатра вялікага князя.

Алена адразу адчула: бяда.

У вершніку, які саскочыў з каня першы, яна пазнала Міхала Стругу. І ён сябе паводзіў дзіўна. Не пакланіўся вялікай княгіні: не гнулася спіна ад стомы, ці што? Ахрыплым голасам спытаў:

— Дзе вялікі князь?

Але Аляксандра разбудзілі конскі тупат, ляскание зброі, галасы. Ён хутка выйшаў з шатра — без шлема, з непакрытай галавой, без шпагі.

Перад ім капітан Струга ўпаў на калені:

— Бяда, яснавяльможны князь! Нас разбілі... усё войска наша. На берагах ракі Ведрашы. Гетман, маршалкі і князі ці загінулі, ці трапілі ў палон. Не ведаю, вялікі князь! Ледзьве ўцяклі. Раненыя... Частка ўцалелага войска падалася ў Смаленск, за крапасныя сцены. А мяне ваявода Глябовіч паслаў да вялікага князя з гэтай страшнай весткай. Карай ці мілуй, вялікі князь... Лепш я памёр бы на полі бітвы. Яны тапілі нас у балоце...[1]

Каго караць? Аляксандр узмахам рукі адпусціў ганцоў. А сам застаўся стаяць пад праліўным дажджом. І Алена не адразу

---

[1] Заўвага аўтара. У канструкцыі сюжэта не ўваходзіць паказ бітваў, іх было многа, і яны даюцца апісальна. Што датычыць бітвы на Міцькавым полі, то пра яе нейлепш расказвае выдатны рускі гісторык Мікалай Міхайлавіч Карамзін — каротка і выразна:

«Близ Дорогобужа, среди обширного Митькова поля, на берегах реки Ведроши, стояли Иоановы полководцы, Даниил Щеня и Юрий, готовые к бою. Князь Острожский знал от пленников о числе россиян, надеялся легко управиться с ними и смело шел сквозь болотистые, лесистые ущелья к нашему стану. Передовой московский полк отступил, чтобы заманить литовцев на другой берег реки. Тут началась кровопролитная битва. Долго и мужество и силы казались равными: с обеих сторон сражалось тысяч восемьдесят или более; но воеводы Иоановы имели тайную засаду, которая внезапным ударом смяла неприятеля. Литовцы искали спасения в бегстве: их легло на месте тысяч восемь; множество утонуло в реке: ибо наша пехота зашла им в тыл и подрубила мост. Военачальник Константин, наместник смоленский Станислав, маршалки Григорий Остюкович и Литавор Хребтович, князья друцкие, мосальские, паны и чиновники были взяты в плен; весь обоз и снаряд огнестрельный достался в руки победителю. С сею счастливою для нас Вестаю прискакал в Москву дворянин Михайло Плещеев. Государь, бояре, народ изъявили радость необыкновенную. Никогда еще россияне не одерживали такой победы над Литвою, ужасно для них почти не менее моголов в течение ста пятидесяти лет.

Слыхал от своих дедов, как знамена Ольгердовы развевались перед стенами кремлевскими, как Витовт похищал целые княжества России и с каким трудом благоразумный сын Донского, Василий Димитриевич, спас ее последнее достояние, ликующие москвитяне дивились Ивановой и собственной их славе! Князя Острожского вместе с другими знатными пленниками привезли в Москву, окованного цепями, по сказанию литовского историка; но Иоан чтил его и склонял вступить в нашу службу. Константин долго не соглашался: наконец, угрожаемый темницею, присягнул в верности российскому монарху, весьма неискренно; ему дали чин воеводы и земли: но он, литвин душою, не мог простить своих победителей, желал мести и совершил оную через несколько лет, как увидим».

Пасля смерці Івана і Аляксандра Астрожскі вярнуўся ў Літву, поўзаў перад каралём Жыгімонтам на каленях, прасіў дараваць здраду. Даравалі.

Праз чатырнаццаць гадоў у верасні 1514 года адпомсціў за сваё паражэнне і палон: разбіў рускіх пад Оршай. Але перамога гэтая мала што дала Вялікаму княству Літоўскаму, Рускаму і Жамойцкаму. У тым жа годзе вялікі князь маскоўскі Васіль, сын Іванаў, штурмам узяў Смаленск, які роўна сто дзесяць гадоў быў пад уладай Літвы.

адважылася наблізіцца да яго, каб адвесці ў шацёр. А калі аклікнула, вялікі князь вельмі нядобра глянуў на яе, быццам яна, дачка Іванава, вінаватая ў ганебным паражэнні Канстанціна Астрожскага. Але, чулая і добрая, разумеючы яго стан, Алена не папракнула яго, слова не сказала. Ласкава папрасіла:

— Не стой пад дажджом. Прамокнеш да ніткі.

У шатры Аляксандр сеў на табурэт і доўга сядзеў у глыбокай задуме. Як бы падводзячы вынік думкам, сказаў:

— Няма мне шчасця.

— Ваеннае шчасце — што асенняе надвор'е. То дождж, як сёння. А заўтра будзе сонца. Заўтра будзе свяціць сонца! Нам.

Ён здзівіўся яе словам, адказаў узлавана:

— Сонца ўсім свеціць аднолькава. Ты радуешся, што яно свяціла твайму бацьку?

— Мой яснавяльможны князь! Чаму мне радавацца? Што разбіта наша войска? Наша з табой! Не аддзяляй мяне, Алекс! Не аддзяляй. Без мяне табе будзе горш. А мне — без цябе.

Аляксандр заплакаў, не саромеючыся перад жонкай слёз сваіх. Алена не стала суцяшаць яго: няхай памые душу, і тады яна прасвятліцца.

— Мне трэба было даўно выступіць.

— Не карай сябе.

— Што рабіць? Што рабіць?

— Пасылай войска, якое стаіць тут, у Смаленск. Разбіўшы гетмана, гасудар будзе браць Смаленск. Не інакш. Гэта разумею нават я.

Аляксандр падхапіўся.

— О мой ваявода! Ты камандавала б лепш за Астрожскага. Гетман — задавака. Што ён плёў на развітанне?! Не будзе штурмаваць маскоўскі Крэмль. Свістун!

— Перадай камандаванне Кішку ці каму, а сам вялікі князь павінен вярнуцца ў Вільню.

— Павінен?

— Каб збіраць армію. Шукаць саюзнікаў. Нашы паны не спяшаюцца прысылаць загоны.

Узбуджаны Аляксандр зноў сарваўся.

— Твае паны. Праваслаўныя!

Алена прапусціла міма вушэй: не да месца тут пошук вінаватых. А пра памылку яго — дазволіць ганенне на праваслаўных — яна ўжо казала і яшчэ не аднойчы скажа. Але для гэтага трэба іншы час, іншыя ўмовы, не такая яго ўзрушанасць. Разумная жонка, Алена ўмела выбраць найбольш спрыяльны час і для ласкавай жаночай

размовы з мужам, і для такой вось цяжкай, небяспечнай — пра веру, палітыку, вайну.

Вярталіся назад у экіпажы, з невялікай аховай, з прыслугай вялікай княгіні. Аляксандр — не як военачальнік, як мірны падарожнік. Гэта яго яўна гняло, ён ехаў то ў цяжкім маўчанні, якое Алену проста палохала, то раптам раздражняўся — супраць цесця, Астрожскага, сваіх ад'ютантаў, аховы. Рабіў нечаканыя і доўгія прывалы. Толькі прысутнасць Алены вымушала яго на начлег заязджаць у замкі, маёнткі, манастыры. Абедалі ў полі — па-паходнаму. Многа піў віна, выпіць увогуле ён і раней любіў, але заўсёды трымаў гонар уладара, галавы не губляў. Тут жа на падпіцці рабіўся гаманкі, уедлівы, здзеклівы. Найчасцей здзекаваўся з свайго ворага — цесця і брата, як называў яго ў пісьмах пяць гадоў.

— Твой бацька на каня можа ўзлезці? Ці яго садзяць, як бабу?

— Не знаю. Я пяць гадоў не бачыла яго. Ён пастарэў. А раней лепшым коннікам быў.

— Лепшы? Ха! Штось я не чуў, каб ён сам вадзіў войска, браўся за меч. Усё жыццё заграбае жар рукамі Шчэняў. Вугалёк з далоні на далоню не перакінуў. Во такі ваяка твой бацька!

Алена магла б напомніць, што бацька яе вадзіў загоны супраць Аляксандра маладога, супраць бацькі яго Казіміра, супраць літоўцаў, татараў Залатой арды, далучыў Вялікі Наваград да Масквы. Але яна нічым не раздражняла мужа. Яна разумела, як баліць яму, і ні разу не сыпанула солі на раны. Толькі ўлагоджанаму і расчуленаму магла даць парады, дзяржаўныя:

— Выдай указ, каб нашы католікі ў сваіх маёнтках, ці набываючы новыя, не прымушалі праваслаўных халопаў пераходзіць у рымскую веру. Раба можна прымусіць, але і раб чалавек, і калі ён верыць у Бога, Ісуса Хрыста, у Святога Духа, то ніколі прымус не парушыць яго веру. Я кажу табе: у нашым княстве людзі жылі вальней, чым у княствах рускіх. Не чапай іх веры, і яны пойдуць за табой, мой вялікі князь.

— Я выдам такі ўказ.

— Я сама паеду з ім. На ўсход ці на поўдзень.

— Не пушчу я цябе на поўдзень, дзе шлындаюць татары, гэта шалёныя звяры. Я ж не магу табе даць дзесяць тысяч войска. І на ўсход… Смаленску трэба войска, а не малітвы.

— О Алекс! Малітва — тая сіла, што вядзе войска.

А праз гадзіну якую — зноў злосць:

— Не, я паламаю яму гнілыя зубы, старому мядзведзю!

— Каму?

— Цесцю і брату майму…

— Алекс, ён — мой бацька, — асцярожна нагадала Алена.

— Бацькі так не робяць! Крыж цалаваў.

Алена сумна ўздыхнула, згаджаючыся.

— Але і мы з табой не ўсё рабілі па-хрысціянску. Ты занадта слухаў біскупа Табара і адступніка Іосіфа.

— Табе не дагаджаюць ні наш святар, ні ваш.

— Мне не трэба дагаджаць. Няхай дагаджаюць Богу. І не дыктуюць сваю волю свецкім уладарам.

— Ды ты што! Ты хочаш, каб я, раб Божы, быў вышэй за папу?

— Памылка пап, усіх, якія панавалі пасля перамогі хрысціянства, што яны хацелі ўлады над усім светам. Каб каралі паўзлі да іх на жыватах. Патрыярх Канстанцінопальскі да гэтага не імкнуўся. І мітрапаліт Маскоўскі — дарадца вялікага князя, а не ўладар. І наш мітрапаліт Кіеўскі. Лезе ён у дзяржаўныя справы, як Табар?

— Ты не любіш яго?

— Не люблю. А ён ненавідзіць мяне. Калі атруціць мяне — не здзіўляйся.

— Гэля! Што ты гародзіш! Ён святы чалавек.

— Такія святыя пасылаюць людзей на касцёр.

— Ерэтыкоў.

— Ёсць адзіны суддзя — Бог. Хто сапраўды ерэтык і адступнік, таго пакарае Бог. Ні папа, ні наш біскуп не могуць быць суддзямі, бо яны самі грэшныя.

— Гэля! Я прашу цябе не выказваць такія думкі так, каб яны выляталі з гэтага вазка ці з замкавых сцен. Таму ж Сапегу. Ён перадае Табару.

— Я ведаю. Я жыву як у асадзе. Але не думай, што я нецярпімая. Я кахаю цябе аддана… Я люблю твайго брата Фрэдэрыка. Ён разумны. Я люблю разумных. Мая Ксенія перайшла ў веру мужа. І я ні на ёту не змяніла сваіх адносін да яе. Цябе і ўсіх паноў здзіўлялі нашы адносіны. Але я люблю па запавету Хрыста: усе людзі роўныя, усе — браты і сёстры. Яна мая сястра. Мы смакталі малако адной маці.

Справы і каханне не часта давалі ім магчымасць вось так паразмаўляць — аб клопатах дзяржаўных і ўласных пачуццях, гаварыла больш Алена, Аляксандр рабіўся красамоўным, прыняўшы не адзін вялікі залаты кубак італьянскага віна. Але лішні кубак даводзіў яго да роспачы, хандры, смутку і крыўды… нават на Бога.

— Не дае мне Бог шчасця. У чым я саграшыў?

Алена ў такія хвіліны лашчыла яго, як малога.

— Хіба няма ў цябе шчасця? А я? Я — не шчасце?

— Ты… Ты — адзінае шчасце маё.

— А ты — маё. І ніякія сілы нас не разлучаць. Нават смерць.

Ішлі частыя дажджы. Але ліпеньскае сонца хутка высушвала дарогу. Яна пыліла пад нагамі сотні коней — невялікай аховы, якую вялікі князь адарваў ад войска. Але войска ішло на ўсход. А ён ехаў на захад. І гэта надавала яму душэўных пакут, боль іх здымала Алена, хоць ёй балела больш, ёй балела за дзве дзяржавы, за мужа і за бацьку, і за людзей, праваслаўных і католікаў, што паміралі на полі сечы. У імя чаго?

«О Божа, дай ім розум, абарані іх!» — малілася яна.

Вестка пра тое, што гетман Астрожскі і яго военачальнікі перайшлі да Івана, прысягнулі яму, дайшла да Вільні толькі ў верасні. Яна не проста ашаламіла Аляксандра, яна давяла яго да шаленства. Амаль за шэсць гадоў жыцця, вельмі дружнага, Алена ўпершыню бачыла мужа ў такім гневе. Але ў той жа час і ў роспачы, страху, разгубленасці. Расказваючы Алене пра неверагодную здраду, ён удзёўбнуў шпагу ў падлогу і зламаў яе, змёў са стала ў бібліятэцы кнігі яе — Новы запавет, Златауста, разбіў вазу, зламаў бронзавую статуэтку Апалона. І слоў такіх ад яго Алена раней не чула — ён лаяўся па-польску, што п'яны матрос ці кракаўскі шавец.

— Усе яны подлыя здраднікі! Усе! Твае святыя праваслаўныя. Усе глядзяць у ванючы рот свайго гасудара. Ён адрыгне жвачку, і яны выліжуць… Князі! Без гонару, без сумлення. Астрожскі за рыцара выдаваў сябе. Рыцар! Дзярмо ванючае! Здраднік паганы! Усіх іх трэба вешаць! Усіх! І я дабяруся да іх! Я дабяруся! А статак бараноў, якіх ты называеш праваслаўным народам, трэба гнаць у адзін загон, да аднаго пастыра, толькі тады яны, можа, стануць хрысціянамі.

Алена стрывала абразу бацькі, усю бяздумную злосць вялікага князя, але што датычыць веры — тут яна не змаўчала.

— Можа, скажаш, што твае католікі лепшыя?

— Ды ўжо ж не кідаюцца ад уладара да ўладара.

— Вялікі князь! — У ідэйных спрэчках яна рабілася велічна-афіцыйнай. — Не прымушай мяне пералічваць, колькі здраджвалі, рэзалі адзін аднаго каралі і ваяводы рымскай веры. І папы. І кардыналы. Бабу выбралі ў папы, і яна на святым прастоле нарадзіла. Жах! Святыя бязшлюбнікі! Крывадушныя і бессаромныя грэшнікі!

Але дакоры каралям і папам Аляксандра не кранаалі. Ён жыў тым, што яго гэтак узрушала — здрадай Астрожскага. За яго ён помсціў нават жонцы:

— Я адмяню ўказ. Я заганю іх да аднаго пастыра! Тады яны стануць людзьмі...

— Вялікі князь! Ты можаш гэта зрабіць. Ты ўладар. Але я баюся, як бы пасля гэтага ты не застаўся князем адной Жамойціі. Ад цябе адвернуцца дзве трэці народа твайго. Што стане ад нашай вялікасці?

Збіла яго гнеўную раздражнёнасць. Вярнула з туманнасці ўзрушэння, злосці, калі чалавек губляе пачуццё рэальнасці, на грэшную, але асветленую сонцам і розумам зямлю.

Ён сціхнуў, абмяк, як гэта бывае ва ўсіх, хто мае слабую волю, і не дакараў больш Алену — скардзіўся ёй на свой лёс, на тое, што няма яму шчасця, і ледзьве не са слязамі дапытваўся:

— Чаму ён здрадзіў мне? Чаму?

Пытаўся з пакутай не дзень, не два — не адзін месяц не толькі ў Алены — у паноў рады, у маці, у братоў — караля Альбрэхта і кардынала Фрэдэрыка.

Тлумачылі па-рознаму. Але ні адзін адказ яго не задаволіў. Хіба Аленін, яна сказала:

— Бацька мой мёртвага пераканае. А князь Канстанцін жывы чалавек, ён любіць жыццё. Лічы, што ён не здраджваў табе. Ён ратаваў сябе. — І вельмі прасіла за сям'ю Астрожскіх: — Не помсці ім!

І міласцівы праявіў яшчэ адну міласць. Алена падумала, што гасудара ўсея Русі не ўпрасіла б ні яна, дачка яго, ні жонка, ні мітрапаліт, ні баярскае веча. І адчувала глыбокую ўдзячнасць за тое, што ў Аляксандра добрая душа — хрысціянская. За гэта яшчэ мацней кахала яго.

## Раздзел пяты

## Смяротэльная карона

I

Алена гуляла ва ўнутраным двары Ніжняга замка — чакала мужа, які павінен спусціцца са сваёй рэзідэнцыі — Верхняга замка, каб ехаць у Паплавы, у летні палац.

Быў адвячорак цудоўнага чэрвеньскага дня. На небе ні хмурынкі. Паветра здавалася густым ад паху бэзу, што кіпеў белай квеценню на беразе Вілейкі.

У Алены каторы дзень трымаўся добры настрой. Ёй ажно няёмка рабілася, што за год, як ідзе вайна з яе бацькам, яна не толькі не зблажэла, а расквітнела, акруглілася. Пані Радзівілава, іншыя пані азіраюць яе падазрона — ці не зацяжарала вялікая княгіня? О, даў бы Бог. Ім, паням, зайздросна — зайздросна тады, калі ёй любуюцца

мужчыны. Святары Войцэх Табар і епіскап Іосіф, наведаўшыся да яе, выходзячы, хрысцяцца ўпотай, гэта заўважыла першая пані Зося, знаўца мужчынскіх думак, і смяялася, што паны засцерагаюць сябе ад спакусы, моляцца: «Ізыдзі нячыстая сіла!»

Алена таксама хрысцілася пасля сустрэч з першасвяціцелямі абедзвюх хрысціянскіх канфесій — прасіла Бога даравацъ, што яна не любіць аднаго і другога. А гэта ж грэх: не любіць людзей. Ёй хацелася любіць усіх людзей, нават гандляроў-яўрэяў у нямецкай палавіне Вільні. Але д'ябал граху — ён усюдыісны, ён бясконца, што павук, пляце павуціну, каб ублытваць у яе праведных. Як перажывала яна ў першыя месяцы, што ідзе вайна, гінуць людзі! І якая недарэчная вайна: паміж бацькам і дачкой, бо яна цалкам была на баку мужа. І таксама лічыла гэта грахом — што асуджала роднага бацьку. І што ж? Выходзіць, можна прывыкнуць нават да вайны. Мінулі яе душэўныя згрызоты, вярнуліся радасці жыцця, асабліва ў гэтую вясну.

Як пахне бэз! Якая чыстая вада ў Вілейцы! Свеціцца жоўтенькі пясок на дне. Ляніва ходзяць стронгі. Стаяць нерухома чародкі плотак і тут жа зрываюцца і знікаюць у віры, не палохаючы ўладарку ракі стронгу.

На яе, Аленіна, шчасце, вайна ідзе вяла, калі не лічыць шалёных набегаў татар, якія не толькі з Кіеўшчыны, з Падолля, але і з-пад Слуцка і Пінска выганяюць у турэцкую няволю тысячы палонных — жанчын, юнакоў, дзяцей. Як баліць яе душа за гэтых людзей! Ах, бацька, бацька! Ты ваюеш са сваімі, хрысціянамі, з дачкой, зяцем і маеш саюзнікам басурмана, зладзея, выпладка Чынгіс-хана і Батыя, якія не адно стагоддзе дратавалі Русь. За што ты ўдзячны Менглі-Гірэю? Што ён памагае табе супраць Шых-Ахмета — апошняга асколка Залатой Арды? Памагае, каб пасля заступіць яго месца і ваяваць рускія землі разам з туркамі — адной жа веры яны! Як бацька не разумее гэтага?

Сапраўды, тое, што на літоўска-рускім памежжы амаль жа не вядзецца вайна, не гінуць людзі, супакоіла Алену, утаймавала яе душэўныя пакуты. Што астудзіла ваяўнічасць Івана Васільевіча? Аляксандр лічыць: няўдачы з узяццем Смаленска.

У мінулую восень маскоўскія войскі асадзілі горад, абстрэльвалі яго з гармат, хадзілі на штурм многа разоў. Але панеслі страты, згубілі нямала сваіх людзей, пацярпелі паражэнне і ад горада былі адбіты. Так пісаў вялікаму князю арганізатар абароны Смаленска епіскап Іосіф Солтан. Зусім іншы: Іосіф — не уніят, праваслаўны! Але верны ўладару Вялікага княства. Горад абаранялі людзі, якія пайшлі з Бабра па яе, Аленінай, парадзе мужу.

Пры другой асадзе Аляксандр паслаў на дапамогу Смаленску новы вялікі загон. Як толькі ліцвіны наблізіліся, рускі ваявода Жылка зняў аблогу і адступіў.

Але ці змірыўся з гэтымі няўдачамі гасудар усея Русі, натхнёны перамогай над Астрожскім?

Маўчыць бацька, маўчыць...

Алена пакутавала ад таго, што з Масквой перапынілася ўсякая сувязь. Нават замежныя паслы больш не едуць праз Вільню, едуць праз Данію і Швецыю.

Наведаўшыся ў Лідскі жаночы манастыр, Алена пазнаёмілася з манахіняй, якая хадзіла ў Іерусалім, да Гроба Гасподняга. І ў яе з'явілася ідэя: папрасіць манашак схадзіць у Маскву. Зусім не тая даўжыня дарогі, што да Іерусаліма! І вакол свае людзі, рускія, праваслаўныя. Ахвотна згадзіліся манашкі. І ўпершыню без ведама ўладара свайго Алена паслала ганцоў. Але калі яны вернуцца, багамолкі-вандроўніцы, праз паўгода, не раней?!

Думкі такія не адну ноч зрабілі бяссоннай. Ды ўначы яны заўсёды цёмныя. А пад вячэрнім сонцам, пад кіпенне бэзу, пры ласкавым шэпаце рачной плыні яны, думкі, не тое што светлыя — не свеціцца імя бацькава! — але ж не змрочныя, нейкія незвычайныя, якімі рэдка былі; яны бадзёрылі, жывілі надзею і як бы самі адводзілі сябе ўбок, давалі месца зусім іншым, больш простым і блізкім, трохі нават грахоўным: як хораша правядзе яна гэты вечар з Алексам, калі не будзе побач ні балбатуна Сапегі, ні шпіёнкі. Соф'і, якая імкнецца падслухаць кожнае слова і, можа, нават падглядвае ў замочную шчыліну, там займаюцца князь з княгіняй. І будзе яшчэ адна ноч кахання! Іх было мноства, але ніводная не паўтарала папярэднюю. Але, ж хіба гэта грэх — з любым мужам? У Паплавах хіба будзе адна непрыемнасць, але яна ёсць і тут, у замку, — назойліва звіняць над вухам камары, ратунку ад іх няма ні жывёле, ні людзям.

«Ні нават князям, — пасміхалася Алена, назіраючы з берага за стронгай, адганяючы камароў галінкай чароўна пахучага бэзу. — Аднак затрымліваецца мой князь. Хто ці што яго трымае? Мала Ім дня, гэтым ненажэрным панам, — але падумала без злосці, без жаночага незадавальнення мужам: — такі ў вялікага князя лёс, цяжкая ношка на плячах яго. І на сэрцы», — пашкадавала свайго любага Алекса. У чымсьці ён муж, рыцар, а ў нечым — дзіця. Сказала неяк у жарт, што ў яго пасівела барада, і ён дзіўна расхваляваўся: «Ты не будзеш мяне кахаць?»

Засмяялася, зацалавала да распухласці вуснаў: «Я буду цябе кахаць яшчэ мацней».

Нарэшце. Вось і ён! Але здалёк убачыла, які ўзбуджаны, усхваляваны яго твар. Нават паходка незвычайна паспешлівая, нервовая. Алена бадай уподбег кінулася яму насустрач. Спалохалася, бо падумала, што зноў разбіта літоўскае войска... яе бацькам.

— Што здарылася, Алекс?

Ён спыніўся. Цяжка дыхаў, хоць не паднімаўся ж угору — спускаўся ўніз. І яна цяжка дыхала — ад хвалявання.

— Памёр Ян Альбрэхт.

— Кароль?

— Мой брат. Нечакана. У паездцы. У Торуні.

— О Божа! Супакой душу яго, — Алена перахрысцілася.

І Аляксандр палажыў на сябе крыж поўнай далоняй.

— Хадзем памолімся у царкве за раба Божага Яна.

І тут жа збянтэжылася, упершыню з такой прычыны — што ён не пойдзе ў яе царкву, а яна не пойдзе ў касцёл. І ўпершыню гэта здалося ёй ненатуральным, не боскім. Ён таксама падумаў пра гэта і падказаў адзіна правільнае выйсце:

— Мы памолімся ў замку. Хадзем.

Маліліся ў розных пакоях, перад абразамі Багародзіцы і Хрыста.

Аляксандр не помніў памінальныя малітвы. Алена помніла і малілася шчыра.

— Ёй, чалавекалюбівы Госпадзі, загадай ды адпусціцца ад вуз плоцкіх і грахоўных і прымі ў міры душу раба твайго Іаана, і супакой яе са святымі Тваімі...

У летні палац не паехалі, начавалі ў замку. Больш звычайнага маліліся перад вячэрай. Аляксандр амаль нічога не еў, але нямала выпіў віна.

— Паедзем на пахаванне?

— Якое пахаванне! Яго ўжо пахавалі. Восем дзён мінула.

Сон не прыходзіў. Але Алена ляжала, стаіўшы дыханне, каб даць паспаць мужу. Ды чула, што і ён не спіць. Дзіва што: такое гора! У яе балела сэрца, не за дзевера-нябожчыка, за Аляксандра, што ён так цяжка перажывае.

Калі праз шторы пачало цадзіцца ранішняе святло, ён не стаў прытварацца, што спіць. Падняўся, выпіў вады.

— Табе не спіцца, Алекс?

— Я разбудзіў цябе?

— Я таксама не спала.

— Спі. Я пайду ў сваю спачывальню. Паспрабую там заснуць. Побач з табой мне заўсёды хораша спалася, і я думаў... Прабач.

А раніцою Алену ў адзін міг, што маланка, апякла думка: не за брата Аляксандр перажывае гэтак. Не за брата. Яму хочацца стаць каралём Польшчы, і ён будуе планы.

Не хацела верыць уласнай здагадцы: гэта такі грэх яго — не паспела астыць братава цела, а ён ужо цэліць на яго трон. Навошта яму, уладару вялікай дзяржавы? І яе грэх вялікі, калі выявіцца, што яна дарэмна гэтак падумала пра блізкага чалавека.

Цэлы дзень пакутавала — да галаўнога болю. Не вытрымала: паднялася ў Верхні замак, як бы бліжэй да Бога: няхай карае, калі яна падумала нядобрае пра мужа.

— Алекс, ты хочаш стаць польскім каралём?

— Ты здагадлівая.

— Я навучылася чытаць твае думкі.

— Гэта так. І ты іх правільна прачытала. Уначы? Я хачу ўвянчаць сваю галаву каронай Ягелонаў.

І ўзбуджана пайшоў па доўгай і шырокай, што паляна ў Паплавах, каронным зале, у якой прымаў паноў, ваяводаў, паслоў. Між іншым, Алена здзівілася, што знайшла яго не ў рабочым кабінеце, па-спартанску простым, з мэбляй з моранага дуба, а ў гэтай зале, дзе ззяла золата, віселі дарагія карціны італьянскіх майстроў.

Нейкую хвіліну-дзве вялікі князь хадзіў моўчкі, потым спыніўся перад Аленай, спытаў патрабавальна:

— А калі не я, то хто? Хто? Жыгімонт? Ён малады і нявопытны. Уладзіслаў? Хіба яму мала Чэхіі?

Алена не сказала, але падумала: «А табе мала Вялікага княства? Яно намнога большае за тую Чэхію».

Аляксандр крыва пасміхнуўся.

— Я таксама чытаю твае думкі. Ты зараз падумала: навошта гэта мне? І што я — уладалюбец і сябелюбец. Не! Не, Гэля! Карона патрэбна не дзеля таго, каб пацешыць сваё сябелюбства. Карона патрэбна для ўмацавання Вялікага княства. Ты ведаеш, як цяжка ішло аднаўленне уніі. Польскі сенат і мой брат — вечная яму памяць — хацелі ператварыць Літву ў васальную дзяржаву. Наш сойм, я і ты... ты, вялікая княгіня... мы выступілі супраць прыніжэння пачэснасці абедзвюх панстваў. Мы патрабавалі роўнага злучэння. Мы патрабавалі, каб польскія пракуратары, якія ездзяць у Рым, не лезлі ў справы назначэння біскупаў у княства. Польскі сойм, ганарыстыя паны перад тварам турэцкай небяспекі мусілі прыняць нашы ўмовы. Польшча прызнала самастойнасць Вялікага княства. У цяжкія часы для адной дзяржавы другая павінна слаць свае сілы на дапамогу. Але як памагаюць нам палякі ў вайне з Масковіяй? Каб была іх дапамога,

цесць мой даўно папрасіў бы міру. Табе непрыемна гэта чуць, але гэта так. І помніш... помніш умову, з-за якой і нашы паны, і польскія падзерлі адны адным чубы? Каб выбіраць вялікага князя і караля з ведама і са згоды соймаў абедзвюх дзяржаў. Калі сойм Вялікага княства дасць згоду, я буду выбірацца ў каралі. Разумею, што Уладзіслаў і Жыгімонт будуць маімі праціўнікамі. Але я ўпэўнены, што мяне падтрымліваюць маці і Фрэдэрык. А яны ўплываюць на сойм і каронную раду. Я напісаў пісьмо Фрэдэрыку пра сваё жаданне. Хадзем у кабінет — прачытаеш.

Аляксандр прасіў у брата дапамогі.

Фрэдэрык хутка адказаў: «Чытаў твой ліст маці. Мы абодва ўпэўнены, што ты будзеш дамагацца польскай кароны прыстойным сродкам, а не сілай ды зброяй, як пра тое ходзяць пагалоскі».

Адказны ліст напісаны на латыні, цікавы перш-наперш тым, што прэтэндэнт на карону звяртаецца да брата на Вы з высокімі царкоўнымі і каралеўскімі тытуламі, як прынята было ўжо ў вышэйшых дварах Італіі і Францыі.

Аляксандр пісаў: «Хай пажадае Ваша светласць супакоіць яе Высокасць (каралеву-маці), упэўніваючы яе ад нашага імя, што мы, згодна нашаму звычаю, жадаем пастунаць паводле волі яе Вялікасці разам з жонкай нашай, якая падначальваецца яе каралеўскай Вялікасці і жадае, як апошняя раба, служыць яе Вялікасці і ўсё, што загадае яе Вялікасць, усё выканае яна з поўнай радасцю і пакорлівасцю».

Не прыняла гэтае пісьмо Алена. Залішне ліслівае, угодлівае. Сын можа напісаць маці любыя словы, асабліва калі яму свеціць карона і ад маці нямала залежыць. Але яна... яна не хацела пісаць такое, не хацела ўніжацца перад свякроўю, якая, добра ведала, не любіць яе, не прымае.

Мякка сказала Аляксандру:

— Яны зразумеюць гэтыя словы, што я згодна перайсці ў рымскую веру. А я... я не згодна. О, злітуйся, вялікі князь! Я не магу!

Аляксандр не дакараў яе. Ён прасіў:

— Гэля, любая, я кланяюся ім, бо мне трэба карона. Я не прымушаю цябе да нашай веры. Калі мяне выберуць каралём, вырашаць буду я. А цяпер мне трэба гэтыя словы. Я ж пішу не папе Рымскаму, а пішу брату і маці. Не пярэч, прашу цябе.

Каб ён няволіў, злаваўся, Алена, напэўна, запярэчыла б. Але ён ласкава, ледзьве не прыніжана прасіў, і яна згадзілася, каб ганцы павезлі пісьмо. Яна кахала і ні ў чым не магла адмовіць мужу. Да таго ж яна была разумная і за шэсць гадоў жыцця ўладарылі навучылася

таму-сяму, у прыватнасці — дзяржаўнай дыпламатыі. Хіба не абводзіла яна вакол пальца старога ліса Сапегу? Разумела, што любая няшчырасць, хітрасць — не перад Богам! — перад людзьмі — таксама грэх. Але выходзіць, што пражыць на грэшнай зямлі без граху немагчыма. Бацька які грэх узяў на душу — пайсці вайной на дачку, на зяця! Усё роўна адасланае з ганцамі пісьмо мужава брату-кардыналу і маці-каралеве не давала спакою. Не пакідала адчуванне, што яна скарылася іх уладзе, страціўшы волю сваю і гонар.

2

Літоўскі сойм з рэдкай аднадушнасцю даў Аляксандру згоду ўступіць у барацьбу за польскую карону.

Пачаліся зборы на ад'езд у Польшчу.

Аляксандр вельмі хацеў, каб з ім ехала і Алена. З якой радасцю яна ездзіла з ім! Сама напрошвалася. На вайну з родным бацькам гатова была ехаць. Толькі паражэнне Астрожскага не дало ёй апынуцца ў Смаленску, які ў хуткім часе быў абложаны рускімі войскамі. Яна стаяла б на вале разам з абаронцамі — пад ядрамі, кулямі і стрэламі.

А тут цвёрда вырашыла: у Кракаў не ехаць! Бо добра разумела, што пакуль яна застаецца ў сваёй веры, а яна будзе ў ёй да смерці, ніхто — ні сойм, ні каронная рада, ні капітул, ні папа — не карануе яе ў каралевы каталіцкай дзяржавы.

Аляксандр баяўся ехаць без жонкі, ён ужо звыкся, што за рэдкім выключэннем — калі ён адбываў у інспекцыйныя паездкі ці да войска, якое вяло баявыя дзеянні, Алена заўсёды бала побач і заўсёды памагала знайсці адзіна правільнае рашэнне. Здаралася, што нават на радзе, пастаўлены панамі, філосафамі і схаластамі, у цяжкае становішча, ён адцягваў пытанне да другога пасяджэння. Ведаў, што за спіной у яго паны кпілі: пайшоў раіцца з вялікай княгіняй. Але з Алены яны не кпілі, неаднойчы бачыў, як у такіх мудрацоў, як Табар, Сапега, Гаштольд, Забярэзінскі, выцягваліся твары, калі ён падкідваў ім Аленіну думку; яна, яе думка, не мела каралеўскай катэгарычнасці, але заўсёды была разумная.

Адмова ехаць з ім у Польшчу не здалася разумнай, не інакш — жаночы капрыз. Але ён ні разу не прымяняў у адносінах да жонкі ўладу. Ён прасіў:

— Падтрымай мяне ў гэты цяжкі час, Гэля. Не бойся іх. Калі я стану каралём, я прымушу іх каранаваць і цябе. Ты будзеш маёй каралевай! Як гучыць: мая каралева!

— Каго ты прымусіш? Маці? Брата? Сойм? Капітул? За ўсімі, імі — папа. Ён не дасць згоды, і кароль з льва ператворыцца ў ягня.

Гэта яго нават пакрыўдзіла, хоць пасля часта ўспамінаў Аленіны словы.

— Высокі тытул мяне не хвалюе. На зямлі мяне хвалюе адно: кахаць і быць каханай. Калі ў майго караля не згасне гэтае пачуццё, я буду лічыць сябе шчаслівай.

— Маё пачуццё не згасне да глыбокай старасці!

— За гэта дзякуй табе.

— Пашкадуй мяне, Гэля.

— Хіба табе трэба шкадаванне? Будзь мужны, Алекс. Будзь мужны. Я веру ў тваю планету. І я буду маліцца за цябе. На якія словы я згадзілася ў тваім пісьме! Але як іх вытлумачылі? Я не хачу, не магу, каб мяне дакаралі ў адступніцтве ад маіх жа слоў. Я выказала глыбокую пашану да маці нашай. Але ад веры сваёй не выракалася. Пярэваратнем не стану.

— Ты не кахаеш мяне.

— Божа! Ты ж ведаеш, як я кахаю цябе. Бог блаславіў наш саюз, і я слаўлю Збавіцеля за высокі дар, за Божую ласку. Не бойся ехаць без мяне. Я заўсёды буду з табой. Ты будзеш чуць маё дыханне. А я — тваё. Як толькі яно пачасціцца, тваё дыханне, — ты пачуеш маю малітву. Маё каханне будзе весці цябе да прастола.

Алена супакойвала мужа, а сама баялася, вельмі баялася, ведаючы яго слабасці, галоўная з якіх — адсутнасць цвёрдай волі, пахіснасць ад чужых вятроў — чужых уплываў. Рвалася яе сэрца на кавалкі, крычала душа. Былі моманты, калі яна схілялася да паездкі. Яе ўгаворвалі Сапега, пані Зося... Яна дакарыла Аляксандра, што ён даверыў ім глыбокую сямейную тайну. Але яна сустрэлася з Войцэхам Табарам, і ён, духоўнік вялікага князя, — ні слова пра паездку. І яна першы раз была ўдзячная біскупу: каталіцкі клір не хоча паездкі, і гэта ўмацавала яе перакананні, яе волю.

Не паехала. Выставіла новы матыў:

— Вялікі князь мой, ідзе вайна. На гэтую вайну трэба глядзець з Вільні. Тваімі вачамі. Твае вочы будуць далёка. Буду глядзець я, і мае вочы будуць тваімі вачамі.

Змірыўся Аляксандр, нават павесялеў. І ад'ехаў без смутку, які выказваў Алене. І яна бадай весела праводзіла яго на здабычу кароны польскай.

Вялікі князь без фанфар, амаль прыватна, наведаў Кракаў. Сабралася ўся сям'я, ды сясцёр, хоць і выслухоўвалі, але асабліва пад увагу не прымалі. Першы голас належаў каралеве — маці. Найбольш Эльжбета любіла наймалодшага Жыгімонта. Але яна ведала думку самых уплывовых магнатаў Польшчы: іх цікавіла Літва. Фрэдэрык так

і сказаў брату, што Польшча жадае цеснага саюза з Вялікім княствам. Аднак і пасля гэтага нялёгка было ўгаварыць Уладзіслава зняць сваю кандыдатуру. Але ўбачыў кароль чэшскі, што не мае падтрымкі і маці і брата-кардынала, і мусіў скарыцца. Ад'ехаў у свае каралеўства пакрыўджаны, раніўшы матчына сэрца.

Самалюбівага і гарачага Жыгімонта маці няволіць не стала: хай выпрабуе сваё шчасце, у яго ўсё яшчэ наперадзе.

Аляксандр, каб, як кажуць, не мазоліць польскім панам вочы, паехаў у Мельнік і там чакаў рашэння сойма.

Высокі сойм сабраўся ў Пятркове і засядаў доўга, бо не толькі выбіралі караля. Прадугадваючы вынікі галасавання на карысць Аляксандра, сойм загадзя выпрацоўваў папраўкі да актаў уніі Польшчы і Вялікага княства, заключанай яшчэ два гады назад. Панам хацелася вялікую дзяржаву, залішне незалежную ў палітыцы, прыбраць да сваіх рук — праз уладара, якога выберуць.

Запісалі, што Польшча і Вялікае княства аб'ядноўваюцца ў адну дзяржаву, якая будзе мець адну манету, праўда, зрабілі ўступку: суды і пасады — асобныя. Ранейшыя дамовы адной дзяржавы робяцца абавязковымі для другой.

Аляксандра прымушалі падпісаць усе прывілеі панству, абвешчаныя яго бацькам Казімірам. І больш таго: абвясціць іншыя прывілеі. Зменшыць, напрыклад, срэбшчыну — ваенны падатак. Вялікі князь спадзяваўся на дапамогу Польшчы ў вайне з цесцем, а тут — на табе! Ашчаслівілі!

Але самым галоўным было абмежаванне ўлады караля; Аляксандру і ў галаву не прыходзіла, што яснавяльможнае панства ўзнімецца гэтак высока. Дзяржаўная ўлада па сутнасці пераходзіла да сенатарскай рады, дзе кароль меў адзіную прывілею: старшынстваваць, калі пажадае прысутнічаць. Пры гэтым сенатараў мог судзіць толькі сенатарскі суд, што давала ім поўную незалежнасць ад караля. Не манарх — над сенатам, сенат над манархам.

Калі прадстаўнікі сойма прыехалі ў Мельнік і паказалі свае законы, Аляксандр быў у роспачы. Вельмі шкадаваў, што няма Алены, няма з кім параіцца. З блізкіх людзей з ім быў маршалак Міхайла Глінскі, але помніў, што Алена раіла не давяраць яму таемных думак — хітры і няшчыры.

А ў вялікай княгіні — незвычайны нюх на людзей. Яна даруе ім слабасці і грахі, але ацэнкі дае дакладныя.

Для прыняцця ўмоваў новай уніі варта было б склікаць літоўскі сойм. Але колькі пройдзе часу! І што падумаюць тут, у Польшчы? А яму ж вельмі хацелася стаць каралём, нецярпліва чакаў каранацыі.

Адцягваць ніяк нельга: паны абразяцца. І нават сенат можа накласці вета на каранацыю. Таму Аляксандр пацвердзіў прысягай новую унію і мусіў згадзіцца з абмежаваннямі каралеўскай улады і ўзвышэннем сената.

У лістападзе Аляксандр урачыста прыехаў у Вавель з каралеўскай аховай — паўтары тысячы літоўскіх коннікаў. Маці і браты, Фрэдэрык і сапернік Жыгімонт, віншавалі яго. Аляксандр прагнуў хутчэйшай каранацыі. Але яна зацягвалася. Ні маці, ні кардынал не маглі яе прыспешыць: трэба згода папы Рымскага. Магчыма, ніхто з іх, людзей сумленных, не ведаў, што паміма афіцыйных пісем сойма і кардынала, папу Аляксандру пайшло пісьмо ад групы біскупаў, якую ўзначальваў Войцэх Табар.

Адказ: Аляксандра каранаваць; жонку яго, схізматычку, каранаваць пасля таго, як будзе хрышчона ў рымскую веру; не згодзіцца — шлюб скасаваць.

У студзені 1502 года кардынал усклаў на пасівелую за паўгода галаву Аляксандра карону Ягелонаў.

3

Буйны асенні дождж барабаніў па чарапіцы, па мармуровых падаконніках замка. Трашчалі свечкі, аплаўлены воск сцякаў у сярэбраныя падсвечнікі. Пахла гарэлым воскам. Пахла не як на ўрачыстай літургіі, дзе адбываецца таінства еўхарыстыі, а як на адпяванні нябожчыка.

Позні вечар, дождж, пустэча вялікіх залаў і гэтая нечаканая асацыяцыя ад воскавага паху наганялі незнаёмае пачуццё, блізкае да жудасці, хоць баязлівай Алена Іванаўна не была і не першы вечар праводзіла адна, па сутнасці, у пустым замку; толькі з першага паверха, з людской, з кухні даляталі галасы, бразганне посуду, ды і то не ў такі позні час, калі чэлядзь даўно ўжо спіць. Усю восень яна адна тут, Аляксандр паехаў у Польшчу ў ліпені, а на двары ўжо канец лістапада. Спачатку прысылаў ганцоў з пісьмамі ледзьве не штотыдня, і пісаў ласкава, як закаханы юнак, і гэта грэла сэрца маладой жанчыны. За апошні месяц прыйшло толькі адно пісьмо, у якім Аляксандр бадай жа ўедліва апісвае польскі сойм і асабліва сенат і скардзіцца на аброць, якую яснавяльможныя паны надзелі на яго, караля. Але цяпер не адступіш; пройдзе каранаванне, і ён з Божай і яе дапамогай будзе шукаць шляхі наступлення на ганарыстых паноў, якія менш дбаюць пра дзяржаву, а больш пра ўласныя выгоды. На вайну ў іх грошай няма, а ў Кракаве балююць, як апантаныя, адзін

перад адным паказваюць свае палацы, псярні, кухні, убранні сваіх жонак і дачок.

Аляксандр з болем паведамляў, што яму не ўдаецца ўгаварыць сенат пасладь на дапамогу літоўскаму войску хоць колькі палкоў. У ранейшых пісьмах вялікі князь пісаў пра вайну мала і агульна, без паглыблення, без парад.

Вайной з родным бацькам даводзілася за месяцы адсутнасці мужа займацца ёй. На радах паноў, на якіх ставіліся ваенныя пытанні, Алена старшынствавала сама. Паны любілі вялікую княгіню, не ўсе, безумоўна, але большасць. Па-першае, прыемна было глядзець не на вусы і бараду, а на абаяльны жаночы твар. Да таго ж яна не засушвала пасяджэнні, яна кожнаму давала волю, заахвочвала да выказвання любых думак, няхай і не вельмі прыемных, умела пажартаваць, а любы жарт з яе пекных вуснаў набываў незвычайную прывабнасць. Але найбольш зачароўваў старых і маладых радцаў яе ваяводскі талент.

Прыйшло паведамленне, што брат яе Дзмітрый — «О Божа! Вырас у военачальніка!» — разбіў каля Мсціслаўля літоўскае войска, разграміў не ўшчэнт, як у мінулым годзе разгрмілі Астрожскага, але ўсё ж перамогу атрымаў, ліцвіны мусілі адступіць, а рускія атрады фарсіравалі Дняпро.

Алену асабліва балюча ўражвала, што рускія рабуюць сваё ж праваслаўнае насельніцтва і нават выводзяць палонных. Куды дзяюць іх? Рускія баяры палонных не купляюць, нават татар. Няўжо прадаюць басурманам праваслаўных людзей?

Цяжка Алена перажывала вайну. Радавалася зацішшу. Але калі трэба было дзейнічаць, то дзейнічала як вялікая княгіня літоўская. Пасля паведамлення пра Мсціслаўскую бітву сама сабрала раду. І выклала план дзеяння маскавітаў, усё роўна што чытала думкі бацькі свайго і братоў.

— Я не сумняваюся, што Іван рушыць на Віцебск і Полацк. Трэба, каб войска ваяводы Чарняка, якое мы рыхтавалі ўсё лета, выступіла на абарону гэтых гарадоў. Але нашых сіл мала. Заўтра ж пашлём паслоў, самых высокіх, да нашага саюзніка магістра Лівонскага. Выступленне лівонцаў ахаладзіць гарачыя галовы маскоўскіх ваяводаў. Не вельмі я веру ў Вялікую арду. Вытхнулася некалі магутная арда, якая трымала ў васальнай залежнасці ўсе рускія княствы. Але папросім Шых-Ахмета стрымаць Менглі-Гірэя, каб той не прарваўся да сэрца Вялікага княства.

Вялікая княгіня сама напісала фон Платэнбергу. Напісаць яна ўмела прачула. Магістр адгукнуўся і павёў лівонцаў на Пскоў.

Першае паведамленне, кастрычніцкае: лівонцы разбілі буйны маскоўскі атрад. У Вільні радаваліся гэтаму. Але вось учарашняе пасланне Чарняка — як снег на галаву: каля Юр'ева маскоўская раць разбіла лівонцаў, на якіх напала страшная хвароба — крывавы панос. Ад страху, ці што? Сам Платэнберг ледзьве ўцёк, зараз ён і лыча не вытыркне са сваёй нары. А ў Чарняка мала сілы, каб ісці на Пскоў, ён просіць дазволу павярнуць назад у Полацк. Сёння са згоды рады яна паслала ваяводзе такі дазвол: падзенне Віцебска і Полацка было б катастрофай для Вялікага княства.

«О мой князь. Столькі клопатаў на маю жаночую галаву. А ты там карануешся. Войска дай, войска!» Толькі з апошняга пісьма Аляксандра яна даведалася, што і пасля каранацыі кароль не возьме са сваёй новай дзяржавы без згоды польскага сойма і сената ніводнага чалавека. Навошта ж яму такая карона?

Дні ў Алены былі запоўнены дзяржаўнымі клопатамі. А вечары... не вечары — ночы, бяссонныя, даўжэзныя, праходзілі ў жудаснай адзіноце, горшай за старэчую ці ўдовіную. Не вытрымаўшы такога адзіноцтва — ніводнай блізкай душы, каму можна было б адкрыць сваю душу! — яна яшчэ месяц назад паслала ганцоў у Ашмяны да Ксеніі, прасіла яе прыехаць, але каб прыехала не адна — з дзецьмі. І Ксенія з'явілася з свавольнікам Ясем і малой плаксай Касяй.

Дзеці напоўнілі амаль жа бязлюдны замак жыццём. Дзеці пэўным чынам згладзілі смутак адзіноты. Але толькі ўдзень, у свята, у раннія вечары, пакуль не спяць.

Вось і цяпер Ксенія павяла іх укладваць, пакінуўшы Алену са сваімі думкамі. Яны, думкі, былі не такія цяжкія, калі з недалёкага гасцявога пакоя чуўся плач Касі.

Сціхла дзіця — і ўсё як вымерла. Толькі дождж барабаніць. Ці вернецца Ксенія, каб пагутарыць? Не кожны вечар прыходзіць. Ксенія не тая рагатуха, што была ў дзявоцтве. Яна ў жалобе: больш года няма звестак ад Міхала. Нават пошукі вялікай княгіняй свайго воіна, камандзіра вынікаў не далі. Загінуў ці ў палоне. Алена адчувала сябе вінаватай перад Ксеніяй. Тады, у Бабры, яна не пагутарыла нават з ім. Выходзіць, не спусцілася да простага воіна з вялікакняскай вышыні. Ксенія дапытвалася: «Пра нас Міша хоць спытаў?» Мусіла зманіць: «Спытаў, спытаў. Пра Ясіка распытваў. І пра цябе». А дагэтуль сарамелася той даўняй маны.

Алена падышла да акна, адхінула штору, у люстры патоку вады, што лілася з даху замка, убачыла адлюстраванне свечак. Але ў зале яны гарэлі роўна. А там, за акном, агні трапяталіся, біліся, што матылі. І... што гэта? О божа! За свечкамі з туманнай заслоны дажджу

выплыў твар Аляксандра. Але твар яго скрывіла — усміхаецца ці плача? Прывід уразіў, але не спалохаў. Ды раптам як бы з-за спіны яго, над плячом узняўся другі твар — жаночы, незнаёмы.

Алена ўскрыкнула. Упусціла штору. У галаву ўдарыла кроў. У грудзях затахкала сэрца. Нягледзячы на набожнасць, яна не была прымхлівая, не вельмі верыла нават у сны, а прывіды накшталт гэтага хіба з'яўляліся, калі цяжка хварэла. Ды і не сам прывід спалохаў. Ён нарадзіў думку, якая дагэтуль ніколі не з'яўлялася, зусім цвярозую думку, рэальную, і яна апякла мозг і сэрца, бо была страшнейшая за смерць.

Ды ў бібліятэку ўвайшла Ксенія.

— Такая карада, ледзьве закалыхала. І гэты шалапут... раскажы яму казку. Быццам я магу адначасова і калыханку пець, і казкі гаварыць, — сказала пра дзяцей і раптам пільна і спалохана ўгледзелася ў вялікую княгіню.

— Алена Іванаўна, што з табой? Ты ж бялей за палатно. Баліць што?

Алена адказала не адразу, як бы думала — казаць ці не казаць? Не, нельга змаўчаць — згарыць сэрца.

— Я падышла да акна і... убачыла ў дажджы майго князя.

— Ой! Гэта ты так многа думаеш пра яго, што ён з'яўляецца перад табой. Раней і мой Міхайла так з'яўляўся. Раблю выгляд што, калышу Касю, а ён стаіць і гладзіць. Цяпер не з'яўляецца, хоць я і прашу: прыйдзі! Я не веру ў яго смерць! Я малюся за яго. Я веру, што ён вернецца.

— Ён вернецца. Скончым вайну, абмяняемся палоннымі... Не князь мяне спалохаў, Ксюта. Побач з ім з'явіўся прывід жанчыны.

— Алена Іванаўна! Уладарка мая! Не думай пра гэта! Не думай! Ён кахае цябе! Як ён кахае цябе! А мы, бабы, мы дурныя... — Асеклася — спалохалася, што вялікую княгіню назвала дурной.

Алена ўсміхнулася:

— Ён кахае, ён кахае. І я веру яму. Але ты не знаеш, што такое палітыка. Раней я не думала пра гэта. А тут падумала... Ты знаеш, што я падумала? Ён кароль. А я не каралева, мяне не карануюць. Пры вянчанні вянец над маёй галавой трымаў праваслаўны святар. І ты знаеш, што можа зрабіць папа Рымскі?

— О Божа! Грэх жа, — здагадалася Ксенія.

— У папы няма грахоў. Ён можа паслаць хрысціяніна на касцёр толькі за тое, што ён не згодзен з нейкім дагматам царквы рымскай. Папа аб'явіць наш шлюб незаконным, скасуе яго... І тут жа падсуне

каралю-каталіку каралеўну гішпанскую ці французскую. Нявест хапае.

— О Божа! Я баялася нават перахрысціцца. Як мне хрысціцца? Па якой веры? Ты ашаламіла мяне, мая вялікая княгіня. І ты жывеш з такімі думкамі? О няшчасная!

— Я не жыла з такімі думкамі. Я верыла мужу, яго каханню. Але я знаю, што ў яго слабая сіла волі. А на яго будуць ціснуць папа, брат кардынал, маці, увесь польскі клір. Такога націску не вытрымае і той, у каго воля жалезная.

— Алена Іванаўна! Табе трэба заўтра ж ехаць у Кракаў.

Ашаламіла спачатку такая простая прапанова сястры і сяброўкі. Пачала супраціўляцца:

— Не, не. Я не жадаю прыніжэння...

— Хіба ехаць да ўласнага мужа — прыніжэнне? Адумайся, княгіня. Ды каб я знала, дзе Міхал мой, то на край свету паехала б. Не, пайшла б босая ў холад, у мароз. А цябе вялікі князь сам упрошваў.

Горача Ксенія пераконвала. І пераканала! Ехаць!

На радзе паноў адзін біскуп Табар выказаўся супраць яе паездкі: «Як будзем ваяваць без вялікага князя і без княгіні?» Але пярэчанне намесніка папы Рымскага толькі ўмацавала, зацвердзіла пакуль што не вельмі моцнае Аленіна перакананне, што ехаць у Польшчу трэба — каб ратаваць сваё шчасце.

Праз тры дні вялікая княгіня літоўская з атрадам ахоўнікаў усяго ў паўсотню воінаў была ў дарозе. Ехалі хутка, а выходзіла павольна. У землях, дзе жылі праваслаўныя, не мінала ніводную царкву, ніводзін манастыр. І ў манастырах жыла па два-тры дні, а часам і па тыдню. Бо грызлі яе сумненні, і яна раілася са святымі — з тымі, што на небе, і з жывымі пустэльнікамі, раздавала манастырам шчодрую дапамогу. Рыхтавала сябе да найгоршага. Без Аляксандра ёй не жыць. Не, пазбавіць сябе жыцця — на гэта яна не пойдзе, бо гэта найвялікшы грэх, жыццё — найвышэйшы дар Божы. Калі бязлітасная царква разлучыць яе з мужам, яна пастрыжэцца ў манашкі, пойдзе пад іншым іменем у самы дальні манастыр, дзе ніхто яе не знойдзе — ні няверны муж, ні бацька, які ваюе з дачкой, ні маці, ні браты.

Ехала ледзьве не два месяцы. Ганцоў наперад не паслала, прыехала нечакана.

Аляксандр узрадаваўся прыезду жонкі. А паны і клір бадай спалохаліся. Здагадка Аленіна і страх яе за свой лёс у пэўным сэнсе былі апраўданы. Не, папа не скасаваў яшчэ шлюб іх, але патрабаваў скасавання, калі схізматычка не адумаецца.

Ведаючы пра гэта, польскія паны прымяралі каралю нявесту. За дзвесце вёрст вязлі дачок на агледзіны, і былі сярод іх, семнаццаці-васемнаццацігадовых, красуні адменныя. Штодня балявалі. На войска не давалі граша, а балі наладжвалі ашаламляльныя. Чэргі вызначалі. І калі хтосьці парушаў чаргу на шалёную трату — на дуэлях біліся. Нават кардынала спаілі. Такія палякі. Гэта не рацыянальныя скупенды немцы.

Пра ўсё гэта расказаў сам Аляксандр у першую ж гадзіну сустрэчы, не адрываючыся ад Алены, цалуючы яе вусны, шчокі, вочы, рукі.

— О, ты мая каралева! Як я сумаваў без цябе.

— Не вельмі ты сумаваў, па тваіх расказах — штодня баляваў. Месяц назад каранаваўся і... сядзіш тут. А я адна.

— Любая мая! Кароль павінен быў вывучыць сваю дзяржаву, людзей. Але галоўнае — сабраць войска для нашай перамогі. Як там мой дарагі цесць?

— Алекс. Ты — як дакараеш мяне, як падазраеш, што я трымаю сувязь з бацькам — ворагам дзяржавы нашай.

— О мая радасць! Як я магу дакараць цябе! Я ж ведаю: ты ўзяла на сябе галоўнае камандаванне. Нават Табар, які прыязджаў у Кракаў, выказваўся пра цябе з вялікай ухвалай.

— Дзіўна.

— Калі ласка, не праяўляй такі ж скепсіс да тутэйшых святароў. Ад іх залежыць твая каранацыя.

— Гэта так важна — каранавацца?

— Кароль павінен мець каралеву.

— Калі ўладарыць каралева, яна не мае караля, муж яе застаецца князем ці графам.

— Не! Я хачу, каб ты была каралевай! Маёй каралевай.

— Я ўжо сем гадоў твая каралева.

Яны смяяліся ад шчасця, жартавалі і... цалаваліся, як юныя закаханыя.

А на другі дзень у вавельскіх апартаментах караля сабралася сямейная рада — усе блізкія, чалавек пятнаццаць, на чале з каралевай-маці і кардыналам Фрэдэрыкам. І павялі франтальны наступ на маленькую жанчыну, у якой мелася адна зброя — яе вера. Даказвалі, пераконвалі: для таго, каб каранавацца, яна павінна адмовіцца ад сваёй схізматычнай (гэтае слова ўжывала маці — не кардынал) веры і прыняць адзіны сапраўдны хрысціянскі закон — рымскі. Алена слухала моўчкі, нікога не аспрэчвала. І Аляксандр маўчаў, за што маці злосна папракнула яго:

— Які ты кароль! Уласнай жонкай не здольны кіраваць!

Кароль пакрыўдзіўся, а Алена ледзьве стрымала ўсмешку і адчула да мужа незвычайную замілаванасць — менавіта за гэтую яго слабасць. Фрэдэрык нават выкарыстаў вельмі незвычайны козыр — сказаў па-руску, можа, для таго, каб не вельмі разумныя сёстры, нявестка, дарослыя дзеці Уладзіслава, якія вучыліся ў Кракаве, не зразумелі:

— Алена Іванаўна, сваім хрышчэннем ты не толькі зробіш дабро сабе, мужу, але ратуеш і мяне, грэшнага.

Словы гэтыя ёй пазней растлумачыў муж. Біскупы, і найперш Табар, пішуць даносы папу: п'е, мае палюбоўніцу і не заўсёды захоўвае дагматы рымскай царквы, тлумачыць іх па-свойму. Гэта было так. Разумны, адукаваны чалавек, філосаф па складзе свайго розуму, кардынал імкнуўся асэнсаваць тое, што большасцю прымалася бяздумна. Ад незадаволенасці светам і сабою выпіваў і не пазбаўляў сябе іншых радасцей жыцця. А хто з філосафаў не пазнаваў свет менавіта такім чынам — акунаючы сябе ва ўсе грэшныя радасці жыцця? Фрэдэрык лічыў, што без граху пражыць нельга і што папа такі ж грэшнік, як і ўсе, хто жыве на зямлі — хрысціяне, магаметане, язычнікі... Кардынал упэўнены, што сэнс жыцця і сэнс веры — у няспынным імкненні да маральнага ідэалу. А хіба ідэал толькі ў рымскай веры? Па яго назіранні, Алена бліжэй да маральнага ідэалу, чым сам ён і многія каталікі. У яе ёсць вялікая любоў, шчырае каханне. Каб лёс падарыў яму такую жанчыну, ён скінуў бы сваю мантыю і пайшоў бы за ёй у... любую веру, няхай бы нават у бездань. Так ён думаў, грэшны філосаф, але, безумоўна, нікому пра гэта не сказаў. Па сане свайму, пад кантролем старой фанатычнай маці, сясцёр-дурніц, нецярплівага Жыгімонта і яго юрлівай жонкі, ён пераконваў Алену доўгай, увогуле разумнай, але нуднай пропаведдзю.

На шчасце, сямейная рада не вымушала ад жанчыны, якую хацелі ашчаслівіць званнем каралевы, неадкладнага адказу: далі час падумаць.

Пад вечар таго ж дня Алена малілася ў адзінай у вавельскім градзе праваслаўнай капліцы. І так рабіла пасля штодня, раніцою і ўвечары. Каралеўская сям'я, усе, акрамя кардынала, узненавідзелі нявестку. А з'яўленне Алены на балі распаліла да яе нянавісць нявест і іх мамак, бо рухнулі іх мары. Дваццаціпяцігадовая вялікая княгіня зацьміла сваёй прыгажосцю дохлых бязгрудых шчупачак хоць і з прывабнымі тварыкамі. Да таго ж княгіня была з музыкальнымі здольнасцямі, лёгка і грацыёзна танцавала. Маладыя паны лічылі за гонар пакадрыліць з каралевай і забываліся на сваіх паненак, што выклікала іх зайздрасць і паглыбляла Нянавісць сталых паняў.

Кароль патрабаваў каранацыі жонкі. Але ўлада яго была абмежаваная. Супраць выступіў капітул царквы, маючы папскі наказ. Пачалі дыскусію: ці можа схізматычка стаць польскай каралевай? З амвонаў касцёлаў ксяндзы казалі пропаведзі, даводзячы немагчымасць каранацыі вялікай княгіні літоўскай, хоць унія і аб'яднала дзяржавы. Распальвалі непрыязь фанатычных прыхаджан.

Алена аднойчы пад жалобным вэлюмам, каб не пазналі, зайшла ў касцёл, паслухала, як ксёндз вінаваціў яе ў смяротных грахах. Уразіла, абразіла і пакрыўдзіла адно: абвінавачванне, што яна бяздзетная, маўляў, пакараў Бог.

Расказала Аляксандру.

Больш таго, да яго дайшло, што на саборным капітуле біскупы заявілі, што іх кароль дрэнны хрысціянін, бо жыве са схізматычкай; ён ганьбіць Бога. Кароль абурыўся. Напісаў афіцыйнае пісьмо брату кардыналу — няхай пашле папу! — з рашучым патрабаваннем спыніць гэты царкоўны вэрхал — публічнае абмеркаванне яго вялікай кнігіні: «У справе шлюбу мы дзейнічалі толькі са згоды папы і з удзелам кардынала... Як там ні было, капітулу не варта ў гэта ўблытвацца, гэта спакуса і дрэнны прыклад для малодшых».

Аляксандр абвясціў жонку каралевай. Ды ўказ яго, як кажуць, павіснуў у паветры; у афіцыйных дакументах ні сенат, ні капітул нідзе каралевай не называлі, пісалі: кароль польскі, вялікі князь літоўскі і вялікая княгіня літоўская.

Але не было ў гісторыі чалавецтва такіх хітруганаў, фарысеяў і кручкатвораў, як каталіцкія святары і манахі. Недарэмна імя ордэна, які з'явіўся пазней, стаў у сусветнай літаратуры хадзячым вызначэннем найгоршых якасцей чалавека і падзеі — езуіт, езуіцтва.

Ордэн бернардынцаў высунуў простую, памяркоўную і бяскрыўдную канцэпцыю пераходу ў каталіцкую веру: маўляў, хрысціяніну іншай канфесіі не трэба хрышчэння, даволі прызнання папы, яго бязгрэшнасці.

Алена не пайшла і на гэта. Во вытрымлівала характар! У Кракаве ёй жылося няўтульна. Рвалася дадому — у Вільню. Але Аляксандр угаварыў яе паехаць па Польшчы, паглядзець дзяржаву, паказацца панам і халопам, сабраць войска для вайны.

Паездка была цікавая, але малавынікавая.

У Вільню вялікая княгіня вярнулася ў маі. А кароль да кастрычніка збіраў войска. Сабраў тысяч дзесяць, на большае сойм і сенат не расшчодрыліся.

Палякі заварушыліся толькі тады, калі недалёка ад Кракава з'явіліся коннікі Менглі-Гірэя. У сталіцы пачалася паніка, уцёкі на

поўнач — у Мазовію... Тады паны ўспомнілі і пра сваю каралеву. Вымусілі Фрэдэрыка ад імя епіскапата звярнуцца да Алены з нізкім паклонам: «Яснавяльможная пані каралева». Прасілі яе паўплываць на Аляксандра, на бацьку, стаць пасрэдніцай у перамовах аб міры. Справа ў тым, што і папа Аляксандр VI, які два гады назад блаславіў вайну супраць Масковіі, урэшце сцяміў, што бойка хрысціян — на карысць іх злейшых ворагаў — туркаў, якія перайшлі ўжо Дунай, захапілі балканскія каралеўствы і княствы, неўзабаве дабяруцца да фарпоста каталіцызму на ўсходзе — Польшчы. Трэба было неадкладна ствараць антытурэцкую кааліцыю, інакш рухне вялікая імперыя, у якой былі каралі, імператары, але фактычным уладаром з'яўляўся папа Рымскі.

Добрая дыпламатка, Алена адказала дзеверу: «Пакорлівая мужу, нічога не раблю без ягонай волі, але калі вы мяне просіце, ахвотна вазьмуся за справу, толькі атрымаю на тое дазвол караля».

Аляксандр яшчэ не вярнуўся з Польшчы, а Алена ўгаварыла Івана Сапегу паехаць у Маскву; канцлер баяўся — ідзе вайна, але ведаў волю вялікай княгіні — ад задуманага не адступіць і што не кароль — кароль, а яна сапраўдная каралева. Ды і паны рады горача падтрымалі яе рашучы крок да міру.

З канцлерам яна паслала бацьку незвычайнае пісьмо, якое не магло не крануць старое сэрца Івана Васільевіча: «Па ўсім свеце паганства радуецца, хрысціянскія гасудары не могуць надзівіцца і цяжка скардзяцца: спакон вякоў, кажуць, не чуваць, каб бацька сваім дзецям беды чыніў. Калі, гасудар-бацюшка, Бог табе не паклаў на сэрца мяне, дачку тваю, любіць, дык навошта мяне з зямлі сваёй выпусціў і за такога брата свайго выдаваў? Тады і людзі з-за мяне не гінулі б, і кроў хрысціянская не лілася б. З таго часу, як прыйшла ў Літву, дык робіцца адна бяда. Чакалі тут, што са мной прыйдзе з Масквы дабро, вечны мір, любоў, дружба, дапамога супраць татараў, а прыйшло ўсё злое: вайна, бітвы, пажары гарадоў і вёсак, праліццё хрысціянскай крыві, удоўства, сіроцтва дзяцей, няволя, адчай, плач і стогны. Лепш бы мне пад нагамі тваімі ў тваёй зямлі памерці, чым такую славу пра сябе чуць, усе адно толькі і кажуць: для таго ён аддаў сваю дачку ў Літву, каб там зручней зямлю і людзей выгледзець. Змілуйся, вазьмі па-старому любоў і сяброўства з братам і зяцем сваім».

Звярталася да бацькі: «я служанка і дачка твая і падножак твой». Але падпісала пісьмо не «Алена», а «каралева і вялікая княгіня». Значыцца, не прыватнае сваяцкае пісьмо — дзяржаўнае.

У гэты час накіраваў паслоў у Маскву брат Аляксандраў Уладзіслаў, у якога туркі адваявалі частку Вугорыі.

А кароль польскі, вялікі князь літоўскі, не рэаліст, ап'янелы ад улады, усё яшчэ цешыў сябе надзеяй на перамогу, вёў своеасаблівую вайну з сенатам. Ды пасланае ім на ўсход войска польскае дайшло да Менска і павярнула назад: нехта з хітрых паноў дагнаў палякаў правакацыйнай чуткай: туркі штурмуюць Кракаў. Пэўна, пасля гэтага Аляксандр страціў апошнія ілюзіі. Ды і папа ціснуў на яго. Атаманская імперыя дабралася да Італіі, султан захапіў гарады Венецыянскай рэспублікі. Папа накіраваў уласных паслоў да гасудара ўсея Русі.

Перамовы былі доўгія і цяжкія.

Аляксандр, зрабіўшыся каралём, праяўляў незвычайную ўпартасць, якая здзіўляла Алену, яна ўсімі сіламі імкнулася паскорыць заключэнне міру, але становішча яе было вельмі нялёгкае, далікатнае: яна не магла пярэчыць мужу, сойму, радзе зрабіць уступкі бацьку яе. Што пра яе падумалі б? Ды і не згаджалася яна з бацькавымі патрабаваннямі.

Аляксандр дамагаўся звароту земляў князёў-уцекачоў Мажайскагэ, Шамякі, Бельскагэ — гарадоў Бранска, Чарнігава, Ноўгарад-Северскага, Гомеля, Любеча — подступаў да Кіева.

Гасудар усея Русі не ўступаў ні пядзі адваяваных у Літвы рускіх земляў. Паслам Аляксандра адказаў: «Што мы з Божай дапамогай у яго ўзялі, таго не аддамо. Яшчэ Кіеў, Смаленск і многія іншыя гарады належаць Расіі, мы і тыя здабываць збіраемся».

4

Паслы, якія падпісалі перамір'е, прывезлі Алене вельмі сумную вестку: памерла яе Маці — вялікая княгіня Соф'я. Вельмі ўразіла гэта дачку. Плакала так, як не плакала ніколі яшчэ і як, магчыма, не плакала ніводная каралева ад такой бяды. Адчула сваю віну перад маці: здалося, што любіла яе не так, як належыць добрай дачцэ. Ва ўсялякім разе тут, у Літве, думала пра яе значна менш, чым пра бацьку. На бацьку і злавалася моцна — які грэх! — але думкі ўвесь час былі скіраваны на яго. Пра маці з жалем і замілаваннем думала толькі тады, калі бацька аддаліў сына і маці, перадаў права наследства ўнуку Дзмітрыю і наблізіў да сябе нявестку: малдаўскую Алену. У Маскве так і раздзялялі іх: Алена малдаўская і Алена літоўская.

Маці не няньчыла дзяцей, не карміла іх, не мыла, не ўкладвала спаць — гэта так. Але цяпер Алена з любасцю ўспаміінала, як пляменніца візантыйскага імператара настойліва і цярпліва вучыла яе грэчаскай мове, ды і лацінскай. І не адну яе. Гэтак жа навучала і Феадосію. Менш да моў былі прыдатныя браты, але, магчыма, таму,

што бацька лічыў: не мужчынская гэта справа — чужыя мовы і старажытнагрэчаская філасофія, трагедыі і камедыі.

Прыходзілі са спачуваннем паны і пані. Пры іх яна трымалася з каралеўскай цвёрдасцю, а пасля, расчуленая спачуваннямі, хоць часам, можа, і не шчырымі, зноў плакала.

У Марфы, якой нядужылася, але якая мужна, па Пісанні, рыхтавала сябе да пераходу ў іншы свет, рвалася сэрца ад слёз выхаванкі сваёй; толькі пры няньцы Алена давала волю слязам сваім. Марфа, як умела, суцяшала яе, раіла маліцца. Алена малілася, але чамусьці здавалася ёй, што ў малітвах яе няма той душэўнай шчырасці, якая была, напрыклад, калі яна малілася за Аляксандра. Выходзіць, муж даражэй за маці? Разумела, што так параўноўваць нельга, што хоць любоў і каханне зліваюцца ў адно, але, злітыя, яны робяцца і святасцю і грахом, няхай і штацкім. А ў любоў да маці нішто не прымешваецца, не павінна прымешвацца, бо можа забрудзіць гэтую самую чыстую, самую высокую любоў — такую ж, як да Багародзіцы.

Марфа суцяшала словамі Евангелля:

— Шчаслівыя тыя, што плачуць, бо яны суцешацца.

Алена малілася:

— Памілуй мяне, Госпадзі, бо цесна мне; ссохлі ад нягоды вока маё, душа мая і вантробы. Спакутавалася ў смутку жыццё маё і леты мае ў стогнах...

І тут жа лавіла сябе, што і перад Богам яна няшчырая. Не жыла яна ў смутку і не праходзілі гады яе ў стогнах! Былі ў яе радасці маленства, юнацтва. І мае яна вялікую радасць кахання. Хіба ж гэта грэх — кахаць Богам дадзенага мужа свайго?

«Але ж Бог карае мяне. У чым грэх мой?»

У такіх душэўных пакутах жыла Алена ў тую восень. І не было побач чалавека, акрамя Марфы, якому яна выплакала б сваё гора, свой смутак. Хоць і скончылася вайна, Аляксандр заставаўся ў Польшчы. Але Алену больш не хвалявала яго адсутнасць, як тады, два гады назад, калі ён паехаў здабываць карону. І прывіды жанчын не з'яўляліся больш. Нават дзяржаўныя справы яе менш цікавілі, хоць у адсутнасць вялікага князя мусіла займацца імі.

Суцешыла вялікую княгіню бацькава пісьмо. Яно было незвычайнае: амаль нічога пра палітыку, пра прэтэнзіі да Аляксандра, пра нядаўнюю вайну, а ўсё пра любоў да яе, сваёй дачкі, скаргі на свае хваробы, смутак ад прадчування блізкага канца, нават пакаянне за крыўды, якія ён зрабіў вялікай княгіні Соф'і. «А яна была святая, маці твая. Яна была святая». Безумоўна, святая: восем дзяцей нарадзіла.

Алена плакала над пісьмом, бо паверыла і ў любоў бацькаву, у пакаянне яго. Не ў згодзе і ладзе яны жылі апошнія гады — Гасудар і яго жонка. Але грачанка была разумная і разважлівая, і Іван Васільевіч, хоць і запальчывы, нецярплівы, але мудры, ніколі не грэбаваў яе парадамі.

Смерць Соф'і адразу састарыла і знядужыцца яго.

З палітыкі хіба адно бацька напісаў: напамінак пра сваё патрабаванне, якое ён выказаў яшчэ пры падпісанні перамір'я, што ў выпадку смерці яго нашчадкі не будуць змушаць Алену да рымскай веры.

Але гэта Алену не кранула, хіба што непрыемнымі былі словы пра магчымую смерць мужа. За веру сваю яна не сумнявалася, цвёрдасць яе прайшла ўсе выпрабаванні.

Больш зацікавіла, нават у нейкім сэнсе развесяліла, бацькава просьба пашукаць паміж нямецкімі прынцэсамі — яна, Алена, бліжэй да іх — нявесту Васілю: брат неўзабаве прыме дзяржаўны скіпетр, а дагэтуль нежанаты.

Алена ахвотна ўзяла на сябе ролю свахі: даведвалася ў сваіх паноў, хто з нямецкіх князёў і графаў, курфюрстаў мае незамужніх дачок, выпытвала пра гэта ў заходніх паслоў.

Але калі вярнуўся Аляксандр і яна бадай весела сказала пра свой новы абавязак, кароль адказаў груба і непачціва:

— Няхай твой бацька пашукае дурняў у іншым месцы, у нас іх няма. Ён па-воўчаму адгрызае кавалкі майго княства з усходу І хоча мець саюзніка — свата, які рваў бы маё каралеўства з захаду. Знаю я гэтых немцаў — шакалы!

Аляксандр прыкметна мяняўся. Змена гэтая і здзіўляла, і палохала Алену. Лічыла, што мужу не хапае волі. Ажно не: і воля ў яго ёсць. Для ўладара такая якасць патрэбная. Калі ён умее яе выкарыстаць разумна і на карысць народу свайму і дзяржаве. Але якую з дзяржаў ён больш любіць? Гэта была для некаранаванай каралевы загадка. Яна любіла Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае. Польшча была чужой і далёкай. А яго цягне ў Польшчу? Не, прыйшла Алена да высновы, гэта не любоўная цяга, хутчэй — покліч абавязку ці ўладалюбства. А гэта ўжо не лепшыя пачуцці. Аляксандр прызнаваўся, што ў Вільні адпачывае душой. Побач з ёй, сваёй каханай жонкай. У сваіх замках, Ніжнім і Верхнім, у сваім касцёле, нават са сваімі шумнымі панамі рады.

Прачытаўшы ці не трэцяе пісьмо Івана Васільевіча з выяўленнем пяшчотнай любові да дачкі, са скаргамі на сваю нядужасць, з прызнаннем, што думаў нават ужо пра тое, каб пайсці ў манастыр,

але не — не пойдзе, пранясе свой крыж да апошняга дыхання, як Збавіцель наш, — Аляксандр вырашыў выкарыстаць перадсмяротную душэўную расслабленасць гасудара, яго пакаянне за грахі зямныя. Папрасіў Алену напісаць бацьку пранікліваe пісьмо з запэўненнем, што ніхто яе за дзевяць гадоў не вымушаў да змены закона, з прызнаннем любові да яго, вернасці яму і адзінай праведнай веры. У сваім пісьме кароль называў нялюбага цесця, учарашняга ваеннага ворага бацькам і братам, кляўся, што ўсталюецца паміж Літвой і Расіяй вечны і непарушны мір, брацкая дружба, калі... калі Літве вернуць яе землі. Накіраваў з пісьмамі высокіх паслоў — Станіслава Глябовіча і Юрыя Зіноўевіча, дзяржаўнага сакратара Багдана Сапегу, апошнія два праваслаўныя.

Хворы Гасудар паслоў не прыняў, перадаў праз баярына: «Вялікі князь нікому не аддае свайго. Хочаце сапраўднага трывалага міру? Уступіце Расіі Смаленск і Кіеў».

Аляксандр скрыпеў зубамі на такі адказ.

5

Два гады кароль вёў вайну... бяскроўную, але такую ж цяжкую, як любая крывавая, а можа, і больш пакутлівую, ва ўсялякім разе, пасля бітваў са знешнім ворагам, напрыклад, пасля баёў з нямецкімі рыцарамі, якія вёў у маладосці, дзе ў твар глядзела смерць кожны міг, ён не адчуваў сябе так блага, як тут, у шыкоўных апартаментах пасля сутычак са сваімі падданымі. Тады спаў сном праведніка, а ў Кракаве пакутаваў ад бяссонніцы.

Аляксандр вёў з польскімі магнатамі бітву за ўмацаванне абсалютнай манархічнай улады. Перш-наперш скасаваў прывілеі, якія ў чаканні каранацыі лёгка і бяздумна падпісаў у Мельніку. Увёў ваенны падатак, чаму асабліва супраціўляліся паны: кожны дбаў пра ўласнае багацце, а не пра бяспеку дзяржавы.

Першыя перамогі натхнілі караля. Але была самая цяжкая бітва за абмежаванне ўлады сената, які ўзвышаўся над каралём, скоўваў яму рукі і ногі.

Аляксандр — галава аднак! — знайшоў выдатны: стратэгічны ход: заручыцца падтрымкай сярэдняй і дробнай шляхты. Кажучы сацыялагічнай мовай, ён узняў клас сярэдніх землеўладальнікаў да буйных магнатаў. Гэта была амаль рэвалюцыя, даволі прагрэсіўная, як ацанілі яе гісторыкі пасля.

Кароль стварыў пасольскую палату з прадстаўнікоў шляхты, якая супрацьстаяла сенату. Адабраў у сената выканаўчую і судовую ўладу.

Але што каштавалі яму перамогі? У часе бяскроўных схватак, а ён нярэдка вёў іх адзін супраць многіх вельмі ўплывовых магнатаў, якія не спыняліся нават перад пагрозамі каралю, — востры боль біў яму ў патыліцу і... ў паясніцу. Пасля балявога ўдару паясніца, таз, ногі так млелі, што ён з вялікай натугай, як глыбокі стары, узнімаўся з крэсла.

Недасведчаны ў фізіялогіі, боль у галаве неяк разумеў. Але пры чым тут паясніца? Пасля сутычак з панамі і такіх балявых удараў часам па два, тры дні не здольны быў без дапамогі ўскочыць у сядло, займацца разумовай працай. Асабліва спалохаўся, калі прыехаў у Вільню і тут спазнаў мужчынскае бяссілле; рэдка быў здольны пагрэць жонку, не тое што раней.

Сумна паскардзіўся Алене:

— Не дала мне шчасця карона.

Яна падумала, прызналася:

— Алекс, каб ты ведаў, як мне хацелася тады адгаварыць цябе ад барацьбы...

— За што?

— За карону.

— Я змагаўся не за карону — за Польшчу. Яна наша — нашай сям'і, Ягелонаў. Гэтыя бязмозглыя паны не разумеюць... — нервова пахадзіў, паправіў сябе — каб Алена не падумала, што ён шкадуе: — Не. Я шчаслівы, Гэля! Я шчаслівы, што трымаю бацькаў трон. Бацька там, на небе, радуецца за... — Хацеў сказаць «за мяне» — не сказаў, узняў вышэй: — за Польшчу. І за княства наша Вялікае. Я вярну свае землі. Прабач. Але бацька твой — неразумны ўладар. Яму Менглі-Гірэй, султан турэцкі, даражэй за дачку і зяця. Азіят!

— Не трэба, Алекс. Бацька хворы.

— Маўчу. Дай Бог яму здароў'я. Бачыш, я не жадаю яму ліха. Ён мне жадае...

«І ён табе асабіста не жадае. Ён ваюе за свае землі і за сваю веру», — падумала Алена, але не сказала такога мужу, разумная дыпламатка, ні разу не сказала, калі часам вельмі рэдка яны і спрачаліся.

Аляксандр, яўна ад душэўнага неспакою, нервова хадзіў па зале і пераконваў сябе:

— Не, Гэля, я шчаслівы. Я, можа, самы шчаслівы з усіх еўрапейскіх каралёў. — І каб хоць адна прычына была праўдападобная, спыніўся перад ёй, ласкава ўсміхнуўся: — Я шчаслівы: у мяне ёсць ты.

А між тым тут, у роднай Вільні, дзе князь адпачываў целам і душой, у яго адсутнасць завязаўся клубок супрацьстаяння,

палітычная напружанасць, якая штурхнула яго на канфлікт з панамі, не менш цяжкі і небяспечны, чым з магнатамі польскімі.

Колькі гадоў назад Аляксандр наблізіў да сябе Міхайлу Глінскага. Не, такія хітрыя, спрытныя людзі з авантурнымі схільнасцямі самі ўмеюць наблізіцца да ўладароў. Колькі іх такіх было ў гісторыі!

Назначаны Аляксандрам дворным маршалкам, Глінскі, пакуль кароль наводзіў парадак у Польшчы, здолеў узяць уладу ў княстве ў свае рукі. Нават вялікую княгіню адціснуў убок. Спачатку Алена, як і муж яе, палюбіла маладога, разумнага, дасціпнага князя — давярала яму. А калі «раскусіла» спрытнягу, — паны, рада расплюшчылі ёй вочы, — зачараваны ўлюбёнцам кароль не дазволіў ёй выступіць супраць маршалка. Яны нават пасварыліся з-за адносін да Глінскага. Аляксандр, злосны на польскіх паноў, папракнуў яе, што яна, маўляў, трапіла пад уплыў старых інтрыганаў. Так настройваў караля Глінскі, які разумеў і бачыў, што тоўстай калодай на яго шляху да поўнай улады ляжыць рада, яе старэйшыны — Ян Забярэзінскі, Мікалай Радзівіл, Станіслаў Глябовіч, Станіслаў Кішка і іншыя. Трэба было калі не знішчыць іх, то прынізіць ролю рады у кіраванні дзяржавай.

Глінскі зрабіў хітры, па-сутнасці, правакацыйны ход. Атрымаўшы вусную згоду і не давёўшы нават да ведама паноў рады, Глінскі падарыў сваяку свайму не маёнтак, не вёсачку — горад Ліду. Безумоўна, рада абурылася: ствараўся нябачны дагэтуль прэцэдэнт, калі адзін чалавек, набліжаны да караля і вялікага князя, можа адабраць у любога з іх вотчыннае ўладанне і аддаць каму захоча. Паны рады нагадалі I пацвердзілі даўнія, яшчэ, Гедымінавы і Вітаўтавы законы, што пасаду можна адабраць толькі разам з гербам — пазбавіўшы дваранства.

Глінскі паехаў у Кракаў і настроіў караля супраць рады.

Рада патрабавала склікання сойма. Аляксандр склікаў сойм, але не ў Вільні — у Бярэсці, на паўдарозе паміж сталіцамі. З'ехаліся не ўсе паны, дальнія — полацкія, віцебскія, смаленскія, кіеўскія — не прыехалі.

Віленскія вярхі пачалі са скаргі на Глінскага.

Кароль, ап'янелы ад перамогі над больш зацятым польскім сенатам, не выслухаў нават сваіх дарадцаў, узлаваўся і... выгнаў іх прэч.

Глінскі давёў Аляксандру, што паны — ворагі яго і рыхтуюць змову з мэтай адхілення польскага караля ад улады ў Вялікім княстве. Здрада! Мяцеж!

Даведаўшыся пра «берасцейскае прадстаўленне», Алена напісала мужу пісьмо, у якім заклікала не верыць Глускаму. Але гэтым толькі пабольшыла Аляксандраву падазронасць, асабліва небяспечнай яна

робіцца, калі чалавеку, які мае ўладу, пачынае здавацца, што з-пад яго хочуць выхапіць трон, крэсла.

Неўзабаве Аляксандр міласціва, падазрона-ласкава, запрасіў віленскіх магнатаў на новы сойм — у Польшчу, у Радам.

Паны ўчулі пастку. І не паехалі. Але накіравалі ў Радам таго, каго кароль не мог ні выгнаць, ні арыштаваць, — Войцэха Табара, які незадоўга перад тым атрымаў ад папы высокі сан кардынала Віленскага.

Табар не пагаварыў з вялікім князем адзін на адзін. А перад пасольскай палатай, зачараванай каралём шляхтай, якую Аляксандр запрасіў як сведкаў і суддзяў, выступіў з бязлітаснай выкрывальнай прамовай. Нагадаў каралю многія яго грахі: пагарду да папскага наказу скасаваць шлюб з бяздзетнай схізматычкай, невыгоднае для каралеўства і Вялікага княства прымірэнне з Масквой — са стратай многіх земляў, а галоўнае — несправядлівае стаўленне да асновы і гарантаў жыцця і ладу — найбагацейшых паноў.

— Міласцівы кароль, ты гневаешся на нас без прычыны, з-за нагавораў некаторых людзей. Мы супраць цябе, нашага гасудара, не выступалі, але мы абаранялі свае прывілеі, мы маем права іх захаваць. І таму, міласцівы гасудар наш, як пастыр гэтай дзяржавы і ваш пастыр, павінен засцерагчы і цябе, гасудара нашага, каб ты ахоўваў правы нашы і тыя правілеі, што даў нам. Калі ж хто ўздумае іх парушыць — Божа, адпомсці кожнаму, хто такое ўздумае! Абруш на яго гнеў свой!

О, як гэта ўзрушыла, расхвалявала караля! Ворагі, польскія паны, у якіх ён забраў прывілеі, не дагаварыліся ў самай жорсткай дыскусіі да таго, каб клікаць Боскую кару на галаву свайго караля, свайго ўладара. А тут — хто! — яго пастыр, яго спаведнік з маладых гадоў, каму ён каяўся і хто адпускаў грахі яго, хто быў дарадцам не толькі ў духоўных, але і ў свецкіх, дзяржаўных справах, пагражае Боскай карай...

Кароль нават не здолеў адказаць кардыналу, бо страшэнны боль ударыў у патыліцу, у паясніцу. Анямела левая рука. Не мог скрануцца з месца, без дапамогі не падняўся з крэсла.

Аляксандра разбіў параліч.

6

Алена не любіла восені, асабліва позняй, калі апала лісце, ссохлі травы і бяссонныя ночы доўгія-доўгія — адзінокія ночы, без мужа. Ёй не вельмі ўжо хацелася яго ласкі, але хацелася, каб побач была жывая душа. А інакш яна адчувала сябе бадай жа ўдавой. І непрыкметна

рабілася маладой пустэльніцай. Сапраўды, і дзяржаўныя справы цікавіць пачалі яе не так, як раней. Аднак разумела, што пры той барацьбе, якую вядзе рада з Глінскім ці, наадварот, Глінскі з радай, у адсутнасць вялікага князя яна не прымала зліцця дзвюх дзяржаў у адну, яе Айчынай было Вялікае княства, яе старшынства ў радзе вельмі неабходнае.

Паны адчулі, што вялікая княгіня схіляецца на іх бок, і праз Івана Сапегу прасілі яе не аддаляцца ад рады, бо і дробныя гаспадарчыя пытанні ва ўмовах супрацьстаяння завязваліся ў такія вузлы, якія ўмела развязваць толькі яна. А яна такі ўмела — лагодна, памяркоўна, без пыхі і націску, з жартамі, ад якіх цяплелі захаладалыя ад варожасці сэрцы і ў старых зуброў, і ў маладых рагатых ласёў.

Але Алена Іванаўна знайшла сабе новы занятак — настаўніцкі і ім запаўняла сумныя асеннія дні. Яна вучыла сына Ксеніі — Янку; маленькі гарэза Ясік стаў Янкам, так яго клікалі ў Жупранах вясковыя хлопцы.

Ксенія вельмі баялася, каб сын яе не пайшоў па слядах дзеда і бацькі, што бясследна загінулі невядома дзе, І хацела вывучыць яго на духоўніка.

— Хлеб нялёгкі, асабліва ў маёй новай веры, дзе святары бясшлюбны. Няшчасныя людзі! Але ж небяспекі няма, можна доўга жыць.

Алене падабалася жаданне малочнай сястры, і яна прапанавала Ксеніі навучыць Янку пісьменнасці, Свяшчэннаму пісанню. Збянтэжанай Ксеніі — сама вялікая княгіня і каралева будзе вучыць яе сына! — сказала, што гэта мілая Богу справа, дабрадзейства. Стаіла трохі эгаістычную думку: настаўніцкія абавязкі, прысутнасць хлапчука, якога любіла, як сына, заняткі з ім напоўняць яе адзінокае жыццё новай радасцю, бо ўсё астатняе абрыдла, акрамя хіба музыкі, якой вучыў яе італьянец каторы год; адчувала, што маэстра не вельмі задаволены яе поспехамі, але гэта не глушыла яе цікавасць да музыкі — не ў дырыжоры ж яна рыхтуе сябе. А пайграць на лютні, арфе — найлепшае заспакаенне для мяцежнай душы.

Дзевяцігадовы Янка выявіў незвычайныя здольнасці, якія радавалі настаўніцу, — асабліва ў мовах рускай і грэчаскай, з якіх яна пачала, польскую і лацінскую пакінула на другую ступень. Горш было з Свяшчэнным пісаннем — з Ветхім запаветам і Евангеллем. Янка задаваў такія пытанні, на якія нават яна не ўмела адказаць, больш таго — баялася адказваць, каб не ўкінуцца ў ерась. Былі пытанні, пасля якіх яна хрысцілася, кланялася Хрысту, Багародзіцы і малога

прымушала маліцца. Бачыла, што Янку гэта здзіўляе, разумела — не лепшы метад навучання, але так вучылі яе — маці, спаведнік Фама.

У той дзень Янка, як ніколі раней, быў уважлівы і старанны, але Алена не лепшым чынам расказвала яму і Евангелле ад Лукі, і асновы рускай граматыкі. З самай раніцы яе апанавала незразумелая трывога — як бы прадчуванне бяды. Такое не перажыла нават тады, калі цяжка хварэла.

І прадчуванне спраўдзілася. Пад вечар з'явіліся заплёханыя гразёю, стомленыя ганцы з Масквы з сумнай весткай: памёр бацька яе Іван Васільевіч. Здзівілася сама і здзівіла канцлера свайго, які прывёў ганцоў, што не заплакала, вочы засталіся сухімі. Толькі моўчкі пастаяла ў жалобе, памалілася. Пазней Марфе сказала, як баліць яе сэрца.

Паломніцтва са спачуваннямі не было, як пасля смерці маці. Узнімалася глухая крыўда на паноў, хоць розумам усведамляла, што лепш шчырасць іх, чым няшчырасць, удыганне. Гасудар усея Русі не толькі Нарабіў панам клопату, нагнаў страху, але забраў і нямала багацця іх: у княстве ваенны падатак быў немалы, і за адмову прысылаць людзей у войска, плаціць чынш грашамі і правізіяй нярэдка сурова каралі, ажно да таго, што пазбаўлялі ўладання зямлёй, а гэта — горш за смерць, смерцю каралі аднаго, а страта зямлі абяздольвала ўсю сям'ю, увесь род, ператварала ў жабракоў.

На другі дзень наладзіла адпяванне бацькі ў царкве Прачыстай Багародзіцы.

Бяда прыйшла, нічога не зробіш, шукай супакаення ў малітвах, толькі яны здымаюць цяжар з сэрца. Але адчуванне трывогі не праходзіла. Яшчэ адна бяда?

І яна здарылася. Вярнуўся з Радама Войцэх Табар. Прыйшоў да вялікай княгіні. Ад яго выгляду Алена ледзьве не закрычала — такі страх працяў. Войцэх Табар ніколі так пачціва не схіляўся перад схізматычкай.

— Яснавяльможная вялікая княгіня! Я ішоў да цябе ў скрусе, бо нёс цяжкую вестку.

Алене здалося, што пад яе нагамі праламалася падлога і яна правальваецца ў бездань.

— Яго забілі?

— Не. Кароль захварэў.

— Цяжка?

— На шчасце, не вельмі. Але яму адняло нагу, ён не мог без дапамогі пайсці.

Алена перахрысцілася: выказала ўдзячнасць Заступніцы. Хоць не зусім паверыла кардыналу. Шукала яго вочы, а ён ціха І пачціва гаварыў, але не глядзеў на яе. Не верыла яна гэтаму чалавеку, а таму не распытала падрабязнасці — не з-за павагі да яго высокага царкоўнага сану, а менавіта таму, што не верыла: не скажа ён праўду!

Не параілася нават, што рабіць ёй. Нават з панамі рады не параілася. Вырашыла сама: ехаць! Неадкладна ехаць! Іван Сапега спрабаваў адгаварыць. Алена ўзлавалася, сурова дакарыла:

— Усе вы будзеце рады яго смерці.

Канцлер нават заплакаў ад крыўды.

Выехала праз дзень — як толькі сабралі канвой і экіпажы.

Ехала апантана. Ніколі так не гнала, нават па лёгкай зімовай дарозе. А тут позняя восень, без марозу, дарогі — багна, рэкі разліліся. Грузлі коні і карэты. Дзень кароткі. Але ехалі ад цямна да цямна, без супынкаў на дзённы адпачынак.

Сама княгіня, прыслуга і ахова ўвечары ў панскім маёнтку, у манастыры, а разоў колькі і ў простай сялянскай хаце з земляной падлогай і курнай печчу валіліся з ног. Служанкі яе храплі, што загнаныя коні. А яна і пасля такой смяртэльнай стомы не адразу засынала. Ляжала з расплюшчанымі вачамі і адганяла ад сябе прывіды — выявы сваёй хворай фантазіі.

Бадай жа ў непрытомнасці ўзыходзіла па шырокай мармуровай лесвіцы каралеўскага палаца: што яе сустрэне?

І о! — якое шчасце! Аляксандр схуднелы, але на нагах — падняўся з крэсла, абапіраючыся на стол і на кій.

Алена не слала наперад ганцоў. Аляксандр у першы міг бадай спалохаўся, убачыўшы змарнелую, белую, што палатно, жонку. Але тут жа — як узрадаваўся! Плакаў ад шчасця.

— Ты... ты прыехала... Дзякуй табе, дзякуй. Прабач, я не паспеў напісаць табе.

— Мне сказаў Табар.

— О Табар! Наш мудры пастыр! — Алена абнімала мужа, уткнулася тварам у яго плячо і не ўбачыла, як кароль збялеў, як нядобра заблішчалі яго вочы пры напамінку пра кардынала.

Удар быў сярэдняй цяжкасці. Але лекары таго часу не ведалі механізму паралічу — што паражаецца, і не ўмелі лячыць, хоць старажытныя персы і егіпцяне ўмелі. Ды сярэднявечча згубіла разумныя рэцэпты нядаўняй старажытнасці.

Хвораму трэба было ляжаць у ложку. А ён паляжаў усяго два тыдні ў Радаме. Пераехаўшы ў Кракаў, заняўся справамі — рыхтаваў новыя рэформы для ўмацавання сваёй улады і ў кароне і ў княстве.

Вельмі можа быць, што прыезд жонкі прадоўжыў Аляксандрава жыццё. Алена паводзіла сябе разумней, чым лекары; яна прымусіла мужа ляжаць, а неадкладнымі клопатамі займалася сама. Дзіўна, што на гэты раз пыхлівыя польскія паны прынялі некаранаваную каралеву. Лічыліся з думкай чужынкі, хоць праз агентаў сваіх і ведалі, што яна, разам з літоўскімі панамі, была супраць той уніі, якую чатыры гады назад падпісаў нававыбраны кароль, і ў Вільні праводзіла незалежную палітыку, не давала Польшчы зрабіць з Вялікага княства свайго васала.

Магчыма, паны лепш, чым сам кароль, уяўлялі, што калі ўладар іх і адужае хваробы, то ранейшай актыўнасці не верне, і тады вырасце роля каралевы. Але Алена пра ўладу не думала — пра жыццё думала. Яна згадзілася з Аляксандрам, які, будучы рэалістам, пажадаў зрабіць завяшчанне, па якім, у выпадку смерці яго, улада і ў Польшчы, і ў Літве пяройдзе да яго малодшага брата Жыгімонта. Але напісанае завяшчанне не абнародавалі ні ў сенаце, ні ў пасольскай палаце.

Аляксандр папраўляўся: хадзіў без кійка ўжо, горш было з левай рукой, але з адной рукой нельга ісці ў бой, а кіраваць можна.

Ды ў студзені здарылася новая бяда: раптоўна памерла каралева — маці Эльжбета. Смерць яе спалохала Алену — за Аляксандра баялася: ён любіў маці. Доўга рыхтавала яго да сумнай звесткі. Але нельга было не сказаць, калі ў Вавелі плакалі званы. Парадавалася, што Аляксандр мужна вынес гэты ўдар. Галоўная цяжкасць была — угаварыць яго не ісці на пахаванне, куды ён рваўся. Бадай ніхто не пераканаў бы караля, жонка пераканала, паслухаўся яе.

У касцёле Алена шчыра плакала. Хрысцілася па-грэчаску — двума пальцамі. Але Евангелле чытала па-лацінску. Слязамі і добрай лацінскай мовай заваявала сімпатыі вяльможных паняў, што стаялі побач. Непрыязь да схізматычкі, якая нават ад кароны праз веру адмовілася (а яны моцна распальвалі гэтую непрыязь ажно чатыры гады), адразу пагасла, пані палюбілі «сваю каралеву» за яе павагу да іх веры, за яе прастату і свойскасць — ніякай пыхі. А паны ацанілі яе дзяржаўны розум.

Але ўпотай узрадаваліся, калі прачулі, што яна збіраецца везці караля ў Вільню.

А гэта было так. І пры змене адносін Алена няўтульна адчувала сябе ў Кракаве. Рвалася дадому. Усцешылася, што смерць маці не ўскладніла Аляксандравай хваробы, хоць з тыдзень ён адчуваў сябе блага; часта плакаў, але Алена разумела, што гэта не столькі ад жалю па старой маці, колькі ад жалю да сябе, ад крыўды за сваю няду-

жасць. Пераканала сябе, што толькі дома ён верне калі не фізічную, то духоўную моц, а гэта, можа, самае галоўнае для чалавека, тым больш для ўладара. Там, у Вільні, у акружэнні сваіх, у яе будуць куды шырэйшыя магчымасці стварыць вакол вялікага князя атмасферу прыязнасці, добразычлівасці, адчування сваёй патрэбнасці народу, дзяржаве. Ад гэтага ён хутчэй ачуняе.

Як толькі ў Кракаве выпаў снег і ад лёгкіх маразоў зазвінеў пад нагамі, Алена лёгка ўгаварыла мужа ехаць у Вільню. Ён нават сумна пажартаваў:

— Дома І паміраць лягчэй.

Алена разумела: санная дарога — самая роўная, самая лёгкая для хворага.

Яны вярнуліся ў сваю сталіцу, у родны дом, як казала Алена.

7

У Вільні лекар — вядомы ў Еўропе алхімік-венгр, якога параіў Міхайла Глінскі, ледзьве не загнаў караля ў магілу. Алена пратурыла яго прэч са скандалам. І запрасіла ашмянскую лекарку Леанілу, якая вылечыла сем год назад яе. І ўсё пайшло на лад.

Аляксандр патроху ачуняў. Толькі трохі кульгаў, ды слабой была левая рука. Але сам, пехатой, падымаўся ў Верхні замак. Кіраваў пасяджэннямі рады. Пасылаў ганцоў у Кракаў. Выклікаў намеснікаў на польскіх землях часцей, чым князёў літоўскіх. Вёў перагаворы з новым вялікім князем маскоўскім — Васілём, які пакуль што не патрабаваў ад чужаземных уладароў, каб яго называлі гасударом усея Русі. Распытваў у Алены пра характар брата.

Алена любіла Васіля, на тры гады малодшага за яе; разам раслі, за валасы адно аднаго цягалі. Часта пісала яму, брату лягчэй было пісаць, чым некалі бацьку, пісьмы былі простыя, раскаваныя, недыпламатычныя, і Васіль адказваў гэтак жа, а таму хораша раскрываўся — не сястры, Алена і так ведала яго — каралю і вялікаму князю, якога неадчэпна турбавала адна думка: як вярнуць захопленыя ненажэрным цесцем землі — мірна ці прыйдзецца ваяваць, ужо са шваграм? Думаў пра мір, а рыхтаваўся да вайны, зноў вёў перагаворы з Платэнбергам, таіў іх ад Алены.

Ды вайна, па сутнасці, і не спынялася. Сціхлі гарматы і пішчалі на ўсходзе, але гарэлі землі Вялікага княства на поўдні — штогод татары спусташалі іх.

Па вясне трыццацітысячнае войска Махмат-Гірэя і Бярнаш-Салтана зноў прарвалася ажно да Менска. Год назад татары штурмавалі

Слуцк, ды ўдава Сымона Слуцкага княгіня Анастасія ўзначаліла абарону і адбіла татарскую раць.

Прыйшла звестка, якая ўскалыхнула Вільню, што татары ўзялі Клецк, наступаюць на Ліду, а гэта ж да сталіцы — рукой падаць.

З фронту баявых дзеянняў прыскакаў у Вільню сам камандуючы Міхайла Глінскі.. Польскія палкі і наёмнікі — немцы і датчане патрабуюць караля, без яго ў бой не пойдуць.

Аляксандр вырашыў ехаць. Спалоханыя паны падтрымалі яго намер. Алену апанаваў жах: яна разумела, як ніхто, што для мужа гэта смяротэльная пагроза, не ад татарскай стралы ці пікі — ад хваробы яго нявыпечанай. Спрабавала адгаварыць, але ён быў непахісны: яго чын караля і вялікага князя абавязваў, ды і паны вымушалі. А ў Алены не было маральнага права ў час небяспекі для народа скарыстаць сваю ўладу жонкі і вялікай княгіні. Ёй заставалася толькі адно: ехаць з мужам. Ён спрабаваў пярэчыць, але яна праявіла сваю моцную волю.

Да запалу шалі коней, да Ліды даехалі за дзень. А ўначы ў Лідскім замку Аляксандру стала блага. Раніцою ў яго хапіла сілы сабраць прыбліжаных — ваяводаў і паноў, абвясціць тастамент, якім абвяшчаў Жыгімонта сваім наступнікам, дадаў у дакумент пра апеку над каралевай і вялікай кнігіняй: «Каб яе бараніў і каб заставалася ў належнай пашане да канца свайго веку».

З'яўленне пад Лідай перадавых татарскіх атрадаў вымусіла Глінскага і штаб яго найхутчэй адаслаць хворага караля ў Вільню. Але першыя ж вёрсты паездкі ў безрысорнай карэце аднялі ў Аляксандра мову.

Што рабіць? Як везці?

Алена сама прыдумала: прывязаць да сёдлаў двух коней гамак з шатровай тканіны. Так і везлі хворага. Коней за аброць вялі воіны. Стаяў спякотны дзень. Каб засланіць караля ад сонца, зладзілі шаўковы навес.

Алена ехала ў сядле побач, перагіналася праз каня, хусцінай адганяла мух і выцірала пот з ілба муха і слёзы з яго вачэй. Ён быў у прытомнасці яшчэ, імкнуўся нешта сказаць, але язык як распух, пасінелі вусны. Ды яна па вачах яго разумела, што ён хоча сказаць: сярод іншага — што ён кахае яе.

Алена каўтала слёзы, але не давала ім выкаціцца з вачэй. Няспынна гаварыла, спадзеючыся, што словы яе даходзяць да яго свядомасці:

— Алекс, любы мой. І я кахаю цябе. О, як я кахаю цябе! Трымайся, мой князь, мой кароль, уладар душы маёй! Хутка мы прыедзем у Вільню… І там ты ачуняеш. Там ты ачуняеш!

Не верыла, што ён ачуняе, але суцяшала яго, сябе, воінаў, што акружалі іх.

На другі дзень убачыла, што І ад хады коней — не прымусіш жа жывёлу Ісці ў нагу, — ад няроўнага гойдання гамака Аляксандру моцна баліць. Закамандавала, каб воіны неслі яго на насілках. Тады і сама пайшла пехатою, усё гэтак жа адганяючы мух і выціраючы пот з яго чала.

Чатыры дні ішлі да Вільні; а ўначы дзяжурыла каля яго ложка, засынала на хвіліны, седзячы. Да нясцерпна балючых крывавых мазалёў нацерла, ногі.

Пасля больш месяца сядзела каля хворага ў спачывальні замка. Калі святлелі яго вочы і здавалася, што Аляксандр чуе яе, гаварыла з Ім пра сваё каханне і пра радасць жыцця з ім. А больш малілася: прасіла Прачыстую Багародзіцу і Збавіцеля дараваць яму жыццё, няхай і анямелы — абы жыў. Месца сваё каля ложка ўступала толькі Марфе і Ксеніі, радзей — манашкам-бернардзінкам, каб хоць трохі адпачыць, не знясіліцца зусім.

У жнівеньскую рабінавую ноч, калі на небе палыхалі маланкі без грому, Алена ўгледзела апошні ўздых мужа: вылецела яго спакутаваная душа. Патухла свечка ля яго ўзгалоўя. Без плачу, без слёз, бадай спакойна, заплюшчыла вочы яго, патрымала пальцы на яблыках іх, пакуль не пахаладзелі павекі. Пасля ўпала на калені перад іконай Багародзіцы, пранікнёна, на поўны голас, прачытала малітву:

— Уладыка Госпадзі Уссдзяржацель, Ойча Госпада нашага Ісуса Хрыста, усім чалавекам Ты хочаш уратаванья і ў розум ісціны прывесці, не хочаш смерці грэшнаму, але ўразумення і жыцця яму. Молімся і перапаручаем сябе Тваёй міласці: душу раба твайго Аляксандра ад усякіх ланцугоў вызвалі і ад усялякага пракляцця аслабані, даруй праграшэнні яму, як жа ад юнацтва, ведамыя і няведамыя ў дзеле і слове, і чыста іспавяданыя або забыццём ці сорамам стоенья… Прымі душу раба твайго Аляксандра і супакой яе ў вечным прыстанку са святымі тваімі, дабром Адзінароднага Сына Твайго, Госпада Бога і Спаса нашага Ісуса Хрыста, з імі ж благаславён будзь, з Прасвятым і Добрым і Жыватварашчым Тваім Духам, ныне і прыснаа і ва векі вякоў. Аміны

## ЭПІЛОГ

Снежная роўнядзь возера і ў хмарны дзень сляпіла вочы, бо позірку не было за што зачапіцца, раўніна здавалася бясконцай, як неба: на далёкім беразе лес апушыў густы іней, а таму ўвесь свет зліўся ў застылай белі — зямля, вада, неба. Толькі на адлегласці, куды даставалі вочы, белую пустыню пераразала санная дарога, снег, укатаны палазамі, меў іншае адценне — сіняе, і на ёй, на дарозе, чарнелі кучкі конскага гною і шматкі згубленага сена.

Па возеры Дрывяты ішлі дзве жанчыны, па-панску апранутыя: у дарагіх кажухах, упрыгожаных залатым шытвом, у высокіх сабаліных шапках.

Ішлі Алена Іванаўна і Ксенія. Прагульваліся пасля снедання. Азёры заўсёды вабілі іх — і зімой, і ўлетку. Толькі ўлетку яны гулялі па беразе ці часам плавалі на чоўне. А зімой — гулялі пехатой ці ездзілі ў простых адкрытых санях, нязменным фурманам быў Янка, сын Ксеніі, які непрыкметна зрабіўся мужчынам. Ён суправаджаў іх у пешых прагулках. А калі каралеве-ўдаве і маці хацелася пагуляць удваіх — не нагаварыліся яшчэ за ўсё жыццё, з калыскі разам! — Янка даваў строгі наказ: далёка не адыходзіць, каб заўсёды знаходзіліся ў полі зроку вартавога на вежы замка. Алена Іванаўна выконвала наказ юнака.

Азірнулася: як далёка яны адышлі ад высокага берага? На пагорку паміж азёрамі Дрывяты і Навята ўзвышаўся невялікі замак. Нядаўна адноўлены па навейшых узорах, замак увогуле выглядаў прыгожа. А ў той дзень з пабеленымі інеем сценамі за чарадой расквечаных інеем вербаў ён узвышаўся як у чароўнай казцы, як незямное, а нябеснае нерукатворнае збудаванне.

— Паглядзі, Ксюта, як прыгожа!

Ксенія павярнулася.

— Калі мы ўпершыню прыехалі з Алексам сюды, гэта было гадоў дванаццаць назад, у мяне дух заняло ад прыгажосці. Я пасля сніла гэтыя азёры. І праз год ці два Аляксандр падарыў мне Браслаў. Ніводную сваю вотчыну я так не люблю! Аднак вяртаемся, а то дастанецца нам ад Янкі.

— Баішся ты гэтага ерэтыка, — здавалася, сярдзіта, а ў сапраўднасці з гонарам сказала Ксенія.

— Не баюся — люблю.

— У тым і бяда, што ўсе яго любяць, чарцяня. Дзяга па ім не хадзіла. Гэта ж трэба, каб нават табе не ўдалося навучыць яго Закону Божаму.

— Закон ён знае лепш за мяне. Але шмат якія дагматы святой царквы ён падвяргае сумненню. Прызнаюся, часам мне страшна з ім гаварыць.

— Во лайдак! Давучыўся!

— Але знаеш, Ксюта, я думаю, што з яго вырасце вялікі вучоны. І Свяшчэннае пісанне ён пазнае лепш, чым хто.

— Пазнае, калі ўжо цяпер пакаёвак ціскае.

— Дык у маці ж пайшоў.

Ксенія весела засмяялася.

— Ды ў маці. Але і ў бацьку. У законе сумняваецца, а вайну прымае. На вайну яму, дурню, хочацца. Дык баішся экзаменаваць яго ў бернардзінцаў?

— Баюся. У тутэйшым праваслаўным манастыры на Неспішы ігумен і манахі жахнуліся, паслухаўшы яго.

— Во нячыстая сіла!

— Дык нашы цярпімыя. А ханжы тыя каталіцкія сапраўды могуць паставіць на хлопцы кляймо ерэтыка. Не абмыеш пасля. А яму жыць! Я папрашу Жыгімонта ўзяць яго ў сваю ахову. Вяртаемся, Ксюта.

— Яшчэ трошкі пройдзем.

Ды раптам Ксенія ўскрыкнула спалохана, спынілася:

— О Божа! Што гэта?

— А што? — Алена Іванаўна была блізарукая і пакуль што не ўбачыла таго, што ўгледзела дальназоркая Ксенія.

— Лось. А за ім — ваўкі.

— Ваўкі?

— Бяжым хутчэй назад!

Пабеглі. Але якія яны былі бягунні ў цяжкай зімовай апратцы! Алена Іванаўна адразу задыхалася. Ксенія падхапіла яе пад руку.

Ваўкі гналі лася па цаліку, па глыбокім снезе, ныраючы ў яго галовамі. Лось таксама правальваўся па чэрава. Натуральна, што выскачыўшы на цвёрдую дарогу, пабег па ёй. Ці ўбачыўшы людзей, спадзяваўся, што яны ўратуюць?

Хутка жанчыны пачулі за спіной ласіны храп. Няма куцы больш бегчы. Спыніліся, збялелыя, павярнуліся.

Лось набліжаўся. Ваўкі даганялі яго.

Не дабегшы колькі крокаў, лось упаў на пярэднія ногі — пакланіўся людзям, прагна лізнуў сінімі губамі снег.

І ваўкі спыніліся за паўсотню крокаў. Іх было трое. Адзін сеў на дарозе, двое іншых адбеглі на бакі, як бы акружаючы лася і жанчын,

таксама зморана апусцілі ў снег разгарачаныя азадкі. Ашчэрылі зубы, высунулі чырвоныя языкі. Хапалі снег.

Алена Іванаўна ўголас чытала малітву:

— О Госпадзі! Ратуй жа! О Госпадзі, памажы нам! Ты прытулак мой і абарона мая, Бог мой, на каторага спадзяюся я!

Ксенія, да крыві кусаючы вусны, шаптала:

— Добра, што Кася кашляе, і я не ўзяла яе, так прасілася.

— Бог падказаў. Маліся.

— Няўжо нам наканавана прыняць такую смерць — ад ваўкоў? За якія грахі?

Лось так горача дыхаў, што растапіў да лёду ўтрамбаваны снег. Вочы яго, напачатку чырвоныя, святлелі, пэўна, ён паверыў у сваё ўратаванне.

— Баязлівец ты, Лосік, як мы, грэшныя. Адным ударам капыта ты забіў бы любога з гэтых драпежнікаў. А ты спадзяешся на бездапаможных удоў.

Але тое, што важак, які застаўся на дарозе, не кранаўся з месца і як бы не выяўляў агрэсіўнасці, узбадзёрыла трохі жанчын. Нядобра скуголіў воўк злева ад іх і павольна поўз па снезе.

— Ваўчыца, — заключыла Ксенія. — Ад голаду скуголіць. У другі раз мы возьмем з сабой арбалет.

— Ці будзе ён, другі раз?

— Я скіну бот і буду біць іх ботам.

— Маліся, Ксюта.

— Малітвы вылецелі з галавы. Я аддам ім сябе, няхай з'ядуць. А ты, мая княгіня, жыві.

— Не мялі глупства. У цябе дзеці.

— Яны хоць костачкі пакінуць? Ці ўсё згрызуць? Што для іх смачней — лось ці чалавек? Які з нас наедак! Хоць мае сцёгны нішто, мяккія.

— О Божа! Ксенія! Маліся!

— Малюся, малюся.

Не помнілі, колькі часу яны гэтак прастаялі перад галоднымі ваўкамі. Ажно пакуль не ўбачыў незвычайную карціну на возеры вартавы на вежы замка. Стрэліў з пішчалі, узняў трывогу. Янка ўскочыў на каня і ляцеў што ёсць моцы ратаваць маці і каралеву-ўдаву. За ім — цэлы атрад ахоўнікаў, конна і пешшу.

Угледзеўшы людзей, ваўкі ў адзін голас завылі — ад расчаравання, павярнуліся і не вельмі спешным трухам пабеглі да бліжэйшага берага.

Янка, стройны юнак, без шапкі, у адной кацавейцы, саскочыў з неасядланага каня.

— О Божа! Навошта я вас адпусціў?

— Чула, Алена Іванаўна, які пан у нас? Ён нас адпусціў!

— Спалохаліся?

— Мы? Хіба ж мы такія баязліўцы, як мужчыны? Каралеву ваўкі не сталі б есці — грэх. А мяне... панюхалі б і плюнулі б.

— Мама! Ты яшчэ жартуеш! — І да Алены: — О мая гасударыня! Ты наракаеш на мяне. А ў каго я вучуся, як не ў маці? Найвялікшая блюзнерка мая маці.

— Я табе, парася, дома вушы надзяру. Перад людзьмі сароміць не хачу.

Ад яго маці ўсяго можна чакаць, і Янка адкараскаўся ад яе, сказаў Алене Іванаўне:

— Яснавяльможная каралева, я пашлю чалавека, каб прыгнаў вазок.

— Не, не, мы пойдзем пехатой.

— У мяне, праўда, каленкі калоцяцца, але нічога, дойдзем. Астудзім адвагу сваю. Каб ты ведаў, як мы наліваліся ёй — як добрым вiном, — дадала Ксенія.

Тут і Алена Іванаўна не вытрымала — засмяялася.

Лось ішоў за людзьмі.

Мінаў сёмы год, як Алена аўдавела.

Кароль Жыгімонт і панства ў Каралеўстве польскім і Вялікім княстве Літоўскім адносіліся да яе з павагай, нават у афіцыйных паперах двароў і пасольстваў называлі каралевай-удавой.

Але Алена Іванаўна разумела і адчувала, што гэта робленая, няшчырая павага, хутчэй да багацця яе, а не да самой. Не грэлі яе праявы пашаны. Не спакушалі яе дварцовыя балі, заляцанні паноў да маладой прыгожай удавы. Жыла пустэльніцай у Вільні. Таму і папрасіла Ксенію, пасля смерці маці яе Марфы, перабрацца з дзяцьмі і быць заўсёды з ёй. Ксенія ахвотна згадзілася, перадаўшы маёнтак, які добра расшырыўся, на апеку дзеверу свайму.

У Вільні, дзе ўсё нагадвала мужа і дзе пасля яго смерці шмат што рабілася не так, як зрабілі б яны з Аляксандрам, ёй было асабліва няўтульна. А таму і ўлетку, і зімой большая частка яе жыцця праходзіла ў Браславе. Тут яшчэ пры жыцці вялікага князя яны перабудавалі старажытны запушчаны замак. Тут, ужо пасля смерці яго, яна заснавала жаночы манастыр, побач з замкам, і ўтрымлівала на свае сродкі. Малілася ў ім. Але пастрыгчыся ў манахіні жадання не мела. Хацелася яшчэ жыць, няхай і ў адзіноце, поўным вольным

жыццём. Жыццялюбства — вызначальная рыса яе характару. Жыць і памагаць людзям!

Брат яе вялікі князь маскоўскі Васіль слаў Алене тайныя пасланні: запрашаў пераехаць у Маскву. Але як пераехаць? Паспрабавала забраць скарбы свае з манастыра францысканцаў, дзе захоўвала (не ў банкіраў жа немцаў і яўрэяў захоўваць золата, серабро, рубіны, ізумруды, алмазы, кошт якіх, па пазнейшаму падліку, раўняўся васьмі гадавым даходам польскага казначэйства!), — не аддалі. Дай згоду караля! Адчула, што аблажылі яе. Абразілася. І ад крыўды гатова была паехаць у Маскву без скарбаў. Не шкадавала іх. Але трапна сказала Ксенія: «Такія скарбы — чорту лысаму?!» А маёнткі, гарады? Таксама чорту лысаму?

Васіль нават прыслаў план яе пераезду. Бранск зноў захапілі літоўцы. Кароль Жыгімонт, выконваючы запавет брата, падарыў горад каралеве-ўдаве. Жыгімонт быў шчодры, што датычыць памежных земляў і гарадоў, мабыць, лічыў, што, калі яны будуць належаць Алене, Васіль не стане іх ваяваць.

Васіль прапаноўваў сястры прыехаць у свой горад, а ён накіруе туды атрад войска і забярэ яе.

Атрад ён паслаў, але Алена не паехала: не да твару вялікай княгіні такая перабежка! Ды і кім яна будзе ў Маскве? Беднай нахлебніцай? Але самае страшнае, што з-за яе зноў будзе ліцца кроў. Не! Паміраць ёй у Айчыне сваёй — княстве Літоўскім. Яно ж рускае на дзве трэці! І кароль Жыгімонт паблажліва ставіцца да веры яе. Ніхто больш нават і не спрабуе ўгаварыць яе прыняць рымскую веру. Супакоіліся. Цяпер ворагі праваслаў'я — не польскія паны, не перастарэлы Табар, а мітрапаліт Кіеўскі Іосіф, што быў епіскапам Віленскім: гоніць людзей на злучэнне грэчаскага і рымскага законаў! Во хто не баіцца Бога!

Такі быў строй Аленіных думак, бясконцых, нялёгкіх, але ўжо бадай не трывожных, не пакутлівых — звычайных, якія бываюць у чалавека з немалымі клопатамі і неабыякавым стаўленнем да жыцця, да людзей, да ўсіх спраў зямных. А яе думкі мелі дачыненне не толькі да ўласнага лёсу, да жыцця нямногіх людзей, манастыра. Яны сягалі на дзве вялікія дзяржавы. Яны зноў ваюць паміж сабой. Брат яе не менш задзірысты і сквапны, чым бацька. І Жыгімонт. З-за таго, што людзі забіваюць адзін аднаго, у яе моцна балела сэрца. Як спыніць гэтае кровапраліцце? Цяпер ад яе мала што залежыць, на жаль.

Дзён праз колькі пасля здарэння на возеры да Алены, не вельмі па этыкеце, ускочыў Янка.

— Яснавяльможная пані каралева! Да нас госці!

— Якія? Дзе?

— На Дрывятах на вярсту поезд экіпажаў і коннікаў.

Яна глянула ў акно, з якога адкрываўся ўвесь прастор

заснежанага возера, і ўбачыла, што сапраўды едуць высокія госці, на вярсту не на вярсту, але экіпажы шыкоўныя і ахова немалая.

Здзівілася, бо нікога не чакала і нікога не жадала бачыць.

Прыехалі ваявода віленскі Мікалай Радзівіл і Кашталян ордэна францысканцаў Ян Камароўскі. Выказалі і выдалі ўсе знакі пашаны: словы, паклоны, дары.

Алена таксама мусіла прымаць іх па-каралеўску. Пасля перад камінам, у якім горача палалі бярозавыя кругвякі, гутарылі больш проста, аднак не пераходзячы межы этыкету. Гаспадыні карцела спытаць, якія клопаты занеслі шаноўных гасцей у такую далеч. Але не спытала — чакала, што скажуць самі.

— Нядаўна я быў у Кракаве. Кароль Жыгімонт шле каралеве нізкі паклон і пажаданне здароў'я і шчаслівага жыцця, — сказаў Радзівіл.

«З-за гэтага ты, такі пан з задышкай, ехаў у Браслаў?» — скептычна падумала Алена.

— А я прывёз яснавяльможнай каралеве прыемную навіну, — бадай радасна паведаміў Камароўскі. — Кароль Жыгімонт прыслаў мне паперу, у якой дазваляе выдаць вашай міласці трынаццатую частку скарбаў.

Алену перасмыкнула, ажно выступілі на шчоках ліловыя плямы. Ад агню каміна? Не, ад абурэння, што яна не гаспадыня свайго багацця і мусіла прыніжана прасіць караля аддаць яе скарбы. Гэта яе даўно абражала і абурала. Аднак з-за гэтага Кашталян мог ехаць у дальнюю дарогу ад радасці, што кароль загадаў вярнуць не ўсе скарбы, а толькі невялікую частку іх.

— Я дзякую яго вялікасці майму горача любімаму дзеверу за яго дабрыню. Аднак я даўно заўважыла, што кароль не любіць круглыя лічбы. Чаму не дзесятую, не дваццатую частку? Як адлічыць трынаццатую? Многа клопату.

— О, мы адлічым! — запэўніў Камароўскі сур'ёзна і паважліва.

А хітры і разумны Радзівіл угледзеў, што каралева-ўдава кіпіць; ён ведаў, наколькі яна бывае вострая на язык, бескампрамісная, і баяўся, каб не парушыла высокі і афіцыйны стыль размовы.

А яна заводзіла сябе:

— Вы падлічылі ўсе мае брыльянты? Мы ж з табой, Кашталян, апячаталі іх, усе шаснаццаць куфраў. І кошт іх я вызначала сама.

Збянтэжыўся ахоўнік скарбаў.

— Каралеўскія пячаткі ніхто не здымаў. Каштоўнасці захоўваюцца надзейна.

Ды Алена па вачах яго бачыла, што здымалі пячаткі святыя разбойнікі і ўсё лічылі, і напаўнялася гневам. Радзівіл угледзеў, як мяняўся яе настрой.

— Я сама вылічу частку, дазволеную каралём. Я прышлю святым францысканцам пералік, што хачу атрымаць з скарбаў маіх.

Радзівіл паспрабаваў адвесці размову ўбок ад небяспечнай тэмы.

— Перад ад'ездам я наведаў нашага старога кардынала. Ён шле каралеве сваё блаславенне.

— Табар?

Прамахнуўся Радзівіл. Не ўлагодзіла святое блаславенне ўдаву. На Алену ад блаславення такога патыхнула холадам магільнага склепа. Ведаючы, як Табар выступіў у Радаме супраць Аляксандра, давёў яго да паралічу, яна ненавідзела гэтага чалавека, якога з першай сустрэчы неўзлюбіла. Але адно не любіць, іншае — ненавідзець. Добрая, верная запавету ўсёдаравання, яна глушыла гэтае нядобрае пачуццё, і з гадамі нянавісць перарасла ў... боязь. Яна баялася кардынала. Паўгода назад убачыла яго ў час прыезду караля. Кардынала, сівога не да снежнай белізны — да нядобрай шэрасці, служкі вялі пад рукі. Ён кінуў на яе гнеўны позірк, бо яна і не падумала пацалаваць яго руку, як іншыя пані-каталічкі. І тады яна спалохалася, тады ўпершыню падумала — няхай даруе ёй Бог! — што ў чалавеку гэтым, што так доўга ўяўляў сябе служкай Госпада Бога, ёсць штосьці сатанінскае.

Яна не падзякавала за блаславенне. Яна спытала са схаванай уедлівасцю:

— Кардынал яшчэ сам ходзіць? Ці яго носяць?

Радзівіл пасміхнуўся. А Кашталян налажыў на сябе крыж — спалохаўся яе святатацтва.

Тады яна сказала тое, што няспынна думала, але пра што казала хіба Ксеніі:

— Войцэх Табар забіў майго мужа, вялікага князя Аляксандра.

Камароўскі ледзьве не самлеў. А князь, хітры дыпламат, тут жа скіраваў размову ў зусім іншае рэчышча:

— Ёсць самая галоўная мэта нашага візіту да яснавяльможнай пані каралевы. Паны рады даручылі мне прасіць каралеву быць пасрэдніцай у перамовах Літвы з вялікім князем маскоўскім Васілём Іванавічам, тваім братам. Гэтак жа, як была некалі вялікая княгіня пасрэдніцай у перамовах з бацькам сваім. Літва жадае міру. Ды і Масква, здаецца, стамілася ад вайны.

Просьба ўзрушыла Алену, бо гэта сапраўды было самае сур'ёзнае, што вымушала яе зусім па-іншаму паставіцца да візіцёраў, калі ў іх такая высакародная місія. Дзеля таго, каб не лілася кроў людская, кроў аднаверцаў, яна гатова на ўсё — жыццё сваё аддаць.

У хваляванні паднялася з крэсла. Гжэчныя паны таксама падхапіліся, у напружанасці чакалі, што яна адкажа.

Спынілася перад Радзівілам:

— Князь! Перадай, што я гатова зрабіць усё, каб спыніць вайну. Я сёння ж напішу Васілю просьбу прыняць нашых высокіх паслоў ці прыслаць сваіх. Я буду маліць брата.

— Паны будуць дзякаваць яснавяльможнай...

— Няма за што. Літва — мая айчына.

На абедзе да спраў не вярталіся, вялі свецкую размову. Госці перадавалі віленскія і кракаўскія навіны — хто ажаніўся, хто разбагацеў, хто разарыўся. Алена расказала пра пазаўчарашняе здарэнне на возеры. Здзівіла. Камароўскі шчыра ўсклікнуў:

— Бог асцерагае каралеву!

Алена здзівілася, што госці па абедзе наважыліся ехаць далей — на Полацк.

— Не даедзеце ж. Дзень кароткі.

— Паначуем. — Але не ўдакладнілі, дзе будуць начаваць.

Алена гасцінна запрашала начаваць у яе:

— Хіба ў мяне цесна? Ці аўса вашым коням няма?

Не, паехалі.

— То — і Бог з імі, — сказала Ксенія.

Мінула два дні. Абедалі вузкім колам, па-сямейнаму: Алена, Ксенія, Янка, Кася, начальнік аховы баярын Прыгодзіч.

Пасля абеду Алена Іванаўна паскардзілася, што ў яе кружыцца галава.

— Не дзіва. Глядзі, якая завіруха на дварэ.

— Я паляжу.

— Паспі. Я таксама пайду падрамлю. Адна радасць у гаротных удоў — сон. Калі ён ёсць.

Калі гадзіны праз дзве Ксенія ўвайшла ў спачывальню, вялікая княгіня Алена Іванаўна ўжо астыла.

Скончыла зямны шлях на трыццаць сёмым годзе жыцця.

Цікавы ліст Літоўскай каралеўскай рады кіеўскаму мітрапаліту Іосіфу, таму, што насаджаў уніяцтва. Так у арыгінале — амаль па-беларуску: «Поведаем твоей милости, што ж за воли милого Бога, тыми разы господарыни нашае королевое ее милости в живот не стало, Бог душу ее с сего света взял, што ж есть всех нас жалость

подданных господарьских, а ведь же то есть у воли милого Бога: на тое его святое милости воли будет, тому ся нихто отняти не можа».

Але не тэкстам цікавае пісьмо гэтае. Датай: «Писан у Вильни. Генваря в 25 день».

Алена Іванаўна памерла 24 студзеня па абедзе. Хутка ж ганцы па зімовай дарозе даскакалі ад Браслава да Вільні! Аператыўна паны рады сачынілі пісьмо.

Дабрадзей яе Жыгімонт, які апякаў удаву, напісаў кракаўскаму біскупу: «Гэтым дзяржаве нашай нямала паменшала клопату».

А праз многа гадоў стары Ян Камароўскі занатуе ў хроніцы, што Алену атруціў яе ключнік па загадзе Радзівіла, які меў жаданне прыгарнуць каштоўнасці былой каралевы.

Ды атрымала ўсе скарбы каралева Барбара. Ці на дабро спажыла?

Амін.

# Бумеранг
## *Аповесць*

I

Ліфт замёр.

«Замірае жыццё, — сумна падумаў Іван Мацвеевіч, «узнімаючыся ў космас цягай уласнай ракеты». — А яна старая, і паліва ў ёй не тое — сухі парашок, з пясочкам... А пясочак высыпаецца».

Ён жартаваў. Але жарты, па-музыкальнаму кажучы, былі мінорныя. Заўважыў гэта таварыш па прагулках у парку адстаўны генерал Кудра, так, між іншым, і сказаў: «Нешта вы, Жыгуновіч, мінорны сёння». Прывыклі пенсіянеры, што ён заўсёды быў мажорны, залішне мажорны — гаварун, рагатун. І старыя любілі яго за гэта, ён развейваў іх невясёлыя думкі — аб развале дзяржавы, за якую ўсе яны ваявалі, якую будавалі, аб збядненні сваім і народным, аб блізкім фінале, які сам па сабе не страшыў, страшыла — хто, як, за якія сродкі пахавае іх.

У Івана Мацвеевіча думкі пра фінал узнікалі хіба ў бяссонныя ночы, але ён умеў надаць ім гумарыстычнае адценне, казаў сабе: «Я бессмяротны». Не толькі сабе — блізкім сваім. Зяця гэта цешыла, ён рагатаў, жонку злавала.

«Блазен ты, а не бессмяротны», — казала Таццяна, бадай, некарэктна, з яўным намёкам на тое, што не стаў ён ні вядомым матэматыкам, ні мастаком, хаця б сярэднім. Разьбяр-самавучка. Пенсіянерам пра бяссмерце не казаў — не зразумеюць, чаго добрага прыйдуць да заключэння: «А ў Вані нашага шарыкі не ў той бок закруціліся».

Старыя выносяць прысуд хутка і бескампрамісна, і пераканаць іх пасля немагчыма, сваёй думкі кожны з іх трымаецца з казлінай упартасцю.

Мажор у яго з'явіўся, калі ўбачылі, што на ўзгорку каля планетарыя начны вецер зламаў старую ліпу. Таварышы яго па прагулцы пабедавалі, што зламалася такое дрэва, яшчэ не дуплістае нават. Пабедавалі, бадай, прытворна: змагацца за прыроду зрабілася модай. Дрэва было шкада. Але парадаваў высокі пень — колькі круглякоў! Колькі матэрыялу для яго і вучняў! Разьбяр, скульптар, жывапісец са школьных гадоў, ён яшчэ да таго, як выпіхнулі з матэматыкі, упрыгожваў парк, скверы скульптурамі міфічных герояў, рэальных і казачных звяроў. Майстэрні не было, грошай на нарыхтоўкі не меў,

рабіў пад адкрытым небам, выпрошваючы круглякі спілаваных дрэў у зеленгасе. Праца яго прыцягвала дзяцей, падлеткаў, тыя, каго цягнула да мастацтва, рабіліся яго вучнямі і памочнікамі.

У тыя гады, якія клянуць зараз былыя галоўныя рэдактары партыйных Газет, гарадскі савет ацаніў яго бескарысную працу. І добра памагаў. Не было праблемы з нарыхтоўкамі, з інструментамі, сам намеснік старшыні гарсавета прывёз яму са Швецыі набор адмысловых разцоў. Бадай узаконілі яго «паркавую студыю» — заахвочвалі дзяцей, і яму час ад часу выпісвалі нейкія прэміяльныя, якія ён траціў на «студыю».

Цяпер усё рушылася. Нікому няма ніякай справы да самадзейнага мастака, прафесіяналы галадаюць, майстэрні не могуць аплаціць. Прывезці бервяно — дзве яго пенсіі.

«Шукайце спонсараў», — сказаў туз, які ўстанову сваю не называе саветам (савет народных дэпутатаў!) — мэрыяй, хоць афіцыйна назву не мянялі. Прадаюць усё, помнікі Леніна прадаюць, назвы не ўсе яшчэ прадалі, пэўна, фантазіі не хапае.

Здзекаваўся туз. Якія спонсары? Якому нуварышу да паркавых скульптур і ўвогуле да мастацтва? У іх адзін ідэал — долар, за долар кожны з іх у царкве пердне, а за сотню доляраў — бацьку роднага прадасць.

Спяшаўся Іван Мацвеевіч дадому. Дзе не трэба, «мэрыі» праяўляюць незвычайную аператыўнасць. Калі дровы былі два сорак кубаметр, ліпа гэтая зламаная ляжала б да веснавой генеральнай уборкі парку ці наогул пакуль не згніла б. А цяпер... учора прачытаў: тона брыкету — сто дзесяць тысяч. А катэджы вакол горада растуць, што грыбы. Дык чаму гаспадару катэджа не прывезці дармавыя дровы? Яшчэ і за ачыстку парку сабе выпіша; цяпер умеюць з усяго рабіць грошы, не толькі з працы — са становішча, з крэсла, у якім сядзіць дзеяч.

Рыўком набраў хуткасць — «другую касмічную» і на трэцім паверсе адчуў, што «рэактыўны рухавік» яго захлынаецца. Нявесела пажартаваў: «Ракеты з такім захліпам узрываюць... Добра, што Таня не ўбачыла, якую хуткасць ты набраў. Яна цябе затармазіла б. Ох, як яна ўмее тармазіць, мая бабуля». А ўвогуле падумаў сур'ёзна: «Такія пад'ёмы ў твае гады трэба разлічваць, матэматык. Рабіў жа некалькі разлікі непамерна больш складаныя».

Пастаяў і праз колькі мінут парадаваўся, што сунялася аддышка, спіхнуў звон у вушах. Палічыў пульс — нічога: абароты не намнога вышэйшыя.

«Ды ты ж спартсмен, Іван. Марафон не выцягну, а кіламетроўку ўзяў бы. Трэба пажартаваць Таццяне, што плануецца забег пенсіянераў і я даў згоду ўдзельнічаць. Во ўзніме гвалт. Не, Таню нельга лішні раз «заводзіць», хапае ёй эмоцый. Во каб зяця варухнуць... Але гэты — чыгунны».

Успомні лесуна — і ён тут як тут. Ляпнулі дзверы яго кватэры, кожныя дзверы маюць сваю «музыку». Шпарка і звонка застукалі на ўсходцах абцасы. І гэтыя крокі ён пазнаў — ён, яго любімы зяць; стук яго чаравікаў асаблівы: нізкі, ён дапаўняў свой рост высокімі, як у жанчын сярэдняга веку, абцасамі, а паколькі высокія абцасы хутка збіваліся — на іх набіваліся падковы, цяпер у яго, багача, падковы медныя, бліщчаць, што залатыя. Іван Мацвеевіч неяк высмеяў гэтую «навінку», і яны пакрыўдзіліся — і зяць, і дачка. Таня ўпікала з болем і крыўдай:

— Прасіла ж цябе — не чапай ты іх.

Ён абураўся.

— Ды вы што — забранзавелі? З вамі пажартаваць нельга. Добра, надалей гаварыць з вамі буду па шпаргалцы.

— Калі ты перастанеш блазнаваць?

— Аніколі. Я і з труны буду падміргваць дзеўкам. Не табе. Ты спалохаешся.

— Старое брахала.

— Брахала — гэта высокая атэстацыя. А вось старое — гэта абраза, май на ўвазе — не дарую.

Жонка засмяялася. Жонка яго — сама мудрасць, але часта дзеянні і словы яе цяжка прадказаць, пад старасць, праўда, радзей, чым у маладосці. Але Таццяна не старая — на пяць гадоў маладзейшая, і самае выдатнае ў ёй, што і сама яна ў семдзесят не лічыць сябе старой, часам яму здаецца, што трыццацігадовая дачка яго Насця, прагматычка, чысты матэматык — без паэзіі, старэйшая за маці.

Паўлік каціўся па ўсходцах — круглячок у моднай куртцы, з шапкай густых ускудлачаных... не, модна завітых бялявых валасоў. Мабыць, і валасы ён знарок узбіваў, каб «падрасці».

Свістаў вясёлую мелодыю і круціў на пальцы ключы ад «вольва».

Убачыў цесця — не сумеўся, спыніўся на верхняй пляцоўцы — над галавой у старога. Не бачыліся сёння, але не павітаўся. Сказаў:

— Рана вы сёння з прагулкі.

— У парку зламала ліпу.

— І што?

— Як што? Добры пень. І круглякоў можна напілаваць. Ліпу лёгка рэзаць.

Павел засмяяўся.

— Здзіўляеце вы мяне, бацька. Вы лепш свой аўтапартрэт выразалі б. З граніту ці з мармуру.

— Практычны ты хлопец, Паўлік. Калі я сам сябе зваяю, вам не трэба будзе траціцца на помнік надмагільны — гатовы атрымаецца.

Зяць пачырванеў, поўны твар яго на міг як бы схуднеў, выцягнуўся.

— Як вы думаеце пра нас, Іван Мацвеевіч. Каб Насця пачула...

— Я добра думаю пра вас, Паўлік. Вельмі добра. А калі крытыкую, то толькі дзеля таго, каб лепшыя рабіліся.

Павел засмяяўся і асцярожна, не стукаючы абцасамі, прайшоў міма старога.

— Падмога не трэба — рабіць нарыхтоўкі?

— Ёсць у мяне памочнікі.

— Поспехаў...

Іван Мацвеевіч агледзеў яго са спіны, шырокай, што печ, і звярнуў увагу на чаравікі, падковаў на абцасах не было: не эканоміць больш, пабагацеў.

Ён думаў пра зяця хораша, бадай ганарыўся ім. Раней. Калі Павел рабіў у інстытуце эканомікі. А калі ён перайшоў кансультантам у нейкую беларуска-нямецкую фірму, градусы павагі ўпалі, можа, не да нуля яшчэ, але нізкавата... Не любіў тых, хто гоніцца за доўгім рублём. Раней за Паўлам не заўважаў гэтага — навуковы супрацоўнік, як усе. Насцярожыла трохі, калі зяць гады тры таму прапанаваў яму наладзіць камерцыю: Іван Мацвеевіч будзе з вучнямі выразаць фігуры нацыянальнай міфалогіі, звяроў, а ён, эканаміст, арганізуе збыт. Тацяна весела пасмяялася з ідэі зяця, прыняўшы яе за жарт. Ды і сам ён палічыў тады, што зяць жартуе — гумарыст, ад цесця навучыўся.

Увогуле ў іх вясёлая сям'я; калі яшчэ прыязджала старэйшая дачка Алена з дачкой Жаннай, смех у доме не сціхаў.

Не, не жартаваў Павел, сядзелі ў яго бацылы прыватніцкія, жаданне разбагацець. Што ж, не ён адзін; сацыялізм пахавалі, пнемся ў капіталізм, натужліва пнемся, непрыгожа да дзікунства — ажно смуроду нарабілі. Сумленных прадпрымальнікаў Іван Мацвеевіч гатовы прыняць, тых, што дзейнічаюць па хрысціянскім запавеце: не ўкрадзі, не ашукай і, безумоўна, не забі. Цяжка сказаць, што ў Швецыі — ліберальны капіталізм ці дэмакратычны сацыялізм.

Але нашы нуварышы — што з ланцуга сарваліся, глядзі, пакусаюць людзей. І кусаюць. Вялікія грошы нікога з іх не робяць лепшым. Усе жывуць толькі грашыма. Гіне навука, культура...

Вось і зяць яго. Шчодры хлопец быў, выпіць умеў і яго, старога, спакушаў, супраць чаго Таццяна і Насця ваявалі. Зарабляе, безумоўна, нямала, не кажа толькі, але, глядзі, пенсій пяць, калі не дзесяць яго, ветэрана вайны. Але ад заробкаў яго дабрабыт сям'і не намнога вырас: па-ранейшаму аснова сямейнага бюджэта — яго і жончына пенсія, яны нічога не купляюць з рэчаў, усё — на ежу, а на кацёл Таццяна не скупіцца. Павел і Насця не шкадуюць якраз на рэчы — для сябе.

А калі для бацькоў — да анекдота дайшло. Рыхтаваліся да яго юбілею — семдзесят пяць нашчоўкаў спідометр. Перад юбілеем зяць паказаў яму адмысловую пляшку з кан'яком, італьянскім ці іспанскім.

«Во што я маю».

Наіўны стары падумаў, што гэта падарунак яму, зяць не стрымаўся — прынёс загадзя. Ухваліў:

— Гарнае пітво. Пакаштуем. Такога я яшчэ не піў. Дзёгаць і той піў, лячыўся ім.

Праз год пасля інфаркту ён тайком ад Таццяны куляў чарачку, толькі дарагое купіць не мог, бо ніколі не таіў ад жонкі грошы. Ды раней на ўсё хапала, грошы лічылі збольшага, трата на пляшку каньяку праходзіла незаўважна — дробязь.

Павел паказаў бутэльку і панёс у свой пакой. Што ж, лагічна: падорыць у дзень юбілею, не за тыдзень жа. Але калі сабраліся госці, зяць падарыў яму... Біблію. Выданне нямецкіх евангелістаў. Усе ўхвалілі падарунак. Іван Мацвеевіч таксама ўзрадаваўся: што той каньяк — выпіў і няма, а гэта — вечная кніга. Праўда, каш пасля вячэры разглядаў кнігу на дзівосна тонкай, як цыгарэтнай, паперы, якая, аднак, не прасвечвалася, непрыемна кальнула папярэджанне выдаўцоў на адвароце супервокладкі: «Издание не предназначается для продажи».

Не патрацiўся Паўлік на падарунак — падарыў падоранае. Але адагнаў гэтую думку, супакоіў сябе развагай:

«Нашы ўсё могуць прадаць. Самога пана Езуса прададуць».

Жонка таксама спытала, але з трывогай:

— Чаму так рана сёння? Добрая ж пагода.

— Ліпу зламала.

Таццяна ведала ўсе самыя таемныя хады яго думак і абурылася:

— Іван! Табе не здаецца, што ты дзяцінееш?

— О, каб я стаў, як Ігар ці Валодзя! Яны ж мудрацы. Філосафы. І мастакі. Я зраблю іх мастакамі.

— Яны мудрацы, бо яны дзеці. А ты... стары склеротык. Я чуць не самлела, калі ўбачыла цябе на хісткіх рыштаваннях са стамескай.

Зявак натоўп сабраўся. Душу раздзіралі каментарыі некаторых. Смяяліся людзі.

— Дурняў не сеюць, яны самі вырастаюць, як пустазелле. Я ганебнае што рабіў, калі на пні выразаў цэлую казку? Можа, і каментатары твае іншае гаварылі. Тады ты не схадзіла паслухаць...

— Звалішся калі-небудзь. Памочнікі твае драбіны гэтыя на саплях гародзяць.

— Звалюся — паднімуся.

— Косці паламаеш...

— Паламаю — склеяць. Навучыліся клеіць.

У Івана Мацвеевіча быў вясёлы гуллівы настрой. Таццяну такі яго настрой часта забаўляў, але нярэдка злаваў. У той міг находзіш, што лёгкія хвалі, і весялосць, і абурэнне. Гэта была гульня, якая неаднойчы забаўляла зяця.

— Такое стар'ё не клеіцца.

— Э-э, маладзіца! Пагана ты думаеш пра мае косці.

— Я пра сваё думаю. Нахадзілася ў бальніцу.

На Івана нахлынула замілаванне і ўдзячнасць: калі ляжаў з інфарктам, жонка, лічы, днявала і начавала ў бальніцы, па два, тры разы на дзень прыходзіла; каб быць жаданай госцяй для медперсаналу, падлогу ў палаце мыла, сёстрам памагала, атрымала ж ва універсітэце дыплом сястры і мела практыку: усіх сваіх і суседзяў лячыла — уколы рабіла, банькі, гарчычнікі ставіла, у леках разбіралася.

— Не заводзься, Таня. Мяне не перавыхаваеш.

— Во гэта ты праўду сказаў. Хіба такога старога казла пераробіш!

— Ай, ай! Як ты мяне не хрысціш! Брахло, казёл... Але май на ўвазе, найбольшая абраза — стары.

— Маладзіся, маладзіся.

— На мяне яшчэ дзяўчаты заглядваюцца.

— Шкада, што ты не здагадваешся, што яны думаюць пры гэтым. Якімі высокімі эпітэтамі ўзнагароджваюць цябе і тваіх старпёраў.

— Ну і ну! Ты ведаеш, за што я цябе пакахаў сто гадоў назад? Ты была эстэтка. Ты любіла прыгожае. Па-мойму, цябе сапсаваў тэлевізар. Во зараза! Мала што псуе дзяцей, дык яшчэ і бабуль.

Іван Мацвеевіч зняў плашч, разуўся — ніколі на дываны не ступаў у чаравіках, хоць даўно іранічнымі падколкамі прымусіў Насцю і зяця забраць у маці гэты абавязак — уборку. Стаяў у калідоры над тэлефонам, рабіў выгляд, што не адважваецца пры жонцы пазваніць,

хоць яму і не цярпелася, але няхай Таццяна расходуе саркастычны зарад. І яна выпаліла порах. Сказала паблажліва:

— Звані, звані, а то самлееш.

Спешна, ажно пальцы калаціліся, набраў нумар. Ветліва павітаўся, бо пазнаў голас сястры свайго юнага сябра.

— Мне. Валодзю, калі ласка.

— Валодзя! Твой Радэн! — загарланіла чортава дзяўчо на ўвесь Мінск, сораму не мае, добра, што Таццяна адышла, магла б пачуць. Ці гэта ўсе яны, жанчыны, такія ўедлівыя — старыя і маладыя? Радэн. Так яшчэ ніхто не іранізаваў, Бембелем называлі.

— Валодзя! Прывет. Урокі вывучыў? Добра. У парку ліпу зламала. Такую ліпу! Пашкадаваць трэба. Але мы парадуемся. Знаеш, які матэрыял! Пень на тры метры! І круглякоў напілім. Пакліч, хто там да цябе бліжэй. Пілу я вазьму. І сякеру.

Усцягнуў стары спартыўны касцюм. Пачаў на кухні вастрыць пілу.

Таццяна Хведараўна больш не іранізавала. Але піск напільніка яе раздражняў, і яна зачынілася ў спальні, спагадліва падумаўшы: «Няхай цешыцца стары. Гэта яго трымае, як мяне магазіны і кухня. Без працы мы занудзіліся б».

Зазваніў тэлефон міжгародні сігналам. І хоць ён быў бліжэй, першая дабегла да апарата Таццяна.

— Алё, алё! Жанначка! Цалую цябе, дзіцятка. Ты плачаш? Жанна! Што здарылася? Што здарылася? Супакойся, родная мая. Я слухаю, я слухаю, Жанначка.

Моўчкі бабуля слухала ўнучку з далёкай Масквы, цяпер далёкай. Іван Мацвеевіч стаяў побач з жонкай, жадаючы пачуць, што гаворыць Жанна. Не чуў. Але трывога нарастала, што снежны ком, — ад выразу Таццянінага твару. Хіба бываюць цяпер радасныя навіны? Жывеш у чаканні бяды. Усё ж развальваецца. Дзяржава... Эканоміка... Сем'і. Унучка — гаротніца, не сірата, а засталася без бацькі, без брата.

— Жанначка! Не панікуй. Усё будзе добра, усё будзе добра. Цалуй маму. Мы прыедзем. Мы сёння ж выедзем.

Таццяна, скончыўшы размову, застыла з трубкай, якая гучна, як трывогу, падавала сігнал «занята».

Іван Мацвеевіч маўчаў — баяўся спытаць, што здарылася, бо снежны ком набліжаўся, і стары адчуваў, што ён вось-вось абрынецца на яго, зваліць, раздушыць.

Спытаў асцярожна — аб тым, з-за каго Таццяніна душа даўно перабалела:

— Штось з Айзенбергам?

— О Божа! Знайшоў за каго перажываць! Лена ў бальніцы!

— І такая трагедыя? Усе мы былі ў бальніцах. Я — разоў пятнаццаць, можа, за сваё жыццё.

— Яна — у радыялогіі. У інстытуце.

Вось ён, ком, не зваліў, але ўдарыў моцна — у сэрца, у галаву.

— Няшчаснае дзіця наша. Не дзіва і захварэць, столькі перажыўшы. З-за Айзенберга твайго, з якім ты цалаваўся.

— Не заводзься, калі ласка. Адрэзала гэты Ломаць — і забудзь.

— Не забываецца. Каб ён Ваню не забраў, то лёгка выкінула б з памяці. А так...

Леанід Айзенберг — Алёнін муж, бацька яе дзяцей, іх унукаў — Жанны і Вані. Калі дваццаць гадоў таму дачка іх, студэнтка гісторыка-архіўнага інстытута, прывезла ім з Масквы свайго жаніха, Таццяна моцна засмуцілася і ўзбунтавалася. Сказала мужу:

«Ты як хочаш, а я буду адгаворваць Лену. Не трэба ёй такі муж! Не трэба мне такі зяць!»

Моцна пасварыліся. Перакананы інтэрнацыяналіст, Іван Мацвеевіч крычаў на жонку: «Ты расістка!» — «Называй хоць фашысткай. А я хачу, каб унукі мае былі беларусы». — «Нацыяналістка замшэлая. Ты на дзвесце гадоў адстала ад прагрэсу. Колькі цяпер змешаных шлюбаў! Якая розніца, хто ён — яўрэй, кітаец, грузін. Быў бы чалавек!» — «А ты за дзень пазнаў, які ён чалавек?» — «Пазнаў».

Леанід яму спадабаўся: вясёлы, дасціпны, гумарыст, але не пусты — эрудыт, гісторыю што семачкі лузгае і шалупінне выплёўвае. Іван Мацвеевіч, сам у той час выкладчык матэматыкі ва універсітэце, любіў студэнтаў, якія вось так угрызаліся ў навуку. Але матэматыка не дае такога дыяпазону ведаў, як гісторыя, якая, што губка, усмоктвае дзесятак і гумарыстычных, і дакладных навук.

Пасля сваркі з мужам у Таццяны Хведараўны хапіла духу хіба на адно — спытаць у дачкі: «Скажы, Леначка, кахаеш ты яго?» — «Кахаю, мамачка. Мы больш года дружым. Бацькі яго мяне палюбілі». — «Ну, што ж, дачка, на нас не крыўдуй». — «За што я буду крыўдаваць на вас, мама?»

І состоялась, як кажуць па-руску, добрая сям'я.

Калі нарадзіліся дзеці, адно за адным, з інтэрвалам у два з палавінай гады, Таццяна месяцамі сядзела ў Маскве, дапамагала Алёне, ажно Іван раўнаваў, і з зяцем у яе ні разу не ўзнік канфлікт, і з сваццяй Цыляй Аркадзеўнай мела найлепшыя адносіны.

Трагедыя адбылася ўсяго год таму. Невядома, хто быў ініцыятарам, маладыя ці старыя, але ўсе Айзенбергі, увесь немалы

клан, узняліся ехаць... і не ў Ізраіль — ажно ў Аўстралію, там жылі сваякі, сястра Цылі.

Лена прыляцела ў Мінск у глыбокай роспачы. Тыдзень плакала і баялася вяртацца ў Маскву.

«Ён угаворыць мяне, мамачка, ён угаворыць... Я слабая. І я люблю яго, бацька ж маіх дзяцей».

Тут ужо і вялікі інтэрнацыяналіст Іван Жыгуновіч абурыўся і заняў пазіцыю жонкі і дачкі.

«Здраднікі! У пагоні за доларам радзіму пакідаюць, магілы продкаў сваіх».

А потым нечакана прыляцела Жанна, якая колькі разоў тэлефанавала — прасіла маці вярнуцца. Зразумела яе душэўны стан, бо з парога, не распрануўшыся, сказала, што яна цвёрда вырашыла — не ехаць!

Маці і бабуля кінуліся да яе і зацалавалі ледзьве не да непрытомнасці — сваёй, у першую чаргу.

«Жанначка! Дзіцятка маё! Каб ты знала, які камень ты зняла з сэрца майго!»

Адзін. Камень адзін. Але застаўся другі, можа, яшчэ цяжэйшы — сын, ён ажно трызніў паездкай у Аўстралію. Лёгка зразумець, якое гэта мела значэнне для пятнаццацігадовага рамантыка, улюбёнага, на шчасце бацькоў, у Жуль Верна.

Два дні ўсе чацвёра выпрацоўвалі тактыку: як угаварыць Івана. Бяда па такой прычыне расстацца з мужам. Але калі застанецца з дзецьмі ў Маскве — гэта ўжо адна чвэрць трагедыі.

Івана не ўгаварылі. На яго моцна ўплываў бацька, бабуля Цыля, дзядуля Навум, але найбольш, безумоўна, — прага падарожжа, юнацкае жаданне апынуцца ў Аўстраліі.

Маці паехала да дачкі перад ад'ездам зяця і ўнука, бацькі яго паляцелі раней. Лена хацела развесціся, Леанід не даў разводу — спадзяваўся, што яна і дачка адумаюцца, пагаладаюць у Маскве і... захочуць у Сідней.

Яны ўсе трое інтэлігентна праводзілі іх у аэрапорт. У зале жартавалі, асабліва Іван і Жанна. Калі ж самалёт падняўся ў паветра, Лена самлела, апынулася ў медпункце, напалохаўшы маці і дачку.

Дык хіба пасля такіх стрэсаў доўга да анкалогіі?

— Ваня, трэба ехаць.

— Трэба.

— Сёння.

— Сёння.

Таццяна пагладзіла яго руку, падзякавала.

У яго вочы набрынялі слязамі, але ён схаваў іх.

— Уступай мне месца каля тэлефона.

Набраў нумар.

— Іванюту, калі ласка.

— Я слухаю, бацька.

— Не пазнаў. Багаты будзеш.

Зяць сыта зарагатаў.

— Буду. Калі вы не зробіце яшчэ адну рэвалюцыю.

— Не сумнявайся — зробім.

— Рэвалюцыю пенсіянераў?

— Павел, мне не да жартаў. Нам трэба два білеты. Да Масквы. На сёння.

— Каму нам?

— Мне і маці.

— Што здарылася?

— Лена у бальніцы.

— У цяжкім стане?

— У анкалогіі.

Зяць спачувальна свіснуў.

— Білеты я зраблю. Але пасрэднікі бяруць двайную цану. Во зарабляюць! Такі навар і мяне абурае.

— Ды чорт з імі, з іх наварам. Нам трэба ехаць. Але пазыч нам грошай. Расійскіх.

Павел засоп у трубку.

— А во гэта праблема.

— У цябе няма грошай?

— Расійскіх.

— Усё пераганяеш у баксы? — Іван Мацвеевіч ледзь не сарваўся, не выказаў сваіх адносін да даляршчыкаў, Таццяна адчула гэта і вачыма, мімікай прасіла: трымайся.

Сапраўды, сам ён білеты не дастане, у вакзальных спекулянтаў заплаціш чатыры цаны, усё ў руках мафіі, усё, на што маецца попыт, а ў Маскву — паток пасажыраў: гоняць беларускую смятану, нажываюцца на курсе рубля і «зайца». Людзі — што ашалелі.

Павел заціснуў трубку, з некім перагаворваў, здаецца, жаночы голас прагучаў, у цесця даўно з'явіліся падазрэнні, што хлюст гэты здраджвае іх дачцэ, якая моліцца на свайго «калабка». А Насця — проста варона.

Гэтае перагаворванне зяця з кімсьці чужым, калі ён, стары чалавек, чакае адказу на просьбу, прыніжала і абурала, і ён, стрымліваючы сябе, панізіў голас амаль да шэпту, але не папрасіў — загадаў:

— То пазыч долары, чорт вазьмі! Банкіры!

Спалоханая Таццяна адняла ў мужа трубку.

— Паўлік! Нам трэба, нам вельмі трэба...

І тут Таццяна вельмі здзівіла мужа. Ніколі Іван Мацвеевіч не думаў, што, заўсёды абараняючы зяця, хвалячы яго і сваякам і чужым — разумнік, інтэлігент, яна так ведае «чорныя дыры» яго душы.

— Паўлік! Купі дублёнку. Бацькаву.

Даўно, гадоў дзесяць таму, старэйшы зяць Лёня Айзенберг прывёз цесцю з круізу з Турцыі прыгожы кажушок. Іван Мацвеевіч амаль не насіў яго, — вісеў у шафе ў цэлафанавым мяшку — ад молі. Але кожны раз, калі праветрывалі адзенне, Іванюта любаваўся кажушком, прымяраў і даказваў, што бацьку ён кароткі, а вось яму якраз па памеры. Напрошваўся на падарунак. Ды Іван Мацвеевіч рабіўся глухім. А маці адкрытым тэкстам сказала, не зяцю — дачцэ.

— Даронае не дораць.

Але прадасі і даронае, калі прыцісне, калі на хлеб няма ці такая вось нагода: ехаць трэба да хворай дачкі.

Эканаміст адразу ажыў. Голас яго загучаў што песня.

— Таццяна Хведараўна, колькі хочаце?

— Паўлік! Ты крыўдзіш мяне. Я буду таргавацца... З табой!

— Прабачце, мама. Лячу за білетамі. З мяне жывадзёры гэтыя не выб'юць такіх камісійных. Я іх знаю. І грошы прывязу. Расійскія. Добра? Не трэба будзе вам мяняць.

— Дзякуй, сынок.

Палажыла трубку.

Іван Мацвеевіч сказаў:

— Ну, ты здзівіла мяне.

— Прабач, Ваня. Не было калі параіцца... пра кажух твой.

— Ды Бог з ім, з кажухом.

— Ты не шкадуеш?

— Таня! Гэта ж для Лены. Для Лены! Дачушка наша. была ж ты шчаслівая...

— Была... — Таццяна заплакала.

2

Ноч была кашмарная. Ад страшных думак: Леначка ў анкалогіі. Не, у радыялогіі. А што страшней? А тут яшчэ «камфорт» паездкі. Іван Мацвеевіч не помніў, каб у вайну, у першыя пасляваенныя гады ездзіў у такіх умовах. Цесната была, але нейкая ўладжаная — адпаведна часу. І супольнасць пасажыраў была нейкая чалавечая — адразу ўтвараўся калектыў. А тут... што ў адным вагоне авечкі і ваўкі.

Вагон перапоўнены і запляваны да брыдкасці, быццам яго не вымяталі добры тыдзень. Спальнае купэ на чацвярых, а ехала шасцёра: адну ніжнюю паліцу займалі ажно тры мажныя маладзіцы, загрувасціўшы праход трыма малочнымі бітонамі і вялізнымі торбамі. Бачылі пры пасадцы гэтых пасажыраў, яны стаялі ў баку ад агульнай чаргі каля кожнага вагона, акрамя «СВ», шапталіся з праваднікамі. Стала мнагавата праваднікоў мужчын. І ніводзін з іх не рабіў тайны, што пэўную колькасць безбілетнікаў пасадзіць. Жыць жа ўсім трэба, начальніку поезда таксама. Можа, ён і ўстанаўліваў квоту, бо праваднікі, псіхолагі і практыкі, бесцырымонна і яўна — а чаго баяцца! ніякага ж кантролю! — адбіралі пасажыраў: «Вы і вы пачакайце. А вы, жанчына, не стойце, месц больш няма».

Во так трапілі ў купэ мажныя бабы і пузатыя бітоны са смятанай, якой у магазінах не хапае для такіх пенсіянераў, як ён, Іван. Што зробіш, масквічы таксама любяць смятану, трэба дзяліцца па-брацку.

Папрасіў суседак хоць частку торбаў падняць у багажную антрэсоль, каб можна было прайсці.

— Ты, дзед, можаш падняць?

— Не, не магу. Я стары.

— А мы — слабы пол, — і весела засмяяліся.

Цягнуць на рынак па бітону і па торбе яны могуць, а падняць, памагаючы адна адной, сілы не маюць. Што ім да тых, хто едзе законна, з білетамі! Законныя яны, бо купілі гаспадара вагона.

Іван Мацвеевіч папрасіў пасцелі. Праваднік, інтэлігентны з выгляду хлапчына, адразу назваў цану:

— Чатыры тысячы «зайцамі». Расійскімі — паўтары.

— Адна пасцеля? — ашаломлена спытаў ветэран. — Некалі рубель...

Бабы засмяяліся.

— Успомніў дзед фіміны куры.

Узяў адну пасцель — для Таццяны, памог ёй узабрацца на верхнюю паліцу: у жонкі не бывае такой частай патрэбы, як у яго, паднімацца ўначы.

Сумна сказаў, падсумаваўшы першыя дарожныя ўражанні:

— А мелі ж лепшыя ў свеце пасажырскія паязды. Фірменныя.

— Не тая цяпер фірма, дарагі спадар, — сказаў пасажыр з верхняй паліцы, улёгшыся там яшчэ да іх прыходу, без пасцелі, галаву — на партфель.

— Не тая, — згадзілася Таццяна.

— Свая фірма. Незалежная. Што хачу — тое раблю. Колькі хачу, столькі бяру: за білет, за пасцель.

Але палітычнай размовы сусед не падтрымаў, толькі невыразна хмыкнуў.

А калі поезд крануўся, вагон так заскрыпеў і заляскаў, што, магчыма, слабанервовыя спалохаліся: разваліцца. Але ў іх купэ слабых на нервы не было. Суседкі пачалі сытна вячэраць.

Як бы ўчуўшы пах хатняй кілбасы, у суседнім купэ пачалася п'яная вакханалія. Крычалі нейкія каўказцы, і нельга было зразумець — сварыліся ці весяліліся.

Мінула гадзіна, другая — суседзі не сціхалі, наадварот, крычалі мацней, як рэзалі адзін аднаго.

— Пайду паспрабую ўгаманіць, — сказаў Іван Мацвеевіч.

— Не раю, — адгукнуўся сусед з верхняй паліцы, напэўна, вопытны пасажыр. Тады і Таццяна захвалявалася.

— Не чапай ліха, пакуль ціха.

— Па-твойму, гэта ціха? Усяго мы баімося. Дэмакратыя!

Адна са смятанніц засмяялася, весела прапанавала:

— Давайце, бабы, песню загалосім. Перакрычым гэтых чэркесаў.

— Не, лепш пляску з шаблямі наладзім у тамбуры. Дэмакратыя ж, як кажа дзед.

— У такім разе, раздзяваемся, Рэня, да трусоў. Каўказцы языкі праглынуць ад здзіўлення.

Бабы рагаталі, а Таццяне хацелася плакаць.

«Дачушка мая Леначка. За якія ж грахі на цябе столькі бяды?»

Іван Мацвеевіч усё ж пайшоў — да правадніцы. У службовым купэ, загрувашчаным торбамі, пілі чай — праваднік, праваднічка і дзве пасажыркі. Не толькі чай. Убачыў, як адна схавала за спіной пляшку.

— Супакойце, калі ласка, вы гэтых крыкуноў. З пятага купэ. Людзям паспаць трэба.

— А вы ідзіце і скажыце ім. Вы — мужчына, — раздражнёна адказала праваднічка, пэўна, не ён першы прыйшоў са скаргай.

Іван Мацвеевіч пайшоў, пастаяў каля купэ, далікатна пастукаў. Адчынілі. Каўказцаў было ажно сямёра.

— Маладыя людзі, дайце паспаць.

— Ай-ай, Ахмет, Руслан... Ему хочется спать. У него слипаются глазки. Заходи, дорогой, мы тебя вложим.

— Колыбельную споем.

Адступай, партызан, вельмі ж няроўныя сілы. Але было крыўдна і брыдка: даўно ўжо не адступаў, даўно не меў перад сабой ворагаў, а дурняў абыходзіў бокам.

Толькі, можа, на смаленскай зямлі «суб'екты федерацыі» ўгаманіліся.

Іван Мацвеевіч гадзіны тры паспаў. А Таццяна так і не заснула. І знясілела. Спалохала мужа, калі папрасіла памагчы ёй злезці з паліцы і правесці да туалета. Суседкі, якія сінхронна храплі яшчэ тады, калі за сцяной стаяў вэрхал, спачувальна змоўклі.

— Таня, што з табой? — спытаў у тамбуры спалохана.

— Баліць галава. Не звяртай увагі. У мяне ж часта баліць галава. Але дома я вып'ю адэльфана, рудатэля, пасплю.

— А тут не спала?

— Не спала. Як можна заснуць, Ваня! Як можна...

— А што я буду рабіць, калі і ты зляжаш?

— Не бойся. Я — жывучая. Што кошка. Я ж на пяць гадоў маладзейшая. Мяне проста закачала. Так матляла... Што на арэлях...

Іх сустракала Жанна, убачылі яе з тамбура, прыветліва махала рукой.

Іван сцяўся ад думкі: колькі слёз будзе, калі бабуля і ўнучка абнімуцца. Стрымацца б самому. Але — во тайны душ жаночых! — ніводная з іх не пусціла і слязінкі. Малайчыны! Пацалаваліся, як звычайна. Бадай, сам ён затрымаў унучку ў абдымках даўжэй, каб утаймаваць хваляванне.

— Як даехалі?

— З шыкоўным камфортам.

— Ты, дзед, жартуеш. Ездзіла я нядаўна ў Піцер. Бачыла камфорт. Пабачыце, які ён у Маскве. Гляньце, што робіцца на вакзале. Беларускі яшчэ не горшы, тут чысцяць. Вароты ў Еўропу.

Таццяна Хведараўна глядзела на ўнучку шырока расплюшчанымі вачыма, чакаючы галоўнага паведамлення. Самой ёй страшна было спытаць: «Як мама?»

Але ўнучка прачытала гэта пытанне ў яе вачах і адказала:

— Мама... мама наша малайчына. Учора я ў яе дапазна сядзела.

Раней, калі прыязджалі ў госці да дачкі, ад вакзала да кватэры ехалі не іначай як на таксі, пашчоўквала рублёў на пяць. Цяпер ніхто з іх пра таксі і не заікнуўся, цяпер такая раскоша па кішэні толькі нуварышам ды хіба Пугачовай. Акадэмікі не дазваляюць сабе таксі. Метро! Самы камфартабельны транспарт.

Іван Мацвеевіч ішоў побач з жонкай, якую вяла пад руку ўнучка, і любаваўся Жаннай: выдатны гібрыд славянкі і іудзея — смуглявы твар, як пасля летняга загару, але русыя валасы. Прыгажуня. Якая толькі доля ў яе будзе? Ад думкі пра яе долю і пра лёс далёкага ўнука, што скача недзе наперагонкі з кенгуру, моцна забалела сэрца.

3

Па дарозе ў бальніцу Жанна, прасачыўшы за настроем бабулі дома, папрасіла:

— Бабуля родная, толькі не плач, прашу, а то спалохаеш маму. Паводзь сябе, як я. Я смяюся, канешне, з розумам. І мама смяецца. І суседкі яе весялеюць. Яны мужныя жанчыны. Цяпер я знаю, што такое гераізм.

Унучка хацела супакоіць абаіх іх. Івана Мацвеевіча ў пэўным сэнсе супакоіла. А Таццяну Хведараўну, наадварот, спалохала, асабліва апошнімі словамі: «Цяпер я ведаю, што такое гераізм». Ёй на долю выпала з маладых гадоў быць гераічнай — з Іванавага арышту. Яс не пахіснулі ніякія ўдары лёсу. Але Жаннін званок і плач унучкі... як спалохалі яны! А цяпер Жанна просіць быць мужнай. Значыць, рыхтуе да найгоршага. З самага званка, дома, і ў вагоне перад яе вачыма стаяла Лена, схудалая, змарнелая, знясіленая, прыкаваная да ложка. І ўяўленне гэтае рвала матчына сэрца, што міна, — на крывавыя шматкі. Гэта ж трэба дайсці да таго, што пабаялася сама прайсці ў туалет. І ў метро на эскалатары ўвесь час баялася ўпасці, хапалася за парэнчы, добра, што Жанна падтрымлівала. А была ж дужая бабуля: садова-агародны ўчастак — на ёй адной, і дача, і немалая кватэра, чэргі ў магазінах, кухня, мыццё бялізны... Малодшая дачка не вызначалася ўвішнасцю, больш займалася сваёй знешнасцю, бульбу ні разу не абірала — баялася папсаваць манікюр.

І раптам так за адну ноч знясілець.

Трымайся, Таццяна, трымайся! Ты ж усім патрэбна. Івану, Лене, Насці... Можа, здарыцца — крый Божа! — Жанначцы, як нікому. Ды і маладому Івану, хоць ён і вельмі далёка. Але піша, не забывае. Жартуе. Гэта ж ён у апошнім пісьме напісаў, што ганяецца навыперадкі з кенгуру. Дзед і цётка пасмяяліся. А ёй у жарце гэтым пачуўся невясёлы крык душы, але яна пра гэта нікому не сказала.

У знаёмай кватэры, дзе ўсё здавалася сваім, бо ўсё Леніна і Жанніна, адпачыўшы — нават задрамала ў крэсле — і напіўшыся чаю, Таццяна Хведараўна крыху акрыяла і ў сне і наяве бачыла Лену не на бальнічным ложку, а ў гэтай кватэры, вясёлую, гаманкую, радасную ад таго, што прыехалі яны, маці і бацька.

А ў тралейбусе, не жадаючы таго, Жанна зноў смяртэльна спалохала, як учора плачам, — просьбай не плакаць. Значыцца, Лена ў такім стане, што нельга не заплакаць.

«О, Божа, дай моцы духу майму», — малілася Таццяна Хведараўна, не выпускаючы рукі ўнучкі. Мяккая цёплая ручка як бы перадавала ёй токі маладой энергіі, і токі гэтыя, энергія жыцця

давала ёй тую сілу, якая патрэбна была ў незвычайнай сітуацыі, калі нічога ўжо не цікавіла: ні людзі, ні Масква, знаёмая і незнаёмая, бо ўсю істоту яе запоўніў боль, не фізічны, з фізічным зладзіць лягчэй, калі нават баліць сэрца, — той страшны непазнаны, невызначальны боль, калі не чуеш яго ні ў адным органе цела свайго, а разам з тым ён усюды — у мазгу, у сэрцы, у крыві, у пальцах рук і ног і... разбурае кожную клетку, кожную малекулу.

Івана Мацвеевіча прыемна здзівіла бальніца. Было б балюча, каб яна была запушчаная і забруджаная, як маскоўскія пераходы з плоймай жабракоў і спекулянтаў ці некаторыя з тых бальніц, якія ён бачыў у райцэнтрах, наведваючы часам сяброў — партызан і гулагаўцаў.

Гэтая новая бальніца — што сышла з французскага фільма. Шырокія чыстыя калідоры з бясшумным пакрыццём падлог. Чысцюткія халаты ў сясцёр. І хворыя — не ў арыштанцкіх шэрых халатах, у квяцістых з розным узорам ці ў хатнім адзенні: жанчыны ў сукенках, цёплых кофтачках, мужчыны — у спартыўных касцюмах.

І Лена іх здзівіла, а маці ўзрадавала і... спалохала; бывае такое незвычайнае спалучэнне, калі радасць такая, што ад яе робіцца страшна.

Лена гуляла ў калідоры. Здалёк убачыла іх і хутка пайшла насустрач. І зусім не была падобная на тую хворую, схуднелую, змарнелую, знясіленую, якая ўяўлялася маці апошнія суткі, пасля Жаннінага званка.

Не, яна не схуднела. Наадварот, твар яе пацямнеў, як ад загару, такой яна была ўлетку на дачы ў іх пад Мінскам. Адзета ў хатняе добра знаёмае ім плацце, у белую кофтачку — матчын падарунак, Таццяна сама звязала гэтую кофту колькі гадоў таму, і цяпер яна чамусьці асабліва расчуліла яе. Толькі бальнічныя тапачкі не пасавалі да хатняга ўбрання. Яны такі былі бальнічныя, не такія, як дома і як у музеі.

Лена амаль бегла насустрач ім. Натуральна, што маці вырвалася насустрач. Абняліся. Прыціснуліся адна да адной. Не заплакалі. Стаялі і слухалі ўдары сэрцаў, маці — дочччшага, дачка — матчынага.

Жанна ад замілавання засмяялася.

Лена адарвалася ад маці, упікнула дачку:

— Ах, Жанна! Прасіла ж я цябе. Я знаю, як нялёгка цяпер ездзіць. Але я рада, мама, тата... Я рада. Мне трэба пабачыць вас. Тата, што ты так глядзіш на мяне? Ты збрыў вусы? А я так любіла твае вусы. З імі ты меў бравы выгляд. Казак!

Бацьку на шыю яна не кінулася. Бацьку яна ўзяла за дзве рукі і замілавана глядзела ў твар, ласкава ўсміхаючыся. І ён глядзеў у яе родныя карыя вочы. Глядзеў так, як некалі, вярнуўшыся з лагера, яна ж без яго нарадзілася, і ён упершыню ўбачыў дачушку сваю, калі ёй ішоў шосты годзік.

Глядзеў... і страх, мацнейшы, чым ад паведамлення, што Лена ў радыялогіі, запаўзаў у сэрца. Маці парадаваў выгляд дачкі. А яго... спалохаў. Бачыў ён такіх... загарэлых, і там, пасля першага выпрабавання атамнай, і параўнаўча нядаўна праз тыдзень пасля Чарнобыля, калі з фізікамі паехаў у Брагін.

Лена завяла іх у пакой для адпачынку — нервовай разрадкі. Мяккая канапа, крэслы, тэлевізар. Тэлевізар быў уключаны, колькі жанчын, усе старыя, глядзелі даўні чорна-белы гераічны фільм пра падпольшчыкаў: бабулі не любяць вячэрнія перадачы, дзе многа палітыкі і многа «парнухі», а гэта, як сказала некалі Таццяна, адно і тое ж: і там бардак, і там распуста. Пад тэлевізар і пры бабулях — якая размова!

— Пайшлі назад, у калідор. Табе не цяжка, Лена?

— Не, не цяжка, мама.

А Жанна, студэнтка мединстытута, хмурыла бровы.

Жанну маці прабрала, што яна цэлы тыдзень ужо прапускае лекцыі.

— Па два разы на дзень ходзіць.

Таццяне Хведараўне цяжка было спытаць, які ж дыягназ ставяць — стрымлівала радыялогія. Ды і бацька лічыў, што лепш пра гэта спытаць ва ўрачоў. Аднак маці адважылася:

— Лена, а дзе ты пачула боль?

— Нічога я не пачула. Я самлела ў метро, і мяне забрала «хуткая». Адтуль — сюды, хоць я і супраціўлялася. А тут я — што трус падвопытны. Сто розных абследаванняў.

Жанна абурылася:

— А мне не сказала!

— Каб ты не была панікёркай!..

— Я — панікёрка? Ну, мама! Ты дрэнна ведаеш сваю дачку.

— Я добра ведала Ваню, — вырвалася крыўда і крык болю маці.

— Парасёнак ён, твой Ваня.

— Не трэба, Жанначка, — папрасіла Таццяна Хведараўна.

А Лена адвяла размову ад таго, што найбольш балела.

— Як там Насця?

— Шуміць на мужа. На маці. На мяне — не адважваецца. Баіцца ці паважае?

— Насця — унікум.

— Хутка яна супакоіцца, — і маці паведаміла амаль шэптам радасную навіну. — Месяцы два засталося.

— Нарэшце, — бадай узрадавалася Лена. — Ато цягнулі восем гадоў. Хто з іх гэтак хацеў свабоды?

— Павел вясёлы, — сказала Жанна. — А цёткая мая — зануда.

— Жанна.

— Супакоіцца! — хмыкнуў бацька. — Тады яна цябе так запражэ, зусім тарабаніць.

— Гэта шчаслівае рабства, Іван, — рабіць на ўнукаў.

— Толькі ўнукі няўдзячныя, — са старэчай разважлівасцю сказала Жанна і — да маці: — Табе ўрач казала: ляжаць! А ты гуляеш, як па праспекце.

— То хадземце ў палату. А я пашукаю тваю ўрачыху... як, ты сказала, імя яе?

— Ірына Азатаўна.

Урача Іван Мацвеевіч знайшоў у ардынатарскай. Ажно трое людзей у белых халатах, як чыноўнікі, сядзелі за сталамі і рабілі запісы ў гісторыі хвароб, перад кожным з іх ляжаў стус тоўстых і тонкіх папак.

Іван Мацвеевіч сказаў:

— Я бацька Алены Іванаўны Айзенберг.

І ўпершыню прозвішча зяця, якога ўжо няма, здалося непрыемным, бадай варожым: ён вінаваты ў Ленінай хваробе! «Не паклапаціўся нават аформіць развод, так яго гнала за шчасцем».

Прывабная з твару, яўна татарка ці башкірка, не даўшы спытаць пра хваробу дачкі, прапанавала:

— Хадземце да загадчыка аддзялення.

Немалады ўжо ўрач, высокі, лысы, з хударлявым тварам, з капілярнымі плямамі на шчоках, сядзеў за паліраваным бальнічным сталом з бліскучымі металічнымі ножкамі, але ніякіх папер перад ім не было. Ён як бы чакаў наведвальнікаў.

На прадстаўленне ўрачыхі кіўком галавы паказаў Івану Мацвеевічу на мяккае крэсла каля стала. Доктарка села воддаль, каля сцяны.

Загадчык палажыў свае доўгія рукі з тонкімі, як у музыканта, пальцамі на стол, і наведвальнік звярнуў увагу, што і на белых руках яго прасвечваюцца капіляры, не сінія вены, як у яго, старога, а ружовыя капіляры. На шчоках гэта бывае нярэдка, на руках — такія рукі не помніў.

Іван Мацвеевіч адчуў, што яму заняло дыханне, не думаў, што так усхвалюецца. Алег Пятровіч (так звярнулася да загадчыка ўрачы-

ха) зразумеў яго стан і маўчаў, нават не глядзеў на наведвальніка, уважліва разглядаў свае рукі, усё роўна як рыхтаваў іх да аперацыі.

Іван Мацвеевіч выдыхнуў хваляванне і... глухі шэпт:

— Рак чаго?

— У вашай дачкі няма рака.

— А што? — устрапянуўся і радасна, і трывожна бацька.

І зноў Алег Пятровіч не спяшаўся з адказам.

«Во цэдзіць па чайнай лыжцы».

— Але скажу вам праўду: хвароба яе не лягчэйшая. Вы з фізікай знаёмы?

— Я быў у групе, якая рабіла першую атамную бомбу.

— О, о! — вочы доктара загарэліся цікавасцю, ён уважліва разгледзеў ветэрана. Сказаў прафесійна і даверліва:

— У Алены Іванаўны прамянёвая хвароба. Сіндром не востры. Але і нялёгкі. Вышэй сярэдняй цяжкасці. Пакуль што хвароба ў скрытым перыядзе. Але набрала яна нямала. Дзе? Яна ў вас пад Чарнобылем не адпачывала?

— Што вы! Пад Мінскам. У нас чыста. Мы там усе граматныя пасталі па часці радыяцыі.

— Яна казала... Але дзе? Апраменьванне не разавае. Апёкаў няма. Быў у нас выпадак. Адзін ідыёт вёз з Ніжняга ў Маскву... цяпер жа ўсё крадуць! Не здзіўлюся, калі атамную бомбу сцягнуць. Уран вёз, злодзей. У партфелі. Без усялякай ахоўнай абалочкі. Нажыцца хацеў. Дык сам схапіў смяртэльную дозу. І суседзяў надзяліў. Дык у іх апёкі былі. Такія я ў чарнобыльцаў бачыў... У першых, якіх прывезлі. Дваіх уратавалі. Цяпер мы ўмеем і косны мозг перасадзіць. Чарнобыль навучыў. Але колькі набрала Алена Іванаўна — прыборы не паказваюць. Дзе набрала? Кватэра адпадае. Пятнаццаць гадоў жывуць, дзеці выраслі. Музей? Але што ў музеі?..

«Музей... Музей! — Што моцны ўдар току страсянуў усё цела, абпёк мозг і ўсё нутро. — Няўжо ён там? Няўжо...»

Моцна збялеў Іван Мацвеевіч. Ірына Азатаўна ўбачыла, як ён змяніўся, падскочыла.

— Вам дрэнна? Выпіце вады. Я накапаю карвалолу.

— Не, нічога. Дзякуй. Успомніў... бачыў я такіх пасля першага выпрабавання. Салдат. І чарнобыльцаў...

— Мы папрасілі грамадзянскую абарону праверыць музей. Праверылі. Небяспечнай дозы няма. Праўда, я ім не вельмі веру. Пашлю сваіх.

— Я сам праверу. У мяне сябры... па няшчасці — вядомыя фізікі. У іх любыя дазіметры. Японскія, нямецкія.

— А ў нас стацыянарныя — новыя. А пераносных не маем. Радыялогія, а не маем. Толькі кішэнныя. А гэта — не для вымярэння, для перасцярогі.

— Аднак у вас выгляд сучаснай бальніцы...

— Дык новая ж. Не было б дабра, ды няшчасце памагло — Чарнобыль, як я сказаў ужо. Трохі варухнуліся. Замежнікі памагаюць. Дык вы фізік?

— Матэматык... але забяспечваў фізікаў. Электронна-вылічальных машын не было. Лічылі на паперы.

— Вы былі ў арміі?

— У заключэнні. Вучоны зэк.

Доктар не здзівіўся: усё ведаў, усё чуў.

— Што ж, падключыце вашых ядзершчыкаў. Інфармуйце нас. Па крыніцы радыяцыі можна вылічыць, якую дозу яна набрала. А гэта важна... для лячэння. Супакойце яе.

«Ён! Ён! Прыборчык наш!» — грымела ў галаве, калі Іван Мацвеевіч вяртаўся ў палату.

Жанчыны скрыжавалі на ім запытальныя позіркі: што?

— Нічога страшнага. Табе ж сказалі?

— Сказалі: прамянёвая хвароба. Але і прафесары, і я ламаем галовы: дзе я магла набраць гэтыя рады? А страшнага для мяне, тата, няма. Самае страшнае я перажыла — ад'езд Вані.

— Цэлы будзе твой Ваня. Буржуем вернецца.

— Знайшоў чым супакоіць! — упікнула Таццяна Хведараўна. — Буржуй — шчасце? Божая кара!

— Брат любіў пафранціць. Піжон! Песцілі вы яго. Рамантыкі яму захацелася.

— Няхай яму там добра ікнецца, — уздыхнула бабуля, — на краю свету.

— Дзе ён, той край? — улезла ў размову суседка па палаце. — Край свету — у нас. Мы на краю свету. Яшчэ адзін крок і... у пекла.

— Чаму ў пекла? — не згадзілася Жанна. — Я хачу ў рай. Я нічога дрэннага не зрабіла. Люблю маму, брата, дзеда, цябе, мая добрая бабуля. І бацьку люблю...

Напамінак пра бацьку як бы збянтэжыў не толькі сваіх, але і дзвюх суседак, якія ведалі сямейную драму Алены Іванаўны. Іван Мацвеевіч асцярожна змяніў тэму.

— Лена, а дзе ты рабіла ў апошні час?

— Як дзе? У музеі. Ты забыўся?

— Я знаю, што ў музеі. Але дзе? У залах?..

— Тата! Мы — музей рэвалюцыі. А рэвалюцыю закрэсліваюць, як і не было яе. Развал, як усюды. Частку людзей скарацілі. Іншыя самі ўцяклі. Залы мы здаем пад выстаўкі. Пакоі навуковых супрацоўнікаў — пад офісы спекулянтам. Трэба ж жыць... А хто застаўся... кім мы толькі не працуем. Нават грузчыкамі. Я часта сядзела ў сховішчах. Рабілі рэвізію экспанатаў. Іх жа мільёны.

— Слухай, з падарункаў Сталіну што засталося?

— О, тысячы. Якраз мы імі займаліся. Адбіралі на продаж. Іх ахвотна купляюць замежнікі. А нам трэба жыць. Валюта трэба...

— Пісьмовы прыбор са Спаскай вежай у вочы не кінуўся?

— З ордэнам Перамогі? О, як жа не! Стаіць. Толькі з ордэна алмазы ўкралі. Гарная рэч, як кажа Аксана Горленка. Колькі пакупнікоў цэліліся. Прадаваць шкада. Звязуць куды-небудзь у Паўднёвую Афрыку.

— У Аўстралію, — сказала Жанна.

— Жанначка, не рві нам сэрцы.

— Гэта я травіў на ім узор. На чарнільніцах. І ордэн з каштоўных металаў наплаўляў.

— Там, тата? — здзівілася Лена. — Якога мастака загубілі!

— Чаму загубілі? Пад старасць няма матэматыка, а скульптар паркавы вядомы на ўвесь Мінск, — не зразумець, ці сур'ёзна, ці іранічна сказала Таццяна.

А Жанна глядзела на дзеда спалоханымі вачыма. Чаму? У Івана Мацвеевіча захаладзела спіна. Ён са страхам падумаў:

«Няўжо здагадваецца? Дзеці — што прарокі».

4

На станцыі метро Іван Мацвеевіч сказаў жонцы і ўнучцы:

— Вы — дадому, гатоўце Лене дранікі. Ёй хочацца дранікаў. А я — у другі бок. Наведаю Хведзю Ананчанку.

— Пазваніў бы. Паўгода не званіў. Можа, дзеда ўжо няма. Чалавеку за восемдзесят.

— Што паўгода не званілі — ганьба нам з табой. Чортава эканомія! Кожнага няшчаснага «зайца» ці «ваўка» ашчаджаеш. Дажылі! А няма... Не, Таня! Мы з ім бессмяротныя! Нас атамная бомба не ўзяла.

— Ну, кланяйся свайму Хведзі. Старыя — што дзеці.

Жанна засмяялася.

— Дык гэта ж добра, бабуля, — яшчэ раз пабыць у дзяцінстве. Я хачу ў маленства — не выходзіць: залішне клопатаў, перажыванняў...

— Звалілася на тваю галоўку.

— Не трэба, бабуля, а то я заплачу.

— За слёзы буду караць. Не рабіце балота. І без таго ў балоце жывём.

Малады мужчына, па выглядзе правінцыял, сумна падтрымаў:

— Яшчэ ў якім балоце! Калі вылезем з дрыгвы? Тыдзень шукаю праўды. Боты парваў.

Колькі іх, праўдашукальнікаў! На Святой Русі іх заўсёды было нямала. Але хто з іх знайшоў праўду?

Хацелася пагаварыць з гэтым чалавекам. Але за спіной загрымела яго, Іванава, электрычка.

Адчыніў яму сам Хведар Парфёнавіч.

Божа мой! Як хутка мяняецца стары чалавек. Паўтара года таму яго сустракаў бравы генерал, засакрэчаны член-карэспандэнт, гаварун, весяльчак, такім ён быў і сорак пяць — сорак гадоў назад.

Ананчанка адчыніў, не пытаючыся. Стаяў у калідоры, накрыты, як Плюшкін, нейкай старой коўдрай, і ўзіраўся слепа ў нечаканага госця.

Пазнаў.

— А-а, ты, Іван...

Але ранейшай вясёлай радасці не было. Вяла паціснуў руку.

— Праходзь. І нічому не здзіўляйся. Я адзін, яко перст. Сынок мой, вялікі фізік, закрыты фізік быў... паехаў у Канаду зарабляць долары. Усе ж памяшаліся на доларах, каб яны спрахлі! Канешне, і Юлю павёз, добрага ангела майго. Яна мяне трымала, мая нявестка. Урач. Падзвіжніца, якіх мала. І Валодзю павезлі, уладзілі ва універсітэт. Выходзім у свет. Але што нам гэта дасць? Усе нашы закрытыя распрацоўкі — заморскаму дзядзьку. А мы застанемся абяззброеныя. Бяры нас голымі рукамі. Хочаш — няньчы, хочаш — душы, як кацянят.

Яны перайшлі ў вялікі пакой, абстаўлены дарагой мэбляй, але запушчанай, запыленай.

— Да мяне раз у тыдзень-два прыходзіла з міласэрнасці патранажная сястра. Ды захварэла... Па-мойму, запіла... Яна добрая, але каньячок мой пацягвала. Прыслалі другую, дык яна сярэбраныя лыжкі пакрала. Каб папрасіла, я аддаў бы ёй. А калі крадуць, гэта абражае. Балюча. Тыдзень хварэў. Чым цябе частаваць? Ты пасядзі, а я чай ускіпячу.

— Не, ты сядзі. Я сам. Я ўсё ж маладзейшы. Ажно на шэсць гадоў.

— Здарава ты, матэматык, лічыш мне гады.

— Каб вылічыць свае, я ад тваіх адмінусоўваю.

Іван Мацвеевіч пайшоў на кухню, паставіў на пліту чайнік. Пакуль вада закіпела, памыў посуд.

«Аслаб стары. Памыць каструлю — для яго праблема. Пакуль будзем тут, трэба заходзіць з Таняй. А пасля Жанне даручыць. Жанна — добрая, міласэрная. Хоць Жанне хопіць клопатаў з мамай. Дзякуй Богу, калі набрала яна не гранічную дозу. Хоць хто ведае! Скрыты перыяд. Разгар хваробы. Разгарыцца, канешне».

Прадукты ў Ананчанкі былі. І чай, і кава. Заморскія, канадскія. Прысылаюць дзеці. Але хіба ў гэтым радасць старога чалавека?

Прынёс чайнік, кубкі, цукар, галеты. Вучоны генерал сядзеў у глыбокай задуме, пра сваё думаў, неадчэпнае.

— Іван! Такую дзяржаву развалілі!

Чуў ён гэты воклiч і ад яго ў мінулы прыезд, і ад тысячы такіх, як ён — былых, якія будавалі вялікую дзяржаву. Штодня чуе, гуляючы з пенсіянерамі.

— Мы ж з табой і развалілі! Чаго варта партыя, якая не здолела сябе абараніць! І армія! Генералітэт! Радуйся, што тваё бомбы рэжуць,

— Пайшоў ты! Паўтараеш нашага бога — Сахарава.

— Я, дзякуй Богу, рана адышоў ад вашага прастола, вучыў дзяцей. Вадародную вы адлілі, калі вам начапілі зоркі — на грудзі і на пагоны.

— Знайдзі за кнігамі пляшку. Віскі. Схаваў ад маёй дабрадзейкі.

Выпілі па грамулечцы, як лекі.

— А можа, давай урэжам грамаў па сто?

— Не. Не магу. У мяне яшчэ наперадзе вельмі адказная работа.

— Якая ў нас можа быць работа! Адрабілі, і ніхто дзякуй не кажа. Наадварот — праклінаюць.

— Чаго захацеў — дзякуй. Ты скажы дзякуй, што пенсію даюць.

Іван Мацвеевіч дапіў чай.

— Хведар! Помніш пісьмовы прыбор, які мы зрабілі?

— Той?

— Той.

— Дзіцячая забава. На што спадзяваліся? Думалі, ён паставіць перад сабой і будзе любавацца?

— Забава? Не, Хведзя. Па мне яна моўна ўдарыла. Бумерангам.

— Па табе?

— Па Лене маёй.

— Па Лене?

— Яна ляжыць у радыялогіі з прамянёвай хваробай. Дзе набрала? У музеі. Колькі набрала?

— Дык чаму ты лічыш — ад яго набрала?

— Апошнія месяцы яна працавала ў сховішчы музея. І любавалася гэтым «шэдэўрам». Яна толькі што, гадзіну-дзве назад, апісала мне яго.

Ананчанка надзіва спрытна для сваіх гадоў падняўся з крэсла. Усхвалявана адступіў ад стала.

— Іван! Не можа гэтага быць! Я «зараджаў» яго кобальтам. А гэта — на пяць-шэсць гадоў. А прайшло...

— Сорак пяць...

— Не, ты ўпэўнены?

— Абсалютна.

— Што ж туды хлопцы ўплавілі? Уран? Стронцый? Ніхто ж тады не знаў тэхналогію гэтых сплаваў. Што рабілі, чортавы дзеці! Пад «вышку» маглі ўсіх нас падвесці. Калі там была доза вышэйшая за тую, што мы з Махліным разлічылі... Не, не можа быць! Той прыбор даўно «мёртвы»!

Генерал падышоў да стала, наліў у сваю чарку добры глыток, з размаху выплеснуў у рот.

— Не можа... Думаеш, падобнае яшчэ хтось зрабіў? Не! Такое маглі прыдумаць толькі мы! Вучоныя-нявольнікі. Знаеш, Хведзя, я пачынаю ў Бога верыць. Сказана ў запаветах: «Не забі ворага свайго!»

— Няма гэтага ў запаветах! Там коратка: не забі! Няма пра ворага! Але што такое вораг у жыццёвым плане? Яго — не забі. Вораг — гэта той, хто хацеў знішчыць народ твой. Гэта не проста вораг — сатана, антыхрыст. Гітлер! І ён! І ён! Бачу, у цябе з'явілася раскаянне. Я разумею цябе. Я раскайваюся, што рабіў гэтыя цацкі. Для абароны! Айчыны! Народа! А нас узялі голымі рукамі. З усім нашым металаломам. Во трагедыя, Іван! На храна ж я... і ты, і мы... рабілі гэта? Каб аддаць ім?

Ананчанка наліў яшчэ адзін глыток.

— Хведзя! Не захапляйся.

— Ах, Іван! Для мяне гэта адзінае шчасце — перасяліцца ў іншы свет. Ты верыш, што ён ёсць?

— Не знаю. Але хачу паверыць.

— Нічога няма, Іван! І ні ў што я больш не веру. Усё — лухта. Суета сует. Так у Старым Запавеце сказана. Чытаў? Вунь калі людзі прыйшлі да мудрай высновы. Замагільнае жыццё выдумалі пазней — для суцяшэння. Каб хоць чым сябе пацешыць у жыцці, дзе кавалак хлеба даваўся крывавым потам. Я, бядняк, буду ў раю, а ты, багач, у пекле. Казка для дзяцей! Мудры яўрэй Маркс доказна развянчаў апостальскія казкі. Давай не будзем адступаць ад навукі. Сусвет — загадка. Але мы ўсё ж галоўнае пазналі...

Іван Мацвеевіч ведаў, што сябра яго, калі завядзецца, не спыніць. А за акном шарэла: асенні дзень кароткі.

— Хведар! У цябе дазіметры засталіся?

— Дазіметры? У мяне іх — калекцыя.

— Дай мне лепшы. Я праверу сам. Радыёлагі прасілі грамадзянскую абарону. Знайшлі каго прасіць! Сяржант пахадзіў па залах. Выявіў трохі павышаны фон. Але ў Маскве сотні мясцін, дзе ў пяць, дзесяць разоў вышэй нормы.

— Я дам табе два... японскія. Адзін будзе іграць трывогу. Другі — дакладна лічыць мілі і мікра... Ты мне пазвані... Дозу і час, калі Лена была блізка ад аб'екта. Я падлічу, што яна набрала. Няўжо ад яго? Не магу паверыць!

— Сваю разьбу я пазнаю, не сумнявайся.

— Калі адліўшчыкі «перасалілі», мы ж падстаўлялі цябе. Колькі ты рэзаў?

— Месяц.

— Не! Не ён! За месяц ты абпёк бы рукі. І ўсе мы ўжо тады былі б на небе.

— Чорт мяне не ўзяў. Бог ці чорт доўга чакаў, каб нанесці самы цяжкі ўдар. Лена! Ты знаеш, што для мяне Лена?

— Я знаю, Іван. Я знаю.

Дырэктара музея не было. Ці існаваў ён увогуле ў музеі, асуджаным на небыццё? У прыёмнай і кабінеце гаспадарылі маладыя людзі. Кіравала гістарычнай установай, якая яшчэ трымалася на плыву, намесніца — мажная, пышнагрудая кабета, з густам апранутая. Паколькі сакратаркі ў прыёмнай не было, Іван Мацвеевіч увайшоў, як кажуць, без стуку, калі ў яе знаходзіліся супрацоўніцы.

— Вам што? — многа гадоў дама гаварыла «таварыш», а тут як бы спатыкнулася, як назваць наведвальніка, яна ўжо навучылася пазнаваць, каму прыемна званне «господин», гэты — не з тых.

— Я бацька Алены Іванаўны Айзенберг.

Дама ўскінула нафарбаваныя бровы.

«Няўжо не знае? Новая, ці што?»

Ёй растлумачыла маладая супрацоўніца:

— Наша экскурсавод, а пасля ў сховішчы рабіла...

— Я знаю, — уладна перапыніла памочніцу начальніца.

— Яна ў бальніцы.

— Я знаю.

— У яе — прамянёвая хвароба.

У маладых супрацоўніц у вачах мільгануў спалох. У дамы — ніякіх эмоцый, яна папрасіла прабачэння і пачала званіць па тэлефоне, уладна кіўнуўшы служкам, што адпускае іх.

Яна гаварыла па-французску, рэдка ўстаўляючы рускія словы. «Адукаваная ж баба, а не запрасіла нават сесці старога чалавека, — падумаў Іван Мацвеевіч і сеў сам. — Манеры тых партакратаў... жанчын асабліва, якія вельмі ж умелі імітаваць кіпучую дзейнасць».

Дама кончыла размову і... здзівілася, што наведвальнік сядзіць перад ёй.

— І што вы хочаце?

— Дачка мая атрымала без малога не смяртэльную дозу радыяцыі.

— Дзе?

— Тут, на рабоце, у сховішчы.

— Ды вы што?! — яна бадай абурылася. — Мы ж не Чарнобыльская АЭС.

— А дзе яшчэ! Толькі тут, — Іван Мацвеевіч павысіў голас.

У дамы чорныя бровы палезлі пад капу залатых валасоў.

Яна ціснула кнопку селектарнай сувязі.

— Антон Антонавіч! У нас ёсць атамны рэактар?

— Вы маеце на ўвазе гісторыю з Аленай Іванаўнай? Пазаўчора нас праверыла грамадзянская абарона.

— І што?

— Перавышэнне нормы ёсць. Але дапусцімае. Такіх перавышэнняў у Маскве...

— Дзякуй, — адключыла сувязь. — Чулі?

— Я не веру абароне. Яны замяралі экспазіцыйныя залы. Я павінен праверыць сам. Сховішча, дзе Лена ў апошні час працавала.

— Вы спецыяліст?

— Я рабіў атамную бомбу. Першую.

— Вы? — быў у пытанні і недавер, але і павага да старога прыкметна вырасла.

— У мяне — японскія дазіметры, — дастаў адзін з кішэні. — Ад замеру выпраменьвання залежыць лячэнне...

Але кіруючая «девственница» ўсё яшчэ супраціўлялася, аднак няўпэўнена ўжо.

— У сховішчы ў нас асобы допуск.

Іван Мацвеевіч узлаваўся. Падняўся. Голас яго гнеўна задрыжэў.

— Рэгіна Эдуардаўна! Паміраюць чалавек. А вы разыгрываеце спектакль сваёй улады. Вам што, хочацца, каб і іншыя набралі смяр-тэльныя дозы? А там і самі. За захаванне радыеактыўных экспанатаў

вы будзеце адказваць! Асобы допуск... Да чаго? Да тых экспанатаў, якія вы прадасце замежнікам? Яны туды спускаюцца без спецдопуска. І выбіраюць што хочуць. Хіба не так?

Жанчыну такі наступ і абурыў, і спалохаў. Пабялелі мочкі яе вушэй, а на шчоках з'явіліся фіялетавыя плямы.

Яна з натугай адарвала сваё шырокае сядалішча ад крэсла. Сказала шэптам:

— Пайшлі...

Але ішла ўладарна. Па дарозе захапіла с сабой Ніну Пятроўну, у падвале — Веру Мікалаеўну. Набірала сведкаў. Баялася гэтага старога — ці не псіх?

Прайшлі чатыры залы з густымі радамі стэлажоў, на якіх шчыльна стаялі тоўстыя папкі з дакументамі. Парадак адмысловы.

«Колькі іх тут, — падумаў Іван Мацвеевіч. — І ўсё гэта могуць раскрасці, распрадаць, а пасля будуць сачыняць гісторыю... без дакументаў. Сачыняй — што хочаш. Дзе праверыш? У бібліятэцы амерыканскага кангрэса?»

Спусціліся па ўсходцах яшчэ ніжэй. Дзверы ўва ўсіх сховішчах былі жалезныя, але гэтыя — што ў банкаўскім сейфе — ледзьве не паўметровай таўшчыні.

Захавальніца фондаў адчыняла іх ажно трыма ключамі і... як бы са страхам.

Адчыніла. Зала са стэлажамі, на якіх мноства розных экспанатаў — адзенне, зброя, інструмент, мастацкія вырабы, прадметы побыту — сялянскага, панскага, царскага. Але не гэта прыцягнула ўвагу Івана Мацвеевіча. У кішэні плашча адазваўся прыбор — тонка і неяк жаласна запішчэў.

— Што гэта? — спалохана спытала Рэгіна Эдуардаўна.

— Мой дазіметр, — дастаў яго з кішэні, з футляра. Гучнасць піску нарасла.

Начальніца спынілася ў дзвярах, і ахоўніцы яе спыніліся.

Жыгуновіч адзін пераступіў парог, рушыў у залу, падняўшы дазіметр над галавой. Праз колькі крокаў дазіметр заенчыў страшным голасам раненага звера. Во чортавы японцы што прыдумалі — які сігнал небяспекі! Ад такога енку пабяжыш куды вочы глядзяць.

Ззаду пачуўся шпаркі стук абцасаў па бетонных усходцах. У дзвярах стаяла адна ключніца, пабялелая. Начальніца і ахоўніцы ўцякалі.

Іван Мацвеевіч крыкнуў ім услед:

— Выклічце грамадзянскую абарону!

Але дзе ён — шэдэўр іх паднявольнага мастацтва? За доўгі час тут усе прадметы набралі ад яго пэўныя дозы і цяпер «свяцяць» дазіметру. Ды раптам з дазіметра пачуўся суровы голас багіні — па-японску. Цікава, што яна настойліва паўтарала? Але, безумоўна, адно: яна папярэджвала, што небяспека побач.

Жыгуновіч азірнуўся і... убачыў на верхняй паліцы яго — іх тварэнне. Пісьмовы прыбор не пацямнеў, не зацвіў, толькі рубінавую зорку сарвалі ды ордэн Перамогі пакалупалі. Ён рэдка яго ўспамінаў, бо нікому, нават Таццяне, ледзьве не за паўсотню гадоў не расказаў, што яны там, у спецлагеры, адмастачылі. Яшчэ адну страшную бомбу запаволенага дзеяння. А прыгожая рэч. Які тонкі ўзор арнаменту ім выгрывіраваны, яго рукамі — на чарніліцах, на падстаўцы. Як зззяе ордэн Перамогі — начальства ГУЛАГа не пашкадавала каштоўных металаў! Але колькі яна, гэтая з выгляду бяскрыўдная рэч, загубіла людзей. Невінаватых. Няшчасных ахоўнікаў музейных скарбаў. Ахоўнікаў шматпакутнай гісторыі. Тады, пры ім, яна яўна была ў экспазіцыі: «Падарункі Вялікаму Сталіну ад народаў свету».

«Божа мой! Адукаваныя фізікі, матэматыкі, біёлагі, мы былі наіўнымі людзьмі. Мы пераступілі запавет, Хведзя. Мы пераступілі запавет».

Іван Мацвеевіч дастаў з другой кішэні дазіметр, які не сігналіў, але паказваў дозу выпраменьвання на любой адлегласці. Якія адлегласці? Яму трэба адна — ад стэлажа да маленькага стала ў куце сховішча, за якім працавала Лена.

Ананчанка паставіў «узрывацель» на паўтары тысячы гадзін — паўгода прабывання ў «зоне» па восем-дзесяць гадзін у дзень. Так разлічваў мудры фізік, ахоўваючы сябе і сяброў. У той час прамянёвую хваробу ведала толькі іх група біёлагаў, гэтакіх жа вязняў. Яны рабілі доследы на жывёлах. А пасля першага ўзрыву — і на людзях, на салдатах.

Колькі гадзін тут працавала Лена?

Іван Мацвеевіч сеў за яе столік, запісаў паказанні лічыльніка.

* * *

Мяне раніла пад Ломжай. У першыя гадзіны вайны. Батарэя яшчэ вяла агонь, хоць стралялі невядома па кім — танкі абышлі нас. Але мы білі па станцыі, якую захапіў праціўнік, там дымілі паравозы, а дзе паравозы і вагоны — там салдаты. Гэта ім не падабалася. Нас «праўцюжылі» штурмавікі. Батарэі не стала. Большасць людзей лягло, многіх раніла. Фельчар выкалупнуў большы асколак з майго пляча, а маленькі, з расплюшчаную гарошыну, дагэтуль сядзіць пад лапаткай,

недалёка ад сэрца, ніводзін выдатны хірург не адважыўся крануць яго там. Я страціў шмат крыві. Адступалі ў пешым страі, узарваўшы пушкі. Мяне неслі тыя, хто трымаўся на нагах. Але нядоўга ў іх хапіла сілы несці раненых, некаторыя самі мелі раненні, іншыя плюнулі на абавязак — зніклі: у тым кашмары кожны ратаваўся, як умеў.

Мяне пакінулі за гародамі вёскі. На літасць Бога і людзей. І літасць прыйшла. Мяне знайшоў добры чалавек, селянін, паляк — пан Крывец. Ён быў удавец. Але ў яго меліся дзве дарослыя дачкі — Марыся і Юзэфа, значна пазней я даведаўся, што ў іх ёсць брат, але ён у нямецкім палоне — з трыццаць дзевятага. Пашанцавала мне. Сям'я салдата не магла не праявіць міласэрнасці. Спалохала і здзівіла, што яны не схавалі мяне ў адрыне, пуні ці хляве, палажылі ў хаце, у гаспадарчай бакоўцы, на пярыне і падушках: з маёй ранай ляжаць на жорсткай пасцелі — пакуты.

Адам Крывец праявіў хітрую і мудрую асцярожнасць: ён у той жа дзень абвясціў аб сваёй знаходцы ў каноплях ксяндзу, старасце, суседзям.

Немцы гналі столькі палонных, што да раненых, яскіх падабралі сяляне, у іх было мала цікавасці, шукалі хіба высокіх камандзіраў ды яўрэяў. У мяне захавалася ахоўная грамата — кніжка чырвонаармейца, якую гаспадар, безумоўна, паказаў уладзе.

Гаспадару, дочкам, лекару пану Хадыку вельмі ж спадабалася, што я не толькі ўсё разумеў па-польску, але ўмеў і звязаць шмат якія фразы, хоць сам Хадыка гаварыў па-беларуску лепш за мяне, ды і дзяўчаты ўсё разумелі — суседняя вёска беларуская, праваслаўная царква той вёскі ўзвышалася над маладым бярэзнікам.

Пан лекар меў павышаную ўвагу — да мяне ці да раны маёй. Прыходзіў штодня. Прыносіў навіны, ён слухаў радыё. Першая ледзьве не даканала мяне, нагнала высокую тэмпературу — немцы ўзялі Мінск. Супакоіла трохі думка, што гэта хлусня — радыё ж нямецкае. Так і сказаў лекару. Ён цяжка ўздыхнуў: «Радыё нямецкае. Але ў пераможных зводках яны не маняць. Так было два гады таму з намі, год таму з Францыяй. Немцы, хлопча, народ дакладны».

Другі ўдар дзён праз колькі — узялі Оршу. Не сама Орша ўсхвалявала — Крупкі, мая Нача. І мая зямля ў няволі! Бацькі мае! Зноў мяне паліла ўсю ноч, я трызніў і стагнаў. Марыся і Юзэфа не адыходзілі ад мяне, сярод ночы выклікалі Хадыку. «Напалохаў ты нас, хлопча», — сказаў той.

Пасля такіх крызісаў ужо не было. Хадыкавы лекі. Крыўцова малако, масла і сардэчны дзявочы догляд хутка паставілі мяне на ногі. Праз месяц я быў па ваенных нормах амаль здаровы... Дабрадзееў

маіх гэта радавала. Але асабліва захапляла іх, што за такі кароткі час я авалодаў польскай мовай — гаварыў з акцэнтам, але без памылак — тых, якія ў пачатку смяшылі Юзэфу; ёй, малаадукаванай дзяўчыне, было няўцям, як не вымавіць правільна; zwycięzyc ці зусім проста dziękuję; здольнасці мае не здзіўлялі хіба Хадыку, ён ведаў і не такіх паліглотаў.

Сёстры не вызначаліся прыгажосцю — звычайныя вясковыя дзяўчаты. Але Марысіну прыхільнасць я хутка адчуў і... устрывожыўся: закахаецца дзяўчына, а што я дам ёй? Слёзы. Не застануся ж я тут. Мяне ж чакаюць маці, бацька, сястра.

Пэўна, і сам пан Адам быў не супраць прыручыць такога хлопца і ашчасліваць адну з дачок. Недарэмна ж наведваўся да мяне і раз і другі ксёндз. Вёў свецкія, не ўглыбляючыся ў палітыку, размовы — і духоўныя, аб вучэнні пана Езуса. Разумны пастар быў, расказваў тое, чаго я, бязбожнік са школы, не ведаў. У доме ў нас рэлігійных кніжак не было — маці не ўмела чытаць, а ў бацькі хапала часу хіба на тое, каб перахрысціць лоб і рот перад ядой, пасля капусты і дранікаў; царкву закрылі, як толькі стварылі «рай зямны». Пакуль ляжаў, прагна чытаў усё — ад польскага лемантара да Бібліі. І мацней пераканаўся, што мы, савецкія, адмаўляючы рэлігійны дурман, будавалі жыццё па хрысціянскіх запаветах. А ўварваліся ў дом наш па-бандыцку тыя, на бляшках папруг якіх было напісана «З намі Бог», і ўсё руйнуюць, растаптаўшы ўсе евангельскія запаветы, галоўны з іх «Не забі». Забіваюць, рабуюць, гвалтуюць.

Я сказаў пра гэта ксяндзу. Яго парадавала, што я так многа і ўдумліва прачытаў, і ён прапанаваў: ці не хачу я перайсці ў адзіна праўдзівую веру — рымска-каталіцкую? Колькі я ні чытаў, атэістычныя мае перакананні нішто не пахіснула — я ж камсамолец! Адступніцтва ад веры ў праўду камунізму было б здрадай. Адступніцтва ад сваёй веры — забабоны старых бабуль ды паноў. Да таго мне, фантазёру, хацелася хоць маленькага спектакля. Але, бадай, найперш і галоўнай прычынай было пачуццё самааховы, сялянскай хітрасці: мне, бязбожніку, усё роўна, да якой веры фармальна належаць, а гэтым людзям... не толькі сям'і, што прытуліла, усім суседзям, ксяндзу, солтысу, паліцаям, што служаць немцам, усім ім я стану сваім чалавекам: вывучыў мову, прыняў веру... Пан Адам асабіста на брычцы, на якой сам, можа, апошні раз ехаў, калі вянчаўся, завёз у касцёл. На шчасце, дзень быў будні, прыпар — усе ў полі, сведкаў мала, хоць усё ж цікаўныя знайшліся. Была хросная маці — Адамава сястра, якая да таго, наведваючыся, асаблівай увагі да мяне не праяўляла.

Так я прыняў хрышчэнне.

Адносіны да мяне асабліва не змяніліся, хіба Марыся паводзіла сябе весялей і прасцей — па-свойску, быццам я стаў ужо яе мужам ці братам: не пан Ян, а — Янка, Ясь.

Між іншым, адзін чалавек не ўхваліў маю акцыю — лекар Хадыка. «Навошта табе гэта? Навошта блазнаваць? Ты ж атэіст. А вера — справа сур'ёзная».

Адчуўшы сябе здаровым — рана загаілася, я пачаў пакутаваць ад думкі, што дарма ем хлеб добрых людзей. Дзяўчаты робяць ад цямна да цямна, а я Біблію і дзіцячыя кніжачкі чытаю. Напрасіўся з Марысяй у поле — прывезці снапы ў стадолу. Яна вельмі ўзрадавалася. Працавала весела, са смехам. Я шчыраваў перад дзяўчынай, паказваў, што ўмею рабіць сялянскую справу і маю сілу. І, мабыць, ад рэзкага руху варухнуўся мой асколак, і я... страціў прытомнасць. Добра, што гэта было ўжо на сядзібе ля пуні. Смяртэльна напалохаў дзяўчыну. А пасля ёй дастаюся ад бацькі, што ўзяла мяне.

Дарэчы, тады Хадыка выказаў меркаванне, што ў плеўры ці ў лёгкім сядзіць асколак.

«З ім можна жыць сто гадоў. І можна памерці ў адзін міг».

Выявілі асколак толькі пасля вайны — на рэнтгене.

Зноў мяне ўлажылі на цэлы месяц. Зноў хадзілі, як за хворым, можа, яшчэ больш клапатліва. Праўда, у Марысі я адчуў нейкую ледзьве ўлоўную перамену: даглядала яна мяне стаpанна, але як бы добрая сястра міласэрная, а не як каханая. Мабыць, перамагаў у яе сялянскі практыцызм: а ці трэба такі муж, што ад працы траціць прытомнасць?

Праўда, здарылася яшчэ адна падзея, на першы погляд, зусім дробязная, але на самай справе для гэтых людзей істотная.

За вячэрай не Марыся — Юзэфа, старэйшая, больш маўклівая, практычная і ашчадная, спытала: «А калі скончыцца вайна, што ты будзеш рабіць, Яне?» — «Вучыцца». — «На каго?» — «На прафесара».

Марыся засмяялася. А бацька і Юзэфа дзіўна змоўклі. Усё роўна як перад імі апынуўся пан прафесар.

Я пахваліўся, што ва універсітэце, дзе правучыўся адзін год — да прызыву ў войска, меў гонар быць лепшым студэнтам, прафесар матэматыкі прарочыў, што я займу яго месца.

Размова як размова — застольная. Пагаварылі і забыліся. Але праз дзень ці два я выпадкова пачуў, як пан Адам цыкнуў на малодшую дачку:

«Не разяўляй, глупа, рота! Не нашага палёту птушка!»

Зніякавела няшчаснае дзяўчо: не на таго хлопка кінула вока — на прафесара! Пачала заўважна аддаляцца, уступаючы месца каля хворага сястры. Хоць аднойчы ў моцным парыве абсыпала мой твар пацалункамі. Але гэта было развітанне — з каханнем, з надзеяй сваёй дзявочай.

Мне было горка і балюча, але сваім матэматычным розумам я ўсведамляю: так лепш, бо застацца тут і не здолею, толькі акрыяю — і ў дарогу: да маці, да бацькі, да сястры. Сэрца рвалася дадому. Паслаць вестачку не ўдалося — ніякай жа пошты.

Пайшоў я дадому толькі ў верасні ў хмурны асенні дзень. Мяне апранулі ў цывільнае, цёплае, сабралі харч. Развітанне было цяжкае. Спачатку нават спрабавалі жартаваць. Але перад тым як выйсці з хаты, не вытрымаў я сам — пусціў слязу. Тады Марыся загаласіла, як па нябожчыку. Бацька цыкнуў на яе: «Сціхні, дурная. Дрэнная прыкмета». А сам выціраў рукавом слёзы. Юзэфа схавалася ў бакоўку.

Гадоў праз дваццаць пяць я паехаў у Польшчу, каб наведаць маіх уратавальнікаў. На падворку знаёмай падноўленай хаты мяне сустрэла Марыся, немаладая ўжо жанчына, і... адразу, уміг, не вельмі ўзіраючыся, пазнала. Прыціснула рукі да грудзей, задыхалася, збялела, прашаптала: «Янэк».

Я не адважыўся абняць яе: каля хлява стаяла маладая Марыся, далібог жа, копія той, што некалі кахала мяне.

Я нізка пакланіўся ёй у знак глыбокай удзячнасці. Яна збянтэжылася. «Янэк, не трэба! — і, каб выйсці з ашаломленасці, клікнула дачку: — Рэню! Тэж есць пан Янэк! Ходзь сюды».

У Рэні была мяккая ручка, не сялянская, яна рабіла настаўніцай. Дзяўчына была цікаўная, гаварыла са мной па-руску. А я па-польску. Марыся са смехам заўважыла, што тады я гаварыў лепш. Безумоўна, забыўся за столькі год.

Марыся звярталася да мяне проста, як да свайго, на «ты», ажно пакуль не спытала: хто ж я цяпер, якую маю прафесію?

«Прафесар». — «О, о!» — і крута павярнула свае адносіны — з асаблівай пашанай і з адзіным зваротам: пан прафесар. Сыну свайму, школьніку, сказала з гонарам за мяне і з папрокам яму: «Янэк! «Ці не ў гонар мой?) Во твой цёзка — ужо прафесар. Пан прафесар. А ты? А ты знаеш, што футбол ганяць».

Для такога госця пані Марыся надзела святочную сукенку. Але гэта, магчыма, сапсавала яе радасць. Муж, пан Станіслаў, калі вярнуўся, паставіўся да мяне калі не варожа, то прыкметна раўніва, чым збянтэжыў і жонку, і дачку, хоць на абедзе частаваў звышгасцінна: піў сам і мяне прымушаў выпіць да дна. Адчапіўся і палагаднеў, калі я

сказаў, што ў мяне дагэтуль над сэрцам сядзіць асколак — ад бомбы першага дня вайны. А ў Марысі ад гэтага паведамлення набрынялі слязамі вочы, і яна не саромелася іх і не хавала.

Ды я доўга не затрымаўся — гадзіны тры, трэба было вярнуцца ў Беласток, каб не адстаць ад сваіх — ад турысцкага аўтобуса.

Марыся перажывала, што мяне не пабачыць Юзэфа: яна замужам у суседняй вёсцы. Бацька памёр тры гады таму.

Чамусьці мне было шкада Марысі, хоць шчасце яе поўнае — муж, дзеці. Але ўвогуле ад кароткай сустрэчы гэтай пасвятлела на душы, быццам я зрабіў нешта вельмі добрае. Таццяна і Лена ўхвалілі мой учынак. Я пачаў слаць сям'і гэтай пісьмы, падарункі. Лена перапісвалася з Рэняй, ажно пакуль абедзве не выйшлі замуж.

...Лекар Хадыка зрабіў мне дакументы — ранены, лячыўся ў мясцовай бальніцы, — каб я мог паехаць дадому поездам. Але пан Адам, добрыя суседзі адгаварылі: здымаюць немцы з паяздоў маладых мужчын і гоняць у Германію, у палон. Быццам пешага не могуць злавіць. Але пешы як бы пад аховай Бога, ён і адзін — у полі воін: такая адвечная псіхалогія селяніна.

Я ішоў па глухіх палявых і лясных дарогах. Начаваў у малых вёсках, дзе не было паліцэйскіх гарнізонаў. Прасіўся ў бедныя хаты, да багатых была не толькі перасцярога, але і класавая нянавісць. Раненаму чырвонаармейцу, які прабіраецца ажно з Польшчы на Міншчыну, спачувалі, давалі начлег, харч, акраец хлеба ці звараную бульбіну на дарогу. Але часам складвалася так, што не было блізка вёскі ці яна не выклікала даверу невядома чаму — чуццё, і тады прыходзілася начаваць у стагах. Прастудзіўся, занямог. Аднак сабраў сілы дацягнуцца да вёскі, папрасіўся ў першую ж хату. Уначы паліла так, што трызніў. Запаленне лёгкіх. Во як шанцуе.

Гаспадары не пабаяліся даць прытулак на ноч. Але калі я залёг, то адчуў, што мяне баяцца, хаваюць у бакоўцы ад людзей. Не тое, што польская сям'я. Свае браткі беларусы. Старыя і два сыны перастаркі, не надта руплівыя да працы — гулякі, з-за чаго бацькі з імі сварыліся. Было гэта ўжо пад Маладзечна, недалёка і дадому. Хлопцы прагаварыліся ці знарок прывялі немца і паліцаяў. Мяне доўга дапытвалі, але, здаецца, паверылі; вельмі ж добра я ведаў і Мінск, і Барысаў, і Талачын, вёскі, станцыі, раз'езды. Адзін паліцай быў барысаўскі. Аднак калі яны пакінулі мяне здыхаць (адзін гад так і сказаў: «Ну, здыхай!»), гаспадар параіў: «Ідзі ваяка, адгэтуль, калі можаш ісці».

Не цвёрда яшчэ трымаўся на нагах, хоць жар за тры дні і атух. Але я пайшоў. Сунуўся, як цень. Больш сядзеў ці ляжаў. За дзень калі праходзіў кіламетраў пяць-сем, то і добра. З вялікай асцярогай

прасіўся на начлег. Але свет не без добрых людзей. Праляжаў у салдаткі Мар'і Наготкі два дні. А на трэці яна запрагла каня і адвезла мяне з Дзянісак у Ганевічы да бацькоў сваіх. А тыя, не доўга думаючы, гэтак жа на возе перакінулі мяне ў Быцічу — да сваякоў. Адтуль гаспадарскі хлопец, вучань, схадзіў у Яміна. Па мяне прыехалі маці і сястра. Знясіленая хваляваннем, маці, як убачыла мяне, то самлела: шкілет. Ледзьве апрытомнела. Загаласіла. Ды яе ўгаварылі: радуйся, што жывы. У колькіх матак не вернуцца сыны!

Падскокіколаў на карэннях лясных дарог білі ў грудзі, пад лапатку вострым болем. Калі праўда там асколак — варухнецца і... Божа мой, дагэтуль помню, як страшна было ад думкі, што магу памерці на вачах у маці, сястры за адзін мой першы пераход да роднага дома. Ніколі так не баяўся смерці. Маці не магла стрымаць слёз, гледзячы на мяне. Ніна лаялася на яе:

«Ды не мокні ты. Жывы ж Ванька! Жывы! А бабуля за ўпакой свечку ставіла. Помніш, як ты сварылася на яе». — «То ж чула маё сэрца». — «То і не плач, мама. На жывой касці мяса нарасце. Мы цябе адкормім, Ваня. Дзякуй Богу, кароўка засталася. І парсючок. Большага фашысты забралі. Цяпер сёлы, што пры чыгунцы, яны не чапаюць».

Ніна гаварыла бясконца. А мне і гаварыць было балюча. Я думаў пра польскую сям'ю, пра Марыю Наготку. Каб не яны! Такая дабрыня ў моры фашысцкага зла, у моры крыві!

Дома хіба адно не падабалася: што бацька па-ранейшаму, як і да вайны, рабіў пуцявым абходчыкам.

«Дык трэба ж жыць, сын», — апраўдальна растлумачыў ён. Розумам маладога філосафа я бадай згаджаўся з гэтай простай формулай: трэба жыць. Трэба! Народ не павінен памерці! Аднак сэрцам я не прымаў працу на немцаў. Каб дзе ў іншым месцы, то прасцей было б прыняць. Але на чыгунцы! Гэта ж памагаць ім забіваць нашых! Вёска наша кіламетры за два ад чыгункі, але добра чуваць, асабліва ўначы, як ідуць цяжкія эшалоны — шыбы трымцяць. З танкамі. З гарматамі. І з ап'янелымі ад перамог забойцамі. У доўгім паходзе маім, нават упачатку, калі было яшчэ цёпла і я пачуваў сябе добра, самае цяжкае і небяспечнае было — перайсці чыгунку, часам ляжаў у кустах дацямна і глядзеў, як імчаць эшалоны. Усё на ўсход і на ўсход! Вельмі мала назад — на захад. Тыя праходзілі неяк непрыкметна, хоць ішлі не парожнія, ніводная адкрытая пляцоўка не пуставала — загружана лесам, ільном, цюкамі, скрынкамі. Немцы — народ практычны: паражняк не ганяюць.

Ды бацьку нашага не пераканаеш, з ім не паспрачаешся. Мацвей Жыгуновіч быў круты чалавек. Яго баялася і маці, і мы, дзеці. Я ад бацькаўскага страху вызваліўся толькі ў дзесятым класе. Неяк ён замахнуўся на маці, каб ударыць яе. Але я схапіў яго за плечы і не мякка пасадзіў на лаву. Гэта яго ашаламіла. Ён, можа, тыдзень хадзіў што ачмураны і толькі пра сябе, у адказ на думкі свае, мацюкаўся: «А ё... тваю маць».

А калі я ўжо ў Мінску вучыўся, маці з радасцю і ўдзячнасцю аднойчы паведаміла мне: «Пасля таго, сынок, ні разу не падняў руку на мяне».

Хварэў я доўга, да зімы. Крывёю харкаў. А гэтага баяліся — сухоты. Суседзі спачувальна ўздыхалі. Маці ўпотай плакала. Бацька панура маўчаў. Адна Ніна шчабятала, што сініца, сяброўак прыводзіла, і яны цешылі мяне, вярталі сілу, перад дзяўчатамі асабліва прагнуў жыць. З першымі марозамі я пачаў папраўляцца. Мёд — на мёд маці патраціла ўсё дабро сваё, пасаг дзявочы — з малаком і з маслам ды песні дзявочыя, смех, іх і мой (з дзяўчатамі мне было весела), закрылі раны ўнутраныя, спынілі запаленне, а крывахарканне, магчыма, асколак даваў. Абвалаклі яго тлушчам і тканкай, і... маўчыць ён больш за паўсотні гадоў. Маўчыць? Ой, як яшчэ крычыць!

Як закрычаў у сховішчы музейным!

Спіць Таццяна, напакутавалася нябога дома, у вагоне — ад няведання. А пагаварыла з Ленай — трохі супакоілася. На нагах Лена. Жартавала нават. Не ведае маці, якая небяспечная яе хвароба. Адзін ён ведае. Ён позна вярнуўся. Таццяна бяскрыўдна ўпікнула: «Ты, Ваня, як быў бадзягам, так і застаўся ім». — «Я ў Хведара быў. Есць што ўспомніць ветэранам».

Пра музей не сказаў. Грамадзянская абарона на гэты раз з'явілася аператыўна, пэўна, добры гвалт узняла Рэгіна. Замералі ў сховішчы — ахнулі. Іван Мацвеевіч паказаў на прыбор пісьмовы: во крыніца! Яго бесцырымонна выставілі. Увесь персанал выгналі, хоць на паверхні, у залах фон быў дапушчальны — маскоўскі.

Іван Мацвеевіч прынёс паказанні лічыльніка генералу-фізіку. Разам лічылі — фізік і матэматык. Колькі Лена працавала ў сховішчы? Тры месяцы. Схапіла немалую дозу, але, па іх разліках, несмяртэльную, калі раней не набірала, дзесяць гадоў робіць у гэтым музеі.

У размове з Хведарам і ён трохі супакоіўся. Але сон не прыходзіць. Не да сну. Баіцца паварушыцца, каб не разбудзіць Таццяну. Але забалелі ўжо і бок, і плячо. Ціхенька споўз з ложка. Сеў у крэсла. Ды ў адной бялізне холадна. Надзеў світэр і пінжак.

Чаму ўспамін папоўз здалёк — з пачатку вайны? Ды не ўспамін гэта: канспектыўна «прачытваў» тое, што запісаў яшчэ гадоў дваццаць таму. Усю эпапею сваю запісаў, акрамя... працы над падарункам. Чаму гэта стала тайнай нават ад жонкі? Больш — ад самога сябе. Сёння хто іншы на гэтым нажыў бы капітал.

Рукапіс чыталі блізкія, калегі з універсітэта, хвалілі. Але аддаць у выдавецтва так і не адважыўся. Раздаваў карціны знаёмым. Прапаноўвалі выстаўкі ў актавай зале універсітэта. І таксама не зрабіў. Пабаяўся? Не. Проста не надаваў значэння. Аматарскае мастацтва! Кандыдата, прафесара матэматыкі. Толькі яго паркавыя скульптуры цяпер на людзях. Але яны ананімныя, толькі блізкія людзі знаюць аўтара.

«Прачытаў» я сапраўды канспектыўна. Пра сям'ю пана Адама, пра Марысю напісаў многа, падрабязна. Знаёмы пісьменнік хваліў: «Не новы сюжэт, але ў вас гэта зроблена псіхалагічна дакладна». Не зроблена — перажыла. Перажыта! І паход свой з Беласточчыны на Міншчыну падрабязна апісаў, бо перажыў.

А хваробу — коратка, бадай, так, як толькі што прачытаў. Дзіўна — чаму? Хваробу так востра не перажыў. «Што ж, калі не спіцца, чытай, Іван, далей. Да кульмінацыі. Да падарунка чытай. Да яго, па сутнасці, і напісана, хоць пра яго — ні слова. Нават першы ўзрыў я не напісаў. Не бачыў яго. Але ж расказвалі — Бясперстаў, біёлагі, што прывезлі малпаў і сабак.

«Не забі». А як не забіваць, калі мяне забівалі сто разоў? Чужыя, ворагі... І свае — тыя, каго я славіў. О, як я славіў яго! Як славіў!..

Акрыяўшы трохі, я знайшоў сабе занятак: пачаў выразаць лыжкі і міскі, гэтым некалі займаўся мой дзед, ад яго разцы засталіся. Спачатку разьба была як забава, але потым пачалі прасіць суседзі выразаць ім. А ці нельга за лыжкі і міскі выменяць соль? Соль была найбольшай праблемай. Нінка панесла вырабы на станцыю да паяздоў. Пайшлі. Для немцаў гэта была экзотыка — драўляныя лыжкі. Куплялі тыя, што ехалі на фронт, і асабліва раненыя, якія вярталіся дадому, — рускія сувеніры! Нінчыны расказы штурхнулі на думку: выразаць не толькі лыжкі, але і вобразы казак — людзей і звяроў. Думка была правільная. Цацкі гэтыя проста выхаплівалі з рук. Не толькі соль і запалкі, але і кансервы з'явіліся ў хаце.

З бацькам я разы два пасварыўся за тое, што ён хваліў немцаў, іх акуратнасць, гаспадарлівасць. А ў снежаньскі вечар, у мароз і завею вярнуўся бацька з дзяжурства, узбуджаны нейкі, доўга перад грубкай цёр азяблыя рукі, а потым кажа, як бы між іншым, як нязначную падзею, без эмоцый: «Далі ім па мордзе». — «Каму?» —

спытала маці. А я адразу здагадаўся каму, і сэрца маё пусцілася ў скокі: «Каму-каму... Ім. Пад Масквой. Яны хваліліся: у Маскву ўступаюць. У біноклі Крэмль разглядалі. А ім — па біноклях, па біноклях... Гоняць эшалон за эшалонам раненых, абмарожаных...»

Нінка ад радасці запляскала ў далоні. Але бацька цыкнуў на яе. Бацька гаварыў так, быццам яму шкада было раненых і абмарожаных. Аднак я, адзін я злавіў радасць у гэтым знешне абыякавым паведамленні.

Дык вунь ён які, мой бацька! А што тут дзіўнага? Інакшым і не мог быць сумленны працаўнік. Гэта табе не паліцай Боўда, якога да вайны двойчы судзілі — за зладзейства і за хуліганства; ён і цяпер, узброены, не прасыхае ад самагонкі і «чэша рукі» — б'е кожнага, хто, здасца яму, няласкава паглядзіць на яго — ці то малы, ці дзяўчына, ці стары. Яго баяцца, за сто крокаў шапкі здымаюць, бо такі шалёны і стрэліць можа. Хто яго асудзіць? Ён і да мяне прыходзіў, правяраў, ці сапраўды я ранены і хворы, загадаў рану паказаць.

«О, дык загаілася ж ужо!»

«Зажыло, а крывёю харкаю, — паказаў акрываўлены ручнік. — Доктар сказаў: асколак астаўся ў лёгкім».

Такое раненне зрабіла на яго ўражанне. Адчапіўся: крывёю харкае — не жылец, можна не сачыць за гэтым грамацеем; Боўда асабліва не любіў адукаваных, усе настаўнікі для яго былі супастаты праклятыя. А пад Новы год бацька прынёс яшчэ адну навіну — радасную для мяне: недзе пад Слаўным пусцілі пад адхон нямецкі эшалон. Бацька сказаў гэта без радасці — спалохана і з асуджэннем партызан: «Што яны даб'юцца гэтым? Выганяць нашых з чыгункі. Ахову паставяць». — «Каля кожнага слупа не паставяць. Немцаў не хопіць».

Бацька ўзлаваўся: «Немцаў не хопіць, боўдаў набяруць».

«Боўда павартуе», — не я сказаў — маці, пад смех Нінкі.

Бацька мацюкнуў нас: «Асталопы цара нябеснага!»

Спушчаны нямецкі эшалон моцна ўсхваляваў. Ёсць жа людзі, што і тут змагаюцца з ворагам! Ёсць! Пра партызан у вёсцы гаварылі і раней. Але дзе яны? Хто яны? Як ваююць? Кажуць, недзе паліцаяў пастралялі. Ды што — паліцаі! А тут — цэлы эшалон. Пад адхон! У снег! Можа, з танкамі, з гарматамі. Сабяры іх цяпер, адрамантуй. А калі з салдатамі, то не ўсіх і адрамантуеш. Ды і чыгунка не на дзень спыніцца. А там, пад Масквой, іх гоняць і ім — ой, як трэба падмацаванне.

І пачаў я думаць: як жа мне хоць чым памагчы партызанам? Пакуль я цешу немцаў — звяркоў і смешных мужыкоў і кабетак прадаю. З маім здароўем пасярод зімы ў лес не пойдзеш — няма чаго і думаць.

Думаў, думаў — і прыдумаў. Талент свой выкарыстаў. Я ж не толькі ўмеў выразаць, але ўмеў і намаляваць. Гэтым вызначаўся ў школе, і ва універсітэце, і ў войску. У школе ў мяне і мянушка была «Мастак», і настаўнік літаратуры агітаваў у мастацкае вучылішча пайсці. Ды перамог матэматык — даказаў, што маё прызванне матэматыка, а ўсё іншае — забава. Сапраўды, што за прафесія — маляваць. Бацька мой плюнуў бы, каб я сказаў, што хачу вучыцца на скульптара ці жывапісца.

Асабліва добра я навучыўся маляваць таварыша Сталіна. Без узору. Па памяці. Любым матэрыялам — алоўкам, фарбай, вуглём. Ува ўсім палку, у кожным ленінскім кутку, у сталоўцы, у вучэбных залах віселі партрэты ў маім выкананні. І Сталін на іх — як жывы: такой была вышэйшая ацэнка сяброў — чырвонаармейцаў. Мяне хвалілі, узнагародзілі гадзіннікам, давалі ўвальніцельныя ў Ломжу — «патанчыць з полькамі».

Вось гэтае сваё ўменне я і выкарыстаў для барацьбы. Намаляваў партрэт правадыра на фанеры. Панёс у мяшку на станцыю і незаўважна прыбіў на вагон эшалона, што ішоў з фронту, гэтыя эшалоны не ахоўваліся. Наступала ноч. Пакуль раніцою немцы агледзяцца — колькі нашых людзей убачаць Сталіна! І як узнімецца іх дух! Сталін з імі! Сталін едзе праз усю захопленую ворагам зямлю! Во якую сілу ён мае! Дрыжыце, ворагі! Радуйся, народ заняволены!

Праз тыдзень паехаў партрэт на ўсход: няхай знаюць людзі, што Сталін усюдыісны, што ён можа прыйсці да іх з любога боку. З Масквы, з фронту, з тылу, з лесу, з поля. І з неба.

Мне здавалася, што я раблю Бог ведае што — пераварот у галовах людзей і ў душах іх.

І так колькі разоў.

А пасля зрабіў глупства. Не стрымаўся ад спакусы прыбіць партрэт на нашай станцыі — на пакгаузе.

Бацька вярнуўся з абходу пасярод дня, задыханы, зялёны, з натапыранымі вусамі, з шалёнымі вачыма. Ускочыў у хату і адразу да мяне — схапіў загрудкі:

«Ты павесіў гэтага вусатага чорта? Ты?!»

Задыхнуўся я — ад абразы за Сталіна. Каб мой бацька ды гэтак пра бацьку ўсіх народаў! Жах! Паўтарыць немагчыма. Ніхто з савецкіх людзей не паўторыць. Ашаломлены, я не адразу здолеў штосьці адказаць. А бацька не крычаў — ён шыпеў, да смерці напалохаўшы маці: «Асталоп! Дурань! Што ў тваёй галаве? Мякіна! Стружка во гэтая з-пад разца! Стружка! Ці падумаў ты, бараняя галава, што ўсё сяло знае, што адзін ты, багамаз няшчасны, умееш

так маляваць свайго бога? Усе боўды знаюць! Усе боўды! Чакай — з'явяцца. Ёсць яшчэ мазня твая?»

Маці, напэўна, самлела, ногі падкасіліся, бо, спалатнелая, села на ўслон. А бацька ўжо грымеў на яе: «А ты, старая разява, хіба не бачыла, чым ён займаецца? Разьбяр! Разануў дык разануў! Усіх нас!»

Абураны і абражаны за «чорта вусатага», я зніякавеў, бо раптам дайшло да мяне, што зрабіў глупства: сапраўды, усе, хто хадзіў са мной у школу, зналі, што толькі я ўмею так намаляваць. Падстаўляў і сябе, і сям'ю: бацьку, маці, Нінку ды яшчэ, можа, і сваякоў — братоў стрыечных. Убачыўшы, што я скіс і не лезу ў бутэльку, бацька патушыў гнеў, сказаў са знявагай, як гавораць з дурнямі: «І чаго ты дамогся? Пабачыў бы. Яны пад рогат расстралялі твайго важдя. Зрашэцілі яго. І вусы. І вочы. Адны дзіркі засталіся».

Гэта па-іншаму ашаламіла: «Сталіна расстралялі. Я падставіў яго. Я... Які жах!»

Але тое, што расстралялі немцы, паліцаяў нікога не было, пэўна, ратавала нас, хоць п'яны Боўда, сустрэўшы мяне на вуліцы, пагрэзіў кулаком і сказаў, што адзін ён ведае, чым я займаюся.

Больш я партрэтаў не пісаў і ўвогуле нічога не маляваў, алоўкі і фарбы схавэў.

Выразаў вавёрак і мядзведзяў.

Толькі праз паўгода, у атрадзе, агледзеўшыся, што ў партызан, у камандзіра атрада ў зямлянцы толькі газетны партрэт, намаляваў ім вуглом на палатне ажно два партрэты вялікага палкаводца, маляваў з уздымам, з радасцю, што звязаўся з партызанамі і атрымаў свабоду творчасці; гэта, можа, лепшыя працы мае былі, шкада, што вугаль нетрывалы матэрыял.

З партызэнамі я звязаўся праз Нінчыных сяброў — школьнікаў учарашніх. У маі Валодзя Лях завёў мяне ў атрад — ажно пад Палік. Ды камандзір Пятро Сяргеевіч Баравік расчараваў і... узрадаваў мяне. «У атрад мы цябе залічваем. Але заданне табе асобае — ідзі дадому і ўладкуйся на чыгунку рамонтным рабочым. Памагай бацьку. Мы будзем узрываць — ты будзеш рамантаваць». Узрадаваў, што ведае бацьку майго, і сказаў пра яго без іроніі, сур'ёзна: «Памагай». Не пуці ж вартаваць для варожых эшалонаў трэба памагаць. У іншым, у іншым — у справе партызанскай. У якой — скажуць. Не спяшайся, Іван! Няхай партызаны ўзрываюць, а ты рамантуй... Рамантуй!

І ўсё? Ніякага баявога задання! Хіба не расчараванне? Але якое заданне можа быць таму, хто яшчэ ніхто?

У рамонтнікі не так проста было ўладзіцца. Каб не стаpанне абходчыка Мацвея Жыгуновіча, то яшчэ невядома, ці ўзялі б. Брыгада

была немалая — чалавек дваццаць. Майстра — немец Рольф Дорман, асілак з выгляду і заяц у душы. Ён ненавідзеў нас, беларусаў, у кожным бачыў ворага, але баяўся, а таму толькі ў выключных выпадках праяўляў уладу, за нядбайнасць, ленасць пагражаў адной карай — адаслаць у фатэрлянд, там, маўляў, нас, дзікуноў, навучаць працаваць. Паездка на месца падрыву чыгункі партызанамі наганяла на яго панічны страх, ён рабіўся ціхі і добры з намі, арбайтамі. Больш за ўсё ён баяўся паездак на адкрытай мотадрызіне. І гэта было як прадчуванне. Праз год, вясной сорак трэцяга, дрызіну такі абстралялі, калі мы ехалі да ўзарванага састава. Дзіўна, што раней за нас прыехала ахова — венгры. Іх прапусцілі. А па нас — аўтаматны агонь. Колькі чалавек, маладзейшых, я ў тым ліку, адразу скочылі і скаціліся на другі бок насыпу. А Дормана і старога рамонтніка Кузьму Марціновіча літаральна зрашэцілі кулямі. Во так яно было: можна загінуць і ад фашысцкай шыбеніцы, і ад партызанскіх куль.

Напачатку заданне мне было «дзіцячае», ва ўсялякім разе, так мне здалося, так я назваў яго: лічыць саставы, больш дэталёва тыя, што ішлі на ўсход, з падлікам грузаў на адкрытых пляцоўках — танкаў, гармат, машын, — з дагадкай, па магчымасці, што ў закрытых вагонах. З тых саставаў, што ішлі назад у Германію, асаблівая ўвага — санітарным. Відаць, я нядрэнна выконваў сваё заданне, бо сувязны Валодзя Лях колькі разоў перадаваў мне падзяку ад партызанскага камандавання. Здагадваюся, што найбольш ім падабаліся мой аналіз графіка руху паяздоў і сістэмы аховы і саміх паяздоў, і чыгункі, я, мастак-назіральнік і логік-матэматык, даваў больш, чым патрабавалася ад разведчыка рангу рамонтніка. Не падабалася мне, рамантыку, што ў выкананні такога задання не было ніякай рызыкі: рамантуй пуці, мяняй шпалы, рэйкі і лічы, запамінай, а памяць на лічбы я меў адменную: не маючы запісаў, я мог успомніць за два-тры дні паўсотню саставаў: які што вёз, колькі танкаў, гармат, ды і шмат якія нумары, надпісы крэйдай, прычым расшыфроўваў гэтыя надпісы.

А пасля не Валодзя, другі партызан, камандзір групы падрыўнікоў, пазнаёміўся з ім у атрадзе, перадаў мне дзве міны — магнітныя. «Пастарайся — пад бензацыстэрну. Такі ўзрыў спаліць увесь састаў».

Такое заданне ўсхвалявала, прымусіла паварушыць мазгамі. Як яе прыляпіць, міну? Не перагоне не «прыклееш». На нашай станцыі паязды спыняліся рэдка, часцей чамусьці тыя, што ішлі ад фронту — паражнякамі, санітарныя. Спыняліся ў Крупках. Але там — участак іншай рамонтнай брыгады. Паміж кіраўнікамі брыгад былі дзіўныя адносіны. Нельга сказаць, што Дорман не любіў майстра Грубера.

Немцы на службе не могуць не любіць адзін аднаго: служба, ды яшчэ ваенная, — святое для іх. Грубер быў інжынер і афіцэр, герой вайны — ранены яшчэ ў Францыі. І тут быў залішне смелы: не баяўся смерці. Грубер быў маставік, пантоншчык, а не чыгуначнік, таму лічыўся з Дорманам, які чвэрць стагоддзя прарабіў на пракладцы чыгуначных пуцей. Дорман у сваю чаргу захапляўся Груберам — лічыў за гонар сябраваць з інжынерам, героем, але і ненавідзеў яго: баязлівец заўсёды ненавідзіць смельчака.

Сустракаючыся на стыку ўчасткаў, немцы любілі пагаварыць. Грубер не лічыў за прыніжэнне атрымаць кансультацыю ў старога рамонтніка. Гэта цешыла самалюбства майстра. Інжынер падносіў старому падарункі — «рускія сувеніры», самыя нечаканыя: біклажку, берасцяную конаўку, ручнік, вышываны пояс. А ў Дормана не хапала фантазіі — чым аддарыць.

Я выразаў Несцсрку, а бацька сплёў лыкавыя лапці. Бацька трохі з трывогай пасміхаўся: «Не здагадаецца, што мы хочам абуць яго ў лапці?»

Лапці Дорману асабліва спадабаліся, магчыма, і ён у падарунак укладаў асаблівы сэнс. Самае цяжкае было ўгаварыць старога адвезці падарункі, я намякаў, што пану капітану будзе прыемна, калі ўручэнне адбудзецца не пры выпадковай сустрэчы, а пры гасцявым візіце. Дорман баяўся паездак на дрызіне. Але ўчастак трэба аглядаць часам і самому — не спадзявацца на рускіх, ён не думаў, што хтось з нас звязаны з партызанамі, але гультаямі і няўмекамі лічыў.

Паехалі ўчатырох, меншай колькасцю людзей не падужаць саставіць дрызіну з рэек, калі будзе ісці поезд. Чацвёрты — ахоўнік венгр, я падбіў яго, ведаючы, што хлопец мае на станцыі каханку. У Васіля Стральчэні ў Крупках жылі бацькі. Патрэбна брыгада, якая распаўзлася б, каб я адзін застаўся на станцыі — вартаваць сваю дрызіну. У мяне была скрынка з ключамі, гайкамі, там, загорнутая ў паклю, ляжала міна. Механізм яе быў настроены на пэўны час, здаецца, на гадзіну, яго трэба толькі завесці. Магнітнай яна называлася таму, што прыліпала моцна да металу. Прылажыў — і трымаецца. Зручна.

Майстры яўна частаваліся. Гэта радавала. Але час ляцеў. Адзін састаў праімчаў без супынку. Вярнуўся венгр, аблізваючыся, як кот, што з'еў сала. Але міна ў мяне была пад пінжаком, пакля прамасліла сарочку, халадзіла цела.

Другі састаў спыніўся. Тое, што трэба: чатыры цыстэрны, раскіданыя па ўсім поездзе, побач цыстэрны не ставілі — перасцярога

ад авіяцыйнай бамбёжкі. У мяне закалацілася сэрца. Во ён, мой час баявога дзеяння, помсты не партрэтамі Сталіна — мінай.

Пакінуўшы венгра вартаваць дрызіну, я пайшоў уздоўж эшалона, апранутыя мы былі ў чыгуначныя фрэнчы і мелі павязкі рамонтнікаў. Вартавыя, што саскочылі з эшалона, не звярталі на мяне ўвагу. Але калі я палез пад вагон-цыстэрну, адразу ж: «Цурук!» Не падлезеш, не прылепіш. Што рабіць? Пайшоў далей. Мінуў другую цыстэрну, трэцюю... Не, падлазіць нельга. Але калі паравоз даў свісток, лязгануў тармазамі і вартавыя ўскочылі на падножкі, я сунуў міну з пакляй у башмак, якімі мацуецца цыстэрна. Пакля ізалюе магніт, і ад штуршкоў міна можа выпасці. Але што было рабіць? Непакоіўся, адчуваў нездавальненне сабой. Працейшае заданне не выканаў як мае быць. А на другі дзень «пошта» — нашы людзі, што рабілі на рухомай службе чыгункі, прынеслі навіну: учора на Оршы-таварнай выбухнула цыстэрна з бензінам, пажар перакінуўся на суседнія саставы, станцыя была запоўнена імі, і згарэла мноства вагонаў. Безумоўна, партызаны не спалі і ў самой Оршы, і на перагонах, зрабіць дыверсію маглі іншыя. Але я чамусьці быў цвёрда перакананы, што гэта мая міна, і адчуваў сябе імяніннікам. Ніколі раней не думаў, што задаволенае пачуццё помсты ворагу прыносіць такую радасць. Дома я спяваў, здзівіўшы маму і Ніну: «Чаму гэта ты сёння такі вясёленькі? Самагонкі хапіў, ці што?» — «Бярыце вышэй — спірытусу». — «Табе піць нельга з такімі лёгкімі». Між іншым, пра асколак, што сядзеў у лёгкім, я сказаў маці пасля вайны, калі вярнуўся з Югаславіі.

Нінка, праўда, глядзела на мяне з хітрым прыжмурам вачэй і бадай з крыўдай: здагадвалася, што я зрабіў нешта незвычайнае, гераічнае і ўтойваю, парася, ад яе, яна ж звязала мяне з партызанамі. Няхай ёй пра міны Валодзя скажа. Ды ў хуткім часе яна прынесла з ягад, пад суніцамі, яшчэ дзве міны, але без гадзіннікавага механізма, не магнітныя, кавалкі вугалю; з імі было проста: закінуў у вугальны тэндэр. Толькі выбухі гэтых мін не дакаціліся да мяне. А другая магнітная доўга ляжала ў мяне, закапаная каля станцыі. Урэшце я падсунуў яе пад танк, на пляцоўцы былі два «Фердынанда». Канешне, танкі не вельмі пашкодзіць — не бензін, але калі разарве састаў, і вагоны пойдуць пад адхон... Ды вынікі і гэтай акцыі да мяне не дайшлі. Падзякі я за яе не атрымаў. А за падлік паяздоў, вагонаў, гармат, танкаў і салдат мне дзякавалі. Я разумеў: дадзеныя такія трэба арміі; разведупраўленне Генштаба па крупінках збірала звесткі аб наступленні варожай тэхнікі і жывой сілы.

Мін мне перадалі нямнога, штук сем. Акрамя першай, аршанскай — падрабязнасці, якія прывозілі чыгуначнікі з Оршы, пераконвалі ўсё мацней, што мая спрацавала, — астатнія ўзрываліся невядома дзе. Спакусіўся паглядзець на вынік — падлажыў адну пад стрэлкі на нашай станцыі. Хацеў падсунуць у ахоўнае памяшканне, але пашкадаваў венграў, можа, з-за ўзросту іх, там былі або бязвусыя юнакі, або людзі ў гадах майго бацькі.

Узрыў стрэлак шкоды зрабіў нямнога, наша ж брыгада і адрамантавала гэтыя стрэлкі, толькі Дорман перадрыжэў: ірванула ў яго пад носам. А сваім бяды нарабіў: прыехала барысаўскае СД, учыніла праверку ўсім нашым, хто рабіў на чыгунцы, і пяцярых арыштавала, у тым ліку дзяжурную тэлефаністку Надзю Старавойтаву.

Я лічыў, што арыштавалі невінаватых, і моцна перажываў: падставіў сваіх людзей.

На сувязь са мной прыходзіў камандзір разведкі атрада і таксама не пахваліў за самадзейнасць. Магчыма, пасля гэтага міны мне доўга не перадавалі.

Толькі ўлетку сорак трэцяга, калі пачалася бязлітасная рэйкавая вайна, міны, тол пачалі паступаць, што з канвеера. Але я паспеў толькі некалькі «вугальных» закінуць у тэндэр. Нашу дзейнасць перапынілі: на працягу двух-трох дзён усіх чыгуначнікаў, беларускіх, рускіх, арыштавалі. Следства не вялі, не судзілі, у турму не садзілі, не расстрэльвалі. Адразу пагрузілі ў загатаваныя вагоны і пагналі ў Германію, як палонных. І бацьку майго, і мяне. У адным вагоне ехалі. Але ў Германіі нас разлучылі. Там я бачыў яго апошні раз. Разлучылі неяк так, што мы нават не развіталіся. Пастроілі на нейкай станцыі. Прайшоўся афіцэр уздоўж шарэнгі, тыцкнуў пальцам у грудзі і па-руску: «Ты... ты... ты... Выйсці са строю. Налева. Шагам марш!»

Строй самкнуўся, і я, азіраючыся, не ўбачыў бацькі, каб хоць вачыма развітацца. Дзе ён загінуў? На чыгунцы? У шахце? Ад чаго? Можа, ад сваёй бомбы ці англійскай, амерыканскай.

Я напісаў у нямецкае пасольства, у нямецкі Чырвоны Крыж. Чакаю. Спадзяюся. Маме перад яе смерцю паабяцаў знайсці магілу бацькі. Ды тады надзеі было мала. Цяпер больш — немцы лезуць у сябры. О, знаю я гэтых сяброў! Без выгады сабе яны нічога не зробяць. Ім трэба нашы багацці. Не ўзялі зброяй — возьмуць «дабрачыннасцю». Учора хораша сказаў Хведар Ананчанка: «Калі дэмакраты называюць гэта рэвалюцыяй, то я — контррэвалюцыянер!» А войны страляюць. І гарачыя, і халодныя. Якая стрэліла ў Лену? Дачушка мая родная, мы хацелі адпомсціць яму, а выйшла во як. Бумеранг. «Не забі». Каго? У «Вайне і міры» непраціўленец Талстой не

мае літасці да прышэльцаў Напалеона. Тым больш не магло быць літасці захопнікам Гітлера. А яму, хто пазбавіў нас, шчырых змагароў за Айчыну, волі? Хіба да яго магла быць літасць? Іван, не карай сябе, не карай! Думаў жа: усё перажытае стала далёкай гісторыяй. Дзяржаву, за якую пралілі столькі крыві, разбурылі. Ажно не — мінулае жыве. «Падарунак» наш жыве. Як спалохаліся супрацоўніцы! З пажару так не ўцякаюць. Грамадзянская абарона разгубілася. «Дзед! Табе што, памерці хочацца?» Я не памёр тады. Ліха мяне не возьме і цяпер. Хведар падлічыў: смяртэльная доза па-ранейшаму паўтары тысячы гадзін. Што хлопцы ўплавілі — загадка. Колькі гадзін перад ім прасядзела Лена? Рыхтавала каштоўнасці на продаж. Каштоўнасці... такі прыбор — каштоўнасць... Каштоўнай яго зрабіла мая разьба. З якім імпэтам я працаваў! Як стараўся! Падарунак бацьку роднаму — ад удзячных вязняў!..

Івану Мацвеевічу стала холадна ў ногі — сядзеў у крэсле ў адных кальсонах. Штаны ў шафе, а дзверы, помніў, скрыпяць, разбудзяць Таццяну, няхай паспіць. Ёй, як нікому, патрэбна сіла. Пакуль Лена ў бальніцы, яна не паедзе дадому. А хіба ён паедзе? Не пакінеш жа Лену ў такім стане. І Жанну. Ёй трэба вучыцца. Сцягнуў з ложка сваю коўдру, каб накрыць ногі; калі астынуць, яны пакутліва баляць, дома з восені да вясны сядзіць у валёнках, з чаго нават Таццяна часам кпіць: «На дварэ цяплынь, а ты ў валёнках».

Толькі крануў коўдру — і Таццяна прачнулася.

Гарэў вулічны ліхтар, і праз штору цадзілася святло. Убачыла яго ў дзіўным убранні — у світэры і ў кальсонах, не здзівілася.

— Ты не засынаў?

— Засынаў.

— Ты не хроп. Пра што ты думаеш?

— Я чытаў сваю споведзь.

— Што? — здзівілася і тут жа схамянулася, зразумела, што ён мае на ўвазе, успомніла, як пакутаваў ад бяссонны, калі сачыняў жыццяпіс свой, які так і не адважыўся паказаць суддзям з выдавецтва, хоць знаёмы пісьменнік, адзін з чытачоў рукапісу, настойліва рэкамендаваў: «Жывая ж гісторыя — лёс чалавека». Таццяна разумела мужа, але ўсё роўна ёй стала бы крыўдна, што ў такую ноч ён чытае сваё жыццё.

— Пра што ты думаеш?

— А я сніла дзіўны сон. Бачыла Ванечку. Ён ішоў па пустынным беразе мора. Адзін. Там, дзе ён ішоў, мора было ціхае... А наперадзе яно бушавала, кіпела, залівала ўвесь бераг. І ён ішоў туды, у гэты

кіпень, у буру. Я бегла за ім, я крычала, але ён не чуў, не азірнуўся. Ваня! Што з ім там, у той Аўстраліі?

— Нічога з ім там. Жыве з бацькам.

— Я не хачу прызнаваць яго бацькам. Недарэмна я супраць была... Гэта праз яго Лена. Праз яго!

— Я ж табе сказаў прычыну яе хваробы. Хведараў дазіметр — дакладнейшы апарат.

— Божа мой! Дзікая фантастыка!

— Дзікая.

Увечары, вярнуўшыся ад Ананчанкі, ён расказаў жонцы і ўнучцы і пра дыягназ, і пра тое, што выявіў прадмет выпраменьвання. Аднаго не сказаў: што і Хведар Ананчанка, і сам ён, і акадэмік Бясперстаў, і Махлін маюць дачыненне да стварэння гэтага «падарунка» правадыру. Не мог сказаць. Ці адважыцца калі-небудзь сказаць? Што стрымлівае? Не зразумеюць? Што нехта патрабуе пакаяння? А ён не можа каяцца. Грэшнік — па законах евангельскіх? Грэшнік, безумоўна. Але гэта асаблівы грэх. Гэта не проста помста. Гэта — жаданне вызваліць мноства іншых людзей ад таго няшчасця, што ўгатавалі яму, ад такога ж лёсу іншых, хто нявінна нёс страшны крыж.

— Ляж. Паспі. Можа, чуючы тваё дыханне, і я засну. І... не «чытай», калі ласка.

Не. Не буду. Не засну — буду «пісаць».

— О Божа! Што за чалавек! Ён яшчэ можа жартаваць.

— Я не жартую, Таня. Я не жартую. Хіба да жартаў!

Мяне загналі ў паўднёвую Аўстрыю. У Гайтальскіх

Альпах немцы будавалі падземны завод. Англійская і амерыканская авіяцыя заганяла фашыстаў у падзямелле, па наземных заводах, асабліва авіяцыйных, наносіліся знішчальныя ўдары, высадка саюзнікаў у Італіі наблізіла іх аэрадромы.

Які завод будаваўся — зняволеныя не ведалі, адны казалі — авіяцыйны, другія — па вытворчасці бомбаў і снарадаў, трэція — нейкай новай смяртэльнай зброі. Хадзілі страшныя чуткі, у якія нельга было не верыць, што, калі «карпусы» будуць высечаны ў гары, будаўнікоў-вязняў знішчаць, абсталяванне будуць ставіць самі немцы. Было ўжо так. Пра гэта расказвалі французскія ваеннапалонныя. На будаўніцтве завода ў Баварыі знішчылі ўсіх рускіх, палякаў і югаславаў. Літасць мелі толькі англічане і французы.

А ў Альпах сабралі інтэрнацыянал. Нямала было немцаў — антыфашыстаў, яны якраз былі найбольш дасведчаныя. Ахова эсэсаўская, але маладая, і асобныя хлопцы спачувалі суайчыннікам,

па ўзросце — сваім бацькам. Лютавалі яны супраць савецкіх палонных. Ад непасільнай працы і мізэрнага харчу людзі мерлі па дзесятку кожны дзень. Хоць тыя, хто прайшоў праз усе кругі пекла, сцвярджалі, што тут кормяць як нідзе — бульбяны і крупяны суп, кава ячменная, хлеб натуральны, пшанічны, ажно па чатырыста грамаў на чалавека.

Касіла работа ў падзямеллі, дзе ад работы адбойных малаткоў і ад толавых узрываў стаяў пыл, чад, газы. Там жа ў выпрацаваных штольнях — будучых цэхах — і спалі, выбрацца на паверхню было шчасцем, некаторыя па месяцу не бачылі неба і сонца. Катаржна цяжкая праца — нагружаць пароду на машыны і разгружаць яе ў гарах, у цясніне; машыны там, здаралася, пасля дажджу, зрываліся ў прорву, асабліва калі ў небе з'яўляўся паветраны разведчык, тады, дзеля дэмаскіроўкі, машыны паварочвалі ў другі бок — на такую дарогу над безданню, па якой не ўсялякі і пешаход мог прайсці. Але ўсё роўна на вывазку рваліся — на паветра, пад неба, каб пабачыць сонца, дрэвы, траву. На машынах, казалі, і ахова дабрэйшая, не эсэсаўцы, звычайныя салдаты другой катэгорыі — дзяды, пераважна аўстрыйцы, а гэтыя людзі, як мы заўважылі, не вельмі любілі немцаў і спачувалі вязням. Уцякаць спрабавалі менавіта на вывазцы друзу і на пракладцы чыгункі. Чыгунка была яшчэ далёка ад завода, вялі яе ўздоўж горнай ракі. Уцекачоў, якіх лавілі, расстрэльвалі перад строем. Але ніякая кара не спыняла. Некаторым шанцавала. Памагалі горы, у гарах знайсці чалавека гэтак жа цяжка, як у беларускім лесе. Воля мацней за страх смерці. Ды ўрэшце лепш злавіць кулю, адчуўшы сябе вольным, чым чакаць, калі цябе павядуць на бойню, як жывёлу. На тым заводзе ў Баварыі, пра які расказвалі французы, будаўнікоў-вязняў задушылі газам у падземнай галерэі.

Была адна асаблівасць, якую, магчыма, фашысты лічылі сваёй хітрасцю: брыгады ствараліся з людзей розных нацыянальнасцяў — каб людзі не так хутка пазнавалі адзін аднаго, не размаўлялі, не маглі дамаўляцца. Савецкіх палонных было нямала, але ў маёй брыгадзе — ніводнага. Ды я хутка пасябраваў з югаславамі — сербам Савам Рысцічам і харватам Душанам Цэсарыцам. Немцы не ўлічылі, што я беларус, які валодаў рускай, украінскай, польскай мовамі, сербска-харвацкую разумеў, бадай, з першага дня, праз які месяц і размаўляў нядрэнна.

Мы побач працавалі, побач спалі. Сава нядоўга партызаніў, яго ўзялі, калі ён прыйшоў наведаць бацькоў. Не расстралялі, бо зброі пры ім не было і ніхто не пасведчыў, што ён партызан. Душан Цэсарыц — матрос са Спліта, ён нават не ведаў, з якой прычыны ў адзін дзень

немцы арыштавалі ўсю каманду. Здагадваўся: за тыдзень да гэтага ўначы на рэйдзе каля порта Рыека яны прынялі з лодак невядомы груз.

Югаславы былі хлопцы вясёлыя, кампанейскія, спрытныя і вынаходлівыя. Увосень, калі падземныя вялізныя — ажно рэха шугала ў іх — галерэі былі гатовыя і работы вяліся пад небам, у наваколлі — па маскіроўцы завода, чыгункі і калі, магчыма, набліжаўся апошні дзень спакутаваных будаўнікоў, Сава і Душан расказалі мне пра свой план уцёкаў. Яны ўстанавілі сувязь з шафёрам, які вывозіў друз. Салдат, аўстрыец, але славенец па паходжанні — Грэгар Кош. Як я помню іх імёны, прозвішчы!

Грэгар — малады хлопец, паўгода, як прызваны, і ён ведаў, што такіх, як ён, якія ўмеюць вадзіць машыну, амаль усіх паслалі на ўсходні ці італьянскі фронт; з дому яму напісалі так, што і цэнзура не зразумела, што двое яго равеснікаў і сяброў ужо на небе. А на неба ніхто не спяшаецца, нават сам папа рымскі.

Грэгар згодзен быў дэзерціраваць. Адзін — не ведаў як. Але маючы такіх братоў, як Сава і Душан... Заставалася самае простае і самае складанае — трапіць на яго машыну нагружаць і разгружаць камень.

Душан, які добра валодаў нямецкай мовай, дамовіўся з начальнікам змены банфюрэрам Зігелем. І не друз везці: ехаць на станцыю (чыгунку яшчэ не давялі) па нейкае абсталяванне. Цяжкі груз, таму Зігель згадзіўся пасла́ць ажно чацвярых (чацвёрты француз — Жак Жарсон) і маладога шафёра, каб і ён памог грузіць. І шафёр гэты — Грэгар. Ахоўнік — пажылы немец з аўтаматам. І шафёр узброены. Усё па плане. Акрамя француза. Яго мы не ведалі. Наш? Ці агент аховы СС? Па дарозе, у кузаве, аблапалі яго, каб праверыць, што зброі не мае. Пагрузілі цяжкія скрынкі. Паехалі назад. У пустынным месцы каля пакатай гары, зарослай густой ляшчынай і грабам, у Грэгара «заглох» матор.

Памагалі яму корпацца, заводзіць ручкай, штурхалі машыну. Ахоўнік адчуў нелады, адышоў ад машыны і насцярожана трымаў нас пад дулам аўтамата. Не дурны. Хітры. Як жа яго абяззброіць? Шафёр меў пісталет. Але Грэгар не спяшаўся выкарыстаць яго ці перадаць каму-небудзь з нас употай.

Першы вырашыў выкарыстаць сітуацыю Жак. І ледзьве не парушыў наш план, але ў пэўным сэнсе і памог. Ён прытварыўся, што яму трэба да ветру. Ахоўнік паказаў яму: садзіся на дарозе. Але ён, цнатлівы чалавек, усё ж прысеў за прыдарожным кустом. Доўга сядзеў, крахтаў, лаяўся. А мы заспрачаліся над маторам. І француз,

убачыўшы, што ахоўнік скіраваў увагу на нас, сагнуўшыся, пабег у гусцейшыя кусты.

Ахоўнік без папярэджання, без «хальт» пусціў па ім чаргу. Адну. Другую. Страляў неашчадна. Аўтамат сціх. Скончыўся «стручок». І мы выкарысталі гэты момант: чацвёра навалiліся на яго. Немец не супраціўляўся, толькі вельмі здзівіўся Грэгару: «І ты?»

І жаласліва пачаў прасіць, каб яго не забівалі, што ў яго трое дзяцей і два ўнукі. Забіваць нам не хацелася. Але што рабіць з ім? І з машынай. Душан прапанаваў спаліць. Не, нельга. Дым прыцягне ўвагу. Ды і ў скрынях можа быць тол. Адну адчынілі — балон. Ці не газ для нас? Хутчэй адыходзіць!

Жака раніла ў нагу. Па нагах стары цэліў. Перавязалі індывідуальным пакетам, які меўся ў машыне. Ішоў ён, абапіраючыся на Саву. Душан валодаў аўтаматам.

Ахоўніку звязалі рукі. Задыхаючыся, падаючы, палезлі на гару. Вышэй! Далей! Разбівалі калені. Калючыя кусты раздзіралі адзенне. Але дацямна — асенні дзень кароткі — пагоні не пачулі. Позна спахапіліся немцы. Начавалі на вяршыні гары, голай, пад скалой, што засланяла ад ветру. Дрыжалі ад холаду. Распаліць касцёр не адважыліся. На світанні спусціліся ў даліну, перайшлі горную рэчку. Прамоклі, але ўзрадаваліся: у рэчцы сабакі згубяць след. Наперадзе новыя горы — Карнійскія Альпы. Душан ведаў геаграфію. Ішлі на поўдзень — у Югаславію. І там немцы, але там і партызаны. Хутка пачулі шум самалёта. «Рама». Яўна шукае нас. Добра, што гара лясістая, з валунамі, цяснінамі, было дзе схавацца. «Рама» доўга вісела над гарамі. Але ўрэшце адляцела. Можам ісці далей? Але як?

Адышлі параіцца.

Ахоўнік зразумеў, што вырашаецца яго лёс. О, як ён прасіў нас! Такога малення даравацъ жыццё я не чуў за ўсю вайну. Безумоўна, гаварылі пра яго. Але быў іншы клопат: дзе ўзяць харч? Суткі ўжо мінулі, як з'елі сваё нявольніцкае снеданне. А высока ў гарах людзей нямнога, там ужо снег, пастухі спусціліся ў даліны. Паселішчы, няма сумнення, ёсць каля рэчкі, у міжгор'і. Рызыка вялікая. Эсэсаўцы вызначылі наш маршрут — на поўнач не падамося! — і маглі зрабіць засаду. Але без харчу ў горы не пойдзеш, і так ужо ледзьве цягнулі ногі.

Пайшлі Душан і Грэгар. З пісталетам. Салдат і палонны — па выглядзе і адзенні відаць. Якую легенду яны прыдумаюць? Мы, чацвёра, хто мог сказаць па-сербскахарвацку, доўга ламалі галовы. Ды ўрэшце згадзіліся, што загадзя нічога не прыдумаеш. Усё будзе залежаць ад абставін, ад тых людзей, якія сустрэнуцца, у якіх мусяць прасіць хлеба. А яго трэба нямала — на шасцярых.

Ляжалі на ўзгор'і, у залатых кустах, елі нейкія позняя ягады, горкія, назвы якіх не ведаў і Сава, немец нешта паслужліва тлумачыў, ды яго разумеў хіба француз, які з нянавісці да ўсіх немцаў ці з помсты за рану сваю патрабаваў ахоўніка адаслаць не неба: так і паказаў жэстамі — у зямлю і ў неба. Немец баяўся француза і чамусьці гарнуўся да мяне, пэўна, адразу зразумеў, што я быў супраць таго, каб застрэліць яго. Мне сапраўды шкада было гэтага чалавека, равесніка майго бацькі, калі не старэйшага. Я лёгка падкладваў пад вагоны міны, ад якіх маглі загінуць не толькі акупанты, але і нашы, такія рамонтнікі, як я сам. А расстраляць чалавека ва ўпор не мог. Каб жэрабя, крый Божа, выпала мне, то, далібог жа, я не здолеў бы пакараць таго немца, хоць многія ахоўнікі былі звярамі, іх ненавідзелі. Ды гэтага, акрамя Грыгара, ніхто з нас не ведаў, ён з другой каманды. Але ж, відаць, надзейны, што паслалі яго. З якой лютай зацятасцю страляў у француза! Ажно не разлічыў запас «стручка». Не дзіва, што Жак гатовы прыкончыць яго.

У небе зноў загуло, але ў гэты раз многа матораў. З хмарамі ішлі на поўнач англійскія ці амерыканскія бамбардзіроўшчыкі. З Сіцыліі? З Егіпта?

Немец цяжка ўздыхнуў і вынес прысуд рэйху, Гітлеру адным словам: «Капут».

Капут, безумоўна. Але колькі яшчэ пральецца крыві, калі будуюцца падземныя заводы; нямецкае радыё абвяшчала пра новую зброю, якая спапяліць і бальшавікоў, і заходніх плутакратаў.

Чакалі хадакоў мы доўга — да паўдня. Нерваваліся. Помню: мяне проста калаціла. О, такія перажыванні і за паўстагоддзе не забываюцца. Яшчэ б! Атрымаць волю і тут жа страціць яе... Сказаў Саве, што жывымі не здамося. Ён узлаваўся, вылаяў мяне: пра што я думаю, панікёр? А яшчэ савецкі! Якой высокай думкі серб быў пра савецкіх! Ён паводзіў сябе спакайней за ўсіх. Дзіўна, але найбольш хваляваўся немец. Разважыў стары: удача зробіць нас добрымі. Пры няўдачы з ім, палонным, не стануць важдацца.

Невытлумачальна паводзіў сябе француз: ён ціха спяваў мілагучную песню. Пра каханую? Пра маці? Пра радзіму? Такую форму заспакаення я пачуў пазней у нашым лагеры: спяваў спакутаваны народны акцёр, часам яго каралі за гэта, часам, на здзек, прымушалі заспяваць на поўны голас — перад строем, а голас яго для такога спеву даўно адняло — запаленне звязак. Артыст плакаў, і я плакаў ад такога садысцкага пакарання.

Сава адвёў нас вышэй на гару. А сам з аўтаматам вярнуўся ўніз чакаць правіянтнікаў. І яны вярнуліся, Душан і Грэгар. З пажывай.

Прынеслі хлеб, брынзу і віно... Нават віно! Ім пашанцавала. Яны набрылі на адзінокую ферму. Легенды не спатрэбілася. Да гаспадароў, відаць, не першы раз наведваліся вось такія бедачыны, што ўцякалі з палону да югаслаўскіх партызан. А магчыма, што і самі партызаны заглядвалі сюды — у гарах жылі славенцы.

Паелі — і ў дарогу. Ноч захапіла на перавале, голым, што бубен, ледзьве знайшлі нейкую шчыліну, каб схавацца ад ветру. Душан прапаноўваў забраць у немца шынель, каб ухутаць раненага Жака. Сава, я і Грэгар не згадзіліся замарозіць старога. Грэлі Жака сваімі целамі.

Раніцой зноў вырашалі лёс немца. Навошта лішні рот? Харчу на адзін дзень, не больш. Большасцю галасоў вырашылі адпусціць — грэх на душу не браць, няхай яго караюць эсэсаўцы за тое, што, маючы аўтамат, даўся ў рукі бяззбройным вязням.

Грэгар наладзіў яму допыт: дакладны адрас, імёны жонкі, дзяцей...

«Навошта?» — «Пашлём вестачку, дзе мы цябе закапаем».

Упаў на калені, прасіў літасці. Забава са смерцю не спадабалася нават Жаку, які адзін быў за расстрэл. Француз меў злосць на немца большую, чым я, хоць у яго краіне акупанты так не зверствавалі, як у Беларусі.

Грэгар абвясціў прысуд:

«Адпускаем цябе, стары, чорт з табой. Але калі ты павядзеш эсэсаўцаў па нашых слядах, мы цябе і ў тваёй Саксоніі знойдзем, дачок тваіх знойдзем. Мы туды прыйдзем — усе: рускія, французы, сербы, славенцы, чэхі... І будзе вялікі суд. Над Гітлерам вашым, над СС, СД і над усімі, хто служыў ім з сабачай вернасцю. Ідзі, стары заяц! Шынель пакінь нам. Табе бегчы будзе цёпла».

Немец шынель зняў спрытна, але не адразу крануўся з месца. Не паверыў? Ногі адняло? Ці баяўся, што стрэлім у спіну?

Урэшце пайшоў, як цяжкахворы, хістаючыся, уціснуўшы галаву ў плечы, не азіраючыся. Але калі адышоў, спусціўся па адхоне гары, зайшоў за скалы, кінуўся, што той заяц, з падскокам, толькі шапка вынырвала на ўзвышшах.

Мы смяяліся — усе, нам стала хораша, што даравалі чалавеку жыццё. Пасля бачыў сотні разоў, як лёгка яго забіралі, гэты найвышэйшы Божы дар... І не толькі на вайне. Не толькі на вайне. Аднойчы і я помсліва радаваўся, робячы такое, што магло адняць жыццё не ў немца, не ў фашыста — у свайго, не чалавека, у бога, на якога маліўся я, маліліся мільёны. За гэта я пакараны? За тую сваю помслівасць? Хто мог падумаць, што знешне бязвінная зброя стрэліць ледзьве не праз паўстагоддзе? Стрэліць у маю дачушку, у маю Леначку.

Але дачытвай, Іван, дачытвай свае блуканні па пакутах. Таня заснула. Не варушыся. Бяжы, ляці па старонках даўняга рукапісу. Пра гэта... пра прыбор гэты ты не пасмеў напісаць. А трэба напісаць. Трэба!

...Пераход быў цяжкі. Жак слабеў, яго пачало паліць. Мы неслі яго на насілках.

У шырокай даліне, густа заселенай, Грэгар і я, выбраўшыся на раздабычу харчу, напароліся на патруль. Ледзьве ўцяклі. На шчасце, гэтыя, відаць, не атрымалі звесткі пра ўцёк цэлай групы з сакрэтнага аб'екта, залішняя засакрэчанасць не давала магчымасці званіць па ўсёй Аўстрыі і ў Югаславію. Нас, напэўна, палічылі за славенскіх ці харвацкіх партызан, якія, як пасля мы даведаліся, часам рабілі набегі на багатых аўстрыйскіх баўэраў. За намі не пагналіся, такія маленькія паліцэйскія пасты жылі па прынцыпе: не чапай партызан — яны нас не будуць чапаць, возьмуць харч і палезуць у горы.

Але як яго ўзяць, харч? А галодным нам не пераадолець самы цяжкі, як сведчыў Душан, Карнійскі перавал.

Ды Бог літасцівы да галодных: пад вечар таго дня падараваў нам авечку, што адбілася ад статка. Не пабаяліся стрэліць, каб мець харч. У цямніне развялі касцёр і... балявалі ўвесь вечар. Акрамя харчу, была яшчэ праблема: дзе знаходзімся? Куды ісці? Не трапіць бы ў Італію. Хоць і Славенія падзелена, але там — свае людзі, з імі можна паразумецца.

Раніцою Грэгар адзін, у форме з аўтаматам, пайшоў у разведку. Разведаў і хлеб прынёс. Мы знаходзіліся ў даліне Гейля недалёка ад Філаха, ад яго дома — у даліне Дравы. Трэба браць на ўсход — у Юлійскія Альпы. На гару Трыглаў. Трыглаў гэты, хоць самую вяршыню мы абышлі, даўся пакутліва. За тыдзень знясілелі. Разбілі нявольніцкія боты на драўляных падэшвах, толькі ў Грэгара салдацкія трымаліся, немцы для арміі рабілі нязносныя боты. На перавале я абмарозіў вялікі палец нагі. Пачарнеў палец. Моцна балеў. Але я пераадольваў боль, таварышам па няшчасці не адразу паказаў сваю нагу.

«Чаму ты кульгаеш?» — «Нацёр мазалі».

Усе нацерлі. Не дзіва.

Толькі дома ў пасляваенным будаўніцтве Мінска ды ў лагеры бачыў я такую салідарнасць, як тады ў першай славенскай вёсцы. Серба, харвата, аўстрыйскага славенца, беларуса і француза прынялі як братоў. Павялі нас па хатах, паілі, кармілі.

Божа! Адкуль узялася ўзаемная нянавісць народаў Югаславіі, што яны так люта забіваюць адзін аднаго! Харваты — сербаў, тыя ж славяне, толькі мусульманскай веры, — і сербаў і харватаў. Жах, што

робіцца! Я так знаю гэтыя народы, і ў мяне баліць душа за іх — якія яны былі добрыя.

На другі дзень Жаку зрабілі кніжку італьянскага салдата. Пасля капітуляцыі Італіі немцы раззброілі італьянскія часці, але дэзерціраў не вылоўлівалі. І на возе, не тоячыся, павезлі ў бліжэйшы гарадок Крань у бальніцу. Пасля мы сустрэліся ў партызанскім атрадзе. Жак і я вельмі радаваліся гэтай сустрэчы.

Але заставаўся яшчэ адзін інвалід — я. Нага мая распухла, я з цяжкасцю хадзіў. Мяне, рускага, у мясцовую бальніцу не адважваліся везці.

Душан павёз мяне ў Любляну — на поездзе, пад выглядам нямога пастуха, які на перавале адмарозіў ногі. Прывёў да прыватнага доктара. Здзівілі сувязь матроса, харвата, у славенскай сталіцы. Памойму, такіх сувязяў у гарадах і нашы беларускія партызаны не мелі. Душана і мяне перадавалі з рук у рукі. Але што асабліва ашаламіла... Дзівосы і цуд! Доктар Георгі Паўлаў аказаўся рускім белагвардзейцам. У Дзянікіна быў урачом. Я спалохаўся: прадасць. Не. Узрадаваўся, як роднаму сыну. Але агледзеўшы нагу, устрывожана свіснуў і вынес прысуд: «Палец трэба ампутаваць неадкладна, інакш не пазбегнем гангрэны, і тады страціце калі не жыццё, то нагу напэўна». — «У бальніцу?» — «Не. Твая бальніца — у маёй кватэры».

Душан не паспеў выпіць прапанаваную яму каву, як Паўлаў з жонкай сваёй Аранкай, якая выдатна выконвала ролю медсястры (пасля прызналася: навучылася за гады вайны, калі вось так, падпольна, Жора стаў памагаць партызанам), адпілавалі мой палец.

Памясцілі мяне ў былым дзіцячым пакоі, дзверы ў які застаўлялі шафай, маўляў, пакой не апальваецца — для цікаўных суседзяў. Сапраўды, у вялікай кватэры — асобны дом — не ўсе грубкі палілі, частка пакояў была «замарожана» — дорага каштавала паліва.

Зрэдку з'яўляўся сын Паўлава Валодзя, дваццацігадовы хлопец, бадай мой равеснік, прыносіў навіны, навін у яго заўсёды было многа, бо ён недзе ў падполлі слухаў радыё — рускае, нямецкае, англійскае. Мы з ім маглі прагаварыць усю ноч, бо калі ён начаваў дома, то размяшчаўся ў тым жа пакоі — сваім з малых гадоў.

Добрае лячэнне і матчын догляд Аранкі, інакш не магу назваць, як матчын, так яна даглядала роднага сына, хутка загаілі маю нагу: кульгаў трохі, але ступаў цвёрда, хадзіў нармальна.

Двойчы наведваўся Душан, расказаў, што Грэгар тут, у Любляне, робіць шафёрам, возіць начальніка ўсташоў — трэба ўсюды мець свайго чалавека, што Жак выпісаўся з бальніцы і яго пераправілі ў

італьянскі партызанскі атрад. А Сава Рысціч падаўся ў Харватыю ў штаб маршала Ціта.

Пад Новы, сорак чацвёрты год той жа Душан Цэсарыц забраў мяне ад Паўлавых: на маё месца прывёз раненага ў грудзі партызана. Патрымаў мяне тыдні два на падпольнай кватэры ў сям'і старых харватаў. А пасля чалавек, які назваў толькі імя сваё — Джурджа, — праводзіў мяне на ўзмор'е, у рускі партызанскі батальён. Цэлы батальён арганізаваўся з афіцэраў і байцоў Чырвонай Арміі, што ўцяклі з палону — з Германіі, Аўстрыі, Італіі. Адной ротай камандаваў Герой Савецкага Саюза Мехці-Гусейн. А мяне, артылерыста, прызначылі, як толькі я аб'явіўся, камандавацць батарэяй. У батарэі, праўда, было ўсяго дзве гарматы рознага калібру, трафейныя. Але абстрэлы мы рабілі дзёрзкія, нават патапілі колькі малых суднаў, што плавалі паміж астравамі.

...Гартаю свой рукапіс. Баі. Баі. Я падрабязна апісаў сваю югаслаўскую эпапею. Але не буду гэтага чытаць — не хопіць ночы. А трэба паспаць: заўтра з раніцы — у бальніцу, да Лены, да загадчыка аддзялення з маімі замерамі, з падлікамі Хведара Ананчанкі.

На адным спыняецца мая ўвага. І там, у Югаславіі, я маляваў... Сталіна. Во нястомны мастак! Югаславы былі ў захапленні ад маіх партрэтаў. Прыязджалі з суседніх атрадаў, рабілі заказы. Дзіўна, што партрэты Ціта заказвалі радзей, чым Сталіна. А я, па ўласнай ініцыятыве, з фатаграфій навучыўся гэтак жа маляваць і галоўнакамандуючага Народна-вызваленчай арміі Югаславіі.

Улетку, калі батальён пасля цяжкіх баёў адступіў у Харватыю ў горы Велібета, да нас веставым з Цэнтральнага штаба з'явіўся дарагі для мяне госць — таварыш па палоне Сава Рысціч. Між іншым сказаў, што маім мастацтвам зацікавіўся сам маршал, яму далажылі. Ці не мог бы напісаць я яго партрэт з натуры? Спалохала такое заданне. Які я мастак? Капіроўшчык. Маляваў партызан. Югаславы хвалілі, адсылалі гэтыя партрэты сваім блізкім. Але сам я даволі самакрытычна ацэньваў гэтыя свае працы — партрэты былі горшыя, чым сталінскія, напісаныя па памяці.

Штаб размяшчаўся ў букавым лесе. Дзень спякотны. Маршал у лёгкай цывільнай сарочцы працаваў пад брызентавым тэнтам. Мяне прадставілі. Броз-Ціта адарваўся ад папер, павітаўся за руку. Па-руску спытаў, адкуль я, як трапіў у Югаславію. Я па-вайсковаму коратка расказваў, пільна ўзіраючыся ў яго твар. Прыгожы твар, але для такога мастака, як я, невыразны, нічога адметнага — ні вусоў, ні кашлатых броваў, ні курчавых валасоў.

Маршал слухаў уважліва, але я адчуваў, што думкі яго далёка ад мяне. Безумоўна, галоўнакамандуючаму не да дробязяў і не да біяграфіі радавога камандзіра, у яго — стратэгія. Калі прыйшоў афіцэр і сказаў, што я хацеў бы напісаць яго партрэт (не хацеў я пісаць!), маршал паморшчыўся, паглядзеў на гадзіннік, але згадзіўся. Тут жа ад'ютант прынёс мальберт з нацягнутым палатном і фарбы. На такім палатне такімі адмысловымі фарбамі і пэндзлямі я ніколі не пісаў, больш — карандашом, вуглём, а калі фарбамі, то самаробнымі, пэндзлем з конскага хваста.

Але без страху, з вялікай зацікаўленасцю я ўзяўся за работу. І, здавалася мне, нішто атрымоўвалася. Маршал не пазіраваў. Ён працаваў: чытаў, вымяраў цыркулем на картах, пісаў, прымаў камандзіраў.

Гадзіны праз паўтары падняўся, падышоў, паглядзеў на маю працу і, напэўна, маючы неблагі мастацкі густ, зразумеў, што я не Рэмбрант, не Рэпін, нават не Косціч. Пахваліў, але сказаў, што яму трэба прыняць англійскую дэлегацыю. Задаволена пасміхнуўся, пацёр рукі, сказаў таксама не без задавальнення: «Чэрчыль прыслаў да нас сур'ёзную дэлегацыю. Палітычную».

Зняў з рукі гадзіннік і падарыў мне.

Штабныя, не спадзеючыся на другі сеанс, папрасілі па памяці дапісаць партрэт. Напісаў. І ён падабаўся мне.

Бадай, мая лепшая работа. Можа, у гісторыі партызанскага руху яму знайшлося маленькае месца — партызанскае мастацтва! Раней магло быць. Але не цяпер, калі ў краіне, да якой я прывязаўся сэрцам, палюбіў, зноў льецца кроў, ваююць не супраць чужынцаў — страляе брат у брата. Але хіба не заваёўнікі справакавалі гэтую разню? Нават там, за бугром, за акіянам пішуць, што ў Югаславіі — рэпетыцыя па развале вялікай сацыялістычнай дзяржавы. Узялі яны нас без ракетаў і бомбаў атамных. Мы сталі ахвярамі сваёй даверлівасці і... дурноты.

У кастрычніку брыгада, у якую ўваходзіў батальён, пайшла насустрач Савецкай Арміі.

Сустрэліся пад Белградам. Плакалі ад радасці. А на трэці дзень увесь рускі батальён кінулі ў бой. Не хапала хіба сілы? Не прывучаны да франтальнага наступлення, батальён панёс цяжкія страты. За дзевяць месяцаў майго прабывання ў батальёне мы страцілі чалавек дваццаць. А тут сотню палажылі. Мяне кантузіла, тры тыдні нічога не чуў. Але слых вярнуўся. Па ўсіх маіх раненнях, перш-наперш, відаць, па асколку ў плеўры, у шпіталі мяне камісавалі, як кажуць, начыстую.

Пад Новы год я вярнуўся дадому, больш тыдня ехаў. Выйшаў у Мінску на вакзале і... заплакаў. Ад радасці? Ці ад гора — што зрабілі з

горадам, маім горадам! Не было таго горада, які я, студэнт, так палюбіў. Ляжаў друз, чарнелі папялішчы.

Маці самлела, калі я знянацку ўвайшоў у хату. Шчасце, што наша хата ўцалела, паўвёскі згарэла. Ад бацькі ніводнай вестачкі. Маці малілася і ставіла свечкі за ўпакой раба божага Мацвея. «А табе, сынок, ставіла за здравіе. Верыла, што жывы. Сніла, што ты на высокіх гарах».

«Правільна сніла, мама. Я ваяваў у гарах, калі ўцёк з палону». Нінка рабіла на чыгунцы — за нас дваіх, за бацьку, старога пуцевіка, і за мяне, рамонтніка, які не столькі рамантаваў, колькі падрываў ці памагаў партызанам ірваць рэйкі.

Бедна жылі маці і сястрычка мая любая. Каб адзначыць мой зварот, маці ўсіх сваякоў абышла. Але прыйшлі не толькі сваякі — паўвёскі, зварот салдата — падзея асаблівая, для многіх горкая: «Наш не вернецца». А тут даведаліся, што я ваяваў ажно ў Югаславіі, у партызанскім атрадзе. Усім хацелася паслухаць. Вучняў набілася поўна — самыя цікаўныя слухачы. Кранула вельмі, што ў аднавяскоўцаў маіх, у малапісьменных жанчын, у дзядоў, у дзяцей, была незвычайная цікавасць да Югаславіі, любоў да людзей тамашніх — вунь як геаічна ваявалі!

Пасля радасці сустрэчы — пакутлівыя ночы: абавязак мой памагчы маці, сястры, для гэтага трэба пайсці некуды працаваць — на чыгунку, у лясніцтва ці ў Барысаў, у Мінск — на будоўлю, рабочыя ўсюды патрэбны. Але страшэнна, да сардэчнага болю, хацелася прадоўжыць вучобу, я ж быў лепшым студэнтам, прафесар Крылоў некалі сказаў: «Матэматык расце», — і вельмі шкадаваў, што па новым законе студэнтаў пачалі забіраць у войска.

Неяк за вячэрай асцярожна прызнаўся маці, Ніне аб сваім жаданні. І вельмі яны кранулі мяне, калі ў адзін голас, не задумаўшыся сказалі: «Ваня! Заўтра ж збірайся ў Мінск і, калі можна, вяртайся ва універсітэт. Вучыся. За нас не хвалюйся. Пражывем. І табе паможам». Рвалася сэрца, але перамагла вучоба, урэшце маці і Ніна мелі рацыю: які з мяне, прастрэленага, работнік на лесапавале! Ім здавалася, што вучыцца лягчэй.

І — о шчасце! — у адзіным уцалелым корпусе універсітэта, па калідорах якога хадзілі дзяўчаты ды афіцэры-інваліды, — я сустрэў майго прафесара, пастарэлага, пасівелага за вайну. І не я — ён першы пазнаў мяне. «Жыгуновіч? Няўжо Жыгуновіч? Ваня, голубе мой! Жывы! Будзе жыць наша навука! Будзе!»

Прафесар абяцаў уладзіць мяне на другі курс. «Дагоніш. Ты дагоніш». — «Не, баюся я: другі семестр канчаецца. За чатыры гады

блуканняў па пакутах я і за першы курс забыўся. Давайце на першы курс».

Пачаў вучыцца — пераканаўся: штось забыў, іншыя прадметы, але матэматыку не забыўся. Займаўся ёй і ў нашай арміі, калі вучыўся на камандзіра гарматы, і дома, калі рамантаваў і падрываў, і нават у Югаславіі, яшчэ ў доктара Паўлава падручнік на сербскахарвацкай мове праштудзіраваў — студэнта Валодзі Паўлава, а пасля артылерыйскую балістыку вывучаў.

Цяжкасць была не ў вучобе. Жыць было цяжка. Дадому стараўся часта не заглядваць, бо ведаў, што маці, убачыўшы мяне, схуднелага, паўвёскі абыдзе, каб выпрасіць для мяне да сваёй бульбы які фунт круп, кавалачак сала.

Пасля заняткаў рабіў на будоўлі. А мне цяжка гэта было. Дзіўна і невытлумачальна: балела не ў грудзях, дзе сядзеў асколак, балеў адрэзаны палец. Добра, што начальнік будтрэста, былы камандзір сапёрнага батальёна, без правай рукі, даведаўшыся пра мае матэматычныя здольнасці, зрабіў мяне сваім учотчыкам, эканамістам, планавіком.

Так мы адбудоўвалі Мінск: удзень вучыліся: увечары працавалі. А потым, на другім курсе, я закахаўся ў Таню, студэнтку біяфака. А яна была са Слоніма, яе бацькі, аднаасобнікі яшчэ ў той час, нядрэнна жылі. Таня не пасаромелася звазіць мяне да сваіх. Я спадабаўся бацькам яе, сваякам. І яны сталі перадаваць правіянт з разлікам на дваіх. Маці вельмі ўзрадавалася, калі я прыехаў трохі пакруглелы — не цэглу насіў на трэці паверх, а ў канторы сядзеў, і харч меў, і замест таго, каб узяць торбу з дому, аддаў свой заробак і прэміяльныя ёй. Плакала ад шчасця, калі я нявесту сваю прывёз ім. І маці і Ніна адразу палюбілі Таню: не гарадская — свая, сялянская, простая.

Перад чацвёртым курсам мы пажаніліся. І дазволілі сабе раскошу — наняць прыватны пакой.

Пасля заканчэння універсітэта прафесар мой, ды і рэктарат вызначылі мой лёс: у аспірантуру! Універсітэт рос, а выкладчыкаў па дакладных дысцыплінах і да вайны не было густа, а вайна найбольш таленавітых забрала.

У будтрэсце я працаваў увечары, а ўдзень сядзеў у бібліятэцы: апошні экзамен здаў, але трэба было рыхтавацца ў аспірантуру.

Па дарозе да універсітэта купіў газету, разгарнуў і... ажно кроў у галаву ўдарыла.

Ад інфармбюро камуністычных і рабочых партый: «Аб становішчы ў кампартыі Югаславіі».

Ціта даўно ўжо крытыкуюць. Але каб так — на поўны разрыў... І якія эпітэты! Жах! Здраднікі. Здрадзілі камуністычнаму руху, рабочаму класу, памяці тых, хто загінуў за народную Югаславію, прадаліся імперыялістам.

Не паверыў я ў гэта. Балюча было паверыць.

У калідоры, калі выйшлі з чытальнай залы пакурыць і абмяркоўвалі падзею дня, меў неасцярожнасць так і сказаць: «Не веру я ў гэта».

Нямнога ж нас і стаяла там, здаецца, чацвёра і ўсе свае — навукоўцы, знаёмыя, можна сказаць, сябры. І ніхто не аспрэчваў мяне: яны не былі ў Югаславіі, а я год ваяваў там. Каму ж лепш ведаць, што там рабілася.

А на трэці дзень... Не, «чорны воран» уначы не прыехаў. Мяне ветліва выклікаў незнаёмец у цывільным з тае ж чытальнай залы. А ў калідоры стаялі два вайскоўцы і таксама ветліва прапанавалі: «Прайдзіце з намі».

На вуліцы стаяла машына. Ды язды тае была адна мінута — на праспект Сталіна паміж вуліцамі Урыцкага і Камсамольскай. Калі павялі за цяжкія дзверы, ля якіх стаяў вартавы чэкіст, у манументальны будынак, адноўлены раней за ўсе іншыя, я сцяміў, чаму мной зацікавіліся: Югаславія! Але думаў пра біяграфію сваю — як я ваяваў там. Пра тое, што нехта данёс словы мае, не падумаў, не мог западозрыць кагось са сваіх таварышаў у подласці такой. Падумаеш, крамола — паверыў я ці не паверыў. Што ад гэтага зменіцца?

Пасадзілі ў вузенькі падвальны пакойчык з загатаваным акном. Папругу са штаноў выцягнулі і гадзіннік забралі — падарунак маршала Ціта. І — як забыліся пра мяне. Абед не далі. Толькі пад вечар салдат прынёс кавалак хлеба і конаўку кіпеню.

Безумоўна, настрой у мяне быў вісельніка. Але не скажу, каб я пакутаваў ад думкі: за што? І вельмі трывожыўся за Таню: што будзе думаць, калі я не вярнуся нанач? А ёй жа нельга хвалявацца: мы чакалі дзіця, пяты месяц цяжарнасці.

На допыт павялі, мабыць, апоўначы.

У прасторным кабінеце за вялікім сталом сядзеў малады маёр з добрым тварам, твар яго ажно ўзбадзёрыў мяне. Ён бадай ветліва запрасіў сядаць, а сам углыбіўся ў чытанне папер — адной, другой. Узняў галаву, паглядзеў на мяне пільна, і вочы яго не здаліся добрымі, як шырокі сялянскі твар, вочы былі калючыя, позірк жорсткі.

«Значыцца, вы не верыце ў асуджэнне Броз-Ціта? Восем партый асудзіла...»

Божа! Усё-такі данос!

Але навошта мне лезці на ражон? З-за чаго?

«Чаму не веру? Я веру». — «А што вы сказалі ў бібліятэцы універсітэта?» — «Не помню, што я сказаў. Мы абмяркоўвалі заяву кампартый, і я мог сказаць, што калі я ваяваў у Югаславіі, тады я верыў Ціта, як і таварышу Сталіну». — «Дзіўна вы параўноўваеце», — маёр запісаў, відаць, гэтае параўнанне.

«О, з гэтым трэба трымаць вуха востра! Ніводнага лішняга слова! Інакш ён зловіць мяне, абстрэлянага, але наіўнага».

«І любілі яго?» — «Я салдат і выконваў загады галоўнакамандуючага». — «Раскажыце, як вы трапілі ў Югаславію? Як ваявалі там?»

Я расказваў падрабязна, доўга. Усё. Маёр зрэдку спыняў мяне, занатоўваў нейкія часткі майго расказу на паперы. Калі я сказаў пра чыгунку, спытаў: «Значыцца, вы працавалі на немцаў?» — «Па заданні партызан». — «Якога атрада? Хто камандзір?»

Я назваў і атрад, і камандзіра.

«У мяне ёсць даведка. Але яна дома, у маці». — І схамянуўся: «Што я раблю? Навошта ўцягваю маці?»

Чамусьці следчага асабліва цікавіў наш уцёк з палону. Ён перапытваў адно і тое ж — як бы не верыў ці хацеў злавіць на супярэчнасцях.

«Дык хто такі Кош? Аўстрыец ці славак?» — «Славенец». — «У Аўстрыі ёсць славенцы?» — «Ёсць, і харваты, і венгры...»

Маёр узлаваўся на мяне за сваю неадукаванасць: «Ведаю, хто там ёсць!»

Допыт цягнуўся да раніцы — за акном пачало шарэць, летняя ноч кароткая.

Знясілены, я, аднак, не мог заснуць. Пакутаваў ад пытання: як паведаміць Тані, дзе я? Чаму я не патрабаваў у следчага спаткання з жонкай? Не мог дараваць сабе. Што рабіць? Абвясціць галадоўку? У царскія часы рэвалюцыянеры ў знак пратэсту галадалі. Але ў нямецкім лагеры на галадоўку ніхто не зважаў: галадай і здыхай — чорт з табой. У акупацыі на чыгунцы пра гэта я чуў расказ вязня нашай турмы, тады я не верыў яму — паклёпнічае паліцай: цяпер паверыў.

Папрасіў салдата, які прынёс абед, выклікаць следчага — ніхто не прыйшоў.

Але ўвечары павялі на допыт раней, дзень яшчэ не згас, але ў вузкіх і цёмных калідорах гарэлі ўжо лямпачкі. А кабінет быў заліты чырванню сонца.

Следчы дзіўна змяніўся з ночы, быццам іншы чалавек быў перада мной. Ён як бы падрос, а шырокі твар выцягнуўся, зрабіўся суровым, бадай злым, вочы патухлі, як бывае ў страшэнна стомленага чалавека, які гатовы заснуць на хаду.

Я адразу настойліва патрабаваў: «Дайце мне спатканне з жонкай». — «Дамо... у свой час». — «Калі? Ды вы знаеце, у якім яна стане? Чакае дзіця. Што яна перажывае, не ведаючы, дзе я». — «Жонка знае, дзе ты. У цябе зроблены вобыск. І знойдзена вось гэта», — ён паказаў старую кнігу на сербскахарвацкай мове і мой югаслаўскі ордэн.

Уначы ён звяртаўся на «вы». Чаму цяпер на «ты»?

«Ха! Не той гэта Ранкавіч, пра якога вы падумалі. Гэта пісьменнік мінулага стагоддзя. Класік, паслядоўнік Чарнышэўскага».

Вочы яго прасвятліліся злавесным агнём: «Не вучы нас! Кнігі гэтыя табе навошта? Матэматыку». — «А хіба матэматыку нельга чытаць раманы?» — «На іх мове?» — «Я хачу ўдасканальваць сербскахарвацкую...» — «Так, — ён запісаў гэты мой адказ. — З якой мэтай?» — «А хіба дрэнна ведаць мовы?» — «Так, зразумела. Вельмі хочацца ведаць югаслаўскую». — «Дазвольце мне напісаць жонцы». — «Напішыце. А цяпер падпішыце пратакол допыту».

Працягнуў мне аркушаў шэсць машынапіснага тэксту. Папрацаваў чалавек.

Я пачаў чытаць і адразу спатыкнуўся. Напісана, што на пытанне следчага я адказаў: «Я веру Ціта».

«Я сказаў, што верыў Ціта. Там, у Югаславіі». — «Якая розніца». — «Вы добра ведаеце, якая розніца». — «Калі верыў тады, то верыш і цяпер». — «Я не падпішу такое», — і палажыў аркушы на стол. «А ты навучаны, цітаўскі шпіён! Але ў нас ты падпішаш!» — «Я не шпіён! І гэтай лухты не падпішу!» — «Я напісаў лухту? — ён падняўся, абышоў стол і крэсла, на якім я сядзеў, паўтарыў, як бы згаджаючыся: — Я напісаў лухту... Я напісаў лухту...»

І тут жа я апынуўся на падлозе. Ударылі па патыліцы што шабляй. На міг я страціў прытомнасць — як ад разрыву нямецкага снарада, які кантузіў мяне, пазбавіў слыху, у галаве гудзела, у вушах звінела. Трэба ўмець — гэтак аглушыць рабром далоні па шыі. Невядома колькі часу не мог узняць галавы — моцна балела шыя. Як праз сцяну каманда:

«Устаць!»

З натугай падняўся, абапіраючыся на крэсла, сеў.

Следчы прыветліва ўсміхнуўся, нібы зрабіў мне вялікую прыемнасць. Працягнуў шклянку з вадой: «Выпі».

Я прагна выпіў, бо ў роце перасохла і ўвогуле, здавалася, увесь арганізм абязводжаны. А я помніў гэтае адчуванне абязводжанасці: у ліпені, у спякоту, немцы і чотнікі трымалі нас тыдзень у акружэнні ў бязводных баснійскіх гарах, пакуль чарнагорская брыгада не прар-

вала блакаду, разам з імі мы разграмілі цэлую варожую дывізію: наша перамога адзначалася ў загадзе маршала Ціта. За гэтую аперацыю я атрымаў ордэн, які ляжаў цяпер на стале ў следчага як рэчавы доказ маёй віны.

«Падпісваеш?» — сурова спытаў следчы.

Я зразумеў: ад таго, падпішу ці не падпішу, лёс мой мала зменіцца, толькі, калі не падпішу, буду мець фізічныя пакуты — такія ці яшчэ больш моцныя ўдары. А ўдарыць у плячо, дзе асколак, і Бог ведае, чым можа скончыцца, А жыць хацелася. Шчасце ж прыйшло: універсітэт скончыў, у аспірантуры меў быць, жонка, дзіцятка народзіцца...

Падпісаў, не дачытваючы.

Следчы пасміхнуўся: «Цяпер бачу, што ты матэматык. Некаторыя не ўмеюць вылічваць, колькі каштуе ўпартасць». І раптам гучна закамандаваў: «Устаць!»

І сам выцягнуўся — рукі па швах. Далажыў: «Таварыш генерал! Следчы Бутрымаў праводзіць допыт падсуднага Жыгуновіча».

Каранасты, паўнаваты генерал-лейтэнант з каўказскім абліччам прайшоў да стала, сеў на месца следчага.

Я здагадаўся: Цанава, міністр. Бачыў яго раней у кінахроніцы, ён заўсёды стаяў побач з першым сакратаром. Пра яго хадзілі легенды, розныя, але той, хто выказваў нешта хоць трохі негатыўнае, заўсёды азіраўся.

На мяне ён зірнуў коратка, перасмыкнуў вусамі. Узяў з маёй справы паперку, пачаў чытаць. Маёр прадаўжаў стаяць побач з ім, як у ганаровым каравуле.

Цанава сказаў яму, следчаму: «Скажи, пожалуйста, такая хорошая характеристика. Способный математик. Способный и ... не верит вождю нашему, отцу всех народов Сталину».

Я запярэчыў: «Я веру таварышу Сталіну. Я ў вайну партрэты Сталіна маляваў і нашым партызанам, за гэта немцы павесіць маглі, і югаслаўскім. Кожны атрад хацеў мець партрэт галоўнакамандуючага Савецкай Арміі».

Пасля слоў маіх Цанава пачаў разглядаць мяне ўважліва і са здзіўленнем, што мяне нават узбадзёрыла: можа, дойдзе да яго, што ніякі я не вораг.

Ды тут паведаміў маёр: «Ён маляваў і Ціта». — «Скажи, пожалуйста, какой способный человечек: математик, художник». — «Ціта ён пісаў з натуры...» — «Сам Тито тебе позировал? Ай, ай. Какой счастливчик. И хорошо ты нарисовал его?» — «Не думаю. Які я мастак! Аматар». «И что тебе говорит маршал Тито?» — «Нічога такога.

Ён працаваў... А я маляваў...» — «Скажи, пожалуйста. Он работал. Какой стратег!» — «Я нядоўга маляваў. Маршалу трэба было прымаць англійскую дэлегацыю».

У Цанавы загарэліся вочы, як у ката: «Английскую? Целую делегацию? И ты был на этом приёме?» — «Ды не. Што вы! Хто я быў! Камандзір батарэі». — «И что ты подумал, узнав об англичанах? Советский человек! Ты считал себя советским человеком?» — «Англічане былі нашы саюзнікі. Чэрчыль прылятаў у Маскву. Сустракаўся з таварышам Сталінізм. І ў Тэгеране. І ў Ялце...» — «Какой грамотный! Какой грамотный! Он нас учит истории, которую мы делаем. Скажи, пожалуйста...»

Следчы тут жа дапоўніў: «Ціта падарыў яму гадзіннік», — і падаў падарунак. Цанава з цікавасцю разгледзеў гадзіннік, пахваліў: «Хорошие часы. Английские, понимаешь. Все английское. Все. Разве не доказательство?» — «І ордэн ён мае... ад Ціта».

Во гад, падбухторваў! Але ордэн Цанаву не зацікавіў, хоць следчы працягнуў яго.

Цанава імкліва падняўся: «Узнай все же, за что он получил часы?»

І хутка выйшаў.

Гадзіннік мне дорага каштаваў: два выбітыя зубы, удараў па рэбрах — такіх, ад якіх, напэўна, варухнуўся асколак, бо моцна балела паўгода — пакуль рабіў на лесапавале, толькі ў матэматычнай лабараторыі ўтаймаваўся боль.

Суд быў закрыты, але з працэсуальнымі нормамі, праўда, без адваката — на абарону не меў права, ды і хто ўзяўся б абараняць?! Вельмі ўразіў сведка — сябра мой Леанід Каротаў. Ён і данос напісаў. Двое нашых будучых аспірантаў не помнілі, што я сказаў у бібліятэцы. Лёня помніў. Лёня помніў...

Пасля мы працавалі на адным факультэце. Ён моцна выпіваў. П'яны каяўся і прасіў даравання.

Я дараваў яму. А Таня не магла дараваць. Яна ненавідзела даносчыка і абуралася маім талстоўствам.

Мяне асудзілі на шэсць гадоў.

«Усяго? — здзіўляліся ў лагеры. — Шчаслівчык. Пашкадавалі цябе».

Спатканне з жонкай мне далі перад тым, як адаслаць на далёкую поўнач. Таня плакала і пыталася: «За што, Ваня? За што?» — «За тое, што ваяваў у Югаславіі».

На спатканні прысутнічаў іншы маёр, не Бутрымаў. Ён папярэдзіў: «Заробіце вы, Жыгуновіч, сабе дадатак за такі адказ. Кажыце, што запісана ў прыгаворы».

А што там запісана, далібог, не помніў. Прыгавор быў доўгі, як абвінаваўчы акт, які чытаў пракурор. Здаецца, галоўным там было: асуджэнне палітыкі партыі. Ды ў мяне тады не павярнуўся б язык асудзіць партыю. Не мог я асуджаць яе, хоць партыйным і не быў яшчэ тады — камсамольцам. Рыхтаваўся ўступаць.

Неяк і Бутрымава я сустрэў. На вуліцы. Было гэта ўжо пасля дваццатага з'езда. За бомбу нас памілавалі. Не адразу. Толькі пасля яго смерці. Узнагародзілі. І я з гонарам насіў ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга. Мне здалося, следчага спалохаў не я — ордэн. Ён не мог адарваць ад яго вачэй. Мы спыніліся адзін перад адным і вось так глядзелі: я — у твар яму, ён — на ордэн мой. І не сказалі адзін аднаму ні слова. Так моўчкі і разышліся. Не знаю, што ён адчуваў, а я адчуваў сябе пераможцам, хоць Таццяна назвала гэта дзіцячай радасцю.

А ў Комі ў лагеры я паставіў на сабе крыж — ад болю пад лапаткай. Умовы жудасныя, горш, чым у нямецкім лагеры, праца на лесапавале — непасільная, не для майго здароўя. Але вельмі хацелася пабачыць дачку сваю, Таня напісала, што нарадзілася Леначка, можа, гэта і трымала мяне, давала сілу прайсці праз новыя пакуты. І зноў мне пашанцавала. Па-руску кажуць — зезучий. Так многа вёз. Але і мяне невядомая сіла выводзіла ўбок ад смерці. Маці была ўпэўнена: Бог мілаваў мяне, бо яна дзень і ноч малілася за маё ўратаванне.

У снежні мяне выклікалі да начальніка лагера на кароткую размову: «Матэматыку вучыў?» — «Вучыў». — «Добра вучыў?» — «У аспірантуру рэкамендавалі». — «Паедзеш у Сыктыўкар. Але глядзі ў мяне!» — сказаў злосна.

Навошта, пры чым тут матэматыка — не растлумачыў, у хуткім часе я зразумеў, што і сам ён наўрад ці ведаў і здагадацца не мог, таму і злаваў.

Вязлі нас траіх за дзвесце вёрст у амерыканскім джыпе пад парусінай, а мароз пад сорак. Вартавы ў рукавіцах адмарозіў пальцы — так сціскаў аўтамат.

Было трывожна — што наперадзе? Яўна ж нейкая перамена: што будзе яна да лепшага — не спадзяваўся, але ад'езд з таежнага лагера, дзе людзі гінулі штодня і дзе з болем сваім пад лапаткай чакаў апошняй гадзіны, даваў нейкую маленькую надзею — як агеньчык свечкі: дзьмухні — і згасне. А дзьмухнуць можа любы, хто над табой, бо ты на самай нізкай усходцы. Якой усходцы! Ты ў падзямеллі, у магільным склепе.

Ехалі доўга, а дзень палярны кароткі, на прагалінах дарогу так перамяло, што і ўсюдыход амерыканскі садзіўся, ледзьве выцягвалі ўтрох, ахоўнік наш не выпускаў аўтамат. Але быў ён у рукавіцах, пакуль бы сцягнуў іх зубамі, — пальцы ж не гнуліся. Прыгадалася, як раззброілі мы немца. Ды ў Альпах была мэта — куды ісці. А куды пойдзеш тут, у тайзе? І куды выйдзеш? І без вартавога наўрад хто з нас зрабіў бы спробу ўцячы. Аднаго са сваіх таварышаў я знаў — з суседняй канвойнай брыгады, на лесапавале часам пілавалі адной пілой, — прафесар фізікі Махлін Ханой Майсеевіч, асуджаны як касмапаліт, на лекцыі пахваліў дасягненні англійскіх фізікаў. Выцягваючы машыну, мы перакідваліся словамі-здагадкамі: куды і навошта нас вязуць? У Махліна і той надзеі, што цяплілася ў мяне, не было.

«Гэта канец», — сказаў ён.

Але ў Сыктыўкары нас сустрэла нечаканае: размясцілі не ў лагеры, а ў самім упраўленні лагераў, дзе не па-лагернаму накармілі — наварыстай капустай і грэцкай кашай, і ўладзілі на начлег у зале клуба. Пасцелі не было — спі на кулаку, але, сытыя, мы адчулі рай зямны: пасля лютага марозу — незвычайная цеплыня, якая так адагравала адубелае цела, што тысячы іголак калолі яго, дзе і балюча, але ўвогуле прыемна, як у маленстве на печы пасля працяглага прабывання на марозе.

У зале знаходзілася ўжо чалавек дваццаць, і пасля нас прыводзілі, можа, нават тады, калі мяне змарыў сон; раніцою людзей было бадай удвая. Пад'ём зрабілі пазней. Накармілі зноў-такі добрым снеданнем у салдацкай сталоўцы. І развялі па пакоях канторы. У групе, у якую трапіў я, было трынаццаць чалавек. Я на гэты конт нават пажартаваў: «Чортаў тузін». Пасадзілі па два за канторскія сталы, якіх паставілі тут больш, чым, відно было, стаяла звычайна — для работы кіраўнікоў ГУЛАГа. А вось школьная дошка на сцяне вісела, бадай, заўсёды. Вучылі ахоўнікаў!

Разам з маёрам увайшоў сівы чалавек у цывільным, але відно было, што такі ж зэк — новы касцюм не з яго пляча, наспех падабраны, ды і ўсё іншае — змарнеласць, бляск вачэй, хада — выдавалі нашага брата.

Маёр раздаў нам вучнёўскія сшыткі і алоўкі.

Сівы вязень сказаў: «Маё імя — Эдуард Пятровіч. Я дам вам дзве задачы з вышэйшай матэматыкі. Аднаму раду і другому, каб не падглядвалі, як дрэнныя вучні, — ён сумна пасміхнуўся. — Кожнаму з вас належыць рашыць сваю задачу». — «Ад гэтага залежыць ваш далейшы лёс», — бадай злосна сказаў маёр.

О, як закалацілася маё сэрца: рашыць! рашыць! Невядома, што чакае, але не лесапавал! А калі не лесапавал — значыць жыццё!

Эдуард Пятровіч напісаў на дошцы першую задачу — маю, і я ледзьве не закрычаў ад радасці. Мая задача! Мая! З дыпломнай работы. Я помніў яе рашэнне, як помніў сваё жыццё!

І я за хвіліны запісаў гэтае рашэнне.

Прафесар падышоў да майго стала, паглядзеў у мой сшытак і ласкава палажыў на маю галаву сваю шурпатую мазолістую далонь. Зірнуў у сшытак майго суседа. Там было чыста. Нябога грыз аловак.

«Рашайце і другую», — сказаў Эдуард Пятровіч.

Без цяжкасці я рашыў і другую задачу.

З паўсотні вязняў, што начавалі ў клубе, пасля экзаменаў засталося дванаццаць — добры тузін.

Нас трымалі ў асобным пакоі, без кратаў, і мы, прахукаўшы ў шыбах «вочкі», глядзелі, як усіх іншых садзяць у машыны — павязуць назад, у лагеры. Махлін застаўся са мной. Назад на джыпе паедзе адзін наш таварыш, не магу даравацць, што не спытаў яго прозвішча, помню імя — Васіль, украінец, мой равеснік, вясёлы хлопец: у дарозе ён расказваў хахляцкія анекдоты, якія смяшылі шафёра так, што той кідаў руль і джып заносіла ў снег.

Першае, чым нас, хто вытрымаў экзамен, ашчаслівілі і зацвердзілі ў надзеі, што лёс мяняецца да лепшага, — далі кажухі, такія ж, як у аховы.

Увечары пасадзілі ў вагон. У пасажырскі. Закратаваны, але пасажырскі, з адкрытымі купэ, з паліцамі. І мы ехалі, што паны. Раскоша, камфорт. Хіба што падушак не хапала. Але найбольш, можа, здзіўляла пэўная разгубленасць і нязвыклая ветлівасць аховы, іх было пяцёра, вартавых, многа на тузін, да таго ж два афіцэры, лейтэнанты. Але ў Котласе вязняў дадалі, ахова ж засталася ў той колькасці. Махлін неяк спытаў у мяне, шэптам, у тамбуры: «Вы здагадваецеся, куды нас вязуць?» — «Уяўлення не маю».

Сапраўды, я перабраў сотні варыянтаў, легенд, але ні на адной не спыніўся, усе нейкія нерэальныя, фантастычныя.

«Я здагадваюся». — «Куды?» — «Ой, што вы! — сцяўся няшчасны прафесар. — Хіба пра гэта можна сказаць? Сцены ж слухаюць. Усюды слухаюць сцены». — «Не ў газавыя ж камеры?» — «Ой, Іван Мацвеевіч! Што вы кажаце. Мы ж усе нясём кару за языкі нашы. Вы сказалі, што не верыце... Не, не! Я не паўтараю! А я... нават не помню, што сказаў... Я сказаў добрыя словы пра вялікіх фізікаў сучаснасці. І ўсяго... І я — касмапаліт. Маё месца не на кафедры, а на лясной

дзялянцы. Ой, што гэта я развязаў свой паганы язык! Мне маці казала малому: «Хоня, табе такі ўрэжуць твой язык». Адрэзалі, як бачыце».

Чорт з ім — куды вязуць! Раз не на смерць, то пры такім камфорце можна ехаць хоць да канца тэрміну!

Дні праз тры раніцою стаялі на вялізнай таварнай станцыі: станцыя, як усе таварныя: вагоны, вагоны, воддаля мост, будынкі. Прафесар Карэцкі глянуў праз краты ў акно і збялеў: «О Божа! Гэта ж мой Ніжні! Мой Ніжні!» — «Які Ніжні?» — забыліся на Ніжні, ведалі Горкі. Узрадаваліся: сярэдняя Расія.

Адтуль ехалі нядоўга.

Лагер быў новенькі — з-пад кельмы і малатка. І незвычайны. Не, тое, што ён быў раздзелены на зоны — спальную, лабараторную, вытворчую, як называлі пазней, — гэта не здзіўляла. Шмат дзе пры лагерах меліся майстэрні, заводы. Здзіўляла, што рабочыя зоны — вялікія будынкі, на мноства месцаў і цэлы завод, а спальных баракаў нямнога. Зоны раздзелены калючым дротам у пяць слупоў, а знешняя агароджа вытворчай зоны — высокая каменная сцяна, на ёй — дрот. Зразумела: ваенны завод. У лагеры старажылы расказвалі, што на ваенных заводах праца, можа, і не лягчэйшая, чым на лесапавале, — хімія труціць, але кормяць лепш.

А яшчэ моцна здзівіла, што «спальні» у бараках — не на сто-дзвесце месцаў на трохпавярховых нарах, а на 15-20 на двухпавярховых, з пасцеляй — сяннік, прасціна, ватная падушка. Камфорт! Пра такія ўмовы не расказвалі нават тыя, хто адбываў другі тэрмін, арыштанты першай хвалі — пачатку трыццатых гадоў.

На незвычайнасць таго, што тут выраблялася ці мусіць вырабляцца, паказвала ахова: яе было больш, чым дзе, і яна была розных родаў войск — звыклая лагерная, унутраных спраў і... дзяржаўнай бяспекі. Славутыя чэкісты. Але апошнія ахоўвалі не зэкаў... не, зэкаў, але далучаных да нечага незвычайна сакрэтнага.

Гэтую сакрэтнасць мы адчулі, калі не на другі — толькі на чацвёрты дзень нас прывялі ў «рабочую зону». Самая вялікая група была фізікаў, як мы пасля даведаліся, іх павялі ў будынак заводскага тыпу. Матэматыкаў было чалавек пятнаццаць. Нас размясцілі ў вялікім пакоі, падобным на школьны класны пакой, нават чорная дошка на паўсцяны, сталы ад школьных парт розніліся тым, што былі на жалезных ножках, роўныя, шырокія, з габляваных дошак, якія свежа пахлі смалой. Усё тут было новае, неабжытае. І адносіны новыя.

Інструктаваў генерал-маёр, нізкарослы, лабасты армянін, не па-лагернаму, не па-вайсковаму нават ветлівы — не страявік. Ён сказаў, што тут мы будзем працаваць, рашаць матэматычныя задачы, якія

нам будуць даваць. Кіраваць намі будзе ён, генерал Авілаў (пасля даведаліся, што гэта несапраўднае прозвішча вядомага вучонага), але тут, у лабараторыі, непасрэдным кіраўніком будзе прафесар Карэцкі (так і сказаў — прафесар), але часам непасрэдна да каго-небудзь з нас можа звярнуцца прафесар Ананчанка. Падняўся высокі прыгожы мужчына.

«А навошта гэтыя задачы?» — спытаў нейкі смяльчак.

Генерал-маёр бадай разгублена глянуў на палкоўніка-чэкіста, што прысутнічаў. Той падняўся.

«Навошта — гэта вы, відаць, зразумееце. Але ніякіх пытанняў, ніякіх абмеркаванняў! Не, пра задачы вы можаце гаварыць, але толькі тут, у лабараторыі. Абавязаны памагаць адзін аднаму. На дошцы рашаць... Але... тут жа сцерці. Ніводнай паперкі адгэтуль не выносіць! Недакурка нават. Парушэнне будзе сурова карацца!»

Зразумелі: мы — вылічальны цэнтр нейкага тайнага Вялікага цэнтра, пакуль што невядомага нам.

Пасля расслабленасці і заспакоенасці трох дзён «курортнага жыцця» — без працы, з добрым харчам — мяне працяў халадок страху: пры такой сакрэтнасці наўрад ці выйдзем мы адгэтуль жывымі. Не знаю, як іншыя, а я на інструктажы тым здагадаўся, што мы будзем рабіць. Начальства пайшло. Мы «рабілі размінку» — рашалі задачы, якія для паўтору даўно пройдзенага даў Карэцкі. Калі ён спыніўся каля мяне, я напісаў: «Хірасіма?» Ён сваім алоўкам паставіў клічнік, але тут жа тлуста затушаваў слова, мой пытальнік і свой клічнік. Безумоўна, бомба. Што ж яшчэ! Адстаць мы не можам! Я разумеў гэта і ў душы падтрымліваў выкананне такой задумы. Але магчымы фінал выканаўцаў-нявольнікаў усё больш напаўняў страхам: няўжо не вярнуся да Тані, да Лены? Была там яшчэ адна незвычайнасць: поўная забарона перапіскі. Ніякай сувязі са знешнім светам. Нядобры сімптом: нас пахавалі ўжо.

Страх мой рассеяўся, калі праз месяц выступіў перад вучонымі-зэкамі палкоўнік з палітаддзела, выхавацель. Ён раптам адкрыта сказаў, што мы памагаем зрабіць атамную бомбу: калі работа будзе паспяхова завершана, усе, хто сумленна працуе тут і не парушае рэжым, атрымаюць памілаванне, а можа, і ўзнагароды.

О, як вырас стымул! Ніхто, акрамя хіба Махліна, не выказаўся, што мы робім штосьці амаральнае: абарона краіны — вышэй за евангельскія ці талмудскія запаветы! Ханон сказаў мне ўпотай: «Бой мой! Што мы робім! Людзі звар'яцелі, яны рыхтуюць сабе пагібель, канец свету».

Я адмахнуўся ад яго: ды ну цябе, праведнік!

Першыя тыдні, пасля лесапавалу, рашэнне зусім нескладаных задач здавалася прыемнай забавай. Мы рабілі за гадзіны, дні, тыдні тое, што цяпер электронна-вылічальныя машыны робяць за секунды. Мы працавалі на фізікаў, хімікаў, канструктараў, інжынераў, а пазней — на біёлагаў. Дарэчы, хімічныя і біялагічныя лабараторыі размяшчаліся ў тым жа корпусе, яны займалі па некалькі залаў, у іх было многа апаратуры, рэактываў, падвопытных жывёл — мышэй, пацукоў, марскіх свінак, пазней — малпаў.

Па тым, як ускладняліся задачы, я адчуў, якую катаржную работу выконваем. За дзесяць гадзін працы галава рабілася што пусты кацёл, ажно гудзела ў ёй, не хацелася чытаць, хоць нам давалі кніжкі па прафесіі і па марксізму-ленінізму, ні фільм глядзець, думаць рабілася цяжка, перамешвалася логіка падзей, і людзі, іх дзеянні вымяраліся формуламі. А гэта — жахліва: не мама, не Таня, не прафесар Крылоў, Бог ведае што — формулы. Асабліва загадкавай, абстрактнай велічынёй уяўлялася маленькая Леначка, якую я не бачыў. Раніцою, у выхадны (давалі адпачынак) Леначка была маленькім дзіцяняткам, крывінкай, часцінкай мяне самога. А пасля работы ператваралася ў нешта недасягальнае — у рад касмічных лічбаў, у задачу, якую я не ўмею рашыць. Часам здавалася, што ў мяне дрэнна з галавой.

Маім куратарам і галоўным задачадацелем паступова стаў фізік Ананчанка Хведар Парфёнавіч. Я палюбіў яго. Чалавек смелы, рашучы, адкрыты. Усе мы ведалі, што ў групе ёсць сексот, ведалі яго, у кожнай групе такі быў. Ананчанка гэта таксама ведаў. Але мог мацюкнуць начальства, не баючыся, назваць боўдзіламі, тупіцамі, раскрыў прозвішча Авілава і другіх вучоных, што хадзілі ў форме з пагонамі.

Зрэдку заглядваў акадэмік Бясперстаў, вязень, але яго лічылі кіраўніком усёй працы, каардынатарам фізічнай, канструктарскай і матэматычнай лабараторый.

Бясперстаў і Ананчанка прынеслі самую цяжкую працу — таўшчэзны том матэматычных разлікаў, формул, выдатна пераплецены, з грыфамі і пячаткамі.

Ананчанка сказаў мне, як заўсёды, з ашаламляльнай шчырасцю, праўда, размова ішла ў асобным кабінеце, у прысутнасці «вучонага» палкоўніка:

«Тут нашы шпіёны (так і сказаў — шпіёны) у выніку сваёй дзейнасці раздабылі амерыканскія разлікі. Ёсць нават разлікі Бора. Задача: праверыць іх. Першае: ці не падсунулі нам правакацыю, каб збіць з пуці праведнага. Другое... мы самі з вусамі, але калі штось у іх

лепшае, то можна пазычыць. Няхай не перажываюць амерыканцы: аддамо. Мы людзі сумленныя».

Акадэмік пасміхнуўся. «І тут вы, Хведар Парфёнавіч, не можаце без жартаў». — «Якія жарты, Сяргей Іванавіч. Праўду кажу. Думаеце, у нас яны не ўкрадуць? Во і будзем квіты». — «У нас не ўкрадуць!» — жорстка і асуджальна сказаў палкоўнік. «Ой, дай Бог».

Я разгарнуў том: «Тут тлумачэнне па-англійску. А я слабы ў англійскай». — «Мы знойдзем вам перакладчыка. І я буду пры вас, — сказаў Бясперстаў. — З усімі пытаннямі — да мяне». — «У нас Махлін валодае англійскай».

Вучоныя-вязні паглядзелі на палкоўніка.

«Падумаем», — сказаў той.

Падключылі Махліна, выдатнага памочніка. Праца была пякельная. У амерыканцаў свая методыка, свой стыль, іншая форма загасаў. Прыйшлося правяраць кожную формулу, па-свойму рашаць найскладанейшыя задачы. І калі вынік той жа, а ён у ВО працэнтаў быў той, — радаваліся. Калі прайшлі ўсю схему канструкцыі, раней чым належала, той жа «прысуд» вынес акадэмік: мы — усе мы! — на правільным шляху. А гэта — поспех! Воля! Самае галоўнае — воля! Наша. Пра іншае... пра чалавецтва мы не думалі. Я быў яшчэ малады, каб думаць пра чалавецтва. Пра сваю Радзіму думаў. Пра сям'ю сваю, блізкіх.

Другі радасны вынік, для мяне, прынамсі: у сумеснай працы мы з Махліным не толькі пасябравалі — парадніліся, сталі што браты. І шчыра сябравалі пасля, на волі. І Таццяна любіла гэтага разумнага, разважлівага, да самаадрачэння добрага чалавека. Таццяна змяніла свае адносіны да яго, калі ён пазнаёміў Лену са сваім пляменнікам Айзенбергам і пасватаў за яго. Лена, калі вучылася тут, у Маскве, у інстытуце, жыла ў Махліных, хоць у тых былі ўжо свае дзеці, дачка і сын. Але Ханон і слухаць не хацеў, каб дачка яго лепшага сябра жыла ў інтэрнаце.

Калі Айзенберг паехаў у Аўстралію і павёз з сабою Ваню, што для мамы і бабулі было трагедыяй, Таццяна памянула Ханона, нябожчыка ўжо, нядобрым слотам. Мне здалося, што так жонка адазвалася пра мяне, мёртвага. Мы пасварыліся. Але калі па шчырасці, то і не мог даравань Ханону, што пад старасць і яго спакусіў «рай у зямлі абетаванай». Ён пісаў адтуль пісьмы, не скардзіўся, але я чытаў паміж радкамі, як сумна і адзінока яму там пад спякотным сонцам у цені апельсінавых дрэў. Не што іншае, як туга па зямлі бацькоў, скараціла яму жыццё. Скараціла... Мне здаецца, што мы вечныя. А яму было столькі, колькі мне цяпер. Аднак усё роўна балюча, што прах яго ў чужой зямлі і я не магу прыйсці на яго магілу.

Пра гэта я напісаў, можа, тыдзень таму — як дадатак да сваёй доўгай і, напэўна, няўмелай аповесці пра жыццё сваё, пра блуканні па пакутах і пра радасці, заробленыя пакутамі. Былі радасці. Канешне, самая вялікая, адзіная на ўсё жыццё — Леначка, Насцечка... А яшчэ — праца ва універсітэце. Хобі, з якога блізкія някрыўдна кпілі. Я напісаў пра Ханона і пра ўсіх тых, хто пакідае родную краіну...

Пра новыя радзімы толькі пішуць і мала гавораць у сем'ях, і гэта робіць нас,— парадаксальна і жудасна — касмапалітамі. Колькі выехала маіх калег, прафесараў матэматыкі, фізікі ў пошуках зямнога раю ў чужыя землі. Я ўпэўнены: не знойдуць! Вунь што пішуць літаратары-дысідэнты, якія выехалі туды многа гадоў таму. Сапраўды, чым вытлумачыць такія выезды? Ну, яўрэі — Бог з імі. А беларусы, украінцы, рускія? Нават узбекі, азербайджанцы... Хоць у жабрацкі Іран, у Афганістан, але далей ад бацькоўскіх магіл! Была Радзіма, за яе ішлі на смерць. Атрымалі незалежнасць і рассыпаліся, як бульба з дзіравага мяшка.

Пра ўсё я пісаў. Пра адно не напісаў — во пра гэта, пра дзеянне сяброў па няволі і сваё, якое адгукнулася праз сорак пяць гадоў, можа, найбольшай трагедыяй з усіх, што выпалі на маю долю. Чаму не напісаў? Што стрымлівала? Адчуванне, што мы пераступілі мяжу чалавечнасці, мяжу маралі, хрысціянскай ці іудзейскай, — не мае значэння, таго, што выказана словамі запавета: «Не забі!» Таму не напісаў? Толькі таму? Але нас жа забівалі. Ды яшчэ як! Не. Пішу і пра гэта. У галаве. З учарашняга дня. Калі сядзеў у сховішчы музея перад прыгожым злавесным пісьмовым прыборам — тварэннем розуму і рук нашых.

З чаго я пачаў?

Пасля арышту зламалася мая вера ў Сталіна. Не трэснула — адразу развалілася. Ведаў я пра трыццаць сёмы, хоць нікога з блізкіх маіх не кранулі. І я верыў: пра расстрэлы, лагеры, катаванні Сталін не знае. Убачыў Цанаву, пачуў яго словы і паверыў у зусім іншае: без указанняў Сталіна нічога не робіцца. У гэтую веру ў запалярным лагеры пераканалі вязні са стажам — даваенныя: некаторых з іх пасля Перамогі вызвалілі, а пасля зноў загналі за калючы дрот. А я ж верыў у яго, як набожныя хрысціяне вераць у Ісуса Хрыста. Маляваў яго партрэт, і ў мяне ўчашчаўся пульс, неаднойчы слязу пускаў, калі ўдавалася дадаць у аблічча Вялікага і Мудрага нейкую новую рысачку.

Больш маляваць яго не мог. У запалярным лагеры мне, напэўна, лягчэй жылося б, каб я прызнаўся, што ўмею рабіць гэта: не сосны валіў бы на лютым марозе, а сядзеў бы ў клубе цёплым.

А ў прывілеяваным лагеры ў паляпшэнні свайго лёсу не было патрэбы: якой ні цяжкай была праца ў лабараторыі, але яна мяне задавальняла — я ўдасканальваў прафесію. Ды ў тым лагеры не было і патрэбы ў такім самадзейным мастаку. Там грошай не шкадавалі — лажылі мільёны. Але, расслаблены сытасцю і дабрынёй блізкіх людзей, я расказваў Ханону, а пасля і Ананчанку, як маляваў Сталіна, клеіў партрэты на вагоны падчас акупацыі, а ў Югаславіі забяспечваў імі партызанскія атрады.

Сябры мае ўтойвалі мой талент. Талент... Некалі Лена, весялуха, сказала, што ў мяне добра развіты абодва паўшар'і. Было гэта параўнаўча нядаўна, калі мяне з універсітэта адаслалі на пенсію. Я адказаў зусім нявесела: «Бяда мая ў тым, што абодва паўшар'і мае недаразвітыя. Далей дацэнта не ўзняўся. А мастак... вунь Павел называе мяне «паркавы архітэктар». Гэта амаль тое ж, што «парканны мастак», такія мастакі дзеці». — «У цябе добрая і нядобрая якасць, тата: ты залішне самакрытычны і мала крытычны да іншых», — сур'ёзна сказала Лена.

А Насця, малодшая мая, прагматычка, без жарту паскардзілася: «Ого, каб ты пачула, як ён нас крытыкуе з Паўлам».

Дзесьці пад восень сабраў нявольніцкую эліту палкоўнік з палітаддзела.

«Сябры мае! — зварот быў больш чым незвычайны, усе ажно варухнуліся: узрадаваліся, устрывожыліся, што начальнік назваў сябрамі. — Уся краіна, увесь прагрэсіўны свет рыхтуецца да сямідзесяцігоддзя правадыра ўсіх працоўных, вялікага змагара за мір таварыша Сталіна. Калектывы заводаў, установаў ужо рыхтуюць падарункі. Мы можам адстаць ад іх? Не, не можам. У нас жа асобыя навуковыя, тэхнічныя магчымасці. Давайце падумаем, які падарунак мы пашлём бацьку нашаму».

Выбралі ініцыятыўную групу, якой належала сабраць усе прапановы. У яе ўвайшлі Бясперстаў, Ананчанка, Махлін, канструктар Войтаў, яшчэ нехта, усіх ужо не помню... І я. Маё прозвішча назваў Хведар Ананчанка. Абвясцілі нешта накшталт конкурсу. Але прапаноў паступіла нямнога, і багатай фантазіяй яны не вызначаліся. Асабіста я таксама нічога не прыдумаў, бо не хацелася думаць, траціць энергію; пэўна, такія пачуцці былі і ў астатніх, я разумеў вучоных пакутнікаў. Да таго ж людзі гэтыя былі рэалістамі: падарункаў будзе тысячы, і нішто не здзівіць ні Сталіна, ні тых, хто будзе адбіраць тыя падарункі, якія паднясуць на юбілейным вечары. Наўрад ці адважыцца хтосьці ўсенародна падносіць падарунак ад ГУЛАГа. О, каб было хоць маленькае спадзяванне на гэта, тады, напэўна,

вучоныя-вязні праявілі б актыўнасць! А так, безумоўна, будзе напісана: ад калектыву завода... наўрад ці нумар назавуць, хоць завод, дзе рабілі фізікі і канструктары, меў нумар.

Сабраліся ў нядзелю ў чырвоным кутку. На здзіўленне, упершыню з адміністрацыі лагера ніхто не прысутнічаў — даверылі, і стукача, здаецца, не было. Усе свае.

Падвялі вынікі «конкурсу». Расчараваліся. Пачалі думаць самі, нешта ж трэба прыдумаць, інакш начальства і санкцыі можа прьмяніць.

Хведар Ананчанка спытаў у мяне: «Іван! Выгравіраваць партрэт Іосіфа Вісарыёнавіча на медным лісце можаш?» — «Не, які я гравёр! Пэндзлем магу — і то скапіраваць. А чаму на медным?» — «Было б арыгінальна».

Бясперстаў ідэю партрэта адхіліў: «Партрэтаў будзе многа. Не стане правадыр вешаць у сябе партрэты. Сталін не той чалавек. У яго адна пара ботаў. Мы павінны зрабіць такое, каб яму паднеслі і ён прыняў».

Вельмі паважаў я гэтага чалавека, а тут падумаў пра яго нядобра: «Хоча акадэмік выслужыцца. Так яму трэба, каб падарунак трапіў абавязкова яму, нікому іншаму».

Прапанавалі вазу з грузінскім арнаментам, з партрэтам.

«Зноў партрэт». — «Давайце ордэн Перамогі, з каштоўных металаў».

Ваза зацікавіла, яе «адлівалі» і «аздаблялі» добрыя паўгадзіны.

Гэта натхніла і мяне. Не таму, што я прагнуў паднесці яму самы арыгінальны падарунак. Не. Магчыма, хацеў паказаць вучоным са ступенямі, што І я не з пустой галавой. А яшчэ больш хацеў ускладніць задачу начальству: няхай і яно пакруціцца, паварушыць мазгамі, пашукае.

Я прапанаваў зрабіць пісьмовы прыбор з медзі, са сталі нержавейкі ці з добрага сплаву: усё ж ёсць. У цэнтры Спаская вежа з рубінавай зоркай і з гадзіннікам-курантамі, які паказваў бы дакладны час, адбіваў гадзіны і іграў «Інтэрнацыянал».

«Тут ёсць ідэя», — сказаў Бясперстаў. «Але канструкцыя няпоўная. Трэба чарніліцы». — «З іншага па колеры металу, можа, сярэбраныя». — «У выглядзе металу ці сплаву — падстаўка для паперы». — «І для ручак». — «Можна і яшчэ. Усярэдзіне вежы — ордэн Перамогі з тых жа матэрыялаў, з якіх зроблены і сапраўдны ордэн. Думаю, начальства не паскупіцца».

І яшчэ былі прапановы, але па дэталях ужо. Самую ідэю ніхто не аспрэчваў. І мне ажно нядобра стала: пастараўся, аднак, царадворац

у кайданах! Ды яшчэ ў дадатак тут жа, папрасіўшы ў Ананчанкі аловак, намаляваў эскіз. Канструктар каляровымі алоўкамі начарціў праект, асобна, збоку, дэталі унікальнага прыбора, якія не сорамна будзе паставіць на пісьмовым стале нават самога Бога.

Праект у каляровым выкананні канструктараў начальства зацвярджала доўга. Узгаднялі з цэнтрам. Ці не з самім Берыя? Мы ўжо лічылі, што з ідэі нашай атрымаўся пшык, як у таго каваля-няўмекі.

Не, закруцілася кола. Балванку сфармавалі і адлілі, можа, за адзін дзень з дзівосных сплаваў: аснова — чырвоная медзь з сярэбранымі блёсткамі, чарніліцы — чорныя, падстаўкі — белыя. Усё ўмелі рабы! Адліўку ў зону нашых лабараторый не прынеслі, пакінулі ў цэху, у асобным пакоі з загатаваным акном. Нас, ініцыятараў, звадзілі туды, паказалі. Велікадушна далі нам права адхіліць і патрабаваць новай адліўкі. Не было праблем — затрат не шкадавалі. Але і ў нас заўваг не было. Здаецца, на першым абмеркаванні ўсе былі свае, аднак начальства ўжо ведала пра маё мастацкія здольнасці. Маглі даручыць гравёру-прафесіяналу, знайшлі б адразу, ды, пэўна, не хацелі звяртацца за дапамогай: маўляў, усё ўмеем самі — во мы якія! Тут жа і абавязалі мяне выгравіраваць арнамент. І альбом усходніх арнаментаў быў ужо ў руках палкоўніка Здароўцава, начальніка лагера. Толькі далі мне шліфавальшчыка.

Я ахвотна ўзяўся за новую работу, можа, таму, што матэматычныя формулы і разлікі змучылі ўшчэнт. Мастацкая праца — зусім іншае. Да таго ж я адзін, без аховы, хадзіў у зону завода і ніхто не даваў мне нормы, ніхто не гнаў у шыю. Хочаш — працуй, хочаш — сядзі, думай.

Шліфавальшчык — узбек, ён дрэнна валодаў рускай мовай ці, магчыма, прытвараўся. Яму я расказваў пра Беларусь, і па тым, як ён слухаў, у мяне расло пераканананне, што ён усё разумее. Гэта ўтрымала ад жадання расказаць пра Югаславію. Калі ўзбек — стукач, то мая настальгія па Югаславіі можа дорага мне каштаваць — дадатковага тэрміну. І я не спяшаўся з тонкай працай сваёй — колькі віткоў адмысловага ўзору за дзень і — хопіць. Здароўцаў прыходзіў некалькі разоў, але не паспяшаў, як колькі месяцаў таму гналі ў лабараторыі: хутчэй, хутчэй!

Ды тут Махлін таемным шэптам перадаў мне чутку, што Бясперстаў паляцеў на выпрабаванне атамнай бомбы. Божа мой! Які ўзрыў адбываўся ў галаве, у сэрцы! Выпрабаванне пройдзе паспяхова, а ў гэтым я не сумняваўся, і — нас памілуюць. Усіх памілуюць. А мяне пакінуць: я не скончыў падарунак бацьку нашаму. І колькі дзён я працаваў з зацятай апантанасцю. Узбек цмокаў языком і асуджальна

матляў галавой: яму даспадобы быў тэмп працы, які адпавядаў яго рытму, гэтага чалавека нішто не магло падагнаць. Але майстар ён быў выключны. На шліфоўку адной канаўкі траціў часу больш, чым я на выразку яе.

У стане ўзбуджанасці знаходзіўся не адзін я — усе: матэматыкі, фізікі, біёлагі. У бараку шапталіся да позняй ночы. Ананчанка дык той уголас выказваўся, што хутка будзем на волі. «А чаму цямніць? Палкоўнік паабяцаў».

Праз тыдзень акадэмік з'явіўся счарнелы, змрочны. Што? Няўдача? Правал? Уся праца кату пад хвост? Усё патанаць спачатку? На колькі гадоў?

Не. Ананчанка, ужо употай, паведаміў Махліну і мне, што расказаў яму Сяргей Іванавіч.

Выпрабаванне прайшло паспяхова. Але на вучонага выбух зрабіў жахлівае ўражанне. Ён убачыў Садом і Гамору, правобраз канца свету. Ды нас асабліва ўразіла другая частка яго споведзі. Да Чэлябінска ён ляцеў без канваіра, у кампаніі генералаў і вольных калег сваіх — вучоных. Гэтак жа ехалі далей на машынах. А назад яго везлі ў цягніку пад канвоем. Ён лічыць, што перамена такая адбылася пасля банкету, на якім ён адважыўся напомніць высокаму генералу дзяржбяспекі абяцанне палкоўніка — памілаваць удзельнікаў распрацоўкі. Генерал дэманстратыўна ўхіліўся ад размовы на гэтую тэму.

Для мяне — ды хіба толькі для мяне! Махлін спалатнеў — навіна гэтая была сапраўдным выбухам атамнай бомбы, ён, выбух, у пыл змалоў усе спадзяванні, надзеі. Рукі апусціліся. Узбек здзіўляўся, зноў цмокаў языком, аднак не спытаў, што здарылася, чалавека навучылі маўчаць.

А яшчэ праз колькі дзён у «мастацкую майстэрню» маю прыйшоў Махлін. Здзівіў: як прарваўся? Без спецыяльнага пропуска ў цэх нікога не пускалі.

Разумны ўзбек адразу сцяміў, што нам трэба пагутарыць. Пайшоў «да ветру». Ён залішне часта казаў мне: «Мая да ветру». І падоўгу быў на гэтым «ветры».

Махлін, азірнуўшыся, спытаў: «Доўга ты будзеш корпацца над ім?» — кіўнуў на прыбор. «Доўга. А куды нам з табой спяшацца? На лесапавал?»

Ханон наблізіўся і прашаптаў у вуха мне: «Ты знаеш... ён свеціцца. Хведарава ідэя». — «Як свеціцца?» — «Ты не знаеш, як свеціцца уран, кобальт?»

Гэта я добра ведаў, як яны «свецяцца», элементы з мудрай табліцы Мендзялеева. І адразу сцяміў, што зрабілі вучоныя-фізікі. І

мяне апанавала страшэнная помслівая злосць і незвычайная зларадная радасць: «Мудрацы! Малайцы!»

І я адказаў, бадай, на поўны голас: «Ну, няхай свеціцца! Няхай свеціцца! Такі падарунак яму і трэба! Толькі такі!»

Махлін збялеў: «Што ты крычыш, ідыёт! Сціхні!» — зашыпеў ён.

Я панізіў голас: «А я буду корпацца, пакуль мяне не «засвеціць». Што я страчу? Жыццё? Дык яго ў нас даўно забралі!» — «Божа, якія мы злыя ўсе. І бязлітасныя». — «Так, я бязлітасны. Да яго. Да сябе. Да ўсяго свету! Злы ён, свет!» — «Нядобра гэта», — цяжка ўздыхнуў Ханон. «Што нядобра?» — «Я ашаломлены. А калі гэты прыбор станс на стале ў добрых людзей? Няхай і на яго кватэры. Але там дзеці, унукі...» — «А пра нашых дзяцей ён думае? Я сваю Леначку не ўбачу. Яўна не ўбачу», — зноў узняў я голас. Мяне проста ліхаманка ад гневу і ўсё той жа злоснай помслівасці. «Усё роўна нядобра. Не па-Божаму». — «Ха! Чаго захацеў! Талстовец! Ніколі не думаў, што і ты непраціўленец, як баптыст той. Маліўся, а яму сасной хрыбет зламала». — «Нядобра. Не па-Божаму». — «Што, гэта твая рэлігія іудзейская такая?» — «І рэлігія такая. І мая і твая, хоць мы атэісты. І чалавечая мараль». — «Ды пайшоў ты з мараллю! Знаю, чаго вартая яна, мараль наша!» — «Не кіпі, Ітан! Але прашу цябе: паспяшайся. Чалавека гэтага не трымай. Адразу ты не памрэш — гэта доўгая і пакутлівая смерць. Спытай у біёлагаў, як паміраюць малпы. Ім прывезлі шымпанзэ, якіх трымалі ў зоне ўзрыву. Жах!»

Апошняя просьба сябра ці, можа, жах яго ад малпаў, што атрымалі абпраменьванне, скарылі мяне, утаймавалі.

Я расчулена абняў таварыша па няволі.

І я паспяшаўся. Узбек хітаў галавой і цмокаў — яго здзіўляла маё нечаканае стаpанне.

Я паспяшаўся... зрабіць бомбу.

«Леначка! Лена! Дзіця маё. Няўжо Бог пакараў мяне? Але ж не я гэта прыдумаў. Не я. Я «шліфаваў»...»

5

Жонка будзіла Івана Мацвеевіча, а ён ніяк не мог адарваць галавы ад падушкі, бо заснуў толькі пад раніцу, калі за акном ужо шарэла і калі прачытаў успамін свой і «напісаў» апошні радок, які раней не пісаў нават у думках.

— О Божа! Як малы. Я паўночы не спала, а прачнулася ў шэсць.

Не стаў казаць, што ён чуў, колькі яна не спала — першую частку ночы. Ён радаваўся, што яна нарэшце спіць, бо за яе здароўе баяўся больш, чым за сваё. Да сябе ён быў бязлітасны пасля

выяўлення «сувеніра». Пад старасць ад таго, што прачытаў Біблію, іншыя рэлігійныя кнігі, ён, бадай, стаў вернікам. І ён маліўся: «О Божа! Калі ты лічыш, што я заслугоўваю пакарання большага, чым тыя, што выцерпеў, то пакарай мяне. А Леначка каб жыла! Лена павінна жыць, ёй жа ўсяго сорак пяць!»

Успомніў, чаму ён прасіў разбудзіць раней: паехаць у бальніцу да ранішняга абходу ўрачоў, завезці загадчыку аддзялення разлікі, якія зрабіў Хведар. Па яго разліках за тры месяцы працы ў сховішчы Лена не магла набраць смяртэльную дозу. Суцяшаў акадэмік Ананчанка?

Падхапіўся з пасцелі, што салдат. Але, напэўна, ад рэзкага руху павяло, ажно млосна стала ў жываце.

«Не нажыць бы інсульт. Паміраць мне нельга! Карай, Божа, але будзь і літасцівы. Я патрэбны Лене. Патрэбны, як ніколі раней».

Жонка заглянула ў спальню, убачыла, як ён сядзіць, апусціўшы галаву, спалохалася:

— Ваня! Нездаровіцца?

— Не, нічога. Недаспаў — засынаю. Я таксама доўга не спаў.

Таццяна гаротна ўздыхнула. Ён праўдзіва растлумачыў прычыну сваёй бяссонніцы, але з іроніяй:

— Я чытаў свой успамін.

— О Божа! — ці то з асуджэннем, ці то са спачуваннем прамовіла Таццяна.

— Я хацеў дачытаць да таго месца, як я вярнуўся да вас. Як Леначка баялася пайсці да мяне на рукі. Можа, тыдзень не ішла. І, знаеш, я не дачытаў. Сон змарыў.

— Ваня, не вярэдзь душу. Ідзі галіся, умывайся. Снеданне гатова.

Сядзелі за сталом.

Таццяна ела нехаця — дзве лыжкі кашы не з'ела, ад сасісак адмовілася. Іван Мацвеевіч прымушаў жонку есці.

— Зноў жа прасядзіш цэлы дзень у бальніцы.

— Ніводная кухарка яшчэ не памерла з голаду. Я пакуль гатавала, пробы здымала.

— З чаго пробы — з кашы?

Жанна ела похапкам, сасіскі з апетытам, бо даўно не дазваляла сабе такой раскошы. І многа піла чаю. Жанна ўвесь час п'е, у яе смагнуць вусны, учора ў бальніцы яна часта аблізвала іх, выцірала хустачкай.

Таццяна, доктар без дыплома, біёлаг, усё свядомае жыццё лячыла дзяцей, унукаў, сваякоў, суседак. Яна заўважыла Жанніну смагу. Сказала:

— Дзіця маё. Правер ты кроў на цукар. У вас жа свае лабараторыі.

— У мяне гэтая смага — як мама легла ў бальніцу. Яна ж ні на што не скардзілася. У яе быў адзін боль — Ваня.

— Ах, Ваня, Ваня! Я сёння сніла яго.

Каб адвесці ад балючай тэмы, Жанна спытала:

— Адкуль ён узяўся, гэты пісьмовы прыбор?

— Я ж казаў: з падарункаў Сталіну. Трэба думаць, зрабілі вельмі пакрыўджаныя людзі. Але не ўлічылі...

— Зняволеныя? — спытала і залішне пільна паглядзела на дзеда.

Іван Мацвеевіч ажно сцяўся, адвёў вочы.

«Няўжо ў яе галоўцы могуць раіцца такія здагадкі? Знае ж, што я рабіў бомбу. У Тані такое пытанне не ўзнікла».

Было ўчора ўвечары, калі вярнуўся з музея, памкненне расказаць жонцы, што пісьмовы прыбор знаёмы яму — ён меў пэўнае дачыненне да вырабу «падаруначка». Не, не адважыўся. Не сябе пашкадаваў — яе. Якія пачуцці ў яе ўзнікнуць — немагчыма прадказаць. А калі, не дай Божа, здарыцца найстрашнейшае, ён, бацька, будзе забойцам, няхай і ўскосным, роднай дачкі — той дачкі, з думкай пра якую, маленькую, ён жыў там, дзіця давала яму сілу вынесці ўсе выпрабаванні. Адчуванне віны скароціць яго жыццё. Не толькі яго — Таццяне не перажыць такіх трагедый. А ім трэба жыць! Трэба жыць, што б ні здарылася. Не дзеля сябе — дзеля гэтай вось дзяўчынкі — Жанны. Нельга, каб яна засталася поўнай сіратой у гэтым звар'яцелым свеце, дзе ўсё бурыцца, развальваецца, сем'і развальваюцца — вунь дзе апынуліся бацька яе і брат.

Не, гэты раздзел лагернага жыцця не будзе напісаны і не будзе агалошаны нікому. Пашкадаваў нават, што «пісаў» яго ў бяссонную ноч. Але ж гэта не залежала ад жадання яго ці нежадання. Было спакойнае, чалавечае жыццё, і ўсё лагернае быццё здавалася даўно забытым сном. У апошнія гады палілася плынь «лагернай літаратуры» — раманы, паэмы, мемуары. І ён чытаў нямала няпраўды, сачынёнасці. Яго таксама прасілі напісаць. Яму не трэба пісаць — было напісана. Ён апублікаваў югаслаўскую частку і не даў ніводнага радка пра лагер. А мог бы зрабіць сенсацыю: як вучоныя-нявольнікі рабілі атамную і вадародную бомбы. Хведар Ананчанка, які замяніў акадэміка Бясперстава, усё ж вызваленага раней за іх, прысутнічаў на выпрабаванні вадароднай бомбы. Дзіўна, але Хведар радаваўся, ды і цяпер ганарыцца, што з вадароднай мы апярэдзілі амерыканцаў.

Сустракаўся часам у парку з двума таварышамі па няшчасці — паэтам і былым наркомам, увогуле сустракацца з імі не меў жадання,

партызан любіў. А гэтых, калі выпадкова сустракаў, здзіўляў, бо лагерную трагедыю ўспамінаў з гумарам, паэта даводзіў да «белага калення», крытыкуючы непраўдзівыя дэталі яго вершаў. Паэт крычаў: «Лёгка табе было задачкі рашаць у Арзамасе. Папрацаваў бы ты ў Нарыльскіх рудніках!»

Паэт не хацеў зразумець, што, акрамя таго, што, магчыма, вучоных трохі лепш карміді, цяжкасцяў, пакут душэўных, ды і фізічных, у іх было не менш. У пяцьдзесят першым раптоўна памерла многа біёлагаў. Паміралі фізікі. Пра прычыну маглі толькі здагадвацца, ніхто яе не тлумачыў. Тут жа месцы запаўняліся новымі вязнямі. Ці не па гэтай прычыне арыштоўвалі вучоных? Безгалосыя, безадказныя, вельмі танныя выканаўцы атамных праграм, якія не мелі нават права перапіскі з роднымі і блізкімі. Уцёкі сярод вучоных былі надзвычай рэдкай з'явай. Іван Мацвеевіч за чатыры гады помніў толькі адзін факт, калі загадкава знік фізік. Якая была трывога! І якія строгасці пасля гэтага ўвялі! Як ускладнілася жыццё ўсіх астатніх! Не дзіва: уцёк чалавек, які мог ведаць ваенныя сакрэты! Не з лесапавалу ці рудніка! Там і то падымалі з-за аднаго чалавека вайсковыя часці.

Не, напісаць пра падарунак варта, але далёка схаваць ад блізкіх, каб і пасля смерці гэта не адразу знайшлі — пры жыцці Таццяны. Няхай прачытаюць Насця і Павел. Прачытаць, можа, і прачытаюць, але наўрад ці патурбуюцца надрукаваць. Для каго ж пісаць? Для іх дваіх? Павел, прагматык, месяц чытаў нейкія тры сотні старонак яго ўспамінаў. Засынаў над імі — нецікава яму. Ён, Іван Мацвеевіч, колькі разоў хацеў з абурэннем забраць рукапіс. Але Таццяна, галубка міру, прасіла не ўскладняць адносіны з зяцем, і так той крыўдзіцца, што цесць часам шпіляе яго ці размаўляе несур'ёзна, як з малым: «Табе што, так важна пачуць яго думку?» — «Ды ніякай думкі ў яго не будзе!» — «Тым больш. Якая розніца, дзе ляжыць твая чырвоная папка — у нашым ці ў іх пакоі».

Скарыўся. Перад жончынай логікай ён заўсёды скараўся, развагі ў яе больш і цярпення, вытрымкі. Усе яны такія, маці. Такой была і яго маці.

Канчалі снеданне, пілі чай.

Таццяна сказала:

— Жанначка! Ты ідзі ў інстытут. Не прапускай, адстанеш. Да мамы паедзем мы.

— Я пасяджу на першай пары і таксама прыеду.

— Я там буду цэлы дзень. Прыязджай пасля ціхага часу.

— Я сяджу на лекцыях, а думаю пра маму.

— Трэба вучыцца, унучка.

— Я разумею, дзядуля. Але ж калі ў галаве не хімія, не анатомія...

Таццяна ўздыхнула. Сёння жонка падабалася Івану Мацвеевічу. Выйшла са стану абыякавасці да ўсіх іншых праяў жыцця, з ашаломленасці горам. Паспала, згатавала снеданне, даўшы Жанне паспаць лішнюю гадзіну. І разважае, як звычайна, спакойна, рэалістычна, дзейсна. Няўжо так паверыла ў разлікі акадэміка Ананчанкі? Ён таксама верыць свайму сябру. Але ж ён толькі фізік, не ўрач. Што скажуць дактары, атрымаўшы гэтыя разлікі? Такога заспакаення, як у жонкі, не было. Лісты паперы з Хведаравымі разлікамі ў кішэні пяклі сэрца. Але ён нічым не выдаваў сваёй трывогі. Трэба верыць, як верыць Таня. Трэба верыць!

Пазванілі ў дзверы.

— Хто так рана?

Таццяна пайшла адчыняць. Яна і дома заўсёды адчыняла, не пытаючыся: «Хто там?» Павел неаднойчы папярэджваў быццам у жарт, але не без трывогі за свой набытак: «Абрабуюць вас калі-небудзь». — «Не вельмі пажывяцца». — «Не скажыце».

Таццяна адчыніла дзверы і... не, не радасна — спалохана выгукнула:

— Ваня!

І хлапечы голас, знаёмы і незнаёмы, таксама ўстрывожана:

— Бабуля! Гэта я! Я!

Збляднела Жанна, напружана застыла, баючыся скрануцца з месца. Іван Мацвеевіч таксама не адразу адарваўся ад крэсла, спалоханы і ўзрадаваны.

Унук! Унук прыляцеў ажно з Аўстраліі! Якая радасць для Лены!

— Ты званіла яму?

Жанна пахітала галавой: не. І кінулася ў прыхожую. Дзед — за ўнучкай, бадай, з такой жа паспешлівасцю.

Таццяна сядзела на зэдліку, збялелая, цяжка глытаючы паветра. Асцярожна падтрымліваючы бабулю, стаяў Ваня з сумкай на плячы, сапраўды, знаёмы і незнаёмы — за год выцягнуўся пад аўстралійскім сонцам, загарэў, набыў новы воблік. Спалоханы за бабулю, за тое, што яна ледзьве не самлела, убачыўшы яго, ён паспеў падхапіць яе і цяпер вінавата ўсміхаўся да сястры, да дзядулі. Жанна нейкі момант стаяла знямелая, потым кінулася да брата, павісла на шыі, цалавала і плакала наўзрыд, абмываючы шчокі яго слязамі.

— Ваня! Ванечка! Радасць якая!

Іван Мацвеевіч сказаў па-мужчынску жартаўліва, але ўсхваляваны быў не менш за жонку і ўнучку:

— Дай жа і мне абслюнявіць гэтага Кука, што адкрыў Аўстралію.

— Адкрыў і закрыў, — сказаў хлопец, але слова закрыў, пэўна, не дайшло да жанчын, а ў Івана Мацвеевіча радасна ёкнула сэрца: калі Жанна не званіла пра хваробу маці і ён «закрыў» яе, Аўстралію, значыць, вярнуўся назаўсёды. Божа мой! Няхай жа будзе шчасце ў Лены, ува ўсіх іх, не адно ж гора, што навалілася, як скала.

Зразумеў адчуванне жонкі — і ад нечаканай радасці паміраюць, помніў пісьмо дачкі Карэцкага: прафесар памёр у адзін міг, атрымаўшы вестку аб поўнай рэабілітацыі.

Асцярожна падняў Таццяну, павёў у пакой. Яна ўсё яшчэ шаптала як бы няўцямна:

— Ваня... Ванечка...

А Ваня сказаў:

— У мяне ж чамаданы на пляцоўцы.

Унеслі з Жаннай па вялікім чамадане. Пры святле люстры Жанна зноў доўга глядзела на брата, не плачучы ўжо — смеючыся, і зноў цалавала, цалавала... А ён азіраўся, шукаў вачыма... зразумела — каго.

— А мама ўжо ў музей паехала?

— Мама, Ванечка, у бальніцы, — паспяшаўся паведаміць Іван Мацвеевіч проста, каб не даць Таццяне і Жанне паведаміць з надрывам, трагічна, з плачам. Спалохаюць хлопца. Сапсуюць радасць звароту дадому.

— А што з ёй?

Не, яго жанчыны — разумніцы. Яны не спяшаліся тлумачыць, баяліся, далі яму сказаць, што з ёй, з Ванінай мамай, да якой ён ляцеў за дваццаць тысяч кіламетраў...

— З мамай... Знаеш, выпадак, можа, адзіны ў свеце. Мама атрымала абпраменьванне ў музеі.

— Радыяцыю? У музеі?

— Так, так... Радыяцыя. Сярод падарункаў Сталіну, якія цяпер прадаюць за мяжу, адзін «свяціўся», як гавораць фізікі. Пісьмовы прыбор. Такі падаруначак згатаваў нехта дарагому правадыру.

— Краіна дзівосаў, — сказаў Іван малодшы і дадаў: — Як Аўстралія. Толькі там іншыя дзівосы. Іншыя...

— Як табе жылося там?

— Мне? — вочы яго бліснулі, адказаў ён бадай са злосцю, пагардліва зморшчыўся: — Мне цесна там! Цесна, дзядуля!

Адказ яго спалохаў бабулю.

— О Божа!

І Ваня, схамянуўшыся, засмяяўся:

— Такая прастора! Неба высокае-высокае. Мора. Пустыня. А мне — цесна. Во які я шырокі? У Аўстраліі — цесна.

— Я разумею цябе, унук. Нам — цесна там!

— Нам — цесна. Я задыхаўся, дзед. Мне не хапала паветра. Ды і з людзьмі цяжка. Не такія яны...

Бабуля ўсклікнула бадай спалохана:

— Карміць жа цябе трэба, Ванечка. З дарогі.

Спалохалася, бо ведала, што ў халадзільніку толькі тое,

што для Лены. А яна і не такіх гасцей частавала не адной толькі садавінай. Жанна зразумела, але не ўстрывожылася — зноў засмяялася.

— Бабулечка, чакай хвіліну... нагляджуся на яго і злётаю ў краму. Пакуль Ваня памыецца...

— Колькі ты ляцеў?

— Амаль суткі. Праз Сінгапур... Ісламабад...

— Шчаслівы, — сказала Жанна.

Падарожнік пагардліва скрывіўся:

— Шчаслівы. Гэта праўда — свет пабачыў.

Івану Мацвеевічу стала балюча ад такога ўнукавага шчасця.

Таццяна пайшла на кухню гатаваць чай, рабіць рэвізію запасаў. Жанна пераапраналася ў спальні. І адтуль, праз адчыненыя дзверы, прыглушаным голасам спытала:

— А бацька... як ён там?

Іван Мацвеевіч убачыў, як у хлопца зноў бліснулі вочы і ён незнаёма пагардліва — не было ў яго раней такой грымасы — зморшчыўся.

— А што бацька... Яму не цесна там. Яму не цесна. Ён мае другую жанчыну. Ажэніцца... Ён прыслаў маме сваю згоду на развод... натарыусам завераную.

Дзеці змоўклі, як бы засаромеліся, што пры старым дзедзе сказалі тое, што ім, дзецям, недазволена. Дзед паспрабаваў неяк прыглушыць іх боль ці зняважу да бацькі, сказаў ціха:

— Не асуджайце яго.

— Мы не асуджаем, — сказаў Ваня.

Жанна змаўчала, хоць стаяла зноў у дзвярах у цёплым касцюме — на двары холадна. І зноў хлопец перавёў размову на іншае, пэўна, здавалася яму, на вясёлае:

— Яны называлі мяне там Джонам. Мне не падабалася. Я сказаў, што я Жан. І быў Жанам. Ты Жанна, і я — Жан.

Сястра ўсміхнулася, падышла, ускудлачыла яго даўно нястрыжаныя валасы:

— Эх, Ваня, аброс ты, як тубылец... якога там племя?.. аранда? курнаі?

— Усё ты знаеш.

— Ваня. Калі вы паехалі, я прачытала гару кніг пра Аўстралію.

— Ты ў нас такая.

— Я такая. Я — датошная, казаў бацька.

— Казаў, — зноў незнаёма, як бы з пагардай, скрывіўся Ваня.

Жанна пабегла ў магазін, і яны засталіся адзін на адзін — два Іваны, дзед і ўнук.

— І чым ты займаўся там?

— Рабіў на бензакалонцы.

— І не вучыўся?

— Дзед! Дзе? Без мовы? Хадзіў на курсы англійскай мовы... разам з бацькам, — засмяяўся. — Бацька вучыў мову ў інстытуце, а я — у школе. Але там я апярэдзіў яго. Мяне вучыла калонка. Са мной любілі пагаварыць. Мой акцэнт аўстралійцаў забаўляў. Японцы гаварылі не лепш, але ім — ніякай увагі. А са мной гаварылі — хлопцы, дзяўчаты, старыя. Смяяліся. І я смяяўся. Можа, гэта іх і забаўляла, што я смяяўся — сам з сябе.

Іван Мацвеевіч пазнаваў унука: хлапчына заўсёды, з малых гадоў, умеў цікава расказаць пра самае звычайнае, пра такое, што з вуснаў іншых, Насці, напрыклад, заганяла ў пазятуху.

У размове з унукам Іван Мацвеевіч як бы адтаваў ад холаду трывогі і страху. Чамусьці з'явілася ўпэўненасць, што ўсё будзе добра — з маці гэтага дасціпнага хлопца.

Аднак трэба паехаць у бальніцу да абходу ўрачоў, уручыць ім Хведаравы падлікі.

Увайшоў у кухню, дзе Таццяна вылажыла на стол усё, што знайшла ў Жанны, размарожвала ў цёплай вадзе курыцу.

— Калі ты зварыш яе?

— Звару.

Зварыць. Для дзяцей з сякеры зварыць найсмачнейшую страву.

— Я паехаў.

— Паспяшайся, Ваня.

— Лену падрыхтаваць?

Маці на момант задумалася.

— Не! Не трэба. Пакуль мы прыедзем, пакуль нас пусцяць да яе... Зняможацца ад нецярпення, няшчасная. Якое гэта шчасце, што Ваня прыляцеў! У мяне ажно адлягло тут, — палажыла руку на сэрца. — Ты падумай — сон... Кажуць, сны не праўдзяцца. Цяпер веру: ёсць тэлепатыя. Ён ляцеў і думаў пра мяне. А я сніла яго на ўзбярэжжы. Я даганяла яго...

— Дагнала.

— Не. Ён дагнаў нас з табою. Мне цяжка было б паміраць, каб ён застаўся там...

— Паміраць нам ранавата... Нам з табой. Давай дамовімся: будзем жыць!

— Ты вясёлы...

— Не скажу, што вясёлы. Але і ў мяне, як ты кажаш, адлягло. Я паехаў...

Увайшоў у пакой і ўбачыў, што ўнук, адкінуўшы галаву на спінку канапы, салодка спіць. Стаміўся, нябога.

Рашуча адчыніў дзверы ў кабінет загадчыка аддзялення, хоць сястра спрабавала яго спыніць:

— Гаспадзін! Пяцімінутка.

— А мне і трэба на пяцімінутку.

У кабінеце было многа ўрачоў — ажно пасвятлела ад белых халатаў.

Алег Пятровіч убачыў Жыгуновіча і запрасіў:

— Заходзьце, заходзьце. У нас якраз размова пра вашу дачку, — і сказаў па-нямецку да сівога чалавека з бародкай, што сядзеў за сталом у яго крэсле: — Бацька хворай. — І прадставіў Івану Мацвеевічу немца: — Наш госць — прафесар з Мюнхена, Ота Штрауф, зацікавіўся хваробай вашай дачкі.

Пакланіўшыся немцу, Жыгуновіч, не трацячы часу на прадстаўленні і на словы ветлівасці, сказаў:

— Я знайшоў крыніцу выпраменьвання. Яна ў музеі. Сярод падарункаў Сталіну. Пісьмовы прыбор. Масіўны. З каштоўных металаў, у якія ўплаўлены і радыеактыўны. Які — скажуць хімікі.

Урачы навастрылі вушы, зацікаўлена слухалі. Алег Пятровіч, пераклаўшы яго словы немцу, папрасіў:

— Не ганіце. Давайце мне паўзы.

— Такі падарунак Сталіну? — здзівілася маладая доктарка.

— Нічога сабе падаруначак! — выгукнуў сівы доктар, рускі прафесар. — Любілі бацьку...

— Хто такі зрабіў?

— Вучоныя-нявольнікі. Іх прыцягнулі да распрацоўкі атамнай бомбы.

— Аднак!

— А кажуць, што на Сталіна ніхто ніколі не замахваўся.

— Дарагая мая! Вы верыце таму, што цяпер пішуць?

— Пішуць, што мы бадзёрым маршам ідзём у рай.

— Чаго захацелі — у рай!

— Тут бы знайсці дарогу ў пекла пры такім бездарожжы. Хоць куды-небудзь прыйсці...

— І святыя і грэшнікі да могілак не могуць дабрацца. Па месяцы ў моргах...

Дыялог жанчын Алег Пятровіч не перакладаў. Але немец, пэўна, здагадваўся — пра што яны. А можа, і разумеў нешта і глядзеў на іх з цікавасцю і ўсмешкай.

— Сударыні, сударыні! Хопіць палітыкі! — сказаў рускі прафесар Сяргей Сяргеевіч.

Жыгуновіч дастаў з кішэні паперы.

— Я зрабіў замеры японскім дазіметрам дозы выпраменьвання. Акадэмік Ананчанка падлічыў, колькі магла набраць Лена... Алена Іванаўна за тры месяцы працы ў сховішчы. Бралі па шэсць гадзін у дзень. Але думаю, што ўвесь час яна там не была.

— Ананчанка — Хведар Парфёнавіч? — спытаў Сяргей Сяргеевіч. — Гэтага калючага дзеда я добра ведаю. Падлікам яго можна верыць.

Прафесары, наш і немец, Алег Пятровіч, Ірына Азатаўна і яшчэ дзве доктаркі схіліліся над сталом, над паперамі. Паразмаўлялі на прафесійнай мове. Алег Пятровіч перакладаў немцу і ад немца— сваім.

Урэшце яны адступілі ад стала. Пачаў гаварыць Штраўф.

Іван Мацвеевіч сцяўся: прысуд.

Гаварыў ён д'ябальскі доўга — хвіліны дзве.

Урэшце Алег Пятровіч пераклаў:

— Прафесар Штраўф лічыць, што перасадкі коснага мозга можна пазбегнуць.

— Я трымаюся гэтай жа думкі, — сказаў Сяргей Сяргеевіч. — Будзем лячыць. Лячэнне доўгае, але не безнадзейнае.

Безумоўна, доўгае. Але не найскладанейшая аперацыя, неналежна распрацаваная яшчэ, чаго вельмі баялася Таццяна. Хіба адна Таццяна?

Іван Мацвеевіч уздыхнуў і выцер спацелы лоб па-сялянску — рукавом.

Вынесшы тэарэтычны прысуд — па разліках, кансіліум пайшоў глядзець хворых, не адну Лену. Гаварылі пра салдата, які на палігоне схапіў большую дозу, чым Лена. Салдату не пазбегнуць аперацыі. Штраўф прапанаваў сваю клініку ў Мюнхене.

Алег Пятровіч пазмрачнеў.

— За чый кошт? Хто дасць валюту? У нас і на дарогу няма.

— Быў бы салдацік з сям'і нуварышаў, — не ўстрымалася ад каментарыя доктарка. Яе тут жа падтрымала другая — не саромеліся жанчыны, дэмакратыя дык дэмакратыя!

— Ці каб сынком Папова або Гайдара быў. Там знайшлі б валюту!

— А нашаму сыну... Падумаеш, адзін салдат!

Логіка простая: на тое ён і салдат, каб атрымаць кулю ці дозу. Алег Пятровіч і сваіх слоў пра валюту не пераклаў і рэплікі доктарак, толькі ўпікнуў іх:

— Ну, вас не стрымаць. Палітыкі! Майце павагу да прафесараў.

— Павагу мы маем.

— Хіба раней на кансіліумах дазвалялася вось такое — не па дыягназе... Пра цэны на духі...

— Алег Пятровіч! Дык гэта ж па дыягназе. Ставім дыягназ грамадству. Яно безнадзейна хворае...

— Ну, даволі, прашу вас. Што падумае госць?

— Няхай ведае, на што мы хварэем.

Івана Мацвеевіча ў палату не запрасілі. Натуральна. Ды і пайшлі яны спачатку не ў Ленін у палату, пэўна — да салдата.

Ён застаўся ў калідоры. Выйшаў у хол. Нецярпліва чакаў сваіх. Хвалявала цяпер, як падрыхтаваць Лену да сустрэчы з сынам. Сітуацыя не ардынарная. Не бачыў, але чытаў, як у вайну маці пасля паведамленняў пра смерць пасля малітваў «за упокой» сустракала жывых сыноў. Фантазіі пісьменніцкай не хапала: усе такія сустрэчы — што копіі з аднаго арыгінала. А людзі розныя і па-рознаму паводзяць сябе ў адной і той сітуацыі. Таццяна самлела, убачыўшы Ваню. А Лена? Як павядзе сябе Лена! І што лепш — рыхтаваць яе ці ўвайсці нечакана? Весела гукнуць: «Лена! Сустракай свайго блуднага сына!» У палаце будуць суседкі — хворыя, і гэта стрымае Лену ад... душараздзіральнай сцэны, ад страты прытомнасці, ад слёз. Проста, натуральна: прыехаў сын і прыйшоў наведаць маці.

Ды Таццяна адхіліла гэтую яго прапанову. Яны прыйшлі ўсе трое, раней, чым можна, сёстры, хоць добра ведалі Жанну, не пусцілі іх, бо працягваўся не проста ўрачэбны абход — кансіліум з нямецкім прафесарам.

Таццяна ў пакутлівым чаканні ледзьве не млела. Выказвала меркаванні:

— А можа, я зайду адна?

— Знаю, які ты дыпламат!

— Так. Мы пойдзем з табой. Ты ў нас дыпламат.

— А можа, Жанна?

— А што сказаць? Рвануць, што бомбу: вярнуўся Ваня.

Іван Мацвеевіч глядзеў на ўнука, бачыў, як ён хвалюецца: збялеў, ламае пальцы, хоча бадзёра ўсміхнуцца, а выходзіць нейкая грымаса, ад якой яму, старому, заплакаць хочацца. Гаротнае дзіця шалёнага часу!

Калі дактары пайшлі на другі паверх і Жанна ўпрасіла сясцёр упусціць іх дачасна: незвычайны выпадак — прыляцеў сын! — яны ўсё яшчэ пэўна не вырашылі, як рыхтаваць Лену. Неяк само сабой атрымалася, што першыя ўвайшлі яны, старыя. Лена сядзела на ложку і здзівілася, што яны так рана.

Яны не пацалаваліся з ёй. Маці ад дзвярэй ахрыплым ад хвалявання голасам спытала:

— Як ты, Леначка?

— Нічога, мама. Узбадзёраная. Быў кансіліум. Нямецкі прафесар кансультаваў. Аперацыі не будзе. Я так баялася яе! Аперацыі. Помніш, як я перадрыжэла перад аперацыяй апендыцыту!

— А ў нас радасць, Леначка.

— Нарадзіла Насця?

— Не. У цябе радасць. У цябе!

«Падрыхтавала, называецца», — асуджаючы жонку, падумаў Іван Мацвеевіч, не зводзячы вачэй з дачкі. Бачыў, як яна збялела, напружана думаючы: што? Здагадалася:

— Ваня?!

— Ваня... прыляцеў, — сказаў бацька проста.

Лена закрыла твар рукамі.

«Толькі б я не самлела. Толькі б не самлела!»

Не. Паднялася і, выставіўшы рукі перад сабой, як сляпая, пайшла да дзвярэй.

Жанна і Ваня стаялі перад дзвярамі. Пачулі іх размову.

Жанна адчыніла дзверы, загароджваючы сабой брата. Але ён быў вышэйшы ростам — выцягнуўся пад аўстралійскім сонцам. Убачыў маці, гучна крыкнуў:

— Мама!

— Ваня! Ваня! — паружавелымі раптам вуснамі шаптала Лена, мабыць, не маючы сілы кінуцца яму насустрач. І сын нерухома стаяў у дзвярах. Жанна ўзяла брата за руку, падвяла да маці. Ён асцярожна абняў яе, як абнімаюць хворых. І яны маўчалі.

Таццяна і суседкі па палаце праслязіліся.

— Дзякуй, сынок, што прыляцеў наведаць хворую...

— А я вярнуўся назаўсёды, мама. Дадому. Там мне цесна, мама!

— Сынок мой! — І тут толькі Лена заплакала — ад шчасця, якога даўно не знала; валіліся ў апошні час на яе худзенькія плечы адны беды.

6

Хворай нічога не шкадавалі, каб падтрымаць яе, куплялі самыя дарагія прадукты: ікру, апельсіны, бананы. А цэны на ўсё гэта сапраўды «дэмакратычныя». Шалёныя цэны. Паўміл́ьёна «зайцоў», якіх ён выменяў у Паўла на долары (добры зяць мяняў па рыначным курсе) хапіла на які тыдзень. Больш зберажэнняў не было ні ў іх, ні ў Лены — з'ела інфляцыя. Дзякуй «аўстралійскаму зяцю» — прыслаў з Ванем тысячу долараў. Але Ваневы грошы пайшлі на іншае. Лена сказала маці, што варта было б Алегу Пятровічу і Ірыне Азатаўне паднесці падарункі: усе даюць. Гэта вядома, што ўсе даюць. Іван Мацвеевіч быў бязлітасны вораг любых паднашэнняў, з-за гэтага часам, бадай, сварыўся з Паўлам, хоць той, хітруган, на сварку не ішоў, усёператвараў у жарт, смяяўся: «Вы люты вораг вады сырой. Але вы адсталі. У наш час, як пры Гогалі: не падмажаш — не паедзеш». Выпадкова пачуў, як Павел раіўся з прэзідэнтам фірмы, колькі паднесці Рослікаву, чыноўніку міністэрства. Абурыўся. Але Таццяна стрымала яго абурэнне. Таццяна жыла са страхам, каб яны не пасварыліся, цесць і зяць, і ён, пільнуючы яе спакой, уступаў ёй, згаджаўся: Паўла не пераробіш.

Супраць падарункаў урачам не выступіў. Па-першае, ведаў, як гэта закране жонку, не дай Бог, каб хтось хоць у думках упікнуў яго, што ён нешта пашкадаваў Лене. Па-другое, урачы — справа іншая, гэта не чыноўнікі. Калі тут, у Маскве, нямала ўжо платных паліклінік і бальніц, дзе не за Такое лячэнне, як прамянёвая хвароба, бяруць дзесяткі, а можа, і сотні тысяч, то што такое падарунак — дробязь... Але дробязь у поўным сэнсе не падорыш, трэба нешта вартае. А дзе ўзяць грошы? Лена прапанавала прадаць яе футра. Напярэдадні зімы? А сама будзе хадзіць у паліто ў маразы, аслабленая хваробай? Вырашылі, што ён, Іван, паедзе ў Мінск, каб нешта прадаць з іх дабра. Але Таццяна Хведараўна падзялілася клопатам з унучкай, тая сказала брату. І Ваня вылажыў тысячу долараў бадай з радасцю, што грошы, якія ён не хацеў браць ад бацькі, абражаны за маці, узлаваны на яго, пойдуць на лячэнне мамы.

Але гэта выклікала канфлікт паміж дзедам і ўнукам. Іван Мацвеевіч угаварыў хлопца, не трацячы ні дня, пайсці ў школу, у дзесяты клас, і ён згадзіўся. Але зведаўшы цэны, пазнаўшы, у якім становішчы сям'я, ён раптам заявіў: «Не пайду я ў школу. Пайду

зарабляць». — «Дзе?» — «Вы не бачылі, колькі такіх, як я, чаканяць манету? А я гэта ўмею лепш за іх. Навучыўся ў свабодным рынку». — «Дзіця маё, гэта ж трагедыя, што такія, як ты, не вучацца, а гандлююць, робяць бізнес. Якія яны бізнесмены! Няшчасныя! Спахопяцца, ды будзе позна».

Толькі Лена ўгаварыла сына пайсці ў школу. Але і ў школе ён гандляваў, бо аддаваў Жанне невялікія сумы грошай.

Прыйшлося Івану Мацвеевічу ехаць дадому.

Сказаў Насці і Паўлу, што для лячэння Лены, для жыцця ўнукаў, ды і ім, старым, неабходна пляшка малака, трэба грошы і ён вымушаны нешта прадаць.

Было тайнае спадзяванне, што дачка і зяць прапануюць грошы, ёсць жа ў іх «зайцы» і «зялёныя». Не паварушыліся. Параіліся паміж сабою, Павел увайшоў у яго кабінет.

— А што вы хочаце прадаць?

А ў яго ўжо спыніліся вочы на кніжнай шафе — на двухстах тамах сусветнай літаратуры. Але ныла сэрца: з чым надумаў развітацца? З найбольшым скарбам мыслямі геніяў.

Паказаў пальцам на шафу.

— Во іх, тамы.

— І колькі вы хочаце за іх?

— Не знаю. Букіністы скажуць.

— Букіністы не бяруць. У іх няма грошай.

— І гэта не бяруць? — вельмі здзівіўся Іван Мацвеевіч. — А што ж чытаюць?

Павел засмяяўся.

— Калі я скажу, што чытаюць, вам стане блага. Прадайце мне.

— Колькі дасі? — стары бадай узрадаваўся: і грошы будуць, і тамы застануцца ў доме, толькі ў другім пакоі. А ў доме ён нічога не дзяліў.

— Як вам — па-сваяцку, па максімуму. Паўмільёна.

— «Любоўнік на дваіх» — дзесяць тысяч. А тут — за дзве з палавінай том?

Павел пакрыўджана скрывіўся і павярнуўся, каб выйсці.

— Купі ў мяне «Шарп».

— Той?

— Другога няма.

— А Насця думала, што вы падарылі...

Магнітафон, можа, ужо два гады стаяў у іх пакоі, яны запісвалі адно аднаго, слухалі музыку. А ён як загасаў гады тры таму Ваню і

Жанну, так і не дакрануўся да яго — не да музыкі! Хапае яе з тэлевізара.

Іван Мацвеевіч ледзьве стрымаў сябе, каб не ўзарвацца. Як, аднак, Насця адрозніваецца ад старэйшай сястры! Пагасіў гнеў бяскрыўдным жартам:

— Ох, любіць твая Насця падаруначкі!

— А хто іх не любіць?

— І я іх люблю. Чакаю найдаражэйшы падарунак — унука.

Павел пайшоў, параіўся з жонкай. Вярнуліся ўдваіх.

Насця — калабок, на апошнім месяцы. Там маці штодня перажывае з-за яе: «Як там Насцечка?» Тэлефоннымі размовамі разарае.

Насця спытала бадай вінавата:

— Колькі ты, тата, хочаш за «Шарп»?

— Колькі вам не шкада. Улічы, калі ласка, што сястра твая ў цяжкім становішчы. Ходзім да яе штодня.

Прынеслі ажно мільён «зайцоў». Увогуле нямнога за такі апарат. Але бацька не спадзяваўся на такую суму, расчуліўся — не ад грошай, ад таго, што Насця вось-вось нарэшце падорыць унука. Шчыра дзякаваў дачцэ і зяцю. Ажно няёмка ім зрабілася, нават камерсант пачырванеў, чырванеў ён рэдка.

А праз тыдзень паехала дадому Таццяна, не магла не паехаць: нарадзіла Насця. Сына. Яшчэ адзін унук! Найвялікшая радасць. Насця і Павел сем гадоў жанатыя, і адсутнасць дзяцей непакоіла, Таццяну — асабліва.

З бабуляй напрасіўся паехаць Ваня, запэўніў, што ў школе ён не адстане, па англійскай мове дык настаўніца баіцца яго выклікаць, бо ведае, што ён валодае мовай лепш за яе.

Ваня вярнуўся праз тры дні і... прывёз бітон смятаны. Дзе бітон такі раздабылі — на сорак літраў? І як дацягнуў у метро? Была ж яшчэ і торба немалая. Жанна жахнулася:

— Што ты будзеш рабіць з ёй?

— Прадаваць — спакойна сказаў брат. — Ты ж бываеш на рынках. Яны запоўнены беларускай смятанай. Так і здаецца, што яна там у рэках цячэ. Чэрпай — і вязі ў Маскву. Няхай купаюцца ў смятане. Смятаннае жыццё!

Івана Мацвеевіча напоўнілі супярэчлівыя пачуцці: і гонар за ўнука, адказнага за сям'ю, і горыч, што дзікае жыццё вымушае дзяцей цягаць вось такія бітоны, і боязь за яго — не засмактала б яго гэтае прадпрымальніцкае балота. Страх за тое, як бізнес раз'ядае душы моладзі, прыгнятаў даўно. Самае небяспечнае, што ад накаплення багацця пэўнай часткай маладых людзей народ не багацее — бяднее.

Нацыянальны нажытак не бяздонны: калі адзін, праўдай ці няпраўдай, захапіў больш, то другому застанецца менш.

Але абурайся ты, плач, памірай, а жыццё вымушае і цябе, святога, далучыцца да тых гандляроў, якіх Ісус выгнаў з храма. Дарэмна Хрыстос стараўся: ўсё роўна храмы ўсюды захоплены гандлярамі.

І ён памог Вані павезці смятану на рынак. І гандаль захапіў яго. Ён паставіўся да свайго ўдзелу ў ім з гумарам. Сядзеў на бітоне, чэрпаў з каструлі чарпаком загусцелую на холадзе смятану, наліваў у слоікі, якія падстаўлялі, калі посуд у пакупнікоў быў безразмерны, наліваў у сваю літровую банку. Ваня злавіў яго на «жульніцтве» — замнога даліваў бедным бабулям, каб папоўніць тое, што заставалася на сценках банкі.

— Э-э, дзед, так ты раздасі бясплатна палавіну смятаны.

— Ну, і рэвізор ты, каб табе добра было!

Потым Ваня адышоў, знарок, і паназіраў, як дзед спраўляецца адзін. Угледзеў, безумоўна, што равеснікам сваім, бедна апранутым, дзед прадае за паўцаны, а бабулі адной, якая папрасіла трыста грамаў, наліў літр.

Вярнуўся Ваня, нічога не сказаў, але касу ўзяў у свае рукі. Пазней сказаў:

— Трэба, дзед, лічыць грошы, як лічаць іх у Аўстраліі.

Навучыўся хлопец.

Іван Мацвеевіч бадай радаваўся, што ніхто і нішто не псуе яму на рынку настрой. Беднасць? Поўныя беднякі да смятаны не падыходзяць, ім бы акраец хлеба. Горка ўсведамляць, але і да беднасці прывыкаеш, цяжэй — да ўласнай, лягчэй — да чужой. Цешыла, што трывала трымаўся гумарыстычны настрой, як задаў сабе яшчэ ў кватэры, як толькі вырашыў памагчы ўнуку. Гумар яго абвастрыўся, калі недалёка ўбачыў свайго універсітэцкага калегу, філолага, не пенсіянера яшчэ, які таксама прадаваў смятану. Калега — прафесар ці дацэнт? — гэтага Іван Мацвеевіч не помніў, — зрабіў выгляд, што не бачыць яго. І ён не «бачыў» таго. Дзіцячая гульня старых! Не проста старых — вучоных, збяднелых прафесараў.

Чамусьці вельмі хацелася, каб за гэтым гандлем яго ўбачыў Хведар Ананчанка. Цікава, што сказаў бы гэты востры на язык, бескампрамісны чалавек, які нават лагернаму начальству казаў у вочы такое, за што ў звычайным лагеры не карцэр зарабіў бы — смерць? Шкада, што акадэмік нават у магазін, што ў яго доме, рэдка выходзіць. Але каньяк любіць. І паспрачацца любіць. Іван Мацвеевіч часта вечары праводзіць у яго. «Зараджаюся энергіяй», —

растлумачыў Таццяне. Яна з'ездзіла аднойчы і больш не паехала — не спадабалася цынічнасць старога, ніякіх тармазоў у ацэнцы падзей і людзей, так ацэньваюць п'яныя мужыкі ля сельскай крамы: «Гарбачоў? Не ўспамінай мне пра яго».

Ваня яшчэ двойчы з'ездзіў у Мінск. Але ў трэці раз вярнуўся без бітона, з трохлітровай банкай смятаны — для маці. Сумна паведаміў:

— Вычарпалі Беларусь.

А грошы ляцелі што ў комін. Трэба ехаць яшчэ нешта прадаць. Ды і нованароджанага ўнука вельмі хацелася пабачыць. Таццяна там разрываецца на дзве часткі. Але цяпер, калі Лена прыкметна ачуняла, маці больш патрэбна Насці — вучыць яе складанай і адказнай мацярынскай прафесіі.

Дзень цешыўся маленькім унукам. Цудоўнае стварэнне! Каб убачыць такое і назваць яго сваім унукам, для гэтага варта жыць; сумна робіцца, што адпушчаны Богам рэзерв гадоў канчаецца. З-за маленькага Арцёма (так хрысцілі ўнука, не параіўшыся нават з ім, ды Бог з імі — добрае імя!) ён і Паўла па-новаму палюбіў і дараваў яму ўсе яго «зігзагі»: пагоню за эфемерным шчасцем прадпрымальніцтва, бестактоўнасць, якую ён часам дапускаў не толькі ў адносінах да Насці і яго, цесця, але нават і ў адносінах да Таццяны, што абурала асабліва, і ён часам не вытрымліваў і даваў зяцьку адлуп. Але канфліктаў паміж імі вельмі баяліся і Насця, і Таццяна, абедзве накідваліся на яго, старога, вінавацілі, а жонка пасля лісліва прасіла: «Ваня, калі ласка, не задзірайся ты з ім. Я знаю яму цану. Але дзякуй Богу, што яны добра жывуць, а твае наскокі могуць паўплываць на іх адносіны. Ты не па ім б'еш — па дачцэ».

Махнуў рукой, стараўся не заўважаць Паўлавых выбрыкаў ці, калі ўжо нельга было змаўчаць, «раздражняўся» жартамі, гумарам, хоць і за гумар яму даставалася. Не разбярэш іх, баб: што ні скажы — не так.

Нараджэнне дзіцяці закрэсліла ўсё негатыўнае Паўла. Шчаслівы бацька, зрабіўся ён свой, родны, сапраўды сынам стаў, якога яны з Таццянай не мелі, пра якога некалі марылі.

Радасць ад паяўлення ўнука, парадненне праз малога з зяцем, паляпшэнне здароўя Лены, зварот Вані — усё гэта напоўніла шчасцем, якога не ведаў даўно, можа, з тых часоў, калі Лена з малымі прыязджалі да іх і лета вялікай сям'ёй жылі на дачы. Іван Мацвеевіч зрабіўся добрым, лагодным, што радавала і Таццяну, і Насцю, ды і Паўла таксама, хоць зяць выяўляў свае пачуцці стрымана. Натуральна. Не цалавацца ж ім, мужчынам. Але трэба вяртацца ў Маскву. Таццяну не адарваць ад малога. Лене, Жанне, Ваню патрэбна

яго дапамога. Але не толькі маральная. Трэба грошы. І не малыя. Каб хутчэй ачуняла дачка, не галадалі ўнукі. Самае страшнае, калі галодныя дзеці.

Таццяна параіла пазычыць у Паўла, урэшце згаджалася сама пагаварыць з ім. Іван Мацвеевіч баяўся: калі Павел адмовіць, гэта можа парушыць яго душэўную гармонію — яго бацькоўскія пачуцці да зяця, ад якіх так хораша і спакойна стала жыць.

На другі дзень дамовіўся з калегам па рабоце аб продажы яму сусветнай літаратуры, успомніў, што яго аспірант некалі зайздросціў гэтаму выданню. А на стадыён,ператвораны ў грандыёзную барахолку, занёс стары, але добры яшчэ (мяняў трубку) перанасны тэлевізар «Юность». Не ведаючы цэн, запрасіў, відаць, мала, бо першы ж пакупнік — нейкі літовец літаральна вырваў тэлевізар з рук.

Увечары да яго ўвайшоў Павел.

Ціха і мірна, як добрыя сябры, пагаварылі пра дзяцей — пра маленькага Арцёма, пра «аўстралійца» Ваню, пра Леніну хваробу. Вельмі Паўла цікавіла, як трапіў прыбор у музей, хто яго мог зрабіць, як усё роўна здагадваўся, што цесць мае дачыненне да гэтай загадкі. Абмеркавалі цэны, апошнія палітычныя падзеі. Паўла цікавіла ўваходжанне ў рублёвую зону: у якіх адносінах будуць мяняцца «зайцы» на рублі, якая сума.

Іван Мацвеевіч падумаў з бяскрыўдным гумарам:

«Набіў, пэўна, не адну панчоху, што гэтак хвалюецца. Мяне калі хвалюе абмен, то не за сябе — за народ: ці не абрабуюць няшчасных пенсіянераў яшчэ раз, як было ўжо з укладамі?»

Адчуў, што Паўлу карціць яшчэ нешта сказаць, але раней ён не выбіраў слоў, мог пляснуць часам — што перднуць. Тут жа раптам такі цнатлівы зрабіўся. Дзіўна.

Далікатна спытаў:

— Ты нешта хацеў сказаць, Павел? Па вачах тваіх бачу. Не саромейся — свае людзі.

— Іван Мацвеевіч, нам трэба раздзяліць маёмасць.

Старога што варам абпякло. Задыхнуўся. Не адразу

вярнуў голас, ледзьве прахрыпеў:

— Якую маёмасць, Павел?

Зяць збянтэжыўся.

— Як — якую?

— Маю, тваю? — адчуваючы, што гнеў нарастае да крытычнай адзнакі, глынуў выратавальную пілюлю гумару. — Давай твае зберажэнні, мае аб'яднаем, а потым падзелім пароўну...

— Я не пра тое. Я — пра Насціну маёмасць.

— А што тут Насціна? Я аддаў Насці ўсё, што ёй належала. Большы пакой напакавалі — не прайсці.

— Вы мяне лічыце за хлопчыка. Ці вы не хочаце зразумець, што вашы дзеці маюць роўныя правы...

— Правы на што? На гэтую кніжную шафу? — Не, гумар не памагаў, слупок гневу поўз угару. — Ты чаго спалохаўся? Што на лячэнне... на лячэнне!.. Лены пойдзе больш, чым застанецца табе?

— Не мне. Хіба няроўныя дочкі, унукі? Хіба Арцём горш за Ваню?

Трымайся, Іван, трымайся! Яшчэ міг, яшчэ адно-два словы — і накопіцца тая крытычная маса, ад якой бомба ўзрываецца. А ўзрыву нельга дапусціць, бо ён раніць і Таццяну, і Насцю, а ёй карміць дзіця.

Паспрабаваў пару выпусціць ціха, перайшоў ледзьве не на шэпт. Але які гэта быў шэпт! Ды і ненадоўга яго хапіла:

— Дык вось што, мой дарагі, горача любімы зяць! Усё, што ў вашым пакоі — гэта ваша. А што ў нашых з маці — гэта маё. Маё! І пакуль я жывы, я буду распараджацца маёмасцю, якую набыў, — тут голас сарваўся, — не спекуляцыяй! Не махінацыямі! І каб вылечыць Лену, я апошнюю канапу прадам! На падлозе буду спаць! Засячы сабе на носе!

Колькі слоў на павышаным тоне — і тут жа з'явілася Таццяна і Насця, бабуля — з унукам на руках. Вочы ў абедзвюх спалоханыя.

— Што тут у вас?

— У нас? — Іван Мацвеевіч уміг пагасіў гнеў. — А што ў нас, Павел? А-а, мы абураліся расстрэлам парламента. Ты ж знаеш, я ніяк супакоіцца не магу. У цэнтры сталіцы, па Вярхоўным Савеце — з танкаў. Па людзях, што думалі пра народ! Можна хіба заставацца спакойным? І я рады, што Павел — мой аднадумец. Асуджае тых, каго трэба судзіць. Праўда, Павел?

Зяць кісла пасміхаўся.

Аднак нялёгка далася адна хвіліна гнеўнага абурэння. За вячэрай не знаў, што гаварыць, і Таццяна зразумела, што не пра расстрэл парламента ішла ў іх размова, і насцярожылася, гатовая кінуцца на абарону зяця, аднак пакутліва шкадуючы свайго неспакойнага спадарожніка жыцця. Праводзячы яго на вакзал, дапытвалася, пра што яны гаварылі.

— Што ён табе сказаў, што ты загрымеў?

— Я загрымеў? У цябе галюцынацыі. Нічога ён мне не сказаў. Ніякага канфлікту ў нас не было. Спі спакойна.

— Яго спакой — спакой Насці.

— Ты паўтараеш ісціны, якія ведае Арцём.

Аднак у вагоне ў яго балела сэрца, і ён да раніцы не мог заснуць. Часам шкадаваў, што мала хапугу даў — перашкодзілі жанчыны. А меў у запасе словы. Але адначасова быў удзячны жонцы і дачцэ, нядобра было б у час радасці ад нараджэння ўнука пасварыцца з бацькам гэтага маленькага бязгрэшнага анёла.

«Вялікія мы грэшнікі — дарослыя. Усе. Заўсёды нам чагось не хапае, — сацыяльнай справядлівасці, грошай, увагі блізкіх, кар'еры, спакою... — хацеў улагодзіць сябе, але ад успаміну пра Паўла зноў заводзіўся: — Не! Хіба не хапуга? Зарабляе мільёны два, калі не больш. Наўрад ці сумленна, спекуляцыя не можа быць сумленнай. І ўсё яму мала. Не можа дачакацца маёй смерці, каб «прыватызаваць» мой адзіны прыстойны касцюм. Дык мяне ж пахаваюць у ім, Паўлік, дарагі мой гуманіст. Што ж табе хочацца забраць? Шафы кніжныя? Машыну маю пабітую? Дачу дашчаную? Іван, не заводзься! Спі! Палічы да тысячы. Спі... Заснеш тут... Вагон так рыпіць і стукае, што вось-вось разваліцца. Разваліцца, канешне. Паўлікі ж нічога не будуюць, нічога не рамантуюць. Усё прадаюць, прапіваюць — усё, што было зроблена да іх. Ці кідаюць Радзіму і едуць у Аўстралію — па доўгі даляр. Каго ж гэта мы выхавалі? Каго ты выхаваў, прафесар? За што табе прысвоілі прафесара? А хто нас выхоўваў? Жыццё? Вайна? Лагеры?»

Прыйшоў у той дзень да Лены, стомлены бяссонніцай, і... расказаў ёй, як Павел патрабаваў раздзелу спадчыны, пры суседках не пасаромеўся расказаць. Упершыню хворую Лену пасвяціў у змрочныя праблемы жыцця, хоць ад жыцця народа яна не была ізалявана — ляжала з абяздоленымі, глядзела тэлевізар. Пацягнула на расказ душэўная блізкасць з дачкой, як з маці яе, але маці ён пашкадаваў, ды і пасцярогся — раскажа Насці, а тая — варона, святая прастата. Не апошнюю ролю адыграла жаданне — ачысціцца ад бруду, а ўспамін гэты — што ліпучы бруд. А ён помніў, неаднойчы так было і ў палоне, і ў лагеры, і ва універсітэце, а найчасцей дома: раскажаш чалавеку, якому верыш, пра тое, што раз'ядае душу і... як здзіраеш іржу, змываеш бруд, на душы робіцца чыста і спакойна.

Размова з Ленай пацвердзіла гэтае даўняе назіранне. Лена не абурылася. Лена пасмяялася. І сапраўды — як змыла ўвесь накіп. Сказала:

— Тата, па-мойму, ты завёўся з-за глупства. У цябе кругі пад вачамі. Не заводзься, калі ласка. Табе ж не сорамна? Не. Няхай яму будзе сорамна. Мой Айзенберг, калі ад'язджаў, спытаў, што ён можа ўзяць з рэчаў. «Бяры што хочаш», — сказала я. І ён нічога не ўзяў. Толькі машыну прадаў.

Разумніца. Пацалаваць яе хацелася.

Лену выпісалі з бальніцы пад Новы год. З гэтай шчаслівай нагоды Таццяна адарвалася ад маленькага ўнука, прыехала. Іван Мацвеевіч сказаў жонцы:

— Большасць шчаслівых падзей у маім жыцці адбываецца пад Новы год. У канцы года я ўцёк з палону. Зусім напярэдадні года Перамогі вярнуўся з Югаславіі, паступіў ва універсітэт. Пад Новы год мяне забралі з Комі, дзе я не выжыў бы з маім асколкам. У лістападзе я вярнуўся з няволі. Помніш?

— Божа! Каб я не помніла, калі ты вярнуўся!

— Сербанулі мы з табой горкага.

— Сербанулі. Але ж і салодкае было, Ваня...

— Ты яшчэ можаш успамінаць салодкае...

Таццяна зачырванелася, што маладуха.

Яны ўдваіх забіралі Лену. Успомнілі, што некалі вось гэтак жа ўдваіх... не, не ўдваіх — вялікай кампаніяй, усе Айзенбергі былі, забіралі Лену з радзільнага дома, калі яна нарадзіла Жанну. І ніяк не маглі ўспомніць, што ім перашкодзіла прыехаць, каб забраць дачку з нованароджаным сынам. Прыехалі, можа, праз месяц, калі малы добра ўжо кугакаў і перабіраў ножкамі. Папракалі сябе: што ж гэта за падзея, што і ўспомніць яе не могуць, дробязь пэўна, а не паехалі, каб прыняць першага ўнука з рук медсястры.

У двары бальніцы, азірнуўшыся, Лена сказала:

— А я ўжо не спадзявалася, што выйду адгэтуль.

Проста сказала, але ў маці перахапіла дыханне і замерла

сэрца, спынілася на міг — ёкнула даўжэйшая, чым звычайна, экстрасістала.

У таксі Лена любавалася заснежанай Масквой — добры снег, святочна чысты, прайшоў уначы. І засыпаў увесь бруд «перабудовы».

— Якая яна чысценькая стала. Я люблю Маскву! І ў мяне сэрца балела, як яе запляўвалі. Жах!

— Жыццё аплявалі.

Таццяна ўпікнула:

— Ваня! Ты ўсё-такі, праўда, аракул, як жартуе Жанна. Змрочны. Не трэба. Палітыкі не трэба. Паслязаўтра Новы год. Ён будзе добры — дзевяноста чацвёрты!

— Ён будзе добры, — задумліва і сур'ёзна згадзілася Лена.

Чаму дзеці не параіліся з імі — дзедам і бабуляй, — адгадаць немагчыма. Хацелі паднесці маці сюрпрыз, парадаваць?

Калі маці пераапранулася ў хатняе і, шчаслівая, абышла кватэру, кранала рукамі ледзьве не кожную рэч, села ў зале каля стала, Ваня амаль урачыста паднёс гербавую паперу. Лена ажно спалохалася.

— Што гэта?

— Згода бацькі на развод з табой, — сказаў Ваня і... пачырванеў, быццам вымушаны быў сказаць штосьці непрыстойнае.

Лена ўзяла паперу, доўга глядзела ў яе, варушыла вуснамі — чытала, хоць мову ведала слаба. Потым, палажыўшы паперу на стол, закрыла твар рукамі, як закрываюцца малыя, упэўненыя, што калі яны не бачаць, то і іх не бачаць.

«Плача?» — устрывожылася Таццяна.

Ваня зусім разгубіўся, тым больш што бабуля і дзед глядзелі на яго строга, асуджальна.

Не, Лена не плакала. Адняла рукі — вочы сухія і твар спакойны. І сказала бадай радасна:

— Добра, сынок. Заўтра... заўтра!.. афармім развод, і станеш ты Жыгуновіч, — павярнулася да бацькоў. — Тата, мама! Мы ўсе станем Жыгуновічы! Усе! Дзед! Паглядзі, які ў цябе наследнік — Іван Жыгуновіч! Хадзі, сынок, я пацалую цябе. Як ты вырас! У сваёй кватэры, дзе ты рос, — гэта так заўважна. Жанна! Жанна! — Дачка на кухні гатавала святочны абед, выглянула ў хвартушку, валасы завязаны лентай з беларускім арнаментам, рукі белыя — у муцэ.

— Хадзі сюды, Жанначка, я вас абдыму, радасць вы мая ненаглядная. Ты ж — Жыгуновіч. Жыгуновіч! Жанна! Ты — Жыгуновіч!

Іван Мацвеевіч падумаў, што заўтра апошні рабочы дзень года і наўрад ці ўдасца ёй за адзін дзень зрабіць такую няпростую працэдуру — развод, змену прозвішча дзяцей. Але ён не сказаў пра гэта. Навошта? Навошта ў Ленін настрой горкая кропля сумнення. Ды і не мог ён сказаць: горла распіраў салодка-горкі камяк, а вочы напоўніліся слязамі — слязамі шчасця. Ад такога ж шчасця грукала, без экстрасістал, сэрца Таццяны Хведараўны: жыццё прадаўжаецца! Жыццё прадаўжаецца!

«Дзякую табе, Святая Багародзіца», — шаптала Маці.

# Без пакаяння

## *Аповесць*

I

Васілёк узрадаваўся, што іншых хлопцаў, канкурэнтаў яго, каля гатэля не было. А галоўнае, няма Рагача — бамбізы, які спаганяў з малых мыйшчыкаў немалы падатак, палавіну заробку адбіраў. Яны кіпелі злосцю на яго, называлі Шпрыцам, змаўляліся ўзняць бунт. Але ў Шпрыца свая брыгада, яна ахоўвала пляцоўку ад чужакоў, інакш тут былі б хлопцы з усяго раёна, з пяці школ. Шпрыц даваў зарабіць узаконенай брыгадзе. І яго трывалі. Ад яго можна было скрыць атрыманыя «зайцы» і долары; ён не дайшоў да таго, каб выварочваць мыйшчыкам кішэні, а кажуць, на вакзале ці каля «Планеты» такія вось «шпрыцы» робяць і гэта: высмакчуць ды яшчэ і «укол» зробяць.

Машын многа. А людзей няма. Вельмі ж холадна. Далонь прылягла да дужкі вядра. Такія маразы — у сярэдзіне лістапада! Мама не помніць такіх маразоў.

Час позні — амаль дзевяць вечара. Хутка закрыецца гастраном на Варвашэні. А да яго дабегчы яшчэ трэба. Машыны падыходзяць. Але надвор'е сухое — не запэцкаліся. Гразь з-пад колаў не ляціць так. Удзень было ветрана. Вецер гнаў пыл і пясок. Нават тут, на стаянцы, машыны запыленыя. Васілёк праверыў пальцам: напісаў на некаторых свае ініцыялы.

Падышла шэрая «вольва». Ён кінуўся да яе з вядром і шчоткай. Але мужчына, што вылез, памахаў рукой:

— Не трэба, хлопчык. Абледзянее.

А жанчына ў футры дала яму паперку з галоднымі ваўкамі. Пяцьдзесят рублёў! Што купіш за пяцьдзесят рублёў? На такую суму акраец хлеба не адважаць.

Дачакаўся яшчэ адной машыны, якая спынілася каля рэстарана. Ды немец у лёгкай куртцы, нібы баючыся вылазіць з цёплай кабіны, бадай, пагрозліва крыкнуў у прыадчыненую шыбу:

— Найн! Найн!

«І гэты баіцца, што абледзянее», — падумаў Васілёк і злосна плюхнуў пад колы машыны ваду з вядра, зазвінеў тонкі лядок, што ўтварыўся за якія паўгадзіны.

Вада гэтая яму нялёгка дасталася. Звычайна іх, мыйшчыкаў, па адным, пускалі — пэўна, дамовіўся Шпрыц — у рэстаранную мыйку

гародніны, дзе можна было набраць гарачай вады. Яго не пусцілі туды. І ён мусіў спускацца да Свіслачы. А каля берагоў утварыўся лёд — такі, што на яго нельга яшчэ ступіць, а прабіць, лёгшы на бетонны парапет, нялёгка; пакуль не знайшоў камень і не шпурнуў. І несці ваду ўгару было нялёгка.

Васілёк ішоў па сваёй, дзе жыў, ужо зусім бязлюднай і цёмнай вуліцы; месячык ды далёкі, на скрыжаванні з праспектам ліхтар асвятлялі яе, іх ціхую і ўтульную вуліцу. Ад думкі, што вернецца з пустым вядром, хлопчык глытаў горкія слёзы.

Трэці месяц хварэе маці, не ходзіць на працу. А тут яшчэ і сястрычка Анька ангіну схапіла. А бацька зноў запіў. Украў пазаўчора і тыя грошы, што прынеслі маці з фабрыкі — дапамогу, і тыя, што зарабіў ён мыццём машын, калі ішлі дажджы. За што купіць хлеб і малако? Спадзяваўся на вячэрні выхад, раней маці не дазваляла выходзіць так позна, сёння, праслязіўшыся, дазволіла. І вось зарабіў... Далі, як жабраку, пяцьдзесят рублёў. Ніколі не прасіў міласціну. І ніколі не папросіць. Такі матчын запавет.

Раней, чым убачыў, носам пачуў смачны пах свежага хлеба, булак. Але ў нейкі міг падумаў, што гэта яму памроілася. Не. Каля булачнай, іх булачнай, куды ён, можа, з шасці гадоў штодня хадзіў па хлеб, стаяў пікап з адчыненымі заднімі дзвярамі, і там, на драўляных падносах, ляжалі пахучыя булкі. У краме гарэлі яркія лямпы, і святло падала на машыну.

Васілёк зачаравана спыніўся за колькі крокаў ад машыны.

З крамы выйшаў гаспадар. Васілёк ведаў, што гэта гаспадар. Месяцы два назад ён купіў іх булачную. І адразу зачыніў на рамонт. І ўсе, асабліва старыя, лаялі гэтага Анкуду на чым свет стаіць. Называлі не Анкуда, а Паскуда. Васілёк і сябры яго не абураліся; ім цікавей хадзіць па хлеб ажно на вуліцу Варвашэні. Можна апраўдацца перад маткамі — чаму доўга не вярталіся.

Тыдзень назад булачная адчынілася, і гаспадара перасталі лаяць: крамачка хораша адрамантавана, хлеб бяры сам, на выхадзе адна касірка, пані Ларыса, прыгожая, прыветлівая, гаманкая. Розных буханак, булак стала больш, выбірай — што душа пажадае і што кішэня дазваляе, і ўсё заўсёды свежае. Нават тыя пенсіянеры, якія больш за ўсіх клялі праклятатыя капіталізм, змоўклі. Хіба няпэўна хмыкалі: «Паглядзім, паглядзім, што з гэтага будзе».

Яму, Васільку, і яго сябрам капіталізм падабаўся: дае магчымасць зарабляць грошы. І абноўленая булачная яму спадабалася, асабліва гаспадыня — касірка Ларыса; мама, праўда, не кажучы нічога

дрэннага пра яе, неяк сказала: «Анкудзіха — хітрушчая, за прасцячку сябе выдае. Ведаем мы такіх прасцякоў!»

Аднойчы Васілёк увайшоў у булачную з бацькам, і «стары» (так называе яго маці: «Мой стары») Васіль Кірпач быў ужо на добрым падпіцці. Ларыса спытала ў хлопца, калі ён разлічваўся: «Гэта твой бацька?» Калі Васілёк кіўнуў, спагадліва ўздыхнула. І Васільку стала сорамна за бацьку. І раней не аднойчы было сорамна, але чамусьці перад гэтай... Ларысай стала неяк асабліва сорамна.

Казімір Анкуда не адразу ўбачыў хлопца, той стаяў у цяні. Набраў бярэма батонаў і панёс у краму. Васілёк расчаравана падумаў: «Культурны, а хлеб носіць у бруднай куртцы».

Гаспадар убачыў хлопца з ганка крамы. Штосьці прымусіла яго павярнуцца. Малы, але ён такі не спадабаўся яму ў позні час на пустой вуліцы.

— Ты чаго стаіш? Што выглядаеш? Хлеба не бачыў?

Замест таго каб адступіць, шмыгнуць у пад'езд, хлопец наблізіўся і ціха папрасіў:

— Дзядзечка, дайце буханачку... Маці хворая. І Анька. Я тут жыву. Я ў вас часта купляю. Я прынясу спадарыні Ларысе... А хочаце — я машыну вам памыю. Кожны дзень буду мыць.

— Не трэба мне мыць. Я сам мыю. Ідзі, ідзі адгэтуль.

Васілёк не крануўся з месца.

— Ну, чаго чакаеш?

— Я магу памагчы перанесці хлеб.

— Бруднымі лапамі? Ідзі, ідзі. А то дачакаешся, што я здам цябе ў міліцыю.

Пагразіўшы гэтак, гаспадар панёс батоны ў краму. Высыпаў іх на стол для паковак — каб хутчэй. Шмат упала на падлогу. Употай пачаў назіраць за начным госцем. «Стаіць. І марозу не баіцца? Не, зрабіў крок. Да машыны.

Адзін, другі. Украдзе. Во развялося іх, зладзюганаў. Такіх у калонію трэба. Навучылі іх камуністы, усё лічаць сваім. Гаспадары саплівыя!. Ну, ну, украдзі, украдзі. Пагляджу, як ты гэта робіш».

Пану Анкуду хацелася, каб хлопец украў. І думкамі сваімі як падштурхнуў яго. Хлапчына пусціў вядро на тратуар, бразнуўшы ім, і, не крадучыся, не азіраючыся, смела падышоў да машыны. Проста, як свой уласны, узяў адзін батон, засунуў яго пад лёгкую куртачку і адышоў назад да вядра.

«Во нахабнік! Во зладзюган!» — абурыўся Анкуда. Каб хлопец пабег, то ён, можа, кінуўся б за ім. Не. Машыну не кінеш. І краму. А

раптам ён не адзін? Але хлопец стаяў. І Анкуда, бадай, разгубіўся і нават падабрэў:

«Чорт з табой. З адным батонам! Падавіся ім. Але чаму ты стаіш? Калі ты думаеш яшчэ ўкрасці, то я цябе правучу».

Дастаў з кішэні штаноў пнеўматычны пісталет; калега і сабутэльнік прывёз з Польшчы і прадаў яму. З такога пісталета не заб'еш, але параніць можна; шраціна напалохае нават вопытнага рэкеціра, «макаравым» ці «Вальтэрам» яшчэ мала хто з камерсантаў абзавёўся — закон сурова карае за падпольнае трыманне зброі, нямногія рызыкуюць, нават тыя, у каго міліцыя «ў кішэні».

А Васілёк тым часам пакутаваў. Упершыню ўкраў. А яго ж вучылі бабуля, маці і... бацька, мала што п'е і на заводзе можа ўкрасці, але ж то на заводзе!.. усе, каго ён любіў, каму верыў, вучылі: не ўкрадзі. І святар у нядзельнай школе, куды яго завяла аднакласніца Светка Баярава, сказаў, што найпершыя запаветы Ісуса Хрыста: не забі! не ўкрадзі!

Што ён скажа маці, прынёсшы гэты батон дадому? Пабаіцца ў вочы глянуць. І маці адразу здагадаецца, што не зарабіў ён грошы, не купіў... Якая ганьба!

І Васілёк зрабіў адзін крок, нясмелы, няўпэўнены, каб палажыць батон назад у машыну. Спыніўся.

У жываце забурчэла. Ад голаду? Ці ад таго, што грэў цёплы батон?

Ён зрабіў другі крок, трэці...

Анкуда ўзняў пісталет, шырэй адчыніў дзверы і стрэліў.

Хлопец падскочыў, што заяц.

«Ага, прыпякло?» — весела падумаў стралок.

Хлопец на міг застыў на месцы, як бы прыслухоўваючыся — ці не стрэляць яшчэ. Потым кінуўся на другі бок вуліцы, у цень, і пабег. Грукалі па асфальце яго чаравікі. Цішэй, цішэй. І дзесьці там, у цемры, куды не даставала святло ад булачнай, сціхлі.

Анкуда задаволена засмяяўся, успомніўшы, як зладзейчык падскочыў. «Другі раз не станеш красці».

У яго быў цяжкі дзень: тры ўласныя магазіны сам забяспечваў таварамі, фірмай кіраваў... Стаміўся. Злаваўся на жонку, якая адмовілася памагчы яму разгрузіць хлеб. Ларыса не разумее, што такое першапачатковае накапленне капіталу. Трэба рабіць самім! Усё, што толькі можна, самім!

Ларыса — гуманітарка, да яе цяжка даходзяць законы камерцыі. Жыве сваёй нікому не патрэбнай літаратурай. Пярэчыла, калі ён пасадзіў яе на касу вось тут. Але ён знае яе слабасць: грошыкі любіць,

убрацца прыгожа любіць. Эстэтка. Павесялелы ад трапнага стрэлу, Казімір Пятровіч падумаў пра жонку з замілаваннем. Прыгожая ў яго жонка! А загану мае хіба адну: залішне раўнівая. Але раўнуе — значыцца, кахае. І ён салодка пацягнуўся ў прадчуванні яе ласкі.

Закончыў пераносіць хлеб з машыны ў краму, падняў рассыпаныя буханкі, акуратна разлажыў іх на закрытых паліцах. Любіў парадак. Ды і жонцы памагаў, няхай не чмыхае. Адчыняй, Ларыса, булачную, раней, чым адчыняць дзяржаўныя, садзіся за касавы апарат, лічы «зайцы»... Навучыць бы яе яшчэ «маленькай аперацыі»: грошы ўзяць, а чэк не выбіць; рабуе ж родная дзяржава падаткамі. Дык чаму нешта не ўтаіць?

Але Ларысу не навучыш, гэта не Тамара — прадаўшчыца віна-гарэлачнага. Тая ўмее, але не ў яго кішэню — у сваю. Прыйдзецца, відаць, развітвацца з ёй: вельмі раўнуе Ларыса. А ён і не пацалаваў яшчэ тую Тамару, хіба ў думках саграшыў. Але жонка — во нюх! — як чуе яго думкі і ажно шалее, калі дазнаецца, што ён быў у тым магазіне. А як не быць! Яго ж магазін. Яго фірмы. Яго ўласнасць. І самы шыкоўны, самы прыбытковы. Там, у пакойчыку за гандлёвай залай і з патрэбнымі людзьмі можна пасядзець, зменшыць прыбытак на пляшку-другую каньяку. Але без гэтага нельга. Без гэтага не пражывеш, а камерсантам пэўна не станеш. Усе любяць узяць — і з гандлёвай, і з санітарнай, і з падатковай інспекцыі, з міліцыі, з кантрольнай палаты, з фінаддзела, нават газетчыкі, гэтыя, праўда, хабар не вымагаюць — каб наяўнымі, грашыць нельга, але чарку любяць і на падпіцці з сацыялістаў ператвараюцца ў капіталістаў — славяць прыватызацыю.

Уключыў люстру — мора святла. Сеў у крэсла ў касавай канторцы, з гумарам падумаў пра жонку:

«А падушка ёй навошта? Гемарой нажыве дурная баба». Але не скажаш ёй: не любіць грубых слоў, мацюкнуцца не дазваляе, адзін раз вылаяўся пры Жанеце, дачцы іх, дык было яму, месяц грэх свой замаліць не мог.

Палюбаваўся адрамантаванай крамай. Мая! Удыхаў смачны пах свежага хлеба. Мой хлеб! Якая гэта асалода, радасць — мець такую маёмасць! Дурні камуністы, не ведалі яны чалавечай псіхалогіі. Прыватнік ён — чалавек! Некалі і ён, камсамольскі работнік, верыў у казку пра вышэйшую ступень грамадства, у якім усё абагуліцца, не будзе майго і твайго, будзе — наша.

Не выжыла тая філасофія, не перарабіла людзей. Усе хапаюць. І тыя, што сядзелі ў высокіх крэслах, і тыя, што глядзелі ім у рот, ловячы аракульскія мудрасці. І гарбачовы, і ельцыны, прэзідэнты і

пракуроры... Не лаві толькі мух. Не хаўкай. Круціся. З чаго ён пачаў? З Ларысіных і матчыных зберажэнняў. Нейкія дваццаць тысяч першапачатковага капіталу. А цяпер у мільярд не ўбярэш. Ды і не ў адзін. Чвэрць мільёна «зялёненькіх». Шкада, што пакуль няма банка... Ёсць! Але не верыць ён ні аднаму, дзе б грошы рабілі грошы. Марксісцкія эканамісты называлі такіх ранцье. Няхай бы называлі, як хацелі. Але ў яго і долары не ляжаць, у яго і долары працуюць: купляе лепшыя віны, каньякі, закускі. Выгадна. Сувязь з замежжам — і справа, і задавальненне. Наведаўся ён — і не аднойчы — і ў Германію, і ў Італію, і ў Галандыю, на чарзе — Францыя. Ад тамашніх бізнесменаў навучыўся: пакуль не стаў Ракфелерам ці Морганам, не толькі кіруй, мазгуй, але і працуй сам, блізкіх прымушай, ніякай чарнавой работы не цурайся.

Сапраўды, як хораша тут, сярод сваёй уласнасці. Цёпла. Хлеб да раніцы не астыне. І водыр яго робіць паветра проста густым: дыхаеш — і насычаешся.

Але час дадому, а то Ларысу ніякія клятвы не пераканаюць. Як па хлеб дык не паехала, зараза, рукі ў яе баляць. Ад чаго яны ў цябе баляць — ад касы? Як бабскае — дык што толькі не выдумае. Зноў не пусціць у ложак, пад коўдру, будзеш гнуцца на канапе.

А на падушцы нядрэнна сядзіцца — хітрая, чортава эстэтка. «Уся твая эстэтыка — гэта мяккае і салодкае жыццё. І ты любіш яго. І не ігруй народніцу, як бацька твой».

Анкуда выключыў святло і... выкруціў пробку, каб ніякай рызыкі, чорт іх ведае, што зрабілі рамонтнікі, людзі злыя, іх, бізнесменаў, ненавідзяць. Праверыў сігналізацыю. Зачыніў адны дзверы на два замкі, другія, знадворныя, на тры. Добра мець уласнасць, але і клопатаў з ёй... Ажно пашкадаваў сябе, нябогу: адзінаццаць гадзін, а ён працуе.

Агледзеўшы машыну і пустую вуліцу, пры святле месячыка ўбачыў, што стаіць цынкавае вядро — яго вядро, пацана.

«Бач, і на вядро забыўся. Напусціў у штаны, зладзейчык».

Але што рабіць з вядром? Пакінуць яго на тратуары? Асцярожна, як да міны", падышоў да вядра. У ім ляжала шчотка і мокрыя анучы. Мыйшчык.

Вядро прадмет бязлікі, анучы маюць свой «твар» — з адзення чыйгосці.

Механічна нахіліўся да вядра, але тут жа адхіснуўся. Чаго спалохаўся? Меў некалі дачыненне да крыміналістыкі: нядоўгі час пасля арміі рабіў у міліцыі. Ды вельмі ж маці не падабалася гэтая яго

служба: пачула, як сусед сказаў: «Казік у лягавыя падаўся». Чамусьці ў вяскоўцаў не было павагі да гэтай прафесіі.

Не. Нельга пакідаць сляды сваіх пальцаў на гэтым вядры. Але што рабіць з ім? Пакінуць на тратуары побач са сваёй булачнай? Таксама не хацелася. Падняў нагу, каб падфутболіць вядро ў цёмны праезд... Спыніўся. Наробіць грукату. Надзеў скураныя пальчаткі, узяў за дужку двума пальцамі, як за нешта брыдкае ці вострае, і аднёс вядро ў двор, ціха апусціў у кантэйнер для смецця. Грэбліва ўткнуў сябе: «Дзейнічаю, як злачынца».

Настрой сапсаваўся, і ён вылаяў хлопца: «Во паганец! Такі настрой сапсаваў. Чорт яго прынёс. Пасярод ночы хлеба шукае. Няўжо галодны? Няма яшчэ такіх галодных. Не дапусцім! Накормім».

Павярнуў ключ. Мякка завёўся матор — адладжана: «мерседэс», а не нейкія там «Жыгулі». Кнопкай уключыў дальняе святло, і фары высвецілі на чорным асфальце ў сотні метрах ад машыны шэранькую гурбачку. «Што гэта? Чалавек? Ён?»

Спіну абдало варам.

«Але чаму ён упаў? Ад спалоху? Такая драбіначка не магла забіць! Не магла!»

Ды слова «забіць» напоўніла жудасцю. Задрыжэлі рукі. А яго ж усе лічылі смелым. У школе. У арміі. У міліцыі. У партыі. У школе быў забіякам. У арміі першы, без штуршка інструктара, скочыў з парашутам і першы на зацяжны скачок адважыўся. У міліцыі гадзіннік падарылі за затрыманне двух узброеных кінжаламі «дамоўнікаў». А як на мітынгах адважна кляйміў сваіх учарашніх калег па партыі і камсамоле!..

Што ж рабіць? Развярнуць «мерседэс» у супрацьлеглы бок?

Не. Зрушыўся. З хуткасцю чарапахі праехаў няпоўную сотню метраў. Спыніўся. Глянуў праз адчыненую шыбу. Ён. Як бег, так і ўпаў тварам у асфальт. Мог спатыкнуцца... Мог... Што ж рабіць? Што?

Памагчы. Забраць у машыну. Адвезці ў бальніцу. Абавязак кожнага. Кожнага... А калі ў целе драбіна? У каго спытаюць? У таго, хто прывёз.

З ілба ў вочы пацёк халодны пот.

Во ліха дык ліха. Не, не чапаць! Ніякіх слядоў. Ніякіх адбіткаў! Нават у пальчатках не чапаць! Уключыў хуткасць, націснуў на газ. Машына рванула што звер. Гнаў па цёмных вуліцах, не выязджаючы на асветленыя, робячы нечаканыя павароты, як бы ўцякаючы ад пагоні. Але не пакідала выхаваная сялянскай мараллю, школай: абавязаны памагчы. Як? Пазваніць у «хуткую»? Ад'ехаў ледзьве не да

Уручча і адтуль пазваніў па «03». Не пазнаў свайго голасу — хрыпеў, заікаўся.

— Па-мойму чалавека збіла машына, — назваў вуліцу. — Я пабаяўся чапаць.

— Ваша прозвішча? Адрас?

«Знайшлі дурня».

Павесіў трубку. Ускочыў у машыну і павольна паехаў назад, невядома чаму адцягваючы час вяртання дадому; жончын гнеў больш не палохаў — дробязь. Загнаў машыну на стаянку. Звычайна ехаў аўтобусам. А тут пайшоў пешшу. Пра рабаўнікоў не думаў, хоць меў пры сабе немалую суму грошай — забраў вячэрнюю выручку ў вінным магазіне.

Жонка і дачка сядзелі перад тэлевізарам. Тое, што яны так позна глядзелі фільмы, многія з якіх Жанеце увогуле не варта глядзець, было прычынай ледзь не штодзённых канфліктаў. А раніцою абедзвюх не разбудзіць. Ларыса паўгадзіны чухаецца і кляне булачную, касу, а Жанета прытвараецца, што баліць жывот, і не ідзе ў школу. Эстэтка Ларыса не трымаецца ніякага парадку, не прывучае дачку да рэжыму. Нярэдка ён сам гатуе снеданне. Але ў гэтым вініў самога сябе: прывучыў прыгажуню з першага года жаніцьбы. І ўвогуле, падпаў пад жончыну пяту, а жонка па натуры гультайка і раскідуха; ён жа з малых гадоў бацькамі сваімі быў прывучаны да працавітасці і парадку; ён лічыць ледзь не злачынствам дазволіць сабе паспаць лішнюю гадзіну.

З калідора, не распранаючыся, угледзеў, што Ларыса ўжо завяла сябе дурной рэўнасцю.

— Што за фільм?

— Французскі, — адказала Жанета. — Мама, як ён называецца?

— Ты свой дагледзеў да канца. Колькі сеансаў? Адзін? Два? — Вунь як шпіляла — з тайным сарказмам — тайным ад дачкі, хоць Жанета ведала прадмет матчынай рэўнасці.

Звычайна ён улагоджваў жонку жартамі, зрываўся рэдка. А тут сарваўся, закрычаў:

— Я цябе прасіў памагчы! Я цябе прасіў! Я тваю работу рабіў!..

— Маю?

— Дамовіліся, што булачная — твой клопат.

— Ды няхай яна згарыць, твая булачная! Што я там бачу? Печаныя морды старых бабуль? Ды зашмальцаваных «зайцаў», ад якіх рукі не магу адмыць.

— Ах, якая эстэтка! Для яе грошы брудныя. Ну і ну. Забурэла баба. Ідзі зарабі гэтыя грошы ў школе сваёй. Ці даўно стагнала, што нерваў не хапае вучыць хуліганаў.

Ларыса трацiла кантроль над сваімі пачуццямі толькі ў хвіліны, калі ўяўляла мужа ў абдымках іншай жанчыны, заўсёды канкрэтнай, знаёмай, у дадзеным выпадку — паўнагрудай выбеленай і надушанай Тамары. Ва ўсіх іншых выпадках у яе хапала развагі, не мела яна дурной бабскай зацятасці — надзьмуць губы і не размаўляць гадзіну-дзве, а то і дзень ці нават тыдзень.

Сітуацыі з французскімі любоўнікамі далі ёй лёгкі прыступ, можна сказаць, рэтраспектыўны. А так яна верыла, што Казік паехаў на хлебазавод. Пакуль атрымаў там гарачы хлеб... Заўтра яна ўбачыць вынікі яго працы. Ні яна і ніхто з яго наймітаў не ўмеюць так прыгожа разлажыць, расставіць тавар па паліцах, як робіць гэта ён. Дык хто з іх эстэт? Некалі яна сама назвала сябе эстэткай, і ён цяпер з сарказмам ужывае гэтае слова, калі хоча дапячы ёй за беспарадак, за няўменне прывіць дачцэ пачуццё сіметрыі, ладу. Хоць нярэдка здзіўляецца: «Па часці ўбораў вы сапраўды: эстэткі. Адкуль такі нюх на моду? Я для сябе што ні куплю, то нямоднае».

Ларыса ўміг змяніла настрой і тон. Актрыса, чортава баба!

— Есці хочаш?

— Дзякую. Сыты. Грыз гарачы хлеб, які ты не любіш.

— Дарагі мой! Хто не любіць хлеба? Я гандляваць ім не люблю.

— Мама! Карміць людзей хлебам — гэта ж ганарова.

— Ганарова, ганарова. Любая праца — ганаровая. Я засмажыла індыка. Ікры купіла.

— З якой нагоды?

— Няўжо ты хочаш эканоміць на нас з Жанетай? Гэтага мы табе не дамо. Жыць мы будзем — што душачка пажадае. Я на ікры вырасла, калі бацька ў Астрахані служыў. Але там чорная, і яна абрыдла мне. А вось чырвоная... Ем і есці хочацца. А ўначы гаўкаю на ваду. Цяпер я і чорную люблю. А ты — з якой нагоды? Цяпер у нас кожны дзень будзе свята.

— Будзе, будзе...

— Божа! Якая змрочнасць!

Казімір пайшоў у ванную памыць рукі, глянуў у люстра і ўбачыў... не сябе: худзенькую постаць на асфальце, што ляжала ніцма, дзіўна ляжала — падабраўшы пад сябе рукі; калі падаў і не абапёрся рукамі, то мог разбіць твар...

Новая хваля трывогі і страху ўдарыла ў сэрца. І жалю. Бацькоўскага. Дзіця ж, няхай і зладзейчык...

«Няўжо ёсць такія галодныя? Чаму я пашкадаваў яму буханкі хлеба? Ён жа абяцаў памыць машыну. Я не дарую сабе, калі... Ды глупства. Такая драбінка не можа забіць. Куды я цэліў? Не цэліў я ў яго. Хацеў напалохаць. Чаму ён так падскочыў? І так пабег... Пабег — гэта добра. Значыцца, нічога страшнага. Мне трэба было вылезці... Калі не везці ў бальніцу, то хаця б аднесці на тратуар. Адзець пальчаткі... А то яшчэ які ліхач... Не, не трэба... Я памог яму лепш: пазваніў... Па такім званку «хуткая» будзе хуткай. Яшчэ лаяць таго, хто пазваніў, будуць, бо нічога ж страшнага... звычайны шок... Вунь Жанета самлела, парэзаўшы палец».

Упікнуў сябе за стомлены і спалоханы выгляд. Трэба ўзбадзёрыцца! Прыйшоў у «залу», адчыніў бар, наліў чвэрць фужэра — норму сваю — каньяку, але ўгледзеўшы, што жонка вельмі ж захапілася фільмам, плёхнуў да краёў і адным махам асушыў да дна.

Пастаяў перад адчыненым барам. Зноў адвінціў корак, але, калі паднімаў бутэльку, стукнуў аб другую — бар поўны.

Жонка азірнулася.

— Э-э, мышка-лабышка! Не хітруй. Дамаўляліся — не больш адной.

— Сёння маю права на дзве.

— Лёгка ты заваёўваеш права.

— Нялёгка. Паўтоны нагрузіў, згрузіў.

— Ты гэта так сказаў, што мне заплакаць захацелася ад жалю да цябе. Бедненькі капіталісцік мой!

Жанета весела засмяялася.

У Ларысы быў даўні хітры жаночы прыём. Калі муж загуляў недзе, яна ў першыя хвіліны магла палезці ледзьве не з кулакамі, вінавацячы яго ва ўсіх смяротных грахах. Але ў ложку яна не адварочвалася спіной, як іншыя. Яна лашчыла, каб узбудзіць яго жаданне. І калі ён даказваў, што не растраціў сваю мужчынскую сілу, усталёўваўся мір і спакой. А калі фізічнага збліжэння не адбывалася — па яго бяссіллі, то грымеў гром, бліскалі маланкі, і няшчасны супруг часта злятаў з ложка на падлогу і мусіў масціцца ў агульным пакоі на кароткай канапе.

Казімір употай хапіў яшчэ адну добрую чарку на кухні, была ў яго там схованка: у шафцы за банкамі з варэннем стаяла банка з «вішнёвым кампотам», нібыта закатаная, але крышка гэтая лёгка адвінчвалася. Наконт выпіўкі Ларыса не так пільна сачыла, але ў хованках такіх быў элемент гульні; мужчыны — што дзеці: са схованкі смачней п'ецца.

Казімір ведаў жончын прыём і баяўся яго, доўга не клаўся, спадзяваўся, што Ларыса засне. Не, не заснула.

Перад тэлевізарам на нейкі час адступіў прывід дзіцячай постаці на бруку. А лёг у ложак, заплюшчыў вочы і зноў убачыў яго. І спалохаўся мацней, чым там, на вуліцы, седзячы ў машыне. Каньяк і стравы смачныя, што замерзлі ўсяродку,ператварыліся ў ледзяную глыбу, якая расла, распірала і... здавалася вось-вось разарве страўнік, кішэчнік, як замёрзлая вада рве моцныя стальныя трубы.

Ларыса пачакала, калі ён першы праявіць ініцыятыву; ведаючы яе, ён так і рабіў — першы дамагаўся блізкасці.

Казімір не зрабіў ніводнага руху — не да пяшчотаў.

Ларыса пачакала, паліваючыся рэўнасцю. Але зрабіла «крок»: павярнулася, абняла, пацалавала раз, другі.

— Казік, радасць мая...

— Я стаміўся.

— Ах, пакутнічак. Ён стаміўся.

— І непрыемнасці. З Разані грошы не паступілі. Як бы Холапаў там не лопнуў... За два «МАЗы» павінен. Прагарым...

— Брахун!

І Ларыса так штурхнула, што ён ледзь не апынуўся на падлозе.

Мацюкнуўся, ніколі яшчэ не лаяў жонку так цынічна, схапіў падушку і падаўся на канапу. І дзіўна: там прывід знік. І ён заснуў.

2

«Хуткая» ў наш час, калі нават для такой службы паліва стала праблемай, нячаста апраўдвала сваё назначэнне. Але падбіты чалавек — выпадак незвычайны.

Дзяжурны ўрач Пятро Крывеня сам, не даручыўшы дыспетчару, пазваніў у раённае аддзяленне міліцыі: няхай шукаюць «ліхача», пакуль не позна.

Машына ляцела з сірэнай іміргалкай, прыціскаючы да тратуараў познія «мерседэсы» і «вольвы» з п'янымі кампаніямі.

Урач малады, рухавы, першы выскачыў з кабіны, упаў перад пацярпеўшым, асветленым фарамі, на калені.

Выгукнуў:

— Божа! Хлапчанё!

Знайшоў пульс, ён быў слабага напаўнення, але праслухоўваўся.

Сястра паднесла насілкі, паставіла на зямлю, глянула, сказала з болем:

— Дзіця.

А яна дзесяць гадоў на «хуткай» і бачыла ўсё — страшныя раненні, жудасныя смерці.

Не чакаючы шафёра, які выконваў ролю санітара, Крывеня сам падняў лёгкае цела, палажыў на насілкі. Разам з шафёрам занеслі ў машыну.

— Марыя Ягораўна! Кардыямін! Што ў нас яшчэ ёсць сардэчнае? Павесіць бы ўсіх рэфарматараў на адзін кручок толькі за тое, што і «хуткая» без лекаў. А разам з імі і міліцыю. Мы прыехалі, а іх няма. Яны прыедуць, калі снег замяце сляды. Ды іх і не відаць, слядоў. Агледзь, Міша, месца падзення. Ёсць тармазны пуць?

Сястра тым часам расшпіліла куртачку і ўбачыла... батон.

— Ой, глядзіце — што ў яго! Батончык. Няшчаснае дзіця. Галоднае.

— Стоп! Не мусоль яго, батон. Дай мне. Цэлафанавы мяшок у нас ёсць?

— Вы думаеце, гэта доказ?

— Хто знае, хто знае...

— Вы — што следчы. У маёй сумцы ёсць мяшэчкі. Я іх заўсёды нашу... А якая жанчына не носіць!

Урач асцярожна ўзяў батон, палажыў у мяшочак.

Марына зняла адзін рукаў курткі, закасала рукаў сарочкі, зрабіла ўкол.

— Пальчыкі яго заледзянелі. Дайце спірт, я натру. А то калі яшчэ і абмаражэнне...

— У што яго ўдарыла? — урач асцярожна, праз сарочку, абмацваў худзенькае цела. — Чакай. А што гэта? Вуха ў крыві. Кроў з вуха. Скроня чыстая і на галаве ўдару не бачу. Чаму кроў з вуха? Гані, Міша, у бальніцу! Нічога, хлопчык, мы цябе ўратуем! Патрымайся яшчэ хвілiначку!

«Хуткая» сарвалася з месца, разбудзіўшы ціхую вуліцу сірэнай. У цёплай кабіне Крывеня асцярожна абмацваў пацярпелага.

— Дзіўна. Не намацваю я слядоў удару. Чаму ж кроў? З вуха...

У хірургічным аддзяленні бальніцы хуткай дапамогі дзяжурыў вопытны хірург, дацэнт Ліповіч, падрабляў чалавек да асноўнай зарплаты, за якую пражыць немагчыма.

На хлопчыку разрэзалі штонікі, сарочачку фланелевую, агалілі. Ніякіх слядоў удару машыны. А з вуха — кроў.

Тэрапеўты падтрымалі сэрца, падключылі кісларод.

Кроў заліла вуха, і оталарынголаг нічога не ўбачыла праз сваё люстра.

— Рэнтген!

На экране на фоне знаёмага рысунка чарапных касцей маленькая шэрая кропачка.

— Што гэта? — у адзін голас выгукнулі ўрачы тэрапеўт і рэнтгенолаг.

— Гэта, дарагія дамы, звычайная кулька, — спакойна адказаў Ліповіч.

— Куля? Адкуль?

— Эх, жанчыны! Адкуль трапляюць у цела кулі, шрот?

— Стралялі? У дзіцёнка стралялі? Хто?

— Мала хіба ўсялякай брыдоты ў наш час.

Даўно ўжо ўрачы аддзялення, дзе штодня робяць экстранныя аперацыі з нагоды і банальнага апендыцыту і самага цяжкага ранення, не працавалі з такой шчырасцю, стараннасцю, паспешлівасцю. Хутчэй! Хутчэй ратаваць хлопчыка!

Рассекшы над вухам косць, Ліповіч параўнаўча лёгка дастаў дзіўную маленькую кульку, не бачыў яшчэ такой. Сястра апусціла яе ў прабірку; тут, акрамя медыцынскіх, захоўваліся і крымінальныя правілы. Але шраціна адкрыла парваны сасуд: пачалося моцнае кровацячэнне. І вопытнаму хірургу нялёгка было зашыць такі сасуд. Дрыжэлі рукі. Такое з Ліповічам здаралася, можа, разы тры, не больш, за ўсю дваццаціпяцігадовую практыку. Адзін раз, калі ён у раённай бальніцы аперыраваў роднага бацьку — запусцілі апендыкс да прабадзення, да перытаніту. Аднак і ў тых умовах ён ўратаваў бацьку.

Небяспечна, што пульсуе сасуд слаба, а кроў усё роўна фантаніць.

— Ціск?

— Сорак — шэсцьдзесят.

І о, жах! — кроў перастала цячы.

— Астаноўка сэрца!

— Масаж! Масаж! Лізавета Пятроўна!

Хірург не верыў маладым урачам, верыў аперацыйнай сястры, з якой працаваў не адзін год.

— Ціск?

— Нулявы.

— О, божа! Трымайце зашчэп! — кінуў асістэнту. Пачаў сам масіраваць худзенькую грудную клетку.

— Падключыце электрастымулятар!

Падключылі ўсё што мелі. Без вынікаў. Васілёк памёр.

Лізавета ўпершыню ўбачыла, як Ліповіч, не зняўшы халата, тут жа, у аперацыйнай уткнуўся лбом у кафельную сцяну, і плечы яго ўздрыгнулі.

Не першая смерць на аперацыйным стале. Чаму ж смерць гэтага хлопчыка так моцна ўразіла? Можа, таму, што ў пачатку аперацыі ён верыў, што ўратуе гэтае дзіця. Не, памылкі ён не дапусціў. Але нечага не ўлічыў у асаблівасцях гэтага незвычайнага загадкавага ранення. Такога ранення не было за ўсю практыку. Каб у вуха. Ці вінавата ахаладжэнне? У хлопца пабялелі, потым пасінелі пальцы рук — тыповая карціна абмаражэння. Як доўга ён ляжаў на вуліцы? Хто мог стрэліць у яго? Завошта?

3

Начальнік райаддзялення ўнутраных спраў Віктар Грук выклікаў следчага Кудру. Нядаўні курсант, той з'явіўся ўміг, не так, як некаторыя старыя разгільдзяі (любімае слова Грука з мноствам адценняў — ад ласкавага бацькоўскага да суровага начальніцкага) і далажыў па ўсёй статутнай форме:

— Спадар падпалкоўнік...

Грук скрывіўся.

— Таварыш... я — таварыш... Звяртайцеся так.

— Таварыш падпалкоўнік, лейтэнант Кудра па вашаму...

— Сядай, Іван. Як твой кабанчык?

— Не смейцеся...

— Ох, Іван! Пакуль ты не зразумееш, што ў нашай справе дробязяў няма...

— Я разумею.

У мінулую нядзелю ў аднаго разявакі-селяніна сцягнулі на Камароўскім рынку, як кажуць, з-пад носа паўтушы кабана. Івану даручылі расследаваць гэтую справу. А ён лічыў гэта здзекам. Укралі пасярод дня з павільёна. У акружэнні соцень людзей. І — ніякіх канцоў. Парсючком гэтым даўно ўжо смачна закусілі. А справа вісіць, незакрытая.

— Не хмурся, Іван. Плюнь на свінню. Я даручаю табе сур'ёзную справу. Аб забойстве.

Кудра ўзняў галаву, навастрыў вушы, што кавалерыйскі конь, пачуўшы сігнал трывогі.

— Забілі хлопца. Чатырнаццаты год. Дзіўна забілі, — Грук узяў з каробкі прабірку, паказаў лейтэнанту. — Стрэлілі вось гэтай шроцінай у вуха. Уяўляеш? Пацэліць у вуха! Хтось, хто не назваў сябе, пазваніў у «хуткую» у дваццаць два сорак тры: на вуліцы ляжыць чалавек, збіты машынай. Хто званіў? Забойца? Ці выпадковы прахожы? Ніхто не хоча быць сведкам. Але ніякага ўдару, ніводнай траўмы... А кроў з вуха... Во ўрачэбнае заключэнне аб прычыне смерці. І яшчэ адзін

доказ, можа, найбольш істотны, — начальнік з той жа каробкі падняў цэлафанавы мяшэчак, у ім прасвечваўся батон. — Урачы «хуткай» выявілі пад курткай у хлопца вось гэты батон. Без мяшка, безумоўна. Гэта медыкі запакавалі ў цэлафан — для нас. Прозвішча загінуўшага ўстаноўлена, у кішэні знайшлі пропуск у басейн. Плавец. Бацька апазнаў. Во адрас сям'і. Во загадка: каму трэба было страляць малому ў вуха? Гэта табе не мафіёзная разборка. Што скажаш?

— Справа сур'ёзная.

— Яшчэ якая сур'ёзная! А ты дзьмуўся, што мыш на крупы: свінню табе начальнік падлажыў.

— А няўжо ж! У наш час заводы крадуць... а тут тры пуды мяса...

— Паўтараю яшчэ раз: дробных спраў у нас не бывае. Засячы на носе.

— Засек, таварыш падпалкоўнік.

— То-та ж. Бярыся за справу. Пакажы сябе. Няхай Дзевяньпевень пазайздросціць.

Пімен Дзевянь — старэйшы следчы (у аддзяленні яго называлі «Летапісец Пімен» — пісаў самыя аб'ёмныя справы, тамы, суддзі стагналі ад яго спраў) сядзеў у адным кабінеце з Іванам.

Гэта быў чалавек перадпенсійнага ўзросту, лысы, астматычны. Івана ён сустрэў паблажлівай ухмылачкай.

— Зноў — Камароўскія прыгоды?

— Ды не. Забойства.

— Табе — забойства? — у Дзевяня загарэліся вочы, як у таго паляўнічага, які ўбачыў, што звер бяжыць не на яго. Забойствы заўсёды расследаваў ён, хоць да такіх спраў тут жа падключаліся следчыя пракуратуры, а гэтыя хлопчыкі ўмелі лаўры прысвойваць сабе. Дзевянь быў законапаслухмяны, але да пракурораў у яго было сваё стаўленне, якое ён нікому не выказваў.

Іван Кудра расказаў старэйшаму следчаму сутнасць справы. Той адразу павесялеў і тут жа моцна расчараваў маладога калегу:

— Задачка: двойчы два.

— Вы так думаеце, Пімен Піліпавіч?

— Галодны хлапчына ўкраў батон. Булачнік даведаўся, калі там прыватызаваная булачная, то і думаць не трэба... стрэліў у яго з пнеўматычнага...

— У вуха?

— Пане следчы, самае загадкавае ў прыродзе, у грамадстве і ў крыміналістыцы — гэта выпадковасць. Яна парушае ўсе законы, усю логіку. Часам яна, выпадковасць, можа памагчы, а часам можа так

заблытаць, што чорт нагу зламае, сто Шэрлак Холмсаў не разблытаюць, не дабяруцца да пачатку і канца...

Іван сумеўся.

— Дык з чаго мне пачаць?

— Занясі хлеб у лабараторыю. Свежы хлеб «з'ядае» адпячаткі. Але калі корка сухая... Хоць мусолілі гэты батон каму не лень, у нас жа ўсе дэтэктывы, нагледзеліся фільмаў...

Іван успомніў Дзевяня і яшчэ больш расчараваўся, калі паехаў на вуліцу, дзе «хуткая» падабрала малога (урач запісаў нумар дома і крэйдай начарціў крыж, Дзе ляжаў хлопец, рэшткі крэйды засталіся, не сцерліся шынамі машын), і выявіў, што хлопца падабралі за няпоўныя дзвесце метраў ад булачнай. І жыў ён на гэтай жа вуліцы. Сапраўды — двойчы два.

Следчы ўвайшоў у булачную. Ля паліц тупалі дзве старыя. У касавай канторцы сядзела прывабная маладзіца. Красуня. Толькі псавала яна сваю прыгажосць злосцю невядома на каго; злосць адбівалася ў яе чароўных залацістых вачах.

— Батоны ў вас свежыя?

— Учарашнія. Увечары прывезлі.

— Свежыя, свежыя, сынок, — сказала старая.

— Калі прывозілі?

— Адкуль я ведаю. Муж прывозіў. Можа, пасярод ночы.

— А што, хлебзавод адпускае круглыя суткі?

— Знаю, што позна ўвечары і рана раніцою.

Кудра ўзяў батон і падышоў да касы. Ён пахваліў сябе, што знайшоў уласны ход, без падказкі Дзевяня: няхай лабараторыя параўнае батоны — муку, час выпечкі, адпячаткі пальцаў грузчыка.

Ласкава ўсміхнуўся касірцы, каб улагодзіць яе. Усмешка маладога мужчыны сапраўды загасіла іскры яе злосці.

— Гэта ваш уласны магазін?

— Уласны. А вы што — супраць уласнасці? Камуніст?

У жанчыны з'явіліся гуллівыя ноткі.

— Не. Я — за ўласнасць. Сам маю магазін. Толькі гародніны. Дык скажу вам: невыгодна. Бульба гніе, морква гніе... Жонка, маці, сястра змарнелі, перабіраючы. Забастоўку хочуць абвясціць.

— І правільна зробяць. Усе вы прывыклі ездзіць на жонках. Эксплуататары. Бачыце, і мой прывязаў мяне да апарата.

— Ну, гэта чыстая работа.

— Чыстая... Паспрабуйце пасядзець.

— З вамі побач — сядзеў бы.

— Ох, мастакі вы на кампліменты! Малады, а навучыўся. Кавалер! Толькі маёй дачцэ ўжо дзесяць гадоў.

— Дык я не маладзейшы за вас. Кончыў універсітэт, адслужыў у арміі, рабіў у школе...

— Калега. І я рабіла ў школе. Рускую мову і літаратуру вяла. А вы?

— Я — гісторыю.

— Недарэмна ў бізнес падаліся. У гісторыі ўсё пераварочваюць дагары нагамі. Што было белае — стала чорным.

Чортава бабуля, сапсавала добрае знаёмства: падышла да касы і, хоць ён не замінаў ёй, сурова асудзіла:

— Малады чалавек! Яна ж вам сказала: у яе — дачка, муж. Не нюхайце, што кабель.

Касірка пачырванела і зноў сыпанула з чароўных вачэй злыя іскры.

Кудра завёз батоны ў лабараторыю. Ён не часта сюды прыязджаў, больш — па даручэнні Дзевяня. Але лабаранткі зналі яго, зналі, што ён халасцяк, і адна, далёка не такая прывабная, як касірка, але, бадай, у такіх жа гадах, бесцырымонна заляцалася да яго. Ледзьве вырваўся.

Падганяла справа.

У аддзяленні звязаўся з упраўленнем гандлю — даведаўся прозвішча, імя гаспадара булачнай. Вярнуўся назад на тую ж вуліцу. Але краму абышоў. Накіраваўся ў двор да старога панельнага чатырохпавярховага дома. Ішоў са страхам. Знаў сваю слабасць. Думка пра смерць хлопчыка, якога не бачыў жывога, зрабіла мокрымі вочы. Дзевянь даўно сказаў: «Іван, пры такой слязлівасці ад чужога гора не вырасце з цябе следчы». Але ж трэба расці, трэба!

Дзверы ў кватэры былі прыадчынены, хоць пад'езд недагледжаны, халодны.

«Ніводная служба не працуе. Размарозяць батарэі. Выхоўвалі калектывістаў, а людзі не могуць аб'яднацца, каб дагледзець да зімы свой дом».

Іван знарок думаў пра староннняе, слухаючы пакутлівы жаночы стогн. Баяўся пераступіць парог.

У прыхожай на табурэце сядзеў чалавек і прагна курыў. Таму, пэўна, і дзверы не зачыняліся. Бацька, безумоўна. Але гора сагнула і пакамечыла маладога яшчэ чалавека, зрабіла старым. А ў бедным пакоі на цвёрдай канапе, адкінуўшы галаву да сцяны, сядзела маці. Яе душыла грудная жаба. Дзяўчына ў белым халаце ўгаворвала яе згадзіцца на ўкол.

— Не хачу! Не трэба! Я хачу памерці. Не хачу жыць без Васілька! — яна загаласіла. — Васілёчак, сыночак мой. Што ж ты каму зрабіў? Ты ж кацянятка не пакрыўдзіў. Работнічак мой, кармілец! Каму трэба было стрэліць у тваю галовачку? Яна ж такая разумненькая была! Ты і працаваў і вучыўся не горш за іншых!

Дзяўчынка гадоў дзесяці з плачам прасіла:

— Мамачка! Няхай цёця зробіць укол. Зноў жа самлееш.

— Навошта мне твой укол. Не хачу!

— Мамачка! Нам жа жыць трэба! Нам жыць! А Васілёчка не вернеш. Браточак мой родненькі, — малая захлынулася слязамі.

Сталая жанчына абняла няшчасную маці.

— Маруся! Не забывайся, у цябе ж яна засталася, — паказала на дзяўчынку. — Хто яе вырасціць?

Марыя як схамянулася. Сціхла, замерла, стаіла цяжкае дыханне. Падхапілася, абняла дачку, як засланяючы ад небяспекі.

— Анечка! Крывіначка мая! Не пакіну я цябе, не пакіну. А Васілька... Васілёк будзе з намі! Рабі свой укол, сястра.

Жанчыны павярнуліся да незнаёмца, што стаяў у дзвярах і выціраў хусцінкай вочы. Іван не адразу нават сцяміў, што яму трэба адступіць у калідор, зачыніць дзверы. Ён нясмела растлумачыў:

— Я — з міліцыі.

Сталая жанчына пагардліва сказала:

— Што робіць ваша міліцыя? Дзяцей пачалі забіваць. А Марыя, як бы нешта ўспомніўшы, кінулася да Кудры,

схапіла за рукі.

— Знайдзі яго! Знайдзі! Таго, хто ў Васілька стрэліў. Іван сціснуў яе жорсткія працавітыя рукі, сказаў з

упэўненасцю:

— Я знайду яго. Зрабіце ўкол, калі ласка. У вас дачка... муж...

— Муж... — твар жанчыны перасмыкнуўся, яна закрыла яго рукамі і пахіснулася.

Следчы падхапіў яе, перадаў сястры. І выйшаў у калідор.

— М-да-а...

Мужчына расцёр недакурак чаравікам, глянуў на яго.

— Дык вы з міліцыі?

— А вы бацька?

— Я — бацька. Хто мог стрэліць у такога рабацягу? Мыццём машын зарабляў больш, чым я на заводзе. Мы два дні працуем, чатыры стаім. Жыццё, мачь яго... Жонка піліць: чаму я п'ю? А як тут не зап'еш ад такога жыцця? Не п'юць хіба хворыя! Канешне, я грэшны. Дзіцёнка вымусіў працаваць. Яму вучыцца трэба...

— Калі і куды пайшоў Васіль?

— Куды! Да гасцініцы. Мыць машыны. Маці не пускала. «Якое мыццё? Мароз. Суха». А я... я сказаў: «Ідзі». Я! — Кірпач нахіліўся да Івана, дыхнуўшы перагарам і, азірнуўшыся на зачыненыя дзверы, таямнічым шэптам прызнаўся: — Я зароблены ім грошы краў. Во дажыўся. Маша падняла крык. Дык Васілёк... Васілёк мне ўпотай ад мамкі даваў, — ён усхліпнуў, шмаргнуў носам і закрыў вочы далоняй.

— Калі ён пайшоў?

— Гадзін у дзевяць.

Кірпач насунуўся на следчага, зашаптаў:

— Я знаю, хто яго забіў. Канкурэнты. Там жа іх шайка ля гасцініцы. Яны яшчэ ўлетку пабілі яго. А пасля ён налог выплачваў. Во банда! Выдумаеце, усе малыя — як Васілёк? За малымі — дарослыя. Рэкет. Яны нашай завадской касірцы пагразілі: не дасі столькі-та — не вернешся з банка. Цяпер яе ажно чацвёра ахоўваюць.

Следчы ўстрапянуўся. Як яму не прыйшла ў галаву такая версія? А тым больш дзіўна, што і такому зубру, як Дзевянь. А між тым версія больш верагодная, чым з булачнікам. Гаспадар крамы мог даць батон галоднаму. Такі багач будзе страляць? З духавога ружжа? Не! «Вялікі ты летапісец, Пімен. Т нюх у цябе. Але я даўно заўважыў, што варыянтаў ты не любіш, трымаешся адной версіі, хоць вызначаеш яе ў большасці выпадкаў беспамылкова».

Распытаўшы ў бацькі, далікатна, неназойліва, пра сям'ю, пра Васілька, пра яго характар, пра сяброў, школьных і вулічных, якіх Кірпач, бадай, не ведаў, і, пабаяўшыся зноў зайсці ў пакой — маці галасіла, — Іван Кудра выйшаў на двор. Прагна ўдыхнуў марознае паветра. Падумаў, што нябожчыка яшчэ няма ў доме, а там ужо дух смерці, і ён удыхнуў яго, гэты страшны дух небыцця.

У маленстве ён баяўся нябожчыкаў, равеснікі ішлі на пахаванне, як на прадстаўленне, а ён не хадзіў, ён з роднай хаты ўцёк, калі памерла бабуля, якая любіла яго. Калі паступіў у міліцыю, маці дакорліва сказала: «Не твой гэта талан, сынок».

А між тым з маленства грыз дэтэктывы, кнігі Конан-Дойля на памяць ведаў. І сам сачыняў самыя неверагодныя гісторыі. Чаго, чаго, а фантазіі ў яго хапае, а вядомы сышчык, прафесар, вучыў у школе: для следчага галоўнае — фантазія. У Дзевяня — багацейшы вопыт, але зорак ён не схапіў, высока не падняўся, бо яму бракуе фантазіі. Пра смерць хлапчука — адзіная версія. Самая простая. Павярхоўная.

Іван задумаўся.

Пайшоў з вядром і шчоткай... Але ні вядра, ні шчоткі каля яго не было. Урачы не пакінулі б. Дзе ж яны? Засталіся ля гасцініцы — па

версіі бацькі? А калі тут? Глянуў у кантэйнеры для смецця. На гэтым двары. Пасля на суседнім — бліжэй да булачнай. Во яна, шчотка! Аблезлая. І ануча. Вядра няма. Вядро цяпер каштуе немалыя грошы. Любая гаспадыня недзіравае вядро магла падабраць. Вярнуўся ў дом. Але ў кватэру не зайшоў. Кірпач курыў на лесвічнай пляцоўцы.

— Ваша шчотка?

— Мая.

— І ануча?

— З яго ж штонікаў. Малыя сталі, падраныя, — Кірпач усхліпнуў: — Дзе вы іх знайшлі?

— Знайшоў. Я іх забяру. Газета знойдзецца, каб загарнуць?

— Я разумею. Доказ. Але дзе яны былі? Разумею, разумею, следчы сакрэт, — бацька зноў усхліпнуў: — Хутка труну прывязуць. Ах, Васілёк! Сынок!

Спусціўшыся ўніз, Іван вырашаў дылему: ці трэба яму пабачыць, як установяць труну з нябожчыкам? Вобраз забітага трэба мець у памяці. Дзевянь кажа: гэта памагае. Але баяўся: наплачацца, раскісне. Ды і працы па вушы. З улікам шчоткі і анучы, знойдзеных у суседнім з булачнай двары, якой версіі аддаць перавагу?

4

Казімір Анкуда рабіў у сваім офісе; пад яго ён купіў кватэру ў народнай артысткі, выгадна купіў: збяднелая і непрактычная, артыстка не ведала цаны нерухомасці ў цэнтры сталіцы і была рада, што ёй прапанавалі аднапакаёвую кватэру і кучу долараў, якія яна да таго ў руках не трымала.

У размовах з партнёрамі, пастаўшчыкамі, служачымі і рабочымі фірмы ўчарашні эпізод забываўся. Калі і прыгадваўся, то толькі ў сувязі з адносінамі з жонкай. Вось гэта турбавала — бяссілле мужчынскае; не дай божа, і сёння будзе не здатны — не пазбегчы сур'ёзнага скандалу, Ларыса такая... шалёная па гэтай частцы.

«Самка! Толькі і клопату ў яе — задаволіць сваю плоць. Не разумее, колькі сілы забірае бізнес. Галава пухне ад ідэй. Круцішся, як вавёрка ў коле».

Вось сёння... толькі міжнародных размоў па тэлефоне тры. Лейпцыг далі хутка. Але размова была не з прыемных. За піва, якое адтуль атрымоўвае, ён павінен паставіць піламатэрыялы. А «Бабруйскдрэву» банк не перавёў грошы з яго рахунку. Ён так і сказаў Гансу Вагнеру, з якім лёгка гаварыць, бо ён дасканала валодае рускай мовай, наш немец, з Казахстана:

— Іван Карлавіч, ты ж добра знаеш нашых. Я табе даўно сказаў: рабі папраўку на рускае разгільдзяйства. Мы — не немцы.

— Казімір, ты гэта гаворыш як бы з гонарам.

— Які да д'ябла гонар!

— Да таго ж ты не рускі, ты — беларус, а гэта бліжэй да Германіі.

— Ха! Палякі яшчэ бліжэй. А такіх пляскуноў і ў нас мала. Я з панам Крышэўскім рву адносіны. Хітруган і манюка! Што ні абяцанне — мастацкі свіст.

— Казімір, толькі паважаючы цябе, высылаю чарговую партыю... заўтра выйдзе рэфрыжэратар. Але каб заўтра дошкі ехалі да мяне.

— Зараз жа буду званіць генеральнаму ў Бабруйск. І ты паслухаў бы, як я з імі размаўляю. Гэта я з табой трымаюся дыпламатычнага этыкету. Ды і вашы тэлефонныя лініі слабыя для нашых слоў — расплавяцца.

Вагнер засмяяўся.

— Вясёлы ты чалавек, Казімір. З табой і пасварыцца прыемна.

Любіў Анкуда, каб такія вось яго размовы з дальнім і блізкім замежжам слухалі падначаленыя, партнёры. Тут ён ускокваў на свайго каня. Мясцовыя справы вырашаў у паўзах.

— Вася! Хадыка паабяцаў пару свінятак. Гані, забяры тушы. І да Круля, няхай прапусціць праз свой цэх. Максімум — паляўнічых кілбасак. Але скажы... калі будзе такая ўсушка і утруска, як у той раз, я з яго скуру спушчу і самога праз мясарубку прапушчу.

— Самі скажыце. У вас тэлефон.

— Бачылі памочніка? Вось і працуй з такімі! Ты не кажы. Але ты запішы дамоўленасць аб выхадзе прадукцыі. Інакш я з твайго заробка вылічу гэтую ўсушку. Гэта табе не райспажыў, дзе любую ўтруску спісвалі. Там грошы былі казённыя, савецкія. А ў мяне — мас. Мазалём... Знаю, чаму ты скрывіўся, — думаеш: не мазалём, а языком. А ў мяне на языку мазоль, а ён самы балючы.

— Хвіліначку, Людміла Іванаўна. Зараз я з вамі займуся. У вас жа вунь стус папер. Яшчэ адзін званок. Дзевушка, мілая і дарагая. Што ў вас з Урангоем? Трэцюю гадзіну чакаю бліжняе замежжа. Двойчы з Германіяй за гэты час пагаварыў. Эх, Цюмень, Цюмень, край далёкі! Што там яшчэ? — глянуў у пералік дзённых спраў. — Жытомір. Жытомір пачакае. Павел Сцяпанавіч, мой дарагі і абаяльны памочнік! Устанаві ты цесную сувязь з тэлефоннай станцыяй. Я сам заняўся б, ды ў мяне жонка раўнівая.

Пажартаваў, а па сэрцы шкрабнула што дзеркай. Зноў у думках вылаяў Ларысу: «У пячонках сядзіць твая рэўнасць. Чортава баба! Не дала паспаць. Курчыўся на канапе. Косці баляць, — але падумаў пра яе цела, пацягнуўся да трэску ў суставах. — Не бядуй, я табе дакажу, — і зноў завёўся: — Зацятая зараза. І снеданне не згатавала. Ці сядзіць у булачнай?»

— Людміла Іванаўна, давайце вашы паперы, а вы зварыце каву і зрабіце які бутэрброд. Што там у нас у халадзільніку? Я сёння не снедаў. Ларыса адчыняе булачную на гадзіну раней за дзяржаўную. А вы думалі, як трэба працаваць у бізнесе? Як пры саветах? Скончылася тое вольнае жыццё. Краіна павінна багацець! Інакш памром галадранцамі.

Даўшы свайму невялікаму ў офісе штату заданні, зрабіўшы добрых дзесяткаў паўтара званкоў, далёкіх і блізкіх, кампрадор (так яго называла прыбіральшчыца цётка Анюта, за што ён зволіў яе), Анкуда паехаў на аб'екты.

Наведаў склад прадукцыі — арандаваў яго ў завода. Прыкінуў, дзе можна палажыць запас мукі. Падсобны пакой за залай булачнай пустуе. І ў яго ўжо даўно паспела ідэя (Ларысе пакуль што не сказаў, баіцца, што запратэстуе) купіць італьянскую партатыўную пякарню і выпякаць доўгія батоны з мукі найлепшай цвёрдай пшаніцы. Во будзе бізнес! Такія батоны, французскія чайныя булачкі расхопяць гарачыя, з печы, усе багачы будуць у яго купляць.

Грузчык — бамбіза ў восем пудоў, — лежачы на ватніку каля батарэі, не падняўшыся нават, каб павітацца з гаспадаром, спытаў:

— Хазяін, калі аўтапагрузчык будзе?

— Куплю, куплю, — паабяцаў, а сам падумаў: «Дулю я табе куплю. Пагрузчык яму дай! Паўсотні мільёнаў выкінь. Я цябе, гультая, у шыю выганю. Яшчэ адзін сігнал, што крадзеш, — і будзь здароў. Разбэсцілі вас камуністы. Грэеш спіну, а парадку на складзе няма».

Даў праборку кладаўшчыку, які меў зарплату за тое, што адказваў за тавар, прымаў, адпускаў, і яшчэ паўстаўкі грузчыка. Грошы вырваць умеюць, а працы не відно.

— Распанелі вы тут ад бяздзейнасці.

Калі гаспадар выйшаў, бамбіза мацюкнуўся ўслед:

— Работнічак! Пачакай, мы табе чырвоную зорку пакажам! У семнаццатым не такім далі ў сраку выспятка. Князі ў Парыжы вуліцы падмяталі. А табе, халую, і мятлу не даверацы.

— Выганіць ён цябе, Атрох, — сказаў кладаўшчык.

— На маю спіну і рукі мяшкоў і скрынак хопіць.

— Салідарнасці ў цябе мала.

— Якой, пралетарскай? — рагатнуў Атрох.

У вінным магазіне, дзе само паветра п'яніла, Казімір Пятровіч паглядзеў на пышную прадаўшчыцу і ўпершыню за паўгода гулліва падумаў:

«А ці не перакуліцца з ёй? І сябе праверу. І Ларысіну рэўнасць недарэмна буду зносіць. Кажуць, чужая баба стымулюе і на сваю».

Зайшоў за прылавак, пераставіў на паліцы колькі прыгожых пляшак — гэта быў яго любімы занятак, даўно хваліўся сябрам, што ў яго гіне талент дызайнера, мастака.

Калі пакупнік выйшаў, наблізіўся да Тамары, зазірнуў у яе дзіўна затуманеныя вочы. І яна адразу ўчула яго жаданне. Прагна аблізнула нафарбаваныя вусны, пыхнула водарам духоў і лікёраў, прашаптала:

— Трэба зачыніць дзверы.

Ён пайшоў і сам зачыніў іх.

У бакоўцы канапы не было. Яна заслала на падлозе плед і чакала яго ўжо без кофтачкі.

Потым абвіла голымі рукамі яго шыю, прагна пачала цалаваць.

— Мілы мой, мілы, слаўны. Колькі начэй я не спала, думаючы пра цябе... уяўляючы вось гэта... ж мы з табой... Я салодкая. Каб ты ведаў, якая я салодкая!

Атрымалася хораша. Сапраўды салодка. Казімір быў на сёмым небе. Ёсць яшчэ порах! Ёсць! Ды які! Сумленне не шкрабло. Наадварот, да жонкі з'явілася зласлівая помслівасць.

«Дамаглася, дура набітая і нябітая?»

Не, сумленне ўсё ж хацелася праверыць: ці гэтак жа яно будзе маўчаць, калі гляне Ларысе ў твар?

Паехаў у булачную.

Ларыса — во вытрымлівае характар! — нават не глянула на мужа. Уся ўвага — пакупнікам. Ды што гэта? Ля касы група жанчын. Але апарат маўчыць.

Расказвае старая:

— Наплакалася я, бабачкі, як па сваім родным. Ляжыць ён як жывенькі. А Маша... матка яго, млее. Нашатыр ёй падносяць. Дзіва што! Такога хлопчыка згубіць. Я ж яго з калыскі помню. Маша часам прасіла паняньчыць яго, пакуль па магазінах пабегае сама.

— З якога гэта дома, цётка?

— Ды з нашага. Што ў двары. Дванаццаты «А». Васіль Кірпач. І бацька яго Васіль. Нішто чалавек, але п'янюга. Ссушыў ён Машачку.

— І хто яго, цётка?

— Каб жа я ведала, то сама задушыла б душагуба. У вушка гад стрэліў. У самае вушачка. З пісталета. Зверху дык і ранкі не відна. Пасінела вушка — і толькі. Дзе дактары рэзалі — наклеечка марлевая.

— Ды за што яго?

— За што — за што. Азвярэлі людзі.

— Ды каму што мог зрабіць такі хлопчык? Кажаце — машыны мыў...

— А там у іх свае разборкі.

— І дзеці азвярэлі.

— Затое рынак маем! — крыкнула маладуха.

Анкуда пачуў, як у яго млеюць ногі. Спалохаўся, прысеў на падаконнік. Але тут жа зразумеў: не ногі яго выдадуць — твар, проста чуе, як кроў балючымі штуршкамі ад твару адліваецца ў патыліцу. А ён, дурань, выставіўся на святло. Добра, што на яго ніхто не глядзіць.

— Бабачкі, у хаце ж хоць шаром пакаці. Прапіў усё п'янюга. І памінкі няма за што справіць. Давайце скінемся па якім «зайчыку».

І жанчыны пачалі кідаць у торбу старой грошы.

Ларыса адчыніла скрынку касы, але раней, чым чэрпнуць паперкі, паглядзела на мужа.

Ён адказаў хрыплым голасам:

— Дай. Усё. Усю выручку.

Ларыса ўстрапянулася — ад здзіўлення ці ад радасці. Старая ажно расплакалася.

— Ой, дзякуй вам, Ларысачка. І вам, пан Анкуда.

— Хлеба набярыце, цётка.

— Бог вам паможа, сынок.

Калі жанчыны пайшлі, Ларыса выйшла з канторкі, наблізілася да мужа, глядзела на яго закахана, ласкава.

— Дзякуй табе, Казік. Ты — чалавек.

— А ты што думала — што я свіння?

— Не завадзіся, калі ласка. Скажы, якое няшчасце! Даехалі да абрыва: дзяцей пачалі страляць, — і ўстрывожылася: — Выгляд твой мне не падабаецца. Змарнелы ты нейкі, бледны.

— Пабляднееш. Ноч не спаў.

— Я не спала, а ты хроп, як пяньку прадаўшы, як кажа твая маці.

— З учарашняга дня не еў. Ты ж прыгатавала...

— Я сюды пабегла. А ты сам не змог? Поўны ж халадзільнік вяндліны. Ажно сорамна перад людзьмі.

— Якая ты сарамлівая!

— Паедзем дадому — накармлю цябе ад пуза.

— Сядзі. Скаргу напішуць, што хлеб не прадаецца. Я сам...

— Сяджу, як сабака ў будцы.

Ён баяўся заставацца з Ларысай. Залішне пільна яна разглядае яго. А ён не можа глянуць ёй у вочы. Не, не з-за Тамары. Тамара — глупства, лёгкая маральная правінка ў параўнанні... Страшна закончыць думку — у параўнанні з чым.

Як п'яны, сеў у машыну. Пайшоў сняжок. Матляліся дворнікі. Сустрэчныя машыны і тыя, што ішлі наперадзе, расплываліся ў бясформенныя плямы. З іх, з плям, часам праяўлялася невыразная дзіцячая постаць. І тады вочы заліваў пот жудасці, хоць праз адчыненую шыбу дзьмуў халодны вецер. Ацяпленне не ўключаў. Але з гарачыні кідала ў смяртэльны холад, калі, здавалася, усё замярзала: ліпучы пот на спіне, на ілбе, слёзы ў вачах; лёгкія сняжынкі білі ледзяшамі.

«Ускочу я ў аварыю».

І раптам адчуў, што яму хочацца аварыі, — пакараў бы сам сябе. А калі не сябе — кагось іншага? Яшчэ адна ахвяра па яго віне?

«У мяне ж не было ніякага злога намеру, проста хацеў спалохаць. Хіба мне батона шкада было? Я сотню іх аддаў... грошы і хлеб. Але трэба вучыць: чужога не чапай... Не навучым — не выжываем мы, новы клас».

Дабраўся да офіса без прыгод. Засеў у сваім кабінеце — найменшым пакоі, які, напэўна, быў спальняй актрысы. Загадаў: чужых не пускаць. Ды і сваіх... Адказваў ім неўпапад, нязвыкла; заўсёды гаварун быў, весяльчак, адорваў і жартамі і цукеркамі, цыгарэтамі. Сакратарка Аліса выйшла ад яго ашаломленая, бадай, спалоханая.

— Людміла Іванаўна, мы не банкруты?

— Ды ты што! Я — бухгалтар, усё ідзе праз мяне.

— А чаму ён такі? Хмара... Не, не хмара. Як выкручанаяануча.

— Ох, пагарыш ты са сваім слуцкім фальклорам. Параўнанні ў цябе!

— Не, праўда: чаму ён такі? Раніцою свяціўся проста...

— З жонкай пабачыўся. Яго ж Ларыса — Атэла. У спадніцы. Яна ўсіх нас ненавідзіць. Цябе — асабліва, такую круцёлачку ў міні, з голымі лыткамі...

— Што вы зайздросціце маім лыткам?

— А чаму не пазайздросціць мне, саракагадовай бабе, табе, маладой? О, каб я мела твае лыткі і сваю псіхалогію!

А Казімір Пятровіч то сядзеў у нейкай бяздумнай прастрацыі, здавалася, вось-вось засне чалавек у крэсле, то падхопліваўся і

кідаўся, што паранены звер па цеснай клетцы. Двойчы адчыняў хітра замаскіраваны пад кніжную паліцу бар, хапаўся за пляшку. Але ўспамінаў пра «мерседэс»: яго трэба загнаць на стаянку, тут пакідаць небяспечна, дваццаць тысяч долараў адваліў.

Чуць прыадчыніў дзверы, хрыпла спытаў у Алісы:

— Дзе Канапля? — яго намеснік, правая рука.

— Паехаў на склад.

— А Вася? Вася не вяртаўся?

Сказаў імя Вася, успомніў словы жанчыны і зноў пачуў разрыў кулі каля сэрца, а можа ж разарвацца ў самім сэрцы.

«Васю прыйдзецца мяняць. Ніякага Васі! Ніякага. Няма Васі і не будзе! А што будзе? Што будзе? — уткнуўся лбом у раму, ціхенька заскуголіў. Аднак і гэты ледзь чутны гук спалохаў. Заглянуў у пакой, дзе сядзелі жанчыны, трое. Не знайшоў, што сказаць ім. Проста паказаўся: вось я, ранейшы! Усміхнуўся. Але не падумаў, што ўсмешка была ненатуральная, яна, бадай, спалохала жанчын. Убачыў, што яны яго дзіўна разглядваюць, быццам убачылі ўпершыню. Трэба нешта сказаць ім. Што? Жарт не да месца. Ды і не прыходзіла нічога жартоўнага. Паведаміў:

— Ля нашага хлебнага ў двары хлопчыка забілі.

— О божа! — выгукнула Людміла Іванаўна.

— Усхвалявала гэта мяне.

— Яшчэ б не ўсхвалявала!

— А мы варожым: што гэта вы нейкі... сам не свой.

— Не свой, — і, як спалохаўшыся, зачыніў дзверы.

Прыйшоў Канапля. Пачаў пра справы:

— Падатковаму інспектару трэба даць у лапу.

— Дай.

— Скажы Людміле. Гэтая фінансавая дзеўственніца ламаецца, што чэрствы корж.

— Не ўмееш ты гаварыць з бабамі.

— З бярозкамі — умею. Са старой альхой не ўмею.

— Лысы ты бабнік. Але сёння плюнь на справы. А бабамі займайся пасля работы. А цяпер адгані на стаянку маю машыну. Мне захацелася прычасціцца...

— Зайздроснае жаданне. Куды завалімся? Да Тамары?

— Я сам завалюся. Без сведкаў.

Канапля рагатнуў.

— Разумею. І зачыняю рот на замок. Давай ключы.

Зачыніліся за Канаплём дзверы, голас яго яшчэ гудзеў у суседнім пакоі.

Казімір, што кот на мыш, скочыў бясшумна да бара, дрыжачай рукой наліў фужэр «напалеона». Залпам асушыў.

На нейкі час страх адхлынуў, што прыбой. Накацілася ласкавая хваля ўспаміну пра Тамарыны пяшчоты. І з'явілася вясёлае задавальненне сабой: а ён яшчэ — ого-го! Пасля пачаў супакойваць сябе. Чаму ён панікуе? Малога, безумоўна, шкада. Але ж хіба ён хацеў? Няшчасны выпадак. Хто дакажа?.. Ніхто не дакажа!

І тут тэлефонны званок. Спалохаў. Працягнутая рука застыла над трубкай: браць ці не браць? Узяў.

— Анкуда?

— Я слухаю.

— Выкінь пісталет.

— Хто гэта гаворыць? Хто? Які пісталет?

— Свой. Ідыёт! Ён яшчэ пытае! Ці ў цябе ружжо, духавое?

І гудкі.

Анкуда пачуў, што млее — паплыў пакой. Не адразу адняў трубку ад вуха, і гудкі стралялі ў вуха.

«Хто гэта? Хто? Знаёмы голас. Меў тэлефонныя размовы з гэтым голасам, але ўспомніць не мог, каму ён належыць; званілі сотні, тысячы. Хто ж гэта ведае? Адкуль? Што ведае? Няўжо бачыў? Хто што мог бачыць? З якой жа мэтай ты папярэджваеш, не называючы сябе? Назавіся — і я азалачу цябе за маўчанне. Няўжо гэта кара? Няўжо кара? Аліса! Магла слухаць Аліса! А я сказаў пра хлопца...»

Няўцямна паглядзеў на трубку, якая ўсё яшчэ страляла кароткімі чэргамі: ту-ту-ту. На апарат. Не. Дзякуй богу, тэлефон прамой сувязі. «Дабрадзей» — свой, ведае яго персанальны нумар, які ён мала каму даваў. Хто ж ён? Хто?

Стоп! Пісталет! Дзе пісталет? Звычайна браў яго з сабой. На выпадак нападу рэкеціраў. Штовечар позна адганяе машыну, а стаянка далёка.

Успомніў: учора, вярнуўшыся дадому, сунуў пісталет у шуфляду стала. Не помніў: зачыніў ці не зачыніў. Звычайна зачыняў аўтаматычна. Да Жанеты прыходзяць аднакласнікі, не толькі дзяўчаты. Выпадку крадзяжу не было. Але тут здалося, што шуфляду не зачыніў, і вельмі ж захацелася, каб нехта з Жанеціных сяброў украў «цацку». Як бы проста ўсё вырашылася: пісталет укралі малыя, яны ж і стрэлілі, без злосці, з цікаўнасці. Але гэта пустое — спадзяванне. Хутчэй ляцець дадому.

Нацягнуў куртку, накінуў шалік, што пятлю, шапку не насіў — піжоніў. Выскачыў, забыўшыся развітацца з супрацоўніцамі, чым яшчэ больш здзівіў іх.

Час пік. У тралейбус не ўбіцца. Наступнага не дачакаўся. Схапіў ліхача. Кінуў яму пяць долараў, вельмі здзівіўшы.

Але каля дома цюкнула думка: а калі гэта хітрая лавушка? Выйдзе ён з кватэры з пісталетам, а яго тут жа, на пляцоўцы, цап: клюнуў на прыманку, нясеш выкідваць — значыцца, ты стрэліў.

Абышоў вакол дома. Углядаўся ва ўсіх прахожых у двары. Падымаўся па лесвіцы, ліфтам не паехаў, — каб праверыць, ці не стаяць падазроныя на пляцоўках. Нікога. Ларыса была дома. Сумелася: рана зачыніла булачную. Ды ён не ўпікнуў. Яна сказала як бы з дакорам:

— Рана ты сёння...

— Я яшчэ пайду.

— Куды? Хлеб Вася прывёз. Да Тамары? Ці да Алісы?

Ён сарваўся на злосны крык:

— Што ты мне тыцкаеш: сваімі бабамі! Жыцця ад цябе няма. Задавіцца хочацца.

— Цьфу, дурань! Дзіця пасаромейся.

Шуфляда была зачынена, і пісталет ляжаў там. Ён употай, каб не ўгледзела Ларыса, сунуў яго ў кішэню штаноў і гэтак жа, па лесвіцы, з аглядкамі, спусціўся ўніз. Але тут успомніў: кулькі! У шуфлядзе кухоннай шафы, дзе інструменты, пачак куль, нямецкіх. Кінуўся назад, зноў здзівіўшы Ларысу.

— Што забыў? Прэзерватывы? Дык яны ў спальні.

Мацюкнуўся і гэтым выгнаў жонку з кухні.

Пайшоў густы снег. Мяло. Прахожыя куталіся ў каўняры, адварочваліся, нікому ні да кога не было справы, ніхто ні на кога не глядзеў. У кожнага свой клопат.

Анкуда ўподбег перасек вуліцу Варвашэні, міма гасцініцы спусціўся да ракі. Кінуць яго ў Свіслач. Але як? З-за густога снегу не відаць, дзе палонка. А па лёдзе ісці яшчэ рызыкоўна. Шыбнуць? А калі не праб'е лёд? Бег па беразе да Траецкага прадмесця. Там выйшаў на пешаходны масцік. Убачыў унізе чорную ваду, па-зладзейску азірнуўшыся, не шыбнуў — ціха апусціў у раку пісталет. Высыпаў кулі. З палёгкай уздыхнуў: канцы — у ваду!

Дома прытварыўся хворым: баліць жывот.

— Баюся, як бы язва мая не адкрылася.

Не еў, не піў.

Да любой болькі, яго ці Жанецінай, да сваёй, Ларыса адносілася з увагай, з трапятаннем — ці то насмарк, ці галаўны боль. А боль ў жываце яе проста палохаў; у яе дзядзька памёр ад запалення жоўцевага пузыра.

І ў той вечар Ларыса проста дзьмухала на яго. І — ніякіх прэтэнзій, ніякай рэўнасці. Ён падумаў з гумарам:

«Калі ёсць за што, дык ты маўчыш. Лёгка ж цябе ашукаць можна».

5

Яны з'явіліся раніцою, ён толькі адзяваўся, а Ларыса паўгадзіны назад паехала ў булачную. Двое міліцыянераў, адзін у форме, другі — у цывільным і двое панятых: цікаўная суседка — пенсіянерка, якая часта заглядвала да Ларысы і ў двары хвалілася, што вывучае, як новая буржуазія жыве — што есць, што п'е, і дворнік, жыхар першага паверха, быў некалі дворнікам, а цяпер, кажуць, на Камароўскім рынку прамышляе — перакупшчык.

Іван Кудра ветліва павітаўся, прад'явіў ордэр на вобыск. Анкуда спалохаўся, пахаладзела ў грудзях, але, стаіўшы страх, абурыўся:

— Што такое? З якой прычыны? Я скардзіцца буду! Пракурору!

— Ордэр падпісаў пракурор Якімкін.

— Гэта самавольства! Парушэнне правоў чалавека. Прад'явіце мне абвінавачванне. Я запрашу адваката. І толькі ў яго прысутнасці...

Кудра да болі ўкусіў губу.

— Законы вы ведаеце.

— Я не займаўся б бізнесам, каб не ведаў законаў.

— Гэта так.

— Дык у чым мая віна? Скрыў падаткі?

— Падаткі нас не цікавяць.

— Без прад'яўлення абвінавачвання...

— Хадземце ў асобны пакой, я вам растлумачу.

Зачыніліся ў спальні.

Анкуда вылаяў Ларысу: гультайка, нават ложкі не заслала і панталонаў сваіх ды ліфчыкаў накідала.

Следчы сказаў:

— Пры панятых я не магу гаварыць, бо вы маеце рацыю: афіцыйнага абвінавачвання няма. Яно пакуль што вось тут, — Кудра крануў свой лоб. — Я не намераны ўніжаць вас вобыскам. Мне трэба адна толькі рэч. Аддайце яе, і мы пойдзем. Ваш пісталет.

Анкуда трохі не падскочыў, слухаючы міліцыянера: ён, каб схаваць хваляванне, наводзіў парадак на ложках — засцілаў іх коўдрамі. Кінуў коўдру, выяўляючы гнеўнае абурэнне і здзіўленне.

— Які пісталет?! Няма ў мяне пісталета. Гэта вы таму, што я прасіў дазвол. Прасіў, бо знаю, што за мной палююць рэкеціры. Але дазволу не далі, і пісталет я не набыў. Парадак ведаю.

— Пнеўматычны.

— Духавы? Ха! Можа, дзіцячы даць? Дык і яго няма: у мяне — дачка, не сын. Ды ў чым справа? Гарматы прадаюць. А вы робіце ледзьве не начны вобыск, каб знайсці духоўку, з якой і вераб'я не заб'еш.

— А чалавека забілі.

— Якога чалавека?

— Не матляйцеся, Анкуда. І не прытварайцеся, што не ведаеце. Васю Кірпача, хлопца, што жыве побач з вашай булачнай. Не зналі? Не чулі?

— Штось расказвала жонка...

— Анкуда! Вы чулі размову жанчын і далі грошы на пахаванне.

— З гэтага вы зрабілі вывад?..

— Не з гэтага. Маё расследаванне прывяло, што вы... вы, Анкуда, стрэлілі ў хлопца, які ўкраў батон. Адзін батон!

— Вы што? Гэта такая міліцэйская логіка? Жах! Так любога можна пасадзіць, як у трыццаць сёмым...

— Забіць вы, канешне, не хацелі. Але кулька пацэліла ў вуха... На тым батоне, што быў у Кірпача пад курткай, і на тым, што я купіў у вашай булачнай... не скажу, што адпячаткі ідэнтычныя... наклалася дзесятак чужых пальцаў. Дактыласкапісты не далі поўнага заключэння. Але... яшчэ голас... Вы пазванілі ў «хуткую», а там паведамленні запісваюцца на плёнку. Навошта вам было мяняць голас? Ці ён змяніўся ад страху? Не скажу, што я пазнаў. Не. Але я запісваю вас і дам экспертызе, — Кудра дастаў з кішэні партатыўны дыктафон, сакрэтаў не рабіў са следства.

У Казіміра ў душнай спальні мерзлі ногі ў хатніх тапачках, а вушы гарэлі. А гэты пракляты сышчык свідруе яго вачамі, ні на міг не адводзіць іх, прасвечвае сваімі зрэнкамі, што рэнтгенам. Не выдаваць сябе! Трымацца! Няма ў яго доказаў! Нават адбіткаў няма.

— Дык аддасце пісталет? Ці будзем рабіць вобыск? Панятым я сказаў, што шукаем пісталет, баявы.

— Рабіце.

— Ускладняеце вы сабе жыццё, Анкуда. Пісталета ў вас дома няма. Але майце на ўвазе: для мяне гэта яшчэ адно сведчанне правільнасці маіх лагічных заключэнняў.

— Вялікі вы псіхолаг.

— Іранізуеце? Зайздрошчу вашым нервам.

— А чаго мне баяцца?

— З вашага дазволу я загляну ў шуфляды туалетнага і пісьмовага сталоў. Можна без панятых?

Маленькі пісьмовы стол стаяў тут жа, у спальні. Але больш за ім сядзела Жанета — рабіла ўрокі. Стала накшталт школьнай парты ў сваім пакоі не любіла. Яе кнігамі напакаваны верхнія шуфляды. Кудра выцягнуў кнігі, запусціў руку і дастаў чырвоны балончык.

Анкудзе балон ударыў у сэрца.

«Во! Дурань! Лапух! — злосна вылаяў сябе гаспадар. — Утапіў пісталет і забыўся на балончык. Чым думаў, лапух, панікёр няшчасны!»

— Што гэта, Анкуда?

— Не знаю. Балончык нейкі, — падышоў бліжэй, угледзеўся. — На газавы не падобны. Газавыя ёсць у нас у офісе. І дазвол ёсць.

— Гэта балончык з вуглякіслым газам. Ад пнеўматычнага пісталета.

— Першы раз бачу.

— Што вы кажаце? Не бачылі такога пісталета?

— Не бачыў.

— Адкуль жа балончык?

— Яго магла прынесці дачка са школы. Як цацку.

— Магла. Балончык пусты.

— Вось бачыце.

— Я мушу гэта ўзяць.

— Калі ласка. Думаю, што дачку я супакою. Цацак у яе хапае.

Выйшлі са спальні.

Дворнік — паняты, цмокаў языком, аглядаючы італьянскі халадзільнік.

— Штучка, я вам скажу!.. Колькі такі каштуе?

Міліцыянер з цікаўнай суседкай шнырылі на кухні,
выяўляючы запасы імпартных прадуктаў.

Кудра сярдзіта цыкнуў на іх:

— Вы што робіце? Без гаспадара! А калі ён скажа, што вы ў яго тысячу долараў забралі...

Сяржант пакрыўдзіўся:

— Што вы, таварыш лейтэнант!

А Казімір ажно ўстрапянуўся. О, каб яны ўзялі яго долары! Лопнула б яго расследаванне, як мыльная бурбалка.

— А мы праверым: ці на месцы жончыны зберажэнні; яна іх дома хавае.

З верхняй паліцы кухоннай шафы дастаў вялікую залацістую бляшанку, падняў накрыўку, сыпануў на стол рыс і дастаў цэлафанавы мяшэчак, праз які прасвечваўся ладны пачак «зялёных».

Сяржант збялеў.

Суседка перахрысцілася:

— Свят! Свят! Я ад чужых грошай заўсёды адхрышчваюся, як ад нячыстага.

— Вобыск закончаны! — абвясціў Кудра.

Панятых што ветрам здзьмула: непрыемная місія! Ды калі яшчэ маглі сказаць, што ты ўкраў долары...

— Мне можна ісці? — спытаў сяржант.

— Ідзіце, — Кудра крыва ўсміхнуўся ў бок гаспадара: — Навошта вам яшчэ гэтае прадстаўленне?

— А вам навошта вашы прадстаўленні? Хто з нас акцёр? Дзе яшчэ будзеце шукаць? У булачнай? У офісе? У мяне да вас чалавечая просьба: не гаварыце пры жонцы аб сваіх дзікіх падазрэннях. Уяўляеце, якая гэта для яе траўма?

Кудра памаўчаў, падумаў.

— У булачную не пойдзем. У офіс.

— І зноў возьмеце панятых? Каго? З вуліцы? Хто будзе мне плаціць за маральную страту? За падрыў аўтарытэту перад маімі людзьмі? Вы ці аддзяленне? Я прад'яўлю іск у суд. Па маіх маштабах. Я высока цаню свой гонар.

— Хочаце спалохаць?

— Вас не спалохаеш.

— Вывад вы зрабілі правільны. А вы — спалоханы, Анкуда. Як ні казырыцеся, а на душы ў вас — кошкі...

— Гэта ваша жаданне: мець спалоханага падследнага.

Казімір усцешыўся, што брыдка ліпучы страх адступіў, і ён паводзіць сябе ўпэўнена, незалежна, з гонарам.

— Я пайду на стаянку па машыну? Пойдзем са мной?

— Пайду.

У аўтобусе маўчалі. На пляцоўцы Казімір павольна змятаў з «мерседэса» снег.

— Будзеце шукаць у машыне?

— Не.

— Дзіўна. Спадзяецеся на інтуіцыю? Падвядзе яна вас.

Анкуду суцешыў уласны спакой. Адкуль узялася такая ўпэўненасць? Ад няўпэўненасці следчага?

У офісе Кудра вобыск не рабіў. Пасядзеў, паслухаў, як камерсант размаўляе па тэлефоне. Дачакаўся, калі той напіўся вады. Тады сказаў:

— Дазвольце, я вашу шкляначку вазьму.

Анкуда весела зарагатаў.

— Ха-ха! Дык гэта ж з «Семнаццаці імгненняў...» Нямногаму ж вы навучыліся, калі капіруеце прыдумку сцэнарыста. Вы лепш штаны мас канфіскавалі б. На іх адпячаткі не толькі пальцаў.

Следчы, бадай, збянтэжыўся.

Страх ударыў з новай сілай, калі Кудра вельмі ветліва — у пакой увайшла Людміла Іванаўна — развітаўся і выйшаў.

Бухгалтарка глянула на свайго шэфа і, бадай, таксама спалохалася, спытала:

— Гэты чалавек зрабіў вам непрыемнае?

— Ды не, нічога.

— Вашы думкі вельмі далёка.

— А яны заўсёды далёка, дарагая Людміла, — дзе нашы з вамі інтарэсы: у Германіі, у Маскве.

Пракурор Якімкін чытаў справу, уедліва чытаў, следчае заключэнне двойчы прачытаў, з папер экспертызы нешта выпісваў.

Кудра глядзеў на бліскучую лысіну, галава пракурорская ўгары звужалася, што горная вяршыня, і, здавалася, макушка дымілася, як Везувій. Гэта смяшыла маладога следчага. Спачатку ён скланяў яго іранічна:

«Во крот! Во букваед! Учора так не ўядаўся, калі я прасіў ордэр на вобыск. Службіст. І, аднак, кажуць, гадоў трыццаць прасядзеў у адным кабінеце. І ні на ступеньку не вырас. Фармаліст! Цяпер асабліва трымаецца за старое крэсла. На пенсію не хочацца».

У Якімкіна смешна адвісала губа, але Кудру было не да смеху. Падобна, што па гэтых паперках ордэр не атрымаеш. А перакананне, што стрэліў Анкуда, пасля таго, як убачыў і яго разгубленасць і яго нахабства, зацвярдзела, што бетон.

Якімкін узняў галаву. Губа стала на месца, прыкрыла зубны пратэз, і твар расшырыўся, не здаваўся такім доўгім, як морда ў каня. Маршчыны на шчоках і нават на шыі дзіўна заварушыліся, то разгладжваліся, то паглыбляліся.

Ён ляпнуў двума далонямі па паперах.

— Што я табе скажу, хлопча малы? — гаварыў пракурор па-беларуску, але нейкай кніжнай мовай, трохі архаічнай. — Не пераканалі мяне твае экспертызы. Такую абцякаемасць я рэдка сустракаў. Адбіткі на батонах. Пальцы Анкуды. То ж пэўна там будуць пальцы Анкуды. Ён грузіў, разгружаў... Але дзе доказ, што ён стрэліў за батон? Не паверу я, што такі багач за батон стрэліў у малога. Падумай, калі ты лічыш сябе псіхолагам. Я даў ордэр на вобыск. Знайшоў ты пісталет?

— Але гэта даказвае... Во балончык...

— Што гэта даказвае? Гэта твой домысел. А крыміналістыка — што матэматыка. Ніякіх домыслаў! Балончык. Смешна. Яны на сметніку валяюцца. Заключэнне лабараторыі голае... «Сам суб'ект і тэлефонныя шумы маглі сказіць голас». Што гэта за заключэнне? Я такога акусціка з работы зволіў бы. Во так, хлопча малы. Не дайграў ты.

Кудра кіпеў ад гэтага звароту — як сапраўды да малога, на ты, але яшчэ больш ад вываду: не дайграў.

— А інтуіцыя? Мая...

— Хе, хлопча. Калі мы па інтуіцыі будзем садзіць у турму, то вернемся на шэсцьдзесят гадоў назад. А ў нас, дзякуй богу, прававая дзяржава.

— Для каго прававая? Пакуль што мы далі права злачынцам.

Хоць ён не следчы пракуратуры, не падначалены, але з пракурорам не заядайся: такое жалезнае правіла яму ўцяльмяшыў шматвопытны Дзевянь. Ды і логіка ў гэтага сівога каня жалезная — справы не закрыў, вярнуў паперы, мудра заключыўшы:

— Даказвай. Дакажаш — пасадзім. Нікуды ён не дзенецца, такі туз.

Калі Кудра выйшаў, пачціва развітаўшыся, Якімкін прайшоўся па кабінеце, паціраючы рукі. Ён быў задаволены сабою.

Учора ён лёгка даў ордэр на вобыск, не ўпікнуўшы. Дарэмна... А можа, і недарэмна — мудра. Гэты малады пралаза пайшоў бы ў абход яго. А так ён завязаны на ім.

«Дырыжорам буду я».

Ён ведаў гэтага Анкуду. Год назад зусім законна памог яму ў цяжбе з заводам. І атрымаў добрую ўдзячнасць. І пасля да свят паступалі «напалеоны», і яны, «напалеоны», памагаюць яму трымацца ў крэсле. «Трымайся, не трымайся — заўтра на пенсію. Усе забяспечваюць сваю старасць. Усе. А я што — дурнейшы за іншых, апошні ў бога?» — гэта філасофія прыйшла яшчэ да Анкуды. І набывала моц. Тармазоў, маральных, амаль не засталося. А закон... Закон... — дышла. Даўно ўжо закон — у кішэні ў яго. Законы прымалі такія ж... А можа, і горшыя за яго. Ён невіноўных не садзіў. І заўсёды знаў, у каго, за што можна ўзяць.

У Анкуды — можна. Па-першае, ён, пракурор, сапраўды мае сур'ёзнае сумненне, што такі рэспектабельны, разумны бізнесмен стрэліў у хлапчука. Ды з чаго? З духавога пісталета. Смех...

— Ну, а калі дакажа гэты новаяўлены Шэрлак, што віноўны, — пасадзім, пасадзіць ніколі не позна. А пакуль што з яго можна нешта вытрасці.

Добры ў той дзень пракурор быў, вясёлы. Не аднаму пашчасціла мецц з ім справу. Таварышы па службе пасміхаліся: «Святы Георгій узнёсся на неба».

У канцы дня Якімкін пазваніў Анкудзе.

— Казімір Пятровіч?

— Я.

— Не пазнаеце?

Пазнаў. Адразу. Дзіўна, што ўчора не пазнаў. Той жа голас. А колькі часу ламаў галаву.

— Георгій Якаўлевіч! Як не пазнаць!

— Трэба сустрэцца.

— Заўсёды гатовы. З радасцю.

— Машына ёсць?

— Што за бізнесмен без машыны! Лячу.

— Не трэба. Я чакаю вас на Машэрава, насупраць «Светача» каля пераходу. У шэсць.

У машыне гаварылі пра пагоду, пра здароўе, пра палітыку.

За Драздамі спыніліся. Выйшлі з машыны. Дзьмуў моцны, вільготны халодны вецер. Ударыла ў твар мокрым шротам. А на вадасховішчы на голым лёдзе ўсё роўна сядзелі падлёднікі — што натапыраныя пінгвіны.

— Страляў?

Казімір ажно ўздрыгнуў, чакаў падобнага і ўсё роўна ударыла знянацку і балюча.

— Ды вы што, Георгій Якаўлевіч! Вы паверылі гэтаму свістуну? Яму трэба кар'еру зрабіць. Знайшоў злачынцу! Ды ў мяне і пісталета няма. На храна мне духавы пісталет? Вераб'ёў страляць? Ды каб я захацеў абысці закон, то мне пяць «вальтэраў» партнёры прывезлі б... з захаду. Ці «макаравых» з усходу. Ды і у нас хапае. Афіцэры прадавалі... «Калашнікава» можна купіць.

— Я вам веру.

Во культура! Старэйшы намнога, а на «вы».

— Памажыце, Георгій Якаўлевіч! Нельга ж жыць без віны вінаватым. Вы ж ведаеце, які гэта псіхалагічны прэс...

— Як памагчы?

— Закрыйце справу. У вас жа ёсць права.

— Ёсць. Але...

— Георгій Якаўлевіч! Я не маю ўяўлення... знайшоў злачынцу! Я ў зайца не магу стрэліць, хоць часам выязджаю. Ды паляванне гэтае — прычына для п'янства.

— Вы мне задасце задачу.

— Георгій Якаўлевіч! Мы з вамі дзелавыя людзі.

Едучы на сустрэчу, Анкуда ўзяў з сейфа тыя долары, што дастаў учора з банкі, напоўненай рысам. Апетыты чыноўнікаў ведаў; прадпрымальнікі мелі негалосную таксу — каму, за што, колькі трэба даць у лапу. У карупцыі свае законы. Спадзяваўся, што следчы ўбачыць «зялёныя» і «загарыцца», дасць знак. Не клюнуў. Пракурорская такса, бадай, вышэйшая. І гэты не саромеецца. Думае, колькі запрасіць.

— Пяць тысяч «зялёных» хопіць?

Якімкін на такую суму не спадзяваўся. У яго ажно перасохла ў роце. Можна пачаць будаваць катэдж. Начальнікі яго — пабудавалі. За што? За зарплату? Але ён сыграў роздум: хопіць ці мала?

Выходзячы з офіса, Казімір спытаў у бухгалтара:

— Людміла Іванаўна! У нас валюта ў касе ёсць?

— Пяць тысяч марак, якія мы павінны перадаць фонду...

Якому фонду, чаму не перадалі — гэтага ён не помніў, не цікавіўся. Ведаў слабасць бухгалтаркі, з якой Канапля здзекваўся: вельмі ж цяжка развітваецца з грашамі, а валюты дык, бадай, баіцца.

— Маю яшчэ пяць у марках.

Якімкін працягнуў руку. Долары засунуў у бакавую кішэню, маркі — у стары пацёрты партфель.

— Паехалі. Сабачы холад.

— У мяне каньяк ёсць. «Напалеон».

— Без закусі?

— Ёсць кілбаскі. Паляўнічыя.

— Няшчасная мая пячонка. Але хіба ад такой спакусы ўтрымаешся?

Сеўшы ў цёплую кабіну, Якімкін умалоў спачатку грамаў дзвесце кілбасак, пасля — выпіў каньяк: ашчаджаў печань. Седзячы побач, каўтаючы слінкі — за рулём! — Анкуда з гумарам заўважыў, як пракурор раз-пораз мацае на грудзях тое месца, дзе схаваў долары. Зняважліва падумаў: «Жабрак, якому прываліла шчасце». Але тут жа прыйшла думка, што шчасце якраз прываліла яму. Паслаў Бог ратунак. І прасякнуўся да старога хабарніка любоўю, замілаваннем. Хацелася пацалаваць яго глыбокія маршчыны.

6

Страх адпусціў, як раптам адпускае моцны боль, ад прыступу якога чалавек пачынае развітвацца з белым светам.

Стала лёгка. Ажно глыбока дыхалася. Сумленне, якое варушылася дзесьці глыбока пад страхам, таксама змоўкла, стаілася. Ды што сумленне... Не турма. Не такі ён ужо набожны чалавек, каб не

перажыць пакуты сумлення. Ад іх рэдка паміраюць. Самыя слабыя... Чапляюць вяроўку на крук. Ён не зачэпіцы! І ў турму не сядзе. Усё! Адкупіўся. «Зялёныя» маюць усёмагутную сілу.

Паставіўшы машыну, Анкуда ішоў пехатою, хоць у твар сек калючы снег, нейкі дзіўны — то адзін міг мокры, то раптам сухі, што шрот. Успомніў шрот, які высыпаў у раку, пажадаў следчаму: «Каб цябе накармілі кашай са шроту, дурань бесталковы. А мог бы раскошваць. Здагадаўся ж, пэўна, навошта я паказаў табе цэлафанавы мяшэчак, бо спытаў. Зацыклены на сумленнасці асталоп. Вырасцілі вас, ёлупняў, камуністы. Толькі тыя, што расцілі, дурнямі не былі, сваю выгаду зналі і не ўпускалі выпадку. Зрабілі паварот — і хапнулі яшчэ больш. А ты як лавіў базарных зладзеяў, маючы капеечную зарплату... Лаві, лаві. Табе і няўцям, што за мной — якімкіны і ўсе тыя, што ведаюць, як забяспечыць сваю старасць. О, гэты забяспечыць! Да новага года трэба паслаць яму наборчык, які зрабіў бы яго стол царскім. Талковы чалавек: удзячнасці не забывае...»

Казімір гатовы быў падскокваць, што малады казёл. Толькі тратуар слізкі — не пляснуцца б.

Зрабіў круг — пайшоў у валютны магазін, купіў Жанеце самы дарагі шакаладны набор, Ларысе — розных прысмакаў; сама такое не купіць — ашчадная, скупая, хоць і не расла ў такой беднасці, як ён. Але гэта не ад беднасці — ад характару. Ён на нішчымніцы сядзеў, але душу мае шырокую. І гэтая шырыня натуры выводзіць нават на вузкіх і пакручастых дарогах.

Не забыўся і на шампанскае, на імпартнае — французскае. Сёння будзе свята!

У кватэру, абвешаны пакункамі, уваліўся з галёканнем.

— Дзе мая дарагая дачка? Жанета!

Дзяўчынка выскачыла, завішчала ад радасці — столькі падарункаў! Які шакалад!

Калі бацька такі добры — скарыстаць яго шчодрасць..

— Тата! Дай дзесяць долараў. Ты ж абяцаў.

— Дам. Што атрымала?

— Дзве пяцёркі.

— І так мала просіш? На табе дваццаць.

Жанета павісла ў бацькі на шыі, цалавала шчокі, лоб, халодныя вушы. Ларыса хмурылася, кусала вусны.

— Што ты робіш? Сапсуеш дзіця. Навошта ёй такія грошы? Гэта ж жах, калі яна пакажа іх у класе.

— Не толькі пакажу. Павяду ўвесь клас у кафэ-марожанае.

— Правільна, дачка.

— Божа мой! У бацькі, як і ў дачкі, кружыцца галава. Дзе твая педагогіка?

— А я яе не вывучаў.

— Камсамольскі работнік!..

— Не калі мне вочы камсамолам. Выпарыўся твой камсамол!

— Я не калю. Але калі вы думаеце, што клас Жанету палюбіць, калі яна накорміць іх марожаным, то абодва глыбока памыляецеся. Ёй пазайздросцяць. А ад зайздрасці да нянавісці во такусенькі крок, — паказала пазногаць з палінялай фарбай.

— Лора! Я сёння правярнуў такое дзела! Мільённае. І хачу баляваць. А ты нас у мікраскоп разглядваеш.

Жанета, распакоўваючы пакупкі, зарагатала.

— Мама! І якія мы пад мікраскопам? Тата — што тоўсты прусак. А я?

Дзіўна: жартаўлівае параўнанне з прусаком непрыемна кальнула.

— А ты — што блошка. Няспынна скачаш..

— Попрыгунья — стрекоза, — запела Жанета, — лето красное пропела...

— Оглянуться не успела... А ты не аглядвайся, мая страказа. Спявай! І летам і зімой. На радасць нам! Мама! Чаму ты хмурышся? І страказа цябе не развесяліла...

— Я была на пахаванні хлопчыка.

Сказала, што варам лінула. Сцягваючы бот, Казімір ледзьве не зваліўся з лаўкі пад вешалкай. На міг сцяўся, слухаючы, як запульсавала яго злосць на жонку.

«Гэтая дура любую радасць разбурыць».

— І Ў мяне... жалоба. Беднасць якая, каб ты пабачыў... І такое гора... Каму ён што зрабіў?

Хацелася запусціць у яе ботам. Стрымаўся. Нават маўчаннем як бы ўшанаваў памяць нябожчыка і паспачуваў яго бедным бацькам.

Папрасіў ласкава:

— Лора! Падруга верная мая, не псуй свята. Што ж ты прапаноўваеш? Усе трагедыі свету браць у сваё сэрца? Дык не вытрымаюць нашы сэрцы. Згараць. Колькі іх, трагедый! У нас. А ў свеце?.. Штодня тысячы забіваюць.

— Мама ў нас такая, — ці то з захапленнем ці з папрокам да маці сказала Жанета.

— Збірай хутчэй на стол. Парадуйся, што ёсць што сабраць. І не забывай: усе багатымі адразу не стануць. Але мы, новы клас, працуем

дзеля таго, каб усіх накарміць. Пакуль я пераадзенуся і памыю рукі, каб стол быў што на Вялікдзень.

— Што на мой дзень нараджэння! — паправіла Жанета.

— Малайчына, дачка! Правільна мысліш! Вышэй твайго дня свята няма!

За сталом, выпіўшы шампанскага, і Ларыса ажыла, забылася на чужы боль, жартавала і весела смяялася.

А ў Казіміра ўспыхваў якраз жа ў тыя мінуты, калі жонка весялілася, агонь... Не, пакуль што агеньчык і злосць на яе. Капнула чортава гуманістка! Да яе слоў — усё змыла змова з Якімкіным. А тут — у фужэры, у шампанскім — усплыла труна з нябожчыкам... худзенькім хлопчыкам. І раз. І другі... Добра, што ён не разгледзеў яго ў твар, таму аблічча размытае. Не будзе прыдавацца. Каб толькі ніхто не напамінаў, як гэтая родная дурніца.

А ўвогуле вячэра атрымалася сапраўды святочная. Цешыла Жанеціна радасць, яе галасісты смех, ён адагнаў непажаданыя ўяўленні. І Ларыса цешыла: прыгожая ў яго жонка! І добрая. Звыш шампанскага дазволіла выпіць не адну чарку каньяку. Парадавала і супакоіла, што алкаголь, як часам здаралася, а цяпер тым больш магло быць, не наганяў змрочных думак. Наадварот, з кожнай чаркай адплывалі ўсякія сумненні, прывіды, мацнела ўпэўненасць, што нішто не парушыць яго жыцця, яго дабрабыту. Будзе расці багацце. І ён ніколі ўжо не зробіць глупства, кожны крок будзе абдумваць, узважваць і будзе старацца рабіць так, каб добра было не толькі блізкім яго, але і чужым людзям.

«Мы той клас, які ашчаслівіць народ».

Верыў у гэта.

Каб асцерагчы яе ад спалоху і пазбегнуць позняга тлумачэння, якое ў іншы час, у іншых абставінах можа быць і непрыемным, ён прызнаўся:

— Я забраў баксы ў банцы.

— Ты ж гэта Жанеце падарыў.

— Буду здаровы, я ёй дзесяць такіх пачак падару. Што дзесяць! Мільярднае багацце будзе яе! Катэдж дабудуем ёй...

— Табе спатрэбіліся гэтыя грошы?

— Во так спатрэбіліся! Трэба было аднаму тыпу палажыць на лапу. І каб без маіх бухгалтараў. На чорта мне іх кантроль, зануды Людмілы ці зладзея Канаплі, ён не саромеецца — хапае, дай бог. А гаспадар я! Я маю права мець сваю касу.

— Казік, не падабаецца мне гэта.

— Што?

— Што ты даеш...

— Я ж не бяру, а даю.

— Усё роўна незаконна.

— Ідэалістачка ты мая любая. Дзе ў свеце... пры свабодным рынку... робіцца інакш? У Амерыцы, у Японіі? Я ўжо не кажу пра бананавыя рэспублікі. А мы пакуль што на іх становішчы. А барацьба... гэта фейерверк, Лора. Пашыпіць, рассыпле іскры... Можа, каго і высвеціць. Аднаго — двух. А народу пацеха... Гары-гары ясна, каб не пагасла...

— Прагматык ты.

— Прагматыкі рухаюць свет, дарагая. А так бы закісла ўсё і засмярдзела... А ад нас патыхае свежасцю... духамі і грашамі.

Казімір засмяяўся — і Ларыса засмяялася. Павярнулася і счапіліся ў моцным пацалунку.

На другі дзень у офісе Анкуда быў — сама Дабрыня, з вялікай літары, і сама актыўнасць і дзелавітасць проста такі амерыканская. Дзелавітасці ён вучыўся на курсах менеджэраў, праўда, не ў Амерыцы — у Германіі, але немцы вызначаліся пунктуальнасцю і дзелавітасцю яшчэ да Калумба. Немцы лічаць, што ўсё добрае ў свеце — ад іх. А колькі ў войнах знішчылі людзей — пра гэта маўчаць, ваяўнічасцю сваёй не выхваляюцца. Анкуда сябраваў з немцамі, высока цаніў іх розум і працавітасць, але не забываўся, што дзяды ці бацькі яго сяброў спалілі іх сяло і пастралялі людзей, у тым ліку двух яго дзядоў, цудам ўратаваўся бацька, якому ў той час было чатырнаццаць. Бацька ажно счарнеў, калі ён, наведаўшыся да іх пасля сваёй першай паездкі ў Германію, з захапленнем расказваў, як жывуць немцы, і хваліў іх. Бацька змаўчаў, а маці пасля сказала: «Казік, пры бацьку ты не расказвай пра іх.

Няхай яны лопнуць ад сваёй жратвы! Ты бачыў, як ён сцямнеў?»

«Змяніўся час, змяніліся людзі, мама».

«Час, можа, і змяніўся, але немцы не змяніліся. Не веру я ім».

Расказаў пра гэта Вагнеру, і той, савецкі немец, казахстанскі аграном, весела смяяўся. Анкуда заўважыў, што Вагнер не любіць заходніх немцаў, а яны — яго, таму і пасяліўся на зямлі былой ГДР. Аднак бізнес разгарнуў з размахам, і карэнныя немцы таго не ўмеюць; дабраўся не толькі да беларускай калійнай солі і лесаматэрыялаў, але і да казахскай медзі.

Анкуда прыводзіў гэты прыклад на з'ездзе прадпрымальнікаў, пад смех залы заключыўшы: «Дык хто каго вучыць? Немцы — нас? Ці мы — немцаў?»

Ва ўсялякім разе праз тры гады сваёй кампрадорскай дзейнасці самаўпэўнена лічыў, што ён можа павучыць не толькі сваіх ці расіян, але і тых заходнікаў, што на бізнесе з'елі сабаку.

Так, між іншым, у тую шчаслівую для сябе раніцу, ён сказаў сваім баявым памочнікам — Канаплі і Людміле. З імі абмеркаваў сваю ідэю, што раптоўна ўзнікла — ад дабрыні яго: выдаць у канцы года ўсім работнікам фірмы прэміі.

— Харошы стымул. Камуністы добра выкарыстоўвалі гэты стымул. Не дурні. Хоць вынайшлі яго яшчэ старажытныя. Буржуазія размыла прынцып — павышэннем акладаў за добрую работу індывідуальна. Але гэта не стварае калектыву. А мы створым калектыў — возьмем лепшае ў камуністаў. Стабільны калектыў — наш канёк, на якім мы далёка паедзем.

Ведаў бухгалтарскую скупасць Людмілы і трохі баяўся, што яна, як звычайна, калі трэба выдаваць грошы, застогне. І вельмі ж развесяліўся, калі Людміла горача падтрымала. Хто будзе супраць, калі свеціць і табе? Такіх дзівакоў сачынялі раманісты ды рэжысёры савецкія.

Сядзеў у кабінеце і думаў, што б яшчэ добрае зрабіць? Можа, яшчэ неяк інкогніта памагчы сям'і. І тут жа вылаяў сябе: «Ідыёт! Не напамінай сабе пра іх. Справа закрыта. Назаўсёды! Ларыса выграбла ўсю касу. І на пахаванне, глядзі, не з пустымі рукамі хадзіла. Хопіць. Старая ў булачнай сказала, што бацька ўсё прапівае. Так што бацькавай віны больш. Давёў хлопца».

Каб скіраваць увагу на іншае, прыемнае, памаўзліва ўгледзеўся ў Алісіны прыгожыя ножкі, ажно збянтэжыў сакратарку-машыністку і праграмістку. Але тут жа тузануў сябе, як рабіў ужо не аднойчы. Не шкодзіць у сваім агародзе! Не звязвацца з незамужняй, бо пасля не рассёрбаеш. Гэта табе не Тамара. Тая атрэслася, што курыца пасля пеўня, і без пакут сумлення пайшла лашчыць мужа; хвалілася ж, што муж верыць ёй. Во заразныя бабы!

«Я мудра паступіў, што Ларысу пасадзіў не ў вінны, а ў булачную. У вінным — зухі, донжуаны. А ў булачнай асноўныя пакупнікі — набожныя бабулі. Там Ларыса можа зрабіць толькі адзін грэх: даваць жабракам бясплатна хлеб. Бог з ёй, няхай аддае. Ён, гаспадар, добры. Хоць увогуле і за Ларысай трэба кантроль. Дзеля парадку. Трэба, калі Канапля прывязе хлеб, няхай ён забярэ і выручку, і здыме астатак хлеба. Каб не пакрыўдзіць Ларысу, трэба сказаць: маем звесткі, што будзе правяраць падатковая інспекцыя. Начальніка гэтай інспекцыі яны з Канаплём купілі. Аднак на вінны магазін інспектары не аднойчы ўжо наляталі. Ды і тут ён у ліку

першых: не чакаючы пастановы ўрада, набыў касавыя апараты. А гэтым інспектарам, не ў прыклад санітарным, трэба не тавар — каса. Лапухі лічаць, што апарат — панацэя. Хто з п'янюг глядзіць: выбіты ці не выбіты чэк. Такая прайдзісветка, як Тамара, не толькі інспекцыю, але і фірму абводзіць вакол пальца. Канапля разведаў, як яна будуе катэдж разам з братам сваім — шафёрам фургона, што ходзіць у замежныя рэйсы. Але лепшай, сумленнай не знойдзеш, за такім прылаўкам усе будуць красці. Дык гэтая хоць прываблівае пакупнікоў. А якая-небудзь жаба будзе адпужваць. Дык за яе грахі бог даруе яму і яго грэх.

Так насыціўся з жонкай, а ўспамін пра Тамару прымусіў смачна пацягнуцца — ажно суставы трэснулі і «апарат» варухнуўся.

Такая сіла цешыла.

Ён і ў другую ноч парадаваў Ларысу. І ў трэцюю... А потым «праверыў» сябе ў Тамары. Але без перагрузкі, хоць тая, ненажэрная, цягнула на паўтор. Ён засмяяўся:

— Для Ларысы трэба ж пакінуць. А то яна з'есць мяне і храшчыкі выплюне. Гэта табе добра, ты заўсёды гатова...

— Мне заўсёды мала. Люблю я гэтую работу. Ой, люблю! — Тамара весела смяялася.

Хіба ж гэта не жыццё?! Як кажа мудры немец Вагнер: «Paradies auf Erden». Зямны рай!

7

Але тыдні праз два рай скончыўся. Выклікаў на сустрэчу Якімкін і паведаміў, што па сваёй лініі справу ён закрыў, але Кудра не згадзіўся і працягвае шукаць доказы:

— Ёсць два шляхі адхіліць яго ад справы. Першы — скампраметаваць. Можам. Але не будзем, мы з табой — сумленныя людзі. Другі шлях — узняць яго па службовай лесвіцы. Найлепшы шлях. Але не лёгкі. Ёсць месца ў міністэрстве ў аддзеле, які не займаецца крымінальнымі справамі — у дзяржаўнай аўтаінспекцыі. Няхай разбіраецца з аварыямі. Але каб забралі яго туды, мне трэба пераскочыць дзве планкі. А яны ў розных руках. Трэба прысвоіць яму званне капітана. Гэта зробяць адны людзі. На пасаду ў аддзел возьмуць другія. Ты разумееш, што такія справы за дзякуй не робяцца.

— Колькі?

— Ох, і камерсант ты. Усё вымяраеш сумамі. Ну, хаця б тысяч пяць. Долараў, канешне...

— Добра. Я пашукаю.

— Табе яшчэ трэба шукаць?

— Няўжо і вы, пракурор, маеце такую прымітыўную думку аб прадпрымальніцтве? У мяне — фірма, і там людзі. Ім трэба плаціць зарплату, прэміі. Ёсць бухгалтэрыя, праз яе праходзяць усе даходы і расходы.

— Ты пачынаеш вучыць мяне палітэканоміі.

— Ды не, я проста так. Прабачце. Грошы я, канешне, маю. Свае. Бухгалтар пра гэтую справу не будзе ведаць.

— Во гэта іншая размова.

— Дзе сустрэнемся? Калі?

— Падбяры мяне на Сурганава каля «Рыгі». У шэсць. Каньяку захапі. Бачыш, як захаладала.

На гэты раз стала шкада такой сумы. Ён вылаяў Якімкіна:

«Вымагальнік! Думае, што ў мяне бяздонная бочка. Ды яшчэ і каньячок яму дай. Стары п'янюга!»

Цяжка ўразіла, калі падумаў, што гэта не апошняе вымагальніцтва. Але спалохала не перспектыва немалых затрат. Спалохала, што Кудру нішто не спыніла — капае. Капае яму, у якую хоча пасадзіць яго. А ці спыніць яго павышэнне? Наадварот наверх узбярэцца, бліжэй да начальства будзе. І калі там раскруціць...

Узбунтаваў Якімкін яго душу. Узнялася. Не, не муць. Прывід. Прывід труны, якую ён упершыню ўбачыў праз бакал з шампанскім. Паўмесяца прывід не з'яўляўся. І быў рай зямны. Канчаецца?

У тую ноч, на шчасце, жонка не вымагала ласкі. Ноч для яго была бяссонная, пакутлівая. Але ён і тут перамог страх. Супакоіўся, разважыўшы: «Якімкін не кіне мяне, бо моцна прывязаны. Чорт з табой — прывяжу яшчэ мацней. А паміраць — дык з музыкай. І разам з табой, сівы конь!»

Аддаў грошы, праўда, менш, сказаў, што рэшту дадасць пазней. Моцна выпіў разам з пракурорам, хоць і быў за рулём. Ды напляваць яму на ўсіх «даішнікаў». Ён з пракурорам па-брацку цалуецца!

Дома дадаў. І п'яны смяшыў Жанету і Ларысу. Жанета ад смеху дрыгала нагамі.

— Мамачка, ён жа што п'яны заяц. Ты бачыла п'янага зайца?

— Не смейся з бацькі. Бог пакарае. Чытала ж у дзіцячай Бібліі, як Бог пакараў Хама, Ноевага сына? За тое, што з п'янага бацькі смяяўся?

— А бацькі ўжо і тады пілі? Ой-ой! Як даўно. Памру ад смеху.

— Дай дзіцёнку пасмяяцца! Хочаце, я гапака ўдару? Даўно не танчыў. Гоп мае драчонікі!

— Удар-удар. Дык палучыш кія па спіне — ад «белай панамы».

Пад імі жыла пенсіянерка, якая шыпела пасля кожнай бяседы ў іх. А на пачатку Камерцыйнай дзейнасці іх было нямала, бясед: трэба было ўстанаўліваць кантакты з патрэбнымі людзьмі. Без падмазкі не паехаў бы і на роўным, а тут трэба было спешна, пакуль спрыяльная кан'юнктура, узбірацца ўгару. І ўзышоў; высока. І што ж — усё страціць? Не толькі грошы, справу страціць... Сябе... О, не! Голымі рукамі яго не возьмуць!

Насмяшыўшы Жанету, адаслаўшы яе спаць, сеў да стала і раптоўна адчуў, як знікае вясёлая ўзбуджанасць і — што цунамі — наступае страх, разгубленасць, бездапаможнасць і жаль да сябе, пакрыўджанага лёсам. Такі жаль, што ажно заплакаў, ураніўшы галаву на стол. А Ларыса не спалохалася, не пашкадавала, не пачала суцяшаць. Ларыса смяялася. Яна добра ведала (па бацьку сваім, адстаўным палкоўніку, які таксама п'яны плакаў — ад жалю, што яму не прысвоілі генерала), што плача Казік не ад бяды ці ад такой «бяды» — генерала не атрымаў. Пра гэтыя бацькавы слёзы яна расказала не аднойчы са смехам. Таму з такім жа здзеклівым смехам пыталася:

— Ты што, генерала не атрымаў? Лічы, што ты маршал. Я дык адчуваю сябе маршаліхай.

— Пайшла ты!..

Абвал эмоцый, самых супрацьлеглых, і конская доза алкаголю выклікалі цэлы ланцуг фантастычных сноў, страшны пераходзіў у саромны, які і ў мужчынскай кампаніі не раскажаш, і, наадварот, казачны пераходзіў у рэальны — камедыйны, напрыклад, убачыў: на нейкім мнагалюдным прыёме знаёмыя канкурэнты хадзілі з голымі задніцамі — як выпалілі ім гэтыя мясціны штаноў і трусоў, і яго распірала ад смеху, а смяяцца нельга, ад натугі ажно балеў жывот. А пад раніцу — самы кашмарны сон. Не са стрэлу — з гэтага сну павярнуўся яго лёс. Ох, як павярнуўся!

Ён блукаў па могілках. Дзіўных — як іудзейскія, такія бачыў у Ізраілі, куды лятаў улетку — ні дрэўца, ані куста, ні кветкі. Адны камяні неабчэсаныя, не шліфаваныя, двух колераў — шэрыя і чорныя. Лес камянёў — без канца і краю. І лабірынт дарожак паміж імі таксама чорны. Ён хадзіў па гэтых дарожках, шукаючы выйсця, і ніяк не мог знайсці. Але страх ад гэтага не апаноўваў. Расла цікаўнасць — як прадчуванне адкрыцця. Ды раптам пліта перад ім адсунулася. І з магілы павольна пачала ўзнімацца невялікая труна, так у крэматорыі яны апускаюцца ў печ, у небыццё, адкуль блізкім выдаюць жменю попелу, невядома чыю, ён не аднойчы думаў пра гэта. А тут нябачны пад'ёмнік узнімаў яе, труну, напаўняючы яго жудасцю. І раптам труна развярнулася і паляцела на яго. Ён прыгнуў

галаву, спадзеючыся, што яна паляціць далёка. Не, вярнулася і... што ракета з мультфільмаў, пачала рабіць над ім віражы, то бясшумна зніжаючыся, то са свістам узнімаючыся. А потым ад труны адарвалася века, адляцела і ўпала паміж абеліскаў. У труне падняўся хлопец. Зусім як герой мультфільмаў, амерыканскіх, у сваім верталёце.

І Казімір пазнаў, без страху: ён! Нават упікнуў сябе: «Што я прыкідваўся, што не помню яго. Добра помню: ён жа машыну маю мыў».

Хлопец з труны бадай жа радасна закрычаў: «А-а, вось ты дзе! Папаўся!»

І Казімір зразумеў: адплата знайшла яго. Ледзьве не трацячы прытомнасць ад жаху, паспрабаваў апраўдацца — закрычаў:

— Я не хацеў! Я не хацеў!

Яго лёгка шлёпнулі па шчацэ і пачалі тармасіць.

— Казік! Казік! Прачніся! Так закрычаў! Што ты сніў?

Не адразу сцяміў, дзе ён — на гэтым ці на тым свеце.

Успомніў сон — абліўся потам. Злавесны сон! Прароцкі!

— Што ты сніў, што так закрычаў? Глядзі, як у мяне б'ецца сэрца. Так спалохаў, дурань. Ад такога крыку памерці можна.

Добра помніў сон, але не прызнаўся.

— Я не помню, што прытрызнілася.

— А я помню свае сны. Сёння я надавала аплявух тваёй Тамары.

Ён застагнаў:

— О, божа! Галоднай куме куцця на ўме.

Ларыса засмяялася:

— Пакуль што не галодная. Але калі ты пасадзіш мяне на галодны паёк, то я табе такую дыету наладжу, што застогнеш. Не спадзявайся, што Тамара ці Аліса цябе накормяць.

Завыць хацелася ад гэтай дурноты жончынай. Галава трашчала. Але сон з яе не выходзіў. Сон, што выляпіўся ў ёй, у яго хворай ад каньяку і страху галаве: хлопец і труна. Казімір сапраўды не помніў яго аблічча — не разгледзеў, калі ён папрасіў хлеба — не да яго было! І пазней — галоўная ўвага скіравалася, як ён, узяўшы батон, падкрадваўся па-кашачы да «пікапа», каб узяць другі, а можа, і трэці, а можа, і ўвесь драўляны паднос з пахучымі булкамі. Як жа было не напалохаць такога злодзея? Што яшчэ можна было зрабіць? Схапіць яго? Звязаць, каб адвезці ў міліцыю? Паспрабуй з такім управіцца! Чаго добрага, пляснуў бы вядром па мысе, «пашпарт» папсаваў бы.

Так ён разважаў у першы дзень. І калі следчы дапытваў яго. Сам з сабой разважаў. І неяк абстрактна, маючы перад вачамі хіба абрыс яго постаці і не маючы аблічча. І вось у сне яно паўстала перад ім, яго аблічча. Канкрэтнае. І не адступала і на яве. Самае дзіўнае і, бадай,

страшнае было, што ён выразна ўспомніў гэтага хлапчыну, ён сапраўды ў дажджлівую восень мыў яму машыну, раз ці два.

Але не ў сне — на яве самым страшным зрабілася ўсведамленне, што цяпер ужо прывід не адступіць ад яго. Увесь час будзе ў галаве, у вачах. І ён зноў застагнаў.

— Божа. Дык гэта ж жыць няможна.

Ларыса зразумела яго ўсё ў тым жа кантэксце.

— Ад чаго гэта табе жыць няможна? Што я не пушчу цябе да блядзей? І сваю лавачку зачыню?

Ён істэрычна закрычаў:

— Ды сціхні ты, дура набітая!

— Цьфу! Сарваўся, як пёс з ланцуга. Не крычы — дзіця разбудзіш.

З Ларысы — што з гускі вада. Праз колькі хвілін яна сапла носам — бестурботна спала. А ён больш не заснуў. Баяўся засыпаць. Усе патугі пераключыць думкі на іншае — на жыццё, — толькі ўзмацнялі галаўны боль. Анальгін не памог. Ніколі не пахмяляўся, а тут не вытрымаў: у шэсць гадзін раніцы хапіў шклянку каньяку.

У офісе здзівіў намесніка. Віцэ-прэзідэнту фірмы спатрэбілася машына. Анкудава шчырае тлумачэнне, чаму ён без машыны, вельмі ж здзівіла Канаплю, які сам не дурань выпіць, але заўсёды ведаў — калі і з кім.

— Ты з раніцы п'еш? Скажу табе, як сябру: небяспечны сімптом.

— Ты адкрываеш Амерыку. Быццам сам не ведаю. Але бывае. З жонкай пасварыўся.

— Так рана? Чаго не падзялілі? У ложку можна любы жончын гнеў пагасіць. Мая — тыгрыца, і то я з ёй упраўляюся. А твая ж — ягня. Дабрэйшай жанчыны, як Ларыса, я не знаю.

— Усе яны добрыя, калі спяць.

— Калі вы з намі спіце, тады мы добрыя, — пажартавала Людміла Іванаўна.

Праца засланіла прывіды. І Казімір, бадай, узрадаваўся: во дзе паратунак — у працы. Прымаў сваіх служачых, рабочых, не яны прасіліся, сам выклікаў. Званіў партнёрам, далёкім і блізкім. Мінскіх запрашаў да сябе ці напрошваўся да іх. Часта — па дробязях, якія звычайна вырашалі Канапля, Людміла, а то і зусім Аліса. І размовы з людзьмі адганялі і страшным думкі і — што асабліва патрэбна было — як бы растваралі фантастыку сну ў звыклых рэальнасцях жыцця.

З партнёрамі часам браў чарку, без гэтага рэдка якая сустрэча праходзіла, але выпіваў асцярожна, умерана, баючыся ўзбуджанасці.

Адзін нават жартаўліва ўпікнуў:

— Бранзавееш, Анкуда! У старога прафесара ператвараешся. Не п'еш — ліжаш, дэгустуеш.

І ўвечары дома быў найдабрэйшы. Прывёз і жонцы і дачцэ мяшок прысмакаў — усё найлепшае купіў у італьянскім магазіне; напіткі не купляў. Абвясціў цвярозасць, з чаго Ларыса пасмяялася, бо не паверыла. Пацешыць яе не здолеў, адчуваў сябе ўсё ж унутрана знясіленым. Але жонка не дамагалася і не пакрыўдзілася; пацалавала і загадала, як малому:

— Спі.

І ўсё роўна сасніў страшны сон. Універсальны магазін — яго, пра такі марыў. Магазін у чужым горадзе на шырокай вуліцы, як на Воцлаўскай плошчы. І вось ён бачыць, што па вуліцы ідзе калона пацаноў. На галовах у іх адзеты вёдры, у руках — каменне. Яны б'юць камянямі па вёдрах, і грукат гэты проста глушыць яго. Ён ведае: гэта не мірная дэманстрацыя, не, гэта ідуць рабаваць універмаг — яго прыватнасць, якая свяшчэнная і недатыкальная. Іх трэба спыніць! Ён крычыць ім. Але праз грукат вёдзер яны не чуюць ці, хутчэй, не хочуць чуць. Тады ён выхапіў пісталет. Не пнеўматычны. Сапраўдны. «Вальтэр», які купіў у Галандыі, але праз мытні, польскую і нашу, не павёз, пакінуў у Германіі — у Вагнера, каб ён прывёз, той, немецказах, нічога не баіцца. Глынуў свабоды. Ён нацэліў пісталет на дэманстрантаў. І яны спыніліся. І знялі вёдры. І ва ўсіх іх быў адзін твар — яго. Але на гэтым страх не скончыўся. З-за яго спіны выйшла... Жанета. Закрычала:

«Тата! Татачка! Не страляй!»

Аднак ён стрэліў. І, здалося, стрэліў не з пісталета — з установкі «град»: усіх адразу скасіў.

А Жанета не ўпала — над ёй вырас грыб узрыву.

Ён у жудасці закрычаў, разбудзіўшы Ларысу.

— Што, Казік? Што ты сніў?

Успомніў грыб і адказаў:

— Атамную бамбардзіроўку.

Ларыса прыглушана засмяялася:

— Дзівосы табе сняцца. Калі бомбы гэтыя віселі над намі, тады яны сніліся толькі бацьку майму. Мама баялася, што ў яго з галавой нядобра. Піў многа ракетчык. Такі і праўда мог націснуць кнопку.

— Адзін — не мог.

— Ну, спі. Толькі не крычы, калі ласка. Не палохайся бомбаў. Помні і ў сне, што больш не вісяць яны над намі.

— Не вісяць... Вісяць.

— Хто нас, бязатамных, будзе бамбіць? Навошта? Нас жа голымі рукамі можна ўзяць. Мы ж — што авечкі, якіх гоняць на ўбой...

— Палітык з дзіркай! Хто цябе куды гоніць? Не паўтарай бальшавіцкую лухту свайго бацькі. Гэта ён дагаварыўся: прыйдзе час — і такіх народ загоніць на Ямал і ў Якуцію на будоўлі камунізма. П'яны брэд.

— Бацька больш не п'е.

— Не п'е, але п'янее — ад рэвалюцыйных пражэктаў сваіх. Змагар лысы! Злуе, што генерала не атрымаў.

— Спі, Казік. А то зноў пасварымся. Я пра тваіх бацькоў нічога такога не кажу, бо люблю іх.

І — дзіўна — ён заснуў.

І ўдзень гэты, другі, сон не здаваўся такім страшным, як першы. Надзетыя на галовы вёдры? Дык гэта, бадай, смешна. Жанета? Але ж ён не ўбачыў, што яе забіла. Які там грыб! Грыбок. Кінаімітацыя.

Анкуда зноў актыўнічаў, бадай, больш, чым у пачатку сваёй дзейнасці — першапачатковага накаплення капіталу.

Жанчын яго актыўнасць цешыла. Канаплю трывожыла: яўна нервуецца шэф. З-за чаго? — во пытанне, на якое не меў адказу.

Падказаў ідэю: трэба злётаць у Германію, да Вагнера, і іншыя сувязі наладзіць — расцём, расшыраемся.

Магчыма, Канаплі самому хацелася прагуляцца. А чаму не? Але Анкуда праз хвіліну роздуму з захапленнем прыняў ідэю.

— Лячу! Заўтра ж. На пашпарт. Каці ў міністэрства. І да немцаў — за візай.

Пасля, калі Канапля паехаў у МЗС, апанаваў страх: калі затрымаюць, значыцца, следчы сапраўды капае — даў ход справе, паставіў заслон замежным паездкам. Нерваваўся. Разоў колькі міма волі падыходзіў да бара. Але перамог сябе.

І — о, шчасце! — Канапля вярнуўся з візай і з білетам на самалёт. Усёмагутны долар і тут пралажыў «зялёную дарогу».

Ларысе не спадабалася такая раптоўная паездка.

— Што ў вас там гарыць?

— Мільёны гараць.

— Колькі іх табе трэба?

— Ох, і выхавалі ж цябе камуністы! Ты сапраўды бессярэбраніца. Нічога табе не трэба.

А ў ложку дамагалася блізкасці, каб ён з ёй насыціўся. У яго не атрымалася. Раніцою яна збірала яго ў дарогу, што хмара навальнічная: вось-вось грымне. Не грымнула. Трымалася прымхлівага правіла: перад паездкай ніякай сваркі, праводзіць, як належыць жон-

цы, — з дабрынёй, лагоднасцю, блаславеннем. Але ад бабскага наказу не стрымалася:

— Глядзі, снід не прывязі.

— Лора! Вярзеш — бог ведае што. Абражаеш.

— А ты не абражайся, а круці на вус. Сядзем перад дарогай.

На развітанне моцна пацалавала.

8

Германія не супакоіла. Наадварот, паглыбіла, абвастрыла страх, роспач, прадчуванне катастрофы. Але менавіта там з'явілася перакананне: катастрофа немінучая. І ад гэтага ў адзіноце ледзьве не скуголіў, што пёс. Такі ўзлёт, такое багацце накапіў! Сумленна, законна, без крамольных махінацый. Якія мары луналі! Пра ўласную партыю думаў. Цвёрда вырашыў выстаўляць сваю кандыдатуру на блізкіх выбарах у парламент. І... усё кату пад хвост? Горш. Банкруцтва — дробязь у параўнанні з тым, што яго чакае. Не, турма не вельмі страшыла. Часам нават думаў, што турма магла б ратаваць ад гэтых нясцерпных душэўных пакут, якія растуць, што снежны ком. І думкі — самыя вар'яцкія. У бяссонную ноч прапаўзла, што змяя, слізкая і брыдкая думка: застацца тут, у Германіі. Але тут жа горка пасміхнуўся. Ідыёт! Вось тут ты напэўна звар'яцееш ці выкінешся з адзінаццатага паверха гатэля. Запякла настальгія — па айчыне, па дому, па родных. Якія яны ўсе добрыя, якія любыя! Можа, нават у мядовы месяц ён не кахаў так Ларысу, як у тыя дні ўдалечыні ад яе. А ўспамінаючы Жанету — плакаў ад замілавання, ад радасці, і ад смяротнага страху, што можа не ўбачыць больш дачкі. І маці... Як ён недаравальна забывае на маці! А яна адзіная, хто яго зразумее і даруе.

Такая вар'яцкая думка магла прыйсці толькі ў галаву, разгарачаную да бяспамяцтва, у якой парваны лагічны ланцуг. Хто ён будзе тут без грошай, без мовы? Эмігрант? Які да д'ябла эмігрант! Там, дома, адразу сцямяць: раз уцёк — вінаваты. Забойца. Крымінальнік. А крымінальных выдаюць. Імі займаецца Інтэрпол. Не, выжыць можна толькі дома! Дома можна адкупіцца праз Якімкіных. А душа загоіцца. Усе раны гояцца, калі несмяротныя, — і фізічныя, і душэўныя. Пераконваў сябе, што яго рана несмяртэльная.

Першыя дні, пакуль займаўся з Вагнерам, яшчэ можна было цярпець. Гасцінны і практычны Вагнер удзень знаёміў яго з фірмамі, з нямецкім рынкам, з нямецкім вопытам камерцыі, цікавым і карысным асабліва тут, у былой ГДР, дзе ішлі рэформы амаль такія ж, як у нас. Другую палавіну дня і вечары запаўнялі культурнай праграмай: карцінная галерэя, музей, оперны тэатр, вечары ў сем'ях

— у яго, Вагнеравай, і ў яго кампаньёнаў. Але тая ж нямецкая практычнасць не дазваляла траціць так многа часу на госця. Ды і грошы. Нябедны, не дзіця. Няхай сам асвойваецца, мову вывучае. Гэта вельмі карысна. Да ўсяго даходзіць самому.

Вагнер, папрасіўшы прабачэння, паехаў у Берлін — па вельмі пільнай справе.

Вось тады і падступілі самыя цяжкія душэўныя пакуты. Цэлы дзень адзін, у гасцінічным нумары, што ў камеры. Куды пойдзеш? У музей? Абрыдлі да гаркаты! Да малазнаёмых капіталістаў? Дзіўна. Сам капіталіст, ён узненавідзеў іх лютай класавай нянавісцю. Усё нямецкае ўзненавідзеў: парадак іх, уладжанасць. У кожным немцы бачыў фашыста — таго, што здратаваў яго краіну, спаліў іх сяло, яго дзядоў. Баяўся гэтай нянавісці, увечары ў бары — асабліва. Да абеду пакутаваў у ложку ў нумары, праклінаючы еўрапейскую пагоду — на двары, пад новы год, — дождж. Мярзотнейшае надвор'е. Думаў, што ў нас у снежні такога не бывае. Усё тут мярзотнае, фальшывае. У абед у рэстаране заказваў многа, здзіўляючы афіцыянтаў, а з'ядаў, зноў жа на здзіўленне скупых Немцаў, патроху ад кожнай стравы. З прыходам вечара спускаўся ў бар. Бармены ведалі рускага дзівака і шчыра віталі — даваў ім зарабіць больш, чым усе госці, ашчадныя галандцы, шведы, аўстрыйцы. Пагуляць маглі хіба палякі. Славянскія марнатраўцы!

Анкуда цадзіў праз саломінку самыя розныя кактэйлі і частаваў суседзяў. Не немцаў — немцам дулю. Розных шведаў. Сквапныя да дармаўшчыны, некаторыя напіваліся, буянілі, звальваліся з высокіх стульчыкаў. Гэта было для Казіміра найлепшай забавай. Ён рагатаў з п'яных дурняў. Самога алкаголь не браў. У бары. Але каб хто ведаў, як разбіраў пасля ў нумары, у адзіноце. Не, бяспамятнага ап'янення не было. Наадварот. Страшэнна ўзбуджалася памяць — да тых кашмараў, якія з'яўляліся ў сне. Але сон адольваў хіба пад раніцу.

Намерваўся плюнуць на ўсё і паляцець дадому. Але не так проста гэта: у Вагнера — камерцыйныя дакументы, і білет ён павінен быў афарміць. А ў гатэлі заказы бралі толькі на тыдзень наперад. Думка, што жыць яму яшчэ тыдзень, даводзіла яго да шаленства. Расла злосць на Вагнера: адчуваў, што нікуды ён не паехаў, схаваўся, падлюка, ад госця; лавіў вінаватыя ноткі ў словах яго жонкі, сібірачкі, якая, відаць, не навучылася мані́ць.

«Дрэнна цябе, свіння, вучылі рускія і казахі. Прыедзеш у Мінск, я цябе навучу беларускай гасціннасці».

Вагнер вярнуўся. Анкуда сустрэў яго падкрэслена няветліва — даваў зразумець, што так прыстойныя гаспадары не робяць. А немца

выхоўвалі рускія і казахі. Сумленне ён не страціў. І яму зрабілася сорамна за сваю хітрасць, не сам прыдумаў, як ні дзіўна, жонка падказала, ёй не падабалася, што пасля абедаў і вячэр з гэтым беларусам муж з'яўляўся дадому пад добрай чаркай — не па-нямецку, па-руску.

Ганс стараўся ўсімі спосабамі загладзіць сваю віну:

— Прабач, Казімір. Што зробіш: бізнес ёсць бізнес. Пракляты капіталізм, як пісаў Маркс, вытраўляе ў чалавеку яго чалавечыя якасці, падараваныя Богам. Ты знаеш, я з цікавасцю чытаю Маркса. У інстытуце чытаў пад прымусам, каб здаць палітэканомію. Галава, я табе скажу! Сёння ён вучыць не рабочы клас, а нас, новых капіталістаў. Раю пачытаць. Прабач, мой добры сябра. Моцна сумаваў?

— Выў ад адзіноты, як сабака на месячык.

— О, гаротнік! Я вінаваты. Я ж мог уручыць цябе Лоце.

— Каму?

— Наша перакладчыца. Ты знаёміўся з ёй.

Знаёміўся. Доўгая жардзіна з крывымі нагамі. Морда — нішто, праўда.

— Я не рэч, каб мяне ўручалі.

Ганс пачырванеў.

— Яшчэ раз прабач. Сёння мы з табой гульнём. Хочаш, наведаем адно злачнае месца? Ведаю падпольны бардачок. Там вашы, рускія...

— Я — беларус.

Вагнер прыняў гэта за жарт і засмяяўся.

— А ты нацыяналіст. А як па мне, то ў гэтай справе чужая... далёкая смачней. Каб японка якая ці негрыцянка...

— Цябе пацягнула на японку? Дык ёсць жа ў вас і японкі. Часта ты наведваеш бардакі, бацька добрапрыстойнага сямейства? А што ж Аня? Ці ў вас так прынята?

Вагнер пачырванеў, што хлапчук. Зразумеў, што перабраў у сваім жаданні дагадзіць госцю. А перабраў моцна, сябе выставіў распуснікам, хоць ніколі ім не быў. І Анкуду абразіў. У Казіміра ажно рукі засвярбелі даць гаспадару па мордзе. Стрымаўся. Змрочна спытаў:

— За каго ты мяне лічыш? Збянтэжыўся гаспадар ледзьве не да слёз.

— Прабач, Казімір. Я — дурань. Не думай пра мяне так. Ніколі я там не быў...

— Ды ладна. Перад жонкай апраўдвайся. Мне — што... Зрабі мне білет на заўтра.

Вагнер не стаіў радасці — падскочыў у крэсле.

— Зраблю! Зраблю.

9

Вярнуўся Казімір з бояззю, але і з радасцю, як, бадай, ні з адной далёкай камандзіроўкі. Даў сабе зарок: пакуль не загоіцца душэўная рана, не ездзіць больш у дальняе замежжа. Успамін пра дні, што правёў у пакутлівай адзіноце ў чужой гасцініцы, кідаў у жар і ў холад. Таму ў Мінскім аэрапорце не прызямліўся, а ўзнёсся — у радасць, што ў неба.

Ларыса сустрэла ласкава. Пра Жанету і казаць няма чаго — тая вішчала ад падарункаў, хоць усё тое ён купляў і дома. Хітрунняя малая даўно сцяміла, што яе буйнае захапленне падарункамі раскашэльвае бацьку, вымушае купляць новыя. І вечар яны правялі незвычайны. З роднымі жанчынамі сваімі нават страхі і трывогі адступілі.

Адзін страх трымаў — перад той хвілінай, калі ён апынецца з Ларысай у ложку. І страх апраўдаўся. Усе яго патугі былі дарэмныя. А Ларыса і не спрабавала актыўнічаць, яна была небяспечна інертная, што яшчэ больш абяссільвала яго.

Ларыса не абурылася, не спіхнула яго з ложка. Яна горка заплакала. Яму здалося: так плачуць па нябожчыку. Раней ён мог бы пажартаваць. Але якія там да д'ябла жарты! Гняце, скоўвае і цела і мозг страшнае прадчуванне катастрофы. Пра гэта расказваюць анекдоты. Мала хто задумваецца, якая гэта трагедыя — у трыццаць два гады пазбавіцца, можа, найпершага жыццёвага стымула. Жывуць імпатэнты. Але ў большасці гэта спадчынная хвароба. А ў яго... пасля стольких пацех з Ларысай (іншыя сувязі былі выпадковыя, як з Тамарай) раптам ператварыцца ў бяздзейны пацурбалак. Дзеля чаго тады жыць, працаваць? Лісліва і жаласна плакаўся перад жонкай:

— Лора, любая, радасць мая. Клянуся табе... Жанетай клянуся, што я перад табой чысты, як анёл. Я не знаю, што са мной здарылася. Хвароба нейкая. Як насланнё. Я заўтра ж да доктара пайду.

Неяк аднойчы пры беспрычыннай рэўнасці жончынай ён пакляўся дачкой. Што было! Закаяўся ў такім кантэксце вымаўляць імя Жанеты. А цяпер якраз хацелася, каб Ларыса абурылася, учыніла сцэну рэўнасці. Не, маўчала. Не плакала больш. Але ляжала безуважная да ўсіх яго клятваў, прызнанняў, малітваў. І гэта па-новаму абурыла і спалохала — што не чуе крыку душы яго.

— Няўжо ты не чуеш, што мне балюча? На душы балюча. Нічога не баліць, я фізічна здаровы чалавек і раптам такое. Ад чаго? Зразумей, у якой я роспачы...

Хаця б сказала: «Разумею». Маўчала, што бервяно.

Сам пайшоў на канапу.

Вельмі здзівіўся, што Ларыса не абразілася: праз мінуту звычайным спакойным голасам паклікала:

— Ідзі на ложак, дурань. Паспіш па-чалавечы з дарогі. Я веру, што ты захварэў. Абавязкова схадзі да доктара.

Ён добра разумеў, што ніякі доктар яму не дапаможа, бо нікому не скажаш прычыну сваёй хваробы. Але да доктара пайшоў. Не да сексапатолага. Да псіхатэрапеўта. Знайшоў у рэкламным даведніку адрас урачэбнай фірмы, дзе якраз практыкавалі такія спецыялісты — і псіхіятры, і ўролагі-сексолагі. Урач быў ненамнога старэйшы за яго, мужчына спартыўнага выгляду. Па ім відно: лаўкач, умее зарабляць грошы. «А хто з нас не лаўкач? — падумаў Казімір. — Усе стараемся разбагацець. Любой цаной. І за багацце сваё гатовы... за адзін батон...»

Сацыяльнага становішча свайго не хаваў, хіба зменшыў маёмасць, якою валодае. Пра булачную сказаў — высакародная справа карміць людзей, пра вінны магазін змаўчаў і пра камерцыю з палівам і машынамі.

На што скардзіцца? У апошні час адчувае незразумелы страх.

— Не ладзіцца бізнес?

— Ды не, наадварот.

— І ўсё — па закону?

— З законам я ладжу. Нават падатковая інспекцыя пакуль што не прыдралася.

— Сімптомаў банкруцтва няма?

— Ды не. Усё на ўздыме.

— Хвароба знаёмая. Дзелавых людзей. Вы думаеце, чаму кожны другі амерыканец лечыцца ў псіхіятра? Маюць дзела. Сацыялізм збядняе людзей. Але ён пазбаўляе іх клопатаў пра ўласнасць. І ў нас не было патрэбы ў псіхіятрах. Больш таго, у нас баяліся звяртацца да псіхіятраў. Пачуюць суседзі і будуць лічыць, што ты таго... з «прывецікам». Дзікунства. Пабочныя сувязі... прабачце, з жанчынамі, ёсць, канешне? У каго іх няма! — доктар весела падміргнуў.

— У мяне няма. Я кахаю жонку.

— Феномен! — выраз твару ўрача з вясёлага стаў сур'ёзна-задумлівы. — Патэнцыя?

— Аслабла.

Псіхіятр ажно ўстрапянуўся.

— Баценька мой! Дык у гэтым жа ўся прычына! Не трэба было далёка шукаць. Лезці ў камерцыю, бог знае куды. Большасць нашых страхаў маюць адно паходжанне. Зараз мы пакажамся сексолагу.

Слухалі, мацалі яшчэ ажно трое. Зрабілі аналізы. Залажылі анамнез, вынікі аналізаў, меркаванні спецыялістаў у камп'ютэр.

Выдалі камп'ютэрны рахунак. Боскі. Усяго сорак сем долараў. Анкуда разумеў гэтых дзялкоў ад медыцыны, хітруганаў: прыманьваюць пацыента. Абабраць яго паспеюць. Ды і ў першы візіт не саромеліся. Прыгожая фармацэўтка ў аптэчным кіёску з самымі дэфіцытнымі лекамі нашчоўкала на просценькім арыфмометры ў два разы большую суму. Вось і лячыся працоўны ў прыватнай паліклініцы! Адзін візіт — паўгадавая зарплата прафесара.

Але Анкуда пра гэта не думаў.

Яго пацешыла, што прыём лекаў зняў эмацыянальную напружанасць, нармалізаваў сон, вярнуў працаздольнасць. Ларысу проста спалохала колькасць прынесеных ім лекаў; паверыла, наіўная, што без прычыны столькі не выпісваюць.

Каб не траўміраваць жонку, вырашыў праверыць сваю патэнцыю на Тамары. Не атрымалася. Ды Тамара не плакала. Тамара весела смяялася і кпіла. Смех яе рэзаў сэрца, абражаў. Моцна ўзлаваўся на супрацоўніцу: яму — бяда, а ёй смех! Вырашыў: даручыць Людміле зрабіць рэвізію, а бухгалтарка любіць рабіць рэвізіі, і ў Тамары, якую не любіць, — ах, якую зробіць! Калі выявіць хоць невялікі недахоп, зволіць без тлумачэнняў! Ніякі суд за кражу не адновіць. Гэта супакоіць Ларысу: цяпер спакой у сям'і для яго самыя надзейныя лекі. А тут яшчэ Якімкін двойчы пазваніў і без слоў даў зразумець, што чакае другую палавіну паднашэння, маўляў, зрываецца справа з яго павышэннем. Не кажучы лішніх слоў, пагразіў: «Ён працуе».

Ларыса адносілася да яго, як да хворага. І не выказвала ніякіх прэтэнзій: хвароба ёсць хвароба. Ды нервы жанчыны не вытрымалі, яна сарвалася.

— Ды згары яна, твая булачная! І ўсё тваё грашовае шчасце! Што я маю, што бачу? Сяджу ў будцы, што сабака, збіраю грошы. А навошта? Навошта яны мне? Няхай яны згараць — і долары і «зайцы» твае!

Ён таксама сарваўся. Моцна пасварыліся. У апантанай злосці ён вырашыў незвычайна адпомсціць ёй: зрабіць саўдзельніцай свайго злачынства. Каб не адзін ён пакутваў. Але і яна! Яна. Але штурхнула на такі крок не толькі сляпая помста, падвяло і тайнае спадзяванне (думаў пра гэта не аднойчы): калі пасвяціць у сваю тайну блізкага чалавека (Ларыса ўсё ж самы блізкі чалавек), то яму зробіцца лягчэй — бяда раздзеліцца на дваіх.

Ён крычаў, вінаваціў у няўдзячнасці:

— Я ашчасліві́ў цябе! Чаго табе не хапае? Птушынага малака?

— Заліся ты сам гэтым малаком! Чаго не хапае! Жыцця чалавечага не хапае!

Казімір наблізіўся да жонкі. Яна баязліва адступіла: у яго зрабіліся страшныя вочы, спалохалася, што ўдарыць. Ды раптам з крыку ён перайшоў на шэпт, даверлівы, таямнічы:

— Я хворы, Лара. Я хворы. І хвароба мая во тут, — тыцкнуў пальцам у лоб. — І знаеш, ад чаго яна? Знаеш? Я забіў чалавека. Таго хлопца... Ён краў батоны...

Вочы яе ненатуральна расшырыліся, вылезлі з арбіт, як у зобнай, яна заціснула рот дзвюма далонямі — каб не закрычаць, і адступіла далей — ужо не ад боязі ўдара, і не ад боязі, што ён заб'е яе. Не. Жудасць апанавала ад усведамлення, што яна жыла з забойцам.

Уперлася плячамі ў дзверы Жанецінага пакоя, адчыніла іх, адступіла ў глыбіню пакоя, ляпнула дзвярмі з сілай. Яны грукнулі, што стрэл. Шчоўкнуў замок. Жанета неяк выказала жаданне мець замок — ад каго зачыняцца? Ад бацькоў? Але ён урэзаў замок. Сам. Выконваў любы капрыз дачкі.

Ён не стаў ламацца ў дзверы. Навошта? Галоўнае зроблена. Спалохаў яе? Што ж, гэта натуральна. Такое трэба пераварыць, перажыць. У Ларысы хопіць розуму, і яна знойдзе свой жаночы спосаб, як супакоіць і яго і сябе. Верыў у гэта. Бадай, задаволены быў сваёй нечаканай рашучасцю.

Выпіў каньяку. І з радасцю адчуў, што зняў душэўную напружанасць, як умеў здымаць раней непажаданыя эмоцыі.

Сеў у крэсла. Чакаў, што «пераварыўшы», Ларыса выйдзе. Яна не выходзіла.

Далікатна пастукаў у дзверы, паклікаў ласкава. Яна адказала з плачам:

— О божа! Адстань ад мяне!

Нічога — жывая. Міне шок — перажыве і такое, баба практычная, з ваеннай сям'і. А што плача, то гэта добра. Слёзы змыюць увесь накіп.

Парадаваўся, што Жанеты няма дома. Зімовыя канікулы — і дзед, адстаўны палкоўнік, сам прыехаў з Магілёва, забраў яе, каб хоць тыдзень пабыць з адзінай унучкай. Шапавал любіў Жанету да бяспамяцтва. І яна любіла яго больш, там бабулю. Палкоўнік умеў гаварыць з малымі, умеў цікава расказваць нават пра статут каравульнай службы. А ракеты, якія любіў да забыцця, у расказах яго ператвараліся ў жывыя істоты, казачныя персанажы.

Казімір неяк сказаў Ларысе зусім не ў жарт: «Івану Паўлавічу трэба было не генерала дамагацца, а ў педагогі ісці. Вялікі педагог загінуў».

Бар адчыніў яшчэ разы тры і, супакоены, заснуў у крэсле. Прачнуўся а шостай гадзіне. Узрадаваўся, што галава не балела і не вельмі была затуманена. Працверазейце. Не толькі ад алкаголю. Паверыў, што прызнанне Ларысе працвярэзіць галаву і ад віны, якая затуманьвала да псіхічных катаклізмаў.

Дзверы ў Жанецін пакой адчыненыя. Спальня — з калідора, побач з кухняй. На пальчыках выйшаў у калідор. Вельмі хацелася зайсці ў спальню, памірыцца з Ларысай, можа, разам паплакаць над бядой, што звалілася на іх галовы, але і абмеркаваць, як жыць далей; у такой сумеснай развазе бачыў, калі не паратунак, то, напэўна ж, душэўнае заспакаенне.

Адчуваў незвычайную пяшчоту да жонкі, удзячнасць за ўсё тое шчасце, якое меў з ёй. Але праз гэтае замілаванне не адважыўся зайсці ў спальню: можа разбудзіць, а яна ж, напэўна, не спала, гаротная, перажывала бяду, можа, толькі пад раніцу сон адолеў яе.

Раздзеўся і лёг у Жансцін ложак, кароткі, але мяккі, бо адчуваў у ім доччыну цеплыню. Ажно праслязіўся ад любові і замілавання.

Заснуць больш не здолеў. Чакаў, слухаў, калі прачнецца Ларыса. Ляпалі дзверы ў суседзяў. Зашумеў ліфт. А ў яго кватэры — мёртвая цішыня. А час ужо і ў булачную ісці. Забаставала? Ці наглыталася снатворнага? Магла хапіць праз меру. Ад такой думкі падхапіўся з грукатам, кінуўся да спальні. Ларысы не было. Знікла. Няма футра, ботаў, шапкі, сумкі. Паехала. Куды? Безумоўна, да сваіх — у Магілёў. Апанаваў панічны страх. Калі раскажа бацьку — усё, амба, адгуляў казак. Гэты цвёрдакаменны прынцыпіял, што плача па генеральскіх пагонах, не змоўчыць, не стрывае. Асіраціць дачку, унучку, але злачынцу не схавае. А можа, усё ж пайшла ў булачную? Пасярод ночы? Смешна. Але той, хто тоне, хапаецца за саломінку. Так і ён. Думаў: а чаму не магла пайсці? Захацела пабыць у адзіноце, у хлебным водары. Сама ж некалі, на пачатку работы, неяк сказала, што пах хлеба хораша супакойвае, надае ўпэўненасць у неадольнасці жыцця. «Есць хлеб — ёсць і будзе жыццё». Яс словы.

Не вытрымаў — паехаў у булачную.

Зачынена.

Адчыніў сваім ключом. Сядзеў за касай спачатку амаль бяздумна, спустошаны, што выпатрашаны: усё выпатрашана — мозг, шлункі, але лёгка ад гэтага не стала, наадварот, адчуванне было такое, што замест жывых органаў налілі гарачага свінцу. Цёплы водар

прывезенага позна ўвечары хлеба (Канапля прывозіў) не супакоіў — узбудзіў: сцішаны мозг запрацаваў што камп'ютэр — за секунду мільён самых розных думак.

Грукалі ў дзверы пакупнікі. Ён баяўся да іх выходзіць. Але і сядзець у густа настоенай пахамі хлеба цеплыні не мог.

Калі з'явіўся на ганку, яму крычалі:

— Чаму зачынена булачная?

— Рэвізія. Падатковай інспекцыі.

— Зладзюгі! У дзяржавы крадуць. У людзей крадуць. І ў сябе крадуць.

Словы ўдарылі, што жалезны прут, — па патыліцы. Не ішоў — бег па шматлюднай ужо вуліцы, і здавалася, што ззаду не крычалі — білі цяжкімі бізунамі: «Зладзюга! Зладзюга!»

Перад ліфтам у сваім доме апякла іншая думка: там, на пляцоўцы перад дзвярамі кватэры, яго чакае міліцыя. Палкоўнік чалавек аператыўны. Вярнуўся страх перад турмой. Якімкін быццам адагнаў яго. У апошні час гняла пакута сумлення — свая турма, самая страшная. Лічыў, што самая страшная. Ажно не: рэальная турма не менш палохае.

Асцярожна паднімаўся па ўсходцах на свой восьмы паверх.

Не, нікога. Шмыгнуў у кватэру, як адзіны паратунак ад усіх бед.

Тры разы набіраў код Магілёва і слухаў доўгі гудок да таго часу, калі ён пераходзіў у кароткія сігналы: занята. Добра, што занята. Але няпэўнасць яшчэ цяжэй. Ад чаго ён хаваецца? І куды ён можа схавацца?

Урэшце набраў магілёўскі нумар.

І адразу, ад жудасці блізка, як з калідора, прагучэў бас палкоўніка:

— А-а, гэта ты, тып!

Прахрыпеў, задыхаючыся:

— Ларыса ў вас?

— Ты што там натварыў, свіння?

Усярэдку абарвалася ўсё жывое.

«Канец. Расказала».

Але ўсё ж схапіўся за нітачку.

— Яна вам расказала?

— У тым і бяда, што яна, плакса няшчасная, нічога не расказвае. Але я знаю, што ты зрабіў. Нагадзіў, як паганы кот! Што ты прывёз ад сваіх фашыстаў? Ганарэю? Снід?

Ах! Адлягло.

— Нічога я не прывёз.

— Дык тут за спадніцу зачапіўся. Я цябе, паскуду, знаю! Ніводную б... не прапускаеш.

— Паклічце Ларысу.

— Не жадае яна з табой гаварыць. Але калі ты нічога не прывёз, прыязджай, упадзі на калені, можа, даруе. А я цябе, буржуя праклятага, навучу розуму. Я ўмею вучыць такіх злыдняў. Мы яшчэ да вас дабяромся, крывасмокі!

Змаўчаў, не нагадаў, што цешча неяк на падпіцці шпільнула: «генерал» гэты, у званні лейтэнанта і капітана, панадны быў да чужых баб, у званні маёра ацішыўся. І на палітычную пагрозу не адказаў.

«Праведнік бальшавіцкі, такую тваю», — мацюкнуў цесця, але без злосці, з палёгкай: Ларыса, Жанета пад надзейнай крытай. І заядацца яму з гэтым апантаным няма патрэбы. Заядацца ні з кім не трэба зараз. І Тамару не трэба звальняць.

— Прыедзеш?

— Прыеду.

— Не гані. Слізка.

Нечаканы цесцяў клопат, нягледзячы на ўсе эпітэты, якімі ён узнагародзіў перад гэтым, расчуліў. Але больш кранула, што Ларыса — во разумніца! — не сказала праўду сваім. Значыцца, пра разрыў не думае, спадзяецца... І ён вырашыў: дзеля яе, дзеля Жанеты ён павінен усё вынесці і выжыць. А для гэтага трэба застацца на волі. Нічога не шкадаваць Якімкіну, большасць — не ўсё! — багацця аддаць. Багацце ён нажыве, бо застанецца аснова, а яе нажываць — ён умее.

У той дзень працаваў актыўна. Офіс, банк... Сустрэўся з Якімкіным. Аддаў яму другую палавіну хабару на кар'еру следчага. Парадокс! Ды яшчэ добрыя «чаявыя» адваліў, хоць грошай стала шкада. Наяўныя трэба накапіць: пра дачку і жонку падумаў з халоднай цвярозасцю. Каб не галадалі ў выпадку... Шакалы тыпу Канаплі і Людмілы капейкі не дадуць. А яго доля ў фірме будзе канфіскавана.

Цвярозая развага, такой не было раней. Але клопат пра сям'ю неяк па-новаму спалохаў: няма, выходзіць, надзеі.

Настроіўся супраць сваіх супрацоўнікаў, узненавідзеў іх — за тое, што яны задаволеныя, шчаслівыя і... патэнцыяльныя ворагі яго. А ён — што зацкаваны звер. Яны не цкуюць, яны падхалімнічаюць, кланяюцца: «Казімір Пятровіч, Казімір Пятровіч»... А няхай апынецца Казімір Пятровіч за кратамі — о, як ашчэрацца! Рваць будуць сапраўды як шакалы, і разарвуць — ім больш дастанецца. Людміла, сволач, натапырылася, што варона, калі ён загадаў выпісаць банкаўскі чэк на трыццаць мільёнаў, якія вырашыў пераслаць Ларысе, каб хоць на першы чорны дзень мела.

Людміла:
— На якую патрэбу, Казімір Пятровіч?
— Гуляць буду. Банкет дам.
— Каму?
— Прэзідэнту.
— Жартуеце.
— Я знаю вашу хваробу; часам здаецца, што вам лягчэй з жыццём расстацца, чым з грашамі. Цікава, вы хоць рубель са сваіх уласных каму-небудзь далі? Жабракам падаеце?
— Муж лічыць мяне марнатраўскай.
— Што вы кажаце? Здзівілі.
— Вы не ведаеце загадак жаночага характару.
— А вы не хавайце іх.
Грошы атрымала, але калі адлічвала яму, гаспадару, Казімір убачыў, як у яе калоцяцца рукі. І яму зрабілася брыдкай гэтая «ідэальная бухгалтарка», ён сапраўды ўзненавідзеў яе. І нават бязвінную Алісу з яе кароценькай спаднічкай. Ці даўно любаваўся яе ножкамі. Цяпер пляваццa хацелася: бессаромная жывёліна!

10
На другі дзень яму не захацелася ехаць у офіс — каб не бачыць ненавісныя морды. І ўвогуле не хацелася ні з кім сустракацца. Розумам усведамляў, што нянавісць да ўсіх — небяспечная прыкмета. Пераконваў сябе: ён не ненавідзіць, а проста стаміўся і ад сваіх і ад чужых, і ад гансаў і ад Іванаў. Не, ад сваіх, родных, ён не стаміўся. Якраз Жанеты і Ларысы яму не хапала — для спакою. Каб не заставацца ў кватэры ў адзіноце, ездзіў па горадзе. Заязджаў у такія раёны, на такія вуліцы, на якіх ні разу не быў за пятнаццаць гадоў жыцця ў сталіцы.
Дні два назад выпаў глыбокі снег, моцна падмарозіла. Але ў кабіне «мерседэса» было цёпла, утульна. У адным месцы на вуліцы, дзе яшчэ стаялі драўляныя будынкі пасляваеннай забудовы, загрузнуў у снезе. Памагчы яму выбрацца сабраліся хлапчукі, што коўзаліся на горцы. Памаглі — не памаглі, «мерседэс» — звер, паўтары сотні конскіх сіл, а ў хлопцаў семярых і адной не было. Але ён вылез і шчодра аддзячыў ім — даў цэлы пачак «прывакзальнай плошчы». Дзеці ўзрадаваліся і расчулілі: пачалі абмяркоўваць, як патрацяць грошы.
— Накупім усяго для Дзімы і занясём у бальніцу.
Ад'ехаўшы, ён праслязіўся, прыгадаўшы іх клопат пра хворага таварыша.

Павярнуў на чырвоны светафор. І спалохаўся ўпершыню міліцыянера, які спыніў яго. Неаднойчы весела адкупліваўся ад «даішнікаў», увогуле ў яго была страсць, азарт — купляць дзяржаўных служачых. Сваіх, бізнесменаў, не купляў ці ва ўсялякім разе не любіў мець з імі такі несумленны гешэфт, сваіх прывучыў да законнасці і прыстойнасці. На з'ездзе прадпрымальнікаў прамовай аб маралі «новага класа» зарабіў воплескі.

Ад міліцыянера лёгка і танна адкупіўся — пяццю доларамі. Але ўзненавідзеў яшчэ аднаго дзяржаўнага хапугу. А заадно ўпершыню адчуў, што і сабе ў душу плюнуў. О, колькі там пляўкоў! Не пляўкоў. Кроў там, на яго душы.

У прыцемках ужо выскачыў на знаёмую Магілёўскую шашу. Праскочыў да Трасцянца. І раптам адчуў неадольнае жаданне даехаць да дому, да бацькоўскага дому. У маленства пацягнула. І нішто ўжо не магло спыніць, нават думка, што ад Калінкавіч да яго вёскі дарогу маглі не прачысціць. Хто зробіць такую раскошу для сялян пры сённяшняй цане на паліва?

«Пакіну машыну ў Калінкавічах, брат жа там. Пехатою дайду. Нейкія дзесяць вёрст. У школу штодня хадзіў».

Гнаў — вецер свістаў. І — о, цуд! — адступілі пакутлівыя думкі пра сябе, сучаснага. З нейкім, бадай, незнаёмым замілаваннем, з душэўным трапятаннем думаў пра маці, пра бацьку. І пра сябе — таго вясёлага і бязмерна шчаслівага хлопца, што быў душой кампаніі хлопцаў і дзяўчат, якія разам хадзілі ў раённую дзесяцігодку, З такімі думкамі не прыкмеціў, як даляцеў да Бабруйска. Заправіўся на кальцы — і далей. За гадзіну з нечым па пустой дарозе — дзве машыны абагнаў, тры-чатыры прайшлі насустрач — даімчаў да Калінкавіч. Падумаў: заязджаць да брата, меліяратара-механізатара? Не хацелася. Брат-выпівака, яго шумная жонка парушаць усю гармонію. Дадому хутчэй! Да маці!

Паехаў на авось. На шчасце — бываюць жа цуды і ў наш час! — дарогу прачысцілі. Хоць які цуд! Малако гораду трэба. У іх калгасе, можа, самая вялікая малочная ферма. Была. Нешта ж засталося. Малако ў гарадах яшчэ п'юць. У планах яго фірмы — аб'яднанне з адной сельгасарцеллю. Не вазіць жа сасіскі з Германіі! Свае вырабляць будзем!

Загрузнуў на сваёй вуліцы, да болю знаёмай і роднай, за трыста метраў ад бацькоўскага дома. Хоць вуліца а дзесятай гадзіне вечара была абсалютна пустая, але пакідаць машыну без догляду баяўся. Прыгожая цацка! А людзі злыя. Падумаюць, што начальнік нейкі забуксаваў, і пакамечаць дарагой чужаземцы бліскучыя бакі. Ды і тут

пашанцавала: выскачыла з бліжэйшага двара маладзіца ў кажушку на плячах, з рэшатам у руках. Зацікавілася. Падбегла па скрыпучым снезе. Угледзелася — пазнала:

— Казік? Ты? Ох, буржуй ты! Помніш, я табе наваражыла, што будзеш багатым.

Аднакласніца, далёкая сваячка з тым жа прозвішчам — Надзя Анкуда.

— Добры вечар, Надзя.

— Добры вечар, Казік. Ух, якая машына! У сяле казалі, што ты капіталіст, ды я не верыла. Ты ж самы правільны камсамолец быў. А ты — як Гарбачоў.

— Як табе жывецца?

— Лепш за ўсіх. Толькі мой п'янюга матацыкл разбіў. А грошай на рамонт няма. У калгасе за тры месяцы не плацілі. Пазыч грошай.

— Пазычу. Колькі табе?

— Ой, ты жартуеш?

— Не.

— А мне страшна гаварыць: мільён просяць за рамонт. Цяпер без мільёна нікуды не сунься. А купіў жа гэты матацыкл за восемсот рублёў. А мы зараблялі з Карнеем пяцьсот у месяц. Во жыццё было, Казік! Не цанілі. Хоць што я кажу! Для цябе цяпер жыццё! Такая машына! У яе сядзеш — душа мёдам абальецца.

Надзя была лепшай вучаніцай, тыя, якіх цягнулі на медалі — сакратарова дачка і сынок дырэктара маслазавода, — тыя былі тупіцы ў параўнанні з ёй. А вось жа лёс: двойчы паступала ў сельгасакадэмію і двойчы зразалі бесталковыя прафесары.

— Надзя! Схадзі ты да нашых, няхай бацька знойдзе які трактар — дабрацца ў родны двор.

— Знойдзе. Гэтыя насарогі нюхам чуюць, дзе можна лыпнуць. Хто адмовіць Анкудзе! Сын багач, і ў старога самагонкай хата прапахла.

— Ну, і язык у цябе, Надзя. Свякруха церпіць?

— Матка пад Карнееву дудку скача, а ён — пад маю. Падарыць табе рэшата на памяць?

— Што мне прасяваць?

— Грошы. Каб адны буйныя заставаліся.

Надзя весела засмяялася. Адышоўшы, крыкнула:

— Дык калі па грошы прыходзіць? Раніцою? За ноч не перадумаеш?

— Навошта на заўтра? Хадзі вазьмі.

Пакуль яна вярталася, павольна, мабыць, баялася, што Анкуда пажартуе, Казімір дастаў у асветленай кабіне з дыпламата банкаўскі пачак «акадэміі навук».

Надзя спалохалася.

— Ой, калі ж я табе вярну?

— Вернеш.

Яна абняла аднакласніка і моцна пацалавала. Пахла яна на марозе вельмі родным — цёплай сялянскай хатай, малаком, настоем траў. І так хораша стала ад размовы з ёй, ад пацалунка — што гаючага бальзаму напіўся.

Першая прыбегла маці, задыханая, спалоханая. Пайшоў ёй насустрач. Абняў.

— Казік! Што цябе пагнала напроціў нота? Ці завязнуў дзе?

Сама падказала.

— Завязнуў.

— Насыпала снегу. Мы тут радуемся. Два гады Прыпяць лугі не залівала. Дай бог, залье — з сенам будзем.

«Божа мой, які просты і які чалавечы клопат, — падумаў Казімір. — Во так і трэба жыць. Па евангельскаму запавету».

— Як там Ларыса, Жанета?

— Нічога, мама. Жанета зараз у дзеда.

— Да нас не мог прывезці? У нас жа такі прастор! Хіба параўнаеш з тым Магілёвам. А вы — да таго камандзіра! Я дзень каманды яго не перанесла б. Як тая Ульяна церпіць такога зануду? — і са знаёмым характэрным нечаканым пераходам на іншую тэму. — У нас тут плешчуць языкамі, што ты — мільярдэр. Я дык не адразу навучылася слова гэтае вымаўляць. Зайздросныя людзі, сынок. Ты чакай — бацька пайшоў па трактар. Хто з іх, трактарыстаў, не п'яны яшчэ? Знойдзе кагось. Ды ты ж знаеш: бацька наш не паспяшаецца. Я пабягу вячэру гатаваць. Машыну не кідай. Зайздроснікі злыя. Гэты ж Карней Надзін так і наровіць, каб паскудства каму зрабіць. Надзька была маладзіца як маладзіца. А цяпер, кажуць, ад яе вока каровы запускаюцца. Навошта ты грошы ёй пазычыў? Пахвалілася мне. Заўтра па ўсім сяле разнясе. Знайшла банк...

Мароз браў за вушы, за пальцы, мерзлі ногі. Казімір забраўся ў кабіну, уключыў печку. Стомлены, цудадзейна заспакоены, заснуў. Разбудзіла гурчанне трактара.

Памочнікаў набралася ажно трое, з такой сілай можна было на руках дакаціць. Учуялі п'янку і зляцеліся, што восы на мёд. А пасля ў двары пры святле пераноскі аглядалі машыну — матор, кабіну,

падвескі, амбяркоўвалі прафесійна, з пахвалой мацюкалі немцаў: усё, гада, прадумалі.

Казіміру і за сталом было лёгка і прыемна. Што вымерзлі ўсе яго страхі, праблемы. І самагонка бацькава здавалася смачней за адборны каньяк. Ап'яненне ад яе было вясёлае. Ён смяяўся з вясковых прыгод і жартаў, як даўно ўжо не смяяўся.

І спаў спакойна і доўга.

Прачнуўся, спаласнуў над цэбрам твар, апрануўся, абуў старыя валёнкі і праз гарод, па цаліку пайшоў да Прыпяці.

Да болю знаёмыя мясціны — з незабыўнага маленства. І хоць усё пад снежнай роўняддзю, ён помніў кожную сцяжынку, кожны лазовы куст, кожную лашчыну на лузе. Во старыца, дзе, пакуль не лажыўся снег, яны каталіся на каньках, спачатку, па беднасці, на драўляных, з набітым дротам, пазней, калі падраслі і бацькі пабагацелі, — на «снягурачках». Тут ён ледзьве не ўтапіўся, калі быў у восьмым класе. Прагаліўся Віцька Целеш, а ён кінуўся яго ратаваць, лёд праламаўся і пад ім, і яны, нядрэнныя плыўцы, доўга барахталіся ў вадзе сцюдзёнай: вылазілі на лёд, а лёд абламваўся, і так — пакуль не дабраліся да мелі. А дома бацька добра аперазаў лейцамі — па мокрай сарочцы, два тыдні сіняя пісюга трымалася на спіне. Але пасля жартавалі: лейцы памаглі не захварэць; Віцька схапіў крупознае запаленне лёгкіх.

А вось і Прыпяць. Тут, з крутога берага, лепш на лёд не спускацца, тут вір, прыпай лёду нетрывалы, кажуць, некалі стары Азар ступіў і праваліўся, і Прыпяць знесла лепшага рыбака невядома куды. Адгэтуль нават улетку плыўцы не кідаюцца ў Прыпяць, гэтага віру баяцца — помняць Азара. Але тут улюбёнае месца яго, Казімірава, сядзець з вудачкай; тут клюе не плотка — акуні, лешч, на жыўца — шчупак ідзе. Хараша тут сядзець з вудачкай! У абрыве гнездзяцца стрыжы, бясконца вылятаюць, чыркаюць крыламі плынь ракі. На гэтым беразе ён назначыў першыя спатканне: спачатку Галі Вайцяшонак, але яна, дурніца, не з'явілася — чаго пабаялася? — потым гэтай жа Надзі. І ялы да світання сядзелі тут, адмахваючыся галінамі ад камароў. Побач драў дранку дзяркач, пад нагамі журчэла вада, плёскала буйная рыба. Толькі на трэці вечар яны адважыліся пацалавацца, наглядзеліся ж тэлевізара, потым, паспрабаваўшы, цалаваліся ўсю ноч. Але калі ён палез за пазуху, Надзя дала яму аплявуху, уцякла і больш не з'явілася на абрыў. Во цнатлівасць!

Лавіна ўспамінаў — што лавіна снежная. Яна можа засыпаць і пахаваць пад сабой. А добра было б тут і застацца назаўсёды. Кінуць усё, усю камерцыю. Шчасце — яно было толькі тут. Рай зямны. Можа, тут і на бяду сваю забыўся б. Можа... Не, крыж гэты несці да скону.

Адчуў, што зліпаюцца павекі, не адразу зразумеў, што замярзаюць слёзы. Слёзы замілавання ад звароту ў маленства. Пасля, напэўна, слёзы жалю — да сябе. Быў ты, Казімір, чалавек як чалавек. А цяпер... Што цябе чакае? Ударыла думка, што ён як бы развітваецца, з самым дарагім развітваецца — таму, што ніколі ўжо не вернецца сюды. Схамянуўся. Узлаваўся на сваю сентыментальнасць.

«Не раскісай, стары. Расслюнявіўся, як малы. Улетку мы прыедзем сюды з Жанетай і будзем загараць, купацца, лавіць рыбу, піць малако. Які там да д'ябла быў рай, калі самі не елі, а галкі масла ён насіў у Калінкавічы, каб было за што купіць кнігі, чаравікі. Бацька неаднойчы абураўся: «Гараць яны на табе, ці што?» Боты. На любым гарэлі б: дзесяць кіламетраў туды, дзесяць назад, ды потым яшчэ ўвечары абцасы адбіваў. Але было яно, шчасце, было! Самі паходы ў школу ў кампаніі дзяўчат, хлопцаў — гэта ж спектаклі былі. Сеансы весялосці, дасціпнасці і... мудрасці. А што? Мы сапраўды былі мудрыя, бо марылі толькі пра высокае і ніколі — пра грошы, пра багацце. Паспрабаваў бы нехта выказацца пра тое, што ён робіць сёння, — заплявалі і засмяялі б.

Маці прасачыла, куды пайшоў сын. І ёй не спадабалася, што ён пайшоў да Прыпяці, па глыбокім снезе. Яна яшчэ ўчора пры першай сустрэчы каля машыны адчула, што ў Казіка неспакойна на душы. Таму і прыехаў напрацію ночы. І за сталом быў не такі, як звычайна. Піў. Смяяўся з вясковых прыгод. Але што гэта за смех?! Толькі яна, маці, можа адчуць, што не той гэта смех, невясёлы, і думкі яго лунаюць невядома дзе. А цяпер гэты дзіўны паход. Дык гэта ж суседзі, якія ўбачаць, як ён топчацца па беразе, скажуць: «Не ўсё ладна ў Анкудзінавага». Людзі праніклівыя.

Распрануўшыся, Казімір стаў каля грубкі, грэў спіну і рукі. Маці падавала снеданне. Бацькі ў хаце не было. І раптам маці спынілася перад ім, сказала ласкава і ўстрывожана:

— Сынок, што гэта ты нейкі, — пашукала слова, не знайшла, — не такі. Ад маткі не схаваеш. Што цябе мучае? Скажы. Матка заўсёды паможа.

Казімір ступіў да маці, працягнуў рукі, як працягваюць малыя, просячыся, каб іх узялі.

— Мама! Ад мяне пайшла Ларыса.

— А божа! Я ж адразу ўбачыла: камень у цябе на душы. Хто з вас вінаваты?

— Я! Я, мама.

І раптам упаў перад маці на калені, спалохаўшы яе; не было ў іх такіх праяў пачуццяў; ні муж, ні дзеці, нават дочкі — ніхто ніколі не станавіўся перад ёй на калені. Не Багародзіца ж яна!

Сын уткнуўся тварам у яе падол.

— Мама! На мне вялікі грэх... Я... я забіў чалавека...

Маці спалохана ахнула, азірнулася на дзверы. Потым доўга маўчала — аглушыла яе сынава бяда. А яго бяда — яе бяда, гора. Але адчула, які цяжар ён носіць, і палажыла далонь яму на галаву, варушыла пальцамі, перабіраючы валасы. Гэтая ласка расчуліла яго да спазмаў у горле і ў сэрцы. З болем у горле, у грудзях, праглынуўшы спазм, ён спытаў шэптам:

— Што мне рабіць, мама?

Яна адказала не адразу.

— Пакайся, сынок. Перад Богам. І перад людзьмі.

Ён спытаў ужо не шэптам — ледзьве не крыкам:

— Як пакаяцца перад людзьмі, мама?

Зноў яна адказала не адразу, зняла руку з яго галавы. Ён падняўся з каленяў, глядзеў у родны твар, у матчыны вочы — з надзеяй на ратунак.

— Як каяцца... перад людзьмі?..

Тут яна адказала не адразу:

— Прызнайся. Прымі пакаранне.

Ён закрычаў:

— Ты мяне штурхаеш у турму!

— А ты куды штурхнеш сябе з такім каменем на душы?

Грукнулі ў сенцах дзверы, і размова скончылася. Увайшоў бацька. За снеданнем, паглядзеўшы на сына і жонку, стары Анкуда сказаў:

— Што вы як з Прыпяці вылезлі? Пасварыліся?

— Ён з Ларысай развёўся.

— Не развёўся, але, мабыць, развядзёмся.

— А дзіця як раздзеліце?

— Раздзелім.

— Дурань! Дзіця не бохан хлеба, яго не разрэжаш.

Бацька прачытаў гнеўную мараль.

Маці маўчала. І Казімір маўчаў.

Пасля снедання ён развітаўся суха, не пацалаваўшы нават маці. А бацька не выйшаў праводзіць яго. І гэта балюча раніла. А яшчэ мацней раніла, што маці не ўзяла грошы, якія ён прапанаваў, вялікія грошы. Схавала рукі за спіну, спалохана адступілася.

Апантана гнаў «мерседэс» па слізкай дарозе. У Бабруйску прычапілася думка: а ці не паехаць на Магілёў? Не. Адагнаў такое жаданне. Размова з Ларысай можа выдаць яго тайну палкоўніку. А гэта — канец. Каяцца можаш толькі перад следчым.

11

Не, перад людзьмі не хацеў каяцца. А перад Богам вырашыў пакаяцца. Пераканаў сябе, што ад гэтага стане лягчэй.

Два дні шукаў царкву. Мінскія не спадабаліся.

Доўжыліся калядныя дні, у цэрквах ішло богаслужэнне і было шматлюдна.

Знайшоў царкву ажно ў Чэрвеньскім раёне. Вясковую. Убачыў здалёк званіцу, крыжы і звярнуў з шашы. Таксама ішло богаслужэнне, але народу было нямнога. Сяло не горад, там у будні не моляцца.

Выстаяў да канца малення. Убачыў, што малады святар, бадай жа, яго равеснік, звярнуў на яго ўвагу. Поп падабаўся: з выгляду сам небязгрэшны, што-што, а чарку любіць, па носе відно, ды і баб не прамінае — такі здаравяк, куды сілу траціць! Калі бабулі пачалі выходзіць, святар наблізіўся, ціха спытаў:

— Ты хацеў нешта сказаць, сын мой?

— Я хачу спавядацца.

Спавядальня — закутак, адгароджаны ад залы створкавай шырмай. Аднак голас святара пачуўся з-за драўлянай перагародкі, не вельмі шчыльнай, вагонка рассохлася, і праз шчыліны божы служка мог бачыць грэшнікаў.

— Я слухаю цябе, сын мой.

— Ойча, на мне вялікі грэх.

— Усе грэшныя, сын мой. Але Бог літасцівы. Памолімся яму, Усявышняму. І даруюцца нам грахі нашы.

— Я забіў чалавека. Не ўзнарок... Але на душы маёй...

Поп змоўк на нейкі час — заняло яму дыханне. Загаварыў — заікацца пачаў:

— Усё роўна вялікі гэта грэх — адняць у чалавека найвышэйшы дар Божы. Першы запавет: не забі. І грэх гэты я табе не адпушчу.

— Я не хацеў... Я не меў на яго злосці...

— Маліся, сын мой. Пакайся перад Богам. І перад людзьмі.

— Як каяцца перад людзьмі, ойча?

— Прымі пакаранне.

Казіміра апанавала злосць.

«Чуў я ўжо гэта. Не ад цябе, блуднік. Ад маці. А яна святая».

— Я буду маліцца.

— Прымі пакаранне.

«Пайшоў ты!» — Казімір адсунуў шырму.

— Ганарар на століку, служка, — сказаў, бадай, злосна, паклаўшы пад падсвечнік купюру ў дваццаць долараў.

Ды поп кінуўся не за ганарарам.

Ён добра ведаў свяшчэнніцкі кодэкс — аб тайне споведзі. Але такое прызнанне не можа быць толькі іх тайнай — забойцы і святара. І ён у адной расе выскачыў праз службовы ўваход. Ахнуў, убачыўшы, у якую машыну садзіцца грэшнік.

Пры развароце іншамаркі прачытаў нумар.

У той жа дзень святар паехаў у епархію да благачыннага; на сябе грэх не ўзяў.

Якімкіну пазванілі з гарадской пракуратуры. Расказаўшы пра споведзь, інфармавалі:

— Гаспадара машыны мы ўстанавілі. Камерсант Анкуда. Але якое забойства? Каго? Дзе? Калі? Разбярыцеся. Не выключаем псіхічнае расстройства, ці розыгрыш — праверка папа.

— Я займуся.

Якімкін спалатнеў. Палажыўшы трубку, мацюкнуўся.

— Розыгрыш... Які да д'ябла розыгрыш! Раскалоўся Анкуда-паскуда. Маёй пратэкцыі яму мала, у Бога шукае. І зацягнуў ты пятлю на сваёй шыі. Але бяда ў тым, што за сабой можаш пацягнуць добрых людзей.

Да добрых людзей Якімкін адносіў сябе.

12

Ён спускаўся ад прахадной аўтастаянкі. Сцежка абледзянела; каб не ўпасці, ішоў па снезе... І тут над галавой зыкнула. Не адразу нават сцяміў, што гэта куля. Дайшло, калі ўнізе ляснуў стрэл. Інстынктыўна прыгнуўся, потым заваліўся ў снег.

Ноч. Цішыня. Сняжок падае. Воддаль на магістралі шумяць машыны. Пачуў тупат ног. Дваіх. Загурчэў блізкі матор. Машына рванула з месца. Тады зразумеў, што стралялі па ім. Здзівіўся: каму ён насаліў, калі не лічыць?.. Хто мог? І адразу чамусьці ўспомніў папа, ад яго працягнуў нітачку да Якімкіна.

На папа ўзлаваўся:

«Я цябе паспавядаю, барада. Я табе пакажу тайну споведзі, агент дзяржбяспекі».

Пра Якімкіна падумаў ласкава-гумарыстычна: «Ах, дабрадзей! Які дабрадзей!»

Зразумеў: гэта прысуд. І ад такіх наймітаў яму не схавацца. Аднак не спалохаўся. Больш таго: неяк дзіўна супакоіўся: «Во яна, кара, мама. Во яна кара. Не боская. Людская. Не такая, на якую ты і поп — ох, поп! — накіроўвалі мяне. Не такая... Але так, можа, і лепш. Чаму бываць, таго не мінаваць. Ці не тваё прыслоўе, мама?»

Сэрца аднак закалацілася, застукала ў скроні. Што ж, нармальная рэакцыя жывога.

Падняўся. Абтрусіў снег. Сапраўды, страху не адчуваў. Але падумаў, што каб пайшоў па дарозе, што вяла паўз плот стаянкі, скрадваючы круцізну спуску, то гэтыя не прамахнуліся б. Чакалі б на дарозе і білі б ва ўпор, з машыны. Над ім, грэшным, яшчэ лётае добры анёл: затрымаўся з вартаўнікам — гутарыў з адстаўным падпалкоўнікам пра палітыку.

Ішоў да магістралі, не азіраючыся, праз двары: так бліжэй да тралейбуснага супынку. Спачатку вырашыў пагуляць з лёсам — пайсці пехатой. Але навошта? Больш яны не будуць яго пільнаваць, бо бачылі, як ён зваліўся ў снег. Лічаць, што свае «зялёныя» яны адпрацавалі сумленна. «Мае зялёныя. Калі жыццё маё прадоўжыцца, я ўсё ж спытаю ў цябе, пракурор: колькі яны з цябе злупілі? Хоць навошта табе плаціць, ты ім мог аказаць іншую паслугу. Яны будуць пад тваёй аховай, ангел-храніцель».

Упэўнены быў, што ў другі раз яны не прамахнуцца. Але — во дзівосы! — страху не адчуваў. Перад імі.

Ды і той страх, з якім жыў два месяцы, адступаў — страх перад турмой. Цяпер ужо краты яўна не свецяць. Цяпер ён вольны і можа сам выбіраць, дзе, калі прыняць кару.

Але дома зашторыў вокны, вось гэтага не хацеў — пацалавацца з куляй ва ўласнай кватэры. Шыбу, дурні, разаб'юць. Сябе не шкада, шыбкі шкада. Ці ў бар могуць пацэліць, У трумо. Што скажа Ларыса?

Здольны быў жартаваць нават. Выпіў каньяку і... спаў, як, бадай, даўно ўжо не спаў.

На другі дзень здзівіў сваіх памочнікаў актыўнасцю ў працы. Дамовіўся з Канаплёй і яшчэ з двумя калегамі-камерсантамі назаўтра наладзіць маленькі сабантуй. Дамовіліся заваліцца ў рэстаран «Заслаўе»: там пасярод зімы фантан журчыць.

Думаў пра ўчарашняе здарэнне, нават сваім расказаў, што ўчора на стаянцы ля вуха яго прасвістала куля.

— Вам здалося, Казімір Пятровіч.

— Дык стрэл жа блізка ляснуў. Пісталетны. У арміі я быў лепшы стралок. Я ж не кажу, што стралялі па мне. Страляюць цяпер — каму не лень.

Людміла Іванаўна ўстрывожылася, кранууўшы яго: яе клопат варухнуў і стоены страх і жаль да сябе. А шкадаваць сябе — самы недастойны занятак. Пачаў здзекавацца з гэтага пачуцця.

— Не жалобце мяне, Людміла Іванаўна. Вы не знаеце, які я слязлівы. Заплачу ад жалю да сябе — будзеце паіць валяр'янкай.

Аліса весела смяялася. Канапля радаваўся: шэф ажыў.

Ездзячы па горадзе, звярнуў увагу на абшарпанага «Масквіча»; здалося, ён ішоў за яго «мерседэсам». Пад вечар убачыў: здаецца, той жа «масквіч», але — нумар іншы. Гэта ўжо з серыі дэтэктываў. Упікнуў сябе:

«Казік, нервуешся. Наганяеш страх. Плюнь. Чаму бываць, таго не мінаваць. Цяпер я фаталіст. У каго гэта фаталіст? У Лермантава, здаецца. Што там? Не помню. Пасля школы не чытаў... Чытаў пра нашага афіцэра. Ён закладваў у барабан «нагана» патрон, адзін, круціў барабан, падносіў дула да скроні, націскаў на курок... І што? Што ўрэшце адбылося? Во, памяць! Мільёны помню, прачытанага не помню».

Дома, п'ючы каньяк, думаў пра заўтрашнюю рэстаранную п'янку, чакаў яе з нецярпеннем, як галодны чакае званага абеду.

Назаўтра недзе пад абед выйшаў з офіса, каб паехаць да калегі, які паабяцаў узяць для паездкі ў рэстаран шафёра, і ўбачыў: каля яго «мерседэса» стаяць двое ў лёгкіх зашмальцаваных куртках, але ў добрых скураных пальчатках — не рабочых.

— Што, хлопцы, чакаеце мяне?

— Збянтэжыліся — во якія цнатлівыя!

— Ды не, любуемся машынай. Шыкоўная штука. На такой хіба прэзідэнт ездзіць. Колькі спадар баксаў вываліў за яе?

— Пяцьдзесят тысяч.

— Ух! Мы з табой, Раман, за ўсё жыццё не заробім.

— Заробіце. Вы заробіце. Хочаце, пакатаю?

— Ды не, што вы. У нас свая вунь. Калгасная, — і паказалі на «Ніву», што стаяла на другім баку вуліцы, каля магазіна «Тканіны». Выгляд у машыны сапраўды быў «калгасны»: быццам яна неаднойчы кулялася ў глыбокія кюветы.

Едучы назад, ён у патоку машын на праспекце Скарыны ўбачыў праз люстра гэтую «Ніву». Прытармазіў, каб перакаванацца. Яны! Не абагналі. Адсталі. І тады Анкуда сцяміў: «Ніва» такая пакамечаная таму, што скінула ў кювет не аднаго «Жыгуленка». А цяпер палюе за ім. За рулём — вялікі майстра, можа пратараніць, але так, што ты і на тым свеце застанешся вінаватым. Не. І тараніць не стане, створыць такую сітуацыю, што цябе расплюшчыць аўтобус, тралейбус, цяжкі грузавік. Анкуду апанавала дзікая злосць.

«Ну не, хлопцы! Так лёгка я вам не дамся. Я вас «пакатаю». Цікавае паляванне можа быць», — успыхнуў злы азарт паляўнічага.

Не спускаючы «Ніву» з вачэй, ён павярнуў у адну вуліцу, у другую, у трэцюю.

Не, па горадзе — нудная гульня. Гульня можа быць за горадам — на прасторы!

Казімір выскачыў на праспект Машэрава. Прытармазіў. Выскачыла і «Ніва». Што яны хочуць? У які куток загнаць? Ды калі ён захоча, то праз пяць хвілін і след яго прастыне. Даў ім гэта зразумець. Уміг даляцеў да завода халадзільнікаў. Там зусім спыніўся. Пачакаў. Ідуць. Падпусціў іх метраў на сто. І рвануў далей — з вецярком.

Во тут гульня!

У яго заліты поўны бак. На сотні кіламетраў хопіць. Далёка ён можа завесці іх. Да калгаса. А дарога зімовая, слізкая. Ідзе сняжок. Ён каварны, гэты сняжок, засыпае выбоіны, лядок. А яго палавінная хуткасць — іх гранічная. І ў іх, на гэтым дапатопным шарабане, безумоўна, лысыя шыны, ва ўсялякім разе, такія пратэктары, як у яго, яны і не снілі. На што яны разлічваюць? Дагнаць яго? Наіўныя. Але зацятыя, гады.

«Моцна цісне на вас мой дабрадзей. Не церпіцца яму. Ну, што ж, хлопцы, пагуляем у кошкі-мышкі».

Злосць не давала ўзважыць усе акалічнасці. Злосць вяла на забойства. Сябе? Іх? Такіх не грэх!

«Ідыёты. Дылетанты! Так не забіваюць! Самі будзеце ляжаць у кювеце. Ой, будзеце! І на дабрадзея кару знайду!»

Да Драздоў трымаў «Ніву» на хвасце. Потым зноў рвануў. Здзівіўся, што яны не вельмі адстаюць. Няўжо гад старой абшыўкай новы матор, замежны? Не, усё ж адсталі.

Ён пачакаў іх перад паваротам на кальцавую дарогу. Выскачыў на яе, падумаўшы, куды імчаць далей — да Маскоўскай, да Лагойскай ці павярнуць на Маладзечна.

Падлятаў да маста праз Свіслач. І ў гэты міг убачыў у люстра, што «Ніву» крутнула раз, другі, развярнула ў супрацьлеглы бок. Ён ажно загалёкаў ад злога задавальнення. Каб іх сцягнула ў кювет, шкада было б канчаць так хутка гульню. Але пашкадаваў, што насустрач ім не ішлі тыя фургоны, якія за хвіліну да гэтага прайшлі па віадуку.

Захапіўшыся люстэркам, позна ўбачыў, што такі ж фургон, вялізны, што гара, імкліва ляціць на яго. А ён на сустрэчную паласу вылез. Крутнуў руль. Ды мост вузкі. Шматтонны «Камаз» ударыў у левы бок «мерседэса», што трэску, шыбнуў яго на парапет.

Машына выбіла секцыю парапета і паляцела ў раку.

Казімір пачуў удар і ўбачыў грузавік. Яго засыпала пылам. Лабавое шкло разляцелася на тысячы асколкаў. Пырскі шкла асляпілі. Але ён пачуў удар аб парапет. І аб лёд. І яшчэ адчуў, як балюча абпякла сцюдзёная вада...

* * *

Жалобная паніхіда адбывалася ў памяшканні партнёрскай фірмы — у класе былога дзіцячага сада.

Людзей — не прабіцца. Адслужыў паніхіду святар.

Гаварылі высокія словы сябры, партнёры. Плакала маці. Маўчала Ларыса. Жанета абдымала яе і жаласліва прасіла:

— Мамачка, не трэба, не трэба.

— ...Трагічная смерць вырвала з нашых радоў аднаго з дастойных прадстаўнікоў новага класа, які ўсе сілы аддаваў усталяванню цывілізаванага рынку.

Да Кудры прабраўся Якімкін. Кіўнуў. Кудра прашаптаў:

— А мы, Георгій Якаўлевіч, маглі б ратаваць яго.

Якімкіна перасмыкнула.

— Ты мог? Ратуй, калі ты Ісус Хрыстос. Ажыві.

— Ён шукаў смерці. Яго мучыла сумленне.

— Псіхолагі, маць вашу... Справу сваю лепш рабіце! Сумленне! — расштурхоўваючы прысутных, пракурор падаўся да выхаду; не было на яго твары ні ценю жалобы, жалю, спагады, было стоенае задавальненне.

— Казімір Пятровіч быў чалавекам высокай маралі, — казаў наступны прамоўца.

Насцярожана ўзняла галаву маці. Ларысін твар балюча скрывіўся.

— Не трэба, мамачка. Не трэба...

Загучэў рэквіем у выкананні вялікага аркестра, запісаны выдатнай апаратурай — японскай.

Труна была з таго лесаматэрыялу, які Казімір Анкуда пастаўляў Гансу, з меднымі ручкамі і замкамі, з чорнымі кутасамі на фоне чырвонага аксаміту.

Усё — як у амерыканскіх фільмах: хавалі «дастойнага прадстаўніка новага класа».

# Змест



Шамякін І.

Вялікая княгіня: Раман, аповесці: Для ст. шк. узросту/ Маст. К. С. Ракіцкі. — Мн.: Юнацтва, 1997. - 366 с., іл.

ISBN 985-05-0030-1.

У новую кнігу выдатнага беларускага пісьменніка Івана Шамякіна ўвайшлі гістарычны раман «Вялікая княгіня», а таксама творы пра сучаснасць — аповесці «Бумеранг» і «Без пакаяння».